# РАМАН САБАЛЕНКА

ТОМ
ДРУГІ

трылогія

## ІДУ Ў ЖЫЦЦЁ

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1983

# ІДУ Ў ЖЫЦЦЁ

Кніга першая

## ЮНАЦТВА Ў ДАРОЗЕ

### КРЫЖ НА МАЛЕНСТВА

Памяць чалавечая падобна на скарбніцу, у якой можа захавацца толькі тое, што здольна вытрымаць буры часу і не страціць сваёй цікавасці... Дык паспрабуем жа зазірнуць у таямніцы памяці і напісаць пра тое, што захавалася, што не страціла сваёй свежасці, няхай людзі паглядзяць, можа, яно цікавым будзе і для іх.

Быў час, калі яшчэ не ўзняліся буры першай сусветнай вайны. І хоць да нашага Рагазіна вайна не даходзіла ні грукатам кананад, ні пякельнымі пажарамі, мы ўсе, рагазінцы, адчувалі, што яна ўсё-такі недзе гуляе дзікім шалам смерці... Вунь ідзе дзядзька Пракоп на дзеравяшцы... Па ўезджанай, коўзкай саннай дарозе ён неяк смешна ступае. Дзеравяшка яго не слухае і раз-пораз коўзаецца. Ён густа лаецца на ўсё на свеце... Нам, падшывальцам, гэта падабаецца, і мы, пахаваўшыся за плот, крычым услед дзядзьку Пракопу:

— Дзядзька, ці не змерзла ваша дзеравяшка? — і смяёмся гэтак дружна, што ціхая, як бы сонная, вясковая вуліца прачынаецца і агалошваецца нашым прыдушаным пісклявым смехам...

— Каб вам языкі паадмярзалі,— крычыць у адказ дзядзька Пракоп і ўслухоўваецца ў галасы, мусіць хочучы пазнаць, хто гэта з яго кпіць... Ён, не бачачы нас, гаворыць:

— Гэта ўсё Васілёў прайдзісвет. Ось жа я пайду ды ўсё бацьку раскажу... Ён табе скуру спусціць за кепікі з чалавека...

Я хоць і змяніў быў свой голас на ломкі бас, усё ж ён застаўся маім, і дзядзька Пракоп, мусіць, не наўгад сказаў, а сапраўды пазнаў, што крычаў я, а не хто іншы... Ужо з-за плота я пільна цікую, куды пойдзе дзядзька, і шапчу Яўхімку:

— Калі ён скажа тату, дык мочаныя лейцы паходзяць па спіне.

Бацька ў мяне быў строгі. У ім неяк спалучаліся і бязлітасная строгасць і нейкая мяккая мужчынская пяшчотнасць. Калі ён гладзіў сваёй парэпанай шорсткай рукой па маіх непаслухмяных белабрысых валасах, я аж млеў ад асалоды. Аднак ён ніколі не спускаў, калі яму на мяне хто-небудзь скардзіўся: браў пугу, а часцей за ўсё лейцы, што віселі ў кутку на калочку, чамусьці мачыў іх у цэбры з памыямі і грозна ішоў на мяне. Калі маці была ў хаце, я хаваўся за яе, і яна, затуліўшы мяне сабой, прасіла бацьку:

— Васілька, родненькі, ён больш не будзе. Не трэба біць яго...

А маленькая мая сястрычка Насцечка, якая звычайна сядзела на палацях, аж заходзілася ад плачу... Здавалася, што бацька збіраўся біць не мяне, а яе... Дзед Яўстрат, які звычайна ўсю зіму сядзеў на печы, высоўваў у такі момант сівую ўскудлачаную галаву і сіплым старэчым галасам раіў бацьку:

— Улі, Васіль, вісусу гэтаму, а то ж расце распуста, на лес гледзячы...

Я сёння баяўся, каб лейцы не пахадзілі па мне, таму пільна цікаваў з-за плота, куды пакалдыбае на сваёй дзеравяшцы дзядзька Пракоп. Здалёк мне здалося, што ён мінуў ужо наш двор. На сэрцы адлегла, і я крыкнуў:

— Хлопцы, давайце ў снежкі згуляем...

Але Яўхімка, як халоднай вадой, астудзіў мой запал.

— Макар, зірні, той крыванджа ў ваш двор паклыпаў...

Я ўжо ведаў, што, калі Пракоп раскажа бацьку, як я кпіў з яго дзеравяшкі, будзе мне пачастунак. У Рагазіне любілі Пракопа і за яго вясёлы нораў, і мо нават за тое, што ён застаўся пры калецтве. Такая сялянская любоў да знявечанага чалавека, мабыць, ішла ад спачування да яго няшчасця. А яшчэ любілі Пракопа за тое, што ён доўгімі зімовымі вечарамі расказваў вельмі ж дасціпныя і цікавыя гісторыі і казкі. Гэтак прымосціцца ці ў нашай, ці ў чыёй-небудзь іншай сялянскай хаце, бліжэй да лучніка, каб не толькі добра бачыць, а і грэцца, выцягне дзеравяшку, паляпае па ёй рукой і скажа:

— А яно, як той казаў, і добра з гэтай нагой, менш лапцяў зносіш...

А потым як пойдзе расказваць, дык не толькі я, малы, а і нават старыя паразяўляюць раты, слухаючы яго... І хіба толькі тады, калі Пракоп закурвае, хто-небудзь можа ўставіць сваё слова. А закурваў ён таксама цікава. Самаробныя карашкі ён насіў у капшуку, які зашморгваўся на тонкі матузок з чырвонымі кутасікамі. Заўсёды ў кішэньцы, прыробленай да капшука, ляжала згорнутая на цыгаркі курыльная папера, якую ён чамусьці называў «прагрэсам», камень, крэсіва і даўгаваты чырвоны кнот з блішчастай трубачкай на канцы. Я часта глядзеў з-пад Пракопавай рукі на паперу: ён яе акуратненька аддзіраў на цыгарку, потым чамусьці браў за беражок у два пальцы і глядзеў на агонь, нібы правяраючы... Я таксама бачыў той шматок паперы, на якім, калі ён прасвечваўся на святло, відаць былі нейкія таямнічыя літары.

Калі хто з курцоў звяртаўся да Пракопа з просьбаюададраць «прагрэсу» на цыгарку, той неяк кракатаў, усміхаўся і казаў:

— Не, браце, не дам, трэба сваю мець... Карашкоў, калі хочаш, усыплю, яны свае, а папера куплёная...

Гэта ўжо ўсе ведалі і ніколі не прасілі ў Пракопа яго «прагрэсу».

Аднак мне карцела зараз не гэтае. Я хацеў даведацца, што Пракоп будзе гаварыць бацьку пра мяне. Сам я баяўся ісці ў хату, таму папрасіў Яўхімку:

— Збегай ты да нас ды паглядзі, што там робіцца.

— Дык а чаго ж я пайду? — перапытаў Яўхімка.

— Ідзі нібы пазычыць бязмен зважыць шчаціннe.

Яўхімка заўсёды мяне слухаў. Мы былі з ім аднагодкі... Ён наогул быў хлопец паслухмяны, а мяне ён слухаў яшчэ і таму, што мы з ім таварышавалі, нават былі нейкімі далёкімі сваякамі...

Яўхімка доўга не выходзіў з нашай хаты. Я ўжо азыз на холадзе, чакаючы яго. Нарэшце паказалася ахутаная ў сярмяжыну маленькая постаць. Я здзівіўся, чаму няма ў Яўхімкавых руках бязмена. Ад двара ён подскакам кінуўся да мяне:

— Макарка, братка, ой, што там дзеецца ў вашай хаце! Маці галосіць, нават дзед Яўстрат плача на печы.

«Значыць, нешта вялікае здарылася»,— падумаў я сабе, бо мой дзед такі, што з яго ніколі слязы не выціснеш, не тое каб ён сам яе пусціў. Калі яму цяжка ці балюча, ён толькі спахмурнее. Я ў такія моманты глядзеў на яго, і мне здавалася, што сівая яго барада, падобная на востры

клінок, і тая нават цямнела. Я хуценька кінуўся дадому, а за мной следам подскакам бег Яўхімка. Яму вельмі карцела ўведаць, што здарылася ў нашай хаце... Вясковае жыццё было такое ціхае, як стаячая вада, і калі зрэдку яго што каламуціла, дык гэта было такой навіной, якую павінны былі ведаць ва ўсіх хатах. Праўда, у гэтыя гады часта ўскаламучвалася наша жыццё: ішла ж вайна, на якой нямала гінула ў акопах і нашых аднавяскоўцаў.

У хаце на нас не звярнулі ўвагі. Дзядзька Пракоп выціраў тыльным бокам рукі сваю скупую мужчынскую слязу...

— От небараку Паўлу давялося... Лепш бы ён ужо гэтак, як я, без нагі прыйшоў, чым галавой там легчы...

А маці галасіла, прычытваючы як па нябожчыку, які нібы тут ляжаў на покуці, пад абразамі. Гарэла ўжо васковая свечка, уваткнутая ў проса, насыпанае ў невялікі паліваны гаршчок.

Я здагадаўся: загінуў на вайне мой дзядзька Павел — матчын брат... Мне ўспомнілася, як гады са два назад ён прыходзіў да нас развітацца. Высокі, стройны, ён, нават не становячыся на палаці, падхапіў мяне з печы на рукі, пацалаваў і сказаў:

— Расці, нябожа, вялікі, каб, пакуль я прыйду з вайны, ты быў пад столь ужо.

А маці перахрысціла яго тры разы, кажучы:

— Няхай цябе куля варожая міне, няхай табе смерць у вочы не зірне...

І от смерць такі зірнула ў вочы дзядзьку Паўлу... Маці, бацька і нават дзед, які злез з печы, стаялі ў слязах перад абразамі і маліліся. Я чуў словы дзедавай малітвы: «Упакой, госпадзі, убіеннага раба твайго Паўла...» Язычок агню васковай свечкі міргаў, калаціўся, як жывы, ад цяжкага людскога дыхання. Я ўжо хацеў таксама ўпасці на калені, але ўбачыў аркушок паперы, які ляжаў на настольніку. Я ціхенька яго згроб рукой і прачытаў: «Радавы Павел Маханёк загінуў смерцю храбрых за веру, цара і ацечаства ў барацьбе з нямецкім супастатам». І так шкада мне стала дзядзьку Паўла... Хоць я і не ўяўляў сабе, што гэта за вайна, ні разу не бачыў ні тых акопаў, ні тых немцаў, якія стралялі ў нашых людзей, але мая дзіцячая фантазія малявала нешта страшэннае: усё поле завалакло чорным дымам, і яго, нібы вялізныя нажы, разразаюць барвовыя языкі пякельнага агню... І вось такі язык спаліў і майго дзядзьку Паўла... Я ўпаў на калені і ціхенька за-

плакаў. Дзядзька Пракоп не мог стаць на калені — не гнулася яго дзеравяшка, ды ён, відаць, не вельмі-то верыў усім гэтым літанням, бо я чуў, як ён ціха сам сабе мармытаў:

— Хай бы Мікалай з Вільгельмам пабраліся загрудкі ды галовамі панакладвалі... Дык не ж — нашага брата ў зямлю ўганяюць.

Дзед злосна спадылба бліснуў на дзядзьку Пракопа. Ён жа, мой дзед, быў такі, што цар для яго — памазаннік боскі на зямлі, і ён верыў яму, можа, болей, як самому сабе... А я думаў: «Дзядзька Пракоп, мусіць, лепш ведае за дзеда, ён жа свет прайшоў і без нагі дадому прыйшоў, а мой дзед далей Рэчыцы, куды ён часам ездзіў у фуры, і свету белага не бачыў».

Азірнуўшыся з кутка на хату, я ўжо не ўбачыў Яўхімкі... Ён ціхенька выбег і, мусіць, панёс па ўсім Рагазіне жалобную навіну з нашай хаты.

Маці мая была жанчына набажная. Яна вырасла і выхавалася ў сям'і дзеда Трыфана, які фанатычна верыў у вышэйшую боскую сілу... Мы з маці часцяком хадзілі ў госці да дзеды; ён жыў у вёсцы Багульнікі — гэта кіламетраў за пяць ад нашага Рагазіна. Хата яго стаяла акурат пасярод вёскі. Ні ў каго такіх не было, як у дзеда,налічнікаў, пафарбаваных у цёмна-чырвоны колер аканіц. А ў другой палавіне хаты, у трысценніку, у дзеда быў цэлы завод. Там стаялі ваўначоска і сукнавалка. Увосень і зімой было поўна народу. Не толькі з Багульнікаў, а і з суседніх вёсак людзі неслі і везлі часаць воўну і валіць сукно. Дзядзька Прахор быў як бы за загадчыка гэтага завода. Ён на ім тоўкся дзень і ноч, камандаваў парабкамі Хвядосам і Мікітам. Ды ён і сам быў як той парабак, бо меў не вельмі вялікую ласку ў дзеда. Я таксама любіў круціцца ля ваўначоскі. Дзед часам казаў: «От як вырасцеш, дык пастаўлю цябе дарэктарам і будзеш там камандаваць, а то дзядзька Прахор, калі сам не даглядзіш, дык вунь колькі недабірае платы».

І я ўжо ўяўляў сябе «дарэктарам» і неяк аж падрастаў ад гэтай думкі.

Непадалёку ад хаты, пры самым плоце, расла ў два абхваты ліпа, у ралах якой была прымайстравана старая барана. На ёй і звілі гняздо буслы. Дзед Трыфан любіў буслоў, як любіў ён і галубоў, для якіх спецыяльна на гарышчы хаты ставіў асадкі старых рашотаў, і птушкі ў іх вілі гнёзды. Буслоў і галубоў дзед паважаў, лічачы іх

святымі птушкамі. На вялікдзень ён браў галубоў і нёс да царквы. Там, на цвінтары, выпускаў, і яны, зрабіўшы некалькі кругоў вакол званіцы, ляцелі дадому. Дзед ганарыўся галубамі: маўляў, ні ў каго няма такіх разумных птахаў, як у яго...

Увесь тыдзень маці праплакала: ёй шкада вельмі было роднага брата, а ў суботу пад вечар яна сказала мне:

— Сходзім, сынку, да дзеда Трыфана. Памолімся за нябожчыка дзядзьку Паўла.

Калі праўду казаць, я не любіў хадзіць у Багульнікі, хоць там бабулька Ганна мяне частавала варэннем, часта ласавала нейкім салодкім квасам. І не любіў я вось чаму: аднаго разу, як мы гасцявалі там, маці некуды выйшла з хаты. Я прыціх і ляжаў, заплюшчыўшы вочы, на чарэні печы. Дзед Трыфан, мабыць, думаў, што я сплю і нічога не пачую. Мусіць, у іх з бабкай Ганнай была за нешта сварка, і ён накінуўся на старую:

— Гэта ж ты аддала Мар'ю за галетніка Васіля... Ёй бы добры хлопец знайшоўся. А то пайшла за нейкага плюгаўца, галетніка...

Я не ведаў, што дзед Трыфан не любіць майго бацьку. Ды адкуль мне было ведаць: мяне ж дзед часта гладзіў рукой па галаве, і калі я ў адказ на яго ласку цалаваў руку, ён казаў:

— Вялікі расці, унучак.

Дык я думаў, што ён і бацьку так любіць, як і мяне. А тут вунь што. Праўда, бабуля Ганна, хоць і баялася дзеда, не змоўчала тады яму:

— Хоць галетнік, але сумленны чалавек. Ён нікога не абакраў, не ўкрыўдзіў за сваё жыццё, і Мар'я за ім жыве як у бога за пазухай.

— Эт, там жытка ўжо такая...

— Якая ні жытка, а ён адзін сын у бацькі, не трэба ні дзяліцца, ні сяліцца,— пярэчыла бабуля.

— Плюгавец, дый годзе... Ён жа яе атопка не варты... Белабілетнік,— скрыпеў, як нямазанае кола, дзед Трыфан.

Мне хацелася саскочыць і крыкнуць дзеду:

— Няпраўда, мой бацька добры, лепшы за цябе.

Але я баяўся дзеда і моўчкі сабе слухаў, думаючы: от падрасту, дык я табе не змоўчу. Можа б, дзед Трыфан яшчэ чаго нагаварыў на тату, але ў хату ўвайшла маці. Я зрабіў выгляд, што прачнуўся, павярнуўся галавою на хату і, не спускаючы вачэй, глядзеў на маці. Яна сапраў-

ды была стройная, прыгожая. Невялічкая радзімка на правай шчацэ, крыху прадаўгаваты нос, даўгія, расчэсаныя на прабор і заплеценыя ў дзве касы русявыя валасы надавалі ёй такую прывабнасць, што хацелася глядзець і глядзець. Бацька мой быў крыху ніжэйшы за маці ростам, нос у яго нейкі завостраны, твар хударлявы, але для мяне і ён прыгожы... Затое дзед Трыфан пасля таго, як я пачуў усё гэта, здаўся мне няўклюдным. Яго рыжая рэдкая барада, якую ён часта расчэсвае дзеравяным грэбенем, уваткнутым у паз сцяны ля акна, здаецца мне нейкім пакуллем, а маршчакаваты твар — печаным яблыкам.

У дзеда Трыфана, як у самага набажнага на ўсе Багульнікі чалавека, у суботу і ў нядзелю ўвечары збіраліся на малебства найбольш жанчыны... Ён ім чытаў псалмы, а яны праз пэўныя прамежкі часу спявалі ці «Памілуў мя, божа», ці «Святы божа, святы крэпкі». Ва ўсім гэтым бязладным жаночым хоры чуўся дзедаў голас. Ён быў прарэзлівы і звінеў, як бы от толькі што разбітая шыбіна. Я звычайна ў такія моманты стаяў поплеч маці і, трымаючыся за яе паркалёвы вышываны фартух, моўчкі слухаў дзедавы літанні.

Той раз я быў нейкі разгублены, у вушах у мяне сталі дзедавы словы: «Знайшла нейкага плюгаўца, галетніка». І калі ён зацягваў «Святы божа, святы крэпкі», я сам сабе падцягваў яму: «Хто на Лоеў, хто на Рэпкі». Гэта ўжо я сам, каб адпомсціць дзеду за яго знявагу да бацькі, прыдумаў. Маці, мусіць, пачула гэтыя мае словы, бо лёгенька штурханула мяне рукой і сказала: «Цс-с».

З таго часу я зусім незалюбіў дзеда Трыфана. І вось цяпер, калі ў хаце такое няшчасце — спраўляюцца памінкі па дзядзьку Паўлу, я гляджу на дзеда Трыфана, па маршчакаватым твары якога коцяцца слёзы, і зусім не шкадую яго. Каб мо бачыў я сваімі вачыма дзядзькаву смерць, дык, яно вядома б, заплакаў і я... А маё ўяўленне ніяк не магло намаляваць чалавечай трагедыі. Я глядзеў на абразы, на Георгія Пабеданосца, які, седзячы на белым кані, калоў вострай доўгай пікай змея, і мне здавалася, што то дзядзька Павел гэтак коле самога немца. Я не верыў ні ў якую смерць, хоць усе тут у хаце плакалі. Плакаў дзед Трыфан, плакала мая маці, плакала цётка, меншая матчына сястра Сцепа, плакаў меншы матчын брат дзядзька Прахор. Гэты дзядзька нейк і ў разлік не браўся ў дзедавай хаце. Ён быў балесны і заўсёды, зашыўшыся ў куток, курыў і кашляў. Дзед Трыфан яго не любіў, а та-

му дзядзька стараўся менш трапляць яму на вочы. Звычайна ў часе дзедавых літанняў дзядзька Прахор сыходзіў куды-небудзь з хаты, а найчасцей за ўсё ў сваю сукнавалку. Ён там дняваў і начаваў з парабкамі. А сёння і ён быў. Я глядзеў на яго, і мне шкада рабілася гэтага чалавека. Да яго калі хто і ставіўся ласкава, дык хіба што мая маці. Калі мы прыходзілі да дзеда ў госці, яна заўсёды садзіла яго поплеч сябе за стол і частавала чым смачнейшым, хоць дзед на яе і скоса пазіраў.

— Эт, хіба ён сем'янін у хаце. Пакуль ліпіць, дык няхай ліпіць,— казаў часта дзед.

А як тое было слухаць жывому чалавеку, якога як бы загадзя асудзілі на небыццё...

Малебства і галашэнне па дзядзьку Паўлу, які «загінуў смерцю храбрых за веру, цара і ацечаства», працягваліся ў дзедавай хаце ўвесь вечар у суботу, цэлы дзень у нядзелю, а пад вечар, калі мы збіраліся ўжо ісці дахаты, я пачуў, як дзед сказаў маці:

— Схадзілі б вы са Сцепай, ды, можа, яшчэ якія жанчыны збяруцца, у Кіева-Пячорскую лаўру ды пакланіліся святым мошчам.

Я не чуў, што адказала тады маці, аднак у другую нядзелю яна, цётка Сцепа, бабка Гапка з нашага Рагазіна ды яшчэ колькі жанчын з суседніх вёсак, пабраўшы за плечы вялікія торбы, напакаваныя розным прыпасам больш як на тыдзень яды, з доўгімі арэшкавымі кіямі ішлі купкай праз увесь Рагазін. Яны перад тым, як выйсці ў такую вялікую дарогу, сабраліся былі ў нашай хаце. Бацька, відаць, нездаволены быў тым, што маці збіраецца пакінуць нас больш як на тыдзень, гаварыў ёй:

— Куды ты, Мар'я, пойдзеш?.. Хіба жартачкі за свет ісці. Ды каб хоць улетку, а то ж зіма лютая.

— Нічога, Васілька, бог дасць, схаджу ды памалюся і за цябе, і за дзяцей, каб яны здаровенькі былі. Адно ты глядзі іх тут,— адказвала маці, і бацька мякчэў, ён, здавалася, больш не мог не тое што пярэчыць маці, дык нават прасіць яе.

Жанчыны памаліліся на абразы і выйшлі з хаты. Выйшаў і я з маці, трымаючыся за яе руку... Маці была апранута ў чорны бурнос, доўгі-доўгі, аж да самых пят. Яна дома ніколі гэтага бурноса не апранала, ён ляжаў у куфры, перасыпаны чамярыцаю ад молі. Бурнос маці прывезла з сабою ў пасаг і хавала яго для маёй маленькай сястрычкі Насці, відаць думаючы, што на нашай гаспадарцы

наўрад ці справіш такі. Маці, ведучы за руку, казала мне як настаўленне:

— Ты ж тут не гойсай па вуліцы, а вучыся добра ды глядзі Насцечку. Дзед стары, дзе яму там упільнаваць, а бацьку ж трэба і свіней дагледзець, і карову падаіць, і есці вам наварыць... Дык ты яму хоць памагай.

— Добра, мама,— адказаў я. А ў самога аж сэрца чагосьці балела. Ніколі я і дня не быў без маці. А то ж, глядзі, які тыдзень яе дома не будзе.

Вуліца ў нашым Рагазіне простая, роўная, як напятая струна. Абапал яе пры хатах старыя ліпы, ясакары. Цяпер, праўда, яны голыя, без лісця. У мяцеліцу адно толькі вецер скуголіць у іх голлі. І гэтую простую вуліцу, і Мендалеву хату-карчму, адзіную будыніну на ўсю вёску пад гонтавым дахам, з дзвярыма і ганкам з прыступкамі на вуліцу, маці не будзе бачыць шмат часу. Паўз Мендалеву хату ішоў біты шлях, які далей выходзіў на балота. Там ён быў насыпаны і аслупаваны з абодвух бакоў нізенькімі, закругленымі зверху сасновымі слупкамі ў два рады. Паміж імі вілася сцежка для пешаходаў, а пасярэдзіне шляху ездзілі конна. Як толькі мы дайшлі да Мендалевай хаты, маці забегла ў яе і вынесла мне дзве даўгія, загорнутыя ў паласатую паперу з закручанымі канцамі, цукеркі...

— Адну сам з'ясі, а гэтую занясі Насці на гасцінец. Я ў Мендаля напавер узяла. Скажы Насцечцы, што мама з Кіева прыслала...

Маці абняла мяне, пацалавала, перахрысціла і сказала:

— Бяжы дадому, сынок, а я пайду...

Дадому я адразу не пабег. Стоячы на Мендалевым ганку, я доўга глядзеў на купку жанчын, якія пайшлі па грэблі... Спачатку яны добра відны былі мне. Я нават адрозніваў матчын чорны бурнос. Пасля як бы зліліся з тымі слупкамі, што, здавалася, беглі абапал грэблі, і я толькі бачыў ужо бліскучыя макаўкі Верамеевіцкай царквы. Мне здавалася, што відчеліся не Верамеевічы, у якіх я часта бываў з бацькам ці з маці, а што то быў той самы Кіеў, у які пайшла мая маці на малебства — шукаць ратунку ад грахоў.

Вясна ў гэтым годзе выдалася ранняя. Бацька нават не паспеў навазіць і накалоць на аблетак дроў, як нечакана снег узяўся вадою і нашая Рагазінка — ціхая рачулка-балацянка — да таго расшугалася, што затапіла ўсё

балота, аж да самых платоў. Смешна было глядзець: пасярод гэтага мора-акіяна немаведама як ліпеў гарбаты чорны мост. У адным месцы вада нават перамыла грэблю, і рагазінцы з грабарскімі рыдлёўкамі хадзілі ўціхамірваць стыхію, а то ж дай разгуляцца, дык яна парве ўсю грэблю, якую масцілі людзі з усяго наваколля аж на працягу трох год. Тады адно хіба што ўлетку можна будзе дабрацца на фурманцы да Верамеевіч. А як жа людзі жылі б, адрэзаныя ад Верамеёвіч: там жа была воласць, там у крамах мы куплялі соль, цукар, буракові мёд і манапольку. Там наш царкоўны прыход, і нават на вялікдзень на ўсяночную людзі не маглі б прайсці, каб не грэбля... Адным словам, ні прадаць, ні купіць нельга было б нічога без грэблі.

А нам цяпер дык вунь як трэба тая грэбля. Пасля таго як маці вярнулася з кіеўскага набажэнства, яна зусім абнемаглася. Дні са тры ляжала на печы і гарэла не ад таго, што ляжала на гарачай чарэні, а ад нейкага ўнутранага агню, які нібы дзень і ноч не стухаў у яе грудзях. Бацька думаў сабе: «Ат, здарожылася жанчына, пераляжыць, перабудзе гэтую напасць і на ногі стане». Але маці не стала на ногі і праз тыдзень, і праз два. Я глядзеў на яе і, здавалася, бачыў, як яна ўвачавідкі мянялася з твару. Нос яе завастрыўся і стаў нейкім даўгім-даўгім; сінія, як валошкі, матчыны вочы сцямнелі і запалі глыбока-глыбока, твар стаў бледным, спакутаваным. Бацька і дзед не дазвалялі мне быць каля маці. Аднак, калі іх не было ў хаце, я хуценька скідаў світку і вобмельгам кідаўся на печ. Прытуляўся блізенька да матчыных грудзей і слухаў. Аднойчы мне нават здалося, што яна не дыхае ўжо, і я загаласіў... Матчына рука павольна скранулася з грудзей, абняла мяне, і я пачуў:

— Сыночак мой родненькі, не плач, галубочак, яшчэ за свой век наплачашся.— Слабая матчына рука павесіла мне на шыю крыжык, мусіць, той, што маці прынесла з Кіева-Пячорскай лаўры.

Што гэтым хацела сказаць маці, я так і не зразумеў тады: ці яна хацела сказаць, што ёй засталося нядоўга жыць, ці што іншае. У сенцах бразнулі дзверы, і я саскочыў з печы ўвесь у слязах.

— Чаго ты плачаш? — запытаў бацька.

— Я не плачу, гэта я так сабе...

— Дык ты ж тут глядзі Насцечку, а я паеду па доктa-

ра,— сказаў мне бацька.— Ды матцы вады падай, калі папросіць...

А бацька ўжо і каня запрог. Ён у некага ўзяў воз на жалезным ходу і з драбінамі, намасціў яго сенам і заслаў дзяружкаю. Сам сеў у перадку, каб, мусіць, не мяць таго месца, на якім павінен быў сядзець доктар. Праз замурзаную шыбіну акна я доўга глядзеў услед, як ад'язджала фурманка.

Доктар прыехаў пасля паўдня. Ён мне здаваўся вельмі ж смешным. На ботах у яго блішчастыя галёшы, якіх я амаль ніколі не бачыў. Калі ён іх скінуў ля парога, мне хацелася памераць на свае лапці. Можа, каб дзед не кінуў на мяне вачыма з-пад сваіх сівых навіслых броваў, дык я такі памераў бы. Аднак я адышоў ад галёш і разглядаў ужо самога доктара. Ён распрануў паліто, кінуў яго на лаву, зняў шапку. Макаўка галавы ў яго была голая, як калена, толькі на патыліцы аж да самых вушэй раслі пакручаныя ў кудзеркі валасы. Доктар расшпіліў пінжак, і я ўбачыў упоперак грудзей, ад адной маленькай кішэні да другой, прапушчаны праз прарэзку белы срэбны ланцужок. Доктар узяў у сваю руку матчыну, а другой палез у маленькую камізэлечную кішэньку і выцяг адтуль круглы, як цыбуліна, гадзіннік, і толькі тады я здагадаўся, навошта вісіць той ланцужок. Потым доктар з патайной кішэні дастаў нейкую трубку і доўга праз яе абслухваў матчыны грудзі. Нарэшце ён прыклаў да цела маці два пальцы левай рукі, а вялікім пальцам правай стукаў, як мне здалося, на ўсю сілу, аж нешта з грудзей як бы аддавалася рэхам. Мне хацелася накрычаць на доктара, каб ён не біў гэтак, а то маці і так баліць, без яго, але я зірнуў на бацьку, на дзеда, якія маўкліва стаялі ля палацяў і пільна глядзелі, што робіць доктар, чакаючы яго слова, як нейкага прыгавору, і сам змоўчаў. Доктар зірнуў спадылба на ўсіх нас праз свае акуляры, у якіх чамусьці не было правай аглабелькі, а замест яе зашмаргам зачэплен за вуха матузок, і сказаў:

— Бацюхны вы мае, у маладзіцы ў вашай плеўрыт. Трэба было раней прыехаць па мяне. Перахаладзілася маладзіца.

Бацька як пачуў гэта, дык увесь збялеў. Ён добра ведаў, што такое плеўрыт. Яму самому гадоў з дзесяць назад рабілі ў Кіеве аперацыю і вынялі аж дзве рабрыны. З-за таго плеўрыту ён белы білет цяпер мае. Амаль калекам стаў. Я бачыў, як з бацькавых вачэй пакаціліся буй-

ныя, нібы караліны, слёзы. Адна з іх затрымалася на кончыку вуса і дрыжала, як жывое срэбра.

— Дык от, баценька мой,— гаварыў далей доктар,— плач бядзе не помач. От я выпішу мікстуру, ды банькі будзеце ставіць. Можа, і паможацца...

Доктару трэба было плаціць. А ў нас не было ніякіх грошай. Таму бацька адчыніў куфэрак, дастаў адтуль невялікі сувойчык матчынага кужэльнага палатна і працягнуў доктару. Той падзякаваў і паклаў яго ў свой дарожны куфэрак, у якім ляжала доктарскае начынне.

Маці кожны дзень ставілі банькі, яна тры разы на дзень піла мікстуру, і ці то ад гэтых лекаў, ці ад чаго-небудзь іншага ёй стала лягчэй.

На стаенніку прыехаў дзед Трыфан з бабуляй Ганнай адведаць маці. Дзед, як толькі ўвайшоў у хату, скінуў шапку і кінуўся ў кут маліцца богу. За ім следам бабуля Ганна. Памаліўшыся, яна выняла з кішэні насавічок, развязала яго, дастала адтуль нам з Насцечкай па драбку цукру. У нас у хаце гэта быў найлепшы ласунак.

Яны доўга гамапілі аб нечым з бацькам, дзедам Яўстратам. Нарэшце дзед Трыфан як бы параіў, а хутчэй за ўсё прапанаваў:

— Васіль, дык ты б пазваў бабку Гапку. Яна ж такі сёе-тое ведае. Яе ж нават да нас у Багульнікі завуць людзей лячыць ад рознае немачы.

Не ведаю, што бацька думаў, але ён доўга нічога не адказваў дзеду Трыфану і толькі праз якія хвіліны дзветры звярнуўся да мяне:

— Збегай, Макарка, ды пазаві Зенушчыну бабку Гапку.

Я хацеў ужо кінуцца з хаты, але бацька мне сказаў, каб я пачакаў крыху. Ён дастаў з куфра маю крамную белую ў ружовыя палосы святочную кашулю, даў у рукі нешта загорнутае ў чыстую вышываную ўціранку і сказаў:

— Бяжы хутчэй. Гэта аддай Гапцы на гасцінец.

Я бег амаль праз усю вёску подскакам і неўзабаве вярнуўся ўжо з бабкай Гапкай. Гэтую бабку добра ведалі ў кожнай рагазінскай хаце. Казалі, што ўсім рагазінскім дзецям, якія нарадзіліся за апошнія два ці тры дзесяцігоддзі, яна сваімі зубамі паадгрызала пупкі. Мне карцела паглядзець, якія там у Гапкі зубы, але колькі я ні зазіраў ёй у рот, гэтак зубоў і не пабачыў. Мусіць, таму што іх там і не было.

Бабка, як толькі ўвайшла ў хату, тры разы перахрысцілася і ўжо з парога пачала нешта шаптаць. Сінія яе тонкія губы дробненька трэсліся, як бы яна вельмі змерзла. Потым яна папрасіла ў бацькі конаўку вады. Падышла да маці, якая на гэты раз ляжала на палацях, перахрысціла яе таксама тры разы і пачала трыма пальцамі правай рукі рабіць нейкія таямнічыя знакі над конаўкай, нешта сама сабе шаптаць, дзьмухаць на ваду. Колькі я ні ўслухоўваўся, каб пачуць, што шаптала бабка, мне ўдалося толькі ўлавіць словы: «Сыдзі, хвароба, на сухі лес, на гнілы брод».

Маці прыўзнялася на локці і каўтанула з тае конаўкі глыток намоўленай вады. У гэты час бразнула клямка дзвярэй і па падлозе застукаў дзеравяшкаю дзядзька Пракоп. Ён павітаўся з усімі, апрача Гапкі, за руку і спытаў у бацькі:

— Ну, як Мар'я?

— Трохі, здаецца, лепш.

— Дык мо ты думаеш, што ёй гэта старая шэльма помач дала? Гані ты яе ў тры шыі з хаты, каб яе і смуроду тут не было.

Бацька вінаватым позіркам, як бы просячы прабачэння, зірнуў на Пракопа, а потым на дзеда Трыфана: гэта, маўляў, ён падбіў мяне на такую штуку.

— От бог дасць — вычуняе,— сказаў дзед Трыфан.— Яго прасіць адно трэба.

— Эт, прасі не прасі, дык ён далёка ад нас, на ўсіх ласкі і ўсявышні не набярэцца. Трэба самім пільнавацца. От, можа, вясна, цяпло, сонца і выганяць гэтую хваробу.

Гэтай гаворкі Гапка ўжо не чула. Маленькая, згорбленая, у чорнай хустцы, завязанай гэтак, што над галавой тырчалі два ражкі, як у нячысціка, яна хуценька выбегла з хаты.

— От чортаў завод гэтых Зенушчыных... Свет толькі паскудзіць.

Відаць было, што дзед Трыфан хацеў запярэчыць дзядзьку Пракопу, аднак не асмельваўся, бо ён ведаў — Пракопа толькі зачапі, дык не адкараскаешся... А дзядзька Пракоп перайшоў ужо на другое:

— Дык, значыцца, царок, святы памазаннік боскі, спляжыўся, трасца яго галаве... Забраў маю нагу і сам з ёю, мабыць, на той свет падаўся. Можа, і там яму захочацца хоць трохі пасмактаць нашай крыві. На гэтым жа свеце ён нямала яе папіў.

Дзед Трыфан не любіў такіх гаворак. Для яго цар быў толькі тым, за каго трэба было маліцца, а тут на табе — Пракоп як брыдка гаворыць пра памазанніка боскага... Ён пачаў хуценька збірацца з хаты. Бацька захваляваўся:

— Дык, можа б, хоць папалуднавалі, тата...

— Мы ж не з галоднага краю прыехалі, каб у цябе тут палуднаваць без гаспадыні. Ты хоць дзяцей гадуй, пакуль яна ляжыць.

Дзеда Трыфана з бабулькай Ганнай выйшлі праводзіць усе, апрача маці, якая не магла ўстаць, і дзядзькі Пракопа. Я дык сеў у задок фурманкі і падкатаўся аж да самай вулачкі, якая выходзіла на багульніцкую дарогу...

Вярнуўшыся ў хату, я чуў, як дзядзька Пракоп настаўляў бацьку:

— Гэта ж галасаваць неўзабаве будуць. Дык ты, брат, глядзі, галасуй за дзевяты нумар — за бальшавікоў, за Леніна. Ён — наш бядняцкі заступнік. А Керанскі — гад печаны. Не лепшы за Мікалая.

Дзядзька Пракоп палез рукой за пазуху і дастаў з-за зрэбнай сарочкі згорнутую газеціну.

— Пра Леніна я яшчэ чытаў на фронце ў акопах — вось у гэтай газеціне. Яе бальшавікі нам употай прыносілі...

Вясна, як добры мастак, фарбавала ў зялёны колер Рагазінскае балота. Вада з яго схлынула, і толькі дзе-нідзе ў канавах ды ў пелях яна яшчэ адлюстроўвала праменні шчодрага вясновага сонца. Рагазінка наша ўціхамірылася. Яна ўвайшла ў берагі і ціха сабе струменіла, разразаючы напал балота, паміж Рагазіном і Верамеевічамі. Высахла і грэбля. Ужо нават пылок курэў, калі хто шпарка тарабаніў на возе па грэблі. Масток цераз Рагазінку, ад якога нядаўна віднеўся адзін чорны горб, цяпер як бы стаў на ногі і падняўся на палях над вадою рачулкі. Жаўрукі аж заходзіліся над свежай раллёю, якая паравала на сонцы. Нам, падлеткам, было шмат радасці. Мы пазакідалі, хто пад палаці, а хто на гарышча, абрыдлыя за доўгую зіму лапці і бегалі басанож.

Маці ўвечары стала лепш, і мы з Яўхімкам дамовіліся заўтра, як толькі добра ўднее, пайсці ды назбіраць кнігаўчыных і качыных яек.

Як толькі праз агароды мы выйшлі на балота, адразу ж пападкасвалі свае шарачковыя нагавіцы і разышліся. Ішлі мы адзін ад аднаго як пачуць голас у напрамку да грэблі. Белагрудыя кнігаўкі кідаліся да нас, кігікаючы

і як бы просячы, каб мы не шукалі іх яек. Адна ўвязалася за мною, і здавалася, вось-вось сядзе на галаву і дзеўбане ў самую макаўку. А я сабе думаў: «Адводзіш ад гнязда, плюгавіца». Я прыглядаўся да кожнай купінкі і ў думках ужо бачыў кругленькую ямачку, а ў ёй чатыры шылаватыя рабенькія яечкі, якія ляжаць носікамі адно да аднаго. Але на купінах я нічога не знаходзіў. Тым часам я пачуў Яўхімкаў голас і кінуў у яго бок вачыма.

— Во! Во! Зірні! — крычаў Яўхімка, падняўшы абедзве рукі ўгару. Ён мне паказваў, што знайшоў яечкі. Неўзабаве Яўхімкаў крык паўтарыўся. Я зайздросліва падумаў сабе: «Ён поўную запазуху набярэ, а мне хоць бы адно якое трапілася».

Я неяк і не заўважыў, як сонца добра ўгрэла. Яно было ўжо амаль над галавою. А мы толькі падыходзілі да грэблі. Яўхімка паўз канаву ішоў да мяне, бо там, куды ён выйшаў, не было кладкі, каб перайсці грэблю. На абочыне грэблі, між слупкоў, мы пасядзелі, бо такі ладна натамілі ўжо ногі. Яўхімка, дастаўшы з-за пазухі, паказаў мне восем шылаватых кнігаўчыных яек... Прыстаўляючы руку да носіка кожнага яечка, я прасвечваў іх на сонцы, глядзеў, ці свежыя яны.

— Свежанькія, як толькі што знесеныя,— сказаў я.

А ў самога ў мяне кіпела, вар'явалася ад зайздрасці нутро, хоць я і не хацеў паказаць, што зайздрошчу сябру...

— Мне ніколі не шанцуе на гэты бок грэблі. Вось пяройдзем на той, тады пабачыш...

За грэбляю мы разышліся зноў. Там было макрэй, і мне давялося вышэй падкасаць калошы нагавіц. Мы ўжо былі, можа, за паўвярсты ад грэблі, як раптам аднекуль, ліха яго ведае адкуль, шуганула качка... Аж крыллі засвісталі. Тут недзе яе гняздо павінна быць. Мусіць, толькі што знеслася? Я, прыгнуўшыся, пачаў шарыць вачыма між купін, пад корчыкамі. Бо качынае гняздо не кнігаўчынае. Тая пакладзе сабе на купіну яечкі, і бяры іх... А качка дык гняздо сваё схавае ў шумавінне. Можаш каля яго дзень хадзіць і не ўгледзець. Аднак я пад корчыкам угледзеў між маладой зялёнай траўкі нешта пабурэлае і, калі разгарнуў рукамі сухое шумавінне, убачыў чатыры, мала меншыя за курыныя, як бы крыху падсіненыя, качыныя яечкі. Я іх клаў ужо за пазуху, як пачуў з грэблі прыглушаны адлегласцю голас:

— Макар! Макар! Ідзі сюды хутчэй!

Я павярнуўся на крык і пазнаў, што то крычаў і махаў рукою, завучы мяне, бацька. Але куды ён едзе? Ён жа нікуды не збіраўся. Можа, зноў па доктара?

Яшчэ цеплаватыя качыныя яечкі прыемна казыталі жывот, і я, прытрымліваючы іх рукой, каб не пабіліся, пабег па балоце да бацькі. Не шукаючы кладкі ці броду на канаве, кінуўся цераз ваду і памачыўся па самы пояс. Я зірнуў на бацьку і спалохаўся. Ён быў як сам не свой.

— Пустадомак ты,— закрычаў бацька і гэтак секануў пугаю па спіне, што мне здалося, спусціў скуру. Я кінуўся ўцякаць на другі бок грэблі, але ў гарачцы зачапіўся за слупок на абочыне і пляснуўся грудзьмі на зямлю. Яечкі за пазухаю раструшчыліся і расплыліся, хоць я гэтага адразу не адчуў. Бацька падбег да мяне і секануў яшчэ разы са два... Слёзы каціліся ў яго з вачэй. Мне здалося, што і яму стала шкада: гэтак ён мяне спаласаваў сураўчанай пугай. Бацька ўжо не крычаў, а, плачучы, гаварыў:

— Бяжы хутчэй дадому, вісус ты несусветны!

Наўпрасткі, балотам, я кінуўся дахаты, час ад часу азіраючыся на грэблю. Бацька паехаў на Верамеевічы. Воддаль за мной бег Яўхімка. Ён крычаў:

— Макар, пачакай, разам пойдзем.

Але мне не было як чакаць: карцела, што там такое дома. Хутка пераскочыўшы цераз плот, праз агароды я прыбег на свой двор і ўбачыў пад паветкаю дзядзьку Пракопа. Той, нагнуўшыся, акантоўваў дубовы круглячок, на танчэйшым канцы якога ўжо быў прарэзаны паз для папярочнай перакладзіны. Дзядзька Пракоп рабіў крыж. Як толькі я падышоў, ён, перасільваючы скупыя мужчынскія слёзы, сказаў:

— Няма твае матулькі, Макарка. Сіротка ты цяпер...

Я загаласіў і вобмельгам кінуўся ў хату, дзе на покуці ляжала, як жывая, нават з усмешкай на твары, толькі белая-белая, нібы палатно, маці. Чадзіла, міргаючы язычком агню, свечка. Чуўся глухі, пракураны басок дзядзькі Нічыпара, які звычайна ў Рагазіне па ўсіх нябожчыках чытаў псалтыр.

А назаўтра ўдзень маці павезлі на могілкі. На возе стаяла доўгая труна, зробленая дзядзькам Пракопам са смольных дошак, пры ёй дубовы крыж... Паперадзе мужчыны неслі тры пратэсы, за імі следам ішоў поп у пазалочанай рызе, дзяк — белай, нібы вытканай са срэбра. За возам ішлі бацька, дзяды Яўстрат і Трыфан, бабка Ган-

на, якая несла на руках Насцечку, і цётка Сцепа, поруч з якой ішоў я, трымаючыся за яе паркалёвы вышываны фартух, а ззаду нас ішлі рагазінцы — мужчыны, жанчыны, дзеці. Поп спяваў: «Упакой, госпадзі, душу ўсопшай рабы твая...»

Вясновы дзень быў ясны, сонечны. Толькі б і радавацца жыццю...

Воз ніяк не мог пераехаць насыпу, якім былі абнесены могілкі. Мужчыны ўзялі труну на плечы і панеслі да выкапанай ямы. У настоенай вясновай цішы чуўся голас папа і дзяка, надрыўнае галашэнне бацькі і жанчын. Я ціхенька плакаў сабе, нібы баючыся, каб ніхто не пачуў і не пабачыў. Толькі тады, як цалаваў у апошні раз матчыны халодныя вусны, я закрычаў як сам не свой і ледзь не кінуўся следам за труною ў халодны глыбокі дол.

Забарабаніла па веку труны вільготная, яшчэ не сагрэтая сонцам зямля. Мужчыны ставілі крыж у галавах магілы. А мне здавалася, што то не на магілу маёй маці ставяць высокі дубовы крыж, а на маё маленства...

## ПРАСТРЭЛЕНАЯ ДЗЕРАВЯШКА

І сапраўды, на маленства маё быў пастаўлен крыж. Цэлы год я ў хаце з'яўляўся гаспадыняй, нянькай. Насцечка была малая, і я яе даглядаў, шанаваў як мог. Яшчэ і сонца не выблісквала, а я ўжо станавіўся на ногі. Праўда, не адразу я ўставаў. Мне ой як хацелася спаць, але бацька на дыбачках, каб не пабудзіць Насцечку, падыходзіў да палацяў і пачынаў мяне раскатурхваць:

— Макарка, хлопчык, уставай!

Я нешта спрасоння мармытаў. Здаецца, і чую, як бацька мяне будзіць, ведаю, што трэба ўставаць, але ніяк не магу пралупіць вачэй і ўстаць на ногі. Бацька яшчэ разы са два тармасне, потым, відаць, ужо злосць яго агорне, і ён закрычыць:

— Уставай, байбус ты гэтакі! Не выспішся за свой век.

Тады я ссоўваўся з палацяў і станавіўся босымі нагамі на падлогу. А яна, калі вылезеш з цёплае пасцелі, халодная-халодная, аж, здаецца, у пяткі коле... У лучніку на пасвеце ўжо цьмяна гарыць смольны корчык лучыны.

Бацька падкладае больш, каб у хаце стала святлей, і загадвае мне:

— Ты налупі тут бульбы ды распалі ў печы... Мне ж вунь колькі работы.

Ён ідзе даглядаць і даіць карову, даць каню сена, каб скаціна добра пад'ела перад тым, як запрагаць яе ў воз на цэлы дзень. Я лезу пад палаці — там у нас на зіму ссыпана бульба, набіраю яе цэлы кош і выцягваю на сярэдзіну хаты, бліжэй да лучніка — там і цяплей і святлей. Саджуся на адмыслова адрэзаны круглячок і пачынаю лупіць бульбу. Я чую, як на печы крэкча дзед Яўстрат. Пасля смерці маці стары зусім абнямог і рэдка калі сцягваўся з печы. Дзед спускае на прыпек ногі і ўглядаецца сваімі падслепаватымі вачыма, што я там раблю.

— Ты б танчэйшае шалупінне кроіў, а то гэтулькі бульбы пераводзіш,— крычыць ён з печы, нібы і сапраўды бачыць, што я пакідаю вельмі тоўстае шалупінне і пускаю палавіну бульбы ў глум. Ён, вядома, нічога адтуль, з свае печы, не бачыць, але крычыць, хочучы мяне папярэдзіць, каб я сапраўды не глуміў бульбы. Яна ж у нас уся на віду, не вельмі многа яе, так што раскашавацца не дужа можна.

Я ўжо налупіў амаль поўны чыгунец бульбы, папераразаў яе напал, заліў чыстай вадой, нават усыпаў шчыпоць солі, каліва перцу. Добра было б паклаецці ў яе тарана якога, тады можна і юшкі пасёрбаць. Яна ж такая смачная з таранам! Але тарана ў хаце не было. Потым трэба яшчэ намыць крыху большы чыгунец драбнейшай ужо бульбы і паставіць варыцца. У нас жа ў хлеўчуку вёўся сякі-такі парсюк, бацька яго наважыў адгадаваць, каб хоць было чым аскароміцца на вялікдзень.

І вось ужо два чыгунцы прыстаўлены ў печы, і я ад лучніка нясу, як нешта трапяткое, на тонкай лучынінцы агеньчык... Ён адразу хапаецца за бяросту, падкладзеную пад сухія дровы-аблетак, яна скручваецца і сквярчэцца, нібы на патэльні смажыцца сала.

Першая мая работа скончана. У печы гарыць, бульба сабе і парсюку варыцца. Са скрынкі стала я дастаю тую кніжку, што мне даў дзядзька Пракоп, падсоўваю ўслон бліжэй да лучніка і саджуся чытаць. Дзед гэта заўважыў і крычыць з печы:

— Чаго ты там слепішся ў тую кніжку? Хіба ты з яе хлеба наясіся? Вунь бы лепш наломваўся лапці плясці, а

то вырасцеш і спіцы не будзеш умець у руках трымаць.

Я нічога не адказваю дзеду, нават не слухаю яго, бо вельмі ж цікавы-цікавы, не такі, як наш, свет паўстае перада мной з тае кнігі. Я ўвачавідкі бачу Паўла Уласава, бачу яго маці Нілаўну, і мне хочацца бегчы туды, да іх, пад той чырвоны сцяг, які нясе Павел.

Чырвоны сцяг! Так, я яго бачыў увосень у Верамеевічах. Мы з бацькам ездзілі туды выменьваць на бульбу які пуд солі. На рынку, дзе местачковыя гандляры напрылеплівалі сваіх крамак, сабралася тады столькі людзей, што, можа б, і яблыку не было дзе ўпасці. Пасярэдзіне высока-высока, як жывы, трапятаўся чырвоны сцяг, і нейкі чалавек, апяразаны цераз плечы крыж-накрыж кулямётнымі лентамі, крычаў на ўвесь гэты размаіты чалавечы натоўп:

— Таварышы! Мы ўзялі ў свае рукі ўладу... Ленін з намі!

Я толькі гэтае і чуў, бо пасля загрымела, загрукатала, аж заглушыла мяне магутнае «ўра!»... Шапкі-кучомкі і кепкі паляцелі над галовамі. Зводдаль здавалася, што ўзляцеў нейкі спалоханы гурт птушак. Неўзабаве ўвесь гэты натоўп выцягнуўся ў калону і пайшоў па вуліцы. Уперадзе віднеўся чырвоны сцяг, і мне ўяўлялася, што яго ніхто не нёс на руках, а ён сам плыў над галовамі людзей.

Наш воз стаяў пры самых дзвярах Зусевай крамы. Тут мы выменьвалі соль. Мы з бацькам сядзелі моўчкі, глядзелі на ўсё гэта здзіўлена, баязліва і нават не заўважылі, калі да нас, выйшаўшы з калоны, падкавыляў на сваёй дзеравяшцы дзядзька Пракоп.

— Бачыш, Васіль, новае жыццё пачынаецца.

Бацька мой не ведаў, што адказаць на гэта дзядзьку Пракопу: усё для яго было нязвыклым і нечаканым...

Тым часам нахапілася ўжо і раніца. Маленькія шыбы нашых вокнаў як бы хто мазануў крэйдай, і па хаце разлілося бледнае святло новага дня. Бацька прыйшоў на снеданне. Бульба ўжо ўвапрэла добра. Ён зірнуў, што пасярод хаты стаяў кош з шалупіннем і, відаць, крыху залаваў на мяне, што не давёў усяго да ладу. Я гэта заўважыў і адразу ж прыбраў кош пад палаці. Прачнулася і Насцечка. Я надзеў на яе доўгую, аж да самых пят сукенку і павёў умывацца над цэбрам з запаранай карове мякінай.

— Тата, дык, можа б, вы злезлі паснедаць,— паклікаў бацька дзеда.

— Не, сынку, падайце мне сюды,— папрасіў дзед.

Я хуценька наклаў у міску бульбы, адрэзаў не вельмі тоўстую лусту хлеба і падаў дзеду на печ.

Толькі мы селі за стол, як увайшоў дзядзька Пракоп.

— Хлеб ды соль вам,— сказаў ён.

— Просім за стол,— адказаў бацька.

— От толькі што адваліўся ад сваёй бульбы, дык ваша, мабыць, не ўлезе.

Снедалі мы моўчкі, елі бульбу і засёрбвалі гарачай юшкай, адцэджанай з чыгуна. Юшка мне здавалася вельмі смачнай, яна была крыху саланаватая, а ўсыпаны ў яе перац пакалваў язык і прыемна асвяжаў рот.

Дзядзька Пракоп выняў капшук, дастаў з прыробленай да яго кішэнькі «прагрэс». Хто яго ведае, дзе ён яго дапаў. Ні Зусь, ні Мендаль цяпер не мелі «прагрэсу» на продаж. Відаць, яшчэ даўно назапасіў яго дзядзька Пракоп і цяпер пакурваў сабе анігадкі.

— Дык ты, можа б, Васіль, пашукаў ужо якое жанчыны,— прамовіў дзядзька Пракоп, як бы ён толькі для гэтага і прыйшоў...— А то што ж ты на гэтым хлопцы будзеш ездзіць. Цяпер, брат, настае свет такі, што хлопцу трэба вучыцца. Ён у цябе здатны да навукі, дык няхай вучыцца.

Немаведама як гэта з печы пачуў дзед — ён жа быў тугаваты на вуха — і ўставіў сваё:

— Ат, як ні мялі нашага брата мужыка, дык адна з яго мука... От тры зімы правучыўся, дык і хопіць.

— Ты, Макарка, ужо тую кніжку, што я табе даў, прачытаў? — не звяртаючы ніякае ўвагі на дзедаву гаворку, запытаў дзядзька Пракоп.

— Яшчэ трохі не дачытаў...

— То дачытвай, я табе яшчэ дам.

Я радаваўся гэтай дзядзькавай шчодрасці, гэтаму чалавечаму клопату, і кідаў вачыма на бацьку, як ён паставіцца да ўсяго гэтага. А бацька думаў сваё. Яму, відаць, карцела тое, што сказаў дзядзька Пракоп.

— Дык мо ты, чалавеча, ведаеш дзе добрую маладзіцу?

— То ж бо што ведаю, дык і прыйшоў...

У нядзелю яшчэ на самым світанні бацька пайшоў да Лукаша Шульгі папрасіць вазка. А вазок у яго добры: абабіты выгаблеванымі шалёўчынамі, з шырокай спінкай,

на якой звонку намаляваны нейкі дракон. А каб ямчэй сядзець, непадалёк ад спінкі зроблена сядзенне, прышрубаванае жалезнымі прантамі да білаў. На яго быў пакладзены мяккі сяннік. А каб вазок не кідала на ўхабах, на палоззе насаджаны падрэзы. Я не раз, калі Лукаш Шульга куды ехаў, даганяў непрыкметна ззаду той вазок, станавіўся нагамі на палазы і, трымаючыся аберуч за спінку, падкатваўся, колькі мне хацелася, пакуль Лукаш чаго-небудзь не азіраўся назад і не сек мяне навотлях пугай-свістушкай.

Я стаяў на ганку, калі бацька з дзядзькам Пракопам садзіліся ў Лукашоў вазок. Бацька сеў па левую руку, дзядзька Пракоп — па правую. Абодва яны былі ў кажухах, бо мароз такі быў ладны. Пракопава нага-дзеравяшка не гнулася і не месцілася ў вазок. Дзядзька паклаў яе на біла. Яна здалёк віднелася, як руля кулямёта.

— Схавай у вазок, навошта ты яе выставіў? — параіў бацька дзядзьку Пракопу.

— Дык не лезе ж, хай яна гарыць. Ды не адмерзне, ліха з ёй.

А тыдні праз два пасля каляд гулялі бацькава вяселле... Яно, праўда, было не такое, як усе вяселлі, хоць і крычалі «горка», хоць і куплялі ды білі кашу, дзялілі каравай, прывозілі куфар. Але ўсё ж нечага ў тым бацькавым вяселлі не хапала, нешта яму замінала... Можа, мы з Насцечкай? А можа, хто яго ведае?

Не, не толькі мы... Бацька сядзеў на покуці са сваёй маладою пад толькі што павешанымі ёй на абразы вышыванымі ручнікамі нейкі пахмуры, як бы вельмі заклапочаны... Ён глядзеў на нас з Насцечкай... Мы стаялі, прыціснуўшыся спінамі да палацяў, глядзелі на нашу новую маці. Я не ведаю, ці думала што Насцечка... А я такі думаў... Ой, што я думаў... Каб толькі яна, гэтая наша новая маці, не ўведала таго...

Госці вылазілі з-за стала. Дзядзька Пракоп, павязаны наўскасяк цераз плячо вышываным ручніком, вылез амаль першым. Ён узяў за руку маладзіцу і падвёў да нас.

— Дык от, Вара, гэта цяпер твае дзеці, глядзі іх, як саваё вока. Няма іх каму глядзець, дык ты ім будзь за родную маці. А вы, дзеці,— звяртаючыся ўжо да мяне з Насцечкай, прамовіў дзядзька Пракоп,— шануйце і любіце сваю новую маці.

Я не ведаў, што адказаць дзядзьку Пракопу... Адно толькі лыпаў вачыма, нібы я быў у чым вінаваты перад

гэтаю чужою мне жанчынай, якую я павінен цяпер называць маці.

Вара перахрысціла нас, нагнулася і пацалавала. Насцечка адразу кінулася да яе і залапатала:

— Мамачка, я есці хачу...

— Зараз, дзетка.

А я маўчаў і глядзеў на бацьку. Я заўважыў, калі Насцечка назвала Вару «мамачкай», як пацяплеў бацькаў позірк. А я ніяк не мог прымусіць сябе вымавіць гэтае святое слова на чужую мне жанчыну. Не папрасіў я есці, хоць мне вельмі хацелася. На нас з Насцечкай у час гэтай вясельнай калатнечы забылі зусім...

Жыццё ў нашай хаце, як той казаў, ішло не подскакам, а цягнулася, нібы муха па смале. Пакрысе мы пачалі прывыкаць да новай маткі, а яна да нас. Лагоднасць яе да мяне з Насцечкай пачала часам змяняцца на нейкую, праўда, яшчэ звонку прыхаваную, нервовую ўзрушанасць. Ад майго пільнага вока гэтага яна не магла схаваць. Я, як і раней, уставаў на досвітку, лупіў бульбу, уносіў дровы, хадзіў з вядром па ваду, хоць і вельмі баяўся, каб не паслізнуцца ля студні ды не ўпасці туды, бо студня абрасла гэтакім лёдам, што я ніяк не мог яго абрубіць сякерай-тупіцаю. У мінулыя зімы гэта звычайна рабіў дзед, але зараз ён не злазіў з печы.

Мачыха пачынала сяды-тады злосна пакрыкваць ужо і на дзеда:

— Загрувасціў усё чарано, і пагрэцца няма дзе,— казала яна, прыйшоўшы з двара.

Дзед не змоўчваў:

— Я гэтую печ сам мураваў, на ёй мне, можа, і памерці давядзецца... От што я табе скажу, мая дарагая маладзіца.

Я рэдка калі выходзіў куды з дому. А Яўхімка стаў радзей заходзіць да нас. Калі я ў яго дапытваўся, чаму гэта ён, Яўхімка мне шчыра сказаў:

— Не люблю я гэтай тваёй маткі, дык і хадзіць не хачу. Зноў жа такі ўрокі трэба вучыць. А ты ж не вучышся, дык як я з табою буду вучыць.

Мне крыўдна рабілася, што я пакінуў школу. Я ўпрасіў дзядзьку Пракопа, каб ён зайшоў да Мірона Нічыпаравіча і папрасіў яго прыняць мяне вучыцца пасярод зімы. Дзядзька Пракоп схадзіў да настаўніка, але, вярнуўшыся, сказаў мне:

— Хіба ты ўпросіш таго чортавага дзяка. Пасярод зі-

мы, кажа, не магу, дый годзе. Дык ты перазімуй ужо без школы, а на другую зіму ён цябе прыме, нідзе не дзенецца.

Злосць мяне разбірала на гэтага Мірона Нічыпаравіча, як дзядзька Ракоп казаў, дзяка. У вёсцы ўсе ведалі, што, перш чым стаць настаўнікам у нашай рагазінскай школе, Мірон Нічыпаравіч быў за дзяка ў Цалуйкаўскай царкве. А потым нешта не дагадзіў нейкаму благачыннаму, дык той яго расстрыг, і ён пайшоў за настаўніка. У тыя зімы, як я хадзіў у школу, Мірон Нічыпаравіч сталаваўся па хатах. З якой хаты двое дзяцей хадзіла ў школу, дык у той два дні кармілі яго. Не ва ўсе хаты ахвотна ішоў есці настаўнік, а толькі ў багацейшыя. Да нас дык ён і носа не паказваў. Таму маці наладоўвала яешні, кальцо кілбасы, якую мы калі і бачылі, дык хіба на каляды ці на вялікдзень, як разгаўляліся, і я яму кожны раз гэта насіў. Злосць і зайздрасць мяне бралі. Аднаго разу, у той дзень, у які я прынёс есці настаўніку, быў цікавы ўрок. Я сядзеў на другім радзе, акурат пасярэдзіне. Была вясна, і мы папрыходзілі басанож. Мікітка Змітракоў — быў у нас такі звадыяш — чагосьці падлез пад парты і знячэўку паказытаў мяне за падэшву босай нагі. Я спалохаўся, падскочыў на парце ды як крыкну:

— Ой, ратуйце, нячыстая сіла!

Усе чатыры класы не ўседзелі на месцы ад майго крыку. А настаўнік спакойна, нібы нічога і не здарылася, прайшоў паміж партамі з лінейкай у руцэ, спыніўся каля нашай і злосна загадаў:

— Макар Шыянок, дай лапу.

Я збянтэжыўся і спачатку схаваў абедзве рукі ў кішэні пінжачка. А настаўнік як крыкне:

— Дай лапу, кажу табе!..

Я працягнуў левую руку.

— Давай правую,— загадаў ён.

З усяго маху выцяў ён мяне лінейкай па далоні правай рукі. Спачатку яна нібы засвярбела, а потым забалела, нібы ў тую лінейку натыканы іголкі і мне скалолі імі ўсю далонь. Цяжка было забыць на такую крыўду, тым больш што я ні ў чым не быў вінен. Запомнілася мне гэта надоўга, а мо і на ўсё жыццё.

А цяпер ён мяне яшчэ не прыняў у школу. І я вырашыў адпомсціць настаўніку за ўсё адразу. Перад тым як ехаць у фуры — везці ў Мазыр кладзь, бацька вадзіў у Ціхонаву кузню каваць на пярэднія ногі каня. З кузні ён прынёс у кішэні жменьку цвікоў-вухналёў. Добрыя гэта

цвікі — не сагнецца ніводзін, куды яго ні забівай. Я ўкраў з бацькавай кішэні два вухналі, узяў за пазуху малаток і выйшаў з хаты.

Наша рагазінская школа — гэта звычайная, толькі крыху большая, сялянская хата. У трысценніку — прыбудоўцы да яе — дзеці скідалі свае світкі: хто вешаў на цвік, убіты ў сцяну, а большасць проста кідала навалам у куток. Для настаўніцкага паліто яшчэ тады, калі я хадзіў у школу, мы ўбілі ў сцяну непадалёк ад дзвярэй, якія вялі ў клас, вялізны цвік і крыху меншы — для шапкі. Так што настаўніка, калі ён выходзіў з класа пасля заняткаў, дзеці не збівалі з ног. А самі яны душыліся, крычалі, пакуль разбяруць свае світкі ды пазнаходзяць шапкі. Тут жа пад паліто настаўнік ставіў свае галёшы. Гэта былі, бадай, адзіныя галёшы на ўвесь наш Рагазін. Настаўнік іх насіў нават і ўлетку... Я, не бразнуўшы клямкай, адчыніў дзверы ў прыбудоўку. У класе стаяла гамана. Нехта ўголас чытаў. Дастаўшы з кішэні вухналь і з-за пазухі малаток, я ціха, каб не нарабіць стуку, прыбіў пятку настаўнікавага галёша да падлогі.

Надвячоркам я знарок, падцікаваўшы, калі Яўхімка вярнуўся са школы, пайшоў да яго.

— Ой, братка Макарка, што там нехта зрабіў! — сустрэў мяне Яўхімка здзіўлена.

— А што? — спытаў я, нібы нічога не ведаючы.

— Нехта во гэтакага вухналя загнаў у пятку настаўнікавага галёша,— і Яўхімка выпрастаў указальны палец, каб паказаць мне, які вялікі вухналь.— Дык настаўнік надзеў галёшы і ніяк не скране з месца правай нагой, а потым ірвануў яе ды як пляснуўся, дык мы яго ўсе падымалі. Мікіта Змітрачкаў бегаў па абцугі. Дык вунь якога вухналя вынялі,— і Яўхімка зноў паказаў мне на палец.

Я ведаў, які быў вухналь. Яўхімка перабольшваў намнога, але я маўчаў, думаючы сабе: «Так яму, чортаваму дзяку, і трэба. Гэта яму за ўсё». Аднак я маўчаў, не расказаў пра таямніцу нават лепшаму свайму сябру, Яўхімку. Бо мог жа ён дзе-небудзь прагаварыцца і магло ж гэта дайсці да бацькі, а той бы, вядома, мне ў зубы не паглядзеў, а даў бы добрай лупкі.

Бацькі цяпер дома не было. Яму не сядзелася ў хаце, трэба ж было зарабляць на маладую жонку. Нагрузіўшы пяць мяхоў мукі ў Лукашовым ветраку, бацька павёз яе ў Мазыр, а адтуль павінен быў прывезці солі. Лукаш Шульга даўно ўжо меў справу з Зусем. Ён яму заўсёды

прадаваў тыя гарцы, якія збіраў за памол у ветраку, і хто-небудзь з рагазінцаў вазіў муку ў Мазыр ці ў Рэчыцу. Раней дык ахвотнікаў было столькі, што маглі пабіцца за гэты заработак. А цяпер час быў неспакойны, і кожны пабойваўся ехаць у вялікую дарогу. Зусь угаварыў майго бацьку, паабяцаўшы яму заплаціць па пуду мукі і солі. А ў нашым засеку мукі было, можа, на якое адно ці, самае большае, два печывы, а солі дык менш за фунт. І бацька згадзіўся. Яму не ўпершыню даводзілася ездзіць у Мазыр. Яшчэ летась бацька мне расказваў пра Юравіцкую гару.

— Гэта ж такая гара,— казаў ён,— што мо каб пусціў з яе воз без каня, дык ён бы сам бег, можа б, якіх вярстоў з дзесяць.

Мне хацелася хоць адным вокам зірнуць на тую гару, і я папрасіўся ў бацькі, калі ён будзе ехаць у фуры, каб узяў мяне з сабою.

— Яшчэ наездзішся за свой век,— адказаў мне бацька і працягваў далей сваё апавяданне пра Юравіцкую гару:

— А як калясьмі з'язджаць з тае гары, дык абавязкова трэба ў спіцы задніх колаў дручок які ўшчаміць, каб яны не каціліся, і нарытнікі на каня надзець... А то як папрэ воз з гары, дык хамут каню аж на вушы лезе і можа задушыць яго.

Юравіцкая гара! Вядома, яна ўжо і не такая вялікая, тая гара. Я пасля бачыў яе на свае вочы. Для таго, хто быў дзе ў горных краях, дык яна зусім і не гара, а ўзгорак. Аднак дручок у заднія колы трэба было сапраўды ўстаўляць, каб яны не круціліся і хоць крыху тармазілі ход, бо спуск быў-такі крутаваты... Трэба было і нарытнікі на каня надзяваць.

І цяпер, перад тым як ехаць, бацька схадзіў да Лукаша і папрасіў пазычыць яму раменныя, з медзянымі блішчастымі бляхамі нарытнікі. Аж конь наш у іх нібы памаладзеў. Ён выглядаў нейкім шустрэйшым, нібы стаеннік дзеда Трыфана.

Але чаго бацька так доўга забавіўся ў дарозе? Нават дзед, седзячы на печы, пачаў ужо непакоіцца:

— Дзе ж гэта Васіль наш? — звяртаўся ён як бы сам да сябе.— Каб хоць якога няшчасця не здарылася.

А я ўжо разы са два бегаў на шлях глядзець, ці не едзе бацька. Толькі наша новая маці Вара была нават спакайнейшая, як заўсёды. Я думаў, што яна хоць трохі любіць і шануе нашага тату. Дык не, мабыць. Бо чаго ж то яна ўчора ўвечары, калі ў нашу хату на вячоркі папрыходзілі

з кудзелямі жанчыны, дастала са свайго куфра загорнутую ў насавічок картку і паказвала яе жанкам.

— Гэта ж во які быў, не тое што Васіль. На яфрэйтара ўжо выйшаў, ды бог не даў яму жыткі, а так бы я з ім жыла прыпяваючы,— гаварыла Вара.

Падкладваючы на пасвет лучніка лучыну, я чуў словы мачыхі, і мне закарцела хоць адным вокам зірнуць, што там за ён. Жанчыны паадыходзілі ад сваіх кудзеляў і разглядалі на стале фатаграфічную картку. Потым яны паселі зноў прасці, а картка засталася ляжаць на настольніку. Мачыха нечага выйшла ў сенцы, і я хуценька кінуўся да стала. На картцы стаяў высокага росту мужчына. Ён быў у вайсковай без казырка шапцы з кукардаю, а пры правым баку вісела шабля з кутасом. Мундзір зашпілены на бліпчастыя з арлом гузікі, а на пагонах віднеліся яфрэйтарскія лычкі... Мужчына сапраўды паглядны. Але я на яго злаваў, бо любіў свайго тату, і мне рабілася шкада яго, хоць я яшчэ і не зусім разумеў чалавечыя пачуцці. Мне хацелася схапіць гэтую ненавісную картку і кінуць яе на пасвет лучніка, няхай бы яна попелам стала і дымам пайшла ў комін. Але бразнула клямка, і я хуценька пабег на сваё месца. Цётка Тэкля, якая сядзела бліжэй да лучніка, пагладзіла мяне рукой па галаве, сказаўшы:

— Сіроткі, небаракі мае...

Добрая была цётка Тэкля, Яўхімкава маці. Калі я прыходзіў да Яўхімкі, яна часцяком мяне частавала гарбузікамі ці драбком цукру. Я яе любіў за гэта і за шчырую ласкавасць душы. А мне ж гэтага цяпер ой як не хапала.

Бацька прыехаў на пяты дзень. Ён увесь гарэў як у агні. Вось што здарылася з ім. У Мазыр ён даехаў добра, здаў там, каму трэба было, муку, пераначаваў, наклаў поўны воз солі і на світанні выехаў у дарогу назад. Ад'ехаўшы ад Мазыра, у адной вёсцы дачуўся, што ў Юравічах нейкая банда рабуе ўсіх, хто едзе дарогай. Пабаяўся бацька, што бандыты забяруць Зусеву соль, распытаў у людзей другую дарогу і паехаў па ёй, хоць яна была ў раза паўтара кружнейшаю... Бацька падумаў сабе: калі мо і няпраўда пра тых бандытаў, дык ён абміне Юравіцкую гару і спакайнейшы будзе за каня, напэўна, не скалечыць яго, бо не трэба будзе спускацца с гары. Амаль палавіну дарогі ехалася добра. Конь ішоў лёгка, бо дарога была ўкоўзаная, і палоззе саней амаль само бегла, нават воз напіраў аглоблямі на каня. Бацька здаволены быў, што пазычыў нарытнікі ў Лукаша... Але пад вечар заха-

дзілася завіруха, ды гэтакая, што свету белага не відаць стала. Бацька ўжо спадзяваўся толькі на каня, што ён не саб'ецца з дарогі. Наш конь быў такі, што з тае дарогі, па якой ён ужо хоць раз прайшоў, ніколі не збіваўся. Гэтая ж дарога незнаёмая была ні бацьку, ні каню, аднак мелася надзея, што конь сам выйдзе куды-небудзь да чалавечага жытла. І ён бы выйшаў, каб не здарылася вось што. Цераз балотца працякала рачулка. Усё было замецена, занесена снегам. Воз уз'ехаў на лёд рачулкі, конь, захропшы, спыніўся. Бацька тузануў за лейцы, крыкнуў: «Но, каб цябе ваўкі не елі» — і секануў пугаю. Конь скочыў і абваліўся заднімі нагамі ў ваду. Аднак, сабраўшыся з сілай, неяк выбіўся на лёд, а сані з кладдзю трапілі ў ваду. Бацька хацеў саскочыць з воза на лёд, але не дасігнуў і трапіў таксама ў палонку... Ледзьве ўдалося яму самому выбавіцца з гэтага няшчасця. Хоць і сам быў мокры, хуценька абсек гужы і выпраг каня. Воз застаўся ў палонцы. Добра, што вада была неглыбокая і кладзь не пайшла пад лёд. На шчасце, бацька заўважыў непадалёк ад рачулкі цьмянае святло ў вокнах хаты і, ведучы каня за повад, пайшоў наўпрасткі на той агонь, як на ратунак.

Людзі былі добрыя. Яны далі чалавеку абсушыцца. Паставілі ў хлеў каня, якога вельмі калаціла ад холаду, бо таксама быў увесь мокры. На раніцу сабраліся мужчыны і выцяглі з палонкі на лёд воз з соллю. Кладзь, вядома, падмачылася. Бацька спадзяваўся толькі на тое, што соль за дарогу замерзне і Зусь не заўважыць, што яна мокрая. Два дні адхайвалі бацьку чужыя людзі, пакуль не высахла яго адзенне. А потым толькі ён выехаў дадому. Аднак бацьку не прайшло ўсё гэта дарма: дома пачало калаціць, паліць нутро, як агнём. Ён нават не мог ужо сам завезці Зусю ў Верамеевічы воз з соллю і сказаў мне, каб гэта зрабіў я.

Зусь сустрэў мяне не вельмі ветла:

— А чаму гэта сам Васіль не прывёз? Можа, ужо солі сабе нагроб, дык пабаяўся.

«Каб ужо цябе ў зямлю загрэблі»,— падумаў я, але сказаў іншае:

— Захварэў тата, ляжыць, як у агні, з-за гэтай солі.

Пра тое, што бацька ўваліўся з возам у ваду, баючыся, каб Зусь не даведаўся, што соль мокрая, я не сказаў.

— Дык мы ж удвух з табою не пасцягваем гэтых мяхоў.

— Можа, як і пасцягваем.

— Бяры за чубок, а я за ражкі,— загадаў Зусь і сам узлез на воз.

Як мы ні браліся — я за чубок, а Зусь за ражкі,— мы ледзьве толькі скранулі мех з месца, а несці яго ні ў мяне, ні ў Зуся не хапала сілы.

— Ты паглядзі тут, каб ніхто ў краму не заходзіў, а я збегаю ды пазаву людзей.

Неўзабаве прыйшлі два дзядзькі, шыракаплечыя, дужыя. Яны ставілі кожны мех на папа, браліся адной рукою за ражкі, валілі на сашчэпленыя рукі і гэтак ужо неслі ў краму, клалі на вагі, і Зусь узважваў. Ён, відаць, хацеў даведацца, ці не ўкраў бацька солі. Аднак, калі ўсе мяшкі былі ўзважаны, соль аказалася яшчэ лішняя. Зусь нават узрадаваўся, але калі развязаў мех і ўбачыў, што соль чорная і мокрая, ашалеў:

— Мабыць, па якому вядру ў мех вады ўлілі,— закрычаў крамнік.— Я гэтага не дарую. Во возьме ён у мяне платы,— і Зусь паказаў дулю. Дзядзькі, якія зносілі мяхі, моўчкі глядзелі на Зуся, не разумеючы, чаго ён раскіпеўся. Яны чакалі платы за работу. Зусь гэта заўважыў, падаў ім па пачку карашкоў, па жмені цукерак, і яны пайшлі.

— Я яшчэ ў суд падам за тое, што ён мне соль сапсаваў,— абураўся Зусь.

— Ніхто тае вашай солі не псаваў. Тата ўваліўся з возам у рэчку, дык ліхаманка калоціць яго. Можа, з-за гэтае вашае солі ён і не вычуняе,— адкрыў я Зусю таямніцу.

— Як уваліўся? — памякчэў ужо Зусь.

— Пад лёд праваліўся, от як. У завіруху.

— Божачка мой! — усклікнуў Зусь.

Я думаў, што ён паспачувае бацькаваму гору, аддасць мне пуд мукі і пуд солі, а можа, яшчэ і мне дасць хоць адну цукерку. Зусь доўга нешта думаў і нарэшце прамовіў:

— Дык вось што: давай мех, я ўсыплю мукі, а солі ён у мяне во возьме,— і Зусь зноў паказаў дулю.— Трэба было глядзець, куды ён едзе.

Я вывернуў мех і падаў Зусю. Ён насыпаў мукі і, зважыўшы яе на шалях, сказаў мне:

— Глядзі, які пуд, яшчэ з паходам. Добры пуд, няма чаго казаць. Я ж не такі, як твой бацька, мот...

Я зусім узлаваўся на чортавага гандляра і крыкнуў:

— Аддайце плату. Гэта вам не стары рэжым. Цяпер нельга людзей ашукваць.

— Я і не ашукваю. Калі я каго ашукаў, дык няхай мне рукі паадсыхаюць! — залямантаваў крамнік.

Я гэтак і паехаў без солі дадому, шкадуючы, што не нагроб яе якіх пуды два. Усё адно яе лішняе колькі было...

А бацька ўсё гарэў, аж два тыдні не ўставаў з пасцелі. Я ўжо спалохаўся, думаў, што бацька памрэ гэтак жа, як і маці. Крыўдна мне вельмі было глядзець на тое, што бацькава хвароба як бы і не трывожыла мачыху. Яна, як заўсёды, выходзіла з хаты на цэлыя вечары прасці кудзелю. Толькі я не адыходзіў ад бацькі. Калі ён трохі папраўіўся, мне вельмі карцела расказаць пра тое, што я чуў тады, як сядзела ў нас на вячорках цётка Тэкля. Дастаць з куфра і паказаць картку, якая там хаваецца. Але на куфры вісеў замок, і нельга было ў яго ўлезці. Ды і расказаць пра ўсё гэта я не адважыўся, баючыся, каб бацьку не стала горш.

Ні на гэтую, ні на другую зіму я ў школу не пайшоў. Улетку на наш край навaліліся белапалякі. У нашым Рагазіне вайны ніякай не чуваць было. Хіба што на могілках паклекатаў трохі, як бусел, кулямёт. З гармат тут нідзе не стралялі — у Верамеевічах чырвонае войска не стаяла, і белапалякам не было з кім біцца. Вайну мы бачылі толькі ў тым, што па нашай аслупаванай грэблі цэлыя тры дні ішлі абозы. Яны павыбівалі гэтакія калдобіны, што нам нельга было і ездзіць. Лукаш Шульга, якога палякі паставілі за солтыса, усіх рагазінцаў конна і пеша выганяў рамантаваць грэблю...

Польскія жаўнеры, як тая пошасць, наязджалі амаль кожны дзень у Рагазін, хадзілі па хатах, лавілі курэй, стралялі з пісталетаў япрукоў і ўсю гэтую пажыву звозілі ў Пуцілавіцкі фальварак, гаспадар якога, Кербіч, вярнуўся разам з войскам пана Пілсудскага, і там наладжвалі балігулі... Амаль аж да самай раніцы заходзіліся ў панскім палацы музыкі, балявалі, весяліліся паны.

Дзядзька Пракоп недзе знік. Як я ні стараўся ўведаць, дзе ён, ніяк не мог напасці на яго след. А ў нашым Рагазіне дык немаведама што рабілася. Белапалякі павыграбалі з усіх засекаў збажыну, пазабіралі добрых коней. І амаль кожны дзень прыязджалі па япрукоў і кароў на жаўнерскую кухню. Аднаго разу вось што было: да дзядзькі Міхаля прыйшлі чатыры жаўнеры з прымкнутымі да вінтовак штыкамі, падобнымі на кінжалы. Яны параліся ў хаце, перакалацілі ўсе куфры, забралі ўсё, што было лепшае. Але таго, чаго шукалі, не знаходзілі ні ў хляве, ні

ў свіронку. А яны шукалі япрука. Добры, адгадаваны быў япрук у дзядзькі Міхаля. Ён яго перад тым, як прыехаць жаўнерам, завёў у гумно і схаваў у застаронак саломы. Перакалаціўшы ўсё ў двары, жаўнеры пайшлі ў гумно. Яны, відаць, добра ведалі, што ў Міхаля ёсць япрук. Мусіць, солтыс Лукаш падказаў, бо інакш адкуль бы ім ведаць. Як толькі ўвайшлі жаўнеры ў гумно, япрук як на тое ліха зарохкаў, і ўзрадаваныя жаўнеры кінуліся штыкамі разграбаць салому. Але дзядзька Міхаль схапіў жалезныя вілы і крыкнуў:

— Людзі добрыя, ратуйце!

Адзін жаўнер кінуўся на Міхаля са штыком, але ўбачыў, што ў варотах стаяў цэлы натоўп.

— Ірады, гады печаныя, не чапайце чалавека! — крычалі мужчыны.

Жаўнеры, відаць, збаяліся разгневаных людзей, пакінулі свой занятак і ўцяклі з вёскі. На другі дзень прыехаў цэлы конны атрад па дзядзьку Міхаля, аднак яго ўжо не было дома. Не было і япрука. У шалёнай злосці афіцэр загадаў падпаліць гумно. Яно згарэла, як свечка, сярод белага дня. Афіцэр кінуўся быў падпальваць і хату дзядзькі Міхаля, але жанчыны пападалі на калені і пачалі прасіць яго, каб не падпальваў, а то агонь як укінецца, дык выгаліць усю вёску. Пачаў прасіць і солтыс Лукаш Шульга, бо яго хата стаяла побач з Міхалёвай — раздзяляў іх толькі Лукашоў сад. Можа б, той сад і не пусціў агню на Лукашову хату, дык хлявы ж Лукашовы і Міхалёвы стаялі страха ў страху, і там ужо, хоць бы і рад агонь не зачапіцца за Лукашову страху, дык яму ніяк нельга было ўтрываць. Лукаш аддаў афіцэру свайго добрага япручка, і той улагодзіўся. Міхалёва хата, а з ёю, можа, і ўвесь Рагазін на гэты раз уцалелі ад агню.

Аднак гэтая калатнеча была ў вёсцы не першая і не апошняя. Дайшла чарга і да нашай каровы. У нас ніхто не плакаў. Бацька, як павялі карову, пайшоў яшчэ следам за ёю, а я стаяў, апусціўшы вочы, і думаў... Каб жаўнеры, якія бралі нашу карову, тое з'елі, што я думаў, дык нядоўга пратрывалі б на белым свеце. А мачыха дык нават не выйшла з хаты, нібы ёй не шкада было каровы.

Бацька з болем у душы неяк сказаў мне з Насцечкай:

— Можа б, вы, дзеткі, пайшлі ды пагасцявалі ў дзеда. Там ёсць сякі-такі скорам. А ў нас і зубамі няма за што зачапіць.

У нядзелю з самага ранку я ўзяў за руку Насцечку і памалу павёў дарогаю на Багульнікі. Як толькі мы ўвайшлі ў хату, дзед Трыфан зірнуў на нас і сказаў:

— Госці з галоднага краю прыйшлі... Можа, бацька ўжо ў жабракі паслаў?

— Не, мы ў госці прыйшлі,— адказаў я дзеду не тое, што думаў.

— Дык сядайце, калі ў госці, ды будзьце гасцямі.

Бабка Ганна забегалася, відаць шукаючы, чаго нам пад'есці. А я разглядаў хату, нібы прыйшоў у яе ўпершыню. Было тут нешта новае. Па левы бок ад абразоў, над невялікім люстэркам, прымацаваным да сцяны, над фатаграфіямі, сярод якіх я пазнаў дзядзьку Паўла, вісеў нечы партрэт. Там калісь быў цараў партрэт. А цяпер чый вісеў, дык я і не ведаў. Дзед заўважыў маю цікавасць і адразу ж запытаў:

— Ты, мусіць, не ведаеш, хто гэта?

— Не ведаю.

— Гэта пан Пілсудскі. Наш збавіцель ад бальшавікоў.

Дзед, можа, і заўважыў, што мой твар перасмыкнуўся ад злосці, бо адразу пачаў тлумачыць ці то мне, ці то сам сабе:

— Гэты хоць і не нашай праваслаўнай веры, але ўсётакі бога ў душы мае. А тыя хрыстапрадаўцы ўсё на свеце касуюць — і цара і бога. Дык навошта яны нам?

Тым часам бабка Ганна ставіла на стол снеданне. Яно было добрае: яешня з рудаватымі падсмажанымі скваркамі, булка і па конаўцы малака... У мяне аж слінкі пацяклі. Аднак я, нават не паснедаўшы, збег бы з хаты пасля таго, што пачуў ад дзеда Трыфана.

Бабка Ганна нас пасадзіла за стол, вядома, пасля таго, як мы перахрысціліся і пашапталі малітву... Я дык сам не ведаю, што шаптаў: лаяў у думках польскіх жаўнераў, якія забралі нашу карову, дзеда Трыфана з яго новым царком Пілсудскім.

Паснедаўшы, я ўстаў з-за стала, перахрысціўся, падзякаваў богу, што насыціў нас з Насцечкай, і сказаў дзеду:

— Дык я толькі Насцечку прывёў, няхай яна пагасцюе ў вас, а мне тата сказаў, каб я дахаты прыйшоў.

— Няпраўда,— збіралася вымавіць Насцечка, але я на яе ўпотай цыкнуў, і яна змоўкла.

— Можа, ужо няньчыць брата ці сястру якую? — спытаў з адценнем іроніі дзед Трыфан.— Матка ж грубая ходзіць. Бачыў надоечы яе ў Верамеевічах...

— Не, нешта рабіць там трэба,— адказаў я і заспяшаўся са зборамі. А мачыха і сапраўды вось-вось павінна была нарадзіць нам з Насцечкай брата ці сястрычку...

Жаўнеры нядоўга адзержаліся ў нашым краі. Ішла пагалоска ўжо, што чырвонае войска недзе каля Лоева пераправілася цераз Дняпро і турыла жаўнераў гэтак, што аж пяткі іх бліскалі. Ды гэта мы і самі бачылі. З Пуцілавіцкага маёнтка спяшаўся выехаць пан Кербіч, а па нашай грэблі цягнуўся зноў абоз, але толькі ўжо не на Верамеевічы, а назад. Зрэдку даносіўся глухі стогн... Здавалася, сама зямля ўздыхала, стагнала. Мужчыны, што былі на вайне, казалі, што гэта білі гарматы.

Я пабег да Яўхімкі... Мне карцела чым-небудзь адпомсціць пану Кербічу і яго тым пастаяльцам, якія забралі і зжэрлі нашу карову. Увечары Яўхімка знайшоў у зашыйку печы пачак запалак, і мы з ім употай пайшлі па гарбатым мастку цераз Рагазінку на Пуцілавік. А як добра ўцямнела, мы пусцілі маленькі бліскучы язычок агню пад страху Кербічавай аборы, і ён так разгуляўся, што нават у Рагазіне было светла, хоць ты іголкі збірай...

Наша Рагазінка — невялікая рачулка. Яна цячэ па лагчыне, аддзяляючы зямлю рагазінцаў ад Кербічавай, потым паварочвае направа і ўжо дзеліць напал балота паміж Рагазінам і Верамеевічамі, бяжыць пад мост на грэблі, а затым бярэцца ўлева, акружае Верамеевічы і там ужо, на балоце, шырэе і дабягае да Малеек трыма шырокімі рукавамі. Два крайнія рукавы перамошчаны насыпанай грэбляй, пад якую прапушчаны трубы, а сярэдні рукаў — гэта значыць самую Рагазінку — ніяк нельга было загнаць у трубу, дык там ужо за бацькавай памяццю пабудавалі добры мост, з высокімі парэнчамі, на мураваных быках. З усходу да Рагазінкі клінам падступаў лес. Не тое каб сказаць добры лес. Не! Так сабе — чарналессе. Мы туды з бацькам ездзілі ўлетку ставіць шуркі дроў, і я трохі ведаў гэты лес. А дзядзька Пракоп дык той добра ведаў яго, бо з малых год рос без бацькі і сам нарыхтоўваў і вазіў дровы.

Перад тым як польскаму войску трэба было перайсці цераз мост, грымнуў страшэнны выбух, і ад моста засталіся толькі адны мураваныя быкі. Дзядзька Пракоп падаў каманду:

— Агонь!

Застракаталі партызанскія кулямёты, забухалі вінтоўкі і нават абрэзы, паляўнічыя бярданкі і дубальтоўкі. Адным

словам, уся тая зброя, якая знайшлася ў людзей, каб бараніць жыццё ад брыдкай панскай пошасці.

Дзядзька Пракоп вярнуўся ў Рагазін, калі ўжо белапалякаў і след прастыў. Ён расказваў бацьку:

— Разведчыкі нашы данеслі, што цалякі цераз мост будуць адступаць. Дык мы ім далі пытлю. Абоз увесь адбілі і сялянам аддалі ўсё тое, што гады нарабавалі... А жаўнераў налажылі перад тым мостам — як дроў, хоць ты ў шуркі іх складвай.

Раптам дзядзька Пракоп пасур'ёзнеў, твар яго пасуровеў, і ён з крыўдай у голасе прамовіў:

— Не давялося от толькі Міхалю дажыць да гэтага шчаснага дня. Небарака, тады ўратаваўся ад смерці, дык цяпер галаву злажыў...

У вёсцы ніхто не ведаў, куды пасля таго, калі адбіў ад жаўнераў свайго япрука, дзяваўся дзядзька Міхаль. І толькі цяпер, калі вярнуўся з партызанаў Пракоп, рагазінцы даведаліся, што Міхаль загінуў смерцю храбрых у барацьбе з белапольскімі акупантамі ля Малейкаўскага моста. Там яго і пахавалі ля скрыжавання дарог. Дзядзька Пракоп казаў: калі ўсё ўціхамірыцца, дык ён паклапоціцца, каб паставіць помнік Міхалю Стрыжаку... Няхай не толькі цяперашнія, а і людзі будучага ведаюць, хто такі быў Міхаль Стрыжак.

У нашай хаце пасля Пракопавых расказаў пра смерць дзядзькі Міхаля ўсталявалася нейкая маўклівая хвіліна смутку. Адно толькі бацька парушыў гэтую сумную маўклівасць:

— Добры чалавек быў, вечная памяць яму.

— Ды і я не ўратаваўся ад бяды,— перайшоўшы на другі, крыху жартоўны тон, сказаў Пракоп.

— Ад якое? — спытаў спалохана бацька.

— А хіба ты не бачыш? Мне ж вунь нагу прастрэлілі,— дзядзька Пракоп нагнуўся і паляпаў рукой па дзеравяшцы ніжэй калена.— Добра, што не сваю, а тую, якую цар мне даў за добрую службу на вайне.

Бацька з Пракопам ціха зарагаталі. А я на іх глядзеў і думаў, сказаць мне ці не пра тое, як мы з Яўхімкам пусцілі агонь у Кербічаў маёнтак. Нарэшце вырашыўшы, што дзядзька Пракоп і бацька пахваляць мяне за такі, як мне здавалася, геройскі ўчынак, я сказаў:

— Дык і мы тут не сядзелі ў запечку склаўшы рукі. Гэта ж мы з Яўхімкам падпалілі Кербічаў маёнтак.

Дзядзька Пракоп на момант задумаўся, а потым сказаў:

— А дарма вы, малеча, падпалілі... У палацах школа добрая была б. Ды ліха з ім — дзе п'юць, там і льюць,— заключыў дзядзька.— Мы яшчэ такіх школ наставім, што лепшыя будуць за Кербічавага палаца.

Дзядзька радасна ўсміхнуўся, на штрыфлі яго новага пінжака, як жывы, затрапятаў, закалыхаўся чырвоны бантік. А ў нашай хаце вісела ўжо, зачэпленая за даўно ўбітае ў бэльку ржавае долата, старая лубяная калыска. І ў ёй кугакаў новы чалавек.

## НЕЧАКАНЫ ПАДАРУНАК

Калі чалавек нарадзіўся на белы свет, дык трэба ж для яго шукаць месца не толькі ў хаце, каб павесіць калыску, але каб ён меў, як вырасце, і паласу поля, і хату сваю. Аднак я яшчэ нічога не расказаў пра нашу хату, пра тую хату, у якой знайшлося месца маленькаму братку Алесю. Хата наша цікавая. Калі глядзіш на яе знадворку, дык яна як бы прысела на левы ад вуліцы вугал. Два невялічкія акенцы глядзяць у двор і адно, гэткае ж падслепаватае,— на вуліцу. Дзве шыбіны заткнуты нейкай старой непатрэбшчынай. Бацька перад сваім другім вяселлем хацеў агарэць дзе шкла ды ўставіць шыбіны, дык нешта грошай не выстачыла, то шыбы так і засталіся заткнутымі. Мне часам карцела адаткнуць шыбіны і паглядзець, чаго там напхана, бо яны ніколі не вымаліся з акна. Аднаго разу, калі я хацеў адаткнуць, дзед на мяне гэтак цыкнуў, што ў мяне і ахвота адпала.

Бярвенне ў нашай хаце, вядома, было не такое, як у Лукашовай. У той, як сонца добра прыпячэ, дык аж смала, нібы той пот у чалавека, выступіць. А ў нашай хаце сцены заўсёды былі сухія знадворку, і калі па іх ці абушком сякеры ці малатком пастукаць, дык яны не звіняць, як Лукашовы, а нема енчаць, як бы стогнуць ад болю. Дзед кажа, што гэта ўжо бярвенне ўсярэдзіне сапрэла на парахню. Ды хіба дзіва, асіна ды алешына! Адно што знадворку трымаецца абалонка, дык усяго тае і красы. Праўда, падваліны ў хаце яшчэ трываюць, бо яны дубовыя. Але вось штандара пад левым вуглом ад вуліцы, мусіць такі згніла. Дзед цяпер сябе часта дакарае, што тады, як ставілі хату яны з бацькам, гэта значыць з маім прадзедам Пілінам, не пашукалі лепшага, таўшчэйшага дуба на штандару. Вакол

усёй хаты насыпана прызба. Ды не абы-якая прызба. Гады са два назад мы з бацькам паехалі за Рагазінку на балота — там расла лаза, насеклі яе добры воз і апплялі невысокім плоцікам прызбу. Цяпер кожную восень не трэба насыпаць новую, а толькі падбіць дзяржанкаю рыдлёўкі пад падваліны кастрыцу, прысыпаць зверху зямлёю, і холад ужо не прадзярэцца пад падлогу. Гэтую работу я сам рабіў. Яна мне нават падабалася.

Удоўжкі наша хата была, можа, якіх крокаў сем ці восем і ўшыркі крокаў пяць ці шэсць. Па правую руку ад дзвярэй была прыбіта паліца. Бацька сам зрабіў яе. Абгабляваў дзве тоўстыя дошкі, уверсе пілкай закругліў іх, прапраразаў па тры папярочныя пазы, упусціў у іх абгабляваныя шалёўчыны і прыбіў усё гэта да сцяны. Дык цяпер і добра — увесь посуд там стаіць: дзве паліваныя міскі, гладышак штук са тры, дзеравяныя лыжкі, на кожнага па адной, і яшчэ штукі тры ў запас — на ўсякі выпадак, калі госць які здарыцца. Я ледзь не забыў: яшчэ ж ляжыць дагары дном белы парцалянавы палумісак. Гэта, можна сказаць, наш хатні гонар. На дне яго нават пячатка нейкая відаць — зеленаватыя расплыўчатыя літары. Колькі я ні намагаўся прачытаць, што там на той пячатцы напісана, мне не ўдалося разабраць. З палуміска мы елі хіба толькі на святы ды калі ў хаце былі госці. А з тае прычыны, што ў нашай хаце гасцей было не вельмі густа, дык палумісак рэдка калі і на стол ставіўся. Да нядаўняга часу паліца нічым не закрывалася, і толькі як у хату прыйшла новая гаспадыня, яна завесіла яе чырвонай у сінія кветкі крамнінаю. Ад гэтага аж неяк у хаце папрыгажэла. У куце пад паліцаю заўсёды стаяў цэбар з мякінаю карове. Нават і тады, калі карову нашу забралі жаўнеры, і то цэбра не выносілі ў сенцы. Пад самаю паліцаю, ля сцяны на ўслончыку, стаіць дзеравянае вядро з вадою. Вочап на ім звіты з ліповага лыка, а з тае прычыны, што ён заўсёды мокры, доўга і трывае. Дно ў вядры нейкае зеленаватае — на ім нарасла быццам слізь. Аднаго разу я сказаў бацьку:

— Можа, мне пачысціць гэта вядро ад слізі?

Ён адказаў мне:

— Не чапай. З гэтай слízзю вада смачнейшая.

Хто яго ведае, можа, і сапраўды смачнейшая?

А пра наш карэц, які вісіць на калочку над вядром, можна расказаць цэлую гісторыю. У нас не абы-які карэц, а з медзі. Возьмеш яго ў рукі і адчуеш, што сапраўды нейкую рэч добрую ўзяў. Калі наступала наша чырвонае

войска, бацька ездзіў у абоз. Недзе пад Мазыром яны падвозілі амаль да самых гармат снарады, а адтуль бралі стрэляныя гільзы. Уведаўшы, што абознікаў павінны пусціць дадому, бацька адну стрэляную гільзу схаваў пад сена і прывёз дадому. Доўга ён мудрагеліў, што з яе можна зрабіць, а потым занёс да дзядзькі Ціхона, і той сказаў, што выйдзе добры карэц, толькі трэба адпілаваць, запаяць вовам дзюрачкі ад капсуля і прыпаяць ручку. Ён гэтак і зрабіў. І вось з таго часу мы маем добры карэц, якога хопіць не толькі на бацькаў век, а, магчыма, і на век яго дзяцей.

Нельга ж абмінуць увагай і нашу лаву, бо яна з'яўляецца тым прадметам, якім, можа, усё жыццё ганарыцца дзед. Лава наша шырокая, так што на ёй можна не толькі сядзець, а і спаць; тоўстая, на шырыню маёй далоні. У ёй пракручаны тры дзюрачкі. Калі жанчыны прыходзяць да нас на попрадкі ці на вячоркі, дык яны ўтыркаюць свае прасніцы. Лава гэтак адпаліравана доўгім сядзеннем на ёй, што аж блішчыць, нібы яна лакам акрыта. Дзед часта расказвае, як яны са сваім меншым братам Гаўрылам, які цяпер жыве асобна ад нас на другім пляцы, абвалілі ў лесе сасну, што ўдвух ледзьве рукамі абхватвалі, адпілавалі ад яе ладны кругляк, раскалолі напал, і кожны вычасаў сабе па лаве. Вяршаліна сасны ды абколкі пайшлі на іншыя гаспадарчыя патрэбы ды на дровы. Пра наш стол, вядома, добрага слова нельга сказаць, бо ён, калі абапрэшся на яго локцямі, так зарыпіць, што хоць ты вушы затыкай. Бацька ўжо думае, як агарадзіць сабе другі. А пакуль што і гэты добры. Засланы новым саматканым настольнікам, ён мае прыстойны выгляд. Раней пад настольнікам у нас звычайна ляжаў акрайчык хлеба... Цяпер мачыха хавае яго на самую высокую паліцу. Можа, і добра, што яна так робіць. А то ж такая спакуса ляжала. Пабегаеш па двары, паходзіш па хаце і, калі няма нікога, падыдзеш дый ушчыкнеш крошачку хлеба. А ён жа такі смачны. Ды каб хоць я адзін шчыкаў, а то ж і Насцечка следам за мною. Дык як садзімся абедаць, то ад таго акрайчыка толькі скарынка адна і ляжыць. Бацька звычайна злосна бліснe вачыма, а мачыха залямантуе:

— А божачка мой, што гэта дзеецца з гэтаю прорваю ненасытнаю.

А так цяпер хоць спакойна абедаем. На паліцу ж кожны раз не палезеш адшчыкваць.

Хіба мо каму цікава будзе ўведаць і пра нашы абразы.

Да бацькавага вяселля ў нас быў адзін абраз: ён пад ручнікамі займаў увесь кут. Абраз той — шырокая драўляная дошка, на якой немаведама што намалявана — ці Ісус Хрыстос, ці матка боская. Адно пазалочаны венчык над галавою выразна відаць, а астатняе ўсё зліняла ад часу. Нават дзед не помніць, калі абраз купляўся. Ён і вісеў у нас так, для прыліку, бо на яго не дужа хто ўглядаўся. Цяпер у нас два абразы — матку боскую прынесла з сабою мачыха. Гэта сапраўдны абраз — ён пад шклом. На ім выразна відаць дзева Марыя з маленькім хлопчыкам Ісусам на руках. Вакол галавы яе венчык не намаляваны, а зроблены з нейкай пазалоты. Мачыха ганарыцца сваім абразом, і калі моліцца, дык толькі на яго. Яна і ручнікі лепшыя на яго вешае.

Паміж палацямі і сталом стаяць два куфры. Яны як бы і падобны адзін на другі. Але куфар маёй нябожчыцы маці мне здаецца лепшым, прыгажэйшым. Ён зроблены з цямнейшай клёпкі, нават з пражылкамі. Далей ужо ідуць нашы палаці. Яны шырокія і доўгія — ад вулічнай сцяны і да прыпека печы. Пры самай вулічнай сцяне складзены падушкі, пакрытыя посцілкаю-віленкаю. Гэтак яе мачыха называе, бо, кажа, яна ткала яе на нейкі ўзор, аж з Вільні прывезены. У той кут і воку прыемна глянуць. А ля самага прыпека навалены ўжо кажух, старыя світкі і нават анучы. Тут, у нагах, упоперак палацяў спіць Насцечка. Далей ідуць дзедавы ўладанні — печ. Пасля таго як яе змуравалі, яна як бы раздалася ўшыркі і заняла амаль паўхаты. У падпечны зімуюць куры, а ўлетку ўвечары заходзіцца цвыркун. Насцечка спачатку баялася цвыркуна, а цяпер асмялела і часта просіць мяне:

— Макарка, лезь пад печ ды злаві мне цвыркуна. Я пагляджу, чым ён цвырчыць.

— Дурненькая ты,— кажу я ёй,— цвыркуна не зловіш. Ён так хаваецца, што не ўгледзіш яго.

Непадалёк ад печы — лучнік і амаль поруч з ім — Алесева лубяная калыска. Вось амаль што і ўсё наша хатняе багацце, калі не лічыць хамута, сядзёлкі і лейцаў, якія вісяць на калку, убітым у вушак дзвярэй з левага боку.

А з тымі, хто жыве ў хаце, я вас пазнаёміў ужо. Хіба толькі што з Алесем не паспеў пазнаёміць... Ён ужо не такі і малы: сам спрабуе ўставаць. Беручыся ручкамі за вяроўчыны, на якіх вісіць калыска, ён, крэкчучы, чырванеючы, сам падымаецца і садзіцца. Мачыха дык струп ужо нагрызла бацьку:

— Ты б, Васіль, стойку дзіцяці зрабіў, няхай падвучваецца стаяць і хадзіць. Не век жа яму седуном сядзець.

Бацька бавіўся са стойкай, і не адзін раз у хаце ўшчыналася сварка з-за яе. А нам з Насцечкай вялікі клопат быў з-за таго, што Алесь сам навучыўся ўжо ўставаць у калысцы. Трэба было пільнаваць кожную хвіліну, каб ён не вываліўся і не бразнуўся на падлогу.

Я, праўду сказаць, Алеся недалюбліваў крышку з-за таго, што ён быў нібы вылітая мачыха. Валасы белыя, як лён, твар прадаўгаваты і нос пасярэдзіне з гарбінкаю. Вушы вялікія-вялікія, хоць ты іх паадкручвай. Але як-ніяк, а ён усё-такі брат, і яго трэба глядзець. Нельга ж яшчэ цалкам даверыцца на Насцечку. Яна сама — горкае дзіця.

Тым часам бацька ўжо зрабіў і стойку. Аднаго разу мы паставілі ў яе Алеся... Я сядзеў і чытаў кніжку, а Насцечка гуляла з нейкай пляшачкаю. Яна падкідвала яе пад столь і лавіла аберуч. Неяк мацней звычайнага шыбанула Насцечка сваю цацку, пляшачка моцна выцялася аб бэльку, адскочыла ад яе і ўцэліла Алесю проста ў лоб. Хлопчык аж зайшоўся, ледзьве мы яго ўціхамірылі. А на лбе сядзеў гузяка. Я спрабаваў яго забяліць крэйдаю, аднак гэта мне не ўдавалася — гузяка выразна сінеў на лбе. Насцечка спалохалася і з плачам зашылася ў кут пад палаці. Я ледзьве яе супакоіў і ўгаварыў, каб яна нічога не баялася, мачыха ўсё роўна не ўведае, хто выцяў Алеся.

Мачыха з попрадак прыйшла пазнавата. Яна адразу скмеціла на Алесевым ілбе гузяку і закрычала сваім крыху гугнявым голасам:

— А божачка мой, дзіця забілі, знявечылі.

— Ніхто яго не знявечыў... Я яго трымаў на руках, дык ён неяк выслізнуўся і выцяўся аб падлогу.

— А каб твае ўжо і рукі паадсыхалі. Такі здаравец, не мог дзіцяці ўтрымаць,— гнеўна наступала на мяне Вара.— Я от цябе навучу, як няньчыць дзяцей... Да сівых валасоў вунь хутка дарасцеш, а ўсё пустадомкам будзеш.— Крычучы і кленучы мяне, мачыха хуценька кінулася да печы, схапіла чапялу і выцяла мяне ўпоперак спіны. І яшчэ замахнулася, каб выцяць, але на гэты раз канец дзяржанкі чапялы трапіў мне ў рукі, і Вара адчула, што нельга больш беспакарана біць мяне, бо ў чапялы два канцы і адзін можа пахадзіць па ёй. Алесь спалохаўся і аж захлынаўся ад крыку. Насцечка захавалася за куфар і там ціхенька плакала. Ёй шкада было мяне.

...Не заўсёды і ў нашай хаце жыццё ішло нудна, сумна,

беспатольна. Праз невялікі час пасля яго, як дзядзька Пракоп вярнуўся з партызанаў у Рагазін, ён прыйшоў да нас і таямніча сказаў бацьку:

— Васіль, збірайся ды пойдзем!

— Куды?

— І не скажу, сам пабачыш. А то, можа, лепш каня запражы,— параіў Пракоп.

Бацька паважаў дзядзьку Пракопа і заўсёды слухаў яго. Тым больш цяпер — Пракопа яшчэ перад прыходам палякаў сяляне выбралі за старшыню камітэта ўзаемнай дапамогі, і ён зараз выконваў свае абавязкі. Бацька хуценька запрог каня, і яны выехалі... Мы ўсе глядзелі ўслед, не разумеючы, у чым справа. Я нават папрасіўся, каб узялі мяне, але Пракоп сказаў, што не трэба... Фурманка ехала праз увесь Рагазін, потым павярнула на грэблю і яшчэ доўга віднелася там. Значыць, яны паехалі ў Верамеевічы. Мы ўжо баяліся, што дзядзька Пракоп паслаў бацьку зноў дзе ў які абоз. І таму ўсе ў хаце з нецярплівасцю чакалі вечара, калі павінен быў вярнуцца бацька.

Сіняватая асенняя смуга неяк адразу пафарбавала наваколле ў цемнаваты колер, і вечар, хоць людзі яго і не прасілі, румнуў у сялянскія хаты. Заблішчалі вокны водсветамі агнёў. А бацькі ўсё не было. Некалькі разоў я выбягаў на вуліцу, думаў, што пабачу, як будзе ехаць бацька, ды так і не ўпільнаваў. Я выбег на двор толькі тады, калі рыпнулі вароты. Дзядзька Пракоп сядзеў на калёсах, паганяў каня, а бацька ішоў пехатою і паганяў...

Ды што гэта? Няўжо гэта праўда? Бацька паганяў дубцом рыжую вялізную карову. Яна была прывязана раменным церассядзёлкам за біла воза. На двор выбегла мачыха, Насцечка, і нават дзед злез з печы. Праўда, ён не выйшаў на двор, але стаяў пры акне і ўслухоўваўся ў радасную гаману...

— Дзе вы яе ўзялі? — пытала мачыха.

— Дзе ні ўзялі, абы не ўкралі,— адказаў радасна бацька.

— Гэта табе не абы-якая карова, а панскага заводу. Шляхетная, можна сказаць, карова, дык ты яе і пільнуй, Вара,— навучаў дзядзька Пракоп.

Мачыха адразу ж збегала па дзёнку і, яшчэ не адвязаўшы каровы ад воза, паспрабавала яе даіць. Але дзядзька Пракоп заспакоіў:

— Дык хіба ты, маладзіца, не бачыш, што яна хутка зусім запусціцца...

Бацька адвязаў ад біла карову, завёў у хлеў і вярнуўся з церассядзёлкам у руках:

— От добра, і церассядзёлак раменны хоць завядзецца, а то ўсё жыццё праездзіў на вераўчаным.

Ужо ў хаце мачыха працадзіла малако, і ўсе пачалі па лыжачцы спрабаваць яго на смак. Малако было тлустае, смачнае, як смятана.

— Карова добрая,— пахваліў жывёліну Пракоп.

— Дык чыя ж гэта? — зноў з нецярплівасцю спытала мачыха.

— Была панская, а цяпер твая, даглядай яе і гадуй дзяцей.

Дзядзька Пракоп расказаў, што ён яшчэ тады, як партызаны адбілі ў жаўнераў нарабаванае дабро, прыкмеціў гэтую карову і паставіў у хлеў малейкаўскага чалавека спецыяльна для нас.

У нашай хаце было весела. Бацька непрыкметна міргнуў вачыма мачысе, і яна на момант знікла, але хутка вярнулася, штосьці прынёсшы пад фартухом. У момант на палучыне перад цялеснікамі была падсмажана яешня. Пачалася рэдкая ў нашай хаце бяседа. Дзядзька Пракоп кульнуў чарак са тры і перавярнуў дагары дном пасудзіну.

— Я ж не піток, як ты ведаеш... Дык і не прыганяй мяне. Усё адно не вазьму больш,— казаў ён бацьку, калі той да яго прыставаў.

— Ды выпі бо, Пракоп... Яна ж як свянцоная вадзіца.

Нават дзеду Яўстрату паднеслі на печ невялікую чарку. Ён крактануў, разгладзіў белую ўжо ад сівізны радкаватую бараду і каўтануў, аж вочы заплюшчыў. Бацька казаў, што дзед калісь здатны быў да чарчыны. Але я яго ніколі не бачыў п'яным.

А дзядзька Пракоп і ад гэтых трох чарак крыху ахмялеў. Вочы яго зрабіліся жвавейшымі, і ён смяяўся нават, як мне здалося, без дай прычыны. А мачыха, успёршыся падбародкам на далоню правай рукі, усё глядзела на дзядзьку Пракопа. Яна не ведала, як і чым яго аддзякаваць, і казала:

— Дзякуй, хоць дзіця будзе малаком грашыцца.

Мне яе словы разанулі вуха: чаму толькі адно дзіця? Хіба Насцечка не дзіця, хіба ёй не хочацца малака? Дзядзька Пракоп гэта таксама заўважыў і знарок падкрэсліў:

— Дык гадуй, Вара, дзяцей малаком. Няхай яны здаровенькімі будуць.

Перад тым як найшло ў хату мужчын, нашы павылазілі ўжо з-за стала. Бацька з мачыхай перахрысціліся на абразы, а дзядзька Пракоп высунуўся з-за стала, падзякаваў за вячэру і ўзяўся гарнуць цыгарку. Дзед гэта заўважыў з печы і запытаў:

— Дык хіба ты, Пракоп, ужо і ў бога зняверыўся?

Пракоп усміхнуўся і адказаў:

— Я ў камуністы паступіў, а мы, камуністы, ні богу ні чорту не верым...

Гэта было навіною для ўсіх, асабліва для мяне.

А мужчыны, схадзіўшы ў хлеў і паглядзеўшы на карову, папрыходзілі ў хату. Яны паселі вакол лучніка, і пачаліся гаворкі. Прыйшоў і Лукаш Шульга. Ён рэдка калі да каго хадзіў. А на гэты раз хто ведае, што яго зацікавіла. Густая каштанавая барада яго была акуратна падстрыжаная. Калі ён скінуў шапку, я ўбачыў венчык роўна падстрыжаных, такіх жа цёмных, як і барада, валасоў. І хоць бы табе адзін сівы быў. У майго бацькі вунь колькі ўжо сівых, а ён жа куды маладзейшы за Лукаша. На твары праз скуру выступаюць чырвоныя кропачкі, як макавіны. Не казаў бы то, чалавек на выгодзе жыве. Дзядзька Пракоп пазіраў на яго скоса, як бы хацеў, каб ён хутчэй выйшаў з хаты. Аднак Лукаш не выходзіў, прымасціўся ля лучніка і сядзеў разам з усімі.

— Дык куды гэта цяпер жыццё наша скіруецца? — хітравата спытаў Лукаш.

— Скіруецца туды, куды яму трэба,— адказаў як бы нехаця Пракоп.

— Гаспадароў, мусіць, у глум пусцяць?..

— Можа, каторых і ў глум пусцяць... А ад каторых ветракі паадбіраюць,— намякнуў Пракоп.

— А хіба ж яны іх нажывалі, што будуць адбіраць?

На гэтым размова паміж Лукашом і дзядзькам Пракопам скончылася, бо дзядзька Пракоп, відаць, не хацеў лезці ў большае. Яму карцела нешта іншае, і ён звярнуўся да дзеда Яўстрата:

— Дзед Яўстрат,— крыкнуў ён, каб дзед пачуў,— раскажы, як ты Зуся мёд еў...

Той усміхнуўся сваёй старэчаю ўсмешкай, пакрактаў у сівую бараду і пачаў расказваць. Яму, відаць, падабалася расказваць пра гэтае здарэнне, бо яно сведчыла пра яго кемлівасць, знаходлівасць.

— ...Было гэта ў вялікі пост,— пакашліваючы, цягнуў дзед...— Пайшоў я на споведзь у Верамеевічы. Звечара ж

у роце і макавага зярняці не было. І на другі дзень да прычасця трэба было галадаваць...

— Значыцца, добра вычухаўся, дзед,— рагатаў, ужо загадзя прадчуваючы смешнае, дзядзька Ракоп.

— ...Дык я ўзяў, заткнуў пад крысо світкі акрайчык хлеба. Акурат у той пост ні алею, ні тараноў не вялося. Пастаяў у царкве, памаліўся, каўтануў лыжачку салодкага прычасця. І гэтак мне захацелася салодкага. З царквы я пайшоў на рынак. Бачу — Зусева крама адчынена. Я надумаў чаго-небудзь напавер узяць у Зуся. Зайшоў, гляджу — пасярод крамы бочка з бураковым мёдам стаіць. А Зусь у мяне і пытае: «Можа, ты чаго хочаш купіць, братка Яўстратка?» — «Ды яно чаму б і не купіць, але грошы кішэні не муляць»,— адказваю яму. «О, вялікае гора. Я і напавер дам! Хіба я цябе не ведаю?»

А мяне цягне да тае бочкі. Я ўпёрся на беражкі яе грудзьмі, нагнуўся і гляджу на бураковы мёд. А ён — як сапраўдны, пчаліны, нават кветкамі пахне. Дык я сабе і думаю: «Хай у цябе, Зуська, чэрці бяруць напавер». Тым часам падпіхнуў акрайчык рукою, і ён з-за світкі ды боўць у бочку... Зусь падбег да мяне, схапіў за повад, якім была падпяразана світка, і давай адцягваць мяне, крычучы:

— Яўстрат, ці ты здурнеў, ці не... Што ты робіш, пабойся бога, дурны чалавек. Каб табе рукі ўсохлі.

А мёд той густы, ліха на яго. Акрайчык мой гэтак наверсе і ляжыць. Дык я яго рукою таптануў у мёд, а потым выхапіў. На ім, можа, з фунт мёду было.

— Падла ты з гэтым сваім мёдам,— крычу я Зусю,— хлеб мне сапсаваў.— А сам хутчэй за дзверы. Ужо здалёк чую Зусевы праклёны...

— Дык ты, дзед Яўстрат, значыцца, аддаў папу на споведзі леташнія грахі, а сам пайшоў новыя зарабляць? — спытаў Пракоп.

— Ат, якія там грахі. Ён жа нехрысць, дык яго не грэх і ашукаць,— скончыў дзед. Рэдкая сівая барада яго трэслася ад смеху. Мужчыны рагаталі ўжо каторы раз з дзедавай гісторыі. Адзін Лукаш сядзеў насуплены, як смоўж, нібыта ашукалі не Зуся, а яго самога.

Паразыходзіліся з хаты позна, аж пад першыя пеўні.

На другі дзень неба было чыстае-чыстае, як толькі што вымытая рукамі дбайнай гаспадыні, падсіненая і прасушаная на вясновым сонцы паркалёвая сарочка. Вясна ў гэтым годзе прыйшла неяк рана. Снег сагнала дні за тры, і ўжо жаўрукі цілііўкалі, заходзіліся ў блакітнай вышыні неба.

Па рагазінскай вуліцы ішла грамада мужчын. Уперадзе бег Яўхімка і крычаў на ўсю сілу:

— Кербічаву зямлю дзяліць хадземце.

Дзядзька Пракоп нёс цераз плячо перавешаны сажань, збіты трохкутнікам з ручкоў. Мужчыны дык каторыя вызіралі з-за платоў і не асмельваліся ісці з Пракопам, відаць думаючы: «Хто яго ведае, на чым гэты свет спыніцца. Вернецца пан, дык яшчэ ў астрозе згноіць». Мы з бацькам не пабаяліся. Я, калі грамада падышла да нашай хаты, адразу засігаў поплеч Пракопа, цаляючы патрапіць з ім у нагу. Пракоп аддаў мне несці папку з паперамі і аловак, прывязаны да яе матузком. Я ўзяў папку пад паху, і мне здавалася, што ўвесь свет цяпер глядзіць на мяне.

На дзіва ўсім выйшаў і Лукаш Шульга. Ён ішоў ззаду ўсіх сваёй цяжкаю паходкай. Ногі не пераставуляў, а як бы перасоўваў, на кожным кроку згінаючы іх у каленях, нібы нёс вялікі цяжар. Калі я на яго глядзеў, мне здавалася дзіўным: як гэтага чалавека зямля носіць?

Перайшлі ўжо гарбаты мост цераз Рагазінку і ўзышлі на Кербічава поле. На краі яго людскі гурт спыніўся. Яўхімка кінуў на зямлю калкі, якія ён нёс пад пахаю. Дзядзька Пракоп узяў у мяне паперку і разгарнуў. Мужчыны абступілі дзядзьку, і ён пачаў вычытваць, колькі каму будзе нарэзана Кербічавай зямлі. Мужчыны слухалі, пасміхваліся, а каторыя недаверліва глядзелі на Пракопа. Пракоп гэта скмеціў і сказаў так, каб усе пачулі:

— Зямлю дае вам Ленін... А калі дае Ленін, дык на векі вечныя.

Майму бацьку было вычытана паўдзесяціны, некаторым пабольш і паменш. Лукаш стаяў крыху воддаль ад грамады і ўслухоўваўся: ці ёсць ён у тым Пракопавым спісе, ці няма? Не ўчуўшы свайго прозвішча, ён запытаў:

— А чаму ж гэта мне нічога не назначана?

— У цябе ж сваё з горла прэ,— крыкнуў нехта з натоўпу.

— Дзе яно там прэ? Валоку зямлі маю, дык ужо і прэ. У мяне тры сыны растуць. Дык калі пачнуць дзяліцца ды сяліцца, то бяднейшыя за вас будуць.

— А вятрак!

— А цагельню робіш! — крычалі ўжо бязладна мужчыны.

— Дык што той вятрак... Не пазачэпліваюцца ж яны ўтрох рукамі за махі таго ветрака... А цагельню зноў-такі

раблю, каб абмураваць хату, а то не згледзіш, як яна спарахнее.

— Каб ты ўжо сам спарахнеў,— нехта крыкнуў са злосцю.

Уціхамірыў Лукаша і ўсіх Пракоп.

— Сам Ленін сказаў, каб кулакам зямлі не даваць, і ты яе ў нас не возьмеш і на панюх табакі. Так што збірайся адсюль ды ідзі ў свой вятрак...

А Лукаш усё-такі не пайшоў. Ён цэлы дзень тупаў ззаду за намі, глядзеў, як дзядзька Пракоп куляў па полі сажнем, як Яўхімка забіваў калкі, а я, наслініўшы языком хімічны аловак, пісаў на калках, каму адмерана палаca... Не адставаў ад нас і жаўрук, які ўвесь дзень заходзіўся ў блакіце неба, спяваючы гімн вясне. А недзе ў балоце на беразе Рагазінкі каркаў, аж раздзіраўся, стары крумкач.

## НА СВОЙ ХЛЕБ...

А тады каркаў, як раздзіраўся, стары крумкач нездарма. Мусіць, рэдка так бывае, каб у такіх гадах, як я, чалавек не мог заснуць. От лезуць у галаву думкі, дый годзе. А можа, то падслуханая гаворка мачыхі з бацькам не дае мне заснуць, кідае ў такі одум? А можа, Марылька Адасёва?.. Ды чаго бо то яна стаіць у мяне перад вачыма? Ці гэта ўжо надыходзіць тая пара, калі хочацца думаць пра дзяўчынку?.. Дзяўчат жа ў нашым Рагазіне вунь колькі, дык конча ёй, Марыльцы, трэба стаць і, не адыходзячы ад лавы, стаяць у мяне перад вачыма... Смуглявая, ледзь прыжмуранымі глыбокімі вочкамі, з ямачкамі на шчоках, калі смяецца. Я тыя ямачкі даўно ўжо заўважыў, калі яшчэ хадзіў у трэці клас. Марылька тады зусім малая была. Аднаго разу, калі я паспрабаваў сесці з ёю поплеч на парце, дык яна віскнула і ўцякла. Я злаваў на сябе: на сваю шэрую саматканую світку, на шарачковыя штаны, на лыкавыя лапці... А больш за ўсё на белабрысыя валасы, на іх непаслушэнства. Колькі я ні пляваў на далонь, прыгладжваючы іх, каб ляжалі, а яны ні блізка. Нібы па іх віхура прайшла і параскідала каторы куды. А ў мяне спераду, над самым ілбом, віхор. Пальцам і то намацаеш яго. Можа, з-за ўсяго гэтага і Марылька са мной не хацела сядзець.

Учора ўвечары пад Ахрэмаваю старою ліпай, на бярвенні, якога ён навазіў на хату, гулялі дзяўчаты і хлопцы. Сядзелі адно каля аднаго і песні спявалі. Старыя-старыя, як свет, песні. Я ўпершыню сядзеў поплеч Марылькі. Мне хацелася падсунуцца да яе блізка-блізенька, каб адчуваць, што гэта яна, а не хто іншы. І колькі я ні падсоўваўся, яна ўсё адсоўвалася. Толькі адно што чуў я яе голас. А голас жа ў яе! Гэтакі густаваты і такі прыгожы, што ўсё б ты яго і слухаў. Яна заўсёды заспеўвае, а Міронычыкава Зося бярэ на падгалосак, і гэтак у іх хараша атрымліваецца. На момант песня абрываецца, і ўжо чуецца віск дзяўчат, рогат хлопцаў. Мне хочацца нешта такое зрабіць, каб не толькі Марылька, а і ўсе заўважылі мяне. І я на ўсю сілу свайго яшчэ не ўсталяванага голасу зацягваю:

Нас не любяць, нас баяцца
Поп кудлаты і кулак,
Бо рашыў за працу ўзяцца
Камсамольскі маладняк.

Але нешта не вельмі-то падхопліваюць маю песню. Я чую Яўхімкаў голас, Марыльчын, але ён не такі ўпэўнены, як заўсёды, а нейкі баязлівы. І ўжо нібы на злосць усім я яшчэ мацней спяваю:

Хто супроць нас? Прэч з дарогі!
Бачыш нашу грамаду?
Мы саб'ём і чорту рогі,
Богу вырвем бараду!..

Марылька глядзіць на мяне і ўсміхаецца, аж ямачкі глыбеюць на шчоках. Я неўзаметку падсоўваюся да яе, але яна зноў адсоўваецца. У гэты час да бярвення падвальваюцца большыя ўжо хлопцы, і ўсе выразна чуюць сіпаваты, відаць, п'яны голас Сцяпана Касмыля:

— Разы-дзі-ся, шантрапа!

Марылька дык быццам чагосьці спалохалася... Яна схапіла мяне за руку і сказала:

— Макарка, я пабягу дадому, а то ж тут...

Яна недаказала, саскочыла з бярвення і хуценька пабегла ў бок сваёй хаты... Мне здалося, што адразу, як яна пабегла, усё навокал выгалела, апусцела. А я ж спадзяваўся правесці Марыльку і хоць крыху, нават моўчкі, пастаяць з ёй ля іхняй брамкі.

— Дык гэта ты, галетнік, будзеш богу бараду рваць? А ты яе расціў, плюгавец! — крычыць сіпаваты Касмыль і наступае на мяне ўсёй сваёй няўклюднай постаццю.

Вось-вось замахнецца, каб даць аплявуху. У яго гэта не купіць, асабліва калі ён п'яны. А я саскакваю з бярвення і на ўсю сілу штурхаю яго ў грудзі так, што ён ляціць потырч. Адбегшы, здалёк ужо чую яго грозьбу:

— Папомніш ты мяне, галетнік чортаў!

Сцяпан Касмыль — большы Лукашоў сынок. Гэта ў яго мянушка такая. Далі яму за тое, што ён ніколі не расчэсваўся і валасы ў яго віселі касмылямі. У Лукаша яшчэ ёсць два меншыя сыны — Дамець і Міход... Дамеця дык таго рэдка калі хто бачыць. Ён пусціўся ў навуку і ходзіць у Верамеевіцкую школу. З восені, пакуль яшчэ цёпла, дык ён носіць чорную сатынетавую вышываную кашулю, чорныя навыпуск штаны. А чаравікі ў яго якія! Са шнурочкамі, палавіна халявак зашнуроўваецца на кручкі, у чаравіках цвёрдыя наскі. Яны заўсёды маюць выгляд новых. Дамець не такі, як Сцяпан. Ён нейкі кволы. Глядзіш на яго, і здаецца, каб от узяў рукамі, дык ён бы і пераламаўся. А Міход дык той яшчэ зусім малы, пра яго і расказваць не варта...

...Але чаму я не магу заснуць? Я ўжо спрабаваў паслініць вочы, каб зліпліся павекі. А ў вушах, апрача ўсяго, стаіць гугнявы ў нос мачышын шэпт:

— Трэба ж яго куды-небудзь збыць. Алесь вырасце... Ды яшчэ, можа, бог дасць. Дык што мы тут дзяліць будзем. Палосу ж нашу лапцем зоймеш.

— Эт, палосу. Дык далі ж панскае паўдзесяціны.

— Дык то ж панская, а не твая. Хто яго ведае, што будзе. Няхай бы ён ішоў да Ціхона на каваля вучыцца, дык будзе мець кавалак хлеба ў руках.

Многае, пра што шапталі бацька з мачыхай, было мне незразумелым. Адно я зразумеў, што на каваля вучыцца мачыха хоча паслаць мяне. І я з нецярплівасцю ўслухоўваўся, што скажа бацька. А ён, як знарок, доўга маўчаў.

— Яно-то, можа, і праўду ты кажаш. Каб ён навучыўся на добрага каваля, дык меў бы хлеб у руках.

І мне захацелася гэтага свайго хлеба ў руках. З нашай жа палосы дзе яго там набярэшся ва ўсе рукі, на ўсе раты... Летась увосень бацька пасылаў мяне ўжо араць тую палосу. Яна доўгая-доўгая і гэтакая вузкая, што як глянеш на яе ад дарогі, дык яна, здаецца, зусім перашчыкнута пасярэдзіне. Барознаў са дзве бацька прайшоў сам, а потым аддаў плуг мне. Я трымаў за ручкі, лажыўся на плуг грудзьмі і ніяк не мог утрымаць. Ён выскакваў з баразны. Бацька падхопліваў адною рукою і казаў мне:

— Ты не кладзіся на ручкі грудзьмі, трымай толькі рукамі, і ён не будзе выскакваць.

Бацька сам станавіўся зноў за плуг, ішоў колькі крокаў, а потым зноў аддаваў мне, кажучы:

— Вось гэтак і трымай!

І сапраўды, на другой баразне плуг ужо ішоў лягчэй, а потым і зусім я асвойтаўся з новай для мяне работай. Бацька пайшоў дахаты, а я да абеду ўзараў усю палосу. Ды якая там палоса! Гэта ж не Лукашова. Тую дык і за тры дні не ўзарэш, нават параконным плугам. З першага ворыва я дадому вяртаўся з гонарам. Трымаючы адной рукой плуг, каб ён не ўкопваўся ў зямлю, я скіраваў каня ў вуліцу вёскі і праехаў па Рагазіне, пакідаючы за сабой на вуліцы пісягу, зробленую пяткай нарога. Няхай людзі бачаць, чаго я варты! Бацька наогул пачаў мяне наломваць да работы. Летась упершыню ён узяў мяне на сенажаць. Праўда, яшчэ не з касою, а толькі з граблямі... Я памагаў яму грэбці сена, насіць копы. У нас копы зносілі да адонка на насілах, бо сенажаць была такая дрыгва, што ўлетку з канём туды і не патыкайся. Палоса ж у нас была доўгая і гэтакая вузкая, што па копы хадзіць трэба было за свет, а каб кідаць два стагі, дык не хапала сена. І от, узяўшы на правае плячо па насіле, мы ідзём з бацькам у канец палосы, пераскакваючы з купіны на купіну. Бацька гэта робіць неяк вельмі спрытна, а я, як ні скокну, абавязкова траплю ў дрыгву. Пакуль мы прыйшлі да крайняй капы, я быў мокры амаль па самы пояс. Каб не ўкалоцца пакошаю, ногі мае былі абутыя ў лапці. Пападбівалі пад капу ўжо насілы. Бацька стаў папераду, а я ўзяўся ззаду. Але ісці з капою трэба было, цаляючы нагамі з купіны на купіну... Ліха на яго, на таго авадня, сеў мне на левую руку ды так утнуў, што я не ўтрымаў і ўпусціў насілу.

Капа адразу ж кульнулася і рассыпалася. Бацька не мог гэтага сцярпець. Са злосцю ён кінуўся на мяне і даў грымака ў спіну, крычучы:

— Байбус ты гэтакі, дакуль ты будзеш гуляючы хлеб есці!

Я цяпер ляжу на лаве, успамінаю ўсё і сам сабе думаю: «А і сапраўды, як мне той хлеб будзе есці?» А мачыха шыпіць бацьку на вуха, каб толькі ён адзін чуў. Але і я чую:

— Гэтая ж зямля, што нам далі, не наша... Каб жа ты яе сам сеяў. А то ж Пракоп як выдумае.

— А што ён выдумае... Бо ў людзей, каму ён нарэзаў

зямлі, у каторых няма коней, а ў каторых насення, дык ён і зрабіў, каб усе разам, агулам яе абсеялі...

Маці кажа:

— Агулам то агулам. А вось прыйдзе жніво, дык сажнуць, змалоцяць, ссыплюць у магазін і замок навесяць. А ты пойдзеш, пацалуеш прабой — дый назад.

— Не можа быць,— пярэчыць бацька.— Пракоп не такі чалавек, каб ашукаць людзей.

Бацька яшчэ на світанні пайшоў некуды з хаты. Я парабіў заўсёдашнюю сваю хатнюю работу і сеў ля стала, каб пачытаць кніжку, якую дзядзька Пракоп даў мне надоечы. Кніжка была цікавая, і я не мог адарвацца. Адзін верш з яе мне гэтак запаў у памяць, што я, дзе ні сядзеў, куды ні ішоў, увесь час мармытаў яго сам сабе.

— Чаго ты там молішся? — азвалася мачыха.— Вазьмі ды карове вынесі, а то прывык гульма гуляць, дык работа яму і не рупіць. Ты ж яшчэ не перайшоў на лёгкі хлеб.

Я ў момант выканаў загад мачыхі. Тым часам, як я карміў карову, вярнуўся ў хату бацька. Ён сустрэў мяне ўсмешкай:

— Дык от што, хлопча, даволі табе лынды біць. Збірайся ды пойдзем да Ціхона, на каваля будзеш вучыцца.

Я хуценька паснедаў, і мы з бацькам пайшлі. Ціхонава кузня стаяла ў канцы агарода. Гэта была злепленая са старога асінавага бярвення будынінa, накрытая шалёўкай. Ля яе быў укапаны ў зямлю таўставаты кругляк і рожкамі ў яго ўбіта конская падкова. Начыння ў кузні было не вельмі многа: два меншыя молаты і адзін вялікі. Бацька расказаў, што то паўпудовы молат, ім б'юць, калі трэба расплескаць якую-небудзь тоўстую жалязку. Клешчаў штук са трое, ціскі прымацаваны да дошкі, уробленай у сцяну ля самых варот; таўшчэйшы, як на двары, дубовы кругляк, на якім умацавана кавадла, а наўкось ад дзвярэй на ўвесь кут — гарно і скураны кавальскі мех, ад якога звісала тонкая, абшмыляная рукамі, аглабелька. Вось, бадай, і ўсё абсталяванне кузні, калі не лічыць пазатыканых у пазы сцен зубілаў, прабойнікаў і нейкіх свярдзёлкаў.

Дзядзька Ціхон акінуў мяне цікаўным позіркам, як бы вывучаючы, чаго я варты... Угледзеў, што я прыйшоў у кузню басанож, і сказаў:

— Гэтак, хлопча, не пойдзе. Ногі ўсе паабпякаеш акалінаю. Ты б, Васіль, боты хлопцу якія агораў,— звярнуўся ён ужо да бацькі.

— Дык дзе я тыя боты яму вазьму...

— То няхай хоць лапці абувае,— параіў дзядзька Ціхон.

А я глядзеў на яго не спускаючы вачэй. Ён быў мужчына высокі, крыху сутулы. Цела моцнае, быццам усё сплеценае з адных мускулаў. Твар маршчакаваты, асмужаны полымем горна і паклёваны, нібы воспаю, чорнымі крапінкамі. Бацька пастаяў яшчэ крыху і сказаў Ціхону:

— Дык ты яго, браток, падвучвай. Ён хлопец цягавіты, можа добры каваль з яго выйсці... А я пайду, работа там стаіць.

Якая там у бацькі «стаяла работа», я не ведаў. Аднак ён хуценька развітаўся, і мы засталіся ў кузні з дзядзькам Ціхонам. Ён яшчэ раз акінуў вачыма мяне, нават памацаў вышэй локця руку і сказаў:

— Дык бяры, хлопча, гарно распальвай.

Ціхон паказаў мне, як трэба насыпаць вуголле. Ён падклаў пад яго штукі са дзве сухіх сасновых трэсачак і чыркануў запалку. Вуголле затлела. Потым ён узяўся за аглабельку, шмаргануў яе ўніз, і скураны мех засоп, як дыхавічны конь, везучы на гару цяжкі воз. Потым ён перадаў мне аглабельку, і я пачаў яе цягаць. Мех соп на агонь, і сіняватае полымя шугала ў горне. Ціхон узяў клешчамі даўгаваты прэнт жалеза і сунуў яго ў сопуху горна. Яно ўвачавідкі чырванела, і калі зусім ужо стала чырвонае, як агонь, дзядзька спрытным рухам выхапіў яго з горна і пачаў пляскаць меншым молатам.

Ён гэтак спрытна біў, што прэнт як бы прырос да кавадла. Потым ён узяў зубіла і пасек прэнт на невялічкія кавалачкі, ссыпаў іх у горан, і мех зноў пачаў сапці. Пакуль дзядзька каваў, я, стоячы ля горна, падскакваў то адной, то другой нагой. Іскры, як уедлівая машкара, ляцелі ад горна і садзіліся на мае ногі, балюча кусаючы і пакідаючы на іх сіняватыя крапінкі.

Я яшчэ раз зірнуў на дзядзькаў твар і цяпер зразумеў, адкуль у яго тое рабаціння.

Тым часам дзядзька выхопліваў распаленыя кавалачкі і каваў з іх заклёпкі. Нам трэба было сёння ашынаваць абоддзе колаў.

Варочаўся я дадому надвячоркам мурзаты, закураны і нібы пасталелы. Усведамленне таго, што я ўжо станаўлюся на свае ногі, надавала мне ўпэўненасці і нават крышку гонару. Але што гэта?.. Як толькі я ўвайшоў у двор, дык пачуў, што наша хата аж разлягаецца ад мачышынага крыку.

— Каб ты спруцянеў! Каб табе рукі паўсыхалі,— чуў я, стоячы ля акна. Аднак не ведаў, на каго яна гэтак сварыцца. Не можа быць, каб на бацьку. Бацька мой, хоць і ціхаваты, рахманы чалавек, а такога не сцярпеў бы. Ён спачатку б міралюбна сказаў: «А хай твой двор...» Гэтак ён, калі ўваходзіў у злосць, заўсёды лаяўся, баючыся сказаць «згарыць», бо, мусіць, баяўся, каб сапраўды бяды якой не наклікаць. А потым, можа, і па лейцы кінуўся б, каб уціхамірыць дурную бабу. Бацькавага голасу ў хаце не чуваць. Значыць, Вара бярэцца за дзедаву душу... Я рашуча пераступіў парог хаты і стаў як укопаны. Дзед сядзеў на палацях, а мачыха крычала:

— Каб цябе ўжо распёрла, каб цябе разарвала,— кляла яна і глядзела на мяне, як бы шукаючы ў мяне падтрымкі. А я глядзеў на дзеда і нічога не разумеў. Палавіна дзедавай белай барады была зялёная, а другая палавіна чырвоная. Мне захацелася зарагатаць з гэтага дзедавага блазенства, але я стрымліваў сябе, бо не ведаў, у чым справа. А мачыха не ўнімалася:

— Гэта ж унадзіўся па дзіцячыя цукеркі лазіць. Я бо гляджу: прынясу Алесю цукерак, дам адну ў ручку, а астатнія пакладу на паліцу. Быццам і не бяру больш — зірну, а іх ужо і няма там. Я думала, што гэта ты ім даеш ладу,— звярнулася мачыха да мяне.

— На ліха мне тыя цукеркі вашы,— адказаў я.

— Аж гэта вунь хто,— паказала са злосцю мачыха на дзеда.— Гэта ж я ўчора прынесла загорнутую фарбу ў драбках. Акурат, як цукеркі, і паклала на паліцу. Былі ў мяне і цукеркі са дзве, дык дзіця іх ужо сасмактала. Сляпы, сляпы, а бачыць, дзе што смачнае пакладзеш. Я толькі выйшла з хаты, а ён коўзь з печы ды на паліцу. Схапіў два драбкі. Я нешта хуценька вярнулася, дык ён іх у рот. Рассмактаў і пачаў выплёўваць, дык вунь што нарабіў.

Я гляджу на дзеда, і мне робіцца шкада старога, прыкра, нават балюча.

— Дзеду,— крыкнуў я, каб ён пачуў,— ідзіце ды бараду абмыйце.

— Навошта яе абмываць,— не здаваўся дзед,— яна ж чыстая.

Я ўзяў дзеда за руку, падвёў да цэбра і сам пачаў яму змываць фарбу з барады... Яна не змывалася, і колькі я ні цёр рукою бараду, усё адно засталіся на ёй сляды дзедавага нявіннага злачынства.

На другі дзень, ідучы ў кузню, я ўжо абуў лапці. Дзядзька Ціхон зірнуў на мяне і сказаў:

— От так, хлопча, спасабней будзе.

На гэты раз я ўжо не толькі цягаў аглабельку меха. Каваль даў мне ў рукі молат і сказаў, каб я ім біў у адну кропку на кавадле. Я спачатку няспрытна біў. Неяк не атрымлівалася, каб молат цаляў у адно месца. Ён то адскакваў ад кавадла, то яго кідала ў бакі. А [illegible] ж біў яшчэ не з усяго маху, а толькі на паўрукі.

— От калі цябе молат будзе слухаць, дык тады я табе дам што-небудзь і распляскаць. А пакуль што руку налоўчвай,— казаў дзядзька Ціхон.

Я гэтак за дзень «налаўчыў» рукі, што калі прыйшоў увечары дадому, дык яны ў мяне былі як чужыя, і калі я іх паварочваў, то ў плячах вельмі ж балела. Я, нават не ўмыўшыся, лёг спаць. Пад раніцу рукі перасталі балець. Я падышоў да сцяны, зірнуў у люстэрка і сумеўся. На мяне адтуль глядзеў падобны на цыгана хлапчук. Пад вачыма было як бы падсінена, твар мурзаты. Бацька ўсміхнуўся:

— Гэта табе, сынку, не гуляючы хлеб есці. Кожны каваль славен сваёй сілай.

Праз тыдзень ці два я ўжо цягаў вялікі паўпудовы молат, біў ім не па голым кавадле, а па распаленым жалезе, якое дзядзька Ціхон спрытна паварочваў кляшчамі і паказваў вачыма, дзе мне трэба выцяць. Увушшу ў мяне стаяў звон, а ў галаве роіліся думкі, далёкія ад кузні, ад дзядзькі Ціхона і, можа, нават ад усяго навакольнага... Думкі, думкі, хіба ім забароніш ляцець некуды далёка, сігаць, можа, нават за свет, хіба ім не дасі быць разам з той, на каго ты ўсё глядзеў бы і глядзеў бы, не спускаючы вачэй. З усяго маху, з-за пляча я біў цяжкім молатам па чырвоным падвоску, які дзядзька Ціхон павінен быў от зараз прымацаваць да дубовай восі воза... Трэба было яшчэ разоў з дзесяць выцяць молатам, папрабіваць дзюрачкі для цвікоў, і падвосак быў бы гатовы. Але я ж кажу, што не думаў пра гэты падвосак. У галаве снаваліся словы таго верша, які запаў мне ў памяць:

Гэй, узвейце сваім крыллем,
Арляняты, буйна, бурна,
На мінулых дзён магіле,
Над санлівасцю хаўтурнай...

І я ўжо не толькі ў думках, а нават ціхенька сам сабе

мармытаў словы верша. Дзядзька Ціхон бачыў, што мае вусны нешта шэпчуць, і спытаў:

— Ці ты гэта там богу молішся, ці што?

— Ды не, гэта так сабе нешта чаўпецца ў галаве,— адказаў я дзядзьку не тое, што думаў.

Мы крыху перадыхнулі, пакуль падвосак распальваўся ў горне, ды зноў узяліся дакоўваць яго. Я гасіў і гасіў з-за пляча цяжкім молатам і нават не глядзеў, па чым гасіў. Думкі мае былі заняты словамі верша... Наступныя чатыры радкі я ўжо гаварыў амаль уголас, і каб не звон, які запаўняў кузню, дык пэўна б дзядзька Ціхон чуў іх.

Вам на памяць серп і молат
Даравала доля.
Каб з вас кожны быў як волат,
Не гнуў плеч ніколі.

Апошнія словы я выгукнуў разам з замахам молата. Але што гэта? Падвосак паляцеў з кавадла да варот, трапіў у карытца тачыла, якое там стаяла, і засіпеў. А клешчы? Яны, вырваўшыся з дзядзькавых рук, падскочылі ўгару і ўдарылі яго на палец вышэй правага вока. Ён схапіўся абедзвюма рукамі за лоб і нема зароў. Я спалохаўся, адскочыў да варот і вінавата стаяў, не ведаючы, што рабіць. Дзядзька Ціхон адпусціў рукі, і я ўбачыў гузяку. Крывавая падцечына ўзбегла на вока. Я яшчэ больш спалохаўся: а можа, высадзіў чалавеку вока?

— Трасца твайму бацьку, ёлупень ты гэтакі. Вон, каб твайго і смуроду тут не было! — закрычаў у гневе каваль.

Я выбег з кузні не на вуліцу, а, перасігнуўшы плот, выйшаў на балота. Вузкай сцяжынкай, якая вілася між куп'я, пашыбаваў да Рагазінкі. Гэтакі светлы, цёплы дзень быў, толькі б радавацца, а я ішоў як сам не свой. Кнігаўка, якая кружылася нада мной, прыводзіла мяне ў шаленства. Я ж з раніцы думаў: скончыцца сённяшні дзень і ўвечары я абавязкова пайду пад Ахрэмаву ліпу. Можа, убачу Марыльку і хоць пасяджу поплеч яе, а можа, і правяду пад ручку дадому. Дык на табе — гэтакае няшчасце.

Дадому я прыйшоў позна ўвечары. Бацька сядзеў насуплены, узлаваны.

— Значыцца, наеўся ўжо хлеба з кузні — знявечыў чалавека. Ён сказаў, каб і нагі твае больш там не было.

І сапраўды, маёй нагі больш не было ў кузні. У дзядькі Ціхона не толькі ўсхапіўся на лбе гузяка, а запухла і вока. Ён усе гэтыя дні хадзіў з абвязанай галавой. Неяк раз я ішоў па вуліцы і здалёк убачыў дзядзьку Ціхона. Ён ся-

дзеў на прызбе ў халадку пад хатай. Мне стала сорамна і шкада гэтага добрага чалавека. Я абышоў яго хату па-за гародамі, каб толькі не трапляцца яму на вочы.

Непрыемна скончылася маё кавалёўства. «А што далей будзе?» — мучыла ўжо мяне пытанне. Бо ў хаце мне сапраўды ўжо станавілася цеснавата. Я добра бачыў па мачысе, што лубяная калыска ненадоўга загуляецца ў нас, і толькі цяпер зразумеў тое, што шаптала бацьку тады ўночы мачыха.

## ПЕРШЫ СПЕКТАКЛЬ

Асеннія вечары доўгія-доўгія, беспрасветныя, і да таго яны ўжо надакучлівыя, што немаведама куды сябе дзяваць, асабліва калі цябе апануе нейкі одум. А я сапраўды пачаў ужо задумвацца, як мне быць, як мне жыць. У хаце мачыха пазірала на мяне скоса. Калі я садзіўся за стол і браў кавалак хлеба, твар яе перасмыкаўся ад злосці. Быццам той кавалак хлеба я адабраў у яе з рук. Аднаго разу за сталом яна, як бы ненарокам, нібы гэта і не мяне тычылася, сказала:

— Людзі добрыя і з іголкі хлеб ядуць. Я ўчора зайшла да Ладымера-кажушніка, дык ён кажа: чаму б табе, Вара, не аддаць свайго пасынка на краўца. Я ж от, кажа, з іголкі жыву прыпяваючы.

Бацька махнуў рукой, як бы хочучы выцяць мяне, і сказаў:

— Эт, выйдзе з яго кравец, як і каваль выйшаў... Няхай байбусуе, а потым спахопіцца, ды позна будзе...

Я зрабіў выгляд, быццам не разумею, што ўсё гэтае гаворыцца дзеля мяне. Мне рупіла зусім іншае... Я зайздросціў Яўхімку — ён хадзіў ужо ў Верамеевіцкую школу і прыносіў адтуль такія цікавыя кніжкі, што і я часам цэлымі вечарамі сляпіўся, чытаючы іх ля лучніка.

Увечары я апрануў світку і думаў ціха выйсці з хаты.

— Ты куды гэта? — запыталася мачыха.

— Пайду дзе пагуляю.

— Каб ты ўжо на вяроўцы гуляў, дармаед,— закрычала яна.

Аднак я не слухаў мачыхі і рынуўся за дзверы, бразнуўшы імі так моцна, што аж посуд на паліцы забражчаў. Спачатку думалася зайсці да Яўхімкі, але ў апошні час я пачаў чамусьці саромецца заходзіць да іх. Мо таму, што

Яўхімка вучыўся, а я, як казаў бацька, байбусаваў?.. Пайшоў я па ціхай, цёмнай рагазінскай вуліцы, сам нават не ведаючы куды і чаго...

Хата дзядзькі Пракопа стаяла акурат пасярод вёскі. Яна была такая ж, як і наша,— невялікая, старая. Праўда, у шыбах яе вулічнага акна не было заткалаў, як у на-шых. Я спыніўся пад акном Пракопавай хаты. З яго ліло-ся не цьмянае святло лучыны, а нейкае белае, нават крыху сіняватае, святло лямпы. Ціха стукнуў брамкаю і пашкроб-ся ў сенечныя дзверы. Яны адчыніліся, і на парозе я ўба-чыў цётку Мальвіну — Пракопаву маці. Дзядзька Пракоп быў яшчэ не жанаты, і ў іхняй хаце жылі цётка Мальвіна ды яшчэ Пракопава сястра Надзя, значна маладзейшая за Пракопа, але ўжо ладная дзяўчына, да якой павінны былі вось-вось прыйсці сваты. Таму цётка Мальвіна часцяком казала сыну:

— Ты б, Пракопка, пашукаў сабе жонку.

Ён нейк крыва, балюча ўсміхаўся і адказваў маці:

— Навошта я буду свет завязваць маладзіцы з гэтай сваёй дзеравяшкай.

Так дзядзька Пракоп і «не завязваў свету» ні сабе, ні другім. Перад ім белы свет развінаўся іншымі даляглядамі, ды гэтакімі, што наўрад ці хто з рагазінцаў бачыў такія. Дзядзька Пракоп сядзеў за сталом пад зыркаю лямпаю і разглядаў газеты, кніжкі, якімі быў закладзены ўвесь стол.

— От добра, хлопча, што ты прыйшоў,— сустрэў ён мяне.— Я па цябе сам ужо хацеў ісці. Сядай,— прапанаваў ён мне. Я, скінуўшы шапку, прысеў каля стала. Цікаўны-мі вачыма агледаў хату, і мне яна здалася дзіўнай, бо над сталом у кутку не было абразоў як ва ўсіх рагазінскіх ха-тах. Там быў прыбіты, толькі не на самым покуці, а кры-ху адступіўшы ад яго, партрэт Леніна... Калі я азірнуўся на хату, я ўбачыў у кутку, ля самых дзвярэй, маленькі абразік. Дзядзька Пракоп заўважыў маю цікаўнасць і сказаў:

— Маці не дае зусім выкінуць святую труху, дык вунь куды перанесла.

Дзядзька Пракоп працягнуў мне газету пад назваю «Новая вёска», разгарнуў яе і, паказаўшы пальцам, сказаў:

— На чытай, хлопча, пра наш Рагазін тут пішацца.

Я ўпіўся вачамі ў невялікі допіс. Там паведамлялася, што ў нашым Рагазіне на былым панскім полі стварылася таварыства па супольнай апрацоўцы зямлі, што яно выра-

сціла добры ўраджай і ўжо ў гэтым годзе члены таварыства мяркуюць набыць нават сякія-такія машыны.

— Адкуль жа яны пра ўсё гэта ведаюць? — здзівіўся я.

— О, пра добрае ўвесь свет ведае. У добрай славы доўгія ногі, яна, калі хочаш, дык да Масквы дойдзе.

— Дык а хто гэта напісаў? — дапытваўся я.

— Паглядзі, там жа відаць...

І сапраўды, пад допісам было надрукавана: «Ракоп Касянок».

— Дык гэта вы, дзядзька Пракоп?

— Як бачыш — я,— задаволена ўсміхнуўся дзядзька Пракоп.

— То хіба ўсім можна ў газету пісаць?

— Канечне, усім. Ленін жа сказаў, што цяпер народная ўлада, дык сам народ усё і робіць. Нават і ты можаш напісаць.

Мне так захацелася, каб маё прозвішча было, як і дзядзькі Пракопа, надрукавана ў газеце. Толькі я не ведаў, пра што і як напісаць, і, як бы адгадаўшы маю думку, Пракоп параіў:

— А ты хіба напішы пра смаўжа, пра гэтага кулацкага павука Лукаша, як ён кроў і пот смокча з парабка на сваёй цагельні...

Больш мы пра гэта не гаварылі. Я толькі папрасіў дзядзьку Пракопа, каб ён мне даў дадому газету, я яе ўсю прачытаю як мае быць. А дзядзьку Пракопу рупіла, відаць, іншае. Ён, пакапаўшыся ў газетах, знайшоў між імі кніжачку і сказаў мне:

— От што, хлопча, я надумаў. Трэба ў нас, у Рагазіне, паставіць спектакль, прадстаўленне зрабіць. Вось тут усё напісана пра кулака, нібы пра нашага Лукаша. Дык мы людзям і пакажам. То ты, хлопча, падгавары хлопцаў і дзяўчат, каб яны згадзіліся за артыстаў быць. А я дамоўлюся з Анастассяй Паўлаўнай, каб яна памагла нам.

Гэта ўжо было нечаканым, радасным, хоць яшчэ і няясным прадчуваннем асалоды.

Ад дзядзькі Пракопа я прыйшоў позна. У хаце ўжо было патушана святло, і я ціхенька, каб нікога не пабудзіць, лёг на сваёй лаве. Але заснуць доўга не мог. Гэтулькі было новага, неспадзяванага, што пра яго трэба было думаць і думаць. І асабліва мне запала ў галаву тое, што мы з дзядзькам Пракопам пойдзем у нядзелю ў Верамеевічы і ён мяне завядзе на сход камсамольскай ячэйкі.

На другі дзень дома я не мог узяцца ні за якую рабо-

ту, яна валілася з рук, і я, як толькі пусцела хата, даставаў з-за пазухі дзядзькаву газету і чытаў. Дзіва, дый годзе. На трэцяй старонцы быў намаляваны кулак у выглядзе павука, які толькі што напіўся крыві. Гэтакі ён тоўсты, сыты. А вакол паснавана павуцінне, і ў ім паўшчэмліваліся людзі. Я зірнуў на малюнак, і мне здалося, што на ім рыхцік наш Лукаш Шульга. Я хуценька дастаў са скрыні стала свой стары сшытак, выдраў адтуль лісток лінеенай паперы і, схіліўшыся над ім, пачаў думаць. Доўга ламаў галаву, нарэшце вывеў: «Кулак-крывасмок парабка ў павуцінне зацёг». Гэта быў загаловак. Далей я доўга слініў аловак, пакуль надумаў, што пісаць. А потым думка нібы прарвалася сама напаверх — і ўжо ёй не было ўпынку... Я пісаў і пісаў: «Ляці, маё паведамленне, і знайдзі чалавеку з кабалы кулацкай выбаўленне. Наш кулак Лукаш на цагельні гэтак заездзіў парабка Івана Заіку, што той не пікне. Дзень і ноч ён гліну месіць, а Лукаш яму плоціць дулю за месяц. Дык дакуль жа будзе гэтая крываўка пагана здзек чыніць над жыццём Іванавым...» Далей усё ішло так хораша, што, мне здавалася, і ў кніжках так ніколі не пісалі. Пісьмо маё было доўгае, аж на абедзве старонкі ліста. У канцы я паставіў свой подпіс.

У той жа дзень занёс пісьмо і ўкінуў у паштовую скрынку, прыбітую на шляху да вугла Мендалевай хаты.

...Першая рэпетыцыя адбылася ў нас у суботу. У школу найшло многа моладзі, але прымаць удзел у спектаклі згадзілася толькі чалавек пяць. Прыйшла і Марылька. Я яе ўгаворваў, каб сыграла ролю кулацкай дачкі — Сынклеты. Дык яна ані блізка. Анастасся Паўлаўна — новая рагазінская настаўніца таксама ўгаворвала Марыльку, але, бачачы, што нічога не выйдзе, нарэшце сказала:

— Я сама буду выконваць ролю Сынклеты.

Мне крыўдна зрабілася за Марыльку, нават злосць узяла за яе. Гэтак жа хацелася, каб яна была побліз ад мяне, глядзела, як я буду прадстаўляць кулака Нупрэя. У адным месцы мне трэба было нават пацалаваць сваю дачку, і я радаваўся гэтай магчымасці. А цяпер гэтая магчымасць беззваротна прападала, і мне здалося вельмі добрым, калі дзядзька Пракоп са злосцю крыкнуў:

— Дык вось, хто не хоча быць за артыстаў, то няма чаго тут зубы сушыць і вачыма свяціць. Нам і ад лямпы светла.

Выходзілі са школы неахвотна, але дзядзька Пракоп падганяў сваёй кульбай. Марылька злосна бліснула на

мяне вачыма, і мне зрабілася няёмка. Прымеў бы ды папрасіў дзядзьку, каб ён пакінуў Марыльку тут, але які б гэта быў мне сорам, і я моўчкі наглядаў, як выходзілі хлопцы і дзяўчаты, як дзядзька браў на зашчапку дзверы.

Анастасся Паўлаўна нам чытала п'есу і паказвала, як трэба іграць. Ні ў мяне, ні ў Яўхімкі не атрымлівалася. Голас мой быў танкаваты, і калі я спрабаваў пераймаць гаворку Лукаша Шульгі,— а я сабе інакш і не ўяўляў кулака,— голас ламаўся, нібы ў маладога пеўніка, які раптам захацеў закукарэкаць басавіта, як стары певень. Хацелі паставіць на гэтую ролю дзядзьку Пракопа, у яго б куды лепш выйшла, але чортава дзеравяшка, як яе ні закрывай, усё роўна відаць. Таму дзядзьку Пракопа мы пасадзілі за суфлёра. Ён нам шэптам чытаў, мы слухалі і гаварылі следам за ім. А шэпт у яго быў такі, быццам чалавек гаварыў у бочку...

Якая цудоўная Анастасся Паўлаўна! То яна мне здавалася падобнай на маю нябожчыцу маці, то раптам рабілася гэтакай гарэзлівай дзяўчынкай, што я нібы бачыў перад сабой Марыльку. Я вельмі і вельмі шкадаваў, што мне ніводнай зімы не давялося ў яе павучыцца. Яна б не ўклеіла такой балючай лапы, як калісьці ўклеіў той дзякрастрыга...

Нядзеля была яшчэ цікавейшай. З самай раніцы прыйшоў да нас у хату дзядзька Пракоп. Ён быў апрануты пасвяточнаму, і на пінжачку з-пад крыса каптана віднеўся завязаны на чытыры ражкі чырвоны шаўковы каснічок. Настрой у яго быў узняты. Павітаўшыся з нашымі, дзядзька сказаў да бацькі:

— Васіль, няхай твой хлопец сходзіць са мной у Верамеевічы.

— А што ён там забыў? — спытала з адценнем злосці мачыха.

— Калі нічога не забыў, то, можа, што-небудзь знойдзе,— адказаў жартам Пракоп.

Мачысе, вядома, не хацелася, каб я швэндаўся без дай прычыны, таптаў лапці, аднак яна не магла запярэчыць дзядзьку Пракопу, бо ён жа гэтак многа дабра зрабіў для нашай хаты.

— Калі ён табе конча трэба, то няхай ідзе,— згадзіўся бацька.

У Верамеевічах мы пайшлі да школы. Яна была крыху воддаль ад цэнтра. У засені ясакараў стаялі чатыры мураваныя дамы. Казалі, што калісь там была манапалька, а

цяпер зрабілі школу. У адным з дамоў аж гудзела — набралася столькі моладзі.

Як толькі ўвайшлі мы з дзядзькам Пракопам, многія пачалі вітацца з ім.

— А, таварыш Касянок! — працягнуў руку дзядзьку Пракопу хлопец з гэтакім жа, як у дзядзькі Пракопа, чырвоным каснічком на пінжачку.

— Дык от камсамольца вам прывёў,— замест адказу на прывітанне сказаў дзядзька Пракоп.— Добры хлопец.

Усе аглядалі маю світку, лапці, мае непаслухмяныя віхры валасоў, а мне ад гэтага рабілася сорамна. Я, можа, нават пачырванеў, бо той хлопец, што вітаўся з дзядзькам, сказаў:

— А ты не саромейся, тут усе такія, як ты. Як цябе завуць? — запытаў ён.

— Макар Шыянок,— адказаў я.

— Сядай тут у нас як дома. А я вось цябе запішу ў спіс. Мяне завуць Валодзя Шумаковіч. Будзем знаёмы. Я сакратар камсамольскай ячэйкі,— і Валодзя падаў мне руку. Яна здалася мне нейкай вельмі ж цёплай.

— Ты, Макарка, будзь тут, а мне трэба ісці на партыйны сход,— нечакана для мяне сказаў дзядзька Пракоп. Мне нейк боязна было заставацца аднаму сярод незнаёмых людзей. Але след дзядзькі Пракопа прастыў ужо.

Валодзя Шумаковіч ад мяне не адыходзіў. Ён распытваў, што мы робім у Рагазіне. Я расказаў пра ўчарашнюю рэпетыцыю, пра тое, як мы з дзядзькам Пракопам дзялілі Кербічаву зямлю. Вельмі ж мне карцела расказаць, што я напісаў у рэдакцыю допіс пра кулака Лукаша Шульгу, але я змоўчаў, бо хто яго ведае: можа, той допіс і не дойдзе да рэдакцыі, а загадзя хваліцца — брыдка. Валодзя даў мне аркушок паперы і сказаў, каб я напісаў заяву аб прыёме мяне ў камсамол. Я гэта зрабіў.

Валодзя гаварыў аб усім: і аб тым, як трэба хвасты прышчамляць кулакам, каб яны не вельмі-то браліся ўгору, і аб тым, як трэба адвучаць моладзь ад царквы, а прывучаць да кніжак і газет. Для мяне ўсё гэта было незвычайным, цікавым. Я ў думках быў вельмі ўдзячны дзядзьку Пракопу за тое, што ён мяне сюды прывёў. Потым яшчэ выступалі хлопцы, нешта гаварылі. Але я нібы і не чуў таго, што яны гаварылі, бо быў цалкам у палоне сваіх думак. Мне хацелася, каб от хоць момант пабыла тут Марылька, яна пабачыла б, як тут хораша. Сход цягнуўся не вельмі доўга. Ужо ўсе строіліся выходзіць, калі

да мяне падышоў Валодзя, выняў з кішэні чырвоны каснічок і прыкалоў шпілечкай да світкі. Здаецца, і світка пахарашэла. А душа? Ды што казаць пра душу! Яна заспявала. Выйшлі ўсе камсамольцы разам. Я не адставаў ад гурту. Калі мы параўняліся з цвінтаром Верамеевіцкай царквы, нечы прарэзлівы голас зацягнуў:

Сергій поп, Сергій поп,
Сергій дзякан і дзячок.

А потым дружны хор падхапіў:

Панамар Сяргеевіч,
Уся дзярэўня Сяргееўна.
Камсамольцы Камінтэрна
Разгаварываюць...
Гэй ды рабяты,
Гэй ды камсамольцы.
Брава, брава, малайцы!

Песня гэтая так разанула асеннюю тлумную сцішанасць, што здавалася: пярун ударыў сярод яснага дня... Старыя, што былі на цвінатры, пачалі плявацца і лаяцца. Тут і я ўжо не стрымаўся і пісклявым голасам выгукнуў на ўсю сілу:

Мы саб'ём і чорту рогі,
Богу вырвем бараду.

Аднак мая песня выйшла не такой дружнай. Мусіць, таму, што не ўсе ведалі словы яе. Я так быў захоплены незвычайным становішчам, што не заўважыў, калі да мяне нехта падышоў і шмаргануў за рукаў. Азірнуўшыся, я ўбачыў дзядзьку Пракопа. На яго абветраным, загарэлым за лета твары гуляла, як вясёлка, шчаслівая ўсмешка.

— Дык, можа, хлопча, дахаты патупаем ужо.

Я збянтэжыўся і стаяў, не ведаючы, што адказаць. Калі б не Валодзя Шумаковіч, дык можа б я не знайшоў ніякага слова і моўчкі пайшоў бы за Пракопам. Але той хуценька падбег да мяне і ласкава сказаў:

— Ты ж, Макарка, на другую нядзелю прыходзь, у нас яшчэ цікавей будзе.

— Добра. Абавязкова прыйду.

Мы выйшлі з дзядзькам Пракопам, і хоць вакол было пахмурна, нават не відаць у перадвячэрніх прыцемках слупкоў на грэблі, на душы ў мяне было светла-светла. Чырвоны каснічок на світцы гарэў, як сонца, і ад гэтага рабілася вельмі цёпла і радасна.

— Ну, то як, хлопча? — спытаў дзядзька Пракоп.

— Вельмі добра, дзякую вам.

— То ж бо то,— сказаў ён, і мы шпарчэй засігалі, бо насоўваўся вечар, а нам яшчэ трэба было паспець на рэпетыцыю.

Рэпетыцыі ў нас адбываліся амаль кожны вечар. Анастасся Паўлаўна сама была і рэжысёрам, і артысткай. Яна нас усіх муштравала, што мы нават злавалі на яе. Быццам і робіш і гаворыш усё як трэба, а яна нездаволена. Возьме ды ўпікне цябе, што ты не так робіш, не так гаворыш. Дзядзька Пракоп, які на кожнай рэпетыцыі сядзеў з кніжачкай, падказваў кожнаму яго ролю, і той часта не вытрымліваў:

— Ды не трэба іх вельмі муштраваць, якія яны артысты. Няхай так робяць, як у іх выходзіць.

— Калі мы ўзяліся ставіць спектакль, дык трэба яго паставіць добра, каб людзям было што глядзець,— пярэчыла яму Анастасся Паўлаўна, і дзядзька Пракоп змаўкаў. Ён наогул пры Анастассі Паўлаўне рабіўся нейкім дужа рахманым і нават сяды-тады чырванеў. Я гэта бачыў не адзін раз і здзіўляўся сам сабе. Ды і я таксама перад ёю станавіўся баязліўцам і часам не ведаў, куды дзяваць рукі. А тут яшчэ трэба было па ходу п'есы накрычаць на яе, бо яна ж мая дачка. Як я ні намагаўся крыкнуць, голас мой надломваўся, яго нават не было чуваць. Той крык недзе бушаваў усярэдзіне і ніяк не мог вырвацца напаверх. Анастасся Паўлаўна дакарала мяне. І правільна рабіла, бо было за што дакараць. За гэтыя тыдні я добра наламаў свой голас, ён ужо нават скрыпеў, як Лукашоў. Ды і не толькі голас. Я ўжо і хадзіць так налаўчыўся, што ногі мае ўгіналіся ў каленях, нібы тулава сапраўды было важкае-важкае і нагам цяжка было яго трымаць. Пераставўляў я іх поцегам, акурат як Лукаш. Гэта ўсім падабалася. Нават дзядзька Пракоп і той смяяўся з мае хады. Але вось калі трэба было крычаць на Сынклету — Анастассю Паўлаўну: «Дык чаго гэта, нягодніца, злыгалася з гэтым чортавым галетнікам, што і вадой цябе не разальеш з ім», дык словы «нягодніца» я неяк праглынаў, і яго ніхто не чуў.

Але як бы там ні было, рэпетыцыі падыходзілі к канцу. У суботу перад калядамі нанасілі дошак, саставілі парты і на іх наслалі сцэну. Папрыносілі кожны па дзяружцы, напялі абору, выбарсаную з дзедавага лапця, нашмаргнулі пасшываныя дзяружкі, і заслона атрымалася як у сапраўдным тэатры. Дзядзька Пракоп прынёс абраз, і мы яго павесілі ў кутку. Адно вялікага клопату нарабілі нам баро-

ды. Мне зрабілі бараду з кудзелі, але яна была белая, а я хацеў мець рудую, такую, як у Лукаша. Давялося прасіць цётку Мальвіну, каб яна заварыла альховай кары і пафарбавала бараду. Перад чалеснікамі печы барада была прасушана, я яе расчасаў дзеравяным грабянцом, падстрыг гэтакім манерам, як у Лукаша, і калі начапіў, зірнуў у люстэрка, дык сам сябе ледзьве пазнаў. От што значыць добрая барада. Яўхімку барады не трэба было. Ён быў тым галетнікам, ад якога адбіваў усімі сіламі сваю Сынклету кулак Нупрэй. Мы павесілі ўжо дзве лямпы — дванаццацярык на сцэне і васьмярык у зале. Хлопцы нанасілі ўслонаў, і дзядзька Пракоп загадаў хлапчукам-падшывальцам, каб яны пабеглі па вуліцы і абвясцілі пра спектакль. Праз момант па ўсім Рагазіне аж ляскатала:

— На ціятры!

— На ціятры!

Мы хваляваліся, перажывалі — гэта ж не жартачкі — паказваць першы ў жыцці рагазінцаў спектакль. А я хваляваўся асабліва. У тую нядзелю я сказаў Валодзю Шумаковічу, каб ён прыйшоў у наш Рагазін і паглядзеў, які мы спектакль зрабілі...

Людзі ішлі ў школу тугавата. Малечы набілася, праўда, поўна, але самых малых дзядзька Пракоп, якому не трэба было грыміравацца, выдварыў з памяшкання. Нам хацелася, каб папрыходзілі старыя. Толькі ўжо калі добра змерклася, пачалі сходзіцца больш сталыя людзі. Папрыходзілі хлопцы, дзяўчаты. Я раз-пораз растуляў дзяружкі і адным вокам бліскаў, хто там у зале. На трэцім радзе сядзела Марылька і поплеч з ёю Валодзя Шумаковіч. Малайчына хлопец, што прыйшоў! Аднак мяне гэта не толькі радавала, але і засмучала. Чаго бо ён там сеў акурат поплеч Марылькі? Хіба яму абавязкова ля яе трэба сесці? Ды няхай пасядзіць, не з'есць жа ён яе. Але каб праводзіць хоць не пайшоў. Сёння ж у мяне такая надзея правесці Марыльку дахаты! Не можа быць, каб яна не пайшла са мною. Як-ніяк, я ж артыст!

Нарэшце людзей найшло поўная школа. Больш за ўсё было мужчын, нават каторыя старыя папрыходзілі. Сярод іх я прыкмеціў і свайго бацьку. Ён стаяў з мужчынамі ля сцяны і пра нешта вельмі галасна спрачаўся. Дзядзька Пракоп укруціў кнот лямпы, і ў зале як бы змеркласся. Потым зайшоў за грубку, да якой прымыкала наша сцэна, махнуў адтуль рукою, і самаробная, з дзяружак, заслона рассунулася ў два бакі. Першым на сцэну выйшаў я. Усе

засмяяліся, мусіць, з маёй паходкі, а з залы я пачуў словы:

— Лукаш, дый годзе!

Але што гэта? Ніяк не магу вымавіць слова. Дзядзька Пракоп з-за грубкі мне махае рукою і гучней, як трэба, чытае тэкст. Мусіць, думае, што я забыў і не ведаю, што казаць. Я ведаю, але што гэта, быццам хто заткнуў мне рот. Я кашлянуў, і мне здалося, што з горла, нібы з бутэлькі, выскачыў корак... Гаварыць стала лягчэй. Неўзабаве выйшла на сцэну Сынклета — Анастасся Паўлаўна. Мне зрабілася весялей. Я ўжо на яе сварыўся, павышаў голас, ходзячы па сцэне, нават больш, чым трэба, угінаў калені. У зале стаяў рогат, хоць і гаварылі мы не пра смешнае. Людзі смяяліся, мусіць, таму, што пазналі ва мне Лукаша Шульгу...

У самы драматычны момант, калі Нупрэй замахваецца, каб выцяць Сынклету за непаслушэнства, у зале падняўся гэтакі гармідар, што я не чую нават тых слоў, што мне гаворыць Анастасся Паўлаўна. Я зірнуў на людзей, якія захваляваліся, зашумелі, і ўбачыў над галовамі тоўсты, выламаны, мусіць, з плота дручок. Ён як бы плыў над галовамі людзей і раптам замахнуўся і выцяў па лямпе, якая вісела ў зале. Шуганула полымя, людзі валам кінуліся да дзвярэй. Нехта размахваў кажухом, накрываючы чырвоныя языкі полымя. Дзядзька Пракоп выскачыў з-за грубкі і кінуўся ў залу, а мы, як аслупянелыя, стаялі на сцэне, не ведаючы, што рабіць. Я чуў пагрозную, п'яную лаянку:

— Я яму пакажу газету, я яму пакажу, як бацьку прадстаўляць у цііятрах.

Гэта быў голас Сцяпана Касмыля. З дручком у руках Касмыль насоўваўся на сцэну, і ўжо замахваўся ім, відаць, каб выцяць мяне. Але ззаду да яго падскочыў Валодзя Шумаковіч і, ашчаперыўшы рукамі, зваліў на падлогу. Я таксама саскочыў са сцэны. Дзядзька Пракоп спакойна, быццам нічога і не здарылася, развязаў абору, на якой віселі дзяружкі, падышоў да Касмыля, абложанага намі на падлогу, і звязаў яму назад рукі.

— Падлюга кулацкая, гэта табе не на вуліцы разгульвацца,— сказаў ён са злосцю.— Вось гэтак ноч паляжыш звязаным, а заўтра ў Верамеевічы завязём і ў міліцыю здадзім. Ты там павоюеш...

Касмыль не крычаў — ён нема роў, як зацкаваны звер. З кішэні яго пінжака тырчала газета. Я выняў яе, разгарнуў, і мне адразу кінулася ў вочы: «Павук-крывасмок».

Прабег вачыма — надрукавана было не гэтак складна, як я пісаў... Рыфмы мае павыкідалі і напісалі проста, што кулак Лукаш Шульга эксплуатуе батрака Івана Заіку. Пад допісам стаяў подпіс: «Макар Шыянок». Гэта была радасць. Я ўпершыню ў жыцці бачыў надрукаванымі сваё імя і прозвішча...

Але спектакль быў сарваны. Людзі паразбягаліся, асабліва дзяўчаты. Засталіся некаторыя мужчыны. Яны абступілі Касмыля, і кожны хацеў параіць, што рабіць з ім.

— Дайце яму добрую аплявуху, і не трэба ніякая міліцыя.

Але дзядька Пракоп не здаваўся аж да таго часу, пакуль, неяк дачуўшыся пра здарэнне ў школе, не прыйшоў сам Лукаш. Ён спыніўся ля парога, злосна глянуў на сыпка і закрычаў:

— Паганец ты, я да цябе рук далажу... От жа гад печаны, і ў каго ён удаўся, гэтакі выбоіна. Ніяк яму рады не дам... Людзі добрыя, можа, вы яму рады дасце,— звярнуўся ён да ўсіх, кідаючы косым вокам на мяне, бо, мусіць, пазнаў сваю бараду.

— Пракопка, братка, чалавеча,— лісліва залямантаваў перад дзядзькам Пракопам Шульга.— Я тваю ласку век помніць буду, толькі ты не давай мяне ў ганьбу перад цэлым светам. Ні бацька ж мой, ні дзед ні ў паліцыі, ні ў міліцыі не былі.

Дзядзьку Пракопа не расчуліла, вядома, гэтае Лукашова скуголенне, але яму, відаць, не хацелася спрачацца з людзьмі, бо не ўсе ж у Рагазіне правільна зразумелі б яго ўчынак, калі б ён перадаў Касмыля міліцыі. Таму ён сказаў Лукашу:

— Забярыце свайго плюгаўца, і калі ён другі раз так зробіць, то не мінуць яму каталажкі.

— От дзякую табе, Пракопка. Навек помніць буду тваю ласку,— казаў, як маліўся, Лукаш.

А мне шкада было, што сарваўся спектакль, што і на гэты раз марна прапала мая надзея правесці дахаты Марыльку.

## ПУЦЁЎКА КАМСАМОЛА

Час ішоў і ўносіў свае змены ў жыццё. І ў нашай хаце перамянілася шмат чаго. Акурат калі закрасавала вясна, дзед Яўстрат падазрона закашляўся на печы, памучыўся

з тыдзень і пайшоў на той свет. Як чалавек ціха жыў, так яго ціха і пахавалі. Толькі бацька ды я пахадзілі дні са тры з чырвонымі ад слёз вачыма. А потым як бы яно ўсё і забылася, нібы чалавек перасяліўся з мулкага чарана печы ў вузкі і пухкі дол роднай зямлі, якую ён любіў усім сваім нутром і якой ніколі не меў столькі, каб нацешыцца ці каб хоць задаволіцца. У памяці людской засталося толькі дзедава бяскрыўднае блазенства, на якое ён быў добры майстар.

Мачыха тыдні праз два пасля хаўтур сказала бацьку:

— Аж у хаце нашай параскашнела...

Бацька ўзлаваўся за такую памяць аб старым, але прамаўчаў, нібы не зразумеў, на што яна намякала. А я сабе думаў: як жа яно параскашнела, калі ўжо трэцюю калыску Насцечка гушкае, мармычучы сабе пад нос яшчэ не ўсталяваным, дзіцячым голасам: «Спі, мой каток, чырвоны раток». Можа, каму і параскашнела, а мне цесна становіцца. Праўда, мачыха цяпер не бярэцца ўжо за вілачнік, каб выцяць мяне за якую правінку паміж плеч, бо трошкі пабойваецца. Я ўжо ўваходзіў у такую пару юначай сталасці, калі цярпець зняваргу ад другіх было б крыўдным і недаравальным. Да таго ж яна бачыла, што я і здароўем быў не зломак, і ўжо не магла спадзявацца на свой верх нада мною. Гэта яна добра ведала і па тым, што я аднаго разу адвучыў Сцяпана Касмыля кідацца на ўсіх з кулакамі. А ён быў гэтакі — у нядзелю як нап'ецца, дык людзі ўсе ўцякаюць з вуліцы па хатах. Мы з Яўхімкам ішлі з Верамеевіч, і Касмыль нам перагарадзіў дарогу.

— Шантрапа! — дзіка закрычаў ён. — Я вам пакажу! — і кінуўся на мяне з кулакамі. Яўхімка хацеў ужо ўцякаць ад бяды, а я сабе спакойна стаў і гляджу ў вочы Касмылю. Ён замахнуўся і намерыўся ўжо выцяць мяне, але я знячэўку як ламануў яго, дык ён і прысеў на зямлю, не разумеючы, што з ім сталася. А мы сабе як ішлі, гэтак і пайшлі сваёй дарогай.

Праўду сказаць, дык мне ў бацькавай хаце не вельмі ўжо і месца таго многа трэба было. Хіба што зімою я займаў лаву ўначы. А ўлетку і лава была вольная. Я перабраўся спаць пад паветку — там намасціў сабе з сена пасцель, і гэтак жа соладка спалася на ёй, што як ляжаш, дык, здаецца, і не перавернешся на другі бок. І за сталом я не займаў многа месца. Прыладжуся з краю, сербану лыжак колькі і пайшоў сабе на цэлы дзень. Бацька атрос ад мяне рукі, відаць вырашыўшы: няхай хлопец расце са-

мапасам. Але я не рос самапасам. У мяне быў дзядзька Պракоп. Мы з ім цяпер былі ого якія людзі. Я — сакратар камсамольскай ячэйкі, а ён — першы камуніст у нашым Рагазіне. Неяк мы ішлі з ім у Пуцілавік, спыніліся на гарбатым мастку цераз Рагазінку. Дзядзька абапёрся локцямі на парэнчу і доўга задумліва глядзеў удалячынь, а потым, відаць надумаўшы нешта, сказаў мне:

— Ведаеш, хлопча, хто мы з табою?

— Адкуль жа мне ведаць...

— Мы парасткі новага веку. От хто мы з табою!

А можа, і сапраўды мы былі тымі парасткамі, якія, аднойчы ў жыцці прабіўшыся праз заскарузлую скарынку глебы да сонца, ужо ніколі не здадуцца, не схібяць перад непагаддзю, а будуць расці, буяць пад цёплым і ясным сонцам жыцця.

У Пуцілавіку, на Кербічавай зямлі, рабілася незвычайнае. Яе апрацоўвалі не гэтак, як было заведзена дзядамі, а спрагаліся коньмі, ссыпаліся насеннем, хоць і кожны ведаў сваю дзялянку. Дзядзька Պракоп сёлетняй вясною сказаў людзям, каб і гэтых дзялянак не ведаць, а агулам усё рабіць. Некаторыя не згаджаліся, аднак большасць падумала: чаму б не паспрабаваць. Напрадвесні мы з Պракопам паехалі ў Верамеевічы і ўзялі ў крэдыт трыер, тры двухлямешныя плугі, драпач і штук з пяць барон «зігзаг». Калі мы ўсё гэтае дабро прывезлі ў Рагазін і саставілі ля магазіна — адзінай грамадскай будыніны, у якой ссыпалі калісь збажыну на выпадак няўродзіцы,— дык туды насходзілася людзей, як на які кірмаш.

— От бо плугі,— казалі дзядзькі,— па дзве баразны гоняць. Такіх і ў Кербіча не было.

Назбіралі па хатах насення і звезлі таксама ў магазін. Яшчэ на досвітку засакатала машына, парушыўшы рагазінскую застаялую цішыню. Мы з Яўхімкам круцілі ручкі трыера. І гэтак жа нам было хораша і весела, хоць з нас і ліўся цурком пот. Каля трыера за дзень пабывалі ўсе рагазінцы, хіба толькі за выключэннем Лукаша Шульгі. Дык і той не прыйшоў, мусіць, толькі таму, што сам павёз на станцыю млыновыя гарцы. Дзеці не адыходзілі ад машыны, яны раз-пораз падбягалі да мяне з Яўхімкам, просячы падмяніць нас, а то ж мы, маўляў, натамілі ўжо рукі. А старыя дык тыя бралі ў жмені зерне, дзьмухалі на яго, перабіралі пальцамі на далоні, шукаючы, ці не засталося касцяру.

Насенне было чыстае, як вока.

На Кербічава поле навазілі гною з усіх хлявоў, урабілі яго як мае быць, засеялі чыстым насеннем і пачалі чакаць добрага новага ўраджаю.

Лета выдалася спякотлівае. Пасля сёмухі сонца як бы стала на адным месцы і няшчадна смаліла. Здавалася, што ўсё спапялее, згарыць ад гэтакай гарачыні... Рагазінцы занепакоіліся. Старыя пайшлі да верамеевіцкага папа, папрасілі, каб ён адслужыў малебства і вымаліў у бога хоць бы трошачкі дажджу.

У нядзелю яшчэ з самага ранку перад кожны дваром, апрача Пракопавага, стаяў столік, накрыты белым абрусам, з акрайчыкам хлеба. А ў час снедання з грэблі пакалася працэсія. Паперадзе старыя мужчыны неслі прыладжаныя на насілкі абраз, дзеравяны крыж і чатыры пратэсы... Поп з дзякам у рызах ішлі і спявалі, просячы ў бога пасляць дождж на рагазінскую зямлю. Яны прайшлі ўсю вуліцу і выйшлі ўжо на поле, каб пасвяціць яго. Там, у жытным, мы з дзядзькам Пракопам і сустрэлі працэсію. Хацелася пратэставаць супраць гэтага, але чым, мы і самі не ведалі. Таму мы, не скінуўшы шапак і не перахрысціўшыся, прайшлі міма набажэнства. Поп зірнуў на нас з выразнай злосцю ў вачах і нешта спытаў у Лукаша, які ішоў поплеч. Нам было чым пратэставаць, было чым абвяргаць папоўскія казанні — на пуцілавіцкім калектыўным полі рос, аж буяў, ураджай. Ні спёка, ніпгто яго не брала. Мо таму, што пад кіраўніцтвам дзядзькі Пракопа была добра ўраблена зямля, засеяна чыстым насеннем, угноена, дык ярына аж зямлю рвала. Мы падумвалі ўжо, каб да жніва набыць жняярку і конную малатарню. Трэба ж паказаць людзям перавагі калектыўнай працы. Гарбатаму сярпу і пракаветнаму цэпу не павінна быць месца. Мы вырашылі, не адкладваючы надоўга, пакуль не надышло жніво, паехаць у Сельгасснаб і ўзяць у крэдыт гэтыя дзве машыны. А яшчэ мы парашылі: увосень, пасля таго як збяром з пуцілавіцкай зямлі ўраджай, пагаварыць з членамі нашай арцелі, каб абагуліць не толькі панскую зямлю, якую ім дала дзяржава, а і свае палоскі. Гэта, вядома, было нялёгка, і мы не спадзяваліся на вялікі поспех.

Дадому я прыйшоў позна. Бацька ўжо сядзеў за сталом. Ён быў насуплены, узлаваны, глядзеў на мяне і як бы сам сабе нешта гаварыў. Можа б, ён і затаіў, прыдушыў у сабе злосць, калі б не мачыха.

— Дакуль гэта мы будзем цярпець знявагу, дакуль на

нас людзі будуць пальцамі паказваць,— падбівала яна бацьку.

Я не разумеў, у чым справа, чаго хоча мачыха, але бацька ўнёс поўную яснасць:

— Я от цябе навучу, як набажэнства зневажаць... Каб да мяне бацюшка прыходзіў са скаргамі?

— Я і не буду скідаць шапкі перад тым, у што не веру,— смела сказаў я.

— Васіль, ты чуеш, што ён кажа? — ужо ледзь не галасіла мачыха.

Каб не назаляцца ў хаце, я выйшаў на вуліцу і памалу сабе пакрочыў у канец вёскі. На душы была нейкая гарката, і толькі тады, калі я апынуўся ў полі, неяк весялей стала, і я прайшоў да Рагазінкі не дарогай, а вытаптанай вузкай сцяжынкай, якая вілася між чэзлага жыта. Вечар быў ціхі, месячны. Над вёскай вісела заслона пылу. Нават прыход вечара не ахаладзіў угрэтую за дзень зямлю, і яна дыхала парнай цеплынёй. Я надумаў пакупацца ў Рагазінцы, а потым вярнуцца ў сваю пасцель пад паветкаю і без вячэры заснуць, каб пераспаць бацькаву злосць. Бацька ў злосці быў чалавек не зацяты — наадварот, вельмі адыходлівы. Хіба от толькі мачыха не адыдзе і на другі дзень. Але што мне яна! Гэтак думаючы, я ўзышоў на гарбаты масток, успёрся локцямі на парэнчу і ўглядзеўся ўдалячынь. Месяц ліў сваё срэбра, і рэчка здавалася бліскучым паскам, разматаным далёка-далёка, аж туды, дзе на краі пуцілавіцкай зямлі чарнеў альшэўнік. З самага краю ён быў чэзлы, толькі прыкрываў куп'істы выган, а далей гусцеў і пераходзіў ужо ў чарналессе, якое цягнулася нават і не ведаю куды. Люблю я гэты свой палескі ціхі край. Але што за дзіва — з дарогі, якая бегла з Пуцілавіка на масток, пачулася чалавечая хада. Я азірнуўся і заўважыў постаць. Яна спынілася на момант, відаць убачыўшы мяне, а потым, як бы набраўшыся рашучай адвагі, нават прыспешыўшы хаду, набліжалася да мастка.

Ды гэта ж жанчына! Ды не, не жанчына — гэта ж Марылька. Яна, мусіць, пазнала мяне, бо на твары ў яе здзіўленне і ўсмешка, але не такая ўсмешка, калі паказваюцца на шчоках ямачкі, а стрыманая.

— Чаго ты тут стаіш, Макар? — спытала яна нават не прывітаўшыся.

— Калі я скажу, што цябе чакаю, ты ж не дасі веры.

— А я думала, што Касмыль стаіць...

— Дык чаго ён будзе тут стаяць?

— Ён ведаў, што я пайшла да цёткі ў госці. Ён жа мне быту не дае. Кажа: «Давай будзем гуляць з табою, Марылька».

— А ты што яму кажаш?

— На ліха ён мне здаўся, гэтакі пракурат,— сказала Марылька, і ў мяне павесялела на душы.

— Дык я цябе правяду, каб ты не баялася,— прапанаваў я.

— Не трэба, Макарка,— замахала рукамі Марылька,— а то яшчэ хто ўбачыць, дык што тады будзе...

— Нічога не будзе...

— Мы ж яшчэ невялікія, каб праводзіцца,— сказала неяк лагадней дзяўчына, і я ёй параіў:

— А мы не пойдзем у вуліцу, а па загуменню, дык ніхто і не ўбачыць...

— Хіба што!..

Марылька не хацела ісці сцяжынкаю, па якой я прыйшоў на мост, але я сказаў, што па дарозе можа хто-небудзь ехаць ці ісці і пабачыць нас, і яна згадзілася. Жыта неяк таямніча шумела, і пад гэты пошум мне хацелася сказаць Марыльцы нешта такое, што б яе здзівіла, уразіла, усхвалявала, але замест гэтага я спытаў:

— Дык чаго гэта ты так позна загасцявалася ў цёткі?

— Цётка не хацела мяне пускаць, казала, каб я заначавала. Дык работы цяпер дома вунь колькі.

А я ў душы рады быў, што сустрэў Марыльку. Я ішоў следам за ёй і глядзеў на яе доўгія косы, якія як бы знарок выбіліся з-пад хусткі і ляжалі на яшчэ вузкаватай дзявочай спіне; на стройны стан, шчытна абцягнуты белай паркалёвай блузкай. І мне гэтак захацелася прыхінуцца бліжэй да Марылькі. Я параўняўся з ёю і памкнуўся ўзяць дзяўчыну пад руку, але яна, нібы спалохаўшыся блізкасці, сказала:

— Макарка, не трэба, а то яшчэ хто пабачыць, што мы з табою ідзём пад ручку.

Але я ўжо не слухаў Марыльку і прыціснуў да сябе яе цёплую руку. Ішлі мы моўчкі аж да самага іхняга гумна. Я хацеў правесці Марыльку цераз агарод да самай хаты і там, можа, нават яшчэ крыху пастаяць з ёй, але яна сказала:

— Не трэба, Макарка... Няхай другім разам. Дзякуй, што правёў.— І знікла ў агародных вішняковых зарасніках. Я доўга яшчэ стаяў, слухаў яе крокі, глухаваты скрып брамкі, бразгат сенечнага слісака.

Дадому я пайшоў зноў па загуменню. Тут было бязлюдна, ціха, і можна было думаць колькі табе хочацца.

Назаўтра мы з дзядзькам Пракопам паехалі ў Верамеевічы набываць жняярку і малатарню, бо збажына на пуцілавіцкім полі ўжо налілася золатам і яе трэба было даводзіць да ладу. Нам жа хацелася, каб арцельшчыкі пабачылі, як добра працаваць машынамі, і можа б задумаліся над тым, каб зрабіць поўную арцель, уліўшы ў яе і тыя свае палоскі, з якімі яны пакуль што не хацелі развітвацца. У Сельгасснабе спраў было багата, і я сказаў дзядзьку Пракопу:

— Пакуль вы тут будзеце афармляць, дык я схаджу ў райком камсамола.

Ветла мяне сустрэў Валодзя Шумаковіч. Ён з таго часу, як я яго ведаю, пашырэў у плячах, нават крыху пацямнела яго чупрына, зрабіўся больш сталым чалавекам. «Не казаў бы то выбіўся ў начальства»,— падумаў я сам сабе, але ў гэты момант на Валодзевым твары з'явілася ўжо знаёмая мне гарэзлівая юначая ўсмешка. Валодзя працягнуў абедзве рукі, як бы хочучы абняць мяне, і пайшоў насустрач, кажучы:

— А, рагазінскі артыст. От добра, што ты сам зайшоў, а то я хацеў ужо выклік табе пасылаць. Хадзем, хадзем да мяне ў пакой.

— Навошта я табе так спатрэбіўся?

— Ёсць, браток, справа,— зачыняючы за сабой дзверы пакоя, гаварыў Валодзя.— Ты хочаш вучыцца? — як бы збіваючы мяне з панталыку, запытаў Валодзя.

Я не ведаў, што адказаць, бо не ведаў, дзе і як вучыцца.

— Колькі ты класаў скончыў? — пытаў далей Валодзя.

— Можна сказаць, прайшоў тры класы і адзін калідор,— паспрабаваў я пажартаваць, але Валодзя сур'ёзна ўжо сказаў:

— Я табе не на жарт кажу. Нашаму райкому далі два месцы на рабфак. Дык от мы тут параіліся і вырашылі, што ты якраз падыдзеш.

У мяне ў галаве ўсё гэта не месцілася, і, баючыся, каб не сказаць чаго-небудзь недарэчнага, прамовіў:

— Я даўно хачу, але як жа. У бацькі не вельмі выстачае, каб вучыць мяне.

— Дзівак ты. Дзяржава цябе будзе вучыць. Абуваць і апранаць будзе, ты толькі вучыся.

Мне захацелася абняць Валодзю і шчыра-шчыра падзякаваць яму, але я стрымаў сябе і амаль афіцыйна сказаў:

— Ну, то калі так, дык чаму ж не павучыцца.

— Дык от што, дружа, за гэты месяц, які застаўся да экзаменаў, ты падвучыся, а мы табе дадзім камандзіроўку, і паедзеш у горад.

Я адразу не мог усяго гэтага ацаніць і вельмі на сябе наракаў, што халаднавата развітаўся з Валодзем, што нават у поціску маёй рукі ён, магчыма, не адчуў удзячнасці. Але з райкома камсамола я ўжо не ішоў, а нібы ляцеў да фурманкі, на якую быў пагружан прывод ад малатарні. Дзядзька Пракоп даўно ўжо чакаў мяне.

— Дзядзечка,— закрычаў я і кінуўся да яго.

— Чаго ты, як аглашэнны які! — не разумеючы маёй радасці, сказаў дзядзька Пракоп.

— Дык вы ж не ведаеце, мяне хочуць паслаць вучыцца на рабфак!

Дзядзька на момант задумаўся, нібы ацэньваючы пачутае, а потым спакойна і разважліва сказаў:

— Гэта, хлопча, добра. Дай бог і нашаму цяляці ваўка з'есці.

— Толькі от Валодзя кажа, што трэба крыху падвучыцца перад тым, як ехаць паступаць.

— Дык гэта мы зробім. Цяпер Анастасся Паўлаўна нічым не занята. Яна цябе падвучыць. Ты хлопец з галавой,— заключыў дзядзька Пракоп.

Усю дарогу мы ехалі моўчкі. Дзядзька Пракоп спрабаваў загаварыць са мною, але я быў апанаваны думкамі і не вельмі слухаў яго гаворку. Чаго я толькі не перадумаў за гэтую кароткую дарогу. А як жа быць з Марылькай? Яна ж такая прыгожая, такая харошая, і толькі што пачыналі ўсталёўвацца ў нас з ёю нейкія адносіны, як на табе — трэба развітвацца. Але я за дарогу надумаў — скажу ёй: «Марылька, любая, ты тут колькі год пабудзеш без мяне, а потым я вывучуся, і якім шырокім стане для нас з табою свет». Рупіла мне і тое, што не было чаго нават надзець, абуць. Не паеду ж я ў гэтым каляным шарачку людзей смяшыць. Зноў жа такі — як тут дзядзька Пракоп будзе адзін без мяне! Перад тым як развітацца, дзядзька Пракоп сказаў:

— Дык ты, хлопча, заўтра прыходзь да Анастассі Паўлаўны падвучыцца. Я сёння з ёй дамоўлюся.

Дома я не адважыўся адразу сказаць пра ўсё гэта, ды і бацькі не было яшчэ ў хаце. А мачысе навошта выказваць сваю радасць? Яна ўсё роўна не зразумее.

Бацька прыйшоў з поля, як заўсёды, узлаваны. Я разумеў, што прычынай усіх неладоў у хаце з'яўляюся я. Мне рабілася крыўдна і балюча не за сябе, а больш за бацьку.

— Тата, а што, калі я ад вас паеду? — спытаў я асцярожна, калі селі вячэраць.

— Куды гэта ты паедзеш?

— Паеду, дый усё.

Бацька падумаў крыху і адказаў прымаўкай:

— З богам, Параска, калі людзі знайшліся.

— Так, тата, знайшліся людзі, дый добрыя,— горача ўжо гаварыў я.— Мяне пасылаюць вучыцца на рабфак.

Я бачыў, як павесялела мачыха, бачыў, як засмуцілася Насцечка, як разгубіўся бацька, нібы яму трэба было от зараз жа адсекчы свой палец і выкінуць. Бацька пачаў распытваць, як і што.

— Толькі от у мяне няма ў чым ехаць,— выказаў я сваю крыўду.— Не паеду ж я ў гэтым шарачку ды ў лапцях у горад.

Бацька задумаўся на момант, а потым, як бы прыняўшы рашэнне, сказаў:

— Там у куфры ляжаць чаравікі тваёй нябожчыцы маці. Яны табе цяпер будуць якраз па назе. Ды бурнос матчын перашыем. А ты, Вара,— звярнуўся ён ужо да мачыхі,— вазьмі сувойчык тонкага палатна ды занясі Ладымеру, няхай ён на машыне пашые штаны і сарочку, ды пафарбуй яшчэ, от яму і будзе што надзець.

Мачыха прыняла гэтае бацькава распараджэнне не вельмі з вялікай ахвотай. На тое дабро, што засталося пасля маёй маці, яна мела свой разлік: вырасце Насцечка, дык каб яно ўсё, тое дабро, з куфрам нават, пайшло ў пасаг ёй. Усё-такі не трэба будзе траціцца ■ гаспадаркі. Яна запярэчыла бацьку:

— Дык навошта яго псаваць, дабро. Няхай бы яно засталося Насці. Яе ж давядзецца аддаваць замуж, дык дзе ты яго тады возьмеш.

— Калі тое яшчэ будзе, а цяпер не пашлеш жа ты хлопца ў світцы,— рашуча сказаў бацька, і мачыха больш не адважылася пярэчыць.

Я быў удзячны бацьку за яго гэты, хоць бы невялікі, клопат пра мяне.

У жніўныя дні, калі на вуліцы не было відаць ні душы — усе людзі былі ў полі,— я хадзіў да Анастассі Паўлаўны. У яе невялічкім садку, у густой засені вішняку я забіў у зямлю чатыры калы, паклаў на іх дошкі, і атрымаўся неблагі стол, пры якім была зроблена лавачка. На гэтай лавачцы мы і сядзелі амаль цалюткія дні. Я ўжо вывучыў працэнты, дзесятковыя дробы і нават сёе-тое з алгебры. Астатняе я і так ведаў няблага. Увечары звычайна ў садок заходзіў дзядзька Пракоп і пытаў у Анастассі Паўлаўны:

— Ну, як тут мой студэнт?

— Нішто сабе,— адказвала настаўніца.— З яго будзе чалавек.

Я глядзеў на гэтых ужо немаладых людзей і заўважаў, як у дзядзькі цяплеў позірк, як Анастасся Паўлаўна, нібы дзяўчынка, саромелася. А яна ж не Марылька, якая яшчэ нічога не бачыла на сваім вяку. Ёй давялося ўжо зазнаць і гора і, можа, радасці. Яе муж не вярнуўся з вайны, і яна пры дваіх дзецях засталася ўдавою. Дзецям таксама не суджана было пакрасавацца ў жыцці — яны памерлі ад тыфусу ў час галадоўкі. Дык, можа, і добра, што Анастасся Паўлаўна прыехала да нас, у Рагазін. Можа, яна тут і знойдзе сваё шчасце? Ды пэўне, што знойдзе. Вунь жа як яны з дзядзькам Пракопам адно аднаму ўсміхаюцца, аж мне робіцца ніякавата, і я адчуваю сябе тут лішнім. Таму хуценька збіраю свае кніжкі і ўстаю, каб пайсці ўжо, але дзядзька Пракоп мяне пытае:

— Ты куды, хлопча?

— Пайду вучыць урокі. Мне Анастасся Паўлаўна многа задала,— кажу я яму.

— Вы не вельмі нагружайце яго воз. Малады яшчэ ён, жылы парве,— жартам раіць дзядзька Пракоп настаўніцы.

— Не парве, ён хлопец цягавіты, з галавою,— таксама жартам адказвае дзядзьку Пракопу Анастасся Паўлаўна.

Але я ўжо даю ім дабранач і знікаю за веснічкамі. Яны застаюцца ў густым лапушыстым вішняку на маёй лавачцы. Як я ім зараз зайздрошчу! Каб мне гэтак хоць раз давялося пасядзець з Марылькай.

Амаль подскакам бягу па вуліцы дадому і кніжкі трымаю пад пахаю гэтак, каб іх усе бачылі, каб бачыў іх і Лукашоў Дамец, які звычайна ў такую пару сядзіць на лавачцы ля свайго абмураванага цэглаю дома. Няхай гэты кулацкі недаврак у чорных навыпуск штанах і ў бліскучых чаравіках пазайздросціць мне. Я буду вучыцца,

а яго вытурылі са школы, бо наша дзяржава і не думае вучыць кулакоў на сваю галаву...

Час ішоў неўзаметку, хутка-хутка. Яшчэ нядаўна на вішняку, у засені якога мы з Анастассяй Паўлаўнай сядзелі цэлымі днямі, віднеліся вішанькі-зялепухі, а цяпер яны аж чорныя. Ды ўжо і на пуцілавіцкім полі збажына як сонцам аблітая. Гсёння дзядзька Пракоп вывеў на загоны жняярку. Я не ўтрымаўся ад спакусы пайсці і паглядзець, як яна працуе. З самай раніцы яе голас далятаў да рагазінскіх хат, і, калі я ішоў у Пуцілавік, мне здалёк не відаць было ні людзей, ні коней, адно толькі ў золаце збажыны махалі крылы жняяркі. Мне чамусьці ўяўлялася, што гэта не машына, а птушка, якая вось гэтак размахаецца крыламі, а потым узляціць і падымецца ў неабсяжную вышыню блакітнага неба.

Для рагазінцаў жняярка была дзівам. Нават у пана Кербіча не было такой машыны, і таму на загоны прыйшлі не толькі жанкі, якім трэба было ўбраць ураджай з калектыўнага поля, але і тыя рагазінцы, каму там не было чаго рабіць. Іх прывяла туды ненасытная чалавечая цікаўнасць. Прывяла яна і мяне на пуцілавіцкія загоны, хоць мне і трэба было ўжо быць у Анастассі Паўлаўны, здаць ёй апошні свой урок і, як яна казала, паспяхова скончыць курс навукі. У мяне ўжо ў кішэні ляжала паведамленне з рабфака аб тым, што я дапушчан да іспытаў, на якія павінен прыехаць у сярэдзіне жніўня. У ім, у тым паведамленні, пісалася, што трэба мець пры сабе пашпарт, а калі няма яго, дык даведку ад сельсавета. І я ішоў да жняяркі не толькі з адной цікаўнасці паглядзець, як працуе машына, але і пабачыць там старшыню сельсавета і дамовіцца наконт даведкі, калі і як яе ўзяць.

Дзядзька Пракоп сустрэў мяне радаснай усмешкаю.

— От, хлопча, наша бярэ верх! — выгукнуў ён, убачыўшы мяне. А потым, на момант задумаўшыся, спытаў: — А ты чаго сюды прыйшоў? Хіба ў цябе работы няма?

— Я прыйшоў наконт даведкі да старшыні сельсавета.

— Дык хіба табе старшыня на полі даведкі будзе даваць... Ідзі, ідзі вучыся, каб не схібіў там, у горадзе,— праганяў мяне дзядзька Пракоп,— а тут і без цябе ўпраўка будзе.

Старшыня сельсавета сказаў мне, каб я прыйшоў па даведку пасля нядзелі, бо сёння наўрад ці будзе ён у кан-

цыляры. Ды і сакратара няма, у яго заўтра вяселле, і дзе яму там уседзець у такі час у канцыляры.

Дома ў мяне было ўжо ўсё гатова да ад'езду: Ладымер пашыў з матчынага бурноса добрае, на кудзелі, паліто, з тонкага кужэльнага палатна — штаны і кашулю, а каб яны не пэцкаліся, дык мачыха іх выварыла ў альховай кары і яны сталі рудымі. Здалёк дык нават нельга было разабраць, ці то пашыты яны з купленай матэрыі, ці з саматканай. Зрабіў я сабе з выгаблеваных тонкіх шалёўчын невялічкі куфэрак, вечка якога знізу абклеіў папераю, а звонку пафарбаваў увесь ружовай фарбаю, прыбіў невялічкі прабойчык і павесіў замок, які мачыха зняла са свайго куфра і аддала мне: маўляў, цяпер не будзе каму лазіць у яе дабро, дык можна і не замыкаць. Замок быў велікаваты і псаваў выгляд куфэрка, але зрэшты хіба гэта вельмі важна — абы ніхто не мог улезці ў мой нажытак.

У нядзелю я надзеў новую вопратку і пайшоў па загумені, спадзеючыся дзе-небудзь сустрэць Марыльку, каб перакінуцца з ёй словам. Аднак яе не было сярод дзяўчат нават на вяселлі, на якое я таксама зайшоў у надзеі знайсці дзяўчыну там. Мусіць, зноў пайшла да цёткі ў госці? А мне так хацелася з ёй пабачыцца і пагаварыць.

У панядзелак я не ўзяў даведкі, бо сельсавет быў на замку: старшыня гуляў на вяселлі ў свайго сакратара, і толькі на другі дзень яшчэ амаль на світанні я яго заспеў дома, папрасіў, каб ён абавязкова выдаў даведку, бо мне няма як бавіцца, трэба ехаць. Мы пайшлі ў сельсавет. Старшыня напісаў даведку, паставіў у левым ражку штамп, а потым, нечага пашукаўшы ў скрынцы стала, сказаў:

— Ведаеш, хлопча, ты схадзі да сакратара дадому, пячатка ў яго... А ён сёння наўрад ці прыйдзе... Ды я там і сам, мусіць буду...

У сакратаровай хаце, за састаўленымі ўпрытык двума сталамі, было поўна гасцей. Гэта, мусіць, былі тыя, хто ў першыя дні не гуляў на вяселлі. На самым покуці, поруч з маладым, сядзеў старшыня, поплеч яго дзядзька Пракоп і Анастассея Паўлаўна, а акурат насупраць дзвярэй — Сцяпан Касмыль. Вочы яго былі вырачаныя, чырвоныя, відаць, што галава ўжо кружылася. Я зірнуў на яго і падумаў: «Чаго ён сюды прывалокся, ён жа ніякі тут ні брат, ні сват». Малады вылез з-за стала, запрашаў мяне, каб я прысеў — аддаў яму чэсць. Я збянтэжыўся ад гэтакай нечаканасці і наадрэз адмовіўся, спасылаючыся на тое, што

мне няма часу — там ужо бацька каня запрагае, і трэба ехаць. От толькі засталося пячатку прыкласці да даведкі. Дзядзька Пракоп пачаў таксама запрашаць мяне, але я быў няўмольны. Я падаў даведку сакратару. Ён, адгробшы са стала закусь, дастаў з кішэні мяшэчак з пячаткаю, пачаў на яе хукаць, каб прыставіць да паперкі. Але ў гэты момант яшчэ больш вырачыў вочы Касмыль і закрычаў:

— Дык ты, шантрапа, і людской ласкі не хочаш прыняць! Галетнік ты, селькор, я от табе пакажу,— і над яго галавою ўзвілася поўная пляшка самагонкі. Я інстынктыўна прыгнуўся, і яна, прасвістаўшы над галавою, трахнулася аб вушак дзвярэй і разляцелася пырскамі пітва і шкла па ўсёй хаце. Касмыль схапіў ужо другую пляшку, каб абавязкова ўцэліць у мяне, але ў гэты момант яго схапілі за руку старшыня сельсавета з дзядзькам Пракопам і абложылі на падлогу. Ён стагнаў, кусаўся, як той япрук, якога вось-вось павінны закалоць. Мы з дзядзькам Пракопам і Анастассяй Паўлаўнай хуценька пайшлі з хаты. Відно было, што разышлася і ўся сакратарова бяседа.

А тым часам бацька бегаў па хатах, каб дзе пазычыць калёсы на жалезным ходу. Нашы калёсы былі на дзеравяных восях, і калі на іх ехаць па пяску, дык колы, як тыя жорны, меляць пясок, і каню вельмі цяжка везці. Звычайна бацька пазычаў у Лукаша. Ён пайшоў і сёння да яго, але той спытаў:

— Навошта, Васіль, табе калёсы?

— Трэба ж хлопца завезці на станцыю. Вучыцца ж едзе ў горад.

Лукаш падумаў, усміхнуўся хцівай усмешкай і адказаў:

— Калі б табе самому куды ехаць, дык можа б яшчэ і даў. А гэтага шыбеніка везці не дам.

Ліха з ім, што ён не даў. Бацька ўсё адно пазычыў у Яўхімкавага бацькі. Калі я ўвайшоў у двор, калёсы ўжо былі запрэжаны, намошчаны сенам і нават накрыты старой дзяружкай. У перадку стаяў мой ружовы куфэрак.

— Дзе ж гэта ты так забавіўся? — сустрэў мяне запытаннем бацька.

Дзядзька Пракоп расказаў, што адбылося ў сакратаровай хаце, і бацька, відаць узлаваўшыся, сказаў:

— От, каб яго двор згарэў. Дакуль на гэтага кулацкага вылюдка ўправы не знойдуць?

На развітанні ўсе плакалі, нават мачыха і тая слязу пусціла, хоць я не вельмі верыў гэтай слязе. А Насцечка

дык ледзь не крычала. Я з усімі пацалаваўся: з Насцечкай, з малымі. Нарэшце і мачыха ўляпіла мне ў лоб пацалунак. Не хапала толькі аднаго пацалунка — Марыльчынага. А як бы я хацеў адчуць цеплыню яго!

Ехалі мы па загуменню. На возе сядзелі бацька за фурмана, дзядзька Пракоп, Насцечка і Яўхімка. Яны паселі, каб правесці мяне да шляху.

А вось і гумно Марыльчынага бацькі і той густы вішняк, ля якога мы тады развіталіся з Марылькай. Хоць бы адным вокам пабачыць яе. Я ўглядаюся на дарожку, што ідзе паўз гумно да Марыльчынай хаты. Там нікога не відно. Але вось я ўскінуў вочы на вішняк і на самым высокім дрэве заўважыў яе, Марыльку. На галаве ў яе быў сінісіні васільковы вяночак. Я глядзеў на дарогу, і мне здалося, што я ўбачыў на яе вачах дзве бліскучыя каралінкі слёз. Хацелася крыкнуць:

— Марылька, любая, бывай!..

Але я пасаромеўся гэтак крыкнуць. Здалёк мне відно было, як Марылька з вішні махала рукой. І я, так, каб ніхто не ўбачыў, адказваў ёй тым жа самым. Як мне ў гэты момант не хацелася пакідаць Рагазін! Як мне хацелася быць зараз у тым вішняку!

## ЯК ЗНАХОДКА

Над гэтым горадам я не лятаў на самалёце, не лазіў на самую высокую гару, каб яго ўвесь пабачыць і апісаць, які ён. З вагона, калі пачалася сумятня пасажыраў, я выйшаў, а больш правільна, не выйшаў, а мяне вынес натоўп, і апынуўся я ў вірлівай людской гушчыні. Ніколі я не бачыў столькі людзей і таму адчуў сябе нейкім маленькім-маленькім. Да таго ж гэтыя мураваныя гмахі. Ты ідзеш паўз іх і сам сабе здаешся драбнюткай мошачкай. На высокіх рыштаваннях новага дома працуюць людзі. Ім, бадай, і ўвесь горад адтуль відаць. А я толькі бачу перад сабою адну прамую вуліцу. Удалечыні яна звужаецца і зусім сыходзіць на клін. Я пытаю ў сустрэчнага чалавека:

— Як тут трапіць на Пралетарскую вуліцу?

Ён аглядае мяне з галавы да ног і чамусьці затрымлівае позірк на нагах. Я сам гляджу на матчыны чаравікі і толькі цяпер заўважаю, што наскі ў іх пазакручваліся, як

арліныя дзюбы. Калі б чалавек яшчэ з хвіліну гэтак моўчкі паглядзеў на мае чаравікі, дык можа б чырвань сораму кінулася мне ў твар, але ён зірнуў мне ў вочы і спытаў:

— Дык табе трэба на Пралетарскую?

— Так.

— Ідзі, хлопча, от гэтак проста па вуліцы, а там вунь, бачыш, цямнецца парк, дык там крыху збочыш направа, то і будзе Пралетарская.

— Можа, вы ведаеце, дзе там рабфак? — асмялеў я.

— От там і рабфак. Пойдзеш паўз паркавую сцяну і там пабачыш па правую руку будынак на тры паверхі, дык то і будзе рабфак... Ды там напісана,— сказаў чалавек, яшчэ раз зірнуў на мае чаравікі і пайшоў сваёй дарогай.

Але што гэта? Чаго мне так у руках лёгка? А дзе ж мой куфэрак? Я кінуўся бегчы назад на вакзал, у той вагон, у якім я паставіў пад лаўку свой ружовы куфэрак. Паставіў і забыў у сумятні. От галава! Шмыгаючы паміж людзьмі, я дабег да дзвярэй, але тут пачуў грубы голас:

— Вам куды, грамадзянін?

Я павярнуўся на гэты голас і ўбачыў чалавека ў чорным адзенні, у шапцы, на аколышы якой віднеліся перакрыжаваныя ключ і малаток.

— Пусціце мяне, дзядзечка, я забыў у вагоне свой куфэрак,— слёзна прасіў я чалавека.

— Якога цягніка?

— Што з Хвойнага прыйшоў...

— Дык куды ж я цябе пушчу! Дзе ж ты яго знойдзеш? Той састаў ужо ў парк загналі,— амаль афіцыйна тлумачыў мне чыгуначны службовец. Відаць убачыўшы маю збянтэжанасць, разгубленасць, ён ужо больш ласкава параіў:

— Дык вы от што, грамадзянін, напішыце заяву, што забылі ў вагоне свае рэчы, і іх вам вернуць. У нас, на чыгунцы, нічога не прападае,— сказаў ён так упэўнена, што я на момант нават паверыў. Потым службовец паклікаў чалавека ў такім, як і сам, адзенні і сказаў, каб той мяне завёў і паказаў, каму падаць заяву.

Я сядзеў за сталом у нейкай бакоўцы і старанна апісваў свой куфэрак, яго прыкметы, што ў ім захавана. Пісаў, а сам сабе думаў: «Вядома, не знойдзецца, бо недарма ж кажуць — што з воза ўпала, тое прапала».

Шукаць рабфак я пайшоў улегцы, без куфэрка. Шкада мне было не самога куфэрка, я мог бы яшчэ сабе такі зрабіць. Я шкадаваў прыпасу, які быў там наладаваны,— два

добрыя, можа, больш як па фунту, кускі сала, два боханы хлеба і яшчэ тое-сёе.

Па вуліцы ад вакзала да рабфака я ішоў, апанаваны одумам, узрушаны тым, што адбылося. На тратуары было поўна людзей, і я цаляў ісці абочынай, каб ні за кога не чапляцца, нікога не пхаць, бо людзі вельмі ж неяк скоса пазіралі на мяне. Ці я гэтакі цельпухаваты, ці што — цяжка неяк размінуцца з чалавекам, каб не пхнуць яго. Таму я зусім выйшаў на брук і толькі цяпер заўважыў, што чаравікі мае, ці то таму, што яны пассыхаліся, гэтулькі год лежачы ў куфры, ці наогул у іх такая ўдача, стукацяць, грукацяць, як бляшаныя... Я выйшаў на абочыну бруку і пайшоў па мяккай зямлі, каб не рабіць грукату.

Чалавек мне праўду сказаў, хоць я і не зусім яму верыў. Дайшоўшы да парку, я павярнуў крыху направа, перайшоў бетонны мост з жалезнымі кратаванымі парэнчамі і пашыбаваў паўз пабеленую мураваную сцяну парку. А вунь жа і той будынак на тры паверхі. Белы, як голуб, і гэтакі, здаецца, лёгкі-лёгкі, што нібы ён не на зямлі стаіць, а вісіць у паветры.

У калідорах — людзей-людзей. А колькі іх стаіць ля дошкі, павешанай на сцяне. Усе нечага шукаюць. Падышоў і я туды зірнуць, аж бачу — гэта спісы дапушчаных да іспытаў. Шукаю сябе і знаходжу ў самым канцы аркуша: «Шыянок Макар». Павесялела на сэрцы. Значыць, ведаюць, што я павінен прыехаць. Не забылі! От малайцы!..

У канцылярыі паглядзелі на маё пасведчанне, выдадзенае Рагазінскім сельсаветам, і нейкі чалавек завёў мяне цераз вуліцу ў зеленаваты драўляны аднапавярховы дом, адчыніў дзверы невялічкага пакоя і сказаў:

— Вось тут вы будзеце і жыць,— і, паказаўшы на адзін з трох жалезных ложкаў, дадаў: — Займеце гэтае месца!

А потым спытаў:

— А дзе ж вашы рэчы?

— На вакзале,— адказаў я і ўспомніў пра свой куфэрак, пра добра прасоленае, аж трошачкі жаўтаватае, сала, і мне гэтак захацелася есці. Ды дзіва што, як дома пад'еў, дык у роце яшчэ і макавага зярняткі не было. А ўжо, дзякаваць богу, пад поўдзень бралася. Калі той чалавек, што прывёў мяне ў пакой, выйшаў, давялося скідаць пінжачок, адпорваць прышытую мачыхай кішэньку і даставаць тыя дзесяць рублёў, якія бацька даў на разжытак.

Іспыты я вытрымаў вунь як! Анастасся Паўлаўна доб-

рая настаўніца. Па матэматыцы, па літаратуры, і па ўсім я ведаў нават больш, чым пыталі. Аднак настрой у мяне быў не вельмі добры: канчаліся грошы, якія мне бацька даў. Я ўжо еў адзін раз на дзень, ды і то скупа. Можна было яшчэ на які тыдзень паехаць дадому, але ў мяне ўжо не было грошай нават на білет. А ісці пехатою, то хіба блізкі свет? Я цэлымі днямі хадзіў паўз магазіны, паўз сталоўкі і на ўсе грудзі ўдыхаў пахі смажаніны. Але ад гэтага яшчэ больш хацелася есці. Аднаго разу неяк нават забрыў на рынак. Чаго там толькі не бачыў я: варанае і паранае, смажанае і вэнджанае. А ў мяне ў кішэні былі апошнія пяцьдзесят капеек срэбрам. Я іх увесь час намацваў рукою, каб хоць не згубіць. Нейкая бабулька заўважыла мой прагавіты позірк і гукнула:

— Хлопча, от макаўкі, сытныя, смачныя, наедак — лепшага не трэба.

— А пакολькі ж яны? — спытаў я.

— Дзешава і ў руку — па дзесяць капеек за штуку,— праспявала сіпаватым голасам старая і працягнула мне макаўку. Я выняў з кішэні дзесяцікапеечны круглячок і падаў ёй.

А макаўка сапраўды была смачная. Зробленая на манер перніка, склееная, можа, нават мёдам, яна, здавалася, сама раставала ў роце. Я нават і не заўважыў, як усе мае пяць дзесяцікапеечных срэбных круглячкоў расталі ў кішэні. Хоць бы адна капейчына на завод засталася. Дык у кішэні нічога няма і ў жываце пуста, адно толькі на языку яшчэ трошачкі адчуваецца саладкаваты смак макавага перніка.

У інтэрнат прыйшоў я апанаваты яшчэ большым одумам: што рабіць, як жыць? Была надзея, што, можа, пашчасліўціцца вытрабаваць на вакзале куфэрак. От бы ўжо наеўся сала з хлебам, няхай сабе хоць з чэрствым, абы ў жываце не бурчала. Кожны ж чалавек, асабліва ў цяжкую гадзіну, чапляецца за надзею, як за ратунак, хоць не вельмі і спадзяецца на яе.

Сон прыйшоў не адразу. З парку чулася духавая музыка, і яна не заспакойвала мяне, а нібы пілавала, рэзала тупым зуб'ем мой спакой. Ды і сон быў неспакойны: усю ноч мне трызніўся куфэрак. Здаецца, яго прынёс дзядзька Пракоп, паставіў ля майго ложка і сказаў:

— Не будзь разявакам.

Я прачнуўся і падумаў: як мне не хапае зараз дзядзькі Пракопа — ён бы знайшоў рады.

Калі ўжо добра ўгрэла сонца, я выйшаў на вуліцу, маючы намер пайсці на вакзал вытрабоўваць куфэрак. Ішоў я не спяшаючыся, бо не было чаго і куды спяшацца. Да пачатку заняткаў заставалася яшчэ з паўтыдня. У інтэрнаце людзей было мала, нават не было з кім пагаварыць, парадзіцца. Ідучы, разглядаў шыльды, надпісы, указальнікі. І вось на адным двухпавярховым доме ля самых дзвярэй я прачытаў: «Рэдакцыя газеты «Новая вёска». Мне цюкнула ў галаву зайсці туды, хоць паглядзець, што там за рэдакцыя. Я адчыніў дзверы і загрукаў матчынымі чаравікамі па сходцах лесвіцы на другі паверх. Пры дзвярах за сталом сядзела дзяўчына. А валасы ў яе — што за валасы. Закручаныя кудзеркі, як у маладога баранчыка. Яна ўскінула на мяне вочы і спытала:

— Вам каго, таварыш?

— Ды так от,— не знайшоўся я, каб сказаць, што мне тут трэба.

— Можа, допіс прынеслі? Дык вунь з калідора направа дзверы, там аддзел пісем.

— Ды не, я цяпер не напісаў... Я раней пісаў з вёскі,— казаў я, як мне здавалася, абы-што.

Можа б, я і не вытрымаў дзяўчынінага допыту, калі б не адчыніліся дзверы і ў пакой не ўвайшоў чалавек. Ён, не зірнуўшы на мяне, спытаў у дзяўчыны:

— Валя, гранак яшчэ не было?

— Не, не прыносілі, Мацвей Кірылавіч. Я зараз пазваню, каб прынеслі,— і яна хуценька схапілася за трубку тэлефона.

Дзіва, дый годзе — гэта ж, мабыць, той чалавек, у якога я пытаў дарогі.

Ён зірнуў на мяне і з ласкавай усмешкай пайшоў да крэсла, на якім я сядзеў.

— А-а... старыя знаёмыя зноў сустракаюцца. Ну як, знайшоў тады рабфак?

— Знайшоў, дзякую,— сказаў я не тое, што думаў, бо мне хацелася сказаць: «Рабфак то я знайшоў, ды куфэрак згубіў».

А Мацвей Кірылавіч, як яго назвала дзяўчына, не даў ужо мне засядзецца на крэсле. Ён адчыніў дзверы пакоя, да якіх была прымацавана шыльдачка «Рэдактар», і прапанаваў:

— Дык заходзь, пагаворым.

А што мне было з ім гаварыць? Не раскажу ж я яму пра куфэрак, пра сваё разявацтва.

Стол у рэдактаравым пакоі быў доўгі і шырокі, і калі Мацвей Кірылавіч, распрануўшы паліто і зняўшы шапку, сеў за яго, дык здаўся мне вельмі маленькім. А рэдактар працягваў дапытвацца ў мяне:

— Дык як жа ты да нас завітаў?

— Допісы мае друкаваліся ў вашай газеце.

— О, дык мы з табой старыя знаёмыя. Як тваё прозвішча?

— Макар Шыянок.

— Макар Шыянок. Ведаю, ведаю. Твой допіс пра тое, як кулацкі сын сарваў спектакль, вельмі нам спадабаўся. Мы з яго фельетон зрабілі. Ты ж, мусіць, чытаў?

— А то як жа. Чытаў.

Але мне не гэтае карцела. Мне рупіла расказаць, у якой бядзе я апынуўся... Мацвей Кірылавіч зірнуў на мяне з-пад навісі сваіх густых броваў і, як бы адгадаўшы маю думку, спытаў:

— Табе ганарар прысылалі?

— Які ганарар? — перапытаў я, бо і сапраўды яшчэ не ведаў, што азначае гэтае мудронае слова.

— Грошы табе прысылалі хоць раз? — перапытаў Мацвей Кірылавіч.

— Не, не прысылалі.

— От гэтая наша бухгалтэрыя. Яна мяне без нажа рэжа,— сказаў ён, як мне здалося, са злосцю і правай рукой ціскануў на нешта, прыробленае да тумбы стала. У тым пакоі, дзе я толькі што сядзеў, нервова заверашчаў званок, і на парозе з'явілася Валя.

— Паклічце мне Фрыду Рыгораўну,— загадаў Мацвей Кірылавіч.

— Зараз.

У пакой увайшла таўставатая, немаладых год жанчына, і Мацвей Кірылавіч са злосцю накінуўся на яе:

— Дакуль гэта я буду цярпець? Вы мне аўтараў адбіваеце. Хто ж гэта будзе пісаць, калі вы ганарару селькорам не высылаеце?

— А каму гэта мы не выслалі? — спытала жанчына.

— От Макару Шыянку. Ужо колькі год да нас піша, а яшчэ нават не ведае, што гэта за штука — ганарар. Зараз жа падыміце ўсе ведамасці і прынясіце сюды грошы.

— Добра, зраблю,— адказала жанчына і прычыніла за сабою дзверы.

А я сядзеў і думаў: да мяне не даходзіла, якія і завошта павінны мне тут грошы. Я нават забыў пра свой куфэрак.

А рэдактар ужо лагодна, ласкава распытваў пра рагазінскія навіны, пра тое, ці паступіў я на рабфак. Я расказаў яму, як хацеў мяне абязвечыць пляшкаю Сцяпан Касмыль, і Мацвей Кірылавіч прапанаваў мне:

— Ты напішы. Мы надрукуем пра гэтага недавярка ў газеце, і яму давядзецца за замах на селькора пакаштаваць допраўскага хлеба.

Я паабяцаў сёння ж напісаць і заўтра прынесці.

Фрыда Рыгораўна нядоўга затрымалася. Хутка яна зноў з'явілася ў кабінеце і, ужо звяртаючыся да мяне, прапанавала:

— Наце распішыцеся, таварыш Шыянок. Тут вам пяцьдзесят рублёў за сёлетні год.

Я ўзяў хуценька грошы і схаваў у патайную, прышытую мачыхай, кішэньку. Гэта ж знаходка, гэта ж цэлае багацце! Мне ўжо не сядзелася ў кабінеце, і я заспяшаўся развітацца з добрым Мацвеем Кірылавічам. Ён бачыў маю ўзрушанасць і здаволена ўсміхаўся. На развітанне ён мне сказаў:

— Ты, хлопча, добра вучыся, а вывучышся, дык, можа, да нас у рэдакцыю працаваць прыйдзеш.

З рэдакцыі я не ішоў, а ляцеў на невідочных крыллях і прызямліўся толькі ў сталовай, каб з'есці адразу аж два абеды за гэтыя ўсе дні.

А куфэрак мой усё-такі знайшоўся. Як папрыязджалі ўжо на заняткі хлопцы, я свайму аднакурсніку і суседу па ложку Барысу Ягольскаму расказаў пра свой куфэрак і мы ўдвух з ім пайшлі і вытрабавалі. Праўду казаў той чыгуначны службовец, што ў іх на чыгунцы нічога не прападае. Прапаў толькі мой хлеб, ён сацвіў, і яго давялося выкінуць. А сала, дык яно б яшчэ з год праляжала, калі б мы з Барысам яго не з'елі.

* * *

Дні, месяцы перагортваліся, як старонкі прачытанай кнігі. Адны з іх узрушалі, хвалявалі, трывала і надоўга застаючыся ў памяці. Другія праходзілі, не кранаючы ні сэрца, ні думак. Я ўжо цяпер, вядома, не рагазінскі Макарка. Калі я гляджуся ў вялікае люстра, што стаіць у кутку рабфакаўскага вестыбюля, дык нават сам сябе не пазнаю. Я не тое каб вельмі вырас. Не! Я падрос, можа, на якія два-тры пальцы, але за гэтыя тры гады неяк вылюднеў. Даўно ўжо тыя матчыны чаравікі-чарапкі з за-

кручанымі, як арліныя дзюбы, пасамі адпраўлены пасылкай у Рагазін. Можа, яны яшчэ каму спатрэбяцца выбівацца ў людзі. Зменена і вопратка на цёмна-шэры, гарадскога крою гарнітур. Адно толькі засталося — перашытае з матчынага бурноса паліто. Ды і яго хутка давядзецца замяніць, бо які ні моцны на ім матэрыял, а ўсё ж і ён падаецца і ўжо сям-там папраціраўся. Ды і валасы мае з непаслухмянай кучомкі ператварыліся ў нешта прыстойнае, прыгладжанае, з праборам. Адно толькі віхор над ілбом, колькі яго ні прыгладжваю, усё роўна круціцца на свой манер, нібы па ім от толькі што пахадзіў вецер і раскідаў валасы на ўсе бакі. Твар стаў нейкім святлейшым. Адным словам, каторыя рагазінцы цяпер маглі б не пазнаць Макарку Шыянка. У Рагазін я наязджаю не вельмі-то часта. Усю зіму вучуся, а ўлетку дзе-небудзь працую, каб на зіму дакласці да стыпендыі крыху грошай. Я ўжо нават Насцечцы купіў сукенку і паслаў у Рагазін. Няхай дзяўчо пакрасуецца ў гарадской адзежыне. Хацелася мне што-небудзь купіць і бацьку, але пакуль што не выстачала грошай. З Рагазіном я быў звязаны толькі думкамі ды пісьмамі. Ды і іх не вельмі многа ішло ў мой адрас. Першы год зрэдку пісала Марылька. Пісьмы яе былі нейкія скупыя, баязлівыя. Яна ні аднаго слоўца не напісала пра свае пачуцці. От толькі хіба пра рагазінскія навіны напіша. Але ўсё ж і яны мяне радавалі. Не радавала толькі адно, што Касмыль вельмі ж пачаў заляцацца да Марылькі. Ён нават сватоў падсылаў ужо. Марыльчын бацька дык той ужо і згодны быў аддаць дачку замуж. Маўляў, век у дзеўках сядзець не будзе, а знаходзіцца чалавек, хоць ён не вельмі і да душы за сваё п'янства, дык затое багацце мае, то няхай ідзе дачка. Мне пра гэта напісала Марылька, просячы якой рады. А што я мог ёй парадзіць, апрача таго, каб яна плюнула Касмылю ў заўсёды асавелыя ад п'янства вочы. Але яна мяне не паслухала. Неўзабаве пасля таго майго пісьма мне паведаміла Анастасся Паўлаўна, што рагазінцы згулялі Марыльчына вяселле з Касмылём, і мне трэба было браць нешта вострае-вострае і адразаць ад сэрца тое, што гэтак было прыкіпела да яго. Я пачаў ужо сам на сябе злаваць, што тады не паслухаў рэдактара і не напісаў на Касмыля ў газету, няхай бы яго запраторылі куды-небудзь у турму за замах на селькора. От і Марылька выкруцілася б ад яго.

Абураў мяне дзядзька Пракоп. Гэта ж за ўвесь час ён, можа, якія тры ці чатыры пісьмы напісаў мне. Маўляў,

ты, хлопча, ведаеш, я ж не ахвочы да пісаніны, дык і не вельмі спаганяй. Табе піша Анастасся Паўлаўна, дык будзь ласкаў задаволіцца гэтым,— здаецца, гэтак ён казаў мне. А я ў думках пытаў у яго: «Дык пры чым жа тут Анастасся Паўлаўна? Яна ж сама ад сябе піша».— «Як жа гэта сама ад сябе? Цяпер яна не можа пісаць толькі ад самой сябе»,— нібы пярэчыў мне дзядзька Пракоп.

І сапраўды, я хутка пераканаўся, што Анастасся Паўлаўна не магла цяпер пісаць толькі ад самой сябе. На зваротным адрасе чорным па белым было напісана: «А. П. Карсянок». Дык вось яно што! Я адразу ж сеў і напісаў дзядзьку Пракопу гнеўнае пісьмо, поўнае дакораў за тое, што ён мяне абразіў, не запрасіўшы на вяселле.

Але і на гэты раз адказала Анастасся Паўлаўна. Яна пісала, што людзі яны немаладыя і не хацелі, каб увесь свет ведаў пра іх крыху запозненае шчасце, дык яны ціхенька, без гармонікаў і бубнаў, пабраліся за рукі, каб ісці разам у тую дарогу жыцця, якую яшчэ засталося ім прайсці. Яна прасіла, каб я не крыўдаваў, і паабяцала, калі што якое ў іх знойдзецца, дык абавязкова запросіць на хрысціны.

А яшчэ крыху пазней ад Анастассі Паўлаўны прыйшло пісьмо, у якім была навіна. Яна падрабязна пісала мне пра тое, як Лукаш Шульга пакінуў свайго сынка Касмыля за млынара ў ветраку. Вецер добры быў, вятрак малоў на два паставы. Завознікаў пад той час у млыне не было. Касмылю трэба было самому і засыпаць збажыну ў кош, і выграбаць муку ў мяхі. А ён п'яны быў, як чоўп. Палез сыпаць збожжа ў кош, стаў на бераг абшыўкі. Ногі яго, вядома, п'яныя, пакаўзнуліся, і ён упаў на камень. І гэтак яго спляжыла, што калі прыйшлі завознікі, дык не пазналі Касмыля. Усю скуру з яго здзёрла, пабіла нашчэнт галаву. Настаўніца мне паведамляла, што Марылька не вельмі і плакала на Касмылёвых хаўтурах. Толькі для прыліку папрычытала трохі па нябожчыку мужыку. А праз тыдзень выбралася з Лукашовай хаты і цяпер жыве ў бацькі маладою ўдавою. Вось гэтак трагічна скончылася Марыльчына замужжа, але мяне гэтая трагедыя ні радавала, ні засмучала, бо ўсё тое, што прыкіпела было да сэрца, я даўно ўжо адрэзаў вострым лязом сваёй свядомасці, хоць пачуццё яшчэ недзе тлела, варушылася, як той агеньчык, на які больш нічога не падкладаюць.

А час надыходзіў неспакойны, трывожны, нечуваны. Ішлі гады калектывізацыі. У газетах пісалася аб новых

сельскагаспадарчых арцелях... Кулакі стралялі з абрэзаў, падточваліся кратàмі пад маладыя калгасы, каб абярнуць іх. Але ўжо выспела і тая сіла, перад якою ніякае кулаччо не магло ўстаяць. Я нават шкадаваў, што цяпер не ў Рагазіне. Там вунь колькі работы, вунь колькі клопату. Відаць, дзядзька Пракоп аж задыхаецца ад нечалавечай натугі.

Падчас жа бывае так, што тое, ад чаго ты адбіваешся, адкараскваешся ўсё жыццё, як ад чорнай немарачы, возьме ды зноў вынырне на паверхню. Мы яшчэ мірна спалі ў сваёй бакоўцы інтэрната, як нехта паскробся ў дзверы. Першым прачнуўся Барыс Ягольскі і спытаў:

— Хто там?

Ды гэтак спытаў, што і я і Віктар прачнуліся. Мы ўжо таксама пачулі сіпаваты голас:

— Тут жыве Макар Шыянок?

Я хуценька нацягнуў штаны і кінуўся адмыкаць. Спачатку бокам прасунуўся дублёны жоўты кажух, і таму, што каўнер яго быў пастаўлены, твару чалавека не было відно. Толькі тады, калі чалавек павярнуўся, я пазнаў дзеда Трыфана. А ён ужо сіпаў:

— А ўнучачак родненькі мой, а маё ж ты дзіцятка, а які ж ты вырас.

Твар яго быў чорны-чорны, нібы чалавек замяняў качагара ля паравознай топкі. Вішнёвая барада вісела рэдкімі касмылямі, як бы яе хто павышморгваў... Я не праяўляў асаблівай радасці пры гэтай сустрэчы, і дзед стаяў у нерашучасці пасярод пакоя, пакуль Барыс не падсунуў яму крэсла і не прапанаваў сесці. Ён сеў, расперазаў кажух і, ужо крыху асмялеўшы, пачаў распытваць, як я тут жыву. Распытвае, а сам усё косым вокам кідае на хлопцаў, быццам тыя яму чым замінаюць. Хлопцы гэта заўважылі, апрануліся і выйшлі, і тады, як з развязанай торбы, пасыпаліся дзедавы словы.

— Уратуй, унучак, ты ж усё-такі родны. Не пусці мяне на згубу. Гэта ж я ўцёк. Там у нас усіх грабуць, пхаюць у вагоны і адпраўляюць, кажуць, недзе ў Котлас.

— Каго гэта ўсіх? — спытаў я як мага больш афіцыйна.

— Гаспадароў усіх. Галетнікі застаюцца, тых не зачэпяць. А гаспадароў падчыстую падграбаюць.

— Кулакоў падграбаюць,— уставіў я сваё.

— Якіх там кулакоў? Гаспадароў! Дык ты ж цяпер,

упучак, пры ўладзе. Можа б, ты мяне перахаваў дзе на гэты час,— прасіў ужо, аж лямантаваў дзед Трыфан.

— А дзе ж бабка Ганна, дзядзька Прахор? — нечакана для дзеда спытаў я.

— Дзе? — перапытаў ён.— Хіба я ведаю! Няхай кожны сам сябе ратуе.

Я паглядзеў на дзеда, і такім ён брыдкім зрабіўся мне, як тая порхаўка, на якую хочацца наступіць. Я набраўся як мага больш сур'ёзнасці і сказаў:

— От што, дзеду! Хоць я вам па крыві сваяк, а па духу вы мне самы чужы. Я — галетнік, а вы — гаспадар. Дык ідзіце адсюль, пакуль не позна. Шукайце сабе прыстанку, толькі без мяне, а інакш...— Я недаказаў таго, што думаў, як дзед хуценька падперазаў кажух і шмаргануў з пакоя... Праз шыбы акна я ўжо бачыў, як ён ішоў, тулячыся да сцен, здаецца, хаваючыся сам ад сябе. Мне было трошачкі шкада яго, але ў той жа час і лёгка, бо знік з вачэй чорны прывід мінулага...

Колькі ў жыцці чалавека бывае сустрэч, самых нечаканых і радасных. Канчаўся ўжо мой апошні рабфакаўскі год. Дзень і ноч мы не разгіналіся над кніжкамі — трэба ж было здаць экзамен так, каб не сорамна было ні самому сабе, ні тым людзям, якія на цябе спадзяваліся. Вясна ўжо гэтак расшугалася, што з парку, які падступаў амаль да самага нашага інтэрната, у расчыненае акно пакоя далятаў спакуслівы шчэбет птаства. Нельга было ўтрымацца, каб не пайсці туды, на ўлонне маладой красуні-вясны. Была нядзеля, і я, набраўшы поўную падпаху кніжак, выйшаў з інтэрната, маючы намер забіцца дзе-небудзь у ціхі куток і цэлы дзень вучыць. Я, праўда, не вельмі баяўся экзаменаў. Праз усе гады ў мяне былі добрыя адзнакі, але ж чалавеку заўсёды хочацца ведаць яшчэ больш, і гэтаму большаму няма ні граніцы, ні краю.

Задумлівы іду сабе паўз паркавую сцяну. Здаецца, нікога не бачу і не чую — гэтак урупіўся ў сваё,— раптам чую:

— Макарка, ці гэта ты?

Я стаў як укопаны. Што гэта?

— Няўжо вы, дзядзька Пракоп? — пытаю.

— Я, я, хіба ты не бачыш, Макарка,— і чалавек, разняўшы рукі, наступае на мяне, а я стаю, як ёлупень які, разгубіўся ж гэтак. А дзядзька Пракоп ужо сціснуў мяне аберуч, і мы па-мужчынску скупа, але шчыра цалуемся. Я ўсё яшчэ гляджу на дзядзьку Пракопа і не хачу даваць

вачам сваім веры, што гэта ён. Твар яго чыста паголены, валасы прычэсаныя, гарнітур на ім ляжыць як уліты, і што самае галоўнае — няма дзеравяшкі. На абедзвюх нагах чаравікі і навыпуск штаны.

— Чаго ты гэтак глядзіш? — пытае дзядзька Пракоп.— Дзівішся, што нага ў мяне адрасла? Але гэта, брат, не свая,— з ноткай нейкага смутку сказаў дзядзька Пракоп.— Гэта ж мы з Анастассяй Паўлаўнай ездзілі ў Кіеў, і там мне нагу такую адлілі, што калі не ведаеш, то і не пазнаеш, ці свая яна, ці чужая. А царскую прастрэленую дзеравяшку думаю здаць дзе-небудзь у музей чалавечых пакут, няхай людзі глядзяць і дзівяцца.

— Чаго ж мы тут стаім? — спахапіўся я, бачачы, што ўжо людзі пачалі звяртаць увагу на нас.— Пойдзем да мяне ў інтэрнат ці ў парк.

— Лепш у парк пойдзем,— сказаў сваё дзядзька Пракоп.— Я ўжо тут цэлы тыдзень. На курсах старшынь калгасаў вучуся. Ды гэтак жа, хлопча, упраглі нас, што от толькі ў выходны дзень і выбраў часу зайсці да цябе.

Я пакрыўдзіўся на дзядзьку Пракопа за такую няўвагу да мяне, але ён як бы гэтага не заўважыў... Мы ішлі ўжо з ім у густой засені дрэў, перайшлі перакідны масток над глыбозным ровам і, зайшоўшы ў самае бязлюднае месца, паселі на лавачку. Дзядзька Пракоп не ўнімаўся, ён нібы хацеў расказаць мне ўсё адразу, што за гэтыя гады, як я выехаў, адбылося ў Рагазіне.

Але самае цікавае я пачуў з яго вуснаў пра Лукаша Шульгу і яго меншага, як дзядзька казаў, вучонага сына Дамеця.

— Дык мы, значыцца, б'ёмся, б'ёмся, уломваем людзей,— казаў ён,— каб яны ў калгас запісваліся... Аднаго разу прыйшоў на сход і Лукаш. «Я,— кажа ён,— хоць і жыў са свайго мазаля добра, але паколькі ўлада патрабуе, каб мы ўсе ў калектыўны воз упрагліся, дык і я таксама аддаю ўсё сваё і пішуся ў калгас».— «А хто цябе прыме, смаўжа такога?» — чую я, уставіў Яўхімка.— «Людзі прымуць, я ад людзей нікуды не адрываюся»,— як здалося мне тады, шчыра сказаў Лукаш.

Я і сапраўды паверыў, думаючы, можа, і праўда, чалавек нутро сваё вывернуў... Пасля гэтага Шульговага выступлення людзі пачалі адзін за адным падаваць заявы. Ну, думаю, кулак, а памог калгас арганізаваць. А ён гэта сказаў і сам знік са сходу. Да другіх пеўняў людзі тады

не разыходзіліся са школы. Падалі заявы ўсе тыя арцельшчыкі, што ў Пуцілавіку разам панскую зямлю апрацоўвалі.

— А як мой бацька? — спытаў я.

— Што твой бацька? Каб усе такія, як твой бацька, дык мы б і гора не ведалі. А то ж уломваем-уломваем чалавека, угаворваем-угаворваем яго. Здаецца, ужо і згодны, а скажаш, каб напісаў заяву, дык ён табе: «Пачакай яшчэ, Пракопка-братка, падумаю. Не я першы, не я і апошні». Адным словам, у той вечар, як выступіў Шульга, у нас быў гэтакі зрух, што я ўжо радаваўся: рагазінцы першымі ў раёне сарганізуюць калгас.

А на другі дзень зноў сход. Дзіва, дый годзе. Тыя, што ўчора падавалі заявы, наступаюць на мяне: «Пракоп, аддай назад заяву!» — «Чаму?» — пытаю я. «Хіба ты не ведаеш чаму! — закрычалі мужчыны.— Учора за Пуцілавікам святы знак паявіўся. Чырвоны агністы крыж. Гасподзь бог пакарае нас за непаслушэнства...»

Я сапраўды не ведаў гэтага і пачаў распытваць, што і як. І мужчыны расказалі: як толькі яны гуртам выйшлі са сходу, дык убачылі, як за Пуцілавікам над альшэўнікам тры разы з'явіўся вогненны крыж. Значыць, бог не хоча, каб у Рагазіне быў калгас...

— Я нічому гэтаму не верыў,— гаварыў дзядзька Пракоп,— але ўвечары вырашыў сам паглядзець. І сапраўды, гэтак пад поўнач над альшэўнікам тры разы бліснуў чырвоны крыж. Што за праява? Што за дзіва? Тым часам я ціхенька сказаў твайму бацьку, Яўхімку і яшчэ сяму-таму з хлопцаў-камсамольцаў, каб яны заўтра ў гэтакую пару былі ў Пуцілавіку... Удзень мы, як і заўсёды, загадалі на сход. Падышлі і пад Лукашова акно, пабразгалі ў шыбу, каб і ён прыйшоў на сход, але ён адказаў:

— Дык чаго я на той сход? Я ж запісаўся ўжо! Хіба яшчэ раз трэба пісацца.

Тым часам, як добра ўвечарэла, мы зайшлі адтуль, з-за Пуцілавіка, у альшэўнік і прыціхлі, чакаючы святой праявы. Ляжым сабе моўчкі і не дыхаем. Думалі, што ўжо нічога не дачакаемся, як раптам бачым з гушчару выйшлі дзве постаці. Яны нешта валаклі за сабой. Потым засвяцілася запалка, і над галавой чалавека ўзняўся чырвоны крыж. Мы — туды.

— Стой! — крычу я.— Гады печаныя!

Яны ўцякаць. Але не было куды. Мы абступілі і трымалі ўжо за рукі Лукаша і яго вучонага вылюдка. Гэтак

з запаленым чырвоным крыжам мы і прывялі галубчыкаў у Рагазін. А назаўтра рагазінцы ўсе як адзін падалі заявы ў калгас.

— А што то за крыж быў? — спытаў я.

— О, брат, крыж. Мудроны крыж. Зроблены з шалёўчын і абклееены чырвонай прамасленай паперай, а ўсярэдзіне свечка гарэла... Гэта той недавярак Лукашоў налаўчыўся гэтак у школе.

Мне цікава было ўсё гэта слухаць. А дзядзька Пракоп расказваў і расказваў... Нахапляўся ўжо і надвячорак. У ракавіне летняй сцэны парку пачалі збірацца музыканты з трубамі. Яны грымнулі ўрачысты марш. На алеях парку палюднела...

Дзядзька Пракоп зірнуў на мяне і сказаў:

— Засядзеліся мы з табою, хлопча...

— Нічога, дзядзька Пракоп. Такія сустрэчы не часта бываюць.

Потым, на момант задумаўшыся, дзядзька Пракоп звярнуўся да мяне:

— Чаму ж ты нічога не пытаеш пра Марыльку?

— А што мне пра яе пытаць?

— Як гэта што? Дзівак ты. Калі я ехаў сюды, дык яна прыбягала да мяне і прасіла, каб я цябе пабачыў і расказаў хоць ёй, які ты стаў.

— Навошта я ёй? Яна ж на Касмыля пакваплілася.

— Хіба то яна? Бацька яе дурны пагнаўся за багаццем. А яна ішла на той замуж як на згубу. І цяпер не нарадуецца, што таго Касмыля закруціла ў млыне. Цяпер яна часта пераведвае нас з Анастассяй Паўлаўнай і ўсё перапытвае, што ты пішаш, як ты жывеш. Ты хоць бы ёй пісьмо напісаў,— прапанаваў дзядзька Пракоп.

А я не ведаў, што яму адказаць.

Незагоеная глыбокая рана яшчэ вельмі балела. Можа, яна і загоіцца з часам.

— Яна цяпер камсамолка, актывістка. Думае гэтак жа, як і ты, падвучыцца трохі ў Анастассі Паўлаўны і падацца куды далей,— гаварыў дзядзька Пракоп.

Але я яго не слухаў.

Я думаў, у мяне ў галаве ўзнікалі тыя словы, якія я напішу Марыльцы.

Развіталіся мы з дзядзькам Пракопам пад песні моладзі, якая гуляла, весялілася ў парку, пад музыку аркестра,

пад гоман і шум маладой вясны. Дзядзька Пракоп мне сказаў:

— Дык ты ж прыедзь на лета ў Рагазін.

— Абавязкова прыеду,— крыкнуў я ўжо здалёк.

* * *

Любы, мілы родны куток! Дзе б я ні быў, ты заўсёды ў маім сэрцы. Я стаю і гляджу на ціхую плынь Сожа, а бачу перад сабою сваю балотную Рагазінку. Я іду па асфальце вуліцы, а мне здаецца — ступаю па мяккай рагазінскай зямлі... Я гляджу на дзяўчыну, а мне здаецца, што я бачу Марыльку.

І дзе б ні быў чалавек, ён заўсёды нясе ў сваёй душы родны кут, праз які шырэй бачыць, больш шчыра любіць усю неабсяжнасць сваёй Радзімы.

1958

# ІДУ Ў ЖЫЦЦЁ

## Кніга другая
## ВЫПРАБАВАННЕ СТАЛАСЦІ

### ПРАЦЯГНЕНАЯ РУКА

Пачатак лета размарваў гарачынёй. І хто гэта выдумаў здаваць экзамены ў такую пару! Але як бы яно ні было, як бы ні смаліла сонца, у мяне на душы быў ласкавы, лагодны халадок. Учора здаў апошні экзамен па матэматыцы. Я дужа не любіў гэтых розных косінусаў, тангенсаў і катангенсаў. І мо толькі выпадкова мне пашчасціла здаць матэматыку на «выдатна». І от цяпер ляжу, задраўшы ногі на спінку ложка, як бы я толькі што прыйшоў з вялікай дарогі. Сяброў у пакоі няма. Яны мо дзе гойсаюць па парку, а мо купаюцца ў Сожы. А я ляжу. Мо хачу заснуць? Не, не заснуць. Хачу адбіцца ад думак. Дзівак які я. Хто ж гэта лежачы, ды яшчэ на адзіноце, ды яшчэ калі не хочацца спаць, можа выкінуць з галавы ўсе думкі. Яны ж сляпіцаю лезуць і лезуць, шчэмяцца ў галаву, і першая з іх: а як яно будзе далей? Увесь наш выпуск — васемнаццаць чалавек — пасылаюць вучыцца далей у машынабудаўнічы інстытут, каб зрабіць з нас інжынераў, якія гэтак патрэбны краіне.

На ўскраіне нашага горада разлёгся сваімі новымі карпусамі першынец індустрыялізацыі нашага краю — завод сельскагаспадарчых машын. Ён як бы просіць: «Дайце мне, дайце мне інжынераў». А дзе ж яму іх узяць, калі нашы дзяды і бацькі ўвесь свой век адно і ўмелі, што падплятаць лыкавыя лапці. І от мы, маладыя зялёныя парасткі, іх павінны, задаволіць прагавітую просьбу нашага завода. Аднак жа нешта ў мяне не ляжыць душа да машынабудаўнічага інстытута. Тыдні два таму назад у канферэнц-зале рабфака перад намі, выпускнікамі, выступаў дырэктар завода. Ён гаварыў пра тое, што бальшавіцкая партыя, узяўшы курс на індустрыялізацыю краіны, паставіла як адну з першачарговых задач падрыхтоўку

сваіх кадраў, у якіх бы душа гарэла жаданнем рабіць тэхнічную рэвалюцыю. Нашы хлопцы і дзяўчаты пасля дырэктаравага даклада гэтак апладзіравалі, што, мусіць, аж далоні ў іх свярбелі. Значыць, ім падабалася перспектыва стаць інжынерамі. Адно я неяк не тое каб скептычна, а ўсё ж і без энтузіязму паставіўся да дырэктаравых заклікаў. Я душой разумеў неабходнасць усяго, пра што казаў дырэктар, але ж яна, гэтая самая душа, не ляжала да сінусаў і косінусаў. І тады на вечары, і цяпер от на адзіноце ў пакоі я мару, прыкідваю, што б мне такое зрабіць, куды б мне падацца, каб абмінуць нялюбую матэматыку.

Сыну вёскі нялёгка забыцца на ходжаныя сцежкі. Неяк яшчэ зімою ў нас была экскурсія на Сельмаш. Разам з усімі я хадзіў, прыглядаўся, што і як там робіцца. А выйшаў з завода нечым абязвечаны. У грымотлівым грукаце металу, у віску і шорганні машын я адчуў сябе нейкім маленькім, не раўнуючы, як тая мошачка. Яшчэ тады сам сабе падумаў: а што, калі тут давядзецца працаваць, дык жа зусім згубішся сярод гэтых сталёвых волатаў. І мне на момант стала страшна. Толькі як выйшлі за заводскую браму, я адчуў сябе зноў самім сабою, як бы я падрос, пабольшаў. Мне гэтак тады захацелася ў прастор палёў, на ўлонне сакавітых траў, на ціхія сцяжынкі сярод шапатлівых спелых жытоў, што аж сэрца зашчымела. Не казаў бы то сялянская душа — яна ў мяне часта, усюды і ва ўсім прачыналася. А думкі снуюцца і снуюцца. Нарэшце я ўсё-такі знайшоў і ў іх лад: трэба, мусіць, папрасіцца ў дырэктара рабфака, няхай мяне пашлюць вучыцца далей куды-небудзь на настаўніка ці на агранома. Цяпер жа ўсюды вунь як трэба адукаваныя людзі, асабліва ў вёсцы. Лозунг, кінуты партыяй: «Кадры вырашаюць усё», бадай, найбольш жыццёвы для вёскі, якая сама становіцца на сацыялістычны шлях развіцця. Гэтак я ляжаў і думаў газетнымі сказамі, як раптам расчыніліся дзверы пакоя і я пачуў знаёмы голас майго суседа па ложку Барыса Ягольскага.

— Макар, там з ног збіліся шукаючы цябе.

— Навошта я каму здаўся?

— Сакратар парткома шукае. Натрапіў на мяне і сказаў, каб я цябе ці пад зямлёй, ці пад вадой, а ўсё роўна знайшоў і даставіў да яго.

— Навошта я яму?

— Нейкая ж, відаць, вельмі пільная патрэба ёсць, калі гэтак шукае.

Мне і ў галаву не магло прыйсці, якая там у сакратара пільная патрэба. Мы, выпускнікі, пасля таго як паздавалі экзамены, адчулі сябе вольнымі казакамі, і здавалася, што нам ужо цяпер тут ніхто не ўказчык, не паказчык. От толькі засталося яшчэ згуляць выпускны вечар, атрымаць пасведчанні — і, як казаў колісь мой бацька: «З богам, Параска, калі людзі знайшліся».

— Бяжы хутчэй, Макар, ён чакае цябе там.

Я хуценька ўсхапіўся з ложка, правёў грабеньчыкам па валасах і засігаў на Пралетарскую вуліцу.

— Вельмі добра, што прыйшоў, таварыш Шыянок,— замест прывітання сустрэў мяне сакратар.

— Навошта я гэтак вам спатрэбіўся?

— Важная, нават вельмі важная справа,— па-сяброўску казаў сакратар, пра якога я дагэтуль ведаў, што ён трошачкі нават па-начальніцку ставіўся да нашага брата, студэнта.— Задача партыйнага кіраўніцтва — знайсці на кожную справу чалавека, які б найбольш адпавядаў ёй. Вось я і надумаў табе даручыць. Голас у цябе добры, звонкі.

— Што? — не разумеў я.— Спяваць, ці што? Я ж не ўмею.

— Спяваць будзе самадзейнасць. А ты больш важнае,— казаў ён загадкава, як бы хочучы заінтрыгаваць мяне.

— Дык што ж нарэшце? — хацелася мне ўскіпець, але надаўшы голасу найбольш лагоднасці, я не спытаў, а як бы папрасіў: — Кажыце, што мне рабіць.

— Вось, таварыш Шыянок, па бацьку, здаецца, калі не забыў, Макар Васільевіч. Вы бядняк з глухой палескай вёскі, і мы з дырэктарам вырашылі, каб вы, а не хто іншы, іменна вы выступілі заўтра на выпускным вечары і ад імя выпускнікоў падзякавалі партыі і ўраду, гарадскім партыйным органам, кіраўніцтву рабфака за тое, што яны далі вам адукацыю.

Для мяне гэта было неспадзеўкай, і я неяк аж збянтэжыўся. Сапраўды, мне выпадаў вялікі гонар, але ў той жа час я баяўся, што не выступлю як мае быць. Гаварыць прамовы на публічных вечарах я быў не дужа які майстар і ахвотнік. Колькі разоў было так: надумаеш выступіць. Здаецца, і слоў назапашана ўжо ў галаве, самі просяцца выказаць іх, а выйдзеш на трыбуну, скажаш два-тры словы, а потым і галава як бы выпусцела, пыкаеш-мыкаеш, спатыкаешся, як на балоце па купінах. Скончыш тую сваю

прамову і аж сораму набярэшся: яшчэ раз пераканаешся, які ты няўмека, недарэка.

На нашым курсе быў адзін студэнт Раман Блізнюк. Ён нейкі быў нялюдскі: людзей цураўся, ні з хлопцамі, ні з дзяўчатамі, ні з кім блізка не знаўся. Але гэты чалавек ведаў на памяць, што і калі казалі Кант і Гегель і нават Бенедыкт Спіноза. Аднаго разу мы падгледзелі, як увечары, калі канферэнц-зала была пустая, Блізнюк выйшаў на сцэну за трыбуну, і размахваючы рукамі, як той сапраўдны аратар пачаў гаварыць. Пад той час мы ўсе сядзелі ў восьмай аўдыторыі, рыхтаваліся да лекцый. Раптам убег нехта са студэнтаў і крыкнуў:

— Ідзіце паглядзіце, якое там дзіва дзеецца з Раманам.

— Што? — нецярпліва пыталі мы.

— Ц-с-с,— засыкаў студэнт,— спудзіце чалавека і не пабачыце дзіва.

На дыбачках, каб не нарабіць грукату, пабеглі мы да залы. Прыніклі да дзвярэй, трошкі папрачыняўшы іх, каб не толькі чуць, але і ўгледзець хоць адным вокам. Нейкі выпрастаны, падцягнуты, Блізнюк стаяў за трыбунай і з сілай па чарзе парывіста выкідваў то правую, то левую руку і ў такт гэтым выкідванням выгукваў словы:

— Паколькі субстанцыя ёсць сінонім бясконцай прыроды, лік яе атрыбутаў, як казаў Спіноза, бясконцы. Аднак лік вядомых нам атрыбутаў, лік тых істотных уласцівасцей субстанцыі, якія праяўляюцца ў навакольным свеце «канчатковых рэчаў», зводзіцца да двух. Адной з іх з'яўляецца працягласць; без гэтай найважнейшай уласцівасці нельга ўявіць сабе ніводнага прадмета прыроды...

Мы слухалі гэты Блізнюкоў маналог і не разумелі што да чаго. Я дык, праўду казаць, пабойваўся за хлопцаву галаву: можа, у ёй не ўсе дома, можа, залішне браўся за вучобу, і яна пашкодзілася трохі.

Заінтрыгаваныя, мы яшчэ доўга слухалі пад дзвярыма. Нарэшце нехта не стрымаўся, зарагатаў. Блізнюк, як спуджаны заяц, матануў за кулісы сцэны і там знік у сукнах і бакоўках. Мы яго і не шукалі. Калі праўду казаць, то Раманава дзівацтва не было і навіной.

Хлопцы, якія жывуць з Блізнюком у адным пакоі, расказвалі, што Раман, трызнячы кар'ерай філосафа і трыбуна, нават у сне гаворыць свае прамовы...

— Я ніколі на такіх сходах не выступаў, можа, не выйдзе ў мяне. Да таго ж я не ведаю, што гаварыць.

— А ты не турбуйся. Гэта наш клопат, што табе гаварыць. Галоўнае, што табе выпаў вялікі гонар. Ты гэтым павінен даражыць. Не кожнаму такое выпадае.

— Дзякую за давер, але што ж я буду казаць? — зноў я выказаў сваё сумненне.

— Гэта іншая рэч,— і сакратар следам за гэтымі словамі расшпіліў партфель, дастаў адтуль спісаны аркушок паперы і працягнуў яго мне.

— На вось, разы са тры прачытай, вывучы гэтае самае, што тут напісана. Тут усё слова ў слова, табе самому не вельмі і думаць трэба.

Я нерашуча ўзяў з рук сакратара паперку, прабег яе вачыма. Прамова была надрукавана на машынцы выразна, чытаць яе лёгка будзе.

— Але як жа гэта так, напісанае не мною...— хацеў запярэчыць я, аднак сакратар як бы адгадаў тое, што я думаў, і апярэдзіў мой ціхі пратэст:

— На выпускным вечары будзе ўсё кіраўніцтва горада, і трэба, каб кожнае слова ў тваёй прамове было выверана. Ты ж глядзі, каб ні на крок не адступіўся ад тэксту.

Выпускны вечар меўся адбыцца ў суботу. Да яго мы рыхтаваліся як да самага вялікага свята. Некалькі дзён запар нашы мастакі пісалі лозунгі і заклікі, малявалі партрэты ўдарнікаў вучобы, выпусцілі насценгазету, вялізную, як прасціна. Газету вывесілі ў зале, і калі я зірнуў на яе, у мяне аж засвяцілася ўваччу: акурат пасярэдзіне быў наклееены мой партрэт. Дзе яны ўзялі фота — не мог даўмецца я. Нарэшце здагадаўся: мусіць, узялі ў таго фатографа, перад апаратам якога мы садзіліся па чарзе фатаграфавацца для альбомаў; іх рабілі на ўспамін аб рабфакаўскіх гадах для кожнага з нас. Пад партрэтам было надрукавана на машынцы: «Макар Шыянок — лепшы ўдарнік вучобы». Мне нават сорамна стала перад другімі: чаму іменна мой партрэт наклеілі тут? Хіба я ўжо такі адметны ад другіх? Але ў той жа час і нейкі ціхі гонар прыхлынуў да сэрца. Здаецца, от каб хто з рагазінцаў зірнуў на гэта. Каб Марылька. Няхай бы яна хоць адным вокам паглядзела. Або каб дзядзька Пракоп угледзеў гэтае. Ён пэўне што рады быў бы. Самому ж мне нельга і радавацца асабліва, сорамна перад другімі студэнтамі, а то пэўне што каторы скажа: «Вунь які ён хвалько!» І я стараюся не паказвацца асабліва на вочы сваім. Хуценька з аркушыкам сакратаровай паперы вярнуўся ў інтэрнацкі пакой, зноў ногі на спінку ложка — і давай чытаць і пера-

4*

чытваць сваю будучую прамову. Хутчэй, пакуль не папрыходзілі хлопцы, хацеў яе вывучыць. Яны маглі заўважыць і падняць і мяне на смех, як таго Блізнюка.

Але дзіва,, дый годзе: чым больш я чытаў тую прамову, тым менш асядала яна ў памяці...

А на дварэ дзень быў цудоўны: ласкавае чэрвеньскае сонейка лілося ў вокны патокамі цяпла і святла. За шчыльным парканам, якім быў адгароджаны наш двор ад парку, шчабятала на ўсе галасы птаства, ліліся гукі аркестра, дзявочыя песні. Думаў і я надвячоркам пайсці туды, дык на табе — прамову гэтую трэба вучыць. Толькі я гэта намерыўся ўчытацца, паглыбіцца ў сэнс прамовы, як аднекуль у шыбу акна бразнулася вялізная чорная дваровая муха. Яна гэтак задзілінькала, быццам кранала тонкую чуллівую струну, і тая звінела і звінела бесперапынку. І ўжо мая памяць не магла ніяк лавіць тых слоў, што я зачытаў, бо вушы лавілі мушынае дзілінькание, і яно заглушала ўсё. Я ўсхапіўся з ложка, узяў ручнік і пачаў ганяцца за мухай. За гэтым заняткам мяне і заспелі хлопцы. Барыс Ягольскі спыніўся ў дзвярах і, не разумеючы, глядзеў на мяне.

— Чаго табе, Макар, уздумалася мух ганяць? — спытаў ён.

— Ды от жа, халера, дзілінькае, не дае вучыць.

— А што ты вучыш? Хіба табе перад экзаменамі не надакучыла вучыць?

Барыс узяў з маіх рук паперку, прабег яе вачыма і сказаў:

— Глядзі ты, які табе гонар. Але пакуль што адкладзі. Заўтра вывучыш на свежую галаву. А цяпер мы прыйшлі па цябе. Паедзем катацца на лодцы. Мы ўжо і лодку сабе заказалі, і дзяўчат запрасілі.

Хлопцы амаль сілком вывалаклі мяне з інтэрната на прастор ракі, у ласкавыя абдымкі вечара, туды, дзе на ціхай плыні шасталі вёслы, дзе ліліся, луналі дзявочыя песні, дзе было так прывабна і невыказна хораша. Я сядзеў у лодцы, націскаў на вёслы, а з галавы не выходзіла тое, што і як буду казаць на выпускным вечары.

Сход пачаўся а сёмай гадзіне. Нашы ўсе прыйшлі нейкія ўрачыстыя, апранутыя ў найлепшае адзенне. Я таксама не адстаў: адпрасаваў штаны студэнцкім спосабам — паклаўшы на ноч пад сяннік. На іх, як на новых, аж канцік відаць быў. Завязаў нават гальштук, хоць і не любіў гэтай прычындаліны, бо яна, здавалася, сціскала шыю і ду-

шыла. Мне ж сёння трэба было выйсці перад усімі людзьмі і казаць прамову. Гэта ж не жартачкі. Я хаджу задумлівы, заклапочаны... Ужо колькі разоў падыходзіў сакратар парткома і пытаў:

— Ну як, таварыш Шыянок?

— Усё добра будзе,— адказваў я.

Вясёлыя і ўзрушаныя, выпускнікі шпацыравалі па калідоры, каб мо апошні раз перад развітаннем нагаварыцца ўдосталь. Адно я ніяк не мог знайсці сабе месца і прыстанку. Ужо колькі разоў падбягалі хлопцы з дзяўчатамі і пыталі:

— Чаго гэта ты, Макар, як сам не свой? Мо з дому якая благая вестка прыйшла?

— Так сабе, нешта настрой неважнецкі,— адказваў я. Не скажаш жа ім, што хвалюешся перад выступленнем, што прамова, напісаная другім, ляжыць у кішэні, а ў тваёй галаве — ні слова.

З-за куліс выйшаў на сцэну дырэктар рабфака, і гамана ў зале як абарвалася. Адно і чуваць было парыпванне крэслаў ды людское дыханне. Па аркушыку паперы дырэктар пачаў чытаць прозвішчы людзей, якія запрашаюцца ў прэзідыум. На вялікае здзіўленне, было там і маё.

Пад туш духавога студэнцкага аркестра я заняў месца ў прэзідыуме з самага краёчка, каб мяне нікому і не відно было. Дырэктар у дакладзе гаварыў аб тым, што мы, выпускнікі, узялі ў рабфаку толькі першую прыступку навукі і што кожны з нас не спыніцца на гэтай прыступцы, а пойдзе вышэй і далей, да самых вяршынь навукі, каб прынесці як мага больш карысці роднай дзяржаве, свайму народу. Дакладчык чытаў імёны лепшых выпускнікоў, сярод іх і маё. «Чым я так упаў яму ў вока? — падумаў я.— Вучыўся, як і ўсе». Мне чамусьці стала сорамна перад таварышамі.

Сакратар гаркома партыі, прысадзісты таўставаты чалавек з сівымі пражылкамі валасоў, вітаў ад імя гарадскога камітэта партыі новы атрад маладых інтэлігентаў, якія, прайшоўшы навуку ў інстытуце будуць верай і праўдай служыць рабочаму класу. Выступалі яшчэ прамоўцы ад партыйнай арганізацыі рабфака, ад прафкома, ад грамадскасці горада. Усе яны горача віталі нас, як яны казалі, пралетарскіх студэнтаў. Нарэшце дырэктар, які пасля даклада заняў месца старшыні, вымавіў:

— Слова ў адказ мае наш перадавік вучобы, выпускнік таварыш Шыянок.

Я неяк аж прыгнуўся, аж ёкнула сэрца маё ў грудзях. Нехта штурхануў мяне пад бок, і я, як п'яны, паплёўся да трыбуны, шукаючы на хаду ў кішэні аркушок з напісанай прамовай. Але дзе ж гэта ён? Няўжо згубіўся? Што ж мне рабіць? Што мне казаць? З момант я стаю за трыбунай як абязвечаны.

У зале зашумелі, зашапталі, і мо гэты шэпт абудзіў мяне. Я кінуў вачыма на тое месца, дзе сядзеў, і ўгледзеў, што мая паперка ляжыць там. Але ж не пойдзеш па яе. Я неяк страпянуўся і, як мне здалося, на ўвесь голас крыкнуў:

— Таварышы!

Дзіва, дый толькі: адразу паспакайнеў і, здаецца, не бачыў ужо ні тых дапытлівых вачэй, якія глядзелі на мяне з глыбіні залы, ні ўзрушанасці сакратара парткома — ён-то, мусіць, адразу заўважыў, што я забыў сваю паперку. Прамова мая палілася спакойна, нібы я гаварыў з сябрамі ў пакоі, расказваў, як пражыў сваё маленства, як трапіў сюды, на рабфак. У зале стала ціха. А я расказваў далей пра сваё сіроцтва, пра дзядзьку Пракопа, пра тое, як мы з ім дзялілі панскую зямлю, пра кулака Шульгу і пра яго сына Дамеця, якому я вельмі зайздросціў, бо ён вучыўся, а я не. Як на далоні перада мной паўстала яшчэ невялікае маё жыццё, і я расказваў пра яго. Гаварыў доўга, і — на дзіва — мяне слухалі. Мо таму, што шмат у каго з тых, хто сядзеў тут у зале, дзяцінства было гэтакае ж, як маё, і яны, слухаючы маю споведзь, як бы глядзелі з боку на саміх сябе. Нарэшце я вымавіў:

— Дык падзякуем, таварышы, нашай роднай партыі за тое, што яна паказала, развінула перад намі дарогі ў вялікі свет. Не пашкадуем жа сіл на тое, каб вучыцца далей і стаць сапраўднымі пралетарскімі спецыялістамі, якія гэтак патрэбны нашай краіне.

Зала грымнула, забушавала воплескамі, як прыбоем. Мне здалося, што ўсё аж ходырам пайшло ў мяне пад нагамі, і я ледзь не подбегам кінуўся на сваё месца.

Ад узрушэння нават не чуў, як старшыня абвясціў, што скончылася ўрачыстая частка і праз колькі хвілін адбудзецца канцэрт. Усе пачалі ўжо выходзіць з прэзідыума, а я ўсё сядзеў. Узрушаны, усхваляваны, нарэшце кінуўся ў залу шукаць сваіх хлопцаў. Нават не заўважыў, як насустрач мне працягнулася чыясьці рука. Толькі тады страпянуўся, як рука лягла мне на плячо і я пачуў басавіты, немалады ўжо голас:

— А, стары знаёмы? Я цябе, брат, і не пазнаў. Ты гэтак падрос, вылюднеў. Малайчына! Так мо і ўсім прамоўцам трэба забываць напісаныя прамовы.

— Добры вечар,— разгубіўся я, пазнаўшы, што перада мной не хто іншы, як рэдактар газеты Мацвей Давідзюк. З-пад сіваватай навісі густых броваў ласкава ўсміхаліся мне яго вочы. Я не ведаў, як сябе трымаць з гэтым добрым чалавекам, і таму бянтэжыўся. Ён сам мяне ўзяў пад руку, і мы зашпацыравалі па калідоры.

— Ну, то як жывецца-маецца, таварыш Шыянок? — пытаў рэдактар, як бы не ведаючы, што гаварыць.

— Дзякую, добра. От бачыце, скончыў рабфак.

— А куды далей думаеш?

— Хто яго ведае. Нашы ўсе збіраюцца ў машынабудаўнічы інстытут. Але ў мяне, калі праўду вам сказаць, душа не ляжыць да тэхнікі. Нялюба мне матэматыка,— прызнаўся я рэдактару, як даўняму і шчыраму сябру.

— Калі не ляжыць, то і не трэба гвалціць яе. Душа — тонкі інструмент. Чалавек павінен так выбіраць прафесію, каб потым не наракаць на сябе.

— Добра вам казаць гэтак, Мацвей Кірылавіч,— асмялеў я зусім,— а мне як быць, калі наш рабфак рыхтаваў нас да паступлення ў машынабудаўнічы інстытут? Калі я не паступлю туды, дык дзе мне дзецца?

— Дзівак-чалавек! — аж усклікнуў Мацвей Давідзюк.— Дык перад табой усе дзверы парасчыняны. Ты скончыў рабфак, у цябе, відаць, добрая галава, куды захочаш, туды і паступіш.

Мы з рэдактарам шпацыравалі сюд-туд па калідоры. Студэнты глядзелі і, мусіць, дзіву даваліся: адкуль у мяне такое знаёмства? А мне знарок хацелася паказаць сябе так, каб усе пабачылі і даведаліся, з кім я хаджу.

І пасля перапынку Мацвей Давідзюк гэтак і не адпусціў мае рукі. Ён павёў мяне на першыя рады, якіх ніхто са студэнтаў не займаў, бо ўсе ведалі, што то месцы для гасцей.

Каб сказаць, што канцэрт быў вельмі цікавы, дык не. Наш хор праспяваў «Мы — кавалі», некалькі народных песень, а потым танцавалі «Лявоніху», «Крыжачок». Большасць было танцавальных нумароў. Пасля Раман Блізнюк выйшаў чытаць вершы Янкі Купалы. Голас у яго быў гугнявы, рыфмаваныя канчаткі радкоў ён як бы праглынаў. Слухачы прынялі Рамана без асаблівага захаплення. Мо другім разам, каб на канцэрце былі адны студэнты, дык

яго б зусім сагналі са сцэны, але з ветлівасці, павагі да гасцей, якія былі на канцэрце, цярпелі і Блізнюка.

Канцэрт скончыўся. Хлопцы хуценька пассоўвалі да сцен крэслы і расчысцілі месца, пачаліся танцы. Мацвей Давідзюк запытаў, чаму я не танцую, а мне аж сорамна было прызнацца, што не ўмею. Рэдактар сабраўся дадому, і я вырашыў трошкі правесці яго.

Вечар быў цёплы, нават трошачкі парны, духмяны. На вуліцы прысады лагодна шапталіся з цёплым начным ветрыкам. З-за позняга часу вуліцы абязлюднелі. Мо на ўсю Пралетарскую мы і былі ўсяго ўдвух з Мацвеем Давідзюком. Мы павольна ішлі па тратуары, і ён мне казаў такое, у што цяжка было адразу паверыць.

— А што, калі ты да нас у рэдакцыю пойдзеш? — не то пытаў, не то прапанаваў Давідзюк.

Я адразу дык нават не даў веры сваім вушам.

— Ты, як мне здаецца, хлопец з галавой і, галоўнае, самастойна можаш думаць, а ў нашага брата, газетчыка, гэта не апошняя якасць. Мне здаецца, што ты палюбіш нашу неспакойную і цяжкую працу.

Што я вось так, на хаду мог адказаць гэтаму шчыраму, добраму чалавеку, які за маё кароткае з ім знаёмства зрабіў мне столькі добрага? Я не забыў і наўрад ці калі забуду, як ён мяне падтрымаў, выплаціўшы мне ганарар, калі я быў проста ў адчаі.

— Не ведаю, Мацвей Кірылавіч, а ці здатны я буду што рабіць у рэдакцыі.

— Братка ты мой, не святыя ж гаршкі лепяць — ганчары, а на ганчара кожны можа навучыцца, абы толькі рукі меў ды ахвоту. А калі табе захочацца вучыцца далей, мы паможам паступіць ці на вячэрняе аддзяленне нашага педінстытута, ці ў Беларускі дзяржаўны універсітэт.

— А як жа быць з тым, што мы ўсе павінны пайсці ў машынабудаўнічы інстытут? — амаль ужо згадзіўся я з прапановай рэдактара. Мне і сапраўды падабалася тое, што прапаноўваў рэдактар. Як ні кажы, амаль з самага маленства я цягнуўся да друкаванага слова, а цяпер гэткая магчымасць — стаць супрацоўнікам рэдакцыі. Але я ніяк не мог сабе ўявіць, што там рабіць буду. Я мог араць поле, калоць дровы, прайсці добры пракос, нават мог жаць, малаціць цэпам, але работа ў рэдакцыі мяне палохала і бянтэжыла.

—Ну дык як, Макар Васільевіч? — ужо як бы з нейкай нецярплівасцю пытаў рэдактар.

— Не ведаю, Мацвей Кірылавіч, ці здатны я буду да чаго,— паўтарыў я свой няпэўны адказ.

— От заладзіў адно, як тая сарамяжая нявеста. Я, брат, угледзеў у табе тую іскру, якая патрэбна журналісту. Сёння яна красанула ў тваёй прамове.

Я не ведаў, якая там іскра красанула ў маёй прамове. Мне здавалася, што я нагаварыў немаведама чаго. Нават баяўся, што сакратар парткома заўтра ўсыпле за маё саматужнае выступленне. Аж яно бач ты што — рэдактару спадабалася. Мо ён які незвычайны чалавек, дзівак які. Вядома, што дзівак! Іначай ён бы не важдаўся са мной. Ходзім амаль цэлую гадзіну, і ён усё мяне ўгаворвае.

— Я падумаю,— нарэшце сказаў я,— і заўтра ці паслязаўтра прыйду да вас з адказам..

— Чаго там табе доўга думаць яшчэ?

Мы развіталіся з добрым Мацвеем Давідзюком, і я пайшоў дадому, апанаваны такім одумам, ад якога аж галава, здавалася, разломвалася. Гэта ж не жартачкі — выбраць сабе дарогу ў жыцці. Я цяпер ужо добра разумею гэта.

## ЗАГАДКАВАЯ ВЕСТКА

Ні на другі, ні на трэці дзень я не пайшоў да рэдактара. З дому прыйшоў загадкава трывожны ліст: «Макарка, хутчэй прыязджай дадому. З татам няшчасце». Якое магло стацца з бацькам няшчасце — не мог даўмецца я. Чалавек ён не вельмі дужага здароўя, але ж ніколі і ні на што не кволіўся. Гэтак сабе памалу ўсё рабіў у гаспадарцы, тупаў па жыцці, нават не азіраючыся назад. А мо якое выпадковае калецтва, а можа... Ды што я магу прыдумаць? Мне ўсё можа думацца. Трэба хутчэй збірацца ў дарогу на Рагазін. Гэтак нічога нікому, апроч сваіх хлопцаў, не сказаўшы, я ўвечары сеў на цягнік, які адыходзіў на Хвойнае.

Чаго толькі не перадумаў за дарогу, седзячы ў вагоне, якіх толькі карцін мінулага і таго, як мяне сустрэнуць, не выснавала маё ўяўленне. Мне здавалася, як толькі выскачу з балаголавай буды на шляху ля Мендалевай карчмы, да мяне з распрасцёртымі для абдымкаў рукамі кінецца Марылька. Яна ж недалёка жыве, чацвёртая хата ад шляху. Гэта была светлая думка. У галаве снавалася і страшэннае: раптам я прыеду, а бацькі ўжо не будзе на белым свеце, а на могілках у густой засені бяроз і клёнаў поруч

з матчынай магілкай стане новы дубовы крыж. Самотна і тужліва рабілася на сэрцы, быццам я застаўся без роду і без сваяцтва, адзін-на ўвесь белы свет. Была яшчэ Насцечка, былі яшчэ меншыя, кроўныя толькі па бацьку браты: Алесь, Міколка, Валодзя, Хведзя, але яны, апроч Алеся, гадаваліся ўжо, калі я не жыў у Рагазіне. Я не калыхаў іх, і яны мне здаваліся траха не чужымі. Валодзі і Хведзі я нават у вочы не бачыў, бо амаль не ездзіў дадому на вакацыі.

Калі праўду казаць, дык мяне не дужа і вабіла ў Рагазін. Неяк я асвойтаўся, прыняўся ў горадзе, як тое маладое дрэўца, перасаджанае ў добры грунт. Я палюбіў юначай душой гаваркія гарадскія вуліцы. Мне было вельмі добра адчуваць пад нагамі асфальт тратуараў, лавіць сэрцам нейкі асаблівы рытм гарадскога жыцця. І цяпер, калі б мне давялося вярнуцца жыць на вясковыя прасторы, я, можа б, аглух ад цішыні.

Не, не, няхай яно як ні будзе, але я нарадзіўся не для ціхага застойнага быту і таму не мог задаволіцца ім. Трэба было кідацца ў жыццё, як у вір галавой, каб адчуваць яго непаўторную веліч, яго хараство і прывабнасць. Ва ўсякім разе рабфак навучыў мяне гэта разумець, адчуваць і дамагацца гэтага. А мо гэта і ёсць самае галоўнае для чалавека майго веку, перад якім яшчэ столькі няходжаных, нязведаных дарог? Мо самае прывабнае, самае важнае ў чалавеку — гэта абуджэнне прагі вечна сябе шукаць, ніколі нічым не задавальняцца на старой дарозе, а заўсёды шукаць новага. Бо той, хто цаляе хадзіць па пратоптаных сцежках-дарожках, калі выпадзе яму далёкая дарога, абавязкова падаб'е сабе ногі і прысядзе ў знямозе на трухлявы пяньчук адпачываць.

А колы балаголавай буды сакочуць па каляінах дарогі, зніташанай карэннем пракаветных соснаў. Смольная маўклівасць бору ліецца ў вушы, у сэрца, у душу. Мае спадарожнікі перакідваюцца адзін з адным нязначнымі словамі, жартамі. Адзін я моўчкі ўдыхаю смольныя пахі, цішыню роднага краю, лаўлю вухам далёкі бусліны клёкат і думаю, думаю, аж да самазабыцця, пакуль да мяне не дакранулася чыясьці рука.

— Скажыце, будзьце ласкавы, вы часам не Васіля рагазінскага сын? — пытаецца чалавек з выразным яўрэйскім акцэнтам. Ад гэтага запытання я страпянуўся, зірнуў на чалавека з рудой, калматай, але падраўнянай пад нейкі

фасон барадой, у брызентавым плашчы з настаўленым башлыком, быццам чалавек сабраўся на дождж.

— Але, Васілёў,— адказаў я.

— Дык хіба вы, бронь божа, мяне не пазналі? Я ж — Зусь. Памятаеце, як мы з вамі мяшкі з соллю сцягвалі, вы былі яшчэ малы, от тачэчкі,— і Зусь паказаў рукой, які я быў тады ростам.— Тады ваш бацька, дай яму госпад бог здароўя, ледзь не захлынуўся ў марознай вадзе, а я яшчэ, дурны, не паверыў, думаў, што і ён такі манюка, як другія.

Прыгледзеўшыся, я такі пазнаў, што гэта не хто іншы, як той самы Зусь, але каб гаварыць з ім, не знаходзіў слоў.

— А вы што, і цяпер гандлюеце соллю? — недарэчна запытаў я.

— Бронь божа, які цяпер гандаль,— ледзь не замахаў на мяне рукамі Зусь, нібы я хацеў яго ў чым-небудзь непрыстойным абвінаваціць.— Які цяпер гандаль, хто цяпер гандлюе. Усе тыя, што калісь мелі свой інтэрас, цяпер вунь дзе гандлююць...

— Ну, то як жа вы цяпер жывяце, нічога не прадаючы і не купляючы? Можа, у калгас падаліся?

— Бронь божа,— ледзь не замахаў рукамі Зусь.— Што я там у калгасе забыў? Зямлю араць паставяць, дык я ж агрэхаў нараблю, а яны скажуць, што я знарок нашкодзіў. Дзякаваць богу, дагэтуль то скокам, то бокам, то стрыжаны, то голены, але ж неяк жыву. А цяпер інтэрас свой маю, дык пры ім і ліплю.

— Які ж гэта інтэрас, калі не сакрэт?

— Ат, невялікі: каўшы з ветракоў збіраю і тым часам жыву сабе не з бядою. Але і там трэба мець галаву, бо калі яе не будзеш мець, дык гэтак, як вашага бацьку, падкузьмяць.

— А што майго бацьку? Вы даўно яго бачылі? — страпянуўся я.

— Заўчора прыходзіў да мяне пытаць якой рады. Усцім Пачосак у хаўрусе з Леўкам Здрокам пад кодэкс яго падвялі.

— Пад які кодэкс? — не зразумеў я.

— Пад крымінальны,— растлумачыў Зусь.

— Хіба ён што ўкраў ці каго забіў?

— Ой, што ты пытаеш, хлопча. Твой жа бацька кураняці не заб'е. Калі б украў, то не грэх было б і пад кодэкс стаць. А то ж чалавек ні богу душой не вінен. Яны самі ўкралі, прапілі, а чалавека ў астрозе хочуць згнаіць. Гэта ўсё той прайдзісвет Леўка верыдуе ўсім. Ён даўно ўжо

кваліўся пасадзіць на Васілёва месца свайго брата, такога ж прыгодлівага, як і сам. Дык няхай бы садзіў, каб ім абодвум па скуле села, ды не запраторваў чалавека ў астрог.

— Дык што там здарылася? — трывожна дапытваўся я.

— Што здарылася, пытаеш? Малолі для калгаса субар. А бацька ж твой ведама які: ён і ўдзень у шапку спіць. Дык яны аж на два мяхі ашукалі яго. Прадалі, відаць, бо два тыдні ў самагонцы купаліся. А да небаракі Васіля ўжо следчы прыходзіў пратакол складаць.

Гэтая навіна была для мяне нечаканасцю: як гэта мой бацька мог што-небудзь украсці, як людзі маглі даць гэтаму веры? Ён чалавек такі, што свайго, калі сам не пакладзе, дык не возьме. Яшчэ калі дзядзька Пракоп быў за старшыню, дык ён паставіў бацьку за млынара ў колішні Лукашоў вятрак, каб чалавек на сям'ю мог зарабіць на якое печыва хлеба. Ужо колькі год бацька малоў. Другі на яго месцы разбагацеў бы на гэтым мліве. Рагазінцы не нараралі на бацьку, што ён калі лішне каўшы ўзяў. Праўда, шмат у каго гарэла вока на гэтае пыльнае месца, але не было за што зачапіцца, каб зняць чалавека і паставіць другога.

Я добра ведаў і Леўку Здрока. Яшчэ тады, як мы жылі на старой сядзібе, яны былі нашымі суседзямі. Як я быў зусім малы, Леўка знік з дому. Бацька яго Лявон і маці Марфа вельмі бедавалі: прапаў большы сын, дый годзе. Але праз колькі год, пасля рэвалюцыі ўжо, Леўка нечакана румнуў у бацькаву хату. Ён быў ужо нічым не падобны на нашых рагазінцаў. У першую нядзелю пасля яго прыезду мы, падшывальцы, валам валілі за Леўкам. Гэтак нам цікава было, як Леўка з гармонікам цераз плячо ішоў праз усю вуліцу. Апрануты ён быў не па-тутэйшаму: на ім камізэлька, у ёй з адной кішэнькі ў другую працягнуты бліскучы ланцужок. Казалі тады, што там у яго кішэньцы ляжаў гадзіннік. Пад камізэлькай віднелася белая сарочка з манжэтамі і пад гальштукам. Сінія штаны навыпуск амаль закрывалі чаравікі, відны былі толькі адны блішчастыя галёшы. На галаве ў хлопца капялюш. Усё гэта было надзета на чалавека ў незвычайную гарачыню, і ён аж млеў, уціснуты ў свае гарадскія ўборы. На ўсю руку Леўка расцягваў гармонік і не спяваў, а крычаў праразлівым не сваім голасам. Як і сам чалавек, гэтак і яго

песня была нетутэйшая і незразумелая нам. Мы ўсе тады думалі, што гэта ў горадзе такая завядзёнка, такая мода.

Гады два Леўка і палец аб палец не ўдарыў у бацькавай хаце. Але з часам капялюш і ўсё гарадское адзенне струхлелі, і трэба было надзяваць сялянскае. Леўку гэтага вельмі не хацелася, ён прадаў гармонік і купіў сабе крамны гарнітур, праўда, не такі, як той, што прывёз здалёку. Трошкі пазней Леўка ўладзіўся ў Верамеевічах на нейкую казённую службу і ездзіў каравачнікам па вёсках.

— Караўкі! Караўкі! — галёкаў Леўка.— Бабы, маладзіцы, нясіце старыя кофты і спадніцы! Бярыце шыла, мыла, голкі і напарсткі! Караўкі збірайце, на добрыя рэчы мяняйце!

Потым Леўка займеў быў і свой інтэрас. Казалі, што нават збіраўся ў Верамеевічах адкрыць свой гандаль. Але ўлада прыкрыла нэпманаў, і Леўка застаўся пры адным сваім інтарэсе з мянушкай каравачніка. Праўда, цяпер выхваляўся, што ён былы пралетар, шахцёр. У часе землеўпарадкавання яму нейкім чынам нарэзалі ў Пуцілавіку добры хутар. Ён паставіў хату, абгарадзіў сядзібу штыкетнікам, пасадзіў сад, развёў пчол. Ажаніўся Леўка з Усцімавай сястрой Сахвеяй і зажыў сабе анігадкі.

Рагазінцам на ўсё жыццё запомнілася, як Леўка аддзяляўся ад бацькі. Ён гроб сабе ўсё, што ў бацькавай гаспадарцы дрэнна ляжала. Стары Лявон Здрок быў вельмі дужы чалавек, казалі, што ён меў конскую сілу, і, як кожны, каго бог не пакрыўдзіў сілай, быў вельмі спакойны, нават рахманы. Леўка цёг з бацькавай хаты старую грувасткую дубовую ступу. Стары разважліва, спакойна спытаў у сына:

— Дык навошта ты яе бярэш? Хіба ты яе рабіў, хіба ты яе нажываў? Ты ж недзе па свеце валэндаўся, а я на ўсё гэта жылы рваў.

Леўка як бы і не чуў таго, што казаў бацька. Затое як выскачыла з хаты маці, старая кашчавая Марфачка, на яе лямант збеглася мо паў-Рагазіна.

— Гэта ж трэба, пракурат. Ці ён тут ґараваў, ці ён тут нажываў што, а з дому цягне. Ды адбяры ты, боўдзіла несусветнае,— ускінулася Марфачка на Лявона.

Худзенькая і вельмі злосная, як тая аса, Марфачка ўскінулася не на сына, а на мужыка, нібы крыўдзіў яе не Леўка, а Лявон, які, недарэчна моргаючы вачыма, назіраў за ўсёй гэтай баталіяй.

— Хіба ўжо ў цябе і сілы не стае, хіба ты ўжо зломак які, каб даць спустоўваць усё сваё селішча.

— Ды маўчы ты,— агрызнуўся на жонку Лявон.— Няхай яго, гэткага сынка, сарочка не чапае. Каб яму бог даў грызці не хлеб, а гэтую ступу, гэты дубовы таўкач.

Аднак Марфачка не магла сцярпець такога спуставання гаспадаркі. Яна кінулася да Леўкі адбіраць ступу. Маці і сын счапіліся біцца. Разлютаваныя ў гневе, яны вельмі ж падобныя былі адно на аднаго. Хто яго ведае, чым бы скончыўся паядынак маці з сынам, калі б не ўмяшаўся Лявон. Адным толькі рухам рукі ён развёў іх, як тых пеўняў-забіякаў. Ды што яму з яго сілай было развесці! Казалі, аднаго разу Лявон пасварыўся з трыма братамі Алішэўцамі. Слова па слове, сварка ўзгарэлася гэтак, што Алішэўцы кінуліся біць Лявона. Той, каб далей ад бяды, ускочыў у свой двор, зачыніў вароты і падпёр іх плячуком. Колькі ні сепалі ўтрох Алішэўцы, каб адчыніць вароты, не далі рады. Нехта з іх даўмеўся з падваротні выцяць Лявона жалезным прутам па босых нагах. Тады прарваліся ў двор, думаючы: «От ужо наўскідаем Лявону». Кінуліся на яго: хто хапаў за шыю, хто за рукі. Але разлютаваны Лявон як крутнуўся, дык тры Алішэўцы разляцеліся, што тыя трэскі. Адным словам, Лявон Здрок меў такую сілу, што падымаў за камель і клаў на перадок воза самае тоўстае бервяно. Каб яму да тае сілы ды хоць трошачкі злосці, дык ён бы чортведама чаго мог нарабіць у гневе. Гэта мо і правільна маці-прырода робіць, што чалавека-асілка надзяляе мяккім, як губка, характарам. От жа стаіць Лявон і слухае, як сын абражае, няславіць маці, і адно толькі твар у старога балюча перасмыкаецца: хіба ж можна такое слухаць ад роднага дзіцяці?

Мне гэта запомнілася на ўсё жыццё. Запомнілася і яшчэ адна праява з Леўкам. Гэта ўжо было пасля таго, як Леўка аддзяліўся на хутар у Пуцілавік. Неяк ён скмеціў, што Панюкоў Ціхон забіў перад вялікаднем ладнага япрука. Сала і мяса гаспадар склаў у кубелец і паставіў у каморы. Аднаго разу ўночы, гэтак пад раніцу, калі ў людзей самы моцны сон, Ціхон пачуў нейкае шамаценне на сенечнай страсе. Гаспадар ціхенька выглянуў у акно і ўгледзеў, што прадрана страха акурат над каморай. Ён пабудзіў бацьку, старога Якава, большага сына, ужо ладнага хлопца, без рыпу дзвярэй яны выйшлі ў агарод з віламі і сякераю. Залеглі пад глухою сцяною хаты і пачалі пільнаваць. Праз нейкі час Панюкі ўбачылі, як

спачатку праз прадраную ў страсе дзірку высунулася ладная, пуды на два, торба з салам, а потым вылез і Леўка. Трымаючы на плячы торбу, ён ціхенька са страхі ступіў на плот і ўжо з плота саскочыў на далоўку. Тут на яго знячэўку і наваліліся ўтрох Панюкі. Яны яго аблажылі, як таго япрука, і пачалі перыць хто чым. Пакуль на крык пазбягаліся суседзі, дык Панюкі гэтак уплазавалі злодзея, што ў таго носам і ротам пайшла кроў. І гэтага мала яшчэ: як толькі добра ўднела, а гэта было акурат у нядзелю, Леўку вывелі на вуліцу, павесілі на шыю торбу і гэтак пагналі праз увесь Рагазін з канца ў канец. Людзей сабралася — як на фэст, кожны стараўся зняважыць злодзея. Праўда, каторыя казалі аддаць злодзея ў міліцыю і пад суд, але гаспадар сала сказаў, што не трэба, хопіць з яго і гэтага. Другі, вядома, на Леўкавым месцы згарэў бы ад сораму, а ён, кульгаючы на правую нагу, нават яшчэ ўсміхаўся сваім скрываўленым ротам. Цяпер пра той самасуд мо каторыя і пазабыліся, а мне от у дарозе яно чамусьці ўспомнілася, асабліва, як Зусь расказаў, што Усцім з Леўкам падводзяць майго бацьку пад кодэкс.

— Дык што там з бацькам? — нецярпліва пытаў я ў Зуся.— Гэта ж мне з дому напісалі, каб я прыехаў. Я за дарогу ўжо ўсё перадумаў: мо там з бацькам благое што здарылася?

— А хіба гэта добрае, калі чалавека ні за панюх табакі запраторыць чортведама куды? Гэта ж Леўка злёгся з Усцімам і верыдуе ўсім у калгасе, як сам хоча, хоць ён і не калгаснік. І рагазінцы ўсе яго баяцца. Добры гандаль — зачапі чорта, дык не адкараскаешся.

Зусь расказаў мне, што тады, калі ў Рагазіне арганізаваўся калгас, Леўка, каб мець прывілеі, прыкінуўся інвалідам: быццам пасля таго, як ён папаперыў у шахце кайлам вугаль, у яго аднялася правая нага. А ўсе быццам і верылі яму, хоць добра ведалі, што Леўка пачаў падцягваць нагу пасля таго, як злазіў у Ціхонава сала. Пасля яшчэ больш пачаў прыкідвацца, быццам нага ў яго нежывая, мяккая, як без косці, зусім не трымае яго. Аднак кульгае ён толькі на людзях, а калі ніхто не бачыць — ён аж бяжком бегае. Але пра гэта ўсе маўчалі, баяліся чапаць чорта лысага.

Ды і Усцім Пачосак недалёка адскочыў ад Леўкі. Праўда, ён не прыкідваўся калекам, але проста быў абібок. Ягоны бацька Адам памёр, калі Усцім ужо быў ладны хлопец. На добры лад ды з добрым розумам і рукамі сям'я

Пачоскаў — маці, Усцім і дзве яго меншыя сястры — магла б прыпяваючы жыць з тае паўвалокі зямлі, якую ім пакінуў пасля сябе бацька. Але пра тую зямлю ніхто не дбаў, яе ўгнойвалі хіба толькі адны вераб'і, дык на Усцімавых палосах раслі, аж буялі, драсён і верабейкава шчаўе. Усе рагазінцы вясну і лета варылі баршчы з таго шчаўя.

Потым неяк Усцім агледзеўся, што з яго спрытам, з яго прагавітасцю да працы не ён зямлю, а зямля адолее яго, не дасць яму ні хлеба, ні табакі, і ён пачаў здаваць яе рагазінцам на скопліну: два снапы браў сабе, а трэці таму, хто ўрабляў зямлю. Гэтак і жыў чалавек як бы з чужых рук, як бы з чужога стала беручы хлеб, аж да самае тае пары, пакуль у Рагазіне не прайшла калектывізацыя. Усцім адным з першых запісаўся ў калгас. Аднак ён заўсёды шукаў і знаходзіў сабе толькі такую работу, да якой не вельмі трэба было дакладаць рукі: то ён быў лістаносцам, то пайшоў на павышэнне і стаў загадчыкам хаты-чытальні. А ў апошні час, калі быў яшчэ за старшыню дзядзька Пракоп, Усціма паставілі за кладаўшчыка.

У бытнасць Пракопа Касянка старшынёй калгаса гаспадарка ішла ўгору: добра абсявалася поле, былі пастаўлены неблагія грамадскія будынкі, пасаджана дваццаць пяць гектараў саду. Калгас набыў сабе сякія-такія машыны — жняяркі, касаркі, добрыя плугі і культыватары. Меліся ўжо спраўныя коні, добры статак кароў. І хоць амаль кожны год рагазінскі калгас «Кастрычнік» здаваў дзяржаве не толькі сваю рату хлеба, а яшчэ выручаў і адстаючыя калгасы, усё ж не было таго года, каб рагазінцам не выстачала хлеба, і тыя людзі, якія спярша не хацелі ўступаць у калгас, з цягам часу не наракалі на сваю долю. У каторых былі старыя хаты-трухло, калгас памог паставіць новыя. З гэтакай дапамогаю і бацька мой займеў сабе новую добрую сасновую хату.

Раённыя кіраўнікі заўважылі гаспадарскі спрыт Пракопа Касянка, і райком партыі вырашыў пусціць яго на павышэнне, паставіўшы загадчыкам раённага зямельнага аддзела. Дзядзька Пракоп доўга аднекваўся, адбіваўся ад таго павышэння, спасылаючыся на сваё калецтва, але бюро райкома прыняло такое рашэнне: калі ён не пойдзе ў зямельны аддзел, дык будзе стаяць пытанне аб яго партыйнасці. Камуніст Касянок вымушаны быў пайсці на новую, мо і зацяжкую для яго работу.

А тым часам у Рагазіне пачалося чортведама што. На

тым жа самым пасяджэнні бюро раікома было вырашана раіць рагазінцам за старшыню калгаса Усціма Пачоска. Праўда, Пракоп Касянок выказаўся супроць гэтага, даводзіў, што Пачосак можа разваліць калгас, але яго не паслухалі. А можа б, і паслухалі, каб быў хто на прыкмеце другі, але пачыналі шукаць новую кандыдатуру і не вельмі знаходзілі. Камуністаў у раёне было не надта густа, і амаль усе яны стаялі на адказных работах. Такім чынам райком і прыняў рашэнне раіць члена партыі Усціма Пачоска старшынёй калгаса «Кастрычнік»...

Балаголаўская буда адляскала коламі па лясной дарозе, выехала на палявы прастор і ўжо набліжалася да маіх родных аселіц. Вунь відаць ужо, як махае павольна крыламі, нібы безупынна кланяецца роднай зямлі, рагазінскі вятрак. А мне здаецца, што буда не едзе, а завельмі павольна, як тая муха па смале, паўзе па калдобістай дарозе. Хочацца папрасіць балагола, каб махнуў пугай-свістушкай на коней. А мо саскочыць з воза і пехатой, я ж улегцы, з адным партфельчыкам. І я такі не вытрымліваю павольнай язды, не даязджаючы кіламетры два да Рагазіна, саскокваю.

— Куды ты, хлопча, яшчэ ж не даехалі,— крычыць мне наўздагон Зусь, высунуўшы з буды галаву ў брызентавым башлыку.

— Я пехатой, наўпрасткі сценкаю пайду,— крычу я ў адказ Зусю, і ён на развітанне махае мне з буды рукою.

Я Зусю сказаў, што пайду сценкаю наўпрасткі, толькі каб адгаварыцца. Мне проста захацелася прайсці аднаму ціхім летнім полем, сашчыкнуць у запалавелым ужо жыце сінявокі васілёк, прыпасці грудзьмі да зялёнай сакавітай муравы на абочыне дарогі і паслухаць ціхі шэпт ветру, шапаценне калосся, трошачкі паляжаць, падумаць. Я гэтак і раблю: кладуся дагары ў жытнюю разору і гляджу ў неабсяжны блакіт неба. На момант заплюшчваю вочы і бачу сваё басаногае дзяцінства: бачу яго не вачыма, а думкамі. За якія пяць хвілін я як бы перажыў усё, што дзеелася гадамі. Вунь за ветраком віднеецца зялёная купка дрэў — там, у ціхай засені, магіла маці. Я ўсхопліваюся і ўжо не іду, а бягу, быццам маці можа на мяне пакрыўдзіцца, што баўлюся. Але забягаю не на могілкі, а прастую на вятрак. Там павінен быць бацька, ён жывы, і да яго трэба хутчэй, чым да нябожчыцы. З расчыненых дзвярэй ветрака патыхае свежым млівам. На парозе сядзяць завознікі і кураць. Я нікога не

пазнаю, бо гэта не рагазінцы. Яны даюць мне дарогу. У млыне ля паставаў я ўгледзеў не бацьку, а запыленага ў муку хударлявага Рыгора Здрока, меншага Леўкавага брата. Ён быў заняты і не заўважыў мяне.

— Добры дзень, Рыгор Лявонавіч,— крычу я.

За шумам жорнаў млынар, мусіць, не чуе, і толькі тады, калі я тузаю яго за крысо кароткага кабата, ён паварочваецца і на момант як бы слупянее. Глядзіць на мяне і ці то не пазнае, ці то палохаецца ад неспадзяванага майго з'яўлення.

— Дык ці гэта ты, Макар, ці хто? — пытае млынар.

— Як бачыце.

— То здароў, братка. А які ж ты вырас, як выбахаўся. Мужчына, дый годзе, хоць у плуг цябе запрагай.

— Дык навошта мяне ў плуг, хіба я конь?

— Гэта ж такая прыказка. Не давядзі бог, каб чалавека ў плуг запрагаць.

Мужчыны паўставалі з парога і абступілі мяне.

— Дык чый бо гэта? — пытае нехта з іх.

— Васіля Яўстратавіча сын, таго, што малоў тут.

Мужчыны мяне аглядаюць, ледзь не мацаюць рукамі, а Рыгор Здрок бліскае вачыма з-пад заінелых ад мучнога пылу броваў. Ён плюшчыць іх, моргае, як бы ў чым вінаваты перада мною.

— А дзе ж мой бацька? — пытаю я.

— Бацька твой? — неўразуменна глядзіць на мяне меншы Здрок.— Бацька твой цяпер тут не робіць. Яго знялі за махлярства.

— За якое махлярства? — ледзь не кіплю я ад гневу.

— Хто яго ведае. Мне тым часам старшыня сказаў: ідзі прымай вятрак — дык я і прыняў. А якое там было махлярства, хіба мне ў галаве.

— Каля мукі ходзячы, вядома, што запылішся,— сказаў нехта з завознікаў. Але я на яго зірнуў са злосцю, і ён асекся.

Рыгор, вядома, ведаў, што бацька ніколі не махляваў, але не мог жа ён мне сказаць гэтага. Для прыліку ён нават паспачуваў мне:

— Яму з такімі дзецьмі толькі тут і працаваць было, усё-такі дзень пры дні заробак меў. Дык дзе там, людзі крывотлівыя, зайздросныя, падвялі. Зноў жа такі, як той дзядзька кажа, каля мукі ходзячы, цяжка не запыліцца.

Больш я не стаў укідацца ў гаворку з Рыгорам. Хуценька, нават не развітаўшыся, выбег з ветрака.

Рагазінская вуліца пасля горада здалася мне вузенькай-вузенькай, быццам які волат узяў абодва шары хат і ссунуў іх. Саламяныя накрыўкі старых хат, быццам баронячыся ад якой напасці, схлупіліся адна да адной і выдаваліся суцэльнай страхой.

Аднак жа яшчэ з горкі, на якой стаіць вятрак, мне кінуліся ў вочы пастаўленыя непадалёк ад шляху новыя, пад гонтавымі дахамі, аборы для жывёлы, свірны. Пасярод вялізнага калгаснага двара віднелася не вельмі вялікая будыніна, крытая бляхай, і над ёй чарнелася высокая труба. Гэта была калгасная электрастанцыя, але яна цяпер, улетку, не працавала.

Ідучы вуліцай, я ўглядаўся ў хаты, у двары. Шмат якіх не пазнаваў. Ды і як я мог пазнаць, калі яны былі новыя. На тых бядняцкіх сядзібах, дзе калісь стаялі халупіны з паўздзіранымі ветрам вільчыкамі стрэх, цяпер жаўцелі смольнымі сценамі збудаваныя на новы манер з чатырохскатнымі стрэхамі новыя дамы.

Хату Марыльчынага бацькі я таксама ледзьве пазнаў. Яна нібы памаладзела. Гэта мусіць, ад таго, што на вокнах былі новыя аканіцы з выкрутасамі.

Рагазінская вуліца па абодва бакі была абкапана неглыбокімі канавамі, праз якія ў кожны двор перакінуты мосцік. А пасярэдзіне вёскі, якраз дзе калісь стаяла кузня Ціхона, пракапана цераз агарод і выган глыбокая канава аж да самай Рагазінкі. Гэта, відаць, яшчэ дзядзька Пракоп даўмеўся зрабіць. Як гэта разумна і добра. Я ж памятаю: бывала, вясною ці ў глыбокую восень як заладзяць дажджы, дык вуліцу так размесіць жывёла, што прайсці ніяк нельга было, і людзі хадзілі загуменнямі. А цяпер, мабыць, і ў самую восеньскую слоту суха на рагазінскай вуліцы.

Вуліца была пуставатая. Вядома, летні час. Адно дзеці з парэпанымі лыткамі гойсалі па вуліцы, гуляючы ў коні і машыны. Але яшчэ здалёк пасярод вёскі я ўгледзеў колькі жанчын. Яны стаялі акурат пад Піліпавай хатай. Прыспешыў хаду і за колькі хвілін апынуўся ля жанчын.

— Добры дзень,— кінуў я сваё вітанне.

— Добры дзень,— пачуў нядружны адказ. Жанчыны здзіўлена пазіралі на мяне, мусіць, не спадзяваліся на такога госця.

— Дык хіба гэта ты, Макар? — азвалася цётка Тэкля.

— Ды хіба гэта Васілёў Макар? — следам за ёй азвалася яшчэ колькі жанчын.— Глядзі бо які вырас.

Я заўважыў Марыльку. Яна памажнела. Некалі кволенькія, востранькія грудзі акругліліся. Дзве доўгія касы, што выпалі з-пад хусткі, аздаблялі яе стан. Я хацеў адразу ж падысці да Марылькі, але яна хавалася за жанчын, як бы саромеючыся. І тут вока маё згледзела чалавека, які распластана ляжаў, быццам нежывы, пад Піліпавай прызбай, а ля яго сядзеў калматы чорны сабака нетутэйшага заводу.

— Чаго ж вы стаіцё? Чаму не ратуеце чалавека? — з гэтымі словамі я хацеў кінуцца на паратунак, але ў момант падбегла Марылька і схапіла мяне ззаду за рукі.

— Пачакай, пастой, Макарка, ён жа цябе парве.

— Хто парве? — не зразумеў я.

— Гэты ваўкалак Усцімаў. Ён нікога, апроч Сахвеі ці Леўкі, не падпускае да п'янага гаспадара.

Гэтакая мая была першая сустрэча са старшынёй калгаса «Кастрычнік» Усцімам Пачоскам. Гэтакая была і сустрэча пасля доўгай ростані з Марылькай. Калі яна мяне схапіла за рукі, каб не пусціць да той небяспекі, якой пагражаў Усцімаў сабака, сэрца маё ёкнула і, можа у той самы момант прачнулася тое першае юнацкае пачуццё, якое гэтулькі год драмала, прыспанае часам і акалічнасцямі. Мне хацелася ў адказ абняць Марыльку і пацалаваць, але вакол былі людзі, і я адно падзякаваў ёй за перасцярогу.

Вестка аб маім прыездзе ляцела да бацькавай хаты не на крылах, а на гонкіх, парэпаных нагах хлапчукоў-падшывальцаў. Толькі белыя галоўкі мільгалі па вуліцы. Мне на момант захацелася прыпусціцца за імі, але я ўспомніў, што ўжо не хлапчук. Падышоўшы да бацькавага двара, я ўгледзеў як бы выстраеных па ранжыру мачыху, Насцечку, Алеся і меншых хлопцаў. Бацькі чамусьці не было. Сэрца маё зайшлося ад гэтай сустрэчы. Мачыха першая кінулася да мяне і запрычытала:

— А сыночак, а родненькі, а добра, што ты не забыў на нас.

З гэтымі словамі яна абняла мяне і пацалавала. Я таксама пацалаваў яе. Потым пацалаваў Насцечку і ўсіх малых, даючы ім гасцінцы.

— Дык чаго мы стаім, сынок, хадзем бо ў хату,— спахапілася мачыха, і я ўпершыню пераступіў парог новай бацькавай хаты.

— А дзе ж тата? — пытаюся.

— Хай яны гэтак сцежкі перад сабой не бачаць, як яны яму дарогі знайшлі,— загаласіла мачыха.— Следчы выклікаў ужо каторы раз. Цягаюць яго то да следчага, то да пракурора, канпузяць. А што ж мая бедненькая галоўка будзе рабіць з гэтым бобам, якім ён мяне абсыпаў,— горкімі слязьмі загаласіла яна.— Яны ж яго засудзяць.

Гледзячы на маці, заплакалі дзеці. У мяне і ў самога слёзы падпіралі пад самае горла, але я іх прыдушыў у сабе і сказаў як мага спакайней:

— Не трэба, мама, плакаць. Слязьмі гору не паможаш. Не засудзяць, калі ён не вінен.

Мачыха пачала мне пераказваць гісторыю з тымі двума мяхамі субару, пра тое, як Пачосак са сваім хаўруснікам Леўкам ужо даўно капалі яму пад бацьку, бо хацелі паставіць за млынара Здрокавага Рыгора і цяпер дамагліся свайго.

— Не плачце, мама, не засудзяць,— паўтараў я, каб хоць як суняць слёзы, бо, гледзячы на маці, захліпалі і дзеці.

— Ты, можа, і не еў нічога ў дарозе? — спахапілася мачыха.

— Сяго-таго перакусіў,— няпраўду сказаў я, бо ў дарозе за думкамі, за балючым клопатам пра бацьку мне было не да яды. А цяпер сапраўды захацелася есці, аж пад лыжачкай засмактала.— Дзе ў вас умыцца? — спытаў я.

— Над цэбрам, вунь там. Хіба ты ўжо забыўся? Коля, палі Макарку,— загадала мачыха і сама пабегла ў камору.

Я ўмываўся над тым самым цэбрам, над якім і ў маленстве. Коля мне паліваў з таго самага карца, зробленага з гільзы. Садзіўся за той самы рыпучы стол. Мачыха ўнесла той самы збанок з малаком і наліла яго ў парцалянавы палумісак. З дарогі, выгаладаўшыся, я еў малако з чэрствым хлебам за самы найлепшы прысмак. Дзеці абступілі стол, і вочкі іх аж гарэлі...

— Мама, няхай і яны сядуць ды зачэрпнуць са мной па лыжачцы.

— Ты еш, не зважай на іх,— сказала мачыха.— Мы нядаўна паабедалі, яны не галодныя. Гэта ж такая ўжо завядзёнка ў іх — як хто за стол, дык яны да стала.

Успомніў, што я і сам быў такі. Бывала, наясіся па самую завязку, але як толькі хто сядзе за стол, дык гэтак

захочацца зноў есці. Здаецца, тое, што есць госць, дык і смачнейшае.

— Наш хлеб, мусіць, не такі смачны, як гарадскі. Ты мо там адны булкі ясі? А мы ў хлеб дамешваем бульбы.

— Чаму гэта я адны булкі ем? У студэнта часам бывае, што і хлебу жадзён. Хіба ў вас ужо і мукі няма?

— Чаму няма? Дзякаваць богу, яшчэ не з бядою жывём. Але ж цяпер, як бацьку засудзяць, дык хто яго ведае, як мы і жыць будзем,— ледзь не загаласіла мачыха.

Мне шкада было яе, шкада было бацькі, Насцечкі, шкада гэтых малых. Мне той мачышын і пачастунак не вельмі лез у рот. Я хуценька падзякаваў за хлеб-соль і пачаў аглядаць новую хату. Яна была прастарнейшая за старую, у ёй два пакоі. Але сцены былі яшчэ не патынкаваны, на вокны не было дубэльтаў і, як казала мачыха, зімой у хаце было — хоць ваўкоў ганяй. Было сёе-тое і апроч хаты новае: замест матчынага куфра стаяла памаляваная скрыня. Я пачаў уважліва разглядаць хатнюю навіну. Мачыха заўважыла гэта і паведаміла:

— Гэта ж мы з бацькам параіліся, прадалі два сувоі палатна твае маткі, трохі грыбоў ды агаралі Насці скрыню. Можа, хутка якія сваты прыйдуць, то трэба ж дзеўку аддаць, як людзі.

— Няхай бы мо яна вучылася, мама,— уставіў я сваё.

— Дзе тая навука ёй пойдзе ў галаву, калі хлопцы ўжо карцяць. Яна ж дзень у дзень петваецца на працы. Ды хіба тая навука хлеба якога дасць?

— Дасць, калі добра вучыцца.

— Мо табе і дасць, бо ты хлопец, а дзеўцы трэба кудзелю ўмець прасці ды дзяцей гадаваць.

Я падумаў сабе з болем: «Насця такі навучылася дзяцей няньчыць, усіх жа гэтых хлопцаў перакалыхала ды перанасіла на сваіх руках...» А Насця чамусьці саромелася, старанілася, быццам я і не родны брат яе. Трэба ж гэтак за якія чатыры гады адвыкнуць. Хацеў я з ёй пагаварыць, папытаць, як ёй жывецца, але яна мне нічога так і не сказала. Бо баялася, што я пра яе благое што падумаю, а мо не хацела, каб я ад яе самой уведаў, што ёй тут не мёд.

Бацька прыйшоў надвячоркам. Косыя промні сонца ліліся ў вокны. Неатынкаваныя сцены, беднаваты абсталюнак хаты ў сонечных промнях — усё як бы ўкрыта было казачным вэлюмам. Я стаяў ля сцяны і разглядаў фотаздымкі, асаджаныя ў самаробныя рамачкі і павешаныя

ў прасценку паміж вокнамі. Быў там і мой здымак. Ён вісеў у самым цэнтры. Мо таму, што на здымку я быў у капелюшы, у гарнітуры пад гальштукам, яго прымайстравалі на самым відавоку, бо ён як бы аздабляў здымкі мачышынага сваяцтва, якое было знята ў сялянскай вопратцы. Як сабе ні кажы, мо і бацьку было трохі гонару, што ягоны Макарка вылузаўся з мужыцкага шарачку і аж капялюш надзеў...

Я гэтак і не ўгледзеў, калі прайшоў паўз вокны бацька. Пачуў толькі, як бразнулі дзверы і мачыха запытала:

— Ну як там, Васіль?

— А ліха яго ведае. Усё яшчэ там капаюцца. Хіба ж лёгка дакапацца да Пачоска.

Гора як бы засланіла, адсунула на задні план і тую радасную вестку, што я прыехаў. Толькі тады, калі я ўжо выходзіў з другога пакоя, мачыха як бы ўспомніла, што ў хаце госць.

— Васіль, гэта ж наш сынок Макарка прыехаў.

Бацька, відаць, не чакаў мяне, бо ён спачатку неяк аж разгубіўся. А я глядзеў на яго, і слёзы гарачым камячком асядалі ў горле. Бацька вельмі схуднеў, неяк змізарнеў і з твару і з постаці, прыгорбіўся, як бы ім завалодала старасць, якая вось-вось зусім сагне, скруціць чалавека. Касмылі рэдкай сівай барады, завостраны, як швайка, нос і вытыркнутыя сківіцы — усё гэта рабіла бацькаў выгляд старэчым.

— Сынку,— кінуўся ён да мяне з абдымкамі,— як жа гэта ты даўмеўся прыехаць? Такі госць ды ў такі час.

— От прыехаў. Ліст адтрымаў жа, што ў вас тут няшчасце.

— Які ліст? — не разумеў бацька.

Я даведаўся, што ліст без бацькавага ведама напісаў Алесь пад дыктоўку мачыхі.

— Дык бяжы, Вара, ды пазыч у Цярэшкавых якое паўпляшкі,— спахапіўся бацька.

Мачыха хуценька пайшла з хаты.

Мы з бацькам селі за стол, як бы ўжо з нецярплівасцю чакалі тае паўпляшкі. Дзеці таксама абселі кругом стол.

Выпілі мы чаркі па дзве прынесенай мачыхай самагонкі, і бацька зусім захмялеў. Ён гэтае чортава зелле калі і ўжываў, дык хіба дзе на фэсце адну-дзве чаркі — не болей.

У нашу хату пачалі збірацца мужчыны, і кожны вітаў мяне:

— З прыездам, Макар Васільевіч.

Да позняй ночы у хаце не тухла святло. Мужчыны пыталі ў мяне пра розныя гарадскія навіны. Я таксама распытваў у іх пра калгасныя справы.

— Яно ў калгасе, у гурце, і спасабней — не так цяжка, як на сваёй гаспадарцы, на пуп не бярэш. Як добра ўднее, тады на работу ідзеш, ды і з работы, калі яшчэ сонца завысока,— казалі мужчыны.— І з касою дык не вельмі жылы рвеш, не тое што, бывала, на сваёй палосе. А ў бытнасць Пракопа старшынёй калгаса, дык і на працадзень не з бядой давалі. Ды глядзі, колькі хат новых наставілі. Школу сваю пабудавалі. А цяпер от пры гэтым Пачоску дык на звод усё пайшло.

— Чаму ж на звод? Усё ж у вашых руках — як будзеце рабіць, так будзеце і мець.

— Добра ты кажаш, сынку: як рабіць, так і мець,— умяшаўся мой бацька.— Леташнім годам наша поле вунь як зарадзіла. І прыбралі ўсё за пагоду, і змалацілі як мае быць, у засекі засыпалі. Думалі — хлеба не пераядзім. Але яно і паплыло так немаведама куды. Пачосак са сваім Здрокам ды ўсё іх свойства шыкавалі цэлы год, у гарэлцы моклі.

— Зноў жа такі,— дадаў дзядзька Павел,— каб у начальства быць у ласцы, Пачосак, не папытаўшы ў калгаснікаў, прадаваў хлеб направа і налева... Лішкі, кажа... А якія там лішкі, павымяталі засекі... Хіба гэта правільна? — пытаў ён.

— Вядома, няправільна,— адказаў я, запісваючы ў блакнот усё тое, што мне казалі.— Трэба было вам у райком пайсці і расказаць усё, там бы далі рады і Пачоску...

Мужчыны разышліся позна. Мы з бацькам засядзеліся яшчэ пазней. Мне мачыха паслала пасцель на той самай лаве, на якой я спаў яшчэ ў старой хаце. Я лёг, а бацька прысеў на ўскрай лавы і пачаў расказваць сваю бяду. Стары ледзь не плакаў, а я не мог нічым яго супакоіць. Мне прыйшла ў галаву прыказка: чужую бяду па воласу развяду, а да свае і розуму не прыкладу. А бацькава бяда была і маёй бядой, але я сказаў бацьку:

— Не бядуйце, тата. Я заўтра пайду да Беразняка, і не можа быць, каб ён не разабраўся.

Бацька махнуў рукой:

— Ай, сынку, разбярэцца ён...

— Разбярэцца, тата, разбярэцца,— з упэўненасцю заспакойваў я старога,— а цяпер ідзіце спаць.

Бацька мо на момант паверыў маёй упэўненасці, бо, як мне здалося, адразу паспакайнеў і пайшоў лажыцца. А я не мог заснуць аж да самага світання: усё маё дзяцінства вымалёўвалася перада мною. І чамусьці неадступна перад вачыма стаяла Марылька. Толькі не гэтая, якую я сустрэў сёння,— мажная, грудастая жанчына, а тая далёкая, тоненькая, шчупленькая, з вострымі грудкамі, у вяночку з сініх васількоў, што тады, як я ад'язджаў з Рагазіна, сядзела на вішні...

Першага сакратара райкома партыі таварыша Беразняка ў кабінеце не было. Мо з гадзіну я сяджу ўжо ў прыёмнай, назіраючы, як Беразнякова сакратарка бянтэжыцца пад маім позіркам і ўжо каторы раз перакладае з месца на месца, мусіць, зусім непатрэбную ні ёй, ні каму-небудзь іншаму паперку. Раз-пораз у кабінет заходзяць, мусіць, работнікі райкома, а мо і іншых якіх раённых арганізацый, пытаюць сакратара. Дзяўчына, нават не падымаючы галавы, адказвае, што яго няма. Яна і мне адказала гэтае самае, а я вось сяджу. Падумаў, ці не схадзіць мне да дзядзькі Пракопа ў райза, а потым прыйсці сюды. Толькі гэта я ўстаў з крэсла, каб пайсці ўжо, як зазваніў тэлефон. Сакратарка казала ў трубку:

— Яўген Пятровіч, вас тут ужо даўно чакае адзін таварыш. Прыйдзеце зараз?

Паклаўшы трубку, яна звярнулася ўжо да мяне:

— Пасядзіце яшчэ трошачкі. Таварыш Беразняк зараз прыйдзе.

Таварыш Беразняк, апрануты ў вайсковага крою гімнасцёрку з накладнымі кішэнямі, у сінім галіфэ, забраным у дудачкі-халяўкі хромавых ботаў, прайшоў паўз мяне, нават не зірнуўшы, хто яго чакае. Сакратарка хуценька пабегла за ім і праз які момант з дзвярэй кабінета кінула мне: «Заходзьце».

Беразняк сядзеў за сталом, засланым чырвоным абрусам. Калі я падышоў да стала, па чыста паголеным твары сакратара прабегла ўсмешка. Яна збегла з куточкаў вуснаў і, разгладзіўшы з абодвух бакоў вочных западзін веерчыкі зморшчак, выкрасаўшы ў вачах невідочную іскрынку, разлілася па ўсім твары і гэтак застыла. Варухнуліся вусны, і я пачуў:

— Сядайце, калі ласка, таварыш. Чым магу быць карысным?

Я адрэкамендаваўся.

— Вельмі прыемна, што з нашага раёна добрыя людзі выходзяць.

Мне рупіла гаварыць не пра добрых людзей, а пра бацькаву справу, але я спачатку расказаў пра тое, што скончыў рабфак і мне прапануюць працаваць у рэдакцыі газеты. Гэтае паведамленне, відаць, кранула сакратара.

— Вы разумееце,— пачаў я тое, дзеля чаго сюды прыйшоў,— бацьку майго жулікі збіраюцца ў астрог пасадзіць.

— Якія жулікі?

— Ды. нашы, тутэйшыя,— старшыня калгаса Усцім Пачосак і яго хаўруснік Леўка Здрок.

— Як гэта яны збіраюцца? Прабачце, я не разумею.

Я расказаў Беразняку ўсё па парадку: як Усцім прывёз у млын субар, як яны з Леўкам укралі два мяхі мукі і ўсё звярнулі на бацьку. Я глядзеў на сакратара, хочучы па выразу твару прачытаць, як ён рэагуе на гэта. Мне здалося, што Беразняк ужо ведае ўсю гэтую справу. А мо ён не праінфармаваны? Нарэшце сакратар запытаў у мяне:

— А вы, таварыш, упэўнены, што ваш бацька не браў тае мукі?

— Абсалютна ўпэўнен,— горача адказаў я.— У гэтым упэўнены ўсе рагазінцы.

Я расказаў сакратару, якім учора бачыў Пачоска пад Піліпавай прызбай. Беразняк пакруціў галавой.

— Псуюцца кадры. Дробнабуржуазная стыхія засмоктвае, як дрыгва. Калі гэта праўда, давядзецца на бюро выклікаць і абмеркаваць. Дык, кажаце, ваш бацька ні ў чым не вінаваты?

— Я ўпэўнены, што ён тае мукі не браў. Ён такі чалавек, што хутчэй сваё дакладзе, а чужое не возьме.

— Магчыма... Магчыма,— на момант задумаўся сакратар і ўзяўся за трубку тэлефона-круцёлкі. Крутнуў разругі. У трубцы нешта засіпела.

— Гэта пракуратура? А дзе таварыш Панёўчык? Выйшаў, кажаце, у міліцыю? Добра.

Следам за гэтым «добра» Беразняк устаў з-за стала, адчыніў дзверы кабінета і сказаў:

— Ліда, пазваніце ў міліцыю і знайдзіце там Панёўчыка. Звяжыце мяне з ім.

Мы доўга гутарылі з таварышам Беразняком аб розных рэчах, і, мне здалося, ён трымаў сябе са мной як роў-

ны з роўным. Распытваў пра горад. Знайшліся, як звычайна, агульныя знаёмыя. Беразняк калісь вучыўся там у педагагічным тэхнікуме і ведаў многіх выкладчыкаў, якія цяпер працавалі на рабфаку. Я пачаў ужо непакоіцца, што сакратар гэтак і не дасць ніякай рады майму клопату. Але нарэшце азвалася Ліда, і ў мяне павесялела на душы.

— Яўген Пятровіч, вазьміце трубачку, Панёўчык ля тэлефона,— сказала яна.

— Добры дзень, Віктар Іванавіч, як у цябе там справы? Што ты, не пазнаў? Ну, я, Беразняк.

Ён пытаў у пракурора пра розныя невядомыя мне справы, нешта раіў яму. Мне нецярпелася: калі ж ён нарэшце скажа пра бацьку?

— Дык вось яшчэ што, Віктар Іванавіч. Ты знаёмы са справай Васіля Шыянка? Што ты кажаш? У суд думаеце перадаваць?

Ад гэтых слоў у мяне аж душа ў пяткі ўвайшла.

— А я вось што думаю, Віктар Іванавіч: там не так гэты Шыянок вінаваты, як другія. Вы, мабыць, не вельмі разабраліся. Ты з таварышам Касянком раіўся? Не, кажаш. Дарма. Трэба было параіцца. Ён гэтага чалавека добра ведае. На маю думку, трэба гэтую справу прыкрыць. Няма чаго нам калгасных актывістаў ні за панюх табакі траціць. Як спыніць пытаеш? А от так, як пачалі, так і спыніце. Не здолелі разабрацца як мае быць, дык лепш спыніце, каб добры чалавек не пацярпеў. Гэта не дырэктыва, гэта мая думка. Ну, вось і ўсё. Пакуль бывай.

Бразнулася на рычажкі апарата трубка, і я пачуў словы, скіраваныя да мяне:

— Так што, таварыш Шыянок, можаце быць спакойным за свайго бацьку.

— Вялікае вам дзякуй.

Беразняк падаў на развітанне руку, і я з ягонага кабінета не выйшаў, а як бы вылецеў на крылах радасці.

На вуліцы ля будынка райкома стаяла некалькі фурманак. На адной з іх я ўгледзеў сабаку. Скруціўшыся, ён ляжаў на сене. «Дзе я бачыў гэтага ваўкалака?» — пытаў я сам сябе. І раптам прыйшоў адказ: з-за вугла паказаўся сам гаспадар фурманкі і сабакі — Усцім Пачосак. Працягнуўшы руку, ён сігануў мне насустрач.

— Макар Васільевіч! Якім ветрам цябе сюды? — сіпавата, прапітым голасам пытаў ён, быццам не ведаючы, што я ўчора бачыў яго пад Піліпавай прызбай.

— Добрым ветрам,— адказаў я на прывітанне старшыні калгаса.— От прыехаў пераведаць сваіх.

— А сюды чаго? — кіўнуў на вокны райкома Пачосак.

— А сюды як камуніст зайшоў пацікавіцца, што дзеецца ў раёне.

Мне рупіла хутчэй пайсці пераведаць дзядзьку Пракопа. Але як толькі я мерыўся ісці, Усцім заступаў мне дарогу, затрымліваў, пытаючыся пра розныя рэчы. І як ён ні ўтойваў свайго намеру выведаць, ці не заходзіў я да Беразняка расказаць пра ўсё тое, што ведаю пра яго, Усціма, і пра што звоніць увесь Рагазін, я ні словам, ні намёкам не выдаў таго, што расказаў сакратару пра ўчарашні выпадак пад Ціліпавай прызбай. Мусіць, паверыўшы, што я заходзіў у райком не скардзіцца, не даносіць на яго, а па нейкай сваёй справе, Усцім ужо больш вясёлым голасам прапанаваў:

— Дык мо, Васільевіч, разам паедзем да Рагазіна. Я адзін на фурманцы, месца хопіць.

— А сабака? Ён жа, мабыць, кусаецца.

— Не, ён рахманы. Гэта так сабе, для прыліку сабака, адно што поўсць на ім страшная, а сам ён — як цяля. А мо зойдзем ў чайную і па стограмоўцы перакулім? — зусім нечакана для мяне прапанаваў Усцім.

— Не, дзякую, я да гэтага зелля не вельмі падкі. Я хачу зайсці да таварыша Касянка, хоць пабачыцца з ім.

— Дзе ты таго Касянка знойдзеш? Чорт яго маў, каб ты яго знайшоў. Ён жа гойсае па раёне як апантаны, дарма што на адной назе.

Гэтак я ні па тону, якім было гэта сказана, ні па чым іншым не разгадаў, ці Усцім ухваляў, ці ганіў Пракопава гойсанне, і заспяшаўся развітацца з Пачоскам.

— Не хочаш, дык як сабе хочаш,— абыякава вымавіў ён, развітваючыся са мною.

Пракопа Касянка сапраўды не было ў Верамеевічах. У райза мне паведамілі, што загадчык учора паехаў у далёкія лясныя калгасы і наўрад ці вернецца да выхаднога.

Як толькі я паведаміў дома пра сваю размову з Беразняком, мачыха не ведала, дзе мяне пасадзіць, што перада мной паставіць піць і есці.

— Пі, сынку, еш, сынку,— прыганяла мяне Вара.— Хіба ж такія госці ў нас часта бываюць? Ты ж бо як паехаў, дык і забыўся дарогу дадому. Дармо што я табе не родная матка, а я цябе прымаю з дарагою душою. Хіба я табе што благое зрабіла, што ты цураешся нас?

— Ды не, мама,— знарок падкрэсліваю я гэтае дарагое слова,— мне проста няма як вырвацца: зімою вучыўся, а ўлетку трэба было сёе-тое на адзежыну зарабіць.

Бацька наліў яшчэ па чарцы. Мне чамусьці не хацелася есці. Я поўны быў адчуваннем роднае хаты, незабыўнай вясковай цішыні, якая ўскалыхала маё дзяцінства.

Ціхая летняя вясковая вуліца, як яна дорага, люба сэрцу таго, хто на ёй ступіў свой першы крок у жыццё. Пад ціхі шолах ліпавага лісця, у мроіўным марыве вечара я іду па вуліцы. На прызбах пад хатамі сядзяць, дудукаюць дзяўчаткі і хлопцы-падлеткі. Сям-там успыхвае ціхая, як гэты чэрвеньскі вечар, песня. А недзе там, удалечыні, на другім канцы вуліцы, басавіта рыпаюць лады гармоніка і заўзята бухае, аж стогне бубен. Там гуляюць большыя хлопцы і дзяўчаты.

Яшчэ і ў маю бытнасць заўсёды пад старой Ахрэмавай ліпай ладзіліся скокі. Там ціхім пошапкам зачыналася не адно каханне, каб потым прагрымець вяселлем. Можа б, і я знайшоў там сваё суджанае шчасце, калі б застаўся ў Рагазіне, калі б мне не выпала зусім іншая дарога. Але я кінуўся ў шырокі свет шукаць другога, больш прывабнага, непаўторнага шчасця. А мо я і цяпер іду туды з надзеяй угледзець хоць краёчак свайго шчасця? Мо яно там?

Ніхто не заўважыў, як я падышоў да музыкаў: адны танцавалі, другія смяяліся, і мо кожнаму з іх усміхалася сваё шчасце, таму яны і не заўважылі мяне. Я пашукаў вачыма і ўгледзеў Насцечку. Яна заўзята кружыла полечку з Андрэем. Мачыха такі казала мне, што Насцечкі з гэтым вісусам Андрэем вадой не разальеш. Бацька спрабаваў на яе і сварыцца ўжо: маўляў, гэты Андрэй табе не пара. Хлопец яшчэ ні разу ў нашу хату не зайшоў — баіцца бацькі. Але як толькі Насцечка выходзіць на вуліцу, Андрэй ад яе ні на крок не адступаецца.

Насцечка не заўважыла мяне, гэтак яна была захоплена танцам.

А Марылькі ўсё-такі няма на танцах. У каго б мне папытаць, дзе яна. Я шукаю вачыма старэйшых хлопцаў і дзяўчат, з якімі калісь сябраваў, але нікога не знаходжу. Раптам, як той вецер, падляцела да мяне Насцечка.

— Добра, што ты, Макарка, прыйшоў на танцы.

Следам за ёй неяк боязна падышоў да мяне і Андрэй. Ён падаў руку і сказаў:

— З прыездам, Макар Васільевіч. Надоўга да нас?

— Пагляджу, як прымаць будуць,— адказаў жартам я.

Хлопец не знаходзіў што больш і казаць мне. Таму я сам, каб вывесці яго з ніякаватага становішча, запытаў:

— Ну, як вы танцуеце, Андрэй?

— Добра выгэпваем, аж пяткі свярбяць.

Пакрысе вакол мяне сабраліся хлопцы і дзяўчаты. Яны неяк незвычайна аглядалі мяне, аж рабілася ніякавата: няўжо я ім стаў зусім чужы? Я шукаў моманту, каб адлучыць Насцечку ад гурту. Нарэшце ўзяў яе пад руку і адвёў убок.

— Ты Марылькі не бачыла? Яе не было тут?

— Большыя дзеўкі сюды на музыкі не ходзяць. Яны з намі не таварышуюць. Мо дзе пад Юркавай хатай яны, там у іх сваё зборышча.

Я ціхенька адышоў ад гурту і паплёўся паўз самыя вокны на шлях пад Юркаву хату ў надзеі там сустрэць Марыльку. На Юркавай прызбе не аказалася нікога. Я рашуча павярнуў назад з намерам бразнуць клямкай дзвярэй Марыльчынай хаты і пераступіць парог яе. Але як толькі падышоў да форткі, рашучасць мая прапала: у вокнах не было ні агеньчыка. Падумаў, што ўсе спяць ужо. Мо і Марылька спіць.

Родная вуліца! Колькі ты будзіш успамінаў! Вунь і наша старая сядзіба. Яна цяпер пустуе. Ад ліпы, якая стаяла пры вуліцы, застаўся адзін пень. Мо гэта і навяло мяне на цяжкія думкі? А мо Пятрова хата, якая і цяпер стаіць наўскось ад нашай, толькі неяк як бы прыгорбілася, прысела? А калісь жа хата была якая, нібы цацка! Ды і сам гаспадар быў чалавек не абы-які. На ўвесь Рагазін і нават на ваколіцы славіўся ён сваім шавецкім майстэрствам. Казалі, што ён боты не шыў, а як бы выліваў.

Гаспадара ўжо даўно няма на свеце, а хату яго і цяпер завуць Пятровай, хоць колішняя Пятрова жонка прыняла сабе за прымака нейкага навалоку Міканора. Мне гэтая хата яшчэ з дзяцінства запомнілася тым, што я па-суседску часта забягаў паглядзець, як Пятро сукаў дратву, як ён нацягваў на капыл выцяжкі. Употай я зайздросціў шаўцоваму майстэрству і мо нават сам думаў калі-небудзь наламацца на яго. Але больш за ўсё запомніўся сам Пятро: худы, згорблены, з шылаватым носам, з запалымі цёмнымі вачыма, ён сапраўды быў падобны на чалавека з таго свету. Справа ў тым, што яшчэ ў маладым веку Пятро Гаёк захварэў на сухоты. І куды толькі ён не кідаўся, куды не

ездзіў шукаць якой рады ад страшэннай хваробы: дапяў да Кіева, аж некуды на цёплыя воды,— нічога не памаглося. Чалавек чаўраў і чаўраў. З аднаго такога падарожжа Пятро прывёз грамафон. У нядзелю Рагазін абляцела вестка, што ў Пятровай хаце нейкая скрыня з трубой будзе спяваць і гаварыць чалавечым голасам. Увесь Рагазін сышоўся паглядзець на тое дзіва. Пятро адчыніў на вуліцу акно, выставіў у яго памаляваную велізарную трубу і пусціў сваю машыну. У трубе нешта зарагатала, загаманіла, а потым заспявала. Дзіва, дый годзе: мужчыны каторыя дык аж у трубу лезлі, думалі, што там чорт які сядзіць і рагоча. Кожную нядзелю Пятро наладжваў грамафонныя ігрышчы. Людзі ўжо і ведалі, што ў нядзелю гэтак пад абед трэба ісці да Пятровай хаты. З цягам часу старыя нацешыліся Пятровымі ігрышчамі і перасталі хадзіць на іх. Але моладзь, асабліва мы, падшывальцы, ніяк не маглі нацешыцца: кожную нядзельку было поўна моладзі пад Пятровай хатай. Спрабавалі нават танцаваць пад гэтую незвычайную музыку.

Хто яго ведае, навошта Пятро Гаёк прывёз тады той грамафон. Сам ён на ладан дыхаў ужо. Але калі заводзіў грамафон, абавязкова выходзіў з хаты і хадзіў паміж слухачамі, прыглядаўся да іх задаволеных твараў, і на ягоным схуднелым страшным абліччы з павытырканымі сківіцамі паяўлялася падабенства ўсмешкі. І мо ў гэтым была яго радасць, была адзіная ўцеха яго. Затое жонку сваю Сцёпу Пятро зусім зненавідзеў. Мусіць, за тое, што яна была маладая, дужая, прыгожая, а яму трэба было сыходзіць ужо ў магілу. Сцёпа цярпела, зносіла нечалавечыя здзекі свайго мужыка, мо зважаючы на тое, што мужык хворы і яму не трэба пярэчыць, каб яшчэ не стала горш.

Усё гэта паўстала ў маёй памяці як жывое, і я аж зжахнуўся ад тае цяжкае даўніны. Хутчэй засігаў дадому, каб адбіцца ад гэтых змрочных, невясёлых успамінаў. Але і дома я заснуць ніяк не мог: круціўся з боку на бок на не вельмі мяккай пасцелі, аж рэбры забалелі. Мо пасля другіх пеўняў ужо ціхенька рыпнулі дзверы, і, зняўшы чаравікі, на дыбачках па хаце захадзіла Насцечка. Яна пашукала на паліцы есці, але, відаць, нічога не знайшоўшы, увайшла ў той пакой, дзе ляжаў я.

— Насця, пашукай лепш, там яечня павінна яшчэ застацца,— зашаптаў я.

— А ты хіба яшчэ не спіш?

— Як бачыш, не сплю.

— Дык чаму ты?

— Думкі ўсялякія шчэмяцца ў галаву.

— А ты не знайшоў яе?

— Не. Я, мабыць, ёй патрэбен як лысаму грабянец.

— Не кажы, Макарка,— горача зашаптала Насця.— Яна кожны раз, як угледзіць мяне, дык пера́пытвае. Учора хацела да нас прыйсці, ды не хапіла, кажа, смеласці.

— Ты праўду кажаш? Маніш, мабыць?

— Далібог!

Эх, маладосць, маладосць! Якая ты няўрымслівая і смелая там, дзе трэба ісці на злом галавы — у баі і працы. І якая ты баязлівая, цнатлівая ў чалавечых па́чуццях, ты іх чамусьці часам хаваеш ад самое сябе.

— Насцечка,— зноў шапчу я,— заўтра ўвечары я абавязкова пайду да яе.

— Але ты заўтра не пабачыш яе.

— Чаму?

— Пачосак, мусіць, каб насаліць табе, адпраўляе Марыльку на цэлы тыдзень на далёкую сенажаць грэбці сена, і яна да нядзелі не прыйдзе.

— Тады мне не давядзецца пабачыцца з ёй, паеду.

— Дык чаго ты так скора паедзеш? Хіба ў нас і пагасцяваць ужо не хочаш? Пабудзь яшчэ з тыдзень.

— Няма як, сястрычка. Мяне там чакаюць справы. Я і так ужо забавіўся. А дзядзьку Пракопу, калі пабачыш яго, дык пакланіўся.

Вядома, я Насцечцы схлусіў, што мяне ў горадзе чакалі неадкладныя справы. Мне проста не хацелася, каб Марылька падумала, што я назола. Ды і пачуцці мае да Марылькі былі ўжо не тыя, што раней. З галавы не выходзіла крыўда, што яна тады не адбілася ад Касмыля. Адна́к жа недзе глыбока ў сэрцы было і замілаванне, і каб мо яна была тут, дык яно б магло разгарэцца полымем, прытушанае часам каханне. Зноў жа такі мне карцела, каб рэдактар не перадумаў.

Гарачым чэрвеньскім днём я ад'язджаў з Рагазіна. Бацька, як і тады, вёз мяне загуменнямі. Ля Марыльчынай сядзібы я прыглядаўся на вішні. Мне здавалася, што мо і цяпер я ўгледжу галоўку ў вяночку з сініх васількоў. Але там нікога не было. Я папрасіў бацьку спыніцца на шляху ля могілак.

## ПРАШУ ЛЮБІЦЬ І ШАНАВАЦЬ

Мацвей Давідзюк вадзіў мяне па не вельмі раскошных апартаментах рэдакцыі. Казалі, што тут быў калісь нейкі купецкі клуб, і яго нядаўна і наспех прыстасавалі пад рэдакцыю. Пярэгарадкі пакояў былі не капітальныя, а з дошак. Вялізны пакой, у якім стаялі аж чатыры сталы і з якога быў уваход у рэдактараў кабінет, быў як бы цэнтрам рэдакцыі. Адсюль і пачалося маё знаёмства з супрацоўнікамі. Тут сядзеў сакратар рэдакцыі Вадзім Рашчынскі. Поруч з яго сталом стаяў стол стыльрэдактара Івана Курбана. Ля другой сцяны пад вокнамі былі яшчэ два сталы. За тым, што стаяў бліжэй да дзвярэй рэдактаравага кабінета, сядзела белабрысая, шустрая, ужо, відаць, не вельмі маладая сакратарка Валя.

— Знаёмцеся, наш новы супрацоўнік Макар Шыянок. Прашу прыняць яго ў сваю сям'ю, любіць і шанаваць,— жартам рэкамендаваў мяне рэдактар сваім супрацоўнікам.

Я, панурыўшыся, ішоў следам за Давідзюком і не ведаў, як сябе трымаць, што казаць. У вочы кінуўся чалавек, што сядзеў за сталом пры першых дзвярах. Упаў мне ў вока ён сваёй доўгай, на клін, барадой, якая некалі, відаць, была рудая, а цяпер, з тае прычыны, што ў яе заткалася нямала сівых валасоў, мела нейкае сталёвае адценне. Твар у чалавека хударлявы, але карыя маленькія вочкі бегаюць яшчэ жвава.

— Гэта наш ветэран. З першага дня арганізацыі газеты працуе тут.

Я працягнуў руку і назваў сваё прозвішча. У адказ пачуў:

— Шолам Кац.

— Славуты тым, што яго амаль уся Еўропа ведае. З Амерыкі, з Францыі, можна сказаць з усяго свету, шлюць яму лісты з адрасам: «Беларусь. Шоламу Кацу». І даходзяць,— жартаваў рэдактар. Шолам аж прыцмокваў языком, як бы ён от толькі з'еў што вельмі салодкае.

— Ой, Мацвей Кірылавіч, жартаўнік вы наш. Навошта ж вы гэтак? Хлопец і сапраўды падумае, што я немаведама хто, што на мне, як на тым геркулесавым слупе, трымаецца ўся зямля.

Я то наўрад ці падумаў, а Шолам Кац, які ў рэдакцыі выконвае не дужа вялікія абавязкі — робіць разметку нумароў, збірае арыгіналы надрукаваных допісаў, раздае супрацоўнікам газеты і раз у месяц рэдагуе старонку на

яўрэйскай мове,— сапраўды думае, што яго ніхто і ніколі замяніць не можа. З гэтай прычыны ён ніводзін год не браў адпачынку і нават не патрабаваў кампенсацыі за нескарыстаны адпачынак. Мацвей Давідзюк колькі разоў казаў яму:

— Таварыш Кац, пайшоў бы ты ў адпачынак, пасядзеў бы хоць месяц без клопату.

— Добра вам казаць, а як жа тут без мяне будзе?

— Як-небудзь будзе. Вунь Валя цябе замеціць.

— Што вы, Мацвей Кірылавіч,— махаў рукамі Шолам, быццам рэдактар прапаноўваў яму якую недазволеную авантуру.

— Мы б і пуцёўку табе расстараліся ў дом адпачынку ці нават і ў санаторый, пабыў бы там месяц, пакрасаваўся.

— Ат, пуцёўку-шмуцёўку. Няхай маладыя ездзяць красавацца, а мне, старому, навошта яно, тое красаванне?

Гэтак чалавек ніколі і не пакідаў свайго рабочага месца. Хіба толькі якая цяжкая хвароба валіла з ног, і ён не мог дайсці да рэдакцыі, бо такое, як грып, прастуду якую, Шолам і за хваробу не лічыў. Чалавек ён быў загартаваны нягодамі жыцця: актыўны рэвалюцыйны дзеяч у мінулым, ён прайшоў не адну царскую ссылку, і, відаць, арганізм яго выпрацаваў у сабе здольнасць незвычайна супраціўляцца розпай немачы.

Шолам Кац быў чалавек надзвычай пунктуальны. Суседзі, якія ўжо шмат год жывуць на Прырэчнай вуліцы, кожны дзень па тым, калі Шолам выходзіць з дому, правяраюць гадзіннікі: ставяць роўна без чвэрткі дзесяць. І ніколі не памыляліся.

Далей Давідзюк мяне пазнаёміў з Вінцэнтам Барташэвічам, з Юркам Маргуном, загадчыкам сельгасаддзела рэдакцыі. Гэта быў высокі, кашчавы, з нейкім адметным блуклівым позіркам чалавек. Відаць было, што ён трохі пабойваўся рэдактара, бо як толькі мы зайшлі ў пакой, Юрка ўстаў, быццам салдат па камандзе.

— От у таварыша Маргуна будзеш і працаваць. Гэта наш самы ўдарны аддзел. Ты, мусіць, сельскую гаспадарку трохі ведаеш, дык табе, як той казаў, і карты ў рукі.

Маргун дапытліва паглядзеў на мяне і скрывіўся, як бы ён узяў на язык палыну. Не іначай чалавек падумаў, што ў яго аддзеле не падрыхтоўчы клас, а яму малакасосаў даюць.

Сельскагаспадарчы аддзел у рэдакцыі быў сапраўды вядучы. Гэта было відно хоць бы па тым, што яго матэрыялы займалі ў газеце дзве з чатырох старонак.

— У нашым аддзеле, хлопча, у шапку не паспіш. Тут трэба класавая пільнасць і яшчэ раз пільнасць.

Я слухаў загадчыка аддзела і вельмі браў да сэрца тое, што ён мне казаў. Пакой, у якім мясціўся сельгасаддзел, быў не такі вялікі, у ім стаялі апроч загадчыкавага яшчэ два сталы. Той, што ля дзвярэй, Маргун адвёў мне.

— Сядай тут і будзем працаваць,— сказаў Юрка Маргун такім тонам, быццам мяне яму сілком навязалі.

Я сеў за свой стол, паадчыняў шуфляды паглядзець, што там ёсць. У левай шуфлядзе, дзіва, дый годзе, у ашмоцці паперы я выкапаў зімовую шапку-вушанку. Па здзіўленню, якое адлюстравалася на маім твары, Юрка здагадаўся, што я знайшоў нешта незвычайнае.

— Што там такое? — спытаў ён.

— Паглядзіце, чыясьці шапка.

— Якая шапка?

— Зімовая, вушанка.

Маргун падышоў да майго стала, узяў яе двума пальцамі, як нешта брыдкае, і засмяяўся.

— Гэта той шалапут пакінуў. Усе яго набыткі тут ляжалі,— казаў Маргун невядома пра каго. Я здзівіўся Маргуновай усмешцы. Мне здавалася, што ён зусім і смяяцца не ўмее. А ён, бач, смяецца такім смехам, які вось-вось можа перайсці ў рогат.— Гастралёр... Увесь свет ужо мо аб'ехаў. Мацвей Кірылавіч спадзяваўся, што ён у нас асядзе. Дзе ты бачыў! Чорт яго маў, каб ён асеў. Шапку толькі от пакінуў.

Я не ведаў чалавека, пра якога ішла гаворка, і Маргун, здагадаўшыся, што я не ў курсе справы, пастараўся растлумачыць:

— Гэта ж во напрадвесні прыехаў у гэтай шапцы-вушанцы з бярэмам выразак з газет усяго Савецкага Саюза Зяма Школьнік. Фертаваты такі хлопец, і да рэдактара: маўляў, мне, Мацвей Кірылавіч, надакучыла вандраваць па ўсім белым свеце. Хачу тут у вас асесці. Мацвей Давідзюк паглядзеў яго дакументы, пачытаў ягоныя нарысы і артыкулы і згадзіўся: няхай свежае слова будзе ў газеце. А праз два месяцы Зямы Школьніка і след прастыў.

Я слухаў тое, што Маргун расказваў пра Зяму Школьніка, а здавалася, што ён мае на ўвазе мяне. Але ж у мяне не было ні выразак з газет, ні нават такой шапкі, каб па-

кіпуць у сталe пасля сябе. Я толькі за адно трывожыў-ся — мо я зусім не здатны ні да чога. А што Юрка так ду-маў, гэта адразу пацвердзілася яго асцярожнымі, як бы бакавымі запытаннямі:

— А ты адкуль сам будзеш? Тутэйшы ці дзе здалёку?

— Як вам сказаць, не з горада, але і не вельмі здалёку.

— А дзе працаваў?

— Нідзе яшчэ не працаваў. Вучыўся на рабфаку.

— Ну, гэта няважна, што яшчэ не працаваў,— паве-сялеў Маргун, мусіць, таму, што я не такі, як той Зяма Школьнік.— Я сам нідзе не вучыўся на журналіста,— га-варыў далей Юрка,— а от загадала партыя быць журналі-стам, дык я і стаў. Галоўнае, каб было жаданне. А вопыт, умельства прыйдуць самі з цягам часу.

Як яны прыйдуць, калі я от сеў за стол і не ведаю, за што зачаплю рукі. Маргуноў стол стаяў у кутку наўскось, ён як бы знарок так быў пастаўлены, каб загадчык не спускаў вока з мяне. Маргун пакапаўся ў шуфлядзе свай-го стала і падаў мне жмуток паперак.

— На вось гэтыя допісы ўважліва прачытай і апрацуй іх так, каб можна было ў газеце друкаваць.

Цэлы дзень я крукам сядзеў, чытаючы тыя допісы, і не мог даўмецца, як жа мне іх так апрацаваць, каб аж друкаваць можна было. Селькоры пісалі пра тое, як кула-кі і падкулачнікі падрываюць знутры калгасы — знішча-юць жывёлу, знарок дамагаюцца, каб на палях быў не-дарод.

— Ты іх перапішы, падавай загалоўкі, і будзем зда-ваць у набор,— загадваў мне Маргун, нават не паказаў-шы, як і што рабіць. Сам Маргун прывалок на свой стол дзве тоўстыя падшыўкі «Правды» і «Звязды».

— Мне перадавы артыкул трэба напісаць у нумар,— сказаў ён,— відаць, каб я не спадзяваўся на яго дапамогу.

Я пісаў і перапісваў, закрэсліваў і зноў пісаў, і ўсё мне здавалася, што ніякага толку з гэтае мае пісаніны не бу-дзе. Пашкадаваў ужо, навошта паслухаў рэдактара і зга-дзіўся ісці працаваць сюды, калі нічога не ўмею рабіць. Нават сам сабе надумаў ужо: калі Маргун скажа, што ў мяне нічога не выходзіць, дык заўтра ж пайду да Давідзю-ка і заяўлю пра сваю няздатнасць тут працаваць, лепш пайду вучыцца ў інстытут на інжынера.

Пад канец рабочага дня Юрка ўзяў з маіх рук двойчы перапісаныя мною допісы, прачытаў і сказаў:

— На першы раз нішто сабе, але трэба больш палітыч-

най вастрыні. Факты трэба не проста падаваць голымі, а надаваць ім выразную палітычную ацэнку, вастрыню.

Я не ведаў, як надаваць тым фактам вастрыню. Проста апрацаваў, прывёў да літаратурнай нормы тое, што было напісана селькорамі.

— Вось паглядзі, як гэта трэба рабіць,— беручыся за пяро, казаў Юрка.

Загалоўкі я падаваў з народных прыказак і прымавак. Маргун іх паперакрэсліваў і панапісваў свае: «За сабатаж — да суровай адказнасці», «Кулакі і падкулачнікі зрываюць падрыхтоўку да багатага ўраджаю».

— Вось бачыш — і канкрэтна, і класава накіравана. Загалоўкам, як дубінай, трэба біць па класавым ворагу.

Я не ў захапленні быў ад Юркавых загалоўкаў. Але што можа зрабіць, чым можа запярэчыць тое дзіця, якое толькі вучыцца хадзіць. Не кінецца ж яно на сваіх яшчэ нетрывалых нагах у вялікае падарожжа. Падобны на тое дзіця быў і я. І хоць мяне ніхто не папракаў за тое, што працую дрэнна, я сам бачыў, што ў мяне пакуль нічога не выходзіць. Бачыў па тым, як нравіў апрацаваныя мною допісы загадчык аддзела, бачыў, як крэсліў і перакрэсліваў іх стыльрэдактар Іван Курбан. Гэты чалавек наогул наводзіў на мяне нейкі страх. Таўставаты, немаладога веку ўжо мужчына з глыбокімі пралысінамі, з нейкім гламаздаватым тварам, ён здаваўся мне надта суровым і няўмольным. На работу ён прыходзіў у другой палове дня, і да яго стала ўсе, нават загадчыкі аддзелаў, падыходзілі з нейкай бояззю. Нават Мацвей Давідзюк і той перад ім як бы бянтэжыўся.

— Іван Нічыпаравіч, навядзі глянец на перадавы артыкул, спяшаўся, можа, што і не так,— казаў рэдактар да Курбана.

І стыльрэдактар браўся наводзіць глянец. Ён так яго наводзіў, што артыкул ішоў на перадрук да машыністак. Як жа мне было не калаціцца перад Курбаном. Я спадцішка, так, каб не вельмі кідалася Курбану ў вочы, садзіўся непадалёк і наглядаў, як і што ён крэсліць. Вельмі мне хацелася навучыцца апрацоўваць допісы так, каб нічыя рука не паднялася іх правіць. Але неўзабаве я пераканаўся, што так, як апрацоўвалі Маргун і Курбан, я навучыцца не мог. Яны выкрэслівалі кожнае слова, якое мне здавалася найбольш дзейсным, а канцоўкі допісам давалі заўсёды адны і тыя ж: «Пакласці рашучы канец» ці «Прыцягнуць да суровай адказнасці...» Юрка Маргун ды і Кур-

бан бачылі ў гэтым палітычную завостранасць матэрыялу. А мне карцела сказаць ім, што яны проста не ўмеюць думаць, таму і карыстаюцца заляжалымі штампамі. Але ў мяне пакуль не хапала рашучасці сказаць ім гэта.

З другімі супрацоўнікамі рэдакцыі я пазнаёміўся ўжо сам, без дапамогі рэдактара. У першы ж дзень мае работы гэтак пад канец дня зайшлі два хлопцы. Яны пазнаёміліся са мной:

— Сяргей Рослік.

— Лёня Мятлюг.

Той, што назваўся Сяргеем, быў, відаць, гадоў на чатыры ці на пяць старэйшы за мяне. Нейкі непаседлівы, няўрымслівы чалавек. Нягледзячы на гарачыню, ён быў у зеленаватым джэмпе-пінжаку і пад гальштукам і нават у зеленаватым джэмпепінжаку і пад гальштукам і нават нервары. Ён сюд-туд хадзіў па пакоі і, як мне здалося, нерваваўся, бо ўсё грыз і грыз ніжнюю губу, раз-пораз падграбаў рукою чуб, які спадаў на вочы і засціў чалавеку белы свет.

— Значыць, цябе Давідзюк запраторыў у гэтую яму? — спытаў Сяргей.

— У якую яму? — не зразумеў я яго.

— Ды ў сельгасаддзел. Ён усіх сюды сватае. Я таксама з месяц сядзеў з гэтым дубам,— Сяргей паказаў на Маргуноў стол, за якім цяпер нікога не было.— Гэта, брат, не чалавек, а сухар сухаром.

Я не ведаў, што адказаць Сяргею, бо мне Маргун здаўся вельмі сур'ёзным работнікам, няхай ён хоць і не вельмі ўмее пісаць. Ён быццам ведаў не толькі тое, што робіцца ў рэдакцыі, а тое, што дзеецца ў кожнай вёсцы. А тут — на̀ табе, што кажа пра Маргуна Сяргей Рослік. Калі не крывіць душой, дык мне сам Сяргей дужа не спадабаўся сваёй нейкай самаўпэўненай нахрапістасцю. Пра ўсіх ён гаварыў так, нібы яны і падмёткі яго не варты былі. Адно пра Лёню Метлюга нічога не сказаў. Каб мо тут яго не было, дык пэўне што і пра яго б Сяргей не змоўчаў. А Лёня мне з першага позірку больш спадабаўся, чым Сяргей. Рослы юнак з правільнымі рысамі твару, з трошачкі даўгаватым носам, з пышнай, як капа сена, чупрынай, ён нечым вабіў да сябе. Мо тым, што маўчаў і не казаў нічога пра другіх? А мо тым, што друкаваў ужо ў газеце свае вершы? Я некаторыя з іх чытаў, як быў яшчэ на рабфаку, і, праўду кажучы, зайздросціў хлопцу. Зайздросціў я і Сяргею Росліку. Ягоныя вершы пра пяцігодку хоць і цяжка чыталіся, бо ў іх было вельмі многа мудрагельства, але

ўсё ж то былі вершы, а не грэшная проза. Мне хацелася, каб і Лёня што-кольвек сказаў да мяне, а не маўчаў. Нарэшце я пачуў і яго голас. Ён быў нейкі густы, сакавіты. Здавалася, каб гэты чалавек заспяваў, дык ягонай песняй заслухаўся б. Але, як потым я даведаўся, у Метлюга зусім не было музычнага слыху. Лёня спытаў у мяне:

— Адкуль ты, хлопча, будзеш родам?

Аказалася, што ён з суседняга раёна. З-за гэтага я адчуў нейкую блізкасць да Лёні, хоць ён і не дужа пакуль гарнуўся да мяне.

Мятлюг скончыў Верамееўскую дзевяцігодку. Пасля вучыўся на настаўніцкіх курсах два гады. Год працаваў настаўнікам, але потым адчуў, што настаўніцкая праца — не яго стыхія, яго жыццёвы талент — паэзія, і падаўся ў горад.

Вось ужо больш за год, як ён працуе літаратурным супрацоўнікам аддзела культуры рэдакцыі, загадчыкам якога — Сяргей Рослік.

— А ты вершаў часам не пішаш? — спытаў у мяне Лёня.

— Не, не пішу.

— А ты паспрабуй, дзівак,— параіў Сяргей.— Цяпер жа ўсе пішуць вершы.

Я не ведаў, што адказаць на Рослікаву параду. Калі праўду казаць, дык я не адзін раз заседжваўся да позняй ночы, мудруючы над рыфмамі. Але колькі я ні выдумляў розных рыфмаў, колькі ні плёў вершаў, яны мне здаваліся вельмі ж нейкімі нялюдскімі, і тыя аркушыкі паперы, на якіх былі запісаны радкі, я шматаваў на кавалачкі, каб ніхто і прачытаць не мог.

Цяжка чалавека спазнаць з першай сустрэчы. Мусіць я памыліўся і ў Лёню Метлюгу. Ён мне спачатку здаўся сціплым, нават па-сялянску трошкі прастакавым. Але ў той жа вечар я пераканаўся ў іншым. Сяргей, не доўга думаючы, прапанаваў:

— А што, калі мы, хлопцы, пасядзім вечарок.

Я не зразумеў, дзе і чаго мы пасядзім.

— Як-ніяк ганарар атрымалі,— удакладніў Сяргееву прапанову Лёня Мятлюг.— Каб радкі вершаў не парассыпаліся, дык іх трэба, як тую бочку, замачыць, а інакш абручы паспадаюць.

— Ты, Макар, маеш ахвоту?

— Не ведаю, у мяне грошай ні каліва няма,— прызнаўся я і як бы тым самым выказаў сваю згоду.

— Глупства грошы,— сказаў Лёня.— Сёння ў цябе няма, а заўтра іх у мяне не будзе, а ў цябе будуць.

— Ты, мабыць, яшчэ ні разу і не чуў, як там у рэстаране спявачка спявае вершы Ясеніна. А вочы ў яе якія глыбокія, туманныя. Здаецца, утапіцца ў іх можна.

— Я не тое што не чуў і не бачыў тае спявачкі, дык нават не ведаю, дзе тая вінніца. Не было ніколі такой патрэбы, каб шукаць яе.

І вось прыцемкамі ўжо мы ўтрох увайшлі ў даўгаватае, цёмнае, як калідор, памяшканне. Паўз сцены яго стаялі невялікія столікі. Ля глухой сцяны была прымошчана не вельмі вялікая сцэна, на якой стаялі піяніна і два крэслы. На сцэне яшчэ нікога не было. Ды і за столікамі сядзелі не вельмі густа. Росліка з Метлюгом, мусіць, ужо тут ведалі, бо як толькі мы селі за столік, стрымгалоў да нас падбег афіцыянт з падаткнутай за каўнер кашулі белай сурвэткай, нібы ён толькі што палуднаваў і мы яго адарвалі ад яды.

— Што зажадаеце? — аж у крук сагнуўся ён.

— Чатыры бутэлькі кагору,— закамандаваў Сяргей.

— А мо чаго мацнейшага? — гледзячы на мяне, пытаў Мятлюг.

Мне ніякавата тут было распараджацца, камандаваць. Але нешта трэба ж было адказаць, калі чалавек пытае, бо вочы яго запытальна глядзелі на мяне.

— Бярыце, што вам падабаецца, а мне ўсё добра будзе.

— Давайце пакуль чатыры кагору,— пацвердзіў Сяргееў заказ Мятлюг,— а там відно будзе.

Сяргею чамусьці не сядзелася, нібы ў сядзенні таго крэсла, на якім ён круціўся, быў востры цвік. Хутка Сяргей усхапіўся і выбег на вуліцу. Ён недзе там забавіўся. Тым часам на памосце з'явілася тая спявачка — жанчына ўжо не вельмі маладога веку. Выйшаў мужчына ў акулярах, які адразу ж сеў за піяніна. Жанчына пакуль што сядзела на крэсле і разглядала наведвальнікаў. Кінуўшы позірк на наш столік, яна ўсміхнулася Метлюгу. Лёня падняў дзве рукі над галавой, сашчапіў іх і тым самым паказаў, што вітае яе.

Мы з Лёнем да віна не дакраналіся: чакалі Сяргея. Нарэшце ў дзвярах паказаўся і ён. Уперадзе ішлі тры дзяўчыны. Дзяўчаты былі прыгожыя, з падфарбаванымі вуснамі. Сяргей завіхаўся перад імі. Мы з Лёнем усталі, узялі яшчэ тры крэслы і прыставілі да свайго століка. Дзяўчаты па чарзе павіталіся з Лёнем. Дайшла чарга і да мяне.

— Майка,— адрэкамендавалася мне грудастая бландзінка з дробненька завітымі валасамі.

— Лёля,— падала руку другая, чарнявая, шчуплеькая, з вострымі вачыма дзяўчына.

І нарэшце:

— Рыма,— аж пеканула мяне сваімі цёмнымі, трошачкі як бы задуменнымі вачыма вёрткая, як той уюн, смуглянка.

Пакуль я прыкідваў, хто з кім сядзе і якая выйдзецца мне, Рыма хуценька амаль упрытык падсунула сваё крэсла да майго.

— Хто сёння частуе? — спытала яна так, што можна было зразумець — яна ў гэтай кампаніі, за гэтым сталом не ўпершыню.

— Макар Шыянок,— адказаў з нейкай уедлівай усмешкай Лёня Мятлюг, нібы хочучы нагадаць мне, што я і сам тут на чужы кошт, бо ў маёй кішэні ляжала ўсяго якіх рублёў з дзесяць і мне на іх трэба было жыць аж да самай палучкі.

Налівалі шклянкі, пілі віно. Брынчала піяніна. Нарэшце спявачка з глыбокімі, як бездань, вачыма ўстала і заспявала:

Ты жива еще, моя старушка?<br>Жив и я. Привет тебе, привет!

Голас у спявачкі быў сакавіты, грудны, ён пераліваўся і слаўся па зале мяккім вэлюмам. Я заслухаўся песняй. Сяргей гэта заўважыў і шапнуў мне так, што ўсе пачулі:

— Во спявае дык спявае!

Гэтая пахвальба спявачцы была выказана толькі для мяне: маўляў, дзівак ты, бачыш, куды мы цябе завялі — гэтакія песні, гэтакія дзяўчаты, а ты, мусіць, яшчэ і не рады.

А я быў сапраўды спанталыжаны незвычайнасцю абставін, нейкай ціхай нахабнасцю дзяўчат. Вочы мае бачылі, што грудастая Майка ледзь ужо не на калені села Сяргею. Як ёй не сорамна! Ды і мая Рыма ўсё бліжэй і бліжэй падсоўвалася да мяне. Я ўжо дрыготка адчуваў яе блізкасць. А яна п'янаватым языком пляла:

— Я недзе цябе бачыла, Макарка. Ты мне тады з першага позірку спадабаўся.

— Дзе вы маглі мяне бачыць? — не мог даўмецца я, бо спачатку не ведаў, што ёй не было чаго гаварыць і яна для прыліку, каб паказаць сваю цікавасць да мяне, проста выдумляла.

— Ты таксама вершы пішаш? Люблю паэтаў, яны не-
пасрэдныя, шчырыя, не такія, як усе, будзённыя.
— Я ж не паэт.
— Няпраўда, маніш. Сяргей з Лёнькам не знаюцца з
людзьмі, якія не маюць нічога да літаратуры ці мастацтва.
Давай з табой вып'ем на брудэршафт. Ты мне падабаешся.
Выпіць то я выпіў з Рымай тыя чаркі, якія не забываў
наліваць Сяргей. Аднак жа мне не вельмі было прыемна,
і закарцела як хутчэй адкараскацца ад гэтай чарнявай
вяртушкі. Дужа ж яна старалася зачараваць мяне. Ды
хіба толькі мяне? Учора ці заўчора яна, мусіць, гэтак жа
блізенька сядзела, гэтак жа піла, заляцалася да каго-не-
будзь другога, і ад таго, што я гэта ўяўляў сабе, мне ста-
навілася брыдка, хацелася хутчэй выскачыць на вольнае
паветра і стрымгалоў кінуцца ў свой інтэрнацкі пакой, ад-
пачыць ад усяго.
Кватэры я пакуль яшчэ не меў і жыў у інтэрнаце, ён
усё роўна ўлетку пуставаў.
З вінніцы мы выйшлі ўжо запазна, але Савецкая вуліца
яшчэ аж кішэла людзьмі, па тратуары нельга было пра-
біцца — столькі там моладзі шпацыравала. Завядзёнка
была такая ў горадзе: амаль усе маладыя людзі выходзі-
лі гуляць на Савецкую вуліцу. Тут зачыналіся раманы,
тут нараджаліся і трагедыі. Нямала тут было і камедый.
Хіба ж гэта не камедыя, што я іду не сам сабе, а мяне
моцна трымае пад руку Рымка; каб, здаецца, і захацеў
вырвацца ад яе, дык не вельмі вырвешся. Яна нешта шча-
беча, як тая птушка, хоць я ї не слухаю яе. Галава мая
трошачкі кружыцца, трошачкі шуміць, у нагах кволая
мляўкасць. Каб, здаецца, от упасці на ложак і заснуць,
не было б гэтай мляўкасці, гэтага п'янаватага здран-
цвення.
На рагу Савецкай і Сялянскай Сяргей з Маяй спынілі-
ся і чакалі нас.
— Ну што, сябры мае, будзем рабіць, спаць пойдзем,
ці што? — пытаў Сяргей, калі падышлі мы.— А мо пой-
дзем да мяне, пасядзім, пагаворым, па чарцы яшчэ вып'ем.
Я не ведаў, як каму, а мне можа б і хапіла таго, што
я ўжо выпіў, але ж з п'янага глузду я пацёгся за Сяргеем
і Лёнькам. Уласна кажучы, не сам я пацёгся — мяне па-
валакла пад руку Рыма.
Сяргей кватараваў не вельмі далёка — ён займаў па-
койчык-баковачку на Сялянскай вуліцы ў прыватным до-
ме. Кватэрка яго была завалена ў беспарадку кніжкамі,

газетамі. Пры сцяне пад акном, якое выходзіла ў сад, стаяў жалезны ложак, накрыты байкавай коўдрай, ля другой сцяны — невялічкі стол, накрыты не абрусам, а аркушам зялёнай паперы, гэтакай жа, якой былі засланы ўсе сталы ў рэдакцыі.

— Сядайце, сядайце, хто дзе можа,— запрашаў гасцінны гаспадар,— хто на ложак, хто на крэсла.

Рыма пасадзіла мяне побач сябе на ложак. Асалавелым позіркам я разглядаў Рослікаў халасцяцкі прытулак. На сцяне над сталом я ўгледзеў партрэт у просценькай рамачцы. Прыгледзеўшыся, я пазнаў на ім Сяргея. Ён быў намаляваны ў шэрым гарнітуры, у капелюшы, з-пад якога выбіваўся касмыль валасоў. Выраз твару быў нейкі знарок неахайны, трошкі нават абыякавы, як бы ён гаварыў: мне напляваць на ўсё зямное, я жыву ў нейкім далёкім казачным свеце рамантыкі. І мне падумалася, што на партрэце адлюстравана не толькі знешняе падабенства чалавека, а выказана ўся яго сутнасць, яго характар, яго звычкі. Рыма заўважыла маю цікавасць да партрэта і, як бы хочучы раздзяліць маё захапленне, сказала:

— Праўда, прыгожы хлопец. Малайчына Майка, такога хлопца прычаравала.

Я не знайшоў што адказаць на Рыміна захапленне: мне было ніякавата слухаць гэта — яна ўсё ж такі сядзела побач мяне, а думала, відаць, пра Сяргея.

У пакой не ўвайшла, а як бы ўплыла, заняўшы палавіну яго, Сяргеева гаспадыня. Яна паставіла на стол талерку з дробнымі крышэнікамі сырога сала.

— Бацькі пасылачку прыслалі,— растлумачыў Сяргей. У момант на стале паявілася бутэлька гарэлкі, цыбатая пляшка віна-купажу і батарэя піва.

Паселі за стол парамі. Я думаў, што нашы дамы не пакваляцца на гарэлку, абыдуцца віном. Але Сяргей ва ўсе шэсць шклянак наліў пароўну гарэлкі, і аж пошчак пайшоў па пакоі, як чокнуліся. Адным духам усе спаражнілі посуд. Потым зноў на стале паявілася гарэлка. Яе налівалі, мяшалі з віном, з півам і пілі. Я як бы праваліўся скрозь зямлю, як бы мяне зусім не стала на гэтым белым свеце.

Прачнуўся я на сваім мулкаватым студэнцкім ложку. У роце — быццам чэрці начавалі, галава аж гудзела, у ёй быў гэтакі вэрхал, што і думак нельга было сабраць у адно. Сілюся ўспомніць, што там адбылося, але толькі абрыўкі, шматкі ўсплываюць у памяці.

А галава цяжкая-цяжкая, як волавам налітая. Падстаўляю пад халодны кран і мыю, мыю, аж да болі ў скронях. Нарэшце знаходжу ў сабе сілы выйсці на вуліцу. Але куды ісці — у рэдакцыі сёння няма нікога, выхадны. Іду па тратуары як сам не свой. Здаецца, што ўсе людзі глядзяць на мяне, нават паказваюць пальцамі, быццам ведаюць, чаго я ўчора натварыў. Я ім зайздрошчу: яны ўсе спакойна спалі, у іх не трашчыць галава, як у мяне. На Савецкай насустрач трапіўся разносчык газет Лапацін. Гэтага чалавека ўвесь горад ведае. Ён дзюбае жалезнай палкай па тратуары і крычыць:

— Купляйце! Купляйце газету! У сённяшнім нумары «Палескай праўды» надрукаваны цудоўны верш Леаніда Метлюга! Купляйце! Чытайце верш Метлюга!

Я не ўтрымаўся, купіў газету. Навошта ён крычыць пра Метлюга? Няўжо такі выдатны верш? Прачытаў. Нічога асаблівага. Так сабе агітка. Але чаго ён крычыць? Пытаю:

— Лапацін, навошта вы крычыце пра гэты верш?

— А табе што да таго? Што хачу, тое і крычу, абы такія дурні, як ты, куплялі. Дай рубель, дык буду крычаць, што ты разумны.

Не знаходзячы сабе месца, я паплёўся на Сялянскую вуліцу пад Сяргеева акно, якое мо і не зачынялася праз усю ноч. Сяргей з Лёнем плюхаліся ўжо ля мыцельніка. Як толькі ўгледзелі яны мяне, Сяргей са злосцю буркнуў:

— Дурань, што ты нарабіў учора. Сапсаваў усю музыку. Гэтак добра ўсё ішло.

— А што я нарабіў?

— Быццам і не ведаеш? — з уедлівай іроніяй спытаў Мятлюг.

— Не ведаю, не памятаю, п'яны быў,— адказаў я. Мне карцела запытацца ў Метлюга: чаго гэта Лапацін крычыць яго прозвішча.

— Крычыць, кажаш? Малайчына, не забыўся.

— Няхай горад ведае сваіх паэтаў,— з нейкім замілаваннем прамовіў Сяргей.

Я здагадаўся, што Мятлюг, ведаючы, што сёння будзе надрукаваны ў газеце яго верш, падсунуў Лапаціну рублі тры, і той крычыць на ўсю вуліцу ягонае прозвішча. Ад гэтае весткі хлопцы неяк падабрэлі, палагаднелі, і Сяргей расказаў мне, што адбылося ўчора на яго кватэры. Рыма, якая ўвесь час сядзела побач мяне, ап'янела зусім і палезла цалавацца да яго, Сяргея.

— Ты, брат, раўнівы, як той Атэла,— сказаў ён.

— Навошта мне яе раўнаваць, хіба яна мне жонка.

— Мусіць жа закахаўся, бо як толькі яна пацалавала мяне, дык ты так разбурчаўся, гэтак разышоўся, хацеў стол перавярнуць. Дзяўчаты гэтак напалохаліся, што аж паўцёкі кінуліся.

Па тым, як расказваў Сяргей, я адчуў, што ён не вельмі злаваў, бо, мабыць, дзяўчаты не дужа яму дарагія былі.

— Я ж кажу, сапсаваў усю музыку,— зноў уставіў сваё Лёня.

Як праз сон прыгадваю, што мне вельмі не спадабаліся паводзіны дзяўчат. Я звык бачыць дзяўчат трошкі сарамяжымі, хоць бы для прыліку. А гэтыя, на табе: самі лезуць цалавацца, гарэлку жлукцяць, як ваду...

Але, як бы там ні было, Сяргей з Лёнем больш стараліся не браць мяне ў такія цёплыя кампаніі. І калі праўду казаць, дык я на іх за гэта не вельмі і гневаўся.

## ПЕРШАЯ КАМАНДЗІРОЎКА

Восень развесіла барвы на дрэвах, спустошыла палеткі, абкалаціла садавіну. Сама б ламацца засекам, скрыням ад дабра, ад набыткаў зямлі. Але яны не ламаліся. На Украіне, кажуць, спёка высмаліла поле, і яно аж патрэскалася. Ды і наша, беларуская, зямля не вельмі шчодра аддзячыла хлебаробам за іх працу. У жытным салома парасла як чарот, а пад жніво колас нават не прыгнуўся, а стаяў тырчком угору. У садах пачарвівелі ад гарачыні яблыкі, і восень, звычайна сытая і шчаслівая пара, напалохала ўсіх нішчымніцай. У магазінах былі перабоі з хлебам, які выдавалі строга нармавана па картках. Цяжка было краіне. Ікластыя драпежнікі імперыялізму сама што выпусцілі на сусветную арэну Гітлера, і ўжо нямецкі фашызм ляскаў зубамі. Краіна не магла ні на адзін дзень замарудзіць, затрымаць тэмпы пяцігодкі. Галаднаватыя і напаўраздзетыя камсамольцы будавалі Магнітку, ставілі горад юнацтва на беразе Амура. Гартуючы сталь, яны самі гартаваліся на агні рэвалюцыі. Газеты штодзень паведамлялі аб пуску новых домнаў, заводаў і камбінатаў, электрастанцый і шахтаў. Яны заклікалі да пільнасці ў класавай барацьбе, друкавалі справаздачы аб судовых

працэсах над шкоднікамі, над трацкістамі і бухарынцамі. Краіне трэба было выстаяць ва ўпартай барацьбе, ёй трэба было набрацца сілы, каб даць па зубах, калі хто памкнецца на яе напасці. А каб набрацца сілы, выстаяць, рушыць наперад, каб задыміліся, зажылі індустрыяльныя гіганты — трэба мець хлеб.

Рэдактар сабраў нас у свой кабінет і сказаў:

— Вы, таварышы, едзеце на хлебанарыхтоўкі. Гэта ўсё роўна, што вы едзеце на фронт. Дык будзьце ж там пільнымі, будзьце змабілізаванымі, каб кулакі і іх прыхваснi не ашукалі вас.

Мне была выпісана камандзіроўка ў недалёкі ад горада Лапухоўскі сельсавет, у якім я павінен быў прабыць да таго часу, пакуль сельсавет не выканае плана нарыхтовак. Быць там не толькі сведкам, не толькі інфармаваць аб усім рэдакцыю, а ўключыцца ў адну з брыгад і разам з мясцовымі камуністамі і камсамольцамі няшчадна ламаць кулацкі сабатаж. Я ўзяў сёе-тое ў партфельчык і выправіўся на станцыю, каб паспець на прыгарадны цягнік. Восеньскі дзень слязіўся агіднай імжакай.

З цягніка я выйшаў на невялічкай палявой станцыі Кісялёўцы, адкуль было рукой падаць і да Лапухоўкі.

У памяшканні сельсавета сядзела чалавек з пяць мужчын. Яны маўкліва курылі. Адно тоўсценькі гарбузаваты чалавечак неяк незвычайна мітусіўся. Калі я павітаўся з мужчынамі і сказаў, хто я такі, ён неяк не то іранічна, не то з прыемнасцю ўсміхнуўся і сказаў:

— Добра! Вельмі добра. Нашага палку, значыць, прыбыло.

Тым часам я пачаў знаёміцца з мужчынамі, што былі ў сельсавеце, сярод іх быў прадстаўнік міліцыі, а астатнія — вясковыя актывісты і камсамольцы.

— Я думаю, таварышы ўпаўнаважаныя, што сёння мы не пойдзем ужо нікуды, а размяркуем нашы сілы, прыкінем, як і што будзем рабіць заўтра,— рахаваў гарбузаваты старшыня Лапухоўскага сельсавета Свірыд Лопух.

Я не ведаю, як каму, а мне з першага позірку не спадабаўся гэты самы Свірыд Лопух. Маленькія яго вочкі як бы дрыжэлі ў вузенькіх шчылінках. Здавалася — ён толькі што зрабіў вялікую шкоду і баіцца, каб яе не выявілі.

Калі ўжо было ўсё размеркавана, хто ў якой брыгадзе пойдзе заўтра на падворны абход, калі на вёску апусціўся густы непраглядны змрок ночы, Свірыд Лопух занепакоіўся:

— Недзе ж вам трэба перапачаваць. Можна б і да мяне, але жонка мая нешта прыхварэла, і няма каму нават бульбы зварыць,— забедаваў старшыня.

— Я тут заначую. От на стале і перасплю, не вялікі пан,— выказаў я сваё меркаванне.

— Хіба ўжо свет на клін сышоўся, каб на сталах спаць,— запярэчыў нехта з камсамольцаў.

— Тут жа ўночы холадна, хоць ваўкоў ганяй,— шкрабучы патыліцу, казаў старшыня.— Хіба ўжо ў нас не знойдзецца хаты, дзе пераначаваць? — Ён яшчэ з момант падумаў, а потым звярнуўся да аднаго з камсамольцаў: — Аляксей, завядзі таварыша карэспандэнта да Мікуця Архіпа.

Мікуцёва хата была прасторная — на дзве палавіны. Відаць, у ёй калісь быў і дастатак і нейкі лад. Сцены былі патынкаваныя, столь пабелена. Пры сцяне пад вокнамі стаяла масіўная са смольных дошак канапа. Гаспадар сустрэў маё паяўленне ў хаце не дужа ветла. З-пад навісі калматых рудых броваў ён бліснуў на мяне калючым позіркам. Твар у гаспадара быў як бы правялены на сонцы і на ветры, на ім выпіналіся сківіцы, падбародак аздабляла рудая барада. Як толькі мой праважаты сказаў: «Дзядзька Архіп, Лопух загадаў, каб вы гэтаму таварышу начлег далі»,— гаспадар адразу на мяне кінуў калючымі вочкамі гэтак, што мне аж ніякавата стала.

— Яно-то і цеснавата ў хаце, але не начаваць жа чалавеку па нягодзе. А хто вы такі будзеце? — пытаў у мяне Архіп, калі з хаты выйшаў мой праважаты.

— Я з горада. От прыехаў памагчы вашаму сельсавету ў нарыхтоўках,— адказаў я.

— Дык сядайце ў нашай хаце. Распранайцеся, сядайце,— устаючы з-за стала, запрашаў гаспадар.

— А дзе ж ваша сямейства? — запытаў я, бо нікога, апроч гаспадара, не бачыў у хаце.

— Ат, хто дзе. Старая вупь на печы грэецца. Маладая гаспадыня спіць у той хаце. А сыны паз'язджалі ў горад. Яны цяпер і ў той бок не глядзяць, каб у зямлі калупацца. Не вельмі вялікі пажытак з гэтае зямлі.

Мне здалося, што гаспадар увачавідкі неяк падабрэў, палагаднеў. Ён пачаў распытваць, хто я і адкуль родам. Адказваў я скупа, бо не вельмі хацелася спавядацца перад гэтым ціцым чалавекам. Мне хацелася есці, бо з самага рання ў роце не было і крупінкі. Гаспадар, мусіць, заўважыўшы мой галодны позірк, бомкнуў на печ:

— Аўдуля! Аўдуля, ды ўстань бо ты.

— Чаго там мне ўставаць? — пачулася з печы.

— Устань, пабачыш — чаго.

На печы нешта заварушылася, і над ляжанкаю звісла раскалмачаная сівая галава. Вочы ў жанчыны былі яшчэ напаўзаплюшчаныя.

— Навошта я табе трэба?

— Ды ўстань бо, глядзі — чужы чалавек у хаце.

Аўдуля сцягнулася з печы. З гарачай чарэні яна зябка перасмыкалася. Угледзеўшы мяне, жанчына неяк сцепанулася і адразу як бы сагнала з сябе санлівасць.

— Мо чалавек і есці хоча, дык пашукай там чаго.

— Няма ж чаго шукаць, хлеба ж ані крошкі,— адказала Аўдуля.

— Дык мо бульба там засталася ад вячэры? Ды гуркоў якіх унясі,— загадаў гаспадар, а потым звярнуўся да мяне: — Маўчыце вы, дагаспадарыліся. Гэта ж трэба, з восені засекі падмецены, ні каліва мукі няма. Хто яго ведае, што і рабіць будзем вясной.

Гаспадар казаў мне гэта, быццам выліваў свой сялянскі боль, а мне чамусьці не хацелася ні верыць, ні спачуваць яму.

Нечым вельмі ж Архіп Мікуць нагадваў мне нашага рагазінскага Лукаша Шульгу, і я чамусьці пэўны быў, што ён хлусіць.

Тым часам гаспадыня дастала з печы чыгунец добра ўпаранай бульбы-крышэнікаў, унесла з пограба гуркоў і паставіла ўсё гэта на стол. Гаспадар адвярнуўся ў другі пакой і паставіў на стол пляшку.

— Ну, то сядайце, таварышок, за стол, падсілкуйцеся трохі.

— Дзякую, дзякую,— для прыліку пачаў адмаўляцца я, хоць есці хацелася так, што аж жывот падцягвала.

— Потым і дзякаваць будзеце. Прабачце толькі, што хлеба не маем. Бульбай абыходзімся і самі,— прыбядняўся гаспадар, але маё вока заўважыла на паліцы за краёчкам адхінутай фіранкі добры непачаты бохан хлеба.

Я сеў за стол. Гаспадар таксама прымайстраваўся з краёчку стала і наліў мне поўную шклянку печага каламутнага, рудога.

— Дык мо з дарогі і пагрэецеся трохі? Гэта ж яшчэ да фэсту гналі, дык засталася. Не вельмі добрая ўдалася.

— Дзякую. Я гэта не вельмі ўжываю.

— Як гэта — не вельмі ўжываецe? — здзівіўся стары Архіп Мікуць, быццам хочучы тым самым сказаць: хіба ёсць на свеце такія людзі, якія не бяруць у рот горкага. Вядома, я мог выпіць, але ж, па-першае, мне не падабалася гэтая каламутная вадкасць: хто яго ведае, чаго там намешана; а па-другое, мне трэба было трымаць вуха востра і не паддавацца ні на якія правакацыі. Я не ўпэўнены быў, што гаспадар частаваў мяне ад шчырага сэрца, бо каб была гэтая шчырасць, ён бы не схаваў таго бохана на паліцу, а адкроіў бы ад яго хоць лусту. Наадрэз адмовіўся я ад гаспадаровай чаркі. З'еў толькі крышэнікаў з гуркамі і падзякаваў гаспадарам. Гэта Архіпу Мікуцю не вельмі мо і спадабалася, бо, хціва ўсміхнуўшыся ў клінок рудой барады, ён сказаў:

— Я яшчэ ні разу не бачыў, каб упаўнаважаны адмовіўся выпіць. Мой швагер часцяком да мяне прыводзіць іх нанач.

— Дык я ж, дзядзька, не ўпаўнаважаны, я — карэспандэнт.

Архіп, відаць, не зусім ушалопаў, што такое карэспандэнт, бо запытаў:

— А што вы тут у нас рабіць будзеце?

— У газету пісаць буду.

— Бач ты,— выказаў сваё здзіўленне Мікуць і зірнуў на паліцу, мабыць, пашкадаваўшы, што не ўрэзаў мне хлеба. Але выпраўляць памылку позна ўжо было.

Прачнуўся я рана-рана, яшчэ толькі бралася на дзень. Хуценька ўсхапіўся з мулкай, пасланай на лаве з кажухоў ды чуек пасцелі, апрануўся і гатовы быў ісці.

— Пачакайце, можа, от баба ўстане ды спеданне сякое-такое ўмудруе.

— Дзякую, няма часу чакаць.

— Не спяшайцеся, па вас Лопух зойдзе. Ён маёй хаты не цураецца. Дзякаваць богу, мы ж з ім у свойстве. Мая меншая сястра замужам за ім.

Архіп Мікуць пачаў хваліць на ўсе застаўкі Свірыда Лопуха: ён, маўляў, і справядлівы, і чэсны, і сваякоў у бядзе не пакідае. Мяне гэта насцярожыла. Але пытаць, у якой бядзе Свірыд Лопух не адцураўся Архіпа Мікуця, я не адважыўся. Расказаў сам Архіп.

— Гэта ж у той год, як сама рабілі калгас ды кулачылі, дык галота розная як насела — раскулачыць яго, дый годзе, каб іх кулачыла пад бокі дзень і ноч. А які ж я кулак? Увесь век свой гараваў, гаспадарыў як мае быць. На

малатарню ўзбіўся. Зямлі бацька нябожчык паўвалокі пакінуў, дык я кулак, каб іх кулачыла дзень і ноч. Дзякуючы Свірыду толькі тут і аседзеўся.

Пачуўшы гэта, я пільней прыгледзеўся да Архіпа Мікуця і пазнаў у ім Лукаша Шульгу. Не, не па выгляду — па блукліваму позірку маленькіх вочак, па хцівасці і скнарнасці.

— А цяпер от хлеба таго наклалі чортведама колькі. Дзе ж я ім яго вазьму? Хіба з калена выламлю? Вы ж бачыце самі, ніпічымніцай душымся.

Што я мог парадзіць гаспадару, чым я мог яго ўсцешыць? Нават для прыліку я не мог яму паспачуваць, сумленне не дазваляла. Таму хуценька, не дачакаўшыся, пакуль па мяне зойдзе старшыня сельсавета, выбег з хаты і засігаў у сельсавет. Там ужо было чалавек колькі камсамольцаў і камуністаў. Старшыні сельсавета яшчэ не было. Неўзабаве прыйшоў і ён, трошкі пад хмяльком. Разбіліся на дзве брыгады. Я трапіў у брыгаду старшыні. З намі быў яшчэ сакратар камсамольскай ячэйкі Аляксей Певень і ўчастковы міліцыянер. Аляксей быў трошкі маладзейшы за мяне. На твары яго відна была нейкая напалоханасць. Па дарозе, пакуль ішлі ў канец вуліцы, Певень расказаў мне, што яму ўжо два разы падкідалі запіску, у якой папярэджвалі, што калі ён будзе вельмі шчыраваць, выкалочваючы хлеб, дык не знасіць яму галавы. Аляксей баяўся. Ён прызнаўся мне, што нават спаў не ў хаце, а кожны раз у новым месцы: то ў клеці, то ў адрыне ў сене, а часам нават сыходзіў у суседнюю вёску да цёткі. Я паспачуваў Аляксею, але для заспакаення сказаў, што, маўляў, калі баяцца ваўка, дык не трэба ў лес хадзіць. Мы на колькі крокаў адсталі ад Лопуха з участковым, і Аляксей горача зашаптаў мне:

— А вы ведаеце, што ў гэтага самага Архіпа Мікуця, які вам пашкадаваў хлеба пакласці на стол, аж дзве ямы засыпаны збожжам. Яно мо там ужо сапрэла. А ён бедніцца, ведае, што старшыня сваяк — не зачэпіць.

Я як бы і чакаў такога адкрыцця. Сказаў Аляксею, што калі мы прыйдзем на Мікуцёў двор, каб ён мне паказаў вачыма, дзе тыя ямы, а я ўжо сам дам рады.

Мы зайшлі ў канцавую хату. Гаспадыня, яшчэ не вельмі старая жанчына ў завязанай на ражкі хустцы, поралася ля печы. Тое, што столькі мужчын увалілася адразу ў хату, мусіць, спалохала гаспадыню.

— Як, Арына, хлеб маеш? — спытаў Лопух.

— Як жа, трошкі маю. Вунь акрайчык на стале ляжыць.

— Не гэты акрайчык, а нарыхтоўку здаць маеш?

— Божухна мой, якую нарыхтоўку? Дзе я там тае нарыхтоўкі без мужыка вазьму? Пудоў пяць ячменю маю, дык мне ж трэба па сям'ю.

— А дзе ён у цябе, пакажы.

— Вунь там, у падполлі.

Лопух падняў масніцу, і дасталі мех.

— Ну дык давайце забяром,— прапанаваў Лопух.

Але ні Аляксей, ні міліцыянер, ні я не ўзяліся за мех. Мне стала шкада гэтай працавітай жанчыны. І я заступіўся за яе. Заступіўся і Аляксей з міліцыянерам. Таго меха збожжа не забралі. Склалі толькі акт і пайшлі з хаты. На двары я распытаў у Аляксея, што за яна, гэтая Арына. Ён мне паведаміў, што гады два назад памёр яе мужык, пакінуўшы на ўдовіны рукі, на яе клопат чацвёра малых дзяцей. Яна ніякая не кулачка, а ў калгас не ідзе, бо баіцца, што адна не наробіць на такую малечу.

У Мікуцёў двор мы прыйшлі з вобыскам ужо гэтак пад абед. Архіп выйшаў на ганак і аж пакланіўся нам.

— Хлеба ў мяне анізвання няма. От жа таварышок ведае, начаваў у мяне, дык бачыў, што самі душымся адной бульбай.

Мікуць гэтак зірнуў на мяне, нібы чакаў, што я скажу: «Хадзем, мужчыны, з двара, няма чаго тут, у гэтага чалавека, шукаць». А я маўчаў, думаючы сабе: «Ведаю, ведаю, гад печаны, пад якой грушай ты гноіш збожжа». Аляксей паспеў ужо мне маргнуць і паказаць.

Свірыд Лопух для прыліку загадаў нам пашукаць у клеці, у каморы, на вышках. Гаспадар спакойна глядзеў на ўсе нашы пошукі і нават пасміхаўся ў руды клінок барады: маўляў, шукайце ветру ў полі.

— Я з дарагой душой аддаў бы вам хлеб, калі б ён быў. Хіба ж я не ведаю, хіба ж я сляпы, што не бачу, як дзяржаве хлеб трэба. Але дзе ж я яго вазьму, калі ён не нарос, яго ж з калена не выламіш.

І сапраўды, ні ў засеках, ні на вышках, нідзе не было і пуда збожжа. Лопух ужо, гэта бачыў я па выразу яго твару, строіўся пакінуць Архіпаў двор і пайсці далей. Але ў гэты самы момант я падаў голас:

— А што, калі мы на гародзе пашукаем? Можа, дзе яма якая ёсць.

— Якая яма! — аж усклікнуў спалоханы гаспадар, му-

сіць, здагадаўшыся, што нехта падказаў.— Шукайце, як самі хочаце. У нас ёсць там адна яма. Яшчэ нябожчык бацька выкапаў, але ж яна ўжо гадоў колькі пустуе. Няма чаго ссыпаць у яе.

Відно было, што Свірыд Лопух не вельмі то ахвочы быў шукаць у швагравым двары. Але яму ніяк нельга было і выкруціцца, бо думку падаў я. Міліцыянер з Аляксеем пайшлі тупаць пад дрэвамі. Аляксей, відаць, каб гаспадар не западозрыў, што яму выказаў ён, а не хто іншы, стукаў нагой воддаль ад таго месца, на якое мне паказваў вачыма. А гаспадар тым часам адкрыў парожнюю яму. Лопух з міліцыянерам аж галовы паўсаджвалі ў яе.

— Ды і глыбокая ж! Гэта ж трэба такую яму адштукаваць! — захапляўся Лопух.

Я таксама з цікавасці зазірнуў у яму. Яна сапраўды была глыбокая і ўсярэдзіне падобная на збан: гарляк вузенькі, а там усё шырэй і шырэй. Пудоў больш за паўсотні магло туды ўлезці. Уся яма была абштукавана бярostай.

— Дык, кажаце, больш ямы ў вас няма? — пытаў я ў гаспадара.

— Чорт-яе маў. Няма чаго хаваць у тыя ямы. Цяпер і засекаў у клеці не засыплеш.

— А калі мы добра пашукаем і знойдзем?

— То шукайце, воля ваша. Вам такое права дадзена. Толькі ж, я кажу, марна час будзеце траціць.

Але мы часу доўга не трацілі: я падышоў пад старую грушу, пагупаў нагой у зямлю і адразу адчуў пад сабой няцвёрды грунт.

— Сюды, таварышы! Капніце тут.

Гаспадар як угледзеў, што я стаю на яме, дык збялеў як палатно і пайшоў у хату. Міліцыянер капнуў раз-другі рыдлёўкай, і яма адкрылася. Па самую гарлавіну яна была напоўнена збожжам. Лопух зрабіў выгляд, нібы незвычайна сумеўся.

— От гады печаныя, гэтыя кулакі, хлеб гнояць у зямлі,— сказаў ён са штучнай злосцю.

На Мікуцёў панадворак набілася поўна людзей. Вестка аб тым, што карэспандэнт знайшоў пад Мікуцёвай сапяжанкай яму са збожжам, маланкава абляцела Лапухоўку. Старшыня сельсавета распарадзіўся падагнаць фурманкі. Дзесяць мяхоў, як завязаць, насыпалі мы з ямы трошкі прыпрэлага, але яшчэ добрага жыта.

Усю тую ноч я пісаў пры газоўцы карэспандэнцыю ў газету. Аляксей таксама сядзеў пры стале. Смешна было

глядзець на яго баязлівасць. Пры кожным руху на вуліцы ён хаваўся за сцяну і мне шаптаў:

— Адыдзіце ад акна, а то яшчэ каменем дадуць. А могуць і з абрэза бухнуць.

— Не бухнуць, не бойся. Што мы каму благое зрабілі? — заспакойваў я Аляксея і самога сябе.

* * *

У рэдакцыю я вярнуўся праз тыдзень. Зірнуў у люстра і ледзь пазнаў сам сябе, бруднага, зарослага шчаціннем па самыя вушы. Я спадзяваўся, што мяне пахваляць за баявую карэспандэнцыю з Лапухоўкі. Юрка Маргун і пахваліў-такі трошкі, сказаўшы, што я правільна і глыбока разабраўся ў складаным пераплёце класавай барацьбы. Я чакаў, што і рэдактар гэтак жа скажа мне. Колькі ўжо часу я кручуся ў прыёмнай, перакідваюся слоўцамі з Валяй, Шоламам. Валя чамусьці кожны раз, як толькі сустракаюцца нашы позіркі, трошачкі чырванее. Шолам таксама пахваліў мяне за бойкасць пяра. Але мне карцеў рэдактар, і я папытаў у Валі, дзе ён. Дзяўчына адказала, што Давідзюк яшчэ не прыходзіў. Званіў, што затрымаецца на пасяджэнні бюро райкома партыі.

З рэдактарам я ледзь не стукнуўся лоб у лоб у дзвярах.

— А дык ты прыехаў? Добра, што прыехаў. Я хацеў ужо шукаць цябе. Справа ёсць,— замест прывітання сказаў Давідзюк.

— От толькі што з вакзала. Бачыце, яшчэ нават не памыўся і не пагаліўся.

— Бачу, што не пагаліўся. Вось мы цябе зараз памыем і паголім.— У рэдактаравым голасе я адчуў не жарт, а нейкі гнеў. Аж спалохаўся: чаго б гэта ён зазлаваў?

— Што ж ты нарабіў? — ледзь не закрычаў на мяне ўжо ў кабінеце рэдактар.— Сумленных людзей абылгаў, а сабатажнікаў узяў пад абарону. Дзе твая бальшавіцкая прынцыповасць, класавая пільнасць? І ўсё таму, што табе чаркі не паставілі, яечні не насмажылі. Я не думаў, што ты такі. Выходзіць, я памыліўся ў табе!

— Не памыліліся, Мацвей Кірылавіч. Наадварот, чарку мне ставілі, але я не піў,— нарэшце пачаў я раскумекваць, у чым справа.

— Не піў, не піў,— перакрывіў мяне рэдактар.— У заяве камуніста Лопуха на імя сакратара гаркома чорным

на белым напісана, што ты дамагаўся, каб табе яечню смажылі, чарку ставілі.

— Брахня ўсё гэта! — са злосцю выгукнуў я.

— Брахня, брахня! От пойдзем да сакратара гаркома, і будзеш даводзіць яму, дзе брахня, а дзе праўда.

Давідзюк узяўся за тэлефонную трубку. Нават па выразу твару было відаць, што ён званіў да сакратара гаркома.

— Іван Пятровіч, дык от таварыш Шыянок кажа, нібы ўсё тое, што там напісана пра яго ў заяве, няпраўда.— З хвіліну памаўчаўшы, Давідзюк паклаў трубку і ўжо звярнуўся да мяне: — Зараз пойдзем да таварыша Шафранскага. Там раскажаш усё, як яно было. Памятай адно, што ў гаркоме, як на споведзі, хлусіць нельга. Сакратар гаркома павінен ведаць адну чыстую праўду.

Шафранскага я толькі адзін раз бачыў у вочы, на выпускным вечары, але чуў, што гэта чалавек нязломны і патрабавальны, што ён вельмі не любіць хлусоў і манюк. Як толькі ўведае, што камуніст маніць, адразу ж, не чакаючы рашэння бюро, сам адбірае партыйны білет.

Шафранскі быў чалавек ужо немаладога веку, трошкі грузнаваты. На шырокіх плячах, як бы ўвінчаная ў іх, сягрузнаваты дзела трохі палыселая ўжо галава. Вочы праніклівыя. Здаецца, яны бачаць навылёт. Апрануты сакратар у вайсковага крою і колеру гімнасцёрку з навеснымі кішэнямі, і гэтая мо гімнасцёрка надавала яму нейкай суровасці.

— Сядайце, калі ласка,— ветліва запрасіў нас з рэдактарам Шафранскі.

Мы паселі ў мяккія скураныя крэслы, што стаялі пры масіўным стале. Я, здаецца, аж па самыя вушы патануў у тым крэсле. Шафранскі павольна дастаў з шуфляды замурзаны, вырваны з вучнёўскага сшытка аркушок паперы, прабег яго вачыма і дакорліва зірнуў на мяне.

— Ну дык што, таварыш Шыянок, пад абарону ўзяў сабатажніцу, а чэснага чалавека, камуніста збэсціў у газеце?

— Не, таварыш сакратар, я напісаў праўду.

— На вось прачытай, якая тут праўда.

Шафранскі працягнуў мне аркушок.

Я чытаў непісьменныя, нязграбныя радкі, і ў мяне аж вочы ледзь не лезлі на лоб. Свірыд Лопух пісаў у сваёй заяве, што я начаваў ва ўдавы Арыны і ледзь не спаў пад адной коўдрай, што яна частавала мяне самагонкай, а ён, старшыня сельсавета, калі я ад яго дамагаўся выпіўкі, на-

адрэз адмовіў; мяне паставіў на кватэру да такога чалавека, у якога не было нават і крошкі хлеба. Я не ведаю, на што спадзяваўся Свірыд Лопух, пішучы ў гарком партыі такую лухту. А мо ён там падгаварыў ужо каго пасведчыць супроць мяне? Але я, прачытаўшы заяву, адчуў сябе спакайней — там ніводнага слова не было праўды, і гэта лёгка было давесці.

— Хлусня ўсё гэта ад пачатку да канца, таварыш сакратар,— упэўнена сказаў я.

Мяне абурала не толькі тое, што было напісана ў заяве, колькі тое, што я вымушаны быў канчаткова страціць веру ў гэтага чалавека. Я і ў думках нават не мог дапусціць, што камуніст можа быць такі няшчыры.

— Калі хлусня, дык трэба ж даказаць, таварыш Шыянок. Ты камуніст яшчэ малады і мог, вядома, памыліцца.

— Не памыліўся я, таварыш сакратар. Усё, што я напісаў у газеце, да апошняй коскі — святая праўда. За ўсе тыя факты, што прыведзены ў карэспандэнцыі, я гатовы адказваць галавой.

— Мне вельмі падабаецца твая самаўпэўненасць, але гэта толькі словы, а дзе факты, якія б сведчылі, што ты маеш рацыю? Факты, як вядома, рэч упартая.

Я расказаў сакратару гаркома ва ўсіх драбніцах усё, што чуў, што бачыў, што рабіў на працягу тых дзён, што быў у Лапухоўцы. Падрабязна ўсё расказаў і пра тое, як мы заходзілі з вобыскам у хату да ўдавы Арыны, як Лопух знайшоў у падполлі мяшок ячменю і хацеў яго забраць. Твар Шафранскага балюча перасмыкнуўся. Не прамінуў я і таго, як мяне Лопух паставіў нанач да свайго швагруся Архіпа Мікуця, а той паддобрываўся да мяне гарэлкай, як на другі дзень камсамолец Аляксей падказаў, дзе ў Мікуця яма са збожжам, як мы з тае ямы выгрузілі аж дзесяць мяхоў жыта. Шафранскі слухаў мяне, не перапыняючы, і калі я скончыў расказваць, ён ужо без ранейшай суровасці ў голасе сказаў:

— Вось што, таварыш Шыянок, бачу я, адчуваю, што не ты абылгаў чэснага камуніста, а цябе хацелі абылгаць. Гэта не што іншае, як адна з форм праяўлення класавай барацьбы, якая цяпер становіцца ўсё больш зацятай, усё больш тонкай і складанай. Вам, газетчыкам, гэтага нельга забываць ні пры якіх акалічнасцях, трэба трымаць вуха востра, каб не паддацца на правакацыі класавых ворагаў, якія часам нават носяць у кішэнях партыйныя білеты.

Я не разумеў, ды, мусіць, і рэдактар таксама не разумеў, бо мы перакінуліся позіркамі, навошта гэта сакратар гаркома кінуўся ў такія тэарэтычныя разважанні, быццам перад ім сядзелі якія невукі, якіх ён павінен быў, лічыў сваім абавязкам навучыць, растлумачыць ім самыя элементарныя палітычныя пытанні. Нарэшце Шафранскі сказаў тое, што мне трэба было зрабіць практычна, каб адвесці ад сябе паклёп, які на мяне імкнуўся ўзвесці не вельмі далёкі і не вельмі разумны Свірыд Лопух.

— Вы, таварыш Шыянок, напішыце падрабязна ўсё гэта ў дакладной запісцы на маё імя, а я пастаўлю пытанне на бюро гаркома. Добра, што так абышлося з табою, а то я хацеў на цябе ўжо ўгневацца,— сказаў Шафранскі і падаў мне руку на развітанне: — Бывайце, таварышы, і надалей будзьце гэтакімі ж пільнымі і прынцыповымі.

Мы развіталіся з сакратаром гаркома, і, ужо выйшаўшы на вуліцу, Мацвей Кірылавіч сказаў мне:

— Малайчына. Мае спадзяванні ты апраўдваеш.

## І ЧАГО ЯНА ЎБІЛАСЯ Ў ДУМКІ...

А дні ішлі, перагортваліся. Здаецца, яшчэ нядаўна я прыйшоў у рэдакцыю, а мінула ўжо больш за два гады.

З Сяргеем Рослікам і Лёнем Метлюгом мы неяк не станцаваліся для адной кампаніі. Пасля таго вечара, як я пасварыўся з дзяўчатамі, хлопцы глядзелі на мяне як на правінцыяльнага дзівака і нікуды мяне з сабой не запрашалі. А я, калі праўду казаць, дык і рад быў гэтаму. Адзін толькі раз Сяргей з Лёнем мяне такі падкузьмілі: яны пачалі папракаць, што я жмінда, і хоць мне не хацелася ні піць, ні гуляць, але, каб хлопцы не падумалі, што я сапраўды скнара які, я пайшоў з імі ў рэстаран. Мы пагулялі, пачаставаліся гэтак, што назаўтра ў мяне былі парожнія кішэні і галава разломвалася не толькі ад п'янкі, але і ад думак, як жыць далей. А Сяргей суцяшаў:

— Нічога, Макар, у Фрыды Рыгораўны ёсць патаемны блакнот, куды яна запісвае нашы авансы. З намі так часцяком здараецца, не бядуй. Паспрабуй і ты гэтак жыць. Жыць трэба ўмець! — аж усклікнуў ён, нібы сапраўды ў тым, як жыць, мог нават вопытам падзяліцца.

Сяк-так перабыў я два тыдні да чарговай палучкі без грошай. Не прывыкаць было. Яшчэ ў бытнасць студэнтам

напрактыкаваўся, як той казаў, жыць часам з квасам, а парою з вадою.

Горш было з гаспадыняй кватэры.

На Палескай вуліцы, у самым канцы яе, я наняў сабе пакойчык-баковачку. Гэта была маленькая каморка з адным акном. Пры сцяне стаяў жалезны ложак, пад акном невялічкі столік і крэсла. Вось,— бадай, і ўвесь абсталюнак майго жытла. Калі яшчэ дадаць, што ў мяне не было людскай пасцелі — ложак быў засланы саматканай дзяружкай, што дала мне мачыха ў пасаг, як выязджаў з Рагазіна, дык, праўду кажучы, мяне не вельмі і цягнула ў сваё жытло. Я прыходзіў толькі пераначаваць і амаль на світанні ўцякаў са свае каморкі. Гасцей я ў свой пакойчык не запрашаў, і за халасцяцкую няўтульнасць саромецца не было перад кім. Адна гаспадыня ведала пра мае багацці, але яна толькі спачувала мне, а памагчы нічым не магла. Пільнавалася яна аднаго, каб я своечасова плаціў за пакой. На гэты раз я не мог выканаць свайго найпершага абавязку перад гаспадыняй, таму папрасіў, каб яна трошкі пачакала.

Дома я не працаваў. Заўсёды заседжваўся ў рэдакцыі да позняй ночы — то апрацоўваў чужыя матэрыялы, то пісаў што-кольвек сваё. Юрку, мабыць, гэта падабалася — такога работніка, які б не вылазіў з рэдакцыі, трэба было пашукаць. Я неяк увайшоў ужо ў рэдакцыйныя будні і адчуваў цяпер сябе ў рэдакцыі патрэбным чалавекам. Я пераканаўся, што і многія журналісты, якія ходзяць пазадзіраўшы насы, не хапаюць зорак з неба, а часам блудзяць у словах, як у густым лесе.

А першы час мне вунь як няёмка і нават сорамна было. Ніяк не мог адбіцца ад думкі, што мне дарма грошы плацяць. За ўсё жыццё я звык глядзець на работу, як на нейкі безупынны працэс. А тут што: Юрка Маргун дасць мне на дзень апрацаваць два-тры допісы. Я старанна, выводзячы кожную літару, перапісваў іх, стараючыся падганяць слова да слова гэтак, каб і стыльрэдактар пяром не падтачыўся. Але як я ні стараўся заняць гэтай работай цэлы дзень, у мяне ўсё роўна заставалася столькі часу, што я мог яшчэ ў два разы болей зрабіць. Можна б было кніжку якую браць чытаць, але ж хіба на рабоце гэта прыстойна рабіць?

Маральна пакутаваў я ад таго, што раблю вельмі мала ў рэдакцыі. І калі часам хто заходзіў у наш аддзел, асабліва калі наведваўся Мацвей Кірылавіч, я проста рабіў

выгляд, што заняты работай па самыя вушы, каб яму не здавалася, што дарма ем хлеб. З цягам часу гэтае адчуванне мінулася. Цяпер мне Юрка Маргун, асабліва пасля той карэспандэнцыі з Лапухоўкі, даручае апрацоўваць нават вялікія артыкулы. А калі часам здараецца, што ў аддзеле няма чаго апрацоўваць, дык Юрка мне раіць чытаць газеты, асабліва «Праўду», і, чытаючы, вучыцца, як ставіць пытанні. Здаралася, што я па некалькі разоў перачытваў праўдзісцкія артыкулы, фельетоны і нарысы. Дзіва, дый годзе: калі я чытаю і перачытваю матэрыялы, дык ніяк не магу адбіцца ад думкі: я сам мог бы напісаць не горш, а калі б на добрым матэрыяле, дык, можа, нават і лепш. Выявіў я ў сябе гэтае адчуванне і нават спалохаўся, падумаўшы, што гэта магла быць не ўпэўненасць у сваіх сілах і здольнасцях, а толькі пыхлівая самаўпэўненасць, якая адно здольна ўскружыць галаву, задраць нос чалавеку гэтак, што ён наўрад і зямлю ці будзе бачыць пад сабою. Я гэтага не баяўся. Але тым часам у мяне ўсё больш настойліва выўлялася жаданне паспрабаваць свае сілы ў жанры фельетона. Неўзабаве такі выпадак і надарыўся. У рэдакцыю прыйшоў вельмі смешны і цікавы ліст. Доўгія гады працавалі разам два сябры-маляры. Яны адзін без аднаго жыць не маглі. Адзін з іх быў глухі як пень. Аднойчы яны бялілі сцены ў новым доме. Нешта спатрэбілася аднаму, і ён крычаў-крычаў да свайго глухога сябра, аднак той не чуў. Тады маляр са злосці напісаў на сцяне: «Глухая цяцера». Пад той час акурат была выдадзена пастанова аб крымінальнай адказнасці за абразу словам. Неяк гэтая смешная гісторыя дайшла да суддзі аднаго з участкаў горада, і той пад гарачую руку запраторыў маляра на цэлы месяц у астрог. Колькі сябры ні даводзілі, што гэта быў толькі жарт, іх ніхто не паслухаў. Цэлы месяц маляр насіў перадачы свайму сябру. Гэтая гісторыя і лягла ў аснову майго першага фельетона. На рэдакцыйнай лятучцы Мацвей Кірылавіч пахваліў мяне і нават выказаў думку, ці не варта мне наогул спецыялізавацца ў гэтым жанры. Але я быў далёка не задаволены першым сваім поспехам. Фельетон удаўся таму, што сам па сабе факт, нават у простым пераказе, смешны.

Я адчуваў, што для таго, каб пісаць добрыя фельетоны, мне шмат чаго не хапае, і перш за ўсё я вельмі павярхоўна ведаў літаратуру. Чытаючы фельетоны «Праўды» і «Крокодила», я бачыў, што аўтары іх часта бралі паралелі з твораў Гогаля, Салтыкова-Шчадрына, Чэхава.

А я, нават брыдка было самому прызнацца, з класічнай літаратурай знаёмы быў у межах той праграмы, паводле якой мы вывучалі яе на рабфаку. А гэтага было вельмі і вельмі мала.

Пасля з'яўлення майго фельетона Рослік з Метлюгом неяк інакш пачалі адносіцца да мяне. Часцей пачалі заходзіць у наш сельскагаспадарчы аддзел. Аднаго разу Сяргей нават пажартаваў:

— Ты, Макар, нават самога Рькліна можаш заткнуць за пояс.

Я ажно зазлаваў за такі жарт, бо нікога не збіраўся затыкаць за пояс. Мне проста хацелася паспрабаваць свае сілы. Самі яны пісалі і друкавалі вершы, а хіба я ў параўнанні з імі які зломак, што фельетона ці нават нарыса не напішу.

— Не ўсім жа за рыфму бацьку роднага аддаваць,— адказаў я на Сяргееў жарт.

Аднак як хлопцы ні стараліся ўцягнуць мяне зноў у сваю кампанію, я не паддаваўся. Мне рупіла не гульня, а зусім іншае. Мне трэба было чытаць і чытаць мастацкую літаратуру, каб не быць прафанам. Звычайна класічную літаратуру людзі чытаюць у вучнёўскія гады. Я такое магчымасці не меў. У Рагазіне калі што і можна было дапасці пачытаць, дык хіба толькі біблію ці часаслоў. Праўда, часам трапляліся мне ў рукі нейкія лубачныя выданні ўкраінскіх казак — бацька з кірмашу прывозіў, але ж гэтага ўсяго было мала. Мне трэба было прачытаць Пушкіна, Лермантава, Талстога, Чэхава. Трэба было ведаць і маладую савецкую літаратуру. Тут, у горадзе, былі неабмежаваныя магчымасці чытаць і перачытваць. Можна было кніжкі браць у якой хочаш бібліятэцы і чытаць дома. Але ў маёй бакоўцы нават святла электрычнага не было, і я аблюбаваў сабе бібліятэку рабочага клуба на рагу Камсамольскай і Працоўнай вуліц. Гэта была звычайная рабочая бібліятэка, але кніжны фонд яна мела вялікі: там усё можна было знайсці — рускае, беларускае і нават украінскае. Загадчык бібліятэкі Аркадзь Сякерын, стары халасцяк, чалавек, які, мне здавалася, і дня не мог пражыць без свае бібліятэкі, даведаўшыся, што я з рэдакцыі, неяк сказаў мне:

— Лепшае і зацішнейшае бібліятэкі ва ўсім горадзе няма. У нас і кніжку любую знойдзеце, у нас і чытальная зала такая, што няхай нам пазайздросцяць іншыя бібліятэкі.

І сапраўды, зала ў бібліятэцы была вельмі добрая. Калі я заходзіў туды, дык аж сэрца замірала, быццам у таго набажнага чалавека ў час абедні. Ціха шасцелі газеты і кнігі, і адно толькі чуўся прыглушапы, як з-пад падушак, пошапак, хоць людзей у зале кожны раз было поўна. Я і месца сабе аблюбаваў ужо: адразу з дзвярэй налева ў самым куточку за невялічкім столікам. Там панаваў нейкі паўзмрок. Святло ад настольнай лямпы падала толькі на кнігу, якую я трымаў у руках. Калі стамляліся вочы ад чытання, мне добра было са свайго кутка наглядаць за людзьмі. Асабліва надоўга мой позірк затрымліваўся на століку, што стаяў непадалёк ад дзвярэй і за якім сядзела загадчыца гэтай самай чытальні Іра Леванюк. Гэта была дзяўчына гадоў за дваццаць. На яе круглаватым твары з трошачкі кірпатым носам, з вялікімі шэрымі вачыма заўсёды, ці то яна размаўляла з наведвальнікамі, ці сама чытала што, блукала нейкая ціхая лагодная ўсмешка. Я добра і не ведаю што: ці гэтая самая ўсмешка, ці ласкавыя распеўныя словы, калі я звяртаўся да яе па кнігу, нечым прычароўвала мяне. І я са свайго кутка пачаў мо больш глядзець на Ірын столік, чым у кнігу. Яна такі, мусіць, заўважыла гэта, бо кожны раз, як толькі адрывалася ад чытання, таксама кідала позірк у мой куток і, як мне здавалася, трошачкі бянтэжылася.

Каб Іра ведала, як мне хацелася пазнаёміцца з ёй і хоць трохі пагаварыць. Толькі не тут, у зале, не на віду ва ўсіх людзей, а дзе-небудзь з вока на вока. Даўно я ўжо нашуся з гэтым жаданнем, і кожны раз перад тым, як Іра павінна зачыняць сваю чытальню, я мабілізую ўсю сваю хлапечую смеласць, каб падысці да яе і прапанаваць сваю паслугу — правесці дадому, тым болей што, як я даведаўся, ісці дадому ёй далекавата, аж за чыгунку. Адна дык, мабыць, яна і баіцца хадзіць. Пэўна, што яе хто-небудзь праводзіць. І кожны вечар я сяджу да таго часу, пакуль Іра не скажа сваім пявучым голасам:

— Таварышы, здавайце кніжкі, газеты, часопісы, я буду зачыняць чытальню.

Я ў сваім кутку яшчэ трохі баўлюся, назіраю, як другія падыходзяць да Ірынага століка, здаюць ёй кніжкі, газеты, як кожны, кіўнуўшы на развітанне ёй галавой, выходзіць з чытальні, і толькі тады, калі ўжо ў зале нікога, апроч Іры, няма, я выходжу са свайго цемнаватага кутка. Мне здавалася, што калі б я не ўстаў сам з-за стала, не аказаўся, дык яна б магла мяне замкнуць на ўсю ноч. Але

не, яна бачыла, што я там сяджу, бо як толькі я паклаў на яе стол сваю кніжку, Іра як бы праспявала:

— Мусіць, на самым цікавым месцы я перапыніла ваша чытанне, бо вы ніяк адарвацца ад кніжкі не маглі.

У мяне ўжо вярцелася на языку сказаць, што не ад кніжкі, а ад яе самое я не мог адарваць позірку. Я, можа б, гэта і сказаў, калі б не адчыніліся дзверы і ў чытальню не ўвайшоў сам загадчык бібліятэкі Аркадзь Сякерын. Ён быў у плашчы, у капелюшы і з кіёчкам-кавенечкай, з якім ён, мабыць, ніколі не расставаўся. На пераноссі яго шылаватага носа немаведама як трымалася, зачапіўшыся залатым павучком, пенснэ, ад левага шкельца яго для страхоўкі быў перакінуты тоненькі залаты ланцужок, які бліскучай дужкай чапляўся за вуха. Можа, ён, гэты Аркадзь Сякерын, і добры чалавек, але як я яго ў гэты момант ненавідзеў за тое, што ён не пайшоў дадому, а прыцёгся сюды, у чытальню. А ён знарок, як бы з кепікамі да мяне:

— Вы нешта пазней за ўсіх зачытваецеся.

— Цікавая кніжка,— кажу я,— трапілася, ніяк адарвацца не мог,— а сам, не адрываючы вачэй, гляджу, як ён памагае Іры надзяваць яе лёгкі плашчык, як ён вельмі ўмела, вельмі далікатна бярэ яе пад руку. У гэты час я ў думках праклінаю яго гэтае ўмельства, яго далікатнасць, сваю цельпухаватасць і сваю нясмеласць. Іра замыкае дзверы, і мы сходзім па лесвіцы ўніз. Яны ўдваіх наперадзе, а я, як нечым абязвечаны, ззаду. У мяне на момант узнікае жаданне тузануць на ўсю сілу гэтыя вузкія Аркадзевы плечы так, каб ён аж загрымеў з гэтае лесвіцы, а самому ўзяць пад руку Іру і пайсці з ёю па Інтэрнацыянальнай вуліцы, цераз чыгуначны Кавалёўскі мост пераезду, у ціхай засені заліnейных вуліц аж да самага Ірынага дома. Я праз сяго-таго даведаўся, дзе яна жыве. Але я адганяю ад сябе гэтае недарэчнае жаданне і ціха клыпаю за імі аж на вуліцу, пакуль Аркадзь не кажа мне:

— Бывайце!

— Бывайце, таварыш Шыянок,— развітваецца Іра.— Другім разам я вам яшчэ цікавейшую кніжку падбяру. Прыходзьце заўтра.

Я застаюся на рагу вуліц, як на раздарожжы. Доўга стаю і гляджу ўслед Аркадзю і Іры. Бачу, як яны пераходзяць вуліцу, выходзяць на Інтэрнацыянальную. Іра з-за Аркадзева пляча азіраецца, і мне здаецца, што ў яе шэрых вачах, як бліскаўка, зіхаціць добрая, мілая ўсмешка, пасланая мне на развітанне. Я рашуча паварочваюся

і іду ў свой халасцяцкі пакой, каб да самай апоўначы думаць пра яе. Не толькі пра яе, але і пра Марыльку. Дзіва, дый годзе: Марылька ў думках неяк адыходзіць на задні план. От што значыць час: ён можа астудзіць, патушыць самы вялікі пажар пачуццяў. А можа, таго пажару і не было? Можа, мне толькі здалося, што ён разгарэўся быў? Бо чаго ж то Іра не выходзіць з галавы. З думкай пра яе я засынаю і ўстаю. А Мацвей Кірылавіч для мяне рыхтаваў сюрпрыз. З раніцы, як толькі я сеў за стол апрацоўваць допісы, у пакой убегла Валя.

— Макар, цябе Мацвей Кірылавіч заве.

Збянтэжаны нечаканасцю выкліку, я ішоў у рэдактараў кабінет. Не гэтак ужо часта рэдактар выклікае да сябе літаратурных работнікаў, часцей за ўсё хадзілі да яго загадчыкі аддзелаў. Ён іх заўсёды інфармаваў пра рашэнні бюро гаркома партыі, пра ўсялякія палітычныя навіны, якія не паведамляліся ў друку, а яму вядомы былі з закрытых партыйных дакументаў. Да нас жа, літаратурных работнікаў, гэтыя навіны даходзілі пазней. Юрка Маргун мяне інфармаваў пра партыйныя рашэнні па пытаннях сельскай гаспадаркі.

Апошнія тыдні тры ў нашым аддзеле была сапраўдная гарачка: вялася падрыхтоўка да Першага ўсесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў.

— Добры дзень, Мацвей Кірылавіч,— павітаўся я з рэдактарам. Ён падняў ад стала галаву і ўглядаецца ў мяне трохі блізарукімі вачыма, а ў мяне аж сэрца ёкае: можа, зноў што не так зрабіў?

— Сядай, Макар Васільевіч, гаворка ёсць,— запрасіў рэдактар.

Я сеў у мяккае крэсла пры стале і чакаю тае гаворкі, як прысуду.

— Дык от, хлопча, заўтра вяртаецца з Усесаюзнага з'езда калгаснікаў-ударнікаў брыгадзір садова-агароднай брыгады калгаса «Інтэрнацыянал» Якім Гарбуз. Пра яго трэба падрабязна, мо на цэлую палосу, даць нарыс з фотаздымкамі. Дык ты бяры Шаевіча і паганяй, брат, туды.

— Дзякую за давер, Мацвей Кірылавіч, але ці здолею я напісаць. Няхай бы мо хто іншы,— выказаў я сваё сумненне, хоць мне і прыемна было, што не Сяргею Рослiку і не Лёню Метлюгу, а іменна мне даручае рэдактар такое адказнае заданне.

— Ты здолееш. Не кожнае ж маладое птушаня спачатку асмельваецца ўзляцець высока. Для таго каб яму

ўзляцець пад хмары, трэба набрацца рашучасці. А ў цябе, бачу я, крылы ёсць для палёту, трэба набрацца рашучасці ўзляцець.

— Паспрабую, Мацвей Кірылавіч,— неяк адразу пасмялеў я.

— Ты зараз жа і адпраўляйся ў дарогу. Трэба пабыць пры сустрэчы, зрабіць фота і адразу ж правесці гутарку з чалавекам, пакуль уражанні яго яшчэ не астылі. Адным словам, трэба напісаць пра ўсё: што ён бачыў у Маскве, чаму ён навучыўся, што ён там адчуваў. Трэба, каб з твайго нарыса было відаць, як Савецкая ўлада расхінула перад былымі цёмнымі, занядбанымі сялянамі ўсе дарогі ў жыццё.

— Разумею, Мацвей Кірылавіч.

— Вось і добра, калі разумееш.

Акрылены, я выбег з кабінета ледзь не подскакам. Адразу ж паведаміў рэдактараў загад Юрку Маргуну. Той скоса спадылба зірнуў на мяне. Па ўсім было відно, што яму гэта не спадабалася, і ён нешта забубніў сам сабе пад нос. Я не ўслухоўваўся ў тое, што бубніў Маргун. Злавіў толькі адно слова:

— Малакасос.

Гэта было сказана ў мой адрас. Мусіць, Юрка зазлаваўся на рэдактара, што той даручыў пісаць пра Якіма Гарбуза не яму, а мне.

Айзіка Шаевіча, маленькага круглаватага чалавека, фотакарэспандэнта газеты, не так лёгка было знайсці. Пра яго можна было з поўным правам сказаць, што кормяць яго ногі. За якой паўгадзіны Айзік мог аббегаць паўгорада, напстрыкаць на плёнку сваёй «лейкі» кадраў з дваццаць. Яго і ведаў увесь горад. Пра яго нават хадзілі анекдоты. Там, дзе быў Шаевіч, заўсёды быў смех. Хоць сам Айзік быў далёкі ад гумару, ад дасціпнасці слова, але тое, што ён рабіў, тым больш як рабіў, было смешна. Расказваюць, аднаго разу па чыгунцы праз горад праязджала нейкая вельмі важная персона. Айзік ніяк не мог прабіцца ў вагон сфатаграфаваць яе. Тады ён перад самым адыходам цягніка ўлез у тамбур вагона і ўжо на хаду прабраўся ў купэ. Асоба тая зірнула на яго немудрашчы выгляд і сказала:

— Мне, таварыш карэспандэнт, сумна аднаму. Няма з кім выпіць,— і адразу ж выставіла на столік бутэльку каньяку.— Давайце з вамі вып'ем.

Шаевіч не вельмі які піток быў, але, відаць, хочучы ўвайсці ў нейкі кантакт з тым, каго хацеў сфатаграфаваць, згадзіўся выпіць. І гэтак тая асоба ўчаставала Шаевіча, што на другой станцыі яго ледзьве вывалаклі з вагона, і ён адсыпаўся аж цэлыя суткі. А на плёнцы не аказалася ніводнага кадра з важнай персонай. Гэта быў мо адзіны раз, калі абхітравалі Шаевіча. Звычайна ж усімі праўдамі і няпраўдамі ён дамагаўся свайго. На ўсіх людных сходах і нарадах Шаевіч скакаў з апаратам над самым носам у дакладчыкаў, бліскаў магніем, палохаў, збіваў з панталыку не толькі дакладчыкаў, але і тых, хто іх слухаў.

Супрацоўнікі ж рэдакцыі чамусьці любілі ездзіць з Шаевічам у камандзіроўкі.

У калгас «Інтэрнацыянал» мы прыехалі надвячоркам. Была ўжо ранняя восень. На дрэвах у садзе золатам жаўцелі адны толькі антонаўкі. На гародзе, які даглядала Якімава брыгада, асталіся яшчэ гуркі-жаўтлякі, пакінутыя на насенне, сям-там на каліўі чырванелі памідоры ды зелена буяла бацвінне морквы. Астатняе было ўжо ўсё прыбрана і завезена ў горад на продаж. Калгас быў недалёка ад горада, і праўленне яго зрабіла вельмі правільна і разумна: калгаснікі садзілі раннюю бульбу, розную гародніну, і ўсё гэта завозілася ў горад на продаж. За гародніну ды за садавіну выручаліся немалыя грошы. Якім Гарбуз як брыгадзір разумна арганізаваў працу сваёй брыгады, і звычайна кожны год, калі не было ніякай стыхійнай бяды, здымаліся добрыя ўраджаі. Пра такі ўвішны клопат Якіма Гарбуза неаднойчы пісала ўжо і наша газета. За гэта Гарбуза паслалі і на першы з'езд калгаснікаў-ударнікаў.

Якім Гарбуз быў наогул чалавек з добрым розумам, з гаспадарскім клопатам. Адзін год у сваім агародзе ён выгадаваў нават такую паўднёвую культуру, як кавуны. Аднекуль яму нехта прыслаў чаранкі вінаграду, і цяпер у садзе ў зацішным куточку ён рос і нават даспяваў.

А ў старым садзе, які дастаўся калгасу ад нейкага пана, цяпер столькі было новага, што, каб той пан вярнуўся сюды на момант, ён бы нізавошта не пазнаў свайго саду. Якім вёў шырокую перапіску з мічурынцамі ўсяе краіны; аднекуль яму прысылалі прышчэпкі новых гатункаў яблынь і груш. У садзе былі ўжо і такія яблыні, што голлем сцяліся амаль па самай зямлі. Былі раннія салодкія, былі і позція, якія не баяліся нават замаразкаў.

Даведаўшыся пра ўсё гэта ад старшыні калгаса, я пажыў напісаць нарыс не толькі пра тое, як Якім Гарбуз

ездзіў у Маскву: паездка на з'езд калгаснікаў-ударнікаў была вынікам працы ўсяе брыгады, а не толькі аднаго брыгадзіра. Пакуль яшчэ Якіма не было з Масквы, я надумаў скарыстаць час, каб пагаварыць з членамі брыгады, зрабіць здымкі, запісаць сёе-тое ў блакнот, каб потым ужо, калі сяду пісаць нарыс, не шукаць фактаў, як галодны хлеба, а мець іх даволі пад рукамі. Хацелася мець і здымкі такія, якія адлюстроўвалі б увесь працэс працы на агародзе і ў садзе.

Я распытаў у старшыні, хто з дзяўчат лепш працуе. Ён назваў мне Анісю Сопат. Дзяўчына акурат была на дзялянцы, прарывала бурачкі, даглядала насеннікі. Гэта была мажная, загарэлая, прыгожая з твару дзяўчына. Прыгажосць яе была не тая паказная, якую часта можна было сустрэць у дзяўчат, падмазаных і падпудраных, якія гадзінамі круцяцца ля люстэркаў, а натуральная, што не баіцца ні ветру, ні сонца, ні нават мазаля. Айзік Шаевіч як угледзеў дзяўчыну, дык аж усклікнуў:

— Вось гэта здымачак будзе, мо нават на першую паласу партрэт дадзім.

— Толькі глядзі не сапсуй,— папярэдзіў я яго.

На хаду мы прыдумалі кампазіцыю: яна будзе лейкаю-палівачкаю паліваць расаду.

Непадалёк ад Анісінай дзялянкі быў акурат і ўчастак поля, узаранага на зябліва, дзе мы і намерыліся здымаць Анісю.

— Добры дзень,— павіталіся мы з дзяўчынай.

— Добры дзень, калі не жартуеце,— бойка адказала яна.

— Мы от хочам сфатаграфаваць вас,— паведаміў я.

— Вохці мне, дык чым жа я правінілася?

— Вы мне вельмі даспадобы прыйшліся,— уставіў Шаевіч.

Дзяўчына скоса зірнула на Айзіка, і мне здавалася, што яна вось-вось скажа: «Дык ты мне не прыйшоўся даспадобы», але яна стрымалася і нават трошачкі пачырванела.

— Дык чым жа я вам гэтак прыйшлася? — спытала Анiся.

— Прыгожая вельмі.

— Не кажыце гэтак,— загарэлася, як макаў цвет, дзяўчына.— Якая ж я прыгожая? У гнаі капаюся, дый годзе.

— Дык мо тым і прыгожая, што зямлю любіце,— сказаў я.

— Хто яе вельмі любіць! Але ж як жыць, калі не любіць. Калі на руцэ не будзе мазаля, дык на стале хлеба.

— Мы, Анісся, хочам вас сфатаграфаваць у газету.

— Вохці мне, дык навошта гэта. Хіба я што такое зрабіла?

— Зрабілі — добры ўраджай вырасцілі.

— Хіба ж я адна? Дык мо я пайду ды пераапрануся, — згадзілася ўжо дзяўчына,— а то ж у гэтай апратцы нікуды не гожа.

— Якраз гожа. Мы хочам сфатаграфаваць вас на працы. Добра было б, каб вы дасталі палівачку, ды быццам расаду паліваць будзеце.

— Я хуценька,— крыкнула ўжо на бягу Анісся.

Чакаць нам давялося нядоўга, праз які момант дзяўчына была ўжо ў новым адзенні і з лейкай-палівачкай у руках.

— Набярыце ў лейку вады, каб відно было, што вы паліваеце,— загадаў Шаевіч.

Анісся збегала да калодзежа і вярнулася з поўнай лейкай. І тут ужо знайшоў сабе занятак Айзік Шаевіч: ён загадваў дзяўчыне стаць, выпрастацца, нагнуцца, сам прыпадаў на калена, ловячы яе ў вочка апарата. Анісся ўжо выліла ўсю ваду з лейкі, а Шаевіч ніяк не мог прыцэліцца і сфатаграфаваць яе. Нарэшце Айзік знайшоў ужо і добрую паставу, гэтакі паварот, што і твар, і ўся постаць добра былі відаць, толькі трэба было прыцэліцца і шчоўкнуць, як агледзеўся, што з лейкі не льецца вада.

— Палівайце, палівайце, ліце ваду,— не адымаючы вока ад апарата, камандаваў ён.

— Дык вады ж няма ўжо,— спакойна адказала дзяўчына,— пакуль вы муштравалі мяне, дык уся вылілася.

Давялося зноў пачынаць усё спачатку. Разы чатыры налівала Анісся лейку-палівачку, пакуль Шаевіч нарэшце такі прыцэліўся і сфатаграфаваў яе.

— Вы мяне гэтак вымуштравалі, быццам я цэлы дзень не разгінаючы спіны рабіла,— сказала не то жартам, не то з папрокам Анісся.

Шаевіч быццам і не чуў таго, што казала дзяўчына. Ён сказаў Аніссі сваё завучанае «дзякуй» і ўзяўся запісваць у свой блакноцік прозвішча для падтэкстоўкі. Я адным вокам зазірнуў у той пашарпаны Айзікаў блакноцік і ўгледзеў — там было гэтак панапісвана, што сам чорт нагу можа зламаць. На ўсякі выпадак, для перастрахоўкі, калі

Шаевіч зблытае прозвішча, я таксама запісаў яго ў свой блакнот.

— Дык вы мне хоць адну картку прышліце, я вам аддзячу,— азвалася Аніся.

— Не трэба нам ваша аддзяка,— сказаў я,— мы і так прышлём.

Шаевіч скоса зірнуў на мяне, мусіць, пакрыўдзіўся, што перабіваю яму гешэфт, і калі мы адышліся, не вытрываў і ўпікнуў:

— З табой паедзеш, дык будзеш хадзіць падцягнуўшы жывот.

— Чаму?

— А таму, што не трэба свайго носа сунуць туды, куды цябе не просяць.

— Куды? — не зразумеў я.

— А туды... Навошта ты сказаў, што не трэба плата? Хіба я дарма буду рабіць? Дарма і каза воўку не скача. А я, ты ж бачыў, колькі папаскакаў перад ёй.

— Папаскакаў таму, што не ўмееш фатаграфаваць,— сказаў я і як вару ўзліў на галаву Шаевіча.

— Не ўмееш, не ўмееш...— злосна перакрывіў мяне Айзік.— Ты ўжо ўмееш пісаць. Нешта ты з маладых ды ранні.

Я пайшоў у праўленне, а Шаевіч са злосці паплёўся недзе ў сад. Увесь вечар прасядзеў я над кнігамі ўліку: выпісваў, колькі хто з членаў брыгады Якіма Гарбуза зарабіў працадзён, распытваў у старшыні, як брыгадзір кіруе брыгадаю, як расстаўляе сілы. Рабіў я гэта для таго, каб не пытаць у самога Якіма. Мо ён чалавек сціплы, дык не вельмі ахвоча будзе і расказваць пра сябе. З праўлення мы выйшлі са старшынёй пад апоўнач ужо. Я думаў, што ён запросіць мяне нанач да сябе. Але ён падвёў мяне да не вельмі вялікай хаты, вокны якой зырыліся яркім святлом, і сказаў:

— Ідзіце начаваць сюды. Тут ужо і таварыш ваш. Дабранач вам,— развітаўся ён.

У хаце на стале было ўжо ўсё гатова для добрай вячэры: стаяла яечня, квашаныя памідоры і ладная міса крупніку. Гаспадыня, яшчэ не дужа старая жанчына, кінулася да мяне:

— А мы вас чакаем-чакаем, вячэра прастыла ўжо.

— А навошта вы, як на вяселле, наставілі ўсяго? — моўноў недарэчы запытаў я.

— А як жа, у нас завядзёнка такая, калі чужыя людзі

ў хаце, дык трэба ж іх пачаставаць як мае быць. Няхай ведаюць, што мы ў сваім калгасе заможна і культурна жывём,— адказвала гаспадыня.

Шаевіч зноў са злосцю зірнуў на мяне: маўляў, маўчы ты. Я зразумеў яго позірк і ціха пасунуўся за стол, на якім адразу ж, я нават не згледзеў адкуль, паявілася пляшка самагонкі. Гаспадыня налівала і частавала нас, як нейкіх сапраўды дарагіх гасцей. Я выпіў адну чарку і наадрэз адмовіўся больш узяць у рот. Мяне браў клопат пра заўтрашняе: гэта ж не жартачкі ўпершыню такое заданне выканаць. Айзік, трошкі падпіўшы і пад'еўшы, аж павесялеў. Мянціў языком чортведама што, аж гаспадыня сароме-лася. Яна на момант адвярнулася некуды, і ён зашаптаў мне ў самае вуха:

— Ты не думай, што яна такая гасцінная. Гэта я дзяўчат фатаграфаваў, дык яны і нанеслі ўсяго гэтага, а яна толькі прыгатавала. Са мной, брат, у камандзіроўцы не прападзеш.

Калі я пачуў гэта, дык аж ахвота адпала есці, хоць за дзень і вельмі выгаладаўся. Хацеў насварыцца на Шаевіча, каб гэтак не рабіў, але вярнулася за стол гаспадыня, і пры ёй не было як. Падумаў: заўтра дзе-небудзь на адзіноце дам добрага прачуханца.

Пасцель мне гаспадыня паслала на шырачэзнай лаве пад абразамі. Думаў — як упаду, дык адразу і вочы заплюшчацца, бо за дзень такі ладна набегаўся. Але дзіва, дый годзе: варочаюся з боку на бок і ніяк не магу звесці вачэй. Гаспадыня таксама не спіць. Яна, мусіць, чуе, што я варочаюся, бо пытае:

— Можа, вам мулка спаць? Я падкіну чаго пад бок.

— Не, дзякую. Пасцель мяккая. Я зараз засну. Дабранач вам.

Але заснуў я мо пад самую раніцу, праспявалі ўжо другія пеўні. У мяне з галавы не выходзіла Іра. І чаго яна ўбілася ў думкі?

## У МЕТЛЮГА ПРАРАЗАЕЦЦА КРЫТЫЧНЫ ЗУБ...

Хто яго ведае, як хто, а я не вельмі любіў рэдакцыйныя лятучкі. І не таму, што на іх мяне крытыкавалі. Не, мяне яшчэ ні разу добра не прабіралі. Аглядальнікі нумароў часта рабілі заўвагі па тых допісах, якія я апрацоўваў у ад-

дзеле, але яны былі ў асноўным па стылю і датычылі больш Івана Курбана, чым мяне. Я любіў наглядаць за ім, калі хто крытыкаваў стыль. Гламаздаваты твар яго не выказваў ніякага ні абурэння, ні пратэсту, адно чырванелі кончыкі вушэй, і мне чамусьці рабілася шкада гэтага чалавека.

Сённяшняя лятучка была асаблівая: у нумары быў надрукаваны на цэлую палосу мой нарыс пра Якіма Гарбуза, пра яго падарожжа на з'езд калгаснікаў-ударнікаў. Шапка, намаляваная рэдакцыйным мастаком, здавалася, крычала з палосы: «Ён быў у Крамлі, ён бачыў вялікага Сталіна». Адкрывалася палоса Шаевічавым здымкам-двухкалоннікам: Якім Гарбуз, трымаючыся адной рукой за поручань вагона, выходзіць з цягніка на сваёй роднай зямлі. У другой руцэ ў яго букет кветак. Аб'ектыў Шаевічавай «лейкі» захапіў трошкі і людзей, якія прыйшлі са сцягамі сустракаць свайго знатнага земляка. Далей ішоў тэкст майго нарыса, які, як мне здавалася, я напісаў быццам песню. Гэты нарыс быў для мяне нібы экзамен на журналісцкую сталасць, які я трымаў перад рэдактарам, перад калектывам рэдакцыі, перад чытачом. І я з заміраннем сэрца чакаў, што скажуць на лятучцы. На гэты раз аглядальнікам быў Лёня Мятлюг. Ён ведаў, колькі я папасядзеў над нарысам. Ведаў, што для таго, каб напісаць пра Маскву, я перачытаў цэлую гару кніжак, бо сам у Маскве ніколі не быў, а апісаць трэба было так, быццам я на свае вочы бачыў і Вялікі Крамлёўскі палац, і Сталіна на трыбуне, быццам я разам са сваім героем катаўся ў метро, хадзіў па музеях, быў на спектаклі ў Вялікім тэатры. Я Метлюгу чытаў чарнавікі, і ён, усміхаючыся, казаў:

— Вельмі добра, Макар. Дужа добра, быццам ты сам там быў.

Я не толькі апісаў, як Якім Гарбуз быў у Маскве, я стараўся паказаць і тое, за што ён туды трапіў. Слова да слова падганяў, як бондар кляпчыну да кляпчыны. Юрка Маргун, калі чытаў нарыс перад здачай у набор, праўда, нечага збіраў у гармонік на лбе зморшчкі, але правіць не правіў.

— Я не так пісаў бы,— толькі сказаў ён мне,— занадта ў цябе гэтай белетрыстыкі многа. Гэта ж табе не раман які. Тут трэба было больш практычна.

Але на Маргуноў густ я не вельмі спадзяваўся, таму і не дужа слухаў яго. Мне важней было тое, што казаў Лё-

ня Мятлюг: усё ж такі ён піша і друкуе вершы, і мастацкае слова да яго бліжэй, чым да Юркі. А Лёня мне сказаў, што напісана добра, цікава, і я ўжо амаль спакойна чакаў абмеркавання на лятучцы, тым болей што аглядальнікам нумара быў сам Мятлюг.

Я аж вушам сваім не даў веры, калі пачуў аксамітны голас Метлюга. Мне здалося, што ў яго нават уплялiся нейкія металічныя ноткі гневу.

— Я думаю, таварышы,— казаў Мятлюг,— што нашай газеце не было ніякай патрэбы адводзіць цэлую палосу на белетрыстычныя практыкаванні Макара Шыянка. Што тут напісана? Як Якім Гарбуз хадзіў па Маскве, як ён ехаў у цягніку, як яго сустракалі ў сваім калгасе. А дзе ж гаоўнае? Дзе калгас, які даў крылы працоўнаму гераізму гэтага чалавека? А дзе ж класавая барацьба, дзе расказ пра тое, як гэты самы таварыш Гарбуз, наперакор розным кулакам і іх прыхвасням, ішоў сваёй дарогай, каб забяспечыць заможнае і культурнае жыццё ў калгасе?

Я слухаў Метлюга, і то мяне кідала ў холад, то аж пот выступаў на лбе. Можа, у той час я сапраўды меў страшны выгляд, бо на мяне ўсе пазіралі. Глядзеў, чамусьці ўсміхаючыся, і Мацвей Кірылавіч, як бы хацеў сказаць: «Добра, добра, з пясочкам яго прадраіць». Мне хацелася кінуцца наўцёкі з гэтае самае лятучкі, кінуцца куды-небудзь з рэдакцыі, каб не чуць і не бачыць свае ганьбы.

Калі праўду казаць, то мяне не так узрушала і абурала Метлюгова крытыка, як яго няшчырасць, зусім не зразумелая мне двудушнасць. Чаму ён не сказаў мне ўсяго гэтага адзін на адзін, чаму ў яго не хапіла смеласці сказаць усяго гэтага па-таварыску. Крыўдна было, што парушалася мая вера ў чалавека. З самага маленства я прывык верыць людзям, іх словам, і калі гэтая вера чым-небудзь парушалася, мне станавілася вельмі балюча. Мо і сапраўды трэба неяк бліжэй і глыбей прыглядацца да людзей, спазнаваць іх не толькі па тых словах, якія яны гавораць табе, а больш па тых думках, якія яны думаюць пра цябе і не выказваюць.

Апанаваны одумам, я амаль што не чуў, што далей казаў Мятлюг. Абудзіў мяне басавіты голас Вінцэнта Барташэвіча. Быў такі ў рэдакцыі загадчык абаронна-спартыўнага аддзела. Я недалюбліваў гэтага чалавека за яго індычую надзьмутасць, за чэрствасць і незразумелую фанабэрыю. Ён паводзіў сябе так, быццам на ім трымаецца ўвесь белы свет. Нават сваім выглядам Барташэвіч адроз-

ніваўся ад нас усіх: ён чамусьці насіў і зімой і летам вайсковае адзенне і рабіў гэтакую міну, быццам ад яго залежыць магутнасць усяе краіны. Адно калі Вінцэнт браўся за пяро, дык у яго прападала пыха. Быццам варочаў жорны чалавек, гэтак яму цяжка давалася слова. І мо зайздросцячы тым, хто лёгка і бойка піша, ён ненавідзеў іх,- асабліва маладых.

— Вам што,— казаў ён,— вас Савецкая ўлада вывучыла, а нас жыццё ў парабкі пасылала, але ўсё ж мы і самі выбіліся.

Куды выбіўся Вінцэнт Барташэвіч, аднаму яму вядома было, бо нельга ж лічыць чалавека журналістам, калі ён не можа звязаць двух слоў. Праўда, у апошні час для такіх, як Барташэвіч, знайшлася іншая формула патрабавання: яны лічыліся добрымі арганізатарамі. Вінцэнт сапраўды мог арганізаваць што хочаш і дзе хочаш. Яму самы раз было б працаваць дзе-небудзь загадчыкам гаспадаркі, а не насіць званне журналіста. І вось гэты самы Барташэвіч словамі, як абухам, лупіў мяне з-за пляча па галаве:

— Я не разумею, таварышы, куды глядзіць наш паважаны Мацвей Кірылавіч, друкуючы такія матэрыялы, як гэтае практыкаванне Макара Шыянка.

Мне хацелася крыкнуць: «Даволі!» Я нават закруціўся ўжо на крэсле, хацеў усхапіцца і пабегчы з рэдактаравага кабінета куды вочы глядзяць, але зірнуў на рэдактара. Яго твар асвятляла, як агеньчык, добрая шчырая ўсмешка, і яна, мусіць, адрасавалася мне, бо раз-пораз Давідзюк кідаў на мяне позірк і як бы прывязваў ім мяне да месца.

Выступалі яшчэ каторыя, гаварылі немаведама што, а я гарэў ад сораму і ў думках шукаў сабе апраўдання. Нарэшце знайшоў яго ў тым, што аглядальнік Мятлюг задаў такі тон, і ўсе наступныя прамоўцы не хочуць збівацца з яго. Я сам сябе заспакойваў: «Дурны ты, не рэагуй гэтак. Трэба прывыкаць да крытыкі і нават самакрытыкі». І я падумваў ужо, як мне выступіць самому. Нельга ж адмаўляць усяе крытыкі, хоць ты з ёй і не згодзен. Хоць бы адзін хто, няхай бы не пахваліў, дык сказаў добрае слова. Я спадзяваўся, што Сяргей Рослік скажа што-небудзь у абарону майго нарыса, але той моўчкі глядзеў на мяне, усміхаўся, пагрызваючы сваю губу, і як бы казаў: «Так табе і трэба».

Зусім нечакана для мяне, а мо і для ўсіх, папрасіў слова Шолам Кац. Ён доўга разгладжваў, калашмаціў клінок

барады, быццам шукаючы ў ім прыдатнага слова, нешта перабіраў языком.

— Што вы сабе ні кажыце,— пачаў Шолам,— няхай у Шыянка не ўсё гэтак, як у сапраўдных журналістаў, але добра тое, што хлопец стараецца пісаць жывой мовай. Калі праўду вам казаць, дык я з цікавасцю прачытаў нарыс Макара Шыянка, і няма чаго яго збіваць тут на горкі яблык.

Я слухаў Шолама, і душа мая поўнілася замілаваннем да гэтага старога, трошачкі дзікаватага чалавека. І Мацвей Кірылавіч, як мне здалося, таксама з прыхаваным задавальненнем слухаў старога. Я з нецярплівасцю чакаў, што скажа ён сам.

— Таварышы,— вымавіў рэдактар,— тут мы сапраўды суд учынілі над нарысам Макара Шыянка, і мне, мабыць, трэба тут быць арбітрам. А як вам вядома, арбітр павінен быць аб'ектыўным, як сама ісціна. Я не кажу, што нарыс Шыянка першакласны. Але я рашуча падкрэсліваю, што Макар Шыянок малайчына. Нарыс ён напісаў праўдзіва, жыва, цікава і, галоўнае, аператыўна. І што б тут хто ні казаў, я, як рэдактар, выношу падзяку таварышу Шыянку. Валя, прашу вас запісаць гэта ў загад,— закамандаваў ён сакратарцы, якая звычайна на лятучках прымошчвалася ў кутку за круглым столікам і запісвала найбольш цікавыя думкі і прапановы, выказаныя на лятучцы.

Усе тыя, хто выступаў на лятучцы супроць майго нарыса, былі абязвечаны нечаканым, неспадзяваным вывадам рэдактара. Праўду кажучы, я і сам не мог даўмецца да чаго-небудзь пэўнага: я гатовы быў паверыць ужо, што мой нарыс сапраўды слабы. Ды і як ён мог быць добры, заспакойваў я сам сябе, калі ў мяне няма ні вопыту, ні той смеласці, якую павінен мець кожны сапраўдны журналіст. Мне з гэтае лятучкі ясна стала адно: у рэдакцыі няма згуртаванага адзінага калектыву, для якога б важней за ўсё былі творчыя задумы і праблемы. Я глыбей зразумеў, чаму Давідзюк так настойліва шукае новых людзей, у якіх было б хоць па адной іскры таленту. Як ні пнецца Вінцэнт Барташэвіч, з яго ніколі не будзе сапраўднага журналіста, і ён, мусіць, ганіць усё добрае, каб самому не здавацца бяздарнасцю. Не разумеў я аднаго, чым кіраваўся б і што думаў Мятлюг, выступаючы з такой бяздоказнай крытыкай нарыса. Тут, мусіць, было нешта пабочнае. Мо яны з Сяргеем змовіліся супроць мяне?

З лятучкі разыходзіліся шумна: тое, што было недагаворана там, дагаворвалася пасля. Я чуў:

— Наш Давідзюк заўсёды сабе любімчыкаў шукае.

Якіх любімчыкаў? Няўжо гэта я любімчык у рэдактара? Ніколі ні да кога я не лез у любімчыкі. А тут на табе — любімчык у рэдактара! Хто гэта сказаў? Мяне гэта больш уразіла, чым тая крытыка на лятучцы, і я стрымгалоў вылецеў з рэдакцыі на шумную вуліцу, каб мо там, у вулічным вэрхале, у няспынным руху чалавечага жыцця хоць трохі ўтаймаваць сваю ўзрушанасць. Мерным крокам я ішоў, мо і сам не ведаў куды. Мінуў друкарню, наўскасяк перасякаю Савецкую плошчу і ўваходжу ў парк. Нейкая асаблівая перадсвяточная густая цішыня агортвае мяне. Людзей мала. Сюды цяпер ходзяць мо толькі адны такія, як я, самотнікі. Алеяй спускаюся да Сожа. Сінявататая, быццам свінцовая, вада б'е ў берагі, хвалі як бы гамоняць адна з адной. Я задумліва слухаю іх таямнічую гамонку і на момант нават забываю, дзе я. Раптам чую:

— Макар, а мы цябе шукаем.

Азіраюся на покліч і бачу Росліка з Метлюгом. У куточках Метлюговых вачэй усмешка, як бы нічога і не адбылося, як бы ён гадзіну таму назад нічога і не гаварыў пра мяне.

— А навошта я вам?

— Хадзем у рэстаран, пасядзім, вып'ем па чарцы, пагаворым.

— Дзякую, мне не хочацца,— кажу я гэтак, каб яны не заўважылі, што я пакрыўдзіўся. Але схаваць, утаіць пачуццё крыўды ніяк нельга было, яно, мабыць, адлюстравана было на маім твары, бо, зірнуўшы на мяне, Мятлюг зноў папытаў:

— Дык ты, мусіць, усё-такі крыўдзішся на мяне?

— Завошта я на цябе буду крыўдзіцца!

— Бачу, бачу, што крыўдзішся. Дзівак ты! Сяброўства сяброўствам, а крытыка крытыкай. Як той казаў: хлеб-соль разам еш, а праўду ў вочы рэж.

— Якая ж гэта праўда? — ледзь не ўскіпеў я.

— Бачыш, таварыш Шыянок,— умяшаўся ў гаворку Сяргей,— у кожнага свая праўда, асабліва ў такой справе, як ацэнка напісанага. Табе, напрыклад, не падабаюцца мае вершы, а чаму нам павінны падабацца твае нарысы?

З таго, што сказаў Рослік, я зразумеў: яны яшчэ загадзя, да лятучкі, змовіліся супроць мяне, і яшчэ большая злосць агарнула мяне.

— Я не пайду з вамі, хлопцы,— рашуча сказаў я і, не развітаўшыся, засігаў ад іх па беразе Сожа. Дайшоў да самага канца парку, узлез на кручу і выйшаў на Пралетарскую вуліцу. Мне чамусьці закарцела пайсці на рабфак, зноў хоць на момант адчуць сябе студэнтам. Якімі дарагімі паўсталі цяпер у памяці гады вучобы! Здаецца, ніякіх ні ўзрушэнняў, ні клапот, ні турбот. У гэты момант я пашкадаваў ужо, што не пайшоў вучыцца далей, няхай сабе і ў машынабудаўнічы інстытут, але ў дружную студэнцкую сям'ю. Аднак, апанаваны думкамі, я пайшоў не на рабфак, а павярнуў зусім у другі бок, на Камсамольскую вуліцу. Спыніўся я на рагу Камсамольскай і Працоўнай, перад знаёмым і нечым дарагім двухпавярховым домам. Што мяне сюды прывяло, што мяне сюды прывабіла? Нейкая няпэўная надзея, што я ўгледжу Іру і пагавару з ёй, вылью, скажу ўсё тое, што балюча раніць душу. Але я ўспамінаю той вечар, як яна пайшла з Сякерыным, як ён узяў яе пад руку і павёў па Інтэрнацыянальнай, а я, быццам блазнюк, застаўся стаяць на скрыжаванні. Нешта падбівае мяне: не ідзі, не ідзі сюды, лепш нясі сваю маленькую крыўду дадому, перажыві яе адзін, сам-насам. Я ўжо наважыўся ісці дадому, як раптам нехта з-за спіны:

— Добры вечар, таварыш Шыянок.

Я паварочваюся і бачу перад сабою Іру Леванюк. Яна хораша-хораша, як вясновае сонейка, усміхаецца мне.

— Чаму гэта вы так даўно не былі ў чытальні? Зойдзем, зойдзем хоць сёння.

Яна бярэ мяне пад руку і вядзе на другі паверх, адмыкае дзверы, і я адзін на адзін апынуўся з дзяўчынай.

— Гэта ж я спазнілася сёння. Каб хоць ён не заўважыў. Сядайце, бярыце што-небудзь, чытайце. Калі прыйдзе загадчык, дык няхай думае, што я ўжо даўно адкрыла чытальню.

А я стаю разгублены, збянтэжаны. Іра вядзе мяне ў куток за той столік, за якім я заўсёды сяджу, падсоўвае мне газету.

— Чытайце, чытайце, таварыш Шыянок.

Я саджуся за столік, гляджу ў газету і нічога не бачу, нічога не разумею. Няўжо гэта Ірына мілая ўсмешка, няўжо яе клапатлівая ласкавасць шчыра адрасуюцца мне?

Адзін за адным заходзяць чытачы. Я многіх ужо ведаю ў твар. Ціхі шэлест газет і кніг як бы абуджае мяне, і я ўтаропліваюся вачыма ў тую газету, якую дала мне Іра. Дзіва, дый годзе: гэта ж мой нарыс. Няўжо яна дума-

ла пра мяне? Няўжо! На момант забываюцца скрухі сённяшняга дня, і я гляджу не ў газету, а на яе, Іру. Яна таксама раз-пораз кідае на мяне позірк, які, здаецца, аж свеціцца лагоднай дзявочай усмешкай. Мне становіцца добра, хораша на душы. Але вось прачыняюцца дзверы, і ля Ірынага століка становіцца Сякерын. Ён нечым узрушаны, глядзіць на Іру і як бы не ведае, што ёй сказаць. Нешта, відаць, паміж імі адбылося. Мне чамусьці становіцца шкада гэтага самага Сякерына. Ён здаецца гэтакім бездапаможным, гэтакім бяскрыўдным. Іра таксама глядзіць на яго, але ў яе позірку адлюстраваны не то абыякавасць, не то знішчальная іронія. Каб на мяне гэтак паглядзела дзяўчына, я не стаяў бы перад ёй, як ёлупень. А ён стаіць. Каб мо тут нікога не было, пэўна, што паміж імі нешта б адбылося. А так Сякерын, пастаяўшы, пабліскаўшы пенснэ, некуды пайшоў. Іра зноў глядзіць на мяне, і нашы позіркі скрыжоўваюцца. Я не магу, не магу! Апускаю вочы і чытаю свой нарыс. Бачу сям-там падкрэсленыя радкі. Значыць, яна чытала і не абы-як:

А час, як знарок, цягнецца павольна-павольна, нібы яму няма куды спяшацца. Хай бы ён хутчэй ішоў, хай бы канчалася Ірына работа, і можа б... Ды на што я спадзяюся? Хіба гэты стары халасцяк Аркадзь Сякерын дасць мне магчымасць пабыць з дзяўчынай сам-насам? Ён жа да яе пішчом лезе. Мабыць, надумаў нешта сур'ёзнае. У такім роздуме я збіраюся пакінуць чытальню: складаю ўжо газеты, здаю кніжку. Раптам зусім неспадзявана падыходзіць да мяне Іра. Яна нібы нечага шукае і неўзаметку падае мне паперку. Я дрыжачымі рукамі разгортваю яе і чытаю. Не веру сваім вачам, аж праціраю іх. Мо яны бачаць не тое, што напісана, а тое, чаго прагне сэрца? Не, не, вочы бачаць правільна, яны чытаюць: «Таварыш Шыянок, мне трэба з вамі пагаварыць. Чакайце мяне пры выхадзе з бібліятэкі. Іра». І хоць гэтая пісулька вельмі афіцыйная, я ўсё-такі спадзяюся на нешта незвычайнае. Інакш навошта б яна мне пісала? Інакш чаго б яна гэтак міла ўсміхалася?

А час бавіцца, марудзіць, як бы ён таксама супроць мяне. Я раблю выгляд, што чытаю, а ў самога перад вачыма скачуць літары, а думкі... Хіба ж загадаеш ім быць спакойнымі, хіба ўтаймуеш іх, асабліва калі яны маладыя і пра маладое думаецца! Іра, бачачы маю ўзрушанасць, усхваляванасць, уставілася вачыма ў нейкую кніжку і нават не глядзіць у мой бок, нібы і не яна вінавата ў гэтым.

Насценны гадзіннік над Ірынай галавой бомкнуў на палову адзінаццатай. Ах, які ён нездагадлівы, гэты гадзіннік: няхай бы адбіў адзінаццаць. Гляджу на маятнік, і мне здаецца, што ён ледзь жывы.

Дачакаўся: Іра пачала збіраць са столікаў газеты і кнігі. Наведвальнікі пачалі ўжо выходзіць. Ужо і Сякерын прачыніў дзверы і стаў ля століка ў сваім асеннім паліто-не, у капелюшы, з нязменнай кавенькаю ў руках. Праз пенснэ ён кідаў вачыма на наведвальнікаў, як бы кажучы ім: «Дык хутчэй вы выходзьце, няма мне часу бавіцца тут». А Іра чамусьці як сама не свая. Я гляджу на яе і не ведаю, што мне рабіць. Як я ў гэты момант ненавідзеў Сякерына, яго элеганцкі паліто, яго капялюш, ягоную кавеньку. Нічога падобнага ў мяне не было, і мне здавалася, што Іры ён падабаецца выключна за сваю элегантнасць. Іра плюскае вачыма і паказвае мне: маўляў, выходзь і чакай. І я выйшаў. Стаю ля дзвярэй бібліятэкі, і мне здаецца, што людзі, якія тут праходзяць, глядзяць на мяне як на нейкага дзівака, які немаведама чаго аціраецца пад дзвярыма.

Першая выходзіць Іра. Яшчэ ў дзвярах Аркадзь мерыцца ўзяць яе пад руку. Ён не бачыць мяне, а Іра адразу ўгледзела. Голас яе зазвінеў у маіх вушах, і я разабраў словы:

— Макар Васільевіч, пойдзем з намі. Мне трэба з вамі пагаварыць.

Твар у Сякерына перасмыкнуўся. Ён як бы толькі што ўгледзеў мяне, быццам у чытальні мы і зусім не бачыліся.

— Добры вечар, таварыш Шыянок,— нехаця вітаецца ён.

— Вечар добры, таварыш Сякерын,— адказваю я яму ў тон і прыладжваюся з левага боку ісці поплеч з Ірай.

Сякерын, не пытаючы дазволу, бярэ дзяўчыну пад руку, а яна, як бы ў адказ на ягоную нахабнасць, левай рукой бярэ мяне пад руку. Гаворка ў нас неяк не клеіцца. Я адно стараюся цаляць ісці ў нагу з дзяўчынай, але крокі ў яе такія вузенькія, што я ледзь не спатыкаюся на роўным тратуары. Гэтак моўчкі прайшлі мы кварталы са два. Нарэшце Іра з рашучасцю ў голасе сказала:

— Ведаеце, Аркадзь Навумавіч, дзякую вам, што правялі трошкі, але мне трэба пагаварыць з таварышам Шыянком па адной справе, дык вы прабачце нас. Добрай ночы вам,— і яна рашуча працягнула Аркадзю руку на развітанне. Падаў і я сваю. Шкада было глядзець на гэтага чалавека, мо самым найлепшым пачуццям якога гэтак

нечакана, як бы з якой засады, быў панесены самы моцны ўдар. Сякерын неяк адразу ссутуліўся, уцяў галаву ў плечы, і здавалася — капялюш яго быў надзеты не на галаву, а начэплены, як на той манекен, проста на плечы.

— Завошта вы яго так, Іра? — пытаю я.

— Не трэба ён мне, не трэба! — як мне здалося, са злосцю выгукнула Іра.— Пакуль ён хадзіў так сабе, праводзіў дадому, дык я думала, што гэта далікатная ветлівасць чалавека. А ўчора, ведаеце, што ён мне кажа: «Я без цябе, Ірачка, жыць не магу, я на сябе рукі налажу, калі ты не станеш маёй жонкай».

— Дык мо чалавек пакахаў вас? — недарэчна запытаў я, як бы спецыяльна для таго, каб узлаваць дзяўчыну.

— На ліха мне яго каханне, ён мне бацькам можа быць, а не мужам. Няхай шукае сабе роўні, стары грыб.

Я аж засмяяўся ад параўнання такога элегантнага з выгляду чалавека ў капелюшы з чарвівым, распоўзлым ад часу грыбам. Мне закарцела нават запытацца, адкуль яна, гарадская дзяўчына, ведае, якія бываюць старыя грыбы. Але ў той жа час стрэльнула іншая, крыўдная для мяне думка: значыць, яна мяне зацрасіла быць нейкім буферам, застрахаваць яе ад магчымых эксцэсаў у часе яе расправы з Сякерыным.

— Вы бессардэчная, Іра,— сказаў я.

— Чаму бессардэчная? — сумелася яна.

— Вы гэтак і са мной можаце зрабіць, калі я вам чым-небудзь не дагаджу.

Відаць, гэты мой вывад быў зусім нечаканы для Іры, бо яна неяк аж сцепанулася, вялікія вочы яе яшчэ больш акругліліся і глядзелі на мяне, як на нейкага дзівака, які нічагусенькі не разумее ў сардэчных справах.

— Цялепень вы, от хто. Я той раз хацела, каб вы пайшлі са мной, а вы збаяліся старога грыба.

— Ірачка, любая,— ірвануўся я да дзяўчыны, гатовы тут жа на вуліцы, мо на вачах нават ва ўсіх людзей абняць яе, прыгарнуць блізенька-блізенька, каб адразу адчуць яе ўсю-ўсю.

— Гэтак ужо і любенькая,— не вельмі рашуча адхіпала мяне ад сябе Іра.— Той раз уцёк ад мяне і аж два тыдні вачэй не паказваў. А сёння ўжо любенькая!

— Мне здавалася, што ты яго кахаеш.

— Каго?

— Аркадзя Сякерына.

— Пляцеш немаведама што,— неяк неўзаметку і Іра перайшла на «ты», як бы мы ўжо былі знаёмы з ёй з самага дзяцінства.

Я не адчуваў ні пад нагамі зямлі, ні вакол сябе свету. Здавалася, што нідзе нікога і нічога не было, апроч нас дваіх, і ўвесь гэты свет належаў нам адным. Я нават не заўважыў, як мы перайшлі мост цераз чыгунку, як прайшлі паўз высозны насып і апынуліся на ціхай, як бы вясковай вуліцы, зарослай муравой.

— Вось гэта і ёсць наша Спакойная вуліца,— паведаміла мне Іра.

Вуліца сапраўды была спакойная. На нізкія парканчыкі задумліва схілялася вецце пажоўклых ужо вішань і яблынь. На цёмна-сінім небе гарэлі буйныя, мо па кулаку, зоры. Неяк там, на шумных, асветленых ліхтарамі вуліцах, я такіх зор і не бачыў. Месяц-поўнік як бы веславаў па сініх хвалях неба, і гэтак было хораша на зямлі і ў высях. На зямлі было хораша таму, што поплеч мяне ішла Іра. Яна як бы чаго спалохалася і прыхінулася да мяне блізенька-блізенька, і нібы не ішла, а плыла, як той месяц. Я чуў яе харошыя, пявучыя словы:

— Макарка, як добра, як хораша нам на нашай вуліцы.

— Вельмі хораша, вельмі добра,— адказваю я і тулюся яшчэ бліжэй да яе.

— Чаму ты так доўга не прыходзіў у чытальню? Мо злаваў на мяне?

— Мне не было часу,— адказваю я.— Ты ж ведаеш, што я ездзіў у камандзіроўку, а потым нарыс пісаў,— апраўдваюся я, хоць прычына была зусім іншая. Мне балюча было глядзець, што ля Іры завіхаўся той стары грыб.— Цяпер, Ірачка, я часта буду хадзіць на тваю Спакойную вуліцу. Яна мне падабаецца сваім спакоем. Тут як у вёсцы.

Вядома, у мяне на языку круцілася сказаць зусім іншае, што падабаецца не так вуліца, як сама Іра, але я не адважыўся: а раптам, пачуўшы маё прызнанне, яна скажа, як таму Сякерыну: ідзі прэч адсюль! Я баяўся ўтраціць гэтае яшчэ няпэўнае сваё шчасце.

Хто яго ведае, я, можа, бясконца гэтак бы ішоў ды ішоў, абы толькі яна была побач, абы толькі яна шчабятала, як тая птушка. А Іра сапраўды шчабятала. Яна мне расказвала ўсё пра сябе, а я моўчкі слухаў, нібы ўбіраў у сябе ўсе яе словы.

Спыніліся мы ля невялічкага дамка за штыкетнай ага-

роджай. Пад акном разросся куст бэзу, дацвіталі вяргіні і бяссмертнікі.

— Як тут у вас хораша! — не мог я стрымаць свайго захаплення.

— Цяпер ужо не так, от вясной, калі сады цвітуць, тут — як у раі. Ты будзеш прыходзіць вясной? — нечакана для мяне, а мо і для самой сябе спытала Іра.

— Буду, буду, вясной і летам, калі хочаш.

Іра стаяла, прыхінуўшыся спіною да форткі. Яна неяк павярнулася так, што вусны яе апынуліся блізенька ля маіх.

Нават не ведаю сам, як яно здарылася; моцна-моцна абхапіў я яе рукамі і ўпіўся вуснамі ў вусны. Яна паспрабавала вырвацца, але не магла даць рады. У гэты самы момант бліснулі вокны ў Ірынай хаце.

— Пусці мяне,— ледзь не закрычала Іра.— Бач ты, які ласы. Больш тваёй і нагі тут не будзе,— з робленай злосцю казала дзяўчына. — Ідзі, ідзі хутчэй адсюль, тата прачнуўся. Зараз выйдзе на двор.

І сапраўды, праз момант бразнулі дзверы і на ганку пачуліся крокі.

— Ідзі, ідзі,— пацiснула мне руку Іра, і я адчуў па поціску, што ў яе не было ні кропелькі злосці, гэта хутчэй быў поціск дружбы і, можа, нават кахання.

— Заўтра ў чытальні,— горача шапнула на развітанне Іра і знікла за форткай.

Я доўга яшчэ стаяў ля штыкетнай агароджы, глядзеў на зыркія вокны Ірынага дома, любаваўся месяцам, слухаў цішыню асенняй ночы, стараўся асэнсаваць усё тое, што нядаўна тут адбылося паміж мною і Ірай. Няўжо гэта так ва ўсіх людзей пачынаецца каханне?

## НЯЎДАЧА... А ЦІ НЯЎДАЧА?

Мароз выскрыпаўся добры. У туфельках на гумавым хаду, у паліто, падбітым ветрам, і ў летняй шапцы бег я на вакзал. Холад браў за ногі, шчыкаў за вушы. Я наставіў каўнер, але ён не даставаў вушэй, хіба толькі трошкі зацішней стала шыі. Ахутаны сівымі клубамі марознай пары, я ўваліўся ў вакзал, як на гарачую чарэнь печы. Там было напалена, надыхана. Пакуль я з марозу адціраў вушы, нос, нікога не мог разглядзець.

— Макар, я ўжо ўзяў білеты,— падкаціўся да мяне круглячок Шаевіч. Яго цяжка было пазнаць: у валёнках, у добрым зімовым паліто, у шапцы-вушанцы. Галава была захутана ў нейкі башлык.

— Ты гэта што, хіба на Паўночны полюс сабраўся? — агледзеўшы Шаевіча, запытаў я.

— А хоць бы сабе і на полюс. А от ты куды ў гэтакім, у тропікі? Ты ж адубееш.

— Не адубею. Затое лёгка будзе ісці. А па цябе хоць грузавік падганяй.

— Чаму ісці? Хіба я дурны пешшу ісці. Пазвонім старшыні калгаса, дык ён фурманку падгоніць. У мяне ж ногі не рэдакцыйныя, каб я іх падбіваў.

— Там пабачым.

На станцыю Казіміраўка мы прыехалі, калі ўжо сіватая смуга зімовага змяркання завалакла далягляд. Шаевіч кінуўся званіць, але колькі ён ні званіў, з «Чырвонага бору» ніхто не адказваў.

— Ці яны там усе паглухлі, ці павыміралі,— са злосцю паведаміў мне Шаевіч.— Давай пашукаем, можа, тут дзе якую фурманкуноймем.

— Пакуль мы будзем дашуквацца той фурманкі, дык пехатой зойдзем.

— Я ж табе казаў, што ў мяне ногі не рэдакцыйныя.

Аднак хоць у Шаевіча ногі былі і не рэдакцыйныя, ім усё роўна давялося крок у крок адмераць сем кіламетраў дарогі ад Казіміраўкі да «Чырвонага бору». Праўда, дарога была выкаўзаная, добра пратораная саньмі і зацішная, бо ішла яна дзе чарналессем, а дзе і пракаветным борам. Мароз быў такі, што ў лесе дрэвы, здавалася, аж звінелі. Ціхі марозны вечар густа вызарыўся, і праз некаторы час на небасхіл выкаціўся поўнік месяца. Калі б не шчыкала за вушы, не брала за дзюбку носа, можна б было павольна, спакваля ісці, любавацца хараством лесу ў зімовым убранні, як у срэбных карунках, можна б было аддавацца думкам-марам. Але мароз падганяў, і трэба было прыспешваць крок, каб не скачанелі ногі, не паадскоквалі вушы, і я порстка ставіў ногі на слізкаватую санную дарогу. Метры за два за мной гарбузом каціўся Шаевіч. Па тым, як ён соп, крактаў ззаду, я адчуваў, што ісці яму нялёгка.

Ушушканае цела яго, мабыць, аж разамлела. Калі я азірнуўся, то ўгледзеў не Шаевіча, а нешта падобнае на высокі пень з заінелым зрэзам.

— Куды бо ты так бяжыш? — ледзьве падаў голас Шаевіч.

— Як куды? У «Чырвоны бор»,— адказаў я са здзеклівай ноткай у голасе, думаючы: «Так табе і трэба, навошта было гэтак ушушквацца».

Шаевіч напрамілы бог пачаў прасіць, каб ішоў павольней. Яму і сапраўды ў такім адзенні цяжка было паспець за мной.

— Калі я павольней буду ісці, дык змерзну, вунь як за вушы джыгае.

— Дык на, няхай не джыгае,— Шаевіч няўклюдна развязаў башлык і падаў яго мне.

Я ўкруціў башлыком галаву, захутаў вушы і нават нос, пакінуўшы адно шчыліну для вачэй, каб відно было, куды ісці, трошкі збавіў ходу. Айзік дагнаў мяне і папрасіўся:

— Давай мо трошкі прысядзем, чамадан рукі паадрываў.

— Што ты, сядзець на гэтакім марозе,— запратэставаў я,— ногі адразу паадскокваюць у мяне. Давай лепш мне свой чамадан.

Без чамадана Шаевіч жвавей заклыпаў следам за мной. Дарогай ён не абзываўся да мяне, адно сам сабе нешта мармытаў, мусіць, праклінаў такую камандзіроўку.

Нарэшце такі мы выйшлі на чыстае поле і ўгледзелі ў марознай смузе ланцужкі электрычных агнёў. Як бы цяплей стала ўжо ад таго, што яны свяцілі. Значыць, «Чырвоны бор» блізка. Вунь жа ўжо відна купка старажытных заінелых ясакараў і ліп, а вунь ужо і аборы калгаснага двара, а вунь і вокны хат гараць срабрыстым бляскам. Шаевіч адразу павесялеў.

— Калгас тут добры. Нават гасцініцу сваю мае.

Сапраўды, і мне ў вочы кінуліся парадак і дагледжанасць ва ўсім. Праўленне калгаса мясцілася ў былых панскіх пакоях. Гэта быў стары, але яшчэ добры драўляны дом з верандай. Наўкось ад яго стаяў меншы, новы дом, таксама пад бляшаным дахам, а крыху воддаль за свірнамі было відаць балотца, якое, мабыць, калісь і служыла граніцай паміж панскімі ўладаннямі і сялянскай беднасцю, бо за той прагалінай віднеліся стрэхі сялянскіх хат. У зімовай белай маўклівасці яны як бы задумліва стаялі, зрэдку паблісквалочы яркімі электрычнымі зрэнкамі вокан. У гэты зімовы вечар усё навакольнае выглядала нечым казачным, і каб не гэтакі мароз, можна было б пастаяць і палюбавацца хараством вечара, паслухаць густую

вясковую цішыню, у якой рып санных палазоў здаецца нейкім незвычайным гукам. Але нам любавацца ўсім гэтым не было як: трэба было клапаціцца, як дзе папасці ў цяпло, не калець жа на марозе. Мы падаліся на святло вокан праўлення. Там нас і сустрэла цётка Гарпіна.

— Мусіць жа і падубелі, дзеткі мае? — спытала яна, як толькі ўгледзела нас.

— Моцны маразяка,— адказаў я ў тон цётчынаму запытанню.

— Не кажыце, выскрыпаўся гэтакі. Вы да нас ці мо падарожныя, зайшлі душу адагрэць? — аглядаючы нас, пытала цётка.— Гэтаму ў яго содзеўцы нішто, можна і на марозе пераначаваць,— сказала на Шаевіча цётка і зірнула на мяне: — А ў тваім паліто і чаравічках адно на печы сядзець гэтакім холадам.

— Кроў маладая грэе, цётухна.

— Яно-то канечне, але лепш, калі да маладой крыві ды яшчэ кажух добры мець. Дык вы да нас ці мо далей куды?

— Да вас, да вас. А дзе старшыню вашага пабачыць?

— Э, дзеткі мае, старшыню нашага сёння наўрад ці пабачыце вы. Тут нейкія кіншчыкі прыязджалі, два дні таўкліся. Казалі, што на кіно здымалі наш калгас. Дык ён іх сам павёз на станцыю, а там яшчэ меўся ў раён паехаць. А вы хто ж такія будзеце і чаго да нас?

— Мы з горада прыехалі па заданню.

— Дзякаваць богу, нашага калгаса ніякія прадстаўнікі не мінаюць. Дык калі вы начаваць будзеце, то я вас завяду ў гасцініцу. Там цёпленька. Я перад вечарам толькі напаліла. Тыя кіншчыкі вельмі цяпло любілі, дык я ўжо ім і старалася, адно баялася, каб грубка ад гарачыні не разваліласяся. Дзякаваць ім, добрыя, вясёлыя хлопцы былі. То мо пойдзем у гасцініцу?

Вялікаваты пакой, які служыў за гасцініцу ў калгасе, знаходзіўся ў прыбудоўцы да праўлення. Ён сапраўды быў падобны да нумара гасцініцы. Там стаялі чатыры нікеляваныя ложкі з пасцелямі, стол і нават настольная лямпа. Пакой быў чыста прыбраны і ўтульны. Мо гэтай утульнасці надавалі яму фіранкі, якімі былі завешаны два акны, а мо гнутыя венскія крэслы, што стаялі пры стале, засланым цыратай.

— Распранайцеся, дзеткі мае,— запрашала нас цётка Гарпіна.

— А хто ж тут у вас дырэктар гасцініцы?

— Ды я тут дырэктар над усім: над канторай, над гасцініцай, нават і над клубам.

— О, якое вы вялікае начальства.

— Не маленькае, камандую венікам ды дрывамі, як той камандзір войскам. А мо з дарогі чайку вам, каб душу адагрэць?

— Калі ласка, будзем вельмі ўдзячныя.

— То пачакайце трошкі, я зараз.

Я сеў за стол прыкінуць макет будучай палосы. Намеціў у цэнтры старонкі даць вялікае выступленне старшыні калгаса Гардзея Сінюка, па баках двухкалоннікамі — выступленні брыгадзіраў, радавых калгаснікаў, і ў кожнае з іх павінна быць увярстана клішэ. Прыйшло мне на думку зрабіць выступленне цёткі Гарпіны. Гэта ж незвычайная з'ява — гасцініца ў калгасе. Унізе на падвал я планаваў свой нарыс. Я нават і шапку прыдумаў ужо: на фоне зімовай панарамы калгаса на ўсе сем калонак мастак намалюе словы — «У перадавым калгасе заможна і культурна жывуць чырванаборцы». Выняў я з партфеля макетны ліст, каб расчарціць усё на ім і пэўна ўжо ведаць, якія фота рабіць Шаевічу, а мне якіх памераў пісаць выступленні. У гэты акурат момант у пакой увайшла цётка Гарпіна. Яна прынесла чайнік з варам, дзве шклянкі і паставіла на стол.

— Грэйцеся, людцы добрыя. Прабачце, што толькі цукру няма ў мяне.

— Дзякую, дзякую. Можа, у нас што салодкае знойдзецца.

Я пакапаўся ў партфелі, дастаў цукеркі-падушачкі і пернікі, а Шаевіч са свайго чамадана выклаў на стол загорнутыя ў паперу бутэрброды.

Чай пілі ўсмак, і не так, каб задаволіць смагу ці голад, а каб сагрэцца з дарогі. Прысела з намі і цётка Гарпіна. Яна неяк вельмі смешна трымала на пальцах сподачак, які, здавалася, вось-вось саслізне з іх і разаб'ецца. Цётка дзьмухала на чай, хоць ён і не сказаць каб быў гарачы.

— Я вельмі люблю, калі добрыя людзі прыязджаюць у маю гасцініцу. Весялей і мне, старой. А то як няма нікога, дык, што той воўк, сядзіш адна. А ноч даўгая-даўгая, нібы яе яшчэ хто і надтачыў. Такую ноч нават цяжка выспаць, не тое што выседзець, не звёўшы вока.

— А хіба вам хто не дае прылегчы ды паспаць?

— О бронь божа, што вы кажаце. Гардзей наш як уведае, дык пратурыць, і нагі мае тут больш не будзе. Ён у

пас суровы, круты чалавек. З калгаснікаў вунь як спагапяе. Гэта ж неяк было з Анісімам Камком. Ён сад вартаваў. За дзень недзе натаміўся і вельмі спаць захацеў. Дык што ён зрабіў: распяў свой кажух на калках, быццам гэта ён сам стаіць, і лёг спаць. Старшыня, як той кот, ціхенька падкраўся. Анісім гэтак моцна спаў, што не чуў нават, як Гардзей узяў у яго з-пад боку дубальтоўку, а тады як смальнуў з абодвух ствалоў, дык той аж самлеў з перапуду.

— Дык вам жа тут няма чаго вартаваць. Замкнуліся б сабе і спалі.

— Не кажыце так. Ці ёсць што, ці няма чаго — усё роўна: калі ты прыстаўлены да дзела, дык трэба яго глядзець.

Пакуль мы гэтак гаварылі, Шаевіч выкаўзнуўся з-за стала, хуценька распрануўся і, з галавой укрыўшыся коўдрай, захроп. А мне цікава было пасядзець, пагаварыць з гэтай шчырай жанчынай, якая нечым нагадвала маю нябожчыцу маці. Гарпіна распытвала, адкуль я родам, хто я цяпер такі, і неяк у нас завязалася такая размова, быццам мы ўсё жыццё былі знаёмы. Мне здавалася, што жанчына нічога ўжо не магла ні ўтаіць, ні схлусіць мне. І сапраўды, яна пачала расказваць тое, чаго я ад яе не чакаў:

— Бачу я, што ты чалавек добры, якому можна ўсю чыстую праўду казаць, як свайму дзіцяці. Дык я табе і раскажу.

Тое, што я пачуў ад цёткі Гарпіны, зусім зруйнавала мой план. Яна мне расказала, што іхні калгас не гэтакі ўжо і багаты, як пра яго ўсюды пішуць ды гавораць.

— Што вы кажаце? — сумеўся я.— Мо вас старшыня чым угнявіў, дык вы гэтак і кажаце.

— Ды не, дзякаваць богу, ён мяне яшчэ шануе, дзень пры дні мне пішацца працадзень.

— Але ж ваш калгас багаты? Па колькі ў вас на працадзень далі? — папытаў я, хочучы абвергнуць думку цёткі Гарпіны, бо калгас «Чырвоны бор» лічыўся ў раёне лепшым, і рэдактар недарма мяне паслаў сюды.

— Па колькі, пытаеш? Па паўкіло амецяў. Дый з чаго яны могуць даць, калі на полі жыта парасло такое, што колас да коласа не падасць і голасу.

— Чаму ж гэта так?

— А таму, што на верабейкавым гнаі не вельмі што і парасце.

Гэта для мяне сапраўды было нечакана, я ніяк не мог даць веры таму, што казала цётка Гарпіна. Але тое, што

гаварыла яна далей, было падобна на праўду. Яна расказала, што старшыня Гардзей не лічыцца з думкай калгаснікаў, глядзіць адно, каб яму слава была на ўвесь раён. І гэтую гасцініцу пабудаваў, каб нечым вылучыцца ад другіх.

Я хацеў сёе-тое з таго, што казала цётка Гарпіна, запісаць у блакнот, пасля праверыць, але цётка, як толькі скмеціла мой намер, замахала рукамі:

— Бронь божа, не пішыце гэтага. Я ж вам аднаму толькі расказала. Ён жа як даведаецца, дык жыццяя мяне рашыць.— Цётка не на жарт спалохалася, што нагаварыла мне лішніцы. Але я запэўніў, што ўсё гэта будзе між намі.

Мы засядзеліся аж да поўначы. Гарпіна аказалася такая гаваркая, што з ёю можна было ўсю ноч праседзець, тым больш што ёй усё роўна нельга спаць. Мяне ў цяпле пачало ўжо хіліць на сон. Жанчына гэта, мусіць, заўважыла.

— Дык ты, сынок, мабыць, ужо і спаць хочаш, то кладзіся, а я тым часам пайду.

— Не, не, сядзіце. Вам у той канторы адной сумна будзе.

— Я прывыкла. Сама сабе, як тая кошка на цёплай печы, песенькі мармычу, казкі расказваю, дык і час хутка бяжыць.

— Пабаўцеся яшчэ, і мне весялей будзе,— запрашаў я, хоць з дарогі спаць вельмі хацелася, аж вочы зліпаліся.

— Дабранач табе, сынок, дабранач,— ужо ў расчыненых дзвярах казала цётка.

Але я не кінуўся спаць. Тое, што расказала Гарпіна, пра што яна прагаварылася, запала мне ў галаву. Ды і не дзіва: я не мог хлусіць, не мог крывіць душой. Мне трэба было пісаць праўду, і толькі адну праўду, няхай хоць нават горкую. План-макет палосы, нядаўна накіданы тут, я парваў на кавалачкі. Пра сумненні, якія ўсяліла ў мяне цётка Гарпіна, я надумаў не расказваць Шаевічу. Чалавек ён не вельмі падзейны, можа прагаварыцца старшыні, і тады я не здолею аб'ектыўна, глыбока разабрацца ва ўсім. Няхай Айзік фатаграфуе, што толькі яму ўздумаецца, а я наважыў зранку пакапацца ў дакументах, а ўдзень і ўвечары пагаварыць з калгаснікамі і дакапацца да праўды. Не можа быць, каб і мне, як і іншым, Сінюк напусціў у вочы туману. З гэтакім намерам я і заснуў ужо, калі праспявалі другія пеўні.

Раніцай мы яшчэ не паспелі і вачэй папралупліваць, як нехта пастукаў у дзверы. Я вылузаўся з-пад цёплай коўдры, накінуў апашкі паліто і адчыніў дзверы. На парозе апынуўся каржакаваты, шыракаплечы чалавек, апрануты ў добры дублены кажух. З твару яго, здавалася, вось-вось пырсне кроў.

— Добрай раніцы, таварышы карэспандэнты. Як тут вам спалася?

— Добрай раніцы,— адказалі мы.— Нішто сабе, цёпла.

— Яшчэ ўчора ў раёне даведаўся, што вы павінны быць у мяне, але ўночы не хацеў вас турбаваць. А цяпер от прыйшоў пабудзіць, каб вы пабылі на ранішнім нарадзе. У нашым калгасе нікому нельга спаць да свінячых галасоў. Хто ні прыязджае да нас, падымем ні свет ні зара.

— Дзякуем,— адказаў я на старшынёў клопат.— Нам цікава на нарадзе пабыць.

Я пачаў апранацца, а Шаевіч нават і не думаў вылазіць з-пад коўдры. Як толькі Сінюк выйшаў з пакоя, ён нацягнуў коўдру на галаву і аж захроп.

— Айзік, уставай ды пойдзем на нарад,— абазваўся я да Шаевіча.

— А чаго я там не бачыў, што мне там рабіць, фатаграфаваць там няма чаго.

Колькі я ні ўгаворваў Шаевіча пайсці хоць бы для прыліку, ён нават і вухам не павёў, яму хацелася яшчэ спаць.

У вялікім пакоі канторы было поўна мужчын. Яны сядзелі і стаялі хто ў кажухах, а хто ў добрых чуйках, і я ў сваім падбітым ветрам паліто і ў летняй шапцы здаўся нават самому сабе нейкім абшчыпаным вераб'ём. Сінюк маргнуў мне вачыма, каб я падышоў бліжэй да яго. На нарад сабраліся брыгадзіры, загадчыкі фермаў, бухгалтар і рахункаводы. Сінюк расхінуў крысе свайго дубленага кажуха, скінуў шапку-вушанку і кінуў суровы позірк на ўсіх, хто тут прысутнічаў, быццам усе гэтыя людзі ў чым правінаваціліся перад ім.

— Так, таварышы, у мяне з вамі не пойдзе,— не сказаў, а сурова выгукнуў Сінюк.— Досыць мне на паўдня адлучыцца з калгаса, як усё дагары нагамі становіцца.

Прысутныя, мабыць, не маглі даўмецца, што за ўчарашні дзень стала дагары нагамі. Яны запытальна глядзелі на старшыню.

— Вы не ведаеце, пра што я кажу? І ты, Хрыстафор, мабыць, не ведаеш? — звярнуўся старшыня да галоўнага бухгалтара.

— Не ведаю.

— Не ведаеш? — ужо з іроніяй запытаў старшыня.— Ашукваеш дзяржаву, няславіш свой родны калгас і не ведаеш.

— Чым? — аж крывёю налілася бухгалтарская лысіна.

— Ты перадаваў учора ў раён, колькі і чаго мы выдалі на працадзень?

— Перадаваў па тэлефоне. Я амаль кожны дзень перадаю. Звоняць жа і звоняць, быту не даюць, усё пытаюць.

— Пытаюць, кажаш? А ты ведаеш, для каго ты ўчора перадаваў?

— Не ведаю.

— Дык ведай: гэтымі днямі ў Мінску адбудзецца пленум ЦК і мо райком хацеў, каб у дакладзе і наш калгас спамянулі. А ты што перадаў?

— Перадаў тое, што ёсць.

Твар старшыні ўвачавідкі наліваўся крывёю. Здавалася, што чалавек вось-вось рынецца з кулакамі на бухгалтара.

— Ты ашукаў райком партыі, ты абняславіў мой калгас, зганьбіў мяне як старшыню.

— Чым?

— Ён яшчэ пытае чым, нягоднік! Дзе ж гэта відана, каб у перадавым калгасе, такім, як наш «Чырвоны бор», выдалі ўсяго па паўкілаграма збожжа на працадзень?

— Дык толькі ж па пяцьсот грам і выдалі,— агрызнуўся бухгалтар.

— Па пяцьсот, па пяцьсот! — перакрывіў яго старшыня.— А да кастрычніцкіх свят пытляванку давалі? Давалі!

— Не ўсім жа,— падаў голас нехта з прысутных.

— Не ўсім. Давалі тым, хто заслугоўвае. А нікеляваныя лыжкі і патэфоны за што куплялі? За збажыну! Дык ты забыў. Каб мне ўсё гэта сёння прыплюсаваў і ў зубах занёс у раён, пакуль не позна,— сурова загадаў старшыня.— Разумееце, ашуквае дзяржаву,— звярнуўся ўжо да мяне старшыня.— Толькі паспадзявайся на іх, дык яны табе падсунуць, абняславяць цябе.

Далей нарад ішоў так, што ўжо нецікава было слухаць: старшыня распараджаўся, што якой брыгадзе рабіць, куды паслаць людзей і коней.

Разышліся з нарада, калі добра ўжо ўднела. Мы са старшынёй засталіся. Даведаўшыся, што я збіраюся пісаць пра калгас цэлую палосу, Гардзей Сінюк гадзіны паўтары вельмі падрабязна і, відаць, завучана расказваў мне

пра поспехі. Для прыліку я запісаў усё ў блакнот. Але мне карцела, не выходзіла з галавы перапалка з галоўным бухгалтарам. Я вырашыў дакапацца да сутнасці справы. Гардзей Сінюк і ў гэтай гаворцы здаўся мне чалавекам, які адно дбае пра тое, каб не змізарнела ягоная слава. Пра што ні гаварыў ён — усюды падкрэсліваў, выстаўляў сябе за асноўнага героя. І я сам сабе падумаў, што цётка Гарпіна праўду такі казала ўчора. Значыць, Сінюку нельга было верыць на слова. А ён тым часам распісваў самымі найярчэйшымі фарбамі, як заможна і культурна жывуць калгаснікі «Чырвонага бору».

— Гэта, мусіць, да пленума ЦК вы будзеце даваць матэрыял? — пытаў у мяне Сінюк.

— Я і сам добра не ведаю,— адказаў я.— Рэдактар учора выклікаў і загадаў тэрмінова ехаць да вас. Дык мы от і прыехалі.

— А гэты прахвост бухгалтар ледзь не падвёў мяне. Гэта ж добра, што я ў раёне натрапіў на тыя звесткі ды выправіў іх. Дзе сваім вокам не дагледзіш, там табе і свінню могуць падкласці.

Тым часам падышоў Шаевіч. У яго было ўсё гатова, каб здымаць.

— Таварыш старшыня, я вас разам з брыгадзірамі на двары здыму. Гэта будзе цудоўны здымак.

Шаевіч доўга расстаўляў ля стайні людзей. Адны з іх трымалі за паводдзе коней, другія надзявалі хамуты. Старшыню Айзік паставіў так, быццам той аддаваў распараджэнні. Здымак сапраўды павінен быў выйсці натуральны. Пакуль Шаевіч прымяраўся, пстрыкаў затворам апарата, ногі мае аж зайшліся, я не вытрымаў і сказаў яму:

— Ты тут здымай, што табе трэба, а я пайду ў кантору, запішу што-кольвек.

Бухгалтар калгаса Хрыстафор Галубіцкі быў узрушаны старшынёвай праборкай. Ён гартаў кнігі, ляскаў костачкамі лічыльнікаў, ганяў немаведама за што дзвюх памочніц-рахункаводаў.

— Перапала вам трохі ад старшыні? — сказаў я такім тонам, быццам не надаю ніякага значэння таму, што казаў на нарадзе старшыня.

— Ат, за сваю бытнасць я прывык ужо да праборак, абабіўся, як той натурлівы конь.

— Таварыш Галубіцкі,— звярнуўся я да бухгалтара,—

я хачу глыбей пазнаёміцца з поспехамі калгаса, артыкул мне трэба пісаць.

— Калі ласка, от бярыце, глядзіце,— падсоўваючы мне бухгалтарскія кнігі, казаў Хрыстафор Галубіцкі.

Цэлы дзень я разбіраўся ў бухгалтарскіх справаздачах. Падрабязна вывучыў даклад старшыні на справаздачна-перавыбарчым сходзе калгаснікаў. Чым глыбей я ўкопваўся ў дакументы, тым больш пераконваўся, што «Чырвоны бор» не такі перадавы калгас, якім яго малююць: ураджайнасць збожжавых у ім нізкая — пяць цэнтнераў на гектар, ды каля сотні цэнтнераў бульбы. Надоі малака не перавышалі шасцісот літраў на карову. Адно, што выручала гаспадарку, дык гэта стары сад. На мой вывад, не было ніякіх падстаў хваліць калгас, падаваць яго за прыклад другім. Гардзей Сінюк — гэта чалавек, які прызвычаіўся да славы, хоць яна не заўсёды і заслужаная. Невыпадкова ён і не адставаў ад Шаевіча ні на крок, стараючыся трапіць на кожны здымак. Усё гэта падказвала майму сумленню пісаць не станоўчы матэрыял, а крытычны, з глыбокім аналізам прычын, якія, па сутнасці, прывялі гаспадарку да страты перспектывы.

Хрыстафор Галубіцкі аж здзівіўся, што я столькі капаюся ў ягоных кнігах. У «Чырвоны бор» часта наведваліся работнікі раённай газеты. Яны звычайна заходзілі да старшыні, гутарылі з ім, запісвалі з яго слоў тое, што ім трэба было, і пісалі хвалебныя артыкулы.

Я не хацеў, каб мой матэрыял назвалі брахнёй, і таму паставіў перад сабой задачу дакапацца да самай глыбіннай праўды. На змярканні ў праўленне ўваліўся Айзік Шаевіч. Неўзабаве следам за ім прыйшоў і старшыня. Абодва яны былі трошачкі вясёлыя.

— Чаго ты тут у гэтых кнігах шукаеш? — пытаў у мяне Айзік.— Мы гэтакіх здымкаў нарабілі — не на адну палосу хопіць.

— Добра, добра. За цябе, брат, аб'ектыў працуе, а мне трэба самому ўсё пабачыць, прааналізаваць, запісаць.

— А як вы працадзень запісалі? — спытаў у мяне старшыня.

— Запісаў як мае быць.

Гардзей Сінюк, хоць я і не пытаў у яго, хваліўся поспехамі, не ведаючы меры: маўляў, людзі ў яго жывуць як у бога за пазухай. Не толькі маюць хлеб і да хлеба ўсё, але і ў клубе могуць весяліцца, колькі і як ім захочацца. Аднак у маім блакноце ўжо былі лічбы, вельмі красамоў-

ныя сведкі супроць таго, што казаў Гардзей Сінюк. Яны сведчылі аб тым, што «Чырвонаму бору» створана фальшывая слава.

На станцыю нас завезлі на кані. У цёплым вагоне мы адагрэліся ад маразякі, і Шаевіч пачаў захапляцца паездкай — маўляў, ён яшчэ ніколі не рабіў такіх цудоўных здымкаў. А я слухаў яговыя захапленні і сам сабе думаў: «Радуйся, радуйся, кату пад хвост пойдуць твае здымкі». Па дарозе дамовіліся два дні не паказваць і носа ў рэдакцыю: я буду пісаць матэрыял, а Шаевіч рабіць свае цудоўныя здымкі.

У рэдакцыю я прыйшоў у пятніцу раніцаю. Юрка Маргун ужо сядзеў за сваім сталом і, як звычайна, чытаў селькораўскія допісы. Гэтыя дні яму трохі перапала работкі: трэба было сама мала здаваць у кожны нумар сотні тры радкоў, і Маргун аж пацеў, апрацоўваючы іх. Юрка ўгледзеў мяне і ўзрадаваўся:

— Дзе гэта ты-так забавіўся?

— Трэба ж было пакапацца, матэрыял вывучыць.

— Напісаў?

— Напісаў.

— Здавай хутчэй. На нядзелю і пойдзе. Я ўжо і шапку клішыраваную заказаў.

Юрка выняў з шуфляды стала напісаную рэдакцыйным мастаком на ватмане на ўсе сем калонак шапку. Прыгожыя, выразныя літары, здаецца, крычалі: «У перадавым калгасе заможнае і культурнае жыццё».

— Мусіць, гэтая шапка не спатрэбіцца.

— Чаму? Ты мо лепшую прыдумаў?

— Там не такі калгас, каб пра яго поспехі крычаць на ўвесь свет. Наце от, прачытайце.

Я падаў Маргуну рукапіс, і ўжо сам загаловак кінуў яго ў дрыжыкі. Па меры таго як ён чытаў, твар яго то выцягваўся, то блядзнеў, то чырванеў.

— Што гэта ты нарабіў? — ледзь не закрычаў Маргун.— Хто табе даў права няславіць лепшы ў раёне калгас?

— Наўрад ці лепшы. А права мне дало маё сумленне. Не магу я хлусіць, не магу ашукваць грамадскай думкі. Вы ж самі бачыце, што ў мяне ўсё ясна і пераканаўча падлічана і напісана: калгас, як у той казцы бабчына хатка, трымаецца на курыных ножках.

Маргун чытаў і перачытваў артыкул, а я з-за свайго сталаназіраў за ім. Мне было відно: загадчык нічога не

можа абвергнуць, нічым не можа запярэчыць супроць тых лічбаў і фактаў, якія прыведзены ў артыкуле, але і згадзіцца са мной таксама ніяк не можа.

— Ты, хлопча, і не патыкайся нікуды з гэтым сваім артыкулам. Лепш бярыся ды пішы выступленні, як было запланавана.

— Не буду пісаць,— катэгарычна адмовіўся я.

У гэты самы момант у пакой сельгасаддзела ўкаціўся, як футбольны мячык, Шаевіч, і пакой адразу напоўніўся гоманам, выгукамі захаплення.

— Ну і здымачкі атрымаліся! Ну і здымачкі! У мяне яшчэ ніколі такія не выходзілі,— выкладаў на Юркаў стол фота Шаевіч.

Юрка разглядаў выкладзеныя на яго стол фотаздымкі. Яны сапраўды былі добрыя, асабліва той, на якім старшыня раздаваў нарады: на белым фоне не толькі выразна былі відны людзі, але і заінелыя дрэвы, будынкі, арка, што на дарозе да калгаснай сядзібы. Некалькі здымкаў Шаевіч зрабіў у хатах калгаснікаў.

— Я пайду ды аддам мастаку на рэтуш. Здымкаў дадзім як больш, яны палосу ўпрыгожаць,— заспяшаўся Шаевіч.

Мне хацелася сказаць Шаевічу, каб ён выкінуў усе гэтыя здымкі, але я прамаўчаў, спадзеючыся, што Юрка Маргун паведаміць яму гэтую непрыемнасць. Маргун таксама не сказаў нічога. Ён пачакаў, пакуль выйдзе Шаевіч, і ўзяўся даваць мне праборку.

— Бачыш, беспартыйны, апалітычны чалавек, а робіць тое, што трэба. А ты, камуніст, паддаўся адсталым настроям, табе абываталі, падкулачнікі затуманілі вочы, і ты напісаў пасквіль.

— Ніхто мне не затуманіў. Я напісаў тое, у чым сам перакананы.

— А ты ведаеш, што трэба палітычна мысліць, а не паддавацца выпадковым адсталым настроям?

— Я не паддаюся ніякім настроям, сваю галаву маю на плячах і напісаў тое, што падказала маё сумленне.

— Тваё сумленне! — перакрывіў Юрка.— Дык і насіся са сваім сумленнем, як з пісанай торбай, а гэтага артыкула я не падпішу ў друк.

— А я вас і не прашу,— аж ускіпеў я і, схапіўшы з-пад Юркавых рук артыкул, пабег у машыннае бюро перадрукоўваць яго. Артыкул, як мне здавалася, быў напі-

саны востра і дасціпна. Гэта нават машыністка заўважыла і сказала мне.

Мацвей Кірылавіч доўга ўчытваўся ў радкі артыкула, як бы браў іх на зуб і смакаваў. Я сядзеў, затаіўшы дыханне, і чакаў яго прысуду. Разы са два ён адрываўся ад чытання, кідаў на мяне нейкую калючую ўсмешку, з якой можна было зразумець, што мне і тут няма чаго чакаць спагады. Прачытаўшы, Давідзюк цісканўў на кнопачку званка, і праз момант з'явілася Валя.

— Загадайце сабрацца ўсім у мой кабінет,— сказаў рэдактар да Валі, а потым да мяне: — Калектыўна параімся, абмяркуем, можа, ты і маеш рацыю.

Артыкул чытаў я сам. Стараўся акцэнтаваць на тых мясцінах, якія мне здаваліся найбольш удалымі і пераканаўчымі. Ужо сам загаловак артыкула «Фальшывая слава» выклікаў у слухачоў нейкую незразумелую мне рэакцыю. Як здалося мне, яны не маглі даўмецца, што і навошта я напісаў. Усе ж у рэдакцыі ведалі, што па даручэнню самога Давідзюка я паехаў у «Чырвоны бор» пісаць палосу пра поспехі калгаса. А я чытаў і чытаў, раз-пораз кідаючы позіркі на сваіх слухачоў, хочучы ўгледзець, як яны рэагуюць. Рэагавалі кожны па-свойму: Юрка Маргун моршчыўся. Лёня Мятлюг перакідваўся позіркамі з Сяргеем Рослікам, і ў тых позірках, як мне здалося, адчувалася нават нейкая зняважа да мяне. Вінцэнт Барташэвіч, як заўсёды, быў пахмуры і мо нават трошкі нечым узлаваны; Шолам Кац усміхаўся ў руды клінок барады, і па гэтай усмешцы можна было беспамылкова вызначыць, што артыкул яму падабаўся. Адно я ніяк не мог зразумець адносін рэдактара. Ён нічым — ні словамі, ні нават жэстамі — пакуль не выяўляў іх. І гэта мяне засмучала: рэдактар ёсць рэдактар, і яго думка, яго словы канчатковыя.

Першы папрасіў слова Лёня Мятлюг. Гаварыў ён доўга і блытана.

Я ніяк не мог зразумець, што чалавек хоча сказаць: ён віляў, нібы хадзіў па канаце, і толькі пад канец сказаў тое, што хацеў:

— Я лічу, што таварыш Шыяпок прыслухаўся да кулацкіх нашэптванняў і абняславіў добры калгас. Такога матэрыялу не толькі друкаваць, але і даваць аўтару нельга. Гэта палітычная блізарукасць, калі не сказаць большага — слепата.

Пасля такога заключэння ўсе, хто быў на абмеркаванні, зірнулі на мяне: адны са спагадай — маўляў, хлопец зблу-

дзіў, другія з прытоеным яхідствам. Асабліва гэта відаць было на твары Вінцэнта Барташэвіча. І ён не таіў гэтага свайго яхідства. Адразу ж, як скончыў Мятлюг, Барташэвіч, нават не просячы ў рэдактара слова, устаў і сказаў:

— Я, таварышы, думаю, што такія артыкулы льюць ваду на млын класавага ворага, і ва ўмовах абвостранай класавай барацьбы яны могуць стаць зброяй прытоеных кулацкіх элементаў.

Ад гэтых Вінцэнтавых слоў мяне кідала то ў холад, то ў жар, але я стрымліваўся, нават не падаваў віду, што вельмі ўзрушаны. Я чакаў, што хто-небудзь выступіць і ў абарону мяне. Але сякое-такое слова закінуў за мяне толькі Шолам Кац, дык і таму Барташэвіч не даў усяго дагаварыць. Заставалася апошняя надзея на рэдактара: ён чалавек справядлівы, аб'ектыўны, скажа тое, што думае. І вось нарэшце Давідзюк пачаў гаварыць. Я гэтак чакаў яго выступлення, што слухаў усёй істотай. Ён гаварыў доўга пра законы класавай барацьбы, пра апошнія рашэнні партыі па пытаннях калгаснага будаўніцтва, тлумачыў, што азначае лозунг: зрабіць калгасы бальшавіцкімі, а жыццё калгаснікаў заможным і культурным,— і хоць бы адно слова пра артыкул. Мне здалося, што рэдактар знарок гэтак цягне, гэтак мякка падсцілае, каб з усяго маху бразнуць мяне на гэтую падсцілку. Нарэшце такі я дачакаўся:

— А што датычыць артыкула Макара Шыянка, дык я вам скажу: ён мне падабаецца нават сваёй пастаноўкай пытання, не кажучы ўжо аб тым, што напісаны ён хлёстка і востра. Значыць, аўтар можа самастойна думаць, аналізаваць факты і з'явы, а гэта, я вам скажу, вельмі стапоўчая якасць журналіста.

Усе насцярожана і пільна ўслухоўваліся ў словы рэдактара, асабліва Вінцэнт Барташэвіч — ён то бялеў, то чырванеў, відаць, думаючы: «Няўжо ж я схібіў, няўжо не патрапіў у рэчышча рэдактаравых думак?»

А Давідзюк гаварыў далей:

— Але друкаваць артыкул мы не будзем. Калгас «Чырвоны бор» мне параіў узяць для паказу сакратар райкома, і не можа быць, каб ён памыляўся, а таварыш Шыянок меў рацыю. Відаць, ён па сваёй нявопытнасці памыліўся, а мы, старэйшыя таварышы, абавязаны гэтую яго памылку выправіць.

Мне хацелася закрычаць, што я не памыліўся, што я напісаў чыстую праўду, і калі б мо Мацвей Кірылавіч

гаварыў такім тонам, як Мятлюг ці Барташэвіч, дык я наўрад ці ўтрымаўся б, каб не запярэчыць яму. Але яго тон, яго чалавечая лагоднасць неяк закалыхалі, супакоілі мяне, і я мо нават на момант паверыў яму.

— На гэтым, таварышы, і скончым абмеркаванне,— сказаў рэдактар.

Супрацоўнікі пачалі па адным разыходзіцца. У гэты самы момант, нібы віхура, у кабінет уляцеў Айзік Шаевіч.

— Дык што гэта — я на марозе калеў дарма, зрабіў такія здымкі, каб іх выкінуць?

Гледзячы на Шаевіча, усе неяк мімаволі зарагаталі, а ён спыніўся, як абязвечаны, пасярод рэдактаравага кабінета і лыпаў вачыма то на мяне, то на рэдактара. Позірк, скіраваны на рэдактара, як бы лагодна прасіў: «Не губіце такіх здымкаў», а той, што пасылаўся мне, быў поўны дакору і нават зняважы: бач, маўляў, чаго нарабіў, маладакасос.

Я хацеў пайсці ўжо з кабінета, як рэдактар затрымаў мяне.

— Таварыш Шыянок, ты застанься на хвілінку.

Я ажно спалохаўся: відаць, ён пры людзях не хацеў мяне вельмі крыўдзіць, затое з вока на вока дасць добрага пытлю. Я сеў у мяккае крэсла пры стале і чакаў сам не свой, баючыся паварухнуцца. Мацвей Кірылавіч нешта капаўся ў паперах, а потым навёў позірк на мяне, нібы хочучы ім праняць навылёт. Я згледзеў, што на рэдактаравым твары загуляла лагодная ўсмешка, і аж павесялеў.

— Ведаеш што, Макар Васільевіч, мне падабаецца твая хватка, але ты, брат, не можаш яшчэ палітычна мысліць. З «Чырвоным борам» ты, відаць, памыліўся, паслухаў не таго, каго трэба.

— Не, Мацвей Кірылавіч. Я напісаў адну праўду і толькі праўду.

— Бачыш, хлопча, праўда бывае розная: праўда якога-небудзь падкулачніка і наша праўда.

— Я за нашу! — выгукнуў я з нейкім незразумелым нават для самога сябе запалам.

— Дык ты, значыць, перакананы, што напісаў праўду?

— Так, перакананы.

— Гэта твая справа, а мая справа ў інтарэсах газеты не друкаваць таго, што ты напісаў.

З рэдактаравага кабінета я вылецеў узрушаны, збянтэжаны. Схапіў паліто і кінуўся на вуліцу на лютаўскі сіберны вецер. Бег па вуліцы, сам не ведаючы куды, абы бегчы, абы адбіцца ад думак, ад узрушанасці, ад непакою, які мяне апанаваў пасля абмеркавання артыкула ў рэдактара.

## РАТУНАК ДУШЫ

Унурыўшы галаву ў настаўлены каўнер паліто, я іду быццам насустрач самой завірусе, якая на гарадскіх вуліцах, дзе няма як разгуляцца ветру на ўсю яго магутную сілу, нібы кружыцца на адным месцы і на вялікіх жорнах меле снег на мяккую белую пацяруху. Раптам са снежнай каламуці вынікае чалавечая постаць.

— Добры вечар, Макар. Куды гэта ты?

— Ліха яго ведае. Я і сам не ведаю куды.

Сілюся пазнаць, хто гэта. Пасля пазнаю голас Паўлюка Шыманскага, карэспандэнта «Звязды».

— А-а, Паўлюк? Куды ты ў гэтакую непагадзь? — пытаю.

— Да цябе іду.

— Навошта я табе здаўся?

— Чуў я, чуў, што цябе сёння адспявалі.

— Адкуль ты чуў?

— Па тэлефоне мне ўсё расказалі. Ды от і бягу цябе шукаць.

— Што, паспагадаць, паспачуваць мне?

— Не, што ты, дзівак. Падтрымаць цябе.

— Як гэта ты падтрымаеш? Маральна? Дык я нікога не прашу. Зрабіў, як яны кажуць, памылку, дык сам за яе буду расквітвацца.

— Дзівак,— яшчэ раз сказаў Паўлюк.— Справа ў тым, што ты маеш рацыю.

— Адкуль ты ведаеш?

— У нашу рэдакцыю паступілі сігналы з «Чырвонага бору». Калгаснікі напісалі калектыўнае пісьмо, дык мне даручылі выступіць на старонках «Звязды».

— Што ты кажаш? Няўжо гэта праўда? — акрыяў я.

— Праўда, праўда.

— Дык ты хутчэй, едзь. Я табе магу расказаць, як і што там.

— А я, ведаеш, што надумаў? Ты забраў у рэдакцыі свой артыкул?

— Забраў. Ён у мяне і цяпер у кішэні.

— Давай куды зойдзем, прачытаем, і я пашлю яго ў сваю рэдакцыю.

— Хіба ж так можна? А як жа мне будзе перад сваёй рэдакцыяй? Я ж не прывык на газеты разменьвацца. І сорамна, і боязна.

— За праўду, браток, трэба ўмець змагацца. Калі ты ведаеш, што праўда, дык трэба і пастаяць за яе.

— Я напісаў чыстую праўду.

Неўзаметку мы падышлі да тае бібліятэкі, дзе працавала Іра. Як бы знарок, як бы ведаючы, што маё сэрца рвалася сюды, прывёў мяне Паўлюк да Ірынай чытальні. Але ў вокнах бібліятэкі не было агнёў. Толькі тады, як мы пакраталі замкнёныя дзверы, я ўспомніў, што сёння бібліятэка выхадная.

— Мо да мяне на кватэру зойдзем? — спытаў Паўлюк.

— Не, да цябе далёка,— не згадзіўся я, бо мне закарцела пабачыцца з Ірай, і тут, пад дзвярыма, узнікла непераадольнае жаданне пайсці да яе дадому.— На, вазьмі артыкул і без мяне прачытай. Што хочаш, тое з ім і рабі.

На рагу Камсамольскай і Працоўнай мы і развіталіся з Паўлюком. Я зрабіў выгляд, што пайшоў дадому, а сам, трошачкі пачакаўшы, пакуль Паўлюка не стала відно, скіраваў свой крок на Інтэрнацыянальную. Вечар яшчэ толькі што ўвабраўся ў сілу. У ціхае надвор'е сама б на вуліцы было людзей, а сёння, відаць, прыгадаўшы прыказку, што ў такое надвор'е лепш не пі, не еш і з хаты не лезь, кожны сядзеў сабе ў цяпле. Адзін мо я не мог знайсці ні тае цішыні, ні ўтулку. Як бы разрэзваючы грудзьмі вецер, месячы нагамі снежныя сумёты, я ішоў туды, куды рвалася маё сэрца. У Ірынай хаце я ні разу яшчэ не быў. Можа б, і не варта было ісці ў такую непагадзь. Бацькі яе могуць немаведама што падумаць. Але вось я ўжо на Спакойнай. Мяцеліца тут, вырваўшыся з муроў цэнтра горада на прастор, дзе нізенькія ціхія дамкі нічым не замінаюць ёй, гудзе, раве, кружыць і гоніць уздоўж вуліцы снег, балюча хвошча ў твар і ледзь не валіць з ног. Нічога не відно ў снежнай каламутнай белі. Хутчэй інстынктам, чым вачыма, я знайшоў Ірын дамок. Бразнуў клямкай форткі і ўжо стаю пад сенечнымі дзвя-

рыма. З момант вагаюся: а можа, завярнуцца і пайсці дадому? Але рука ўжо сама грукае ў дзверы.

— Хто там? — чуецца з-за дзвярэй мужчынскі голас.

— Скажыце, калі ласка, Іра дома? — замест адказу пытаюся сам. Але гаспадар не адказаў, мабыць, не пачуў, што я пытаў.

Дзверы адчыняюцца, я прасоўваюся ў сенцы. Бразгае клямка, з хаты вырываецца ў цемрыва сянец пук мутнаватага святла, і я пераступаю парог. Стаю як боўдзіла якое, не ведаючы, што казаць і што рабіць. Поплеч са мной стаіць і таксама не ведае, што рабіць, жылісты мужчына з паклёваным тварам. Ён нечым нагадвае мне рагазінскага каваля Ціхона. Гэта, мусіць, Ірын бацька? Ён, відаць, ніяк не можа даўмецца, што я за чалавек і чаго сюды прыйшоў. Аглядае мяне з ног да галавы і мо думае, што я спадарожны, якога заспела дзе-небудзь у полі завіруха.

— Ды вось сюды, да печы, тут цёпла,— запрашаюць мяне.

— А дзе ж ваша Іра? — пытаю я.

— Іра! — замест адказу гукае бацька.— Тут да цябе прыйшлі.

Расчырванелая, нейкая гулліва вясёлая, выбегла на бацькаў покліч Іра. Яна мне здалася такой прыгожай, што цяжка было адарваць вочы. Угледзеўшы мяне, Іра сумелася і ў нерашучасці спынілася ў дзвярах другога пакоя.

— Макар? — дзівіцца яна і яшчэ больш чырванее.

— Як бачыш.

— Распранайся ды праходзь.

Іра бярэцца памагаць мне распранацца, але я ўжо сам скінуў паліто.

— Якім цябе ветрам?

— Завірушным, сіберным.

— Праходзь, праходзь,— запрашае Іра.

Бацька яе таксама прапануе.

— Праходзьце ў тыя пакоі. Я думаў, што вы які нетутэйшы, з дарогі дзе збіліся, аж вы Ірын знаёмы.

— Гэта наш самы актыўны чытач,— кажа Іра і цягне мяне за руку ў пакой-бакоўку.

Але што гэта: мабыць, не ў час і зусім недарэчы прыйшоў я сюды, на Спакойпую, шукаць заспакаення. У бакоўцы нехта пакашлівае. Насустрач мне ўстае хлопец, мо гэтакіх гадоў, як і я, прыгожы, стройны.

— Знаёмцеся. Гэта мой школьны сябар Эдзік,— бачачы маю збянтэжанасць, тлумачыць Іра.— Аж дзесяць год разам сядзелі мы ў школе, а цяпер Эдзік прыехаў на канікулы.

— Макар Шыянок,— нехаця працягваю я руку Эдзіку і падумваю сам сабе: «Чаго я сюды прыцёгся, навошта я прынёс сваё ўзрушэнне, хіба яно тут каму патрэбна?»

З момант панавала нейкая незразумелая напружанасць: ні я, ні Эдзік не маглі распачаць гаворкі. Мне хацелася павярнуць назад і зноў рынуцца ў завіруху, каб яна і след мой сюды замяла. Эдзік, мусіць, гэта заўважыў, і ці то ён паспагадаў майму становішчу, ці яму і сапраўды карцела ісці дадому, пачаў збірацца.

— Ды пабудзь яшчэ, я вось нагрэю чайку ды пап'ём,— казала Іра, як бы перапрошваючы яго за тое, што я гэтак неспадзявана, гэтак нечакана румнуў у хату.

— Не, не, не магу, Ірачка. Другім разам зайду. У мяне ж яшчэ цэлы тыдзень у запасе.

— Ну то як сабе хочаш.

Эдзік на развітанне падаў мне руку і гэтак зірнуў мне ў вочы, што я ў тым позірку прачытаў як бы нейкую злосць на мяне. А можа, мне толькі так здалося? Мо маё абвостранае пачуццё здольна было толькі гэтае бачыць, і яно бачыла. Мо і сапраўды паміж Ірай і Эдзікам было адно сяброўства, і больш нічога? Я пільна прыглядаўся да Ірынага твару ў час развітання, і мне здалося, што паміж імі было нешта большае. Вельмі ж нейк ласкава, аж з бляскам у вачах глядзела яна на Эдзіка. Такіх вачэй я ў яе ніколі не бачыў.

— Іра, дык і я пайду.

— Дык чаго гэта вы — як змовіліся, і адзін і другі. Яму трэба дадому, а табе куды? Цябе ж дома ніхто не чакае?

У гэтых Ірыных словах я на момант адчуў шчырасць і жаданне, каб я сапраўды застаўся.

— Ну то я пабуду яшчэ трошкі,— сказаў я.

Я гартаў, разглядаў на Ірыным стале кніжкі, баючыся зірнуць дзяўчыне ў вочы, быццам у іх мог убачыць дакор, што перашкодзіў пабыць з любым хлопцам. Іра таксама нейкі момант не знаходзіла слоў і маўчала, гледзячы на мяне.

— А я цябе такога не ведала,— нарэшце прамовіла яна.— Я думала, ты рахманенькі, аж бачу — ты як Атэла.

— Чаму, як Атэла?

— Раўнівы, як той маўр.

— Ані.

— Маўчы ты, хіба я не бачу. Як угледзеў Эдзіка, дык аж з твару змяніўся.

— Гэта з холаду, з мяцеліцы.

Мусіць, каб развеяць маю ўзрушанасць, Іра бліжэй падсунулася да мяне і дакранулася рукой да валасоў, нават пагладзіла трошкі. Аж у грудзях у мяне цёпла зрабілася ад гэтай нечаканай ласкі.

— Мне падабаюцца твае валасы, асабліва вось гэты непаслухмяны віхор,— і яна лёгенька тарганула мяне за віхрастую чупрыну.

— А мне ён не падабаецца, ніяк прычасаць нельга.

Пакрысе ўтаймоўвалася маё ўзрушэнне, і мне станавілася гэтак добра-добра, і ад таго, што мы сядзім у цёплым і ўтульным Ірыным пакойчыку, а за акном гуляе, шалее мяцеліца, і ад гэтай неспадзяванай ласкі. Я адразу нават паверыў, што Эдзік сюды трапіў выпадкова. Раптам вока маё натрапіла на групавы здымак, які стаяў на стале. Там я таксама ўгледзеў Іру поплеч з Эдзікам. Іра заўважыла маю цікавасць да здымка і растлумачыла:

— Гэта наш увесь клас. Перад выпускам сфатаграфаваліся.

Яна пачала мне называць імёны дзяўчат і хлопцаў, якіх я не ведаў. Я зноў спахмурнеў, і Іра здагадалася ад чаго.

— Я ж кажу, што ты раўнівец, як той Атэла,— ціхенька зарагатала яна.

— Я не раўную. Якое я маю права раўнаваць?

— А мне нават падабаецца, што ты раўнуеш.

— Тады буду раўнаваць да ўсіх і да ўсяго, абы толькі табе падабалася.

— Чаго ж ты ўсё-такі сёння прыйшоў, я ж цябе не запрашала? — нарэшце Іра запыталася тое, чаго я даўно чакаў.

— Ведаеш, мне трэба было з кім-небудзь пагаварыць, і я, апроч цябе, нікога не знайшоў.

— Гэта добра, што ты нікога не знайшоў. А што ў цябе здарылася?

Я падрабязна, ва ўсіх дэталях расказаў, як ездзіў у «Чырвоны бор», як напісаў не тое, што трэба рэдакцыі, за што мне такі сёння добра перапала на абмеркаванні ў рэдактара.

— А я і не ведала, што ты такі прынцыповы чалавек. Гэта мне падабаецца.

Іра зусім блізенька прысунулася да мяне, і мо каб былі зачынены дзверы ды каб мо не пачуўся голас Ірынай маці, дык пэўне што я не вытрываў бы і пацалаваў Іру. Але з гасцінага пакоя маці звала:

— Іра, ідзіце чай піць.

— Хадзем, Макар,— ухапілася за мяне рукамі дзяўчына.

— Не, не, дзякую, я не хачу,— адмаўляўся я.

— Ідзіце, малады чалавек,— пачуўся бацькаў голас.— Не ведаю, як вас зваць...

— Макар Шыянок,— адказаў я Ірынаму бацьку.

— Ідзіце, таварыш Шыянок, за стол, не саромейцеся.

— Хадзем, хадзем, Макарка,— цягнула мяне за рукаў Іра.

І от я сяджу за сталом перад налітай шклянкай чаю і не ведаю, як да яе падступіцца. Рукі быццам адзеравянелі, і я не маю куды іх дзець, словы як бы праглынуліся, і мне цяжка-цяжка хоць адно якое вымавіць. Да мяне звяртаюцца Ірыны бацька і маці, а я не ведаю, што адказаць. Адчуваю сябе як той падарожны чалавек, які ішоў-ішоў па дарозе, раптам збіўся з яе і трапіў у страшэнны гушчар, праз які нельга і прадрацца. Адпіваю маленькімі глыткамі гарачы чай і ўкрадкі спадылба кідаю позіркі то на Ірынага бацьку, то на маці. Карціць уведаць, як яны ставяцца да мяне. Бацька глядзіць мне ў вочы проста, і здаецца, шчыра. Адно ўражвае, чаго ягоныя кароткія падстрыжаныя вусы неяк торгаюцца, як бы ён злуе на каго, мо на Іру, што яна пасадзіла мяне за стол.

Ірына маці, таўставатая ўжо, з рэдкімі пасмамі сівых валасоў, глядзіць, зусім іначай. Яна як бы навылёт праціпае мяне позіркам, нібы хоча ўведаць, што ў мяне дзеецца на душы. Мне здаецца — жанчына таксама не вельмі рада, што я сюды прыйшоў няпрошаным госцем. Піла яна чай не з кубка, як Іра з бацькам, а налівала ў сподачак і гэтак асцярожна, быццам не адзін раз ужо апякалася, уцягвала ў сябе, аж пасвіствала.

Мне прыемна, хораша было сядзець за гэтым круглым сямейным сталом, у гэтым утульным пакоі, дзе на мяккай з высокай спінкай канапе між вышываных падушачак як бы пасвіўся плюшавы мядзведзік, дзе на сценах у фа-

цэтных асадках-рамачках былі развешаны сямейныя фатаграфіі, а ля вокан аж пад самую столь лапушыліся фікусы. Я даўно, ды мо і ніколі, не быў атулены такім харawством, даўно не сядзеў за сямейным сталом. Усё гэта поўніла маё сэрца замілаваннем, нейкай ціхай радасцю, і хоць за сталом пакуль што сядзелі моўчкі, а гэта мяне трошкі насцярожвала, мне ўсё роўна было добра.

Добра было б жыць на свеце людзям, калі б яны маглі чытаць думкі другіх. Тады б мо не было паміж імі ні згрызот, ні непаразуменняў. От каб я ведаў, што думаюць пра мяне Ірыны бацькі, дык мо і не варта было мне за гэты стол садзіцца, мо зусім не варта было і прыходзіць сюды адаграваць душу. За сталом пакуль што ўсе маўчаць, як бы ніхто не ведае, з чаго пачаць гаворку. Нарэшце Ірын бацька запытаў:

— А вы адкуль самі родам будзеце?

Я адказаў.

— О, дык я вашы мясціны ведаю. Мне там давялося пабыць. Гэтак ведаю, што і забыць ніяк не магу.

— Чым жа яны даліся вам так у знакі?

— Добра такі даліся ў знакі. Там мне кулю ўсадзілі пад рабро.

— У грамадзянскую вайну?

— Каб жа ў грамадзянскую, дык не гэтак крыўдна было б, а то ў дваццаць дзевятым годзе.

Ірын бацька пачаў расказваць, як яго, прадстаўніка рабочага класа, камуніста, паслала партыя праводзіць калектывізацыю ў наш Верамеевіцкі раён і як стрэлілі ў яго праз акно з абрэза. Гэта адбылося непадалёк ад нашага Рагазіна, у вёсцы Чамярыцы. Я ведаў гэтую вёску, хоць там ні разу і не быў. Яшчэ з дзяцінства памятаю, як рагазінцы расказвалі, што Чамярыцы стаялі ў лесе, і ў гады, калі па нашай краіне блукалі розныя банды, там аб'явілася свая банда Галака. Яна рабіла налёты на мястэчкі і сёлы, рабавала ўсё, што ў каго можна было. Яшчэ памятаю — у нашай старой хаце на пастоі стаялі два чырванаармейцы і камандзір Валюжэніц. Вельмі добры быў чалавек. Ён дужа часта некуды выязджаў і кожны раз, калі вяртаўся, што-небудзь прывозіў нам, малым, на гасцінец. Тады ён і прывёз вестку, што ягоны атрад забіў бандыта Галака ў тых самых Чамярыцах.

Тое, што Ірын бацька ведаў наш раён, што ён там праводзіў калектывізацыю і што ён расказваў мне пра гэта за чаем, неяк адразу зблізіла мяне з гэтым суровым

на выгляд чалавекам. Андрэй Піліпавіч, гэтак звалі яго, пачаў успамінаць людзей, якіх і я ведаў, пытаўся, ці даўно я быў на радзіме. Я ў сваю чаргу запытаў, ці не ведаў ён Пракопа Касянка.

— Дык чаму не ведаў? Ведаў, канечне. Сапраўдны камуніст, добры чалавек, а добрага чалавека далёка ведаюць. Мы з ім нават пасябравалі былі за той год, які я там быў.

Мы гэтак загаварыліся з Андрэем Піліпавічам, што забыліся і на чай. Я ненарокам зірнуў на Іру і заўважыў, што ёй не вельмі цікава слухаць нашу гаворку. Яна пачала прыбіраць са стала посуд, а мы ўсё сядзелі і гаварылі.

— Тата, пайшоў бы ты ўжо спаць,— не вытрывала Іра,— заўтра ж на работу табе рана.

— А і праўду ты кажаш, дачухна, — зірнуўшы на насценны гадзіннік, які паказваў чвэртку на дванаццатую, сказаў Андрэй Піліпавіч.— Дык ты заходзь да нас, Макар Васільевіч,— запрасіў ён мяне напаследак.

Мы з Ірай зноў апынуліся адны ў яе пакойчыку. Як мне здалося, Іра нечага зазлавала. І гэта хутка выявілася.

— Ты да таты прыйшоў ці да мяне? — штучна надзьмуўшы вусны, пытала Іра.

— Да цябе, да цябе, любая,— кінуўся я з абдымкамі да дзяўчыны. Але яна рашуча адхіліла маё замілаванне і зноў сказала:

— Ты як той мядзведзь. Няма ў цябе інтэлігентнасці.

А я сабе падумаў: няхай буду мядзведзем, заві мяне кім хочаш, няхай у мяне няма інтэлігентнасці, усё роўна ты не выкруцішся ад маіх пацалункаў. І ўжо ў наступны момант яна, як птушка ў сілку, трапяталася ў маіх абдымках. Не, яна не баранілася ад пацалункаў. Яна адно, калі вусны адрываліся ад маіх, шаптала:

— Цішэй, цішэй ты, мядзведзь, маці пачуе.

— Няхай чуе, няхай увесь свет бачыць і чуе, што я цябе кахаю, што ты мая, мая! — шаптаў я горача ў нейкім незразумелым нават для самога сябе ўзрушэнні.

— Кахаеш?

— Вельмі кахаю... Такое харошае, як ты, нідзе больш на свеце няма.

Расчырванелая, усхваляваная, лагодная і добрая мая Ірачка раптам нечага спалохалася і нібы зазлавала.

— Не трэба гэтак, Макарка, не трэба, любы. Ідзі дадому, заўтра ж на работу і табе трэба ўставаць. Ідзі.

Іра выбегла з бакоўкі, прынесла маё паліто, накінула мне яго апашкі на плечы, насунула амаль на вочы шапку і павяла мяне да дзвярэй. О, як не хацелася мне пакідаць гэты цёплы, ціхі, утульны куток свайго шчасця. Мне здавалася, што ўжо і на дварэ няма ні мяцеліцы, ні марозу, што там расцвілі ружы мае маладосці. Але вось адчыніліся сенечныя дзверы, і белая калючая замець астудзіла маю гарачую ўзрушанасць. Ужо на ганку Іра неяк незвычайна рванулася і сама пацалавала мяне.

— Няхай табе цёпла і добра будзе на дарогу.

Пацалавала і знікла за дзвярыма, я толькі чуў, як шмарганулася засаўка, як стукнулі хатнія дзверы. Доўга яшчэ стаяў на ганку, не мог ніяк апрытомнець ад вельмі вялікага шчасця кахання. Свістала, скуголіла завея, калючы сівер аж валіў з ног, але я як бы нічога гэтага і не адчуваў. Было гэтак добра, што я, здаецца, не ішоў, а ляцеў разам з гэтым сіберным ветрам, які падганяў мяне ў спіну.

Заспаная гаспадыня адамкнула мне дзверы.

— Недзе вы гэтак загуляліся.

— Ды так забавіўся трохі.

— А да вас прыходзіў таварыш.

— Які таварыш.

— Пытаў вас. Язык у яго вельмі віхляўся, дык я і не дала рады дапытацца, хто ён і чаго хацеў.

— Які ён з сябе?

— У шэрым паліто, у капелюшы. Вельмі ж п'яны, ледзь на нагах стаяў.

— Даўно прыходзіў?

— Падаўна ўжо.

Я папрасіў у гаспадыні прабачэння, што гэтак позна патурбаваў, пажадаў ёй добрай ночы і кінуўся ў сваю самотную адзінокую каморку, каб амаль да світання пад скуголенне мяцеліцы думаць пра Іру, песціць, галубіць яе ў думках. Заснуў я, калі пашарэла ўжо ў акне, але і ў сне Іра не дала мне спакою. Яна была побач са мною, і хоць я не выспаўся, мне было добра. Забыліся ўсе ўчарашнія згрызоты ў рэдакцыі.

Раніцай мяцеліца ўжо зусім аціхла, адно засталіся гурбы на тратуарах, і я ішоў у рэдакцыю супакоены, ураўнаважаны ў сваім настроі.

Сумятлівы рэдакцыйны дзень пачаўся як звычайна.

Валя бегала па пакоях і перадавала загад сакратара, каб аддзелы не бавіліся са здачай у нумар матэрыялу. Юрка Маргун глядзеў на мяне неяк незвычайна, як бы спачуваў, як бы хацеў гэтым сваім позіркам суцешыць. Але, відаць сцяміўшы, што я не вельмі хвалююся, запытаў:

— Ну дык як учарашняя праборка?

— Нішто сабе. Спаў добра, нават нічога благога не сасніў.

— Гэта дрэнна.

— Чаму?

— Таму што трэба прыслухоўвацца да крытыкі, трэба не толькі цярпець, але і любіць яе.

— Які гэта дурань крытыку любіць? З крытыкі трэба рабіць вывады. І я зрабіў: быць і надалей справядлівым, не крывіць душою.

— Бач ты які! — выказаў сваё здзіўленне Юрка і, відаць не хочучы болей гаварыць на гэтую тэму, працягнуў мне допіс: — На, апрацуй на першую палосу.

Мне карцела даведацца, якая сіла ўчора занесла да мяне Сяргея, і я пайшоў у аддзел культуры. Сяргея там не было. Сядзеў насуплены, як сыч, Мятлюг.

— Добры дзень, Лёня,— весела павітаўся я.

— Дзень добры,— аж сумеўся Мятлюг, бо, мусіць, не чакаў у мяне такога настрою.

Твар у Метлюга быў азызлы, пад вачыма сінюга, голас сіпаваты. Відно было, што хлопец правёў ноч не вельмі спакойна.

— Ты не ведаеш, чаго Сяргей прыходзіў да мяне?

— Калі ён прыходзіў? — аж неяк спалохаўся Мятлюг.

— Мяне не было дома. Гаспадыня казала, што нейкі п'яны ў шэрым паліто пытаў мяне. Дзе вы былі ўчора?

— Ат, маўчы ты,— вінавата залыпаў вачыма Мятлюг.— Зноў з тымі...

— З якімі?

— Ды з Майкай і Рымай. Ледзь не пабіліся за іх. Панапіваліся як боты...

— Знайшлі за каго біцца.

— З п'янага глузду.

— А дзе Сяргей?

— Адкуль я ведаю. Мы з ім пасварыліся, я пакінуў яго з кралямі, а сам пайшоў дадому.

— А сёння дзе ён? На работу не прыйшоў?

— Не было яшчэ.

— Хадзем да яго, мо што здарылася з хлопцам. Гэта-

кая ж завіруха была,— ледзь не за рукаў пацягнуў я Метлюга на Сялянскую вуліцу.

Сяргей у гарачцы ляжаў на ложку. Светла-шэрае паліто, якое яму нядаўна прывезлі з Масквы і якім ён вельмі фанабэрыўся, вісела на вешалцы. Уся спіна ў ім была рудая.

— Сяргей, што з табою? — папытаў я.

— А ліха яго ведае. Яшчэ памятаю, як шукаў тваю кватэру. Памятаю, як гаспадыня сказала, што цябе няма дома, а потым — як скрозь зямлю праваліўся. Прачнуўся ад страшэннага холаду, зуб на зуб не пападаў. Агледзеўся — аж сплю ў смеццевай скрыні і ніяк не магу даўмецца, дзе, у якім раёне. Да самага світання прабегаў, каб не адубець зусім. Калі развіднела, агледзеўся, што я недалёка ад тваёй кватэры. І як я ў той чужы дом убіўся, чорт яго ведае. Паліто, бачыш, зусім сапсаваў.

— Ліха з ім, паліто. Вычысціцца, от толькі каб самому ўсё ладам мінулася,— заспакойваў я Сяргея.

— А што, хіба ўжо ведаюць у рэдакцыі? — спалохаўся Сяргей.

— Ніхто нічога не ведае. Я кажу, каб не захварэў.

— Не захварэю, я моцны.

— Мы скажам у рэдакцыі, што ты хворы.

Адзін я гаварыў з Рослікам, спачуваў яго бядзе, а Лёня Мятлюг, мусіць, адчуваў сябе ніякавата і таму сядзеў як вады ў рот набраўшы, адно лыпаў вачыма. Сяргей таксама кідаў на яго гнеўныя позіркі: маўляў, усё праз цябе, нягоднік.

Як мы ні ўтойвалі здарэння з Сяргеем, на трэці дзень пра яго ведала ўся рэдакцыя. Можа, Мятлюг не ўтрымаўся ад спакусы і каму расказаў? Давідзюк выклікаў мяне і дапытваўся, ці не быў і я ў кампаніі з Рослікам і Мятлюгом. Каб пераканаць рэдактара, што я сапраўды з імі не быў, я вымушаны быў прызнацца, што ўвесь той вечар прасядзеў у дзяўчыны.

— Малайчына, а я думаў, што ты з крыўды ў бутэльку палез.

— З якой крыўды?

— А з тае, што табе на абмеркаванні артыкула добра бакі намялі.

— Ат, па такім мяцці можна сто год жыць і ў шынок не кідацца.

— Малайчына! Толькі бачу — ты з крытыкі ніякага вываду не зрабіў.

— Зрабіў, Мацвей Кірылавіч.

— Які?

— Больш глыбока вывучаць факты і пісаць праўду.

— Гэта добра. А ўсё-такі што было з Рослікам?

— Не ведаю, Мацвей Кірылавіч.

— Давядзецца развітацца з ім, даць яму пуцёўку ў іншае жыццё.

Я не стаў дапытвацца, у якое іншае жыццё рэдактар збіраецца даць пуцёўку Сяргею Росліку. Мацвей Кірылавіч сам удакладніў:

— Рэдакцыя — гэта святое месца, і мы ніколі і нікому не дазволім яго бэсціць, няхай хоць і здольным людзям.

Рослік выйшаў на работу не хутка. Сваё шэрае паліто ён здаў у чыстку і, пакуль там чысцілі яго, сядзеў дома, прыкідваючыся хворым. Як толькі Рослік прыйшоў у рэдакцыю, Давідзюк адразу ж выклікаў яго і сказаў, каб ён шукаў сабе іншае работы. Каб мо Сяргей перапрасіў, дык усё і абышлося б, але той стаў на дыбкі і пачаў адмаўляць сваю віну. Тады рэдактар напісаў загад аб звальненні з рэдакцыі Сяргея Росліка за п'янства, за бытавую разбэшчанасць, за парушэнне працоўнай дысцыпліны. Я думаў, што Сяргей упадзе духам, і пры сустрэчы з ім стараўся паспагадаць, але той на людзях трымаў сябе так, быццам нічога і не было. Бесклапотна ўсміхаючыся, ён сказаў:

— Гэта мо і добра. Мне цяпер адкрыта дарога ў Мінск. Там сапраўдны разгон для паэта, а тут зачарсцвееш, як тая скарынка, заплеснееш. І ты, Макар, пра гэта падумай. Не век жа табе звекаваць у гэтым безгалоўі.

— Падумаю, Сяргей,— сказаў я, каб толькі пагадзіцца з ім, бо мне ніколі і ў галаву не прыходзіла перабірацца ў Мінск. Я яшчэ тут сябе нічым не паказаў, а што я там у Мінску рабіць буду. Мне карцела іншае: засела ў душу і галаву Іра. Дзе б я ні ішоў, што б я ні рабіў, усё пра яе думаў і, як толькі выпадаў вольны вечар, хуценька спяшаўся ў чытальню, а калі Іры там не было — як апантаны бег на Спакойную вуліцу.

Я ўжо добра пазнаёміўся з Ірыным бацькам. Андрэй Піліпавіч мне падабаўся, з ім цікава было весці размову.

У ім адчувалася прастата рабочага чалавека. Стары цікава расказваў, як яны калісьці арганізоўвалі забастоў-

кі рабочых Лібава-Роменскай чыгункі, як яго, тады яшчэ маладога, запраторылі ў астрог і ён прасядзеў аж цэлы год, пакуль вялося следства. Расказваў Андрэй Піліпавіч і пра грамадзянскую вайну, пра тое, як камандаваў рабочым батальёнам чыгуначнікаў. Адным словам, у чалавека было за плячыма вялікае жыццё, і ён ахвотна пра яго расказваў. Мы часцяком з ім гэтак загаворваліся, што Іра не магла ўжо сцярпець і казала:

— Тата, табе ж заўтра на работу.

Андрэй Піліпавіч у такім разе даваў мне дабранач ды ішоў у сваю бакоўку, дзверы ў якую былі з кухні. Там была бакоўка цёплая, кожны дзень палілася печ, і сцяна ад яе заўсёды была гарачая.

Затое Ірына маці, Аляўціна Пятроўна, нічым не была падобна на свайго чалавека. Калі Андрэй Піліпавіч быў гаваркі, гасцінны, дык яго жонка нейкая ваўкаватая. Яна заўсёды маўчала, здавалася, што ўсім была нездаволена, і мне думалася, што Аляўціна Пятроўна чагосьці злуе на мяне. Я аднаго разу нават у Іры запытаў:

— Чаго гэта твая маці злуе на мяне?

— Дзівак ты,— аж зарагатала Іра.— Яна заўсёды такая, за тыдзень мо адно слова і скажа. У яе душа добрая, але толькі тая дабрата не паказваецца нікому.

І я паверыў, што ў Іры вельмі добрая маці, з добрай душой, і не звяртаў ніякай увагі на яе маўклівасць. Я і сам не вельмі гаваркі чалавек, асабліва сярод тых, каго мала ведаю. Слоў у мяне ў запасе, здаецца, і многа, але я іх баюся выказваць, каб не ляпнуць чаго-небудзь недарэчнага. Затое калі я ўжо блізка знаёміўся з людзьмі, дык тады знаходзіліся і дасціпныя словы, і сур'ёзныя гісторыі, якія магу расказваць як па пісаным. У кожнага ж чалавека свая натура. Але як бы яно ні было — Ірын бацька мне больш падабаўся за маці, і я шукаў у Іры падабенства з ім, хоць яна знешне і, мабыць, характарам была больш падобна на маці. Але Іра, мне здаецца, добрая, лагодная, ласкавая. Нават у яе строгасці ёсць нешта мяккае. Іра, Ірачка, як ты мне патр...
здаецца, не магу больш ні жыць, ні ді...

Сапраўды, Іра была цяпер для мя...
Я нёс да яе ўсе свае радасці і скрухі, ...
і яна, здавалася, дзяліла ўсё гэта са м...
добра чалавеку, калі ў яго ёсць з кі...
зразумеў цяпер як ніколі,

## ВЯСЕЛЛЕ «НЕ ПА-ЛЮДСКУ»

Зіма была трывожная не толькі для мяне. Ва ўсім свеце быў непакой: з Іспаніі ішлі весткі, што фалангісты перамагаюць рэспубліканцаў. У газетах паведамлялася, што на палях Іспаніі, у яе небе змагаюцца і нашы воіны-добраахвотнікі. Перадаваліся чуткі, нават цэлыя легенды, як нашы лётчыкі над гарадамі Гвадалахары падразаюць крылы фашысцкім сцярвятнікам, як нашы танкісты агнём і гусеніцамі знішчаюць фашысцкія танкі. Аднак сілы былі няроўныя: міжнародная рэакцыя не магла дапусціць, каб Іспанія стала рэспубліканскай. Вар'ят Гітлер аж асіп, заклікаючы да паходу на камунізм. І хоць мы цьмяна ўяўлялі небяспеку, тым не менш трывога закрадалася ў сэрца кожнага чалавека, ён адчуваў, што нельга спаць у шапку, трэба гартаваць, навострываць сваю класавую пільнасць. Спакойны, ураўнаважаны тон газет змяніўся на заклікі да пільнасці. Па ўсёй краіне праводзіліся процiпаветраныя і проціхімічныя вучэнні і вучэбныя трывогі. Краіна была ў стане мабілізацыйнай гатоўнасці.

...Да раніцы я прасядзеў над першай карцінай сваёй п'есы і прыйшоў на работу са спазненнем і з як налітай волавам галавой. Юрка Маргун ужо быў у рэдакцыі, і як толькі я зайшоў у пакой, ён неяк незвычайна ўсміхнуўся. Я распрануўся, агледзеўся і ўбачыў на сваім стале разгорнутую «Звязду». Шолам звычайна клаў газеты загадчыкам аддзелаў. Навошта ён раптам паклаў мне ды яшчэ і разгарнуў? І чаго гэты сухар Юрка ўсміхаецца? Я зірнуў на газету і вачам сваім не даў веры: на другой палосе, акурат у цэнтры яе, надрукаваны мой артыкул «Фальшывая слава». Прозвішча маё надрукавана не ўнізе, як звычайна, а вынесена ў падзагаловак. З нейкай радасцю, але больш з трывогай я пачаў чытаць. Нічога, амаль ніводнага слова не змянілі.

— Віншую з выхадам на рэспубліканскую трыбуну,— уедліва праказаў Юрка.

Але я нібы зусім не заўважыў яго тону і спакойна адказаў:

— Дзякую.

— Так,— загугнявіў далей сабе пад нос Маргун,— добрае дзякую. А ты ведаеш, што гэты твой артыкул ідзе ўразрэз з думкай райкома партыі?

— Думкі райкома партыі я не ведаю, не кансультаваўся ні з кім. А вось з думкай ЦК ён стасуецца, інакш бы «Звязда» не надрукавала.

— Разумны ты вельмі стаў,— злосна сказаў Юрка.— Мацвей Кірылавіч табе розуму яшчэ дабавіць. Ён цябе шукаў.

— Добра мне і з тым розумам, што ў мяне ёсць,— агрызнуўся я і пайшоў у кабінет рэдактара.

Давідзюк сустрэў неяк незвычайна. Я чакаў, што ён адразу ж накінецца на мяне, але ўгледзеў на яго твары не такую, як заўсёды, усмешку, адчуў далікатнасць і ветлівасць.

— Сядай, сядай, Макар Васільевіч. Другі раз з прыемнасцю прачытаў твой артыкул. Востры, трэба сказаць, нават дасціпны.

Я не мог ніяк зразумець, ці Давідзюк сапраўды мяне хваліць, ці гэтак вытанчана пакеплівае. А ён гаварыў далей:

— Я без жартаў кажу табе: артыкул мне падабаецца, хоць ты і падкузьміў рэдакцыю.

— Чым жа я падкузьміў яе? Каб я абмінуў сваю рэдакцыю ды адразу напісаў у «Звязду», тады б іншая справа была. А вы ж не захацелі друкаваць.

— Твая, вядома, праўда. Я палічыў немэтазгодным друкаваць такі артыкул. Але ты на мяне не крыўдуй. І, вядома, мне нялёгка было адмовіцца ад сваёй задумы. А цяпер твой артыкул і мы перадрукуем. Няхай чытачы бачаць, што мы згодны з той ацэнкай становішча калгаса, якую дала «Звязда».

— Як сабе хочаце. Калі праўду казаць, дык я і не збіраўся даваць артыкул у «Звязду». Гэта таварыш Шыманскі даведаўся, што я напісаў такі артыкул, і забраў яго ў мяне.

— Я цябе, Макар Васільевіч, не на тое пазваў, каб даваць табе тут праборку. Гэта было б падобна на заціск крытыкі. Ведаеш, наш стыльрэдактар падаў заяву аб звальненні. Я падумаў, каго можна паставіць на яго месца, і прыйшоў да вываду, што ты адзіны чалавек, які можа справіцца з гэтай адказнай работай. Ты і мову добра ведаеш і пісаць умееш.

— Мацвей Кірылавіч, дык завошта вы мяне з творчай на тэхнічную работу хочаце перавесці? Чым я правінаваціўся перад вамі?

— Дзівак,— сумеўся рэдактар,— я, можна сказаць, раблю яго сваёй правай рукою, а ён яшчэ ўпіраецца. Ды табе абедзвюма рукамі трэба хапацца за гэтае месца.

Мне, калі праўду казаць, дык і адной рукой не хацелася хапацца за пасаду стыльрэдактара. Я ведаў, як пішуць Маргун, Барташэвіч, ды і астатнія. Добрую палавіну таго, што яны пішуць, трэба перапісваць нанава. Зноў жа такі, седзячы крукам на праўцы чужой пісаніны, нічога свайго не напішаш. Давідзюк, відаць, угадаўшы мой невясёлы роздум, сказаў:

— А ты не бойся, што табе не будзе чаго пісаць. Будзем табе даручаць пісаць фельетоны, рэцэнзіі на кнігі і на кінафільмы. Ты ж усё гэта можаш. Чалавек ты з галавой, можаш творча думаць і заўжды знойдзеш, што напісаць.

— Дзякую вам за такі камплімент.

— Гэта не камплімент. Гэта тое, што я сапраўды думаю, ведаю пра цябе. Ну дык як ты, згодзен? — ужо з рашучасцю ў голасе запытаў рэдактар.

— Калі гэта ў інтарэсах газеты, у інтарэсах справы, дык што ж ты зробіш.

— Малайчына! Гэта па-бальшавіцку.

Даючы згоду рэдактару, я там, у кабінеце, і не падумаў, што вечарамі цяпер не здолею сустракацца з Ірай, бо тут мушу сядзець крукам. Вядома, гэтай прычыны я не мог выказаць Давідзюку. Таму, калі я выйшаў з кабінета, на твары маім былі заклапочанасць і ўзрушанасць. Валя ажно спалохалася, яна мо падумала, што рэдактар зняў мяне з работы за непаслушэнства і самаўпраўства, якія праявіў я з гэтым артыкулам. Дзяўчына спагадліва глядзела на мяне, але нічога не пытала, мусіць, баючыся сыпаць соль на яшчэ свежую рану. Затое Шолам Кац не ўтрымаўся:

— Ну, як, што, Макарка? — аж прыўзняўся ён за сталом.

— На другую работу пераводзіць.

— Зняў, значыцца?

— Ды не. Стылістам ставіць мяне.

— Усё ж такі не дараваў ён табе.

— Не за артыкул. Курбан падаў заяву, каб звалілі яго з работы, дык Мацвей Кірылавіч мяне ўгаварыў.

— Ой, не кажы ты: угаварыў, угаварыў. За непаслушэнства ўгаварыў, вось за што.

— Ды не, Шолам. Давідзюк у мяне самога згоды пытаў. І я згадзіўся. А што «Звязда» надрукавала мой артыкул, дык ён кажа, што добра.

— Ой, не кажы ты. Якое гэта яму дабро? Ты, Макарка, нос усім ім падцёр, дык хіба табе даруюць.

— Пра гэта і гаворкі не было.

— Ой, не кажы ты,— аж узрушыўся Шолам.— Хіба ж ён у вочы табе гэтак возьме дый скажа? Гэта было б як заціск крытыкі. Давідзюк — чалавек асцярожны, ён табе для прыліку трошачкі і мёдам памазаў, каб саладзей было пракаўтнуць. Усё ж дамагаюцца ісці на апаратыўную работу ў аддзелы, а хіба табе, хлопцу, які не лезе ў кішэню па слова, гэта работа — стыльрэдактарам?

Пасля гэтага нашага дыялогу я і сапраўды падумаў, што гэта не іначай як хітры Давідзюкоў ход. Мне сорамна стала нават перад самім сабою за непрадбачлівасць, за нейкую сляпую веру ў шчырасць кожнага чалавека. Я ўжо хацеў вярнуцца ў кабінет і рашуча адмовіцца ад новай пасады, але ў апошнюю хвіліну не хапіла смеласці. Усё-такі я не мог дапусціць і думкі, каб Давідзюк хацеў зрабіць са мной што-небудзь благое. Ён жа заўсёды ставіўся да мяне, як родны бацька, і зрабіў дабра мне мо не менш за дзядзьку Пракопа. Ды якое я меў права сумнявацца ў шчырасці яго намераў?

— Вы памыляецеся, Шолам Эфроімавіч,— сказаў я рашуча старому.

— Як сабе хочаш, гэтак і думай, але на тваім месцы я не пайшоў бы з аддзела на стыльрэдактуру.

На вялікую маю радасць, тое, што казаў мне Шолам пра Давідзюка, не пацвердзілася. Рэдактар да мяне адносіўся з усёй шчырасцю. Раней ніхто ніколі не бачыў, каб ён хоць раз падышоў да Курбана параіцца, а да майго стала, які цяпер стаяў у тым пакоі, дзе сядзелі Валя і Шолам, Мацвей Кірылавіч часцяком падыходзіў. Перадавыя артыкулы, якія пісаў ён сам, рэдактар прыносіў першаму мне, кажучы:

— На, Макар Васільевіч, пахадзі добра па ім, няхай цябе не бянтэжыць, што я рэдактар, і рэдактараў часам трэба правіць.

І я не саромеўся, правіў, як мне здавалася лепш. Не было такога выпадку, каб Давідзюк калі зазлаваў на мяне за праўку. Наадварот, часта дзякаваў, што я знайшоў яму добрае, трапнае слова. Мяне такія адносіны рэдактара радавалі, акрылялі. Затое з Барташэвічам было гора. Кож-

ны раз, як толькі я чытаў яго матэрыял, у нас адбываліся інцыдэнты. Пісаў ён непісьменна, нелагічна, і я не мог не правіць яго. У мяне не падымалася рука ставіць свой подпіс і благаслаўляць у друк такія гламаздаватыя матэрыялы. Аднойчы адбылося такое, што сам рэдактар павінен быў умяшацца. Вінцэнт Барташэвіч напісаў артыкул пра гарадскі клуб Асавіяхіма. На яго думку, артыкул быў напісан востра, дасціпна, але калі я ўзяўся чытаць, дык рука мая мімаволі скрэмзала кожны сказ. Вінцэнт не адыходзіў ад стала, ён гэтак рэагаваў на мае папраўкі, на маё выкрэсліванне, быццам я кроіў не тое, што ён напісаў, а рэзаў тупым нажом яго жывое цела.

— Ты на сябе замнога бярэш,— выхапіўшы ў мяне з-пад рук свой артыкул, закіпеў Барташэвіч.— Ты думаеш, што разумнейшы за ўсіх. Няхай рэдактар сам разбярэцца! — з гэтымі словамі Барташэвіч рынуўся ў кабінет да Давідзюка. Праз момант ён вылецеў адтуль чырвоны як рак. Следам за ім выбег і Давідзюк. Ён таксама быў расчырванелы і ўзлаваны.

— Газета ёсць газета,— ледзь не крычаў ён.— Мы выпускаем яе для чытача, а ён хоча бачыць яе пісьменнай і разумнай. Дык будзь ласкаў пісаць так, каб твой матэрыял можна было чытаць не спатыкаючыся на кожным сказе, як на тых купінах.

Але на мяне Мацвей Кірылавіч зірнуў не са злосцю, а з усмешкай, якой нібы хацеў сказаць: «Так і трэба, гэтак і надалей рабі, я цябе заўсёды падтрымаю».

Выпадак з Вінцэнтам Барташэвічам падбадзёрыў мяне. Я адчуў, як мне дораг гэты сціплы, на дзіва шчыры і адкрыты чалавек — Мацвей Кірылавіч. Я любіў гэтага чалавека нават тады, калі ў мяне закрадалася якое сумненне, я верыў да канца ў ягоную шчырасць, бо бачыў у ім узор бальшавіка, які ніколі не пойдзе на тое, каб крывіць душой.

У гэтай маёй думцы пра рэдактара яшчэ больш пераканаў мяне выпадак з Юркам Маргуном. Паводле рэдакцыйнага плана, Маргун павінен быў напісаць перадавы артыкул аб класавай барацьбе ў вёсцы, аб сабатажніках, якія шкодзілі калгаснаму будаўніцтву. Тэма была адказная і глыбокая. Артыкул планаваўся загадзя, і Маргун доўга збіраў па цытаце з газет і часопісаў, падшукваў факты і, нарэшце, паклаў мне на стол артыкул. Разы са два прачытаў я яго. Як ні правіў, усё роўна ён быў як тое неакоранае і неабчасанае бервяно. Калі што добра

і чыталася ў ім, дык хіба тыя мясціны, якіх аўтар не браў у двукоссе, але відно было, што яны спісаны, калі не даслоўна, дык трошкі перароблены. Я занёс артыкул Давідзюку. Перадавыя ён заўсёды сам чытаў перад здачай у набор.

— Не магу даць рады выправіць гэты артыкул,— прызнаўся я рэдактару.

Праз якое паўгадзіны Мацвей Кірылавіч выбег з кабінета, як і той раз, калі яго давёў амаль да шаленства Вінцэнт Барташэвіч.

— Таксама мне пісьменнік знайшоўся! — узлавана крычаў рэдактар.— Не ўмееш звязаць двух слоў, дык не бярыся. Знойдзецца той, хто напіша як мае быць. Макар Васільевіч, бяры факты з Маргуновага артыкула і садзіся пісаць перадавы,— прапанаваў мне рэдактар.

— Як гэта? — не зразумеў я.

— А вось так: факты тут добрыя, трэба толькі напісаць, каб чытаць можна было.

— Не разумею, Мацвей Кірылавіч: мне за Маргуна пісаць артыкул?

— Чаму за Маргуна? За сябе пішы.

Я ніяк не мог уцяміць, чаго хоча ад мяне рэдактар. Нарэшце ён амаль загадаў мне пісаць перадавы артыкул, скарыстоўваючы гэтыя самыя факты. Рэдактарава прапанова з гэтым перадавым артыкулам і радавала мяне і бянтэжыла. Я рады быў, што рэдактар у нейкай меры лічыць мяне сваім бліжэйшым памочнікам, як ён некалі сказаў, сваёй правай рукой; бянтэжыла ж тое, што калі я зраблю гэтак, дык наўрад ці абяруся бяды. Пэўне, што і Юрка Маргун і некаторыя іншыя работнікі будуць на мяне глядзець як на нейкага кар'ерыста, выскачку, рэдактаравага любімчыка. Але хоць вельмі не хацелася брацца за гэты артыкул, усё роўна я не мог адмовіцца ад Давідзюковай прапановы: па-першае, гэта прапанова была ў інтарэсах газеты, па-другое, мне аказвалі вялікі давер, бо перадавыя артыкулы даручалі пісаць толькі загадчыкам аддзелаў.

Гадзіны з тры я падганяў слова да слова, сказ да сказа, шукаў выразных фармулёвак, апісваў падзеі і факты так, што яны набывалі выразнае грамадска-палітычнае гучанне. Калі я прынёс і паклаў на стол рэдактару напісаны на падставе Маргуновых фактаў свой перадавы артыкул, Мацвей Кірылавіч прачытаў яго і, усміхнуўшыся, сказаў:

— Вось гэта іншы соус. Вось гэтак і трэба пісаць! — і адразу ж падпісаў яго ў друк.

Але мне ўсё-такі лепш не трэба было брацца за гэты артыкул. Я гэта адчуў на чарговай лятучцы. Праўда, Маргун першы не адважыўся пратэставаць. Затое Вінцэнт Барташэвіч узяў козыра ў свае рукі. З гневам, запалам гаварыў ён, што быццам я і раўні сабе не ведаю, што я нікога не паважаю, быццам я заўзяты кар'ерыст, які толькі і дбае, каб працерабіць сабе дарогу. Мне крыўдна было слухаць гэтае, бо ні пра якую кар'еру я не думаў, мне адно хацелася добра працаваць. Няўжо Вінцэнт Барташэвіч не разумее гэтага, няўжо ён такі абмежаваны?

Следам за Барташэвічам узяў слова і Юрка Маргун. Ён гаварыў не так ваяўніча, як Вінцэнт, але і ў яго, здавалася на першы погляд, спакойных словах адчувалася глыбокая скарга, нават крыўда на мяне. Мне хацелася крыкнуць: «Таварышы, ды я не вінаваты, не хацеў я гэтага рабіць. Рэдактар мне загадаў». Але я моўчкі, з прыхаванай узрушанасцю слухаў крыўдныя для мяне словы. Я думаў, што Мятлюг хоць на гэты раз змоўчыць. Аднак ён усё-такі высунуўся.

— Гэта не па-таварыску з боку Шыянка. Калі ты лепш умееш пісаць, дык памажы свайму таварышу, а не прысвойвай яго працы,— чуў я словы Метлюга, і мяне аж распірала злосць. Хацелася ўстаць і сказаць, як не па-таварыску ён абышоўся з Сяргеем Рослікам: напаіўшы таго, пакінуў на вуліцы. Але і на гэты раз я стрымаў сябе.

Давідзюк усё кідаў позіркі на мяне: ці то хацеў мяне падбадзёрыць, ці то спагадаў мне. Нарэшце ён неяк страпянуўся за сталом, як птушка перад палётам, акінуў яшчэ раз вачыма ўсіх і сказаў:

— Як вы, таварышы Барташэвіч і Маргун, ні злуйцеся, што вы тут ні кажыце, як вы ні нападайце на Шыянка, а я вам скажу адно: мы і надалей так будзем рабіць. Газета — гэта не падрыхтоўчы клас, дзе вучацца пісаць. Газета — гэта трыбуна, з якой трэба гаварыць палітычна выразна, класава накіравана, а не балбатаць тое, што трапляецца на язык. Не ён сам прасіўся пісаць перадавы артыкул, я яму загадаў, а пакуль я рэдактар, маю на гэта права.

Мусіць, ні Барташэвіч, ні Маргун не чакалі такога ад рэдактара. Яны, мабыць, думалі, нібы тое, што я надрукаваў свой артыкул у «Звяздзе», пасеяла ў душы Даві-

дзюка непрыязнасць да мяне, і таму хацелі яшчэ больш паглыбіць яе. А яно вунь як выйшла! Панурыўшыся, мае праціўнікі выходзілі з лятучкі. Барташэвіч злосна бліскаў на мяне вачыма, быццам я быў яго даўні і зацяты вораг. Але і я адчуваў сябе ніякавата: навошта мне было назаляцца з людзьмі? Адзін стары Шолам быў як бы задаволены і, як толькі ўсе выйшлі з нашага пакоя, сказаў мне:

— Малайчына, прынцыповы чалавек наш рэдактар. Ён нікому ў зубы не глядзіць, за праўду, за інтарэсы газеты стаіць.

— Але ж,— пацвердзіў я нехаця, бо ў мяне не было жадання ўвязвацца больш у такія спрэчкі, нажываць сабе нядобразычліўцаў.

З таго дня, як стаў за стыльрэдактара, я ніяк не мог вырвацца да Іры. Яна ўжо колькі разоў званіла мне, і нават па тэлефоне ў яе голасе адчувалася нявыказаная крыўда: маўляў, які ты ашуканец — гэтак кляўся ў каханні і гэтак хутка забыў. Каб жа яна ведала, што я кладуся спаць і ўстаю з думкай пра яе! Гэта толькі я адзін ведаю, а ў яе сапраўды ёсць падставы думаць інакш. Кожны вечар я крукам праседжваю над арыгіналамі, выграбаючы з іх, як той дворнік, розную пацяруху. Не пойдзеш жа а дванаццатай гадзіне на яе Спакойную вуліцу. Я гэта стараўся растлумачыць Іры, але закаханае сэрца, відаць, ніяк не хоча слухаць маіх апраўданняў.

— Каб хацеў, дык знайшоў бы час. Вы, мусіць, усе такія, хлопцы.

Каб на той час, як мне сказала гэта Іра, нікога не было ў пакоі, я, напэўна б, заскакаў ад радасці, напэўна б, сказаў Іры такое, чаго яна яшчэ ніколі не чула з маіх вуснаў. Яна, па сутнасці, упершыню прызналася мне ў каханні. Але як жа тут паскачаш, як тут выкажаш сваю радасць, калі ў пакоі сядзяць Шолам і Валя. Шолам, праўда, не вельмі прыслухоўваецца да таго, што я кажу па тэлефоне. Затое Валя навастрыла вушы, і каб яна не магла здагадацца, з кім я і пра што гавару, я надаю сваёй гаворцы як найбольш афіцыйнасці і стараюся не называць Ірына імя.

— Гэта няпраўда, што ты кажаш. Ты не думай так. Якраз усё наадварот. Я ў нядзелю прыйду да цябе. Абавязкова прыйду. У мяне ж цяпер такая работа, што я ўсе вечары вымушаны крукам сядзець у рэдакцыі.

— Ну дык і сядзі,— з нейкай злосцю сказала Іра,— а ў нядзелю не прыходзь, бо мяне дома не будзе.

Мяне радавала і непакоіла Ірына злосць: значыць, яна не проста жартуе са мной, значыць, я ёй не абыякавы. Непакоіла ж тое, што я сапраўды пінк не магу адарвацца ад работы, і Іра гэтак можа раз-другі пазлавацьна мяне, а потым і зусім пастараецца забыць. Хто іх ведае, гэтых дзяўчат, на што яны здатны. Ва ўсякім разе, я яшчэ вельмі мала ведаў дзяўчат, асабліва гарадскіх. Я нават трошкі пабойваўся іх. Пры сустрэчы з каторымі з іх у мяне адбірала мову, наплывала на твар гарачая чырвань, і я не ведаў, як стаць, куды падзець свае няўклюдныя рукі, што казаць. Адно з Ірай я гэтага не адчуваў. З ёй нават на першай сустрэчы я знайшоў акурат тыя словы, якія трэба было казаць. Бывае ж так: з адным чалавекам доўга можаш быць знаёмым, сустракацца, але кожны раз не ведаеш, што з ім гаварыць, а з другім упершыню сустрэнешся і адчуеш сябе так, быццам ты з ім увесь свой век знаёмы, нейкія патаемныя струны загучаць суладна, і тады да таго чалавека горнешся, як да самага блізкага. Гэтак мо здарылася і ў нас з Ірай. Дзяўчына не была пісаная красуня, але мне ўсё ў ёй падабалася. Мне заўсёды і ўсюды хацелася быць разам з Ірай, слухаць яе голас, бачыць яе вочы, гладзіць яе цемнаватыя, раскінутыя на прабор і трошачкі падвітыя на канцах валасы. Так, гэта было каханне, і чортведама навошта я згадзіўся на гэтае стыльрэдактарства, каб за ім свету белага не бачыць. А яна ж можа і каго-небудзь іншага сустрэць. Хіба ж мала ў горадзе хлопцаў? Ды і не такіх, як я, целяпнёў, а хлопцаў — адарві ды падай.

Валя ўвесь час услухоўвалася ў маю размову па тэлефоне, і як толькі я паклаў трубку, яна, як бы хочучы падкалупіць мяне, сказала:

— Усё ж такі знайшла яна цябе.

— Хто знайшоў?

— Ды тая ж.

— Гэта якраз і не тая званіла, а таварыш, з якім я разам на рабфаку вучыўся.

— Ведаю, ведаю, які гэта таварыш. Калі ты быў на лятучцы, яна аж два разы званіла, усё дапытвалася цябе. Што гэта за яна такая?

— Я ж не ведаю, хто тады званіў, а гэта мой таварыш.

— Не мані ты, Макар,— нібы з дакорам сказала Валя і трошачкі пачырванела.

«А што ёй абыходзіць, калі і дзяўчына званіла? Хіба ўжо мне не можа і дзяўчына пазваніць?» — падумаў я сабе. Але, пільней зірнуўшы на Валю, заўважыў яе ўзрушэнне. Няўжо яна раўнуе мяне? Увесь той час, як я перабраўся ў гэты пакой, Валя са мной падкрэслена ветлівая. Яна чамусьці вельмі пільна ўглядаецца ў мяне, але калі я заўважаю гэты яе позірк, яна бянтэжыцца і чырванее. Здавалася, яе кучаравыя, светлыя, як лён, валасы таксама чырванеюць, а сінія, нібы валошкі, вочы ўтаропліваюцца ў стол і як бы баяцца сустрэцца з маімі. Валя дзяўчына прыгожая, мо нават прыгажэйшая за Іру, і я ніяк не магу спадзявацца, што ў яе можа абудзіцца якое-небудзь пачуццё да мяне. Мятлюг расказваў, што ён спрабаваў заляцацца да Валі, але яна дала гэтакі адпор, што ў яго адпала ўсялякая ахвота. Калі быць шчырым перад самім сабой, дык і мне Валя падабалася, але ж гэтага мала. Трэба, каб і я ёй падабаўся. І вось — што я цяпер бачу. Мабыць, я ёй такі трошкі падабаюся, бо чаго ж яна чырванее, чаго бянтэжыцца пад маім позіркам? Але Валя не такая дзяўчына, каб хоць на трошкі папусціцца сваім дзявочым гонарам. Ну і няхай сабе, у мяне ж з галавы не выходзіць Іра. Яна завалодала ўсімі маімі думкамі, усімі юнацкімі парываннямі і ўяўляецца мне тым самым шчасцем, якога чалавек доўга шукае, а знайшоўшы — дзівіцца, як яно блізка ляжала, толькі ён хадзіў міма і не бачыў.

У нядзелю цэлы дзень я прамаркоціўся. Яшчэ завідна хацеў пайсці да Іры, але падумаў, як на гэта паглядзяць старыя, і наважыў дачакацца вечара. А вясной дзень падрос ужо, і мне здавалася, што яму не будзе ні канца, ні краю. Сонца, якое ўжо зрабіла сваю асноўную работу — растапіла снег, цяпер толькі падсушвала зямлю, было ласкавае. Яно, здавалася, не хацела сыходзіць з неба і на ноч. Але ўсё-такі, неяк квола затрымцеўшы, яно скацілася за небасхіл, а неўзабаве выйшаў і я з дому. На вуліцы, па якой я іду, нейкая незвычайная сцішанасць, і вечар не цёмны, як гэта бывае ўвосень ці нават улетку, а нейкі сіняваты, сцелецца мне пад ногі, як мяккі і прыгожы вэлюм. Нейкую нават песеньку сабе мармычу. Была тая пара, калі вось-вось з зямлі праклюнуцца зялёныя парасткі травы, калі на дрэвах пачала набракаць завязь квецені, калі і ў чалавека ў душы нараджаецца вясновы

матыў радасці. І я нясу гэту радасць да Іры, каб падзяліцца з ёю, бо нельга ж аднаму жыць сваёй радасцю.

Вось перайшоў і пераезд ужо і цалюю сабе тратуарам паўз нізенькія парканчыкі і платы Залінейнага раёна, у якім як бы пераплялося, змітавалася гарадское і вясковае. Аднапавярховыя дамкі, садкі, што папавешвалі голле на парканы — гэта ад вёскі. Але ўсё ж такі нельга забыць, што ты ў горадзе. Недзе блізка чахкаюць паравозы, па бруку вуліцы грукочуць колы ламавікоў. Я і не звярнуў увагі, што мне насустрач грукоча ламавая калымага, ды гэтак грукоча, што аж зямлю, здаецца, скаланае. На калымазе ўпокат ляжаць хлопцы і п'яна спяваюць. Няхай сабе спяваюць, мабыць, весела людзям. Калымага параўноўваецца са мной.

— Тпру, стой, каб цябе ваўкі дралі! — п'яна крычыць вазак.

Конь стаў як укопаны. Той, што кіраваў лейцамі, цяжка гупнуў нагамі ў зямлю і кінуўся напярэймы мне.

— Ты куды ідзеш? — пытае ў мяне.

— А вам што да таго? Куды іду, туды і прыйду.

— Куды ідзеш, пытаю я? — зароў ужо ў злосці ён.

— Я ж вам кажу — куды мне трэба, туды і іду.

У гэты самы момант я атрымаў такую аплявуху, што аж іскры красанулі з вачэй, нібы ўвесь свет загарэўся. Я размахнуўся і гэтак даў хулігану ў грудзі, што ён потырч паляцеў на брук, а сам кінуўся наўцёкі. Напярэймы мне беглі другія. Дагнаць мяне яны не дагналі, бо былі на п'яных нагах, а ў мяне былі і ногі трывалыя, і розум цвярозы. Я чуў ужо здалёк, як наўздагон мне хлопцы п'яна гарланілі:

— Мы табе пакажам, як хадзіць да нашых дзяўчат!..

Мне не раз даводзілася чуць, што ў Залінейным раёне горада шмат хуліганаў, якія вечарамі на вуліцах учыняюць бойкі, даюць добрага бубна тым гарадскім хлопцам, якія асмельваюцца гуляць з тутэйшымі дзяўчатамі, але я не верыў усяму гэтаму, бо не мог зразумець ні логікі, ні псіхалогіі гэтакіх паводзін. А цяпер вось зразумеў. Адбегшыся на другую вуліцу, я пачаў прыводзіць да ладу думкі, асэнсоўваць тое, што адбылося. Толькі тут, адышоўшы ад узрушэння, я адчуў, як гарыць у мяне шчака. Памацаў пальцам і адчуў, што пад правым вокам у мяне была, як жывая, рана. Відаць, добры гузак набіў гад. У такім выглядзе я, вядома, не мог і паказацца Іры. Зусім другімі вуліцамі я пацёгся дадому. Зірнуўшы ў лю-

стэрка, аж спалохаўся: уся правая шчака была сіняя-сіняя. Добра, што ён не ўцэліў трошачкі вышэй, гэтак бы і вока мог высадзіць, і, галоўнае, ні за што ні пра што. Я стаў узнаўляць у памяці, як гэта ўсё адбылося. І раптам мне здалося, што сярод тых п'яных галасоў выразна чуў трошачкі сіпаваты голас Аркадзя Сякерына. Я амаль упэўнены быў, што гэта крычаў не хто іншы, як ён:

— Дайце яму добра, каб другі раз і не ўздумаў хадзіць да нашых дзяўчат, каб і дарогу сюды забыў.

На другі дзень я з нецярплівасцю чакаў вечара. На маю гузяку ў рэдакцыі ўсе глядзелі па-рознаму: адны спачувалі, а другія пасміхаліся і не вельмі верылі таму, што я расказваў. Не верыла і Валя, і, што самае дзіўнае, дык яна, мусіць, трошкі нават радавалася гэтаму здарэнню, бо сказала з нейкай зласлівасцю:

— Так табе і трэба, не хадзі за лінію, ты ж ведаеш, што там дзеецца.

Ужо сем гадзін, і я званю ў бібліятэку. Іра павінна быць там. Але да тэлефона падыходзіць не Іра, а Аркадзь Сякерын.

— Вам каго?

— Таварыш Леванюк,— адказаў я так, каб Сякерын не пазнаў майго голасу.

— А хто яе просіць?

— А хіба вам не ўсё роўна — хто?

Я ведаю, што Аркадзю не ўсё роўна, хто пытае Іру, але ён мяне, мусіць, не пазнаў, і неўзабаве я чую Ірын голас.

— Чаму ты ўчора не прыйшоў? — пытала яна.

— Не мог, заняты вельмі быў.

— А я ведала, што ты не прыйдзеш.

— Адкуль?

Іра расказала мне па тэлефоне, што ўдзень да яе заходзіў Аркадзь Сякерын і запрашаў у тэатр, але яна сказала, што не можа, бо ўвечары павінен прыйсці я. На гэта Аркадзь адказаў, што я не прыйду, быццам ён ведае, што я заняты. Гэта яшчэ раз пацвердзіла маю здагадку, што не хто іншы, як Аркадзь Сякерын, арганізаваў мне сустрэчу на дарозе. Як я ненавідзеў гэтага старога чорта! Нават не ведаю, што зрабіў бы яму, ва ўсякім разе самае благое.

— Дык чаму ты ўсё-такі не прыйшоў? — настойліва дапытвалася Іра.

— Не мог. Сустрэнемся, дык я ўсё табе раскажу.

Аднак сустрэцца нам з Ірай у бліжэйшы час і не давялося. Выбраўшы момант, я забег на трэці ці чацвёрты дзень у чытальню. Іры там не было. Вінавата лыпаючы вачыма, стары чорт паведаміў, што таварыш Леванюк разам з агітбрыгадай работнікаў гарадскіх бібліятэк паехала ў калгас па правядзенню веснавой сяўбы і вернецца адтуль не раней як на Першае мая.

І ў нашай рэдакцыі была перадсвяточная гарачка. Мне даручылі напісаць у першамайскі нумар публіцыстычны артыкул. У вольныя ад чытання арыгіналаў часіны я хадзіў па ўстановах, збіраў лічбы і факты аб росце эканомікі і культуры вобласці. На фоне агульнага ўздыму нашай сацыялістычнай Радзімы мне трэба было паказаць, як сацыялізм узняў да жыцця, удыхнуў новыя сілы ў тую ўскраіну, якая калісь, пры царызме, гібела на галодным пайку, дзе гняздзіліся каўтун і ліхаманка, дзе адзіным чалавечым абуткам былі лапці, а содзеўкай сярмяжная світка. Я ўжо ў галаве насіў увесь свой артыкул, адно трэба было сесці і запісаць. Але гэта, відаць, часта бывае з усімі, хто бярэцца за пяро: у галаве носіш тое, што можа ўсхваляваць, запаліць чытача, а як сядзеш пісаць, дык з-пад пяра выходзяць нейкія вялыя, суконныя словы і думкі. Гэтак было і са мною: колькі разоў я пачынаў пісаць, і кожны раз напісанае шматаваў на кавалачкі і кідаў у кошык. Нарэшце я ўсё-такі натрапіў на торную сцежку, і артыкул паліўся, як добрая песня. Сама я сядзеў над артыкулам, як Валя пазвала мяне да тэлефона.

— Макарка, гэта ты? — пытаў у трубцы прыглушаны адлегласцю жаночы голас.

— Я! Я! А хто гэта?

— А ты хіба не пазнаў? Гэта я, Іра. Званю аж з Цярэшкаўца. Мы тут выступаем.

Цяжка было разабраць, што гаварыла Іра. Адно толькі ўшалопаў — трыццатага красавіка я павінен прыйсці сустракаць яе на вакзал. Не магу нават выказаць, як мне добра было. Да свята заставалася яшчэ чатыры дні, а ў мяне на душы было ўжо свята, і аж сэрца замірала ад радасці. Значыць, яна мяне кахае, значыць, яна і там думае пра мяне, а не пра тую няўклюду Аркадзя Сякерына.

Першага мая я не пайшоў на дэманстрацыю. З самае раніцы прычапурыўся, надзеў новы гарнітур і пайшоў той дарогай, на якой мяне запынілі тады хуліганы. На

вуліцы было многа сонца і людзей. Яны, як і само сонца, адзін аднаму ўсміхаліся, спявалі песні. А я іду да Іры, іду да тае, каго ўчора сустрэў на вакзале, каму гатовы аддаць назаўсёды сваё маладое, гарачае сэрца. Я нічога не думаю, нічога не маю на мэце, мне карціць адно: быць разам з ёю, сядзець поруч, мо нават моўчкі, абы толькі адчуваць яе, бачыць яе вочы, усмешку на іх, бачыць тое, як яна мяне кахае.

Пастукаўшы ў дзверы, я пачуў яе трошкі распеўны голас:

— Калі ласка, калі ласка, заходзьце.

— І ты на дэманстрацыю не пайшоў? І я не пайшла. Гэта ж сёння тата з мамай надумалі гасцей зваць, дык і ты пабудзеш у нас за госця.

— Ірачка, а можа, не трэба. Можа, я от пабуду зараз і пайду. Я ж нікога не ведаю з вашых сваякоў і знаёмых.

— Які ты дзівак. Не ведаеш, дык уведаеш. Трэба ж табе калі-небудзь з імі пазнаёміцца.

Круглы стол быў рассунуты на ўсю хату: на ім стаялі розныя прысмакі, а Іра, як гаспадыня, усё насіла і насіла. Я глядзеў на Іру, і мне яна здавалася самай прыгожай на свеце. Каб цяпер хто нават сілком захацеў прагнаць мяне адсюль, дык не даў бы рады. Іра заўважыла мой пільны позірк, якім я сачыў за кожным яе рухам, і сумелася.

— Макарка, не глядзі гэтак на мяне, талеркі з рук павыпускаю,— гарэзна сказала яна.

— Няхай падаюць, няхай б'юцца. Посуд заўсёды на шчасце б'ецца, а мне гэтак хочацца шчасця. Дзе гэта твае старыя? — папытаў я.

— Хутка прыйдуць. Яны пайшлі гасцей запрашаць. У нас тут нават сваякі ёсць — матчына сястра. Яна тут недалёка жыве. Мо скора і прыйдуць.

— А хто яшчэ будзе? — дапытваўся я. Мне карцела, ці не запрасіла Іра якога хлопца.

— Мая сяброўка Галя з мужам будуць, ды мы з табою, дык і хопіць.

За стол паселі а чацвёртай гадзіне. Дзень быў памайскаму цёплы, і вокны расчынены насцеж. З вуліцы далятала песні. Пад акном на галінцы бэзу, які вось-вось павінен быў пырснуць блакітнай квеценню, прымайстравалася нейкая птушачка і заціліўкала сваю вясновую песню. Але я ўсё-такі адчуваў сябе тут як на чужой бяседзе, хоць сёння і Аляўціна Пятроўна была са мной выключна

ветлівая. Не відаць было таго ніцага позірку, які я заўважыў тады, як піў чай.

Тосты падымалі за ўсё і за ўсіх: за вясну, за радасць, за старых і за маладых. Неўзабаве выпітае дало сябе знаць, і мой язык трошкі развязаўся. У тостах, якія я прамаўляў, хваліў старых, хваліў Іру, хваліў іх дом, іх сад і ўсё-ўсё. Дзіва што: мне падабалася Іра, значыць, падабалася ўсё, да чаго яна мела хоць якое дачыненне. Потым спявалі песні. Забыўшыся, што мой голас не для песень, я таксама драў казла на ўсё горла. Але, мусіць, ніхто, апроч Іры, гэтага не заўважаў, бо і ўсе астатнія таксама спявалі на гэтакі ж манер.

Перад самым змярканнем Іра мне шапнула на вуха:

— Макарка, хадзем прагуляемся трохі.

— Хадзем, хадзем, Ірачка,— зашаптаў я ў адказ, гатовы ісці за дзяўчынай хоць на край свету.

Майскія вуліцы былі поўныя радасці і весялосці. На плошчах і ў скверах — усюды грала музыка, хлопцы і дзяўчаты танцавалі і спявалі. Ад усяго гэтага ціхая радасць поўніла сэрца.

Моцна трымаючыся за маю руку, Іра ішла побач. Яна яшчэ ніколі не была такой гаваркой, вясёлай, такой узнёслай і натхнёнай.

— Хадзем у парк, Макарка,— прапанавала дзяўчына.

— Куды хочаш, любая, пайду з табой, хоць на край свету.

— Навошта на край, калі нам і пасярэдку добра,— жартам адказвае Іра.

На цэнтральнай алеі парку людзей — не прабіцца. Адзін перад адным спаборнічаюць два духавыя аркестры. А мне чамусьці захацелася цішыні, адзіноты, каб толькі адны вясновыя зоркі і маглі бачыць, як нам добра. І я вяду Іру на бакавую алею, на вузенькі масток, перакінуты цераз глыбозны роў. Я часцяком адзін прыходзіў на гэты масток, абапіраўся рукамі на жалезныя парэнчы і глядзеў у бездань. Яна была такая, што аж галава кружылася, і мне здавалася, што я не стаю, а лунаю ў вышыні.

— Макарка, куды мы? — спахапілася Іра.

— Хадзем на той бок рова, там людзей менш.

— А хіба ты баішся людзей?

— Не, але мне хочацца быць толькі з табой. Хачу бачыць цябе толькі адну.

— Які ты дзівак, любы,— смяецца Іра і хінецца бліжэй да мяне, як бы баіцца, што гэты хісткі масток з жа-

лезнымі парэнчамі вось зараз абломіцца і мы паляцім у бездань.

— Хадзем туды, там ёсць альтанка, дык мы пасядзім. У мяне ўжо ногі забалелі.

— Хутка нешта яны ў цябе забалелі,— мусіць, зразумеўшы мой намер, сказала Іра і яшчэ бліжэй прыхінулася, я аж адчуў яе парывістае дыханне.

— Пойдзем напрасткі да маёй альтанкі,— прапаную я і вяду дзяўчыну па маладой мураве, якая толькі-толькі пачала прабівацца.

Я тую альтанку добра ведаў. Яшчэ калі жыў у інтэрнаце і калі трэба было рыхтавацца да экзаменаў, а ў пакоі стаяў гармідар, я ціхенька знікаў і, пералезшы цераз паркан у парк, бег да альтанкі. Асабліва я любіў гэтае месца ўвосень, калі тут з клёнаў і ліп ападаў жаўталіст і, кружачыся ў паветры, мякка слаўся на дол.

Мне здавалася, што пра гэтую альтанку адзін я толькі і ведаў. Аднак жа цяпер пераканаўся, што яшчэ нейкія двое ведалі пра гэта зацішнае месца, дзе можна пасядзець як далей ад чужых цікаўных вачэй.

Мы ціхенька падышлі, і не падышлі, а як бы падкраліся да альтанкі. У засені дрэваў было цёмна. Я ступіў ужо на прыступку, ведучы за сабой Іру. У гэты самы момант над паркам усё неба занялося рознаколернымі агнямі святочнага феерверку. Стала такая відната, што хоць іголкі збірай. Мы пачулі спалоханы дзявочы голас:

— Віця... Бачыш жа — людзі.

А той Віця, мабыць, нічога не чуў і не бачыў.

Не хочучы палохаць чужое радасці, мы хуценька пайшлі ад альтанкі і, толькі адышоўшы воддаль, засмяяліся.

Колькі мы ні шукалі ў той вечар вольнага месца па лавачцы, не знайшлі. Спусціўшыся па кручы да Сожа, які яшчэ не зусім увайшоў у берагі, павольна, ледзь цягнучы крок, мы выйшлі на яшчэ людную Савецкую вуліцу. Не змаўляючыся, ішлі і ішлі, гаварылі пра ўсё, толькі, мусіць, не пра тое, што кожнаму карцела. За Піянерскім скверам збочылі на цямнейшую вуліцу, і я нават не заўважыў, як апынуліся на маёй Палескай.

— Ірачка, мы ж прыйшлі да мае хаты,— выгукнуў я, параўняўшыся з нізкім, атынкаваным знадворку старым дамком.

Іра сама спынілася ля старэнькай форткі, і я зразумеў, што яна займела намер паглядзець маё халасцяцкае жыт-

ло. Хуценька адчыніў фортку, прапусціў перад сабой дзяўчыну і загрукаў у сенечныя дзверы. Сонная гаспадыня адамкнула і, угледзеўшы, што я не адзін, хуценька знікла за дзвярыма свае спальні...

Усталі мы позна. Сонца пазалаціла ўжо не вельмі чыстае адно акно майго пакойчыка. На процілеглай ад ложка сцяне скакаў жвавы зайчык, як бы дражнячыся з намі.

— Што мы з п'янай галавы нарабілі, Макарка? — на Ірыных вачах я ўгледзеў слязінку.— Што мне рабіць, што сказаць сваім? — у нейкім ціхім адчаі пытала Іра.

— Удваіх пойдзем і скажам: блаславіце нас, мы муж і жонка. Папросім прабачэння, што ў іх загадзя дазволу не спыталі.

— Збірайся ды пойдзем. Я адна цяпер не пайду дадому. Як я пагляджу тату і маме ў вочы,— з ціхім дакорам казала Іра, быццам у тым, што яна заначавала ў мяне, вінаваты толькі я адзін.

Ірын бацька сапраўды быў угневаны. Як толькі мы пераступілі парог, стары скасавурана зірнуў на дачку і поўным злосці голасам сказаў:

— Што мне з табой рабіць?

— Татачка, даруй. Мы...

— Што вы?

— Мы пажэнімся.

Мне шкада стала Іру. Я не мог спакойна глядзець на яе разгубленасць, на яе бездапаможнасць апраўдацца перад старымі. Мяне як бы нехта штурхнуў, і я стаў перад бацькам.

— Андрэй Піліпавіч, гэта ўсё я.

Мне здалося, што гнеў старога трошачкі адпаў, хоць ён і скоса глянуў на мяне, як на якога злачынцу.

— Вы нас блаславіце... Мы з Ірай парашылі...— заікаўся я.

— Як гэта вы парашылі, не запытаўшыся ў бацькоў?

Але ўжо гэтыя словы сказаны былі неяк мякчэй. Старыя як бы чаго збянтэжыліся і ўжо глядзелі на нас не то са спагадай, не то з замілаваннем.

— Хіба ж так добрыя людзі жэняцца? — падала свой голас Аляўціна Пятроўна.

— Даруйце, мамачка і тата, але мы даўно кахаем адно аднаго.

— Давядзецца ўжо дараваць. Каб ты так з кім-небудзь другім вытварыла, не дараваў бы ніколі. А тым часам з Макарам, дык бласлаўляю вас, дзеткі мае. Жы-

віце сабе ў згодзе і радасці,— Андрэй Піліпавіч пацалаваў спачатку Іру, а потым і мяне. Следам за ім зрабіла тое ж самае Аляўціна Пятроўна.

— Ты ж у мяне адзіная. Як вока, цябе берагла і не ўберагла,— запрычытала, мусіць, для прыліку, старая.— Глядзела і недаглядзела, а ты нас і пакідаеш.

— Не пакінем мы вас, мама. Макар да нас перабярэцца. Мы ўдвaіх будзем вас глядзець.

— Аляўціна,— дружалюбна звярнуўся да жонкі Андрэй Піліпавіч,— варушыся, раскашэльвайся, гасцей зноў склікаць трэба.

Святочныя і вясельныя дні прайшлі, як у цудоўным сне. Я ніяк не мог нацешыцца сваім шчасцем, якое гэтак неспадзявана прыйшло да мяне, хоць яшчэ ніяк не ўкладвалася ў маёй галаве, што я ўжо жанаты чалавек.

Пра тое, што на свята ажаніўся, я паведаміў у рэдакцыі праз тыдзень. Усе мне паціскалі рукі, віншавалі, жадалі шчасця і долі. Адно Давідзюк сказаў як бы з нейкім дакорам:

— Ну, віншую, калі ты ажаніўся. Але ж хіба так людзі жэняцца, украдкі ад усіх? Жаніцца трэба на віду ва ўсіх людзей, каб музыка грала, каб песні луналі. А ты цішком.

Адна Валя чамусьці не павіншавала, не папытала ні слова пра жаніцьбу. Я заўважыў, што дзяўчына неяк пасуровела, як бы чаго зазлавала на мяне. Мо за тое, што вяселле маё было без музыкі?

## ЗНОЎ СЦЕЖКІ МАЛЕНСТВА

Неяк пад канец мая старшыня мясцкома рэдакцыі Іван Ломан, хударлявенькі, хваравіты, але добры па натуры чалавек, падышоў да мяне і спытаў:

— Макар Васільевіч, можа, ты збіраешся ў адпачынак?

— Думаю.

— Дык мо паедзеш у дом адпачынку, у нас цяпер ёсць пуцёўкі.

На час нашай размовы акурат падышоў рэдактар. Ён усміхнуўся і сказаў:

— Куды ты яго ад маладой жонкі хочаш адарваць?

— І праўду вы кажаце, Мацвей Кірылавіч.

Гэтая гаворка мо і падбіла мяне папрасіць на чэрвень адпачынак. Трэба ж было паказаць бацькам жонку. І хоць рэдакцыі і тугавата было без стыльрэдактара, Давідзюк не мог мне адмовіць.

І вось мы з Ірай едзем цягніком на Хвойнае. Вязём на падарункі дзецям цукеркі, паркаль на сукенкі мачысе і Насцечцы, колькі бутэлек каньяку і віна. Іра ўсю дарогу распытвае ў мяне пра Рагазін, пра маіх блізкіх і родных. Я яе разумею: яна гарадская дзяўчына, не ведае вясковых звычаяў, не ведае людзей, і ёй трошачкі страшнавата з'явіцца сярод іх. Суцяшаю, вучу, як сябе трымаць у вёсцы: не бянтэжыцца, не саромецца. Вясковыя людзі простыя, добрыя. Папярэдзіў Іру, каб яна не здзіўлялася і нічога благога не думала, калі ў хату няпрошана прыйдуць жанкі і дзяўчаты і будуць разглядаць яе. А я пэўна ведаў, што, як толькі мы прыедзем, абавязкова нойдзе поўная хата людзей.

За некалькі дзён да ад'езду я даў бацьку тэлеграму, каб ён на ўсякі выпадак пад'ехаў на станцыю Хвойнае, бо цяпер нельга было вельмі спадзявацца на балаголаў, якія пачалі выводзіцца ўжо — местачковыя яўрэі, што займаліся балагольствам, каторыя аселі на землі, а каторыя і зусім паз'язджалі.

А вунь і наша Хвойнае. Гэта маленькая, ціхая тупіковая станцыя. Абапал чыгуначнай каляі пракаветны бор, які, здаецца, гамоніць з самім небам. Гудкі паравозаў тут аддаюцца гэтакім гулкім рэхам, што яно, здаецца, купаецца, перакочваецца, доўга не змаўкаючы, у густой баравой зеляніне. Будынак самога вакзала маленькі, утульны і як бы не сапраўдны, а намаляваны, упісаны рукой мастака ў гэты чароўны краявід. Абапал чыгункі шуркі дроў, ярусы бярвення — ўсё гэта дабро адсюль грузяць на платформы і адпраўляюць немаведама куды. А вунь відзён і падмурак нейкай стадолы: значыць, і тут, у гэтай баравой глушэчы, распачалі нешта будаваць. Мне становіцца радасна і трошачкі сумна, што вось і мая ціхенькая станцыя, дзе я ўпершыню ўгледзеў паравоз і сумеўся яго велічыні і магутнасці, неўзабаве зыначыцца і мо сэрца тады не будзе поўніцца мляўкімі ўспамінамі дзяцінства.

Я гэтак захапіўся сузіраннем свайго роднага краю, што на момант забыўся на ўсё, нават на тое, што поруч са мною Іра. Яна ж тут ніколі не была і мо хацела, каб я ёй сёе-тое расказаў пра свае мясціны. Я нясу чамадан, а Іра, збянтэжаная, прыціхлая, ідзе побач са мной. Ідзём

паўз цуг вагонаў, туды, дзе звычайна стаялі балаголы. Я прыглядаюся да людзей, што стаяць пры фурманках. На каторых вазах ужо ўмошчваюцца пасажыры. А дзе ж гэта мой бацька, няўжо не прыехаў? Няўжо не атрымаў тэлеграмы? А мо старшыня калгаса коней не даў? Калісь я свайго каня за паўкіламетра пазнаў бы. А цяпер, калі бацька і пад'ехаў па нас, дык не на сваім жа кані, а на калгасным, і дзе ты яго пазнаеш. Каторыя фурманкі ўжо рушаць у дарогу, а мы стаім і не ведаем, што рабіць. У Ірыных вачах я чытаю маўклівы дакор: маўляў, вось як табе рады тут. Я кідаю вачыма, шукаю, каго наняць, каб падвёз да Рагазіна. Бачу — у самым кутку пляцоўкі стаіць парка добрых коней. Дуга аздоблена дзеразой і маёвым цветам, а воз намошчаны і засланы посцілкай, як бы хто па маладых прыехаў. Толькі я паставіў чамадан і хацеў кінуцца шукаць фурманку, як ззаду пачуў:

— Макарка, а я цябе шукаю, усе вагоны аббегаў.

— Тата! — радасна выгукваю я, і мы па-мужчынску абнімаемся і тройчы цалуемся.

Бацька сёння нейкі не такі, як звычайна: паголены, падстрыжаны, з нязвыклай сялянскай усмешкай на твары. Ён разгублена глядзіць на Іру, а я таксама як бы і забыў, што іх трэба пазнаёміць, хоць сказаць яму, што гэта не хто іншы, а мая жонка.

— Тата, гэта ж мая Іра.

Парывісты ўзмах дужых сялянскіх рук — і Іра ў бацькавых абдымках.

— Нявестачка, родненькая мая, як я рады, што дачдаў такога шчасця... Як я рады,— аж захліпаецца словамі бацька і цалуе маю любую Іру. Я гляджу на яе і шукаю на твары адбітку той радасці, якая павінна была расчуліць яе, усхваляваць, можа, нават да слёз, але бачу адно толькі ўзрушэнне і нейкае несамавітае здзіўленне. Няхай сабе: гэта ж для яе нязвыкла. Пабудзе ў Рагазіне і палюбіць маіх, можа, гэтак, як і мяне.

— Дык чаго ж мы стаім, дык хадзем жа на воз,— спахапіўся бацька. Ён вырывае з маіх рук чамадан, але я не даю яму, кажу, што і сам данясу. Тады ён амаль сілком вырывае з Ірыных рук клуначак, у якім былі ўвязаны гасцінцы дзецям, і вядзе нас да таго воза, што стаіць у кутку пляцоўкі.

— Тата, што гэта значыць? — пытаю я.

Бацька здзіўлена глядзіць на мяне, быццам не разумее, што я пытаю.

— Навошта вы прыбралі гэтую дугу, як на вяселле?

— Дык мы ж твайго вяселля не гулялі, то дома параіліся ды сёння і згуляем. Якраз і нядзелька божая. Я ўжо там і гасцям панаказваў. І дзядзьку Пракопу наказаў. Абяцаў прыехаць.

— Навошта гэта вы, тата?

— Як навошта? Сын ажаніўся, дый навошта. Дзе ж гэта чувана, дзе ж гэта відана, каб без вяселля. А чаму сваты не прыехалі? — пытае ў сваю чаргу бацька.

— Мы ж ні на якое вяселле не збіраліся.

Мы з Ірай умасціліся на сядзенні, бацька дастаў другую посцілку, і акрыў нашы спіны.

— Навошта гэта вы, тата?

— Пылюка ж гэтакая, дык каб не садзілася на вас.

Коні беглі спорна, і не так іх паганяла пуга, як авадні і сляпні. У сасновым бары, праз які мы ехалі, пахла жывіцаю. На поўныя грудзі я ўдыхаў, убіраў у сябе гаючы пах свайго дзяцінства. Сэрца аж калацілася, заходзілася ад радасці сустрэчы з роднымі, незабыўнымі на ўсё жыццё мясцінамі. Воз скакаў па карэнні, якім была знітавана ўся баравая дарога, колы аж сакаталі. Іра мо ўпершыню ехала па такой дарозе, яна хінулася да мяне, нібы баялася ўпасці з воза. А мне было добра ад усяго: і ад таго, што Іра гэтак тулілася, і ад таго, што сонца гэтак шчодра свяціла і грэла. Бацька раз-пораз пакручваў над галавой пугай, падвясельваў коней:

— Но, каб вы жывенькі былі, но! Не баўцеся, нас жа там чакаюць.

Коні як бы разумелі добразычлівую бацькаву гаворку і пераходзілі на яшчэ спарнейшую рысь.

Бацька часта паварочваўся да нас і сёе-тое пытаў то ў мяне, то ў Іры. Ён неяк адразу ж вельмі хутка пасвойтаўся з ёю, нават назваў яе дачушкай. Я ніяк не мог зразумець, ці падабаецца гэта Іры. Мне здавалася — яна да ўсяго была нейкая абыякавая. А мо яна была цалкам захоплена хараством краявідаў, мо яе думкі запаланіла нязвыкласць гэтага першага падарожжа, і я чакаў, што Іра вось-вось прыхінецца і горача зашэпча: «Макарка, як у вас тут хораша, як мне тут добра». Але Іра сядзела моўчкі і нічым не выказвала свайго захаплення.

— Но, но, каб вы жывенькія былі,— пакручваў пугай над галавой бацька. Ён зноў і зноў азіраўся, кідаў косым вокам на Іру. Яму таксама, мусіць, карцела, чаму яна маўчыць.

Нарэшце выехалі з лесу ў чыстае поле. Разлегласць яго расхінаалася зялёным дываном ярыны і азіміны. Жыта ўжо было якраз у той пары, калі пад лёгкімі павевамі ветрыку па ім, як па моры, каціліся адна адной наўздагон ціхія хвалі красавання. Здавалася, паветра было аж салодкае. Сіняватая смуга летняга дня трошачкі завалаквала далячынь, і ад гэтага яна рабілася асабліва прывабная. Я не ведаю, як Іры, а мне было гэтак хораша, што я не мог ні налюбавацца, ні нацешыцца роднымі краявідамі. Але ўжо на небе заснавалі сухмаркі, і чорныя цені, як страшыдлы, напаўзлі на зямлю. Нарываўся цёплы летні дождж. Колькі хвілін убіваў цвікі ў перамолаты калясьмі дарожны пыл і адыходзіў далей. Іра адразу ж дастала парасон і распусціла яго, як грыб, над галавой. Я аж засмяяўся з яе:

— Дзівачка, баішся. Дык гэта ж летні дожджык, пад ім не толькі грыбы растуць, пад ім нават людзі падрастаюць. А вунь,Ірачка, зірні, зірні: вунь і наш Рагазін. Вунь вятрак лена махае крыламі.

Іра зашморгвае парасончык і ўзіраецца. Перад яе вачыма столькі вёсак, гаёў і пералескаў, што вочы разбягаюцца і не бачаць таго ветрака. Я наводжу яе позірк на рагазінскі вятрак, і яна кажа:

— Бачу, бачу, Макарка. Вунь то, вунь то! — паказвае яна пальцам.

Бацька чамусьці аціх, ён нават пугай не пакручвае ўжо на коней, і яны ідуць павольнай ляной ступою.

— Тата, ці вы задрамалі, ці што? — пытаю.

— Ат, ліха на яго, гэты сон лезе.

— Мо паедзем сценкаю наўпрасткі да хаты?

— Не, не, паедзем шляхам і вуліцаю. Сценка перакопана.

Мне было ўсё роўна, кудою ехаць. Не хацелася адно, каб рагазінцы, якіх сёння будзе поўная вуліца, вельмі глядзелі на нас. Мне то нічога, няхай глядзяць, а от Іры гэта можа здацца нейкім дзікунствам, і я не хацеў, каб у яе засталося благое ўражанне пра маіх землякоў. Я хацеў, каб яна не толькі мяне, дык нават і вёску маю палюбіла.

Ля ветрака бацька суняў коней, неяк вельмі молада саскочыў з воза і нечага пакапаўся пад дугою, зняў з нашых плеч посцілку і сеў на воз. Стары раз-другі свіснуў пугай, і коні як бы адчулі, чаго ад іх хоча фурман.

Яны адразу з месца рванулі наўскач, і пад аздобленай зелянінай дугой ценька зазваніў званочак.

— Тата, што гэта такое? — сумеўся я.

— А як жа вяселле будзе ехаць без званка? — усміхнуўся нам бацька і зноў засвістаў пугай.

А коні ўжо як бы пашалелі, яны не беглі, а ляцелі, і здавалася, што ўжо ніякая сіла не спыніць іх, не затрымае. Іра не на жарт спалохалася. Абедзвюма рукамі яна схапілася за мяне і шаптала:

— Скажы тату, няхай цішэй. Яны ж нас разнясуць.

— Не бойся, любая, не бойся,— супакойваю я жонку.

З усяго маху бацька асадзіў коней перад самымі варотамі ў двор. Ды і не бацька асадзіў — мужчыны схапілі іх за аброці і аж павіслі. Коні ашалела храплі і кідаліся на вароты.

— Без выкупу і блізка не пусцім у двор,— крычаў Усцім Пачосак.

— Не пусцім, і не думайце,— памагаў яму Андрэй, той самы хлопец, што заляцаўся да Насцечкі,— не пусцім, едзьце назад.

Іра не магла даўмецца, чаго хочуць гэтыя людзі. Затое я ведаў: хуценька палез у клунак і дастаў каньяк. Усцім узяў у мяне з рук пляшку, паглядзеў яе на сонца і сказаў:

— Дык што ты, гэтым квасам адкупіцца хочаш?

— У нас нічога іншага няма. Паспытайце кваску гэтага, можа, і згодзіцеся,— адказаў я.

Аднекуль паявілася шклянка. Пачосак адкаркаваў пляшку і наліў поўную Андрэю.

— На, пакаштуй, Андрэй, паглядзі, ці варта і ў двор іх пускаць за такі выкуп.

Андрэй таксама паглядзеў шклянку на сонца, падняў над галавой і сказаў:

— За ваш прыезд, за ваша здароўечка, маладыя!

— На здароўечка,— адказаў я.

Андрэй, мусіць, і не здагадваўся, што ў гэтым кваску такая моц, і намерыўся выпіць усю шклянку пагбом, адным дыхам, але заняло дух, і ён доўга не мог вымавіць слова. Усцім ласа глядзеў на Андрэя, які ўзяў з Усцімавых рук пляшку і ўголас прачытаў на этыкетцы: «Каньяк».

— Гэтым, брат, квасам толькі коней паіць, дык і тыя з ног падаюць.

Усцім жвава наліў сабе таксама поўную шклянку і, мусіць, не верачы таму, што казаў Андрэй, кульнуў яе нагбом і аж закашляўся:

— Не кажы ты, які мацунак. За такое пітво можна пусціць не толькі на панадворак, але і ў хату.

Вароты расчыніліся, і мы ўз'ехалі на двор, дзе было паўнютка старых і малых, дзяўчат і хлопцаў, як на сапраўдным вяселлі. Рыпаў і гармонік. Бацька асадзіў коней ля самага ганка, і мы з Ірай пачалі злазіць з воза. Мачыха кінулася памагчы Іры злезці. Людзі расступіліся, каб даць нам, маладым, дарогу, і я ўгледзеў ля ганка дзяжу, абсыпаную дарожкай жыта. За дзяжой ля самых прыступак ганка стаялі дзядзька Пракоп і Анастасся Паўлаўна. Дзядзька Пракоп лагодна ўсміхаўся мне і, каб мо не гэты натоўп людзей, кінуўся б да мяне віншаваць, але ён пакуль стаяў і чакаў свае чаргі. Зараз была чарга мачыхі, Насцечкі і ўсяе нашае сям'і. Мачыха, памагаючы Іры злезці з воза, прыказвала:

— Як жа я раданька, што нявестачкі дачакалася! — павяла Іру да дзяжы і сказала: — Сядай, мая дзетачка, сядай, мая вішанька.

А Іра зусім не разумела, чаго і на што сядаць. Я шапнуў ёй, што трэба сесці на дзяжу. Як толькі Іра села, Насцечка аднекуль прынесла вэлюм, і дзяўчаты надзелі яго Іры на галаву. Якая мая Ірачка прыгожая ў гэтым шлюбным уборы! А тым часам жанкі і дзяўчаты заспявалі:

Каб жа ваша жыццейка,
Як гэта жыцейка,
Росна красавалася,
Поўна налівалася;
Каб нядоля горкая
З вамі век не зналася,
Каб штогод дзіцятачка
У вас нараджалася.

Пакуль Іра сядзела на дзяжы, я распакаваў чамадан і пачаў раздаваць падарункі: Насці і мачысе даў па добрым кавалку паркалю, хлопцам — каму сарочку, каму штонікі, і ўсім дзецям цукеркі. Падарункі пайшлі па руках жанчын і дзяўчат, яны мацалі, разглядалі, прыцэньваліся да іх.

Як толькі скончылася гэтая старадаўняя цырымонія з дзяжой, я пайшоў вітацца з усімі старымі і маладымі. З дзядзькам Пракопам, як з родным бацькам, мы аж тройчы пацалаваліся. Анастассю Паўлаўну я пацалаваў у ру-

ку. За натоўпам я ўгледзеў Марыльку. Яна была як бы чым напалохана і ніяк не магла адысці ад перапуду. Я намерыўся падысці да яе і хоць бы перакінуцца двума словамі, але яна, як толькі ўгледзела, што я набліжаюся, адразу ж пабегла з двара. Разгубленая і ўзрушаная такім нечаканым прыёмам нас, Іра сачыла за кожным маім рухам, каб браць, мусіць, з мяне прыклад, што ёй рабіць у кожным такім выпадку.

Бацька запрашаў гасцей у хату. Мы з Ірай пайшлі за сенцы змываць дарожны пыл. Дзеці нам шчодра палівалі з меднага карца, зробленага з гільзы. Пасвяжэлыя, мы ўвайшлі ў хату. Госці не садзіліся за сталы, чакалі нас. На сталах у гліняных паліваных місках стаяў халадзец, у талерках мяса, на ўсіх сталах раскладзены булкі. На покуці стаялі чатыры парожнія талеркі і пры іх ляжалі відэльцы. Там і халадзец быў у парцалянавым, знаёмым мне з дзяцінства палумiску. Між усяго гэтага наедку стаялі бутэлькі.

Нас пасадзілі на покуць. Поруч з намі селі на адзін бок дзядзька Пракоп з Анастассяй Паўлаўнай, па другі — бацька і Усцім Пачосак, ужо трошкі п'янаваты.

Пачалася бяседа. Я сказаў бацьку, каб усім жанчынам налілі віна, мужчынам — гарэлкі і каньяку. Спачатку частаваліся ціха, елі, нібы ўсе былі вельмі галодныя. Іра не дакраналася ні да чаго, быццам не ведала, што тут можна браць. Я паклаў ёй у талерку халадцу. Гэта была смачная страва, я любіў яе яшчэ з дзяцінства, хоць тады яе не так часта гатавалі, хіба толькі на вялікдзень. А мо і любіў я гэтую страву не так за смак, як за тое, што ў свінячых ножках, з якіх гатаваўся халадзец, былі костачкі, якія мы звалі казанцамі і якімі гулялі ў адмысловую гульню.

Дзядзька Пракоп, выпіўшы добрую чарку каньяку, стаў гаваркі. Ён раз-пораз звяртаўся да Іры, пытаў у яе занечага. Яна не магла адказаць на ўсе яго запытанні і залівалася чырванню. На выручку прыходзіў я, і Іра была ўдзячна мне. Пакрысе бяседа ўвайшла ў тое рэчышча, калі пачынаецца бязладная гамана, калі п'яныя мужчыны пачынаюць адзін перад адным выхваляцца. Мо хочучы спыніць бязладную гаману, падаў свой голас дзядзька Пракоп:

— А цяпер, таварышы, вып'ем за нашу Савецкую ўладу, якая дала дарогу ў жыццё такім людзям, як наш малады. Дзе гэта калісь было чувана, дзе гэта было відана, каб бядняцкі сын стаў гэтакім відным чалавекам. Дык

вып'ем жа за Савецкую ўладу, за бальшавіцкую партыю.

Вяселле было як вяселле. Адно хіба не хапала таго, каб мы з Ірай сталі пад вянец, а астатняе ўсё было: нават дзялілі каравай. Мачыха павязала ручнікамі дзядзьку Пракопа і Усціма Пачоска, і яны, як сапраўдныя сваты, адчувалі сябе гаспадарамі становішча, асабліва Усцім. Дзядзька Пракоп трымаў сябе так, каб не асабліва паказвацца. Мы з ім гаварылі і гаварылі і ніяк не маглі нагаварыцца. Даўно ж не бачыліся. Мы нават пераселі поплеч адзін да аднаго.

— Братка, разумееш, цяжка мне,— скардзіўся дзядзька Пракоп,— не па каню воз. Пнуся, пнуся — і ніяк з месца не зрушу свайго воза. У адным калгасе старшыня п'яніца, у другім старшыня добры, дык што-небудзь іншае не ладзіцца. Адным словам, воз задужа цяжкі для мяне. Я прасіўся ўжо ў райкоме, каб мяне назад у Рагазін вярнулі, дык ні блізка: маўляў, ты камуніст, а камуніст ні пад якім цяжарам не павінен гнуцца.

Я паспачуваў дзядзьку Пракопу ў яго сапраўды нялёгкай долі. Парадкі ў нашым калгасе былі такія, што, як той казаў, дзе коратка, там і рвецца. Рагазінскі калгас, здавалася б, павінен быць добрым: зямля тут неблагая, людзі працавітыя, адно распараджайся па-гаспадарску, дык яны гару могуць зрушыць.

А за вокнамі спявалі хлопцы і дзяўчаты. Усцім Пачосак куляў чарку за чаркай. Хмель яго, відаць, ужо добра выцяў па галаве, і ён крычаў:

— Горка нам! Горка нам! Нельга піць!

Мы з Ірай мусілі цалавацца на віду ва ўсіх людзей.

— Ты там, начальнічак, не замінай маладым цалавацца, — п'яна гугнявіў Пачосак на дзядзьку Пракопа.

— Яшчэ за свой век нацалуюцца і намілуюцца,— адказваў той.

Раптам мне ў вочы кінулася Марылька. Яна, прыхінуўшыся да вушака, стаяла ў дзвярах і пільна-пільна глядзела на нас з Ірай. На вачах у яе блішчалі каралінкі слёз. Іра таксама звярнула ўвагу на Марыльку.

— Што то за дзяўчына, і чаго яна плача? — спытала Іра.

— Наша, рагазінская... Марыля,— стараўся я як спакайней адказаць Іры, але нічога не выйшла, бо я сам па тым, як нейкая цеплыня ахінула мой твар, адчуў, што пачырванеў.

— Дык чаго яна плача?

— А хто яе ведае, мо якое няшчасце ў яе. Не ва ўсіх жа такая радасць, як у нас з табой.

Мачыха таксама заўважыла Марыльку і запрасіла:

— Марылька, хадзі за стол, чаго бо ты там стаіш?

— Дзякую, дзякую, цётачка,— сказала яна і кінулася паўцёкі з хаты.

— Сэрца, мабыць, баліць у маладзіцы, што не яна на пасадзе сядзіць,— выдавала сакрэты мачыха,— яны ж з Макарам з самага дзяцінства дружылі.

Іра неяк адразу спахмурнела, нібы я і сапраўды чым-небудзь правінаваціўся перад ёй.

— Чаму ж ты мне не сказаў пра гэта? — раўніва дапытвалася Іра.

— Дык хіба табе ўсё трэба казаць? Паміж намі нічога не было. Яшчэ як малыя былі, дык сябравалі трохі.

Хто яго ведае, тое жаночае сэрца, чым яно поўніцца: замілаваннем і ласкай ці, можа, у ім тоіцца і гнеў? Нема-ведама чаго б яшчэ дапытвалася ў мяне жонка, калі б не адна нечаканая праява. Пад сталом нешта завурчала, і Іра, як уджаленая, спалохана крыкнула:

— Вой, што гэта?

— Дзе?

— Пад сталом вунь,— ледзь не лезла яна на лаву.

Я нагнуўся пад стол зірнуць, што там такое. Нагнуўся і Усцім Пачосак. Ён, мусіць, адразу здагадаўся, што пад сталом гаспадарыў яго верны сябра — сабака. Жулік там грыз косць, якая, відаць, упала са стала. На гэты момант пад стол трапіў і наш прыслепаваты стары кот. Яны, мабыць, там не падзялілі ласунку, і сабака гэтакашчэрыўся на ката, што перапалохаў Іру да смерці.

— Жулік, пайшоў прэч адсюль,— закрычаў на сабаку гаспадар.— Каб ты, даў бог, выдах.

Але Жулік не слухаў свайго п'янага гаспадара, вэрхал пад сталом не спыняўся.

— Не толькі сам прыйшоў на вяселле, дык яшчэ і сабаку прывалок,— перашэптваліся госці.— Панадзіўся на кожную бяседу цягацца.

Ці то Пачосак пачуў гэты з'едлівы шэпт, ці наогул ён дапіўся ўжо да той меры, калі чалавек траціць не толькі раўнавагу, але і здольнасць кантраляваць свае ўчынкі і словы,— ён зароў, як той паранены вяпрук, і кінуўся на дзядзьку Пракопа.

— Чаго ты, начальнічак, сюды прывалокся? Ты пад мяне падкопваешся, дык я вось табе пакажу! — замахнуў-

ся Усцім, каб выцяць Касянка, але я схапіў яго за руку і гэтак ламануў, што ён сеў, як абязвечаны.

— Марш адсюль, каб твае і нагі тут не было! — крыкнуў я ў гневе.

За сталом узняўся гармідар. Мужчыны хуценька падхапілі Пачоска пад рукі і вывелі з хаты. Але вяселле ўжо разладзілася, госці папаўставалі з-за сталоў і пачалі разыходзіцца.

— От трасца яго матары, дурны Пачосак,— сварыўся бацька.— Ці яго сюды хто прасіў, ці яго маліў — сам прывалокся ды, бач, чаго нарабіў...

— Не разыходзьцеся, госцейкі, не разыходзьцеся,— упрошвала мачыха.— Вы ж усе ведаеце, які ён. Яму дадуць рады.

— Яшчэ ж і віна не папілі, пакаштуйце хоць,— унімаў і я гасцей.

За сталом засталіся толькі мы з дзядзькам Пракопам, Андрэй, Яўхімка, хросная матка і нашы. Я адкаркаваў бутэльку віна.

— Бач бо ты якое, аж свеціцца,— здзіўляліся госці, кожны падстаўляючы свой кубак, каб хоць трошкі і яму перапала гэтага іскрыстага пітва. Андрэй таксама падставіў сваю гранёную шклянку, і я наліў яму амаль поўную. Спачатку ён узяў маленькі глыток, пасмакаваў і аж губы аблізаў.

— Смачнае-то яно, канечне, але мацунку ў ім бракуе, не тое што ў тым каньяку. Гэта адно жанчынам і піць,— зрабіў сваё заключэнне Андрэй, як той спрактыкаваны дэгустатар, які за свой век немаведама колькі перасмакаваў гэтых він.

Аднак жа ён выпіў да дна і глядзеў, каб я падліў каньяку, і я наліў.

— От гэта пітво дык пітво, нічога благога не скажаш,— хваліў Андрэй,— мацней за нашага найлепшага першачку. З чаго б яго гоняць? — зацікавіўся Андрэй.

На гэтае Андрэева запытанне я нічога не адказаў, бо ў хату ўваліўся, прыпадаючы на левую нагу, Леўка Здрок. Іра як угледзела яго, дык аж спалохалася. А ён, быццам той заіка, які стараецца не заікацца, казаў нараспеў:

— Хлеб ды соль вам, госцейкі.

— Просім за стол,— запрашаў бацька.

— От жа запазніўся трохі, не зналася і не ведалася, што ты, Макар Васільевіч, прыбыў у наш Рагазін, ды і не

адзін, а з маладзіцай. А як дачуўся, дык кінуў-рынуў усё і пабег сюды.

Я Леўку наліў поўную шклянку каньяку. Пачокаліся, паздароўкаліся, і ён каўтануў глыточак.

— Ай, не кажы ты, каб табе бог здароўечка не пашкадаваў. Дабрэннае, дабрэннае,— і аж галавой пакруціў ад асалоды.— Я такога і ў рот не браў. Ды дзе ты яго возьмеш у нашай мужычай жытцы.

Праз колькі часу, пакаштаваўшы яшчэ гарэлкі, віна, Леўка заспяваў сваю шахцёрскую, як ён казаў, песню, аж хата разлягалася. Голас у яго быў звонкі, прарэзлівы, і ён браў яго на ўсю сілу, аж глушыў. Нарэшце ён ачомаўся і запытаў пра Усціма Пачоска.

— Ён у адрыне прачухваецца,— адказаў бацька.

Леўка рвануўся з-за стала ў адрыну. Доўга раскатурхваў свайго сябрука, а Жулік добразычліва брахаў, як бы памагаючы абудзіць гаспадара. З адрыны Леўка з Усцімам выйшлі ўлукаткі. Сабака то бегаў вакол іх, то вомегам кідаўся пад ногі. Людзі расступіліся, даючы дарогу п'яным. Усцім з п'янага глузду крычаў:

— Я пакажу таму кульгаваму чорту, ён мяне папомніць яшчэ.

Бяседная весялосць разладзілася. Адно моладзь не зважала ні на што: хлопцы і дзяўчаты танцавалі, Іра таксама станцавала некалькі танцаў.

Спаць нас паклалі таксама па вясковай завядзёнцы — у клеці. Гэтакі звычай ужо быў у Рагазіне: нават калі жаніліся зімою, у люты мароз, і то маладых клалі спаць у клеці — не змерзнуць. Іра баялася, палохалася і тулілася да мяне, як да ратунку. Толькі гэта мы задрамалі, як у сцяну нешта загрукала. Іра прахапілася і ледзь не закрычала. Я здагадаўся, што гэта: нас палохалі, будзілі рагазінскія хлопцы. Гэта таксама завядзёнка — не даваць спаць маладым.

Тыдзень праляцеў у вёсцы неяк неўзаметку, асабліва для мяне. Мы хадзілі па палетках, у Бярэзавік, ірвалі паплаўныя кветкі, купаліся ў Рагазінцы. Дні надзіва былі цёплыя, лагодныя, і мне здавалася, што на свеце няма шчаслівейшых за нас з Іраї людзей. Я думаў, што гэтак жа адчувае сябе і Іра, але яна занудзілася, замаркоцілася. Ёй нязвыкла было ўсё гэта вясковае, яна сумавала па гарадскім.

Мілае, непаўторнае дзяцінства! Якое ты было няўрымслівае, якое ты непаўторнае, паўтарыся хоць на мо-

мант! Я от хаджу па сцежках свайго маленства і як бы нанава перажываю тое, што даўно ўжо адышло ў нябыт. І здаецца, што за плячыма ў мяне цяжар гадоў, які не дае прыпусціцца па полі, як у тыя далёкія часы. Дый Іра. Не, яна не цяжар, яна мая маладая радасць. Але чаго яна насупленая, быццам нечым нездаволена? Кожны дзень, асабліва тут, на вёсцы, я адкрываю ў ёй усё новыя і новыя, нязнаныя дагэтуль рысы. Мне нават прыходзіць у галаву, быццам яна не рада, што стала маёй жонкаю. Я пытаю ў яе пра гэта, і яна з узрушэннем адказвае:

— Ды не, што ты. Выкінь ты з галавы гэтыя думкі.

Але як ты іх выкінеш, калі яны сляпіцаю лезуць. Хоць бы аднаму мне прыходзілі такія думкі, а то і мачысе, бацьку і нават Насцечцы. Аднаго разу Іра з Насцечкай пайшлі гуляць на вуліцу. А мачысе, бачу, нешта руліць, яна хоча сказаць мне, але не адважваецца. Нарэшце, перасіліўшы ніякаватасць, яна сказала:

— Я табе, Макарка, як роднаму свайму дзіцяці, нічога благога не жадаю.

— А што, мама, хіба я што дрэннае зрабіў? — спалохаўся я.

— Ды не, бронь божа, што ты нам дрэннае можаш зрабіць. Я от усе гэтыя дні прыглядаюся да твае жонкі. Мне здаецца, што вы сабраліся ў пару, як той лапаць з ботам. Хіба ж лапаць боту раўня?

— Дык хто ж з нас лапаць, а хто бот? — зарагатаў я.

— Хто вас ведае, каторае з вас лапаць, а каторае бот, мо ты, а мо і твая жонка, бо яна строіць з сябе пані нейкую, дык пэўне, што яна бот, а ты лапаць.

— Які ж яна бот, мама,— яшчэ мацней зарагатаў я.— Яе ж бацька просты рабочы.

— Дармо, што яе бацька просты, затое яна крывая. Бач жа, хоць бы яна адзін раз кінулася памагчы мне штокольвек. Дык ні блізка.

— Што ж яна вам паможа, калі яна нашай работы не ўмее рабіць?

— Я ж кажу — не пару ты сабе ўзяў. Зноў жа, як бачыць маё вока, дык ні мы, ні ты ёй не любы.

— Не, мама, гэта ў яе такая натура, яна і дома маўклівая,— стараўся я як мага абараніць сваю Іру. Але ў той жа час і ў мяне закралася думка: можа, і праўду кажа мачыха. Сапраўды, Іра стала нейкая не такая. Няма той весялосці, няма той замілаванай радасці, якія б павінны быць на пачатку нашага сумеснага жыцця. Яна ўсё

неяк задумваецца і як бы раскайваецца, што прыехала са мной у Рагазін, а мо і наогул, што сышлася са мной. Але я гэтую думку адганяю прэч. Мне ж, як, відаць, і кожнаму чалавеку, хацелася, каб мая жонка была самая найлепшая на свеце. Я папытаў у бацькі:

— Тата, а як вам мая Іра?

— А што я табе скажу, сынку,— не пам з ёю жыць, не пам і бедаваць.

— Чаму бедаваць, а не радавацца?

— Гэта так, да слова казана. Я, вядома, хацеў бы, каб ты жыў і, жывучы, радаваўся. Але ж, калі праўду табе сказаць, сынку, дык ты з ёй не нарадуешся, а можа, і наплачашся. Бацькавы вочы далей бачаць, бо твае цяпер як бяльмом зацягнуты. Ды яны яшчэ і маладыя, не вельмі і ўглядацца ўмеюць. А мае бачаць, што ў дабры і яна будзе добрая, а калі якое гора дарогу табе пераступіць, дык толькі ты яе і бачыў.

— Што вы, тата?

— Я, сынку, нічога табе благога не жадаю. Ты ў нас не пытаў, як жаніўся, дык мо не варта пытаць, як і жыць трэба. Але ж ты, тым часам, пытаеш, дык я табе і кажу.

— Вы, тата, яшчэ не ведаеце Іры. Яна добрая, харошая.

— Можа, тым часам, добрая і харошая, хто яе ведае, але мне здаецца, што ты з ёй не нажывешся і не накрасуешся.

Я аж зазлаваў на бацьку, на яго такі катэгарычны вывад. Мне хацелася, каб ён гаварыў пра Іру адно добрае, а ён па сваёй сялянскай прастаце вунь што кажа. Як мне непрыемна гэта слухаць, тым больш ад роднага бацькі.

— Я памоўчваў бы сабе, каб ты не пытаў. Але ж ты пытаеш, дык не магу ж я табе няпраўду казаць. Дай бог, каб я памыліўся.

— Праўда, тата, вы памыляецеся,— ухапіўся я за гэтую думку, як за нейкі ратунак.

— Маўчыце вы, вунь ужо ідуць,— папярэдзіла мачыха, угледзеўшыся ў акно, што з вуліцы ідуць у хату Іра з Насцечкай.

— Гэта ж во і да Насці гэты Срэбны Андрэй чэпіцца. А душа мая да яго не ляжыць,— сказаў бацька.— Мо яны і любяцца, кадук іх там ведае, але ж ён, як тая брытва, гостры — ледзь дакранешся, дык і абрэжашся. Зноў жа такі гарэлку жлукціць, як не ў сябе. Сватоў прысы-

лаў ужо, ды мы адмовілі. А яна рвецца за яго, быццам і хлопцаў на свеце лепшых няма.

Можа б, бацька і яшчэ што казаў пра Андрэя, калі б у хату не ўвайшлі Іра з Насцечкай. Я паглядзеў на сястру, і мне радасна стала за яе. Вунь як яна вырасла, нават трошачкі вышэйшая за маю Іру. Насцечка была вясёлая.

— Чаму ты не пайшоў з намі? Як той стары ўжо стаў. А мы з Ірай на музыкі схадзілі. Пад Ахрэмавай ліпай там такія танцы, дык і мы адзін кракавячок адгупалі.

— Праўда, Іра, ты танцавала? — пацікавіўся я.

— А чаму б і не танцаваць. Ты думаеш, што без цябе дык я сабе і кавалера не знайду. Там столькі кавалераў — і ўсе запрашалі мяне.

— То чаго ж вы так рана прыйшлі, танцавалі б сабе,— сказаў бацька, як бы пакрыўдзіўшыся на Насцечку з Ірай, што яны перашкодзілі нашай гаворцы.

— Пылу там на тых танцах адно толькі і можна наглытацца,— сказала Іра.

— Нашы людзі пылу не баяцца,— уставіла сваё мачыха.— Гэта вы, гарадскія, папрывыкалі па ценьках туляцца, а нашы людзі на сонцы смажацца, на дажджы купаюцца і пылам прычашчаюцца, дык ім нічога і не абыходзіць.

Пасля гаворкі з бацькам і мачыхай я пачаў больш прыглядацца да Іры, да кожнага яе слова прыслухоўвацца, нават да інтанацыі, з якой яно сказана. А і сапраўды, як я мала ведаю Іру. Колькі мы там сустракаліся, ды і ў тыя сустрэчы я быў ап'янёны каханнем, не да таго мне было, каб прыглядацца, прыслухоўвацца, тым больш цвяроза аналізаваць тое, што яна рабіла, што казала.

Вось і зараз мы ляжым у клеці на старым драўляным ложку, акрытыя цёплай коўдрай. Тут нейкая асаблівая сцішанасць, нейкая адменная любата. Над страхой нешта варушыцца, мо вераб'і, а мо мышы. Іра баязліва туліцца да мяне і шэпча:

— Макарка, родненькі, паедзем адсюль. Мне гэтак абрыдла глядзець на гэтае. Паедзем хутчэй дадому.

— Хіба табе не падабаецца, як нас прынялі? Нам жа яшчэ можна цэлы тыдзень пагасцяваць.

— Я не кажу, што дрэнна прынялі,— шэпча ў адказ Іра,— але я больш не магу. Мне ўсё надакучыла: і гэтая цішыня, і гэтыя людзі, якія на мяне глядзяць, як на нейкае дзіва, нават тваe бацькі. Мачыха дык усё падгаворваецца, каб я што рабіла.

— Дык ты б узяла ды што-небудзь і памагла ёй, хоць бы ў хаце. Бачыш жа, колькі ёй работы: Насця кожны дзень ідзе на поле, а яна і ў хаце ад самага досвітку таўчэцца і яшчэ на поле ці на агарод бегае.

— Я ж нічога не ўмею тут, яшчэ чаго не патраплю.

— Патрапіш, не дзе яно дзенецца, абы захацела.

— Не хачу я, не магу,— аж ускіпела Іра.

У нас ледзь не ўзгарэлася першая сварка. Хоць мне і карцела пахадзіць па сцежках маленства, хоць мне яшчэ думалася схадзіць у Верамеевічы да дзядзькі Пракопа і распытаць падрабязна пра тое, пра што ён мне намякаў за бяседным сталом, я вымушаны быў адмовіцца ад усяго гэтага і згадзіцца ехаць заўтра ж дадому.

Наша рашэнне было для бацькі поўнай нечаканасцю.

— Дык ці мы чым вам не дагадзілі? — пытаў ён.

— Чаму не дагадзілі. Іры трэба дадому, у яе там службовыя справы, а я адзін не застануся. Ды мне таксама трэба сёе-тое рабіць.

Мачыха хуценька пачала збіраць нам у дарогу сякія-такія прыпасы, а бацька пайшоў у праўленне прасіць каня падвесці нас да Хвойнага.

Ад'язджалі мы не гэтак урачыста, як прыехалі. Толькі ўсе нашы — мачыха, Насцечка, дзеці — правялі нас за гумны да сценкі. Іра сядзела на возе вясёлая. А я не мог адбіцца ад думкі: ці давядзецца мне яшчэ хоць калі пахадзіць па родных сцежках свайго маленства, надыхацца духмянасцю палёў, налюбавацца вабнай разлегласцю прастораў.

Рагазін застаўся ззаду. Уперадзе клікаў гудок паравоза, і мы ехалі на яго покліч.

## ІРВУ, ПАЛЮ...

Кажуць, непрыемнасць адна не ходзіць, яна за сабою яшчэ і другую водзіць. Дало ж мне пагадзіцца на гэтае стыльрэдактарства і амаль кожны дзень нажываць сабе непрыяцеляў. Я не мог абыякава ставіцца да таго, што чытаў і правіў. Я абураўся, калі мне падсоўвалі непісьменны матэрыял, і не было таго дня, каб ля майго стала не ўзгараліся спрэчкі і нават сваркі.

— Ты занадта па сябе бярэш, глядзі, каб ногі не падламаліся,— не раз крычаў Вінцэнт Барташэвіч.

А што я занадта браў на сябе? Хіба толькі працы і непрыемнасцей больш. Мог жа я расставіць коскі, сямтам выправіць слоўца якое, і няхай бы матэрыял ішоў у набор. Але гэта выявіла б маю абыякавасць да таго, што раблю. Я так не мог. Не мог быць абыякавым, што б ні рабіў. Я павінен рабіць так, каб да кожнай работы дакладаць кавалачак душы. Нават стары Шолам, чуючы мае назалянні з загадчыкамі аддзелаў і літаратурнымі супрацоўнікамі, колькі разоў казаў ужо:

— Макар, навошта табе назаляцца з людзьмі? Ты рабі так, каб яно шыта-крыта было.

— Не магу я, Шолам Эфроімавіч, не магу я так. Калі мяне паставілі на такую работу, дык я павінен яе рабіць так, каб людзям не брыдка было браць у рукі нашу газету.

— А хто там прыглядаецца, ці правільна сказ пабудаваны, ці няправільна, абы была палітычная вастрыня і правільная пастаноўка пытання.

— Прыглядаюцца, Шолам Эфроімавіч, яшчэ і як прыглядаюцца. На газеце мо каторыя вучацца правільна пісаць, а мы іх будзем вучыць непісьменнасці.

— Ай, рабі як ведаеш, але я табе не раіў бы настырняцца з людзьмі.

— Дык я ж і не настырняюся. Гэта ж службовыя прынцыповыя адносіны.

— Папомніш мяне, яны табе бокам вылезуць.

Заспакойвала і пераконвала, што я раблю правільна, заўсёдная падтрымка рэдактара. Наогул на гэтага чалавека я гатовы быў маліцца: я бачыў у ім узор партыйнай прынцыповасці, сумленнасці, чалавечнасці і не мог не слухацца яго. А Мацвей Кірылавіч сказаў мне: «Рабі так, як табе здаецца лепш, даводзь матэрыял да такой кандыцыі, якая патрэбна нам. Я цябе заўсёды падтрымаю». Адчуваючы такую сяброўскую руку і ведаючы, што гэтая рука працягнецца ў час, калі патрэбна будзе падтрымка, я быў непрымірымы да недахопаў не толькі стылю, але і да палітычнай тупасці, індыферэнтнасці артыкулаў і допісаў, якія паступалі з аддзелаў на мой стол.

Праўда, работа гэтая мяне не зусім задавальняла: мне карцела пісаць, хацелася бываць на прадпрыемствах, у калгасах — сярод людзей, чуць іх думкі, адным словам, адчуваць пульс жыцця. Мне вельмі карцела і п'еса, якую я пачаў пісаць. Задума яе нарадзілася пад уплывам таго, што я як журналіст бачыў у калгасах, на заводах. Мне

хацелася паказаць энтузіязм будаўнікоў сацыялізма, асабліва камсамольцаў і моладзі. У маім блакноце ўжо было столькі фактаў і эпізодаў, што здавалася — іх трэба сюжэтам звязаць у адно, і п'еса выйдзе як мае быць. Правобразам галоўнага героя — камуніста, барацьбіта за светлую будучыню, за перабудову вёскі на сацыялістычны лад — я ўзяў Пракопа Касянка. Я і дыялог будаваў, стараючыся браць яго словы і выразы. У процівагу галоўнаму герою — бальшавіку — я намеціў вывесці вобраз перараджэнца, кар'ерыста і баязліўца, кулацкага атожылка, які скаціўся ў лагер класавага ворага.

Быў прыдуманы ўжо і сюжэтны вузел п'есы: былы раскулачаны асеў у адным з раённых цэнтраў пад чужым прозвішчам. Знайшоў там сабе пажыўнае асяроддзе, і яму ўдалося завербаваць, аблытаць сваім павуціннем нават некаторых сумленных работнікаў. Толькі дзякуючы пільнасці радавых калгаснікаў вораг трапіў у рукі правасуддзя.

П'еса пісалася цяжкавата. Ды і не дзіва: гэта была мая першая спроба і я не так лёгка знаходзіў трапныя дэталі, сцэнічныя палажэнні, якія б пераконвалі сваёй праўдай і логікай жыцця. Але я іх шукаў упарта і настойліва. Мне хацелася хоць чым-кольвек памагчы партыі ў барацьбе з варожымі элементамі, і я шукаў зброі.

Сёння надарылася, што ў рэдакцыі работы асабліва не было, і сама калі спала гарачыня жнівеньскага дня, у той час, калі на вуліцах запаноўвала перадвячэрняя ўрачыстая цішыня, я іду па Інтэрнацыянальнай да свае Спакойнай. Я тут ужо гэтак звык хадзіць, што нават ведаю на тратуары кожную выбоіну. У галаве змяняюцца адна другой сцэны п'есы, але лепшыя яшчэ не знойдзены, і я апанаваны думкамі, нават нічога не бачу. Ля прадуктовага магазіна сутыкнуўся лоб у лоб з нейкім чалавекам, які нёс на плячах цяжар.

— Ты аслеп, ці што,— буркнуў узлаваны чалавек.

Вось і наша Спакойная. Іра хутка пойдзе ў сваю чытальню, і ў пакоі-бакоўцы я засяду адзін, ніхто мне не будзе замінаць. Калі Іра была дома, я не мог ні на чым засяродкавацца. А сёння думалася: от прыйду дадому, падсілкуюся трохі, правяду Іру да Інтэрнацыянальнай, а потым як засяду за стол, дык буду сядзець і пісаць аж пакуль не трэба будзе ісці сустракаць жонку.

Ціха адчыняю брамку, любуюся кветкамі, парадкам у двары і ў садку. Тут я прыклаў ужо сваю руку: падмятаў

двор, даглядаў яблыні і кветкі, а ў садзе змайстраваў невялічку[illegible]аб у цёплы і ціхі летні вечар пасядзець, пад[illegible]ым водарам саду, а часам мо нават і чайку папіць.

Увайшоўшы ў сенцы, я аслупянеў. У доме стаяў гармідар, чулася сварка. Падумаў, што Іра з маткай за штонебудзь пасварыліся. Гэта часам здаралася. Але з адчыненых хатніх дзвярэй я такое пачуў, што міжволі замёр. І чым больш я слухаў, тым больш абураўся, узрушаўся. Аляўціна Пятроўна, мая цешча, аж крычала на дачку:

— Што ж гэта ты сабе думаеш: прывяла не зарэгістраванага, не павенчанага, яго даглядай, абмывай, а ён дуне-плюне, і толькі ты яго і бачыла.

— Мама, маўчы, Макар не такі.

— Не такі, дык гэтакі. Усе яны такія. Чаму ж ён не ідзе з табою ў загс? Мусіць жа не хоча, не думае. Зноў, як той Жорж, пакрэпіцца каля твае спадніцы, і толькі ты яго і бачыла.

Што за Жорж? Які Жорж? Пра Жоржа я ніколі і нічога не чуў ні ад Іры, ні ад каго другога.

— ...І той як стаў да нас на кватэру, дык быў шаўковы, і ты каля яго бегала. А ён бач чым нас аддзячыў: нават не развітаўшыся, кінуў-рынуў — і шукай ветру ў полі.

— Ты сама вінавата, што Жорж мяне кінуў,— агрызалася Ірына.— Каб ты была людская маці або каб я таты слухала, а не цябе, дык хіба б ён кінуў? А то ты вечна ім была нездаволена, заўсёды падбівала мяне, бурчала. А хіба ён дурны, хіба нічога не чуў і не бачыў?

Для мяне гэта было адкрыцце, якое скаланула да самай глыбіні сэрца. Які Жорж, што за Жорж? — не выходзіла з галавы. Я хацеў адразу рынуцца з дзвярэй і крыкнуць на ўвесь дом, каб яны ад гэтага крыку аж анямелі. Але простая чалавечая цікавасць ведаць пра сваю жонку як мага больш трымала мяне за дзвярыма, абвастрыла мой слых, хоць я ведаў і адчуваў, што гэта непрыстойна, брыдка — падслухоўваць чужую гаворку. Але ж Іра была мне не чужая. І калі яна сама мне не расказала ўсяго, сама не паспавядалася душой, дык не грэх і падслухаць.

— Уцячэ і гэты ад цябе, от пабачыш. На повад яго не возьмеш,— чаўпла маці.— Калі ён не хоча нават рэгістравацца з табой, дык хіба ад яго дабра можна чакаць?

— Адкуль ты ведаеш, што ён не хоча? Я яму пра гэта

нічога не казала. Ён адразу пайшоў бы, каб я толькі сказала.

— Дык чаму ты не кажаш яму?

— Саромеюся.

— Бач ты яе, саромеецца.

— Мама, змоўкні! — ледзь не са слязьмі закрычала Іра.

На момант мне яе стала шкада. Я ціхенька ступіў ужо крок, каб сваім з'яўленнем спыніць гэтую недарэчную размову маткі з дачкой, але зноў-такі тая ж цікавасць змусіла мяне яшчэ больш прынішкнуць, бо далей гаварылася такое, чаго я ніколі-ніколі не мог нават спадзявацца пачуць.

— А ты, дурная, не ведаеш, як яго прымусіць,— вучыла маці.— От сёння ён прыйдзе, а ты перад гэтым ляж у пасцель, нібы хворая. Ён будзе пытаць, а я і скажу, што ты была на валаску ад смерці, што цябе выцяглі амаль з-пад колаў цягніка. Хацела жыцця сябе рашыць з-за таго, што не ідзеш рэгістравацца.

— Не буду я гэтага рабіць! — са злосцю выгукнула Іра, і мне яе стала шкада.

Сапраўды, можа, я зрабіў няправільна, што адразу не пайшлі ў загс рэгістраваць шлюб. Гэтай рэгістрацыі я не надаваў ніякага значэння. Мне думалася, саюз двух маладых людзей павінен рэгістравацца не ў загсе, а ў сэрцах. Ён перш за ўсё павінен грунтавацца на веры ў чалавека, а калі няма гэтай веры, калі паміж маладымі людзьмі, якія ўзяліся за рукі, каб разам прайсці вялікую дарогу жыцця, ёсць хоць кропля недаверу, падазронасці, дык у такім разе ніякая рэгістрацыя не паможа. Такія людзі не здолеюць жыць разам, дзяліць скрухі і радасці, бо іх саюз двух недаўгавечны, ён можа пратрымацца толькі да першай нягоды або да таго часу, пакуль такія людзі нацешацца адно адным.

Я не верыў, не мог нават уявіць сабе, каб у мае Іры не было шчырага пачуцця да мяне, і тое, што чуў цяпер, вельмі ж балюча раніла мяне, узрушала да самай глыбіні душы. Мне не хацелася верыць сваім вушам. Няўжо мая Іра здольна крывіць душою? Але тое, што я чую далей, да болю пераконвае мяне ў гэтай маёй неспадзяванай думцы, якая сама па сабе ніколі б не магла і ў галаву прыйсці.

— Што ты ў ім знайшла, у гэтым лапатніку? Той хоць лётчыкам быў, а гэты хто? Так сабе вахлачок, ні самой паглядзець, ні людзям паказаць.

Я гэтага ўжо не мог стрываць, не мог далей слухаць такой абразы і, каб спыніць яе, знарок бразнуў сенечнымі дзвярыма і ўвайшоў у дом. Мяне перш за ўсё здзівіла тое, як цешча адразу ж перайначылася, нібы яна не толькі не гаварыла, дык нават не думала таго, што я чуў на свае вушы. Выраз твару ў яе быў дабрадушны, словы мяккія, ліслівыя:

— Нешта ты, зяцёк, сёння рана прыйшоў. Мы яшчэ і есці табе не згатавалі. Ірачцы нешта няможацца, кволіцца, што пад грудзьмі баліць.

Я дапытліва зірнуў на Іру, і яна ўспыхнула чырванню, як агнём.

— Сапраўды, Макарка, нешта тут, пад лыжачкай, забалела. Чаго ты, любенькі, сёння так рана прыйшоў?

— Не было работы ў рэдакцыі,— намагаючыся быць як мага спакайнейшым, адказаў я.— Хачу дома трохі папрацаваць. А ты на работу не ідзі, калі баліць.

— Як гэта я не пайду? Бюлетэня ж мне не дадуць, а Сякерын цяпер злосны на мяне, дык адразу ў суд.

— Ты наогул кінула б гэтую работу, што яна нам дае,— прапанаваў я.

— Навошта ж я яе буду кідаць. Вечарамі буду сядзець і чакаць цябе, маркоціцца і сумаваць адна. Там, на людзях, весялей трошкі.

— Макарка, ідзі перакусі сяго-таго, я тут на скорую руку згатавала,— пачуўся цешчын голас.

— Дзякую, не хачу. Я там у буфеце перахапіў сёетое,— адмовіўся я, бо пасля таго, што чулі мае вушы, наўрад ці палезла б мне ў рот цешчына перакуска.

— Ну то як сабе хочаш. Пачакаеш, пакуль стары прыйдзе, тады разам і падсілкуецеся.

— Добра, я пачакаю.

Іра пачала збірацца на работу. Яна па-святочнаму апраналася, фарбавала вусны, падпудрывалася. Я глядзеў на яе, і мне рабілася ніякавата, нават трохі прыкра.

— Я цябе правяду хоць да моста.

— Навошта, не трэба, Макарка. Я прывыкла хадзіць адна, хуценька, амаль бегам, а з табою будзем цягнуцца. Ты рабі што табе трэба, а потым прыйдзеш сустрэць мяне.

— Не, не, Ірачка, я правяду хоць да моста.

Сонца ўжо хілілася да небасхілу. Вострыя чырванаватыя праменні, быццам пікі, праколвалі нагрэтае за дзень паветра, і гэтак было добра, лёгка дыхалася, асабліва тут, на нашай Спакойнай, дзе ў садках панаваў вясковы

спакой і гасцявала ціхая неўтаймоўная радасць жыцця. Не так было ў мяне на душы: яна ўзрушана кіпела, хоць я і стараўся нічым не выдаць гэтага.

— Ты нешта, любы, не такі, як заўсёды. Мо ў цябе якая непрыемнасць на рабоце?

— Не, не, гэта табе так здалося. У мяне проста благі настрой.

— Чаму?

— Бо не ведаю, хто такі Жорж,— нечакана нават для самога сябе выпаліў я.

— Які Жорж? — залілася чырванню Іра.— Хто табе і што наплёў ужо?

— Людзі добрыя сказалі, што ў цябе быў Жорж.

— Які Жорж? Гэта мо Галя? Я так і ведала, што яна табе напляце. Яна ж і мяне падбівала, каб за цябе замуж не ішла. Можа, сама хацела цябе ўзяць у рукі.

— Нічога мне Галя не напляла. Я ўжо з месяц яе не бачыў.

— Дык хто ж табе мог нагаварыць? Мо з суседзяў хто. Ім, мабыць, вочы коле, што мы з табой сышліся і добра жывём.

— Не, любая, ты на таго чалавека, які мне ўсё расказаў, і не падумала б ніколі. Мяне дзівіць адно, чаму ты мне сама не сказала, што была замужам за нейкім лётчыкам Жоржам.

— Ні за кім я не была замужам. Ён у нас кватараваў, займаў гэтую бакоўку, у якой цяпер мы з табой жывём. Дык хіба ж людзям языкі пазавязваеш. Яны і тады, як ён быў у нас на кватэры, плявузгалі немаведама што: маўляў, ён мой жаніх. А на ліха ён мне здаўся.

— Няпраўду ты кажаш,— са злосцю, якая накіпела ў мяне, выгукнуў я.

— Няхай і няпраўду. А калі што і было, дык што табе да таго. А ты хіба мне сказаў усю праўду?

— Сказаў, усё сказаў.

— А пра рагазінскую Марыльку хіба ты мне сказаў, што яна амаль твая жонка?

— Якая жонка? Мы з ёй проста сябравалі з самага маленства.

— Добра, відаць, сябравалі. Хіба я не бачыла слёз на яе вачах? Дарма ж яна не ліла б іх.

Слова за слова, і мы на вуліцы пасварыліся першы раз у нашым сумесным жыцці. Тут я ўпершыню ўбачыў, што Іра не такая рахманая, як мне здавалася. Далей мы

не маглі ўжо разам ісці. Іра рванулася ад мяне і амаль бягом кінулася цераз мост на Інтэрнацыянальную. Я павярнуў назад і пайшоў, сам не ведаючы куды. Гадзіны тры шпацыраваў па вуліцах. Хацелася да каго-небудзь зайсці, пагаварыць. Думалася: можа, зайсці да Метлюга? Але што ён мог мне парадзіць? Тут мог даць рады толькі сапраўдны сябра, які б табе верыў, спачуваў, спагадаў. А мне здалося, што Мятлюг мог нават парадавацца маёй скрусе, і я перасіліў жаданне заходзіць да яго. Крыўдна стала, што за столькі часу не займеў сапраўдных сяброў. Ад рабфакаўскіх таварышаў, якія цяпер пакончалі інстытут і каторыя працуюць на заводзе сельскагаспадарчых машын, я зусім адарваўся, а ў рэдакцыі не знайшоў ніводнага сапраўднага сябра, з кім можна было б дзяліць і гора і радасць. Можна было б зайсці да Валі. Але што яна падумае пра гэта? Мабыць, што, апёкшыся на адной, цяпер хінуся да яе. Яе дзявочы гонар не дазволіць ёй спагадаць мне. Больш таго, ён можа падказаць нянавісць да мяне. А я не хацеў гэтага і ціхенька паклыпаў сабе дадому. Добра, што ў хаце быў цесць.

— Сынок, ідзі падсілкуемся,— запрашаў ён мяне да стала.— Добра было б, каб старая нам і чарчыну якую расстаралася. Бачу — у цябе настрой не вельмі хвацкі. Мо на рабоце якія нелады?

— Дзякую, тата,— адказаў я як мага ласкавей на запрашэнне.

— Чаму ж ты не хочаш? Настрой настроем, а яда ядою. У мяне такое правіла: у галаве няхай чортведама што робіцца, а жывот не павінен цярпець. Аляўціна, я прасіў цябе чарчыну якую пашукаць. Трэба хлопцу настрой правіць.

Тая адказала:

— Дзе я табе тую чарчыну вазьму, хіба ў мяне Цэнтраспірт?

— Не трэба, тата, не трэба,— выказаў я сваё меркаванне, хоць з маім настроем мог бы цяпер і смалы выпіць, не тое што гарэлкі.— Я буду працаваць, дык няхай галава будзе светлая.

— У мяне ж сёння радасць, мая брыгада выканала план, перамагла ў спаборніцтве Гардзейчыкаву. Хлопцы там хацелі дзе-небудзь па чарцы ўзяць, але я не згадзіўся. Паспадзяваўся, што дома з табой вып'ем.

— Дзякую, тата,— як завучаны радок верша, дэкламаваў я, хоць у гэты момант і карцела выпіць, каб не

гэтак адчуваць крыўду і знявагу, якія сёння перажыў. Але, з другога боку, я прыкінуў, што калі ап'янею, дык магу расплакацца, разнюніцца перад гэтым добрым чалавекам. Ён бы, вядома, мог паспагадаць, мог бы пашкадаваць жонку і дачку, але навошта і каму гэта трэба. Лепш затаіць усё ў сабе, няхай перагарыць, і мо зноў вернуцца спакой і радасць. Але пасля таго, што чуў, наўрад ці вернуцца жаданыя спакой і радасць, якімі я жыў да сёння.

Аляўціна Пятроўна таксама пільным жаночым вокам заўважыла, што са мной творыцца нешта няладнае, і спытала:

— Мо табе, Макарка, што баліць?

— Не, нічога не баліць, проста так маркотна,— адказаў я як мага спакайней, хоць хацелася крыкнуць: «Баліць, душа баліць, што вы мяне ашукалі».

Я ўключыў настольную лямпу і сеў за стол. На белым аркушы, здаецца, разбягаліся літары, і я не мог іх ніяк сабраць у радкі. Не, гэта не літары, гэта думкі мае разбягаліся. Я даўно ўжо не садзіўся за п'есу, бо не ведаў, як далей разгортваць дзеянне. Дыялог ішоў добра, але героі на сцэне нічога не рабілі, адно толькі гаварылі. Я разумеў, што такую п'есу цяжка, бадай нельга паставіць на сцэне. Аднак у маім жыццёвым запасе не знаходзілася дзеяння, якое б я мог перанесці на сцэну, каб людзі глядзелі яго, як само жыццё.

Нядаўна ва ўсіх газетах была апублікавана справаздача аб судовым працэсе над шкоднікамі і шпіёнамі. Гэтую справаздачу друкавала і наша газета. Людзі чыталі, што рабілі і меліся рабіць шкоднікі і шпіёны, і аж валасы дыбка станавіліся ў тых, хто чытаў. Паведамлялася пра шкодніцтва на заводах, у калгасах, нават пра тое, як шкоднікі распаўсюджвалі сярод насельніцтва страшэнныя хваробы. Сапраўды, жахліва было чытаць. Рабочыя, служачыя, хатнія гаспадыні сціскалі кулакі, чытаючы паказанні падсудных на працэсе. Я таксама чытаў і поўніўся гневам. Я вырашыў, што гэта і ёсць тое канкрэтнае дзеянне, якое ляжа ў аснову мае п'есы. Мне вельмі хацелася хоць чым-небудзь памагчы радзіме ў выкрыцці і абеззбройванні тых, хто замахваўся на сацыялістычны лад, на наша жыццё. Сёння я меўся пасядзець даўжэй і падбіць ужо амаль пад канец п'есу. Але дзе яно што палезе ў галаву пасля таго, як мы пасварыліся з Ірай. Я адно сядзеў за сталом і рабіў выгляд, што працую, каб не назалялі старыя сваімі роспытамі.

Вечар здаўся даўгім-даўгім, як бы яго хто надтачыў. На вуліцы ўжо сціхла жыццё. Іра даўно павінна была прыйсці, а яе ўсё не было і не было. Ужо і маці захвалявалася.

— Можа б, ты, Макар, пайшоў сустрэць Іру.

— Я не дужа добра сябе адчуваю. Нідзе яна не дзенецца, прыйдзе сама.

— Не маленькая, не заблудзіць,— дадаў сваё бацька.

Звычайна, калі ў нас было ўсё ў добрым ладзе, мы са старым маглі прасядзець цэлы вечар у гаворцы: аналізавалі міжнароднае становішча, гаварылі пра падзеі ў Іспаніі, пра нямецкі фашызм. Андрэй Піліпавіч усё гэта вельмі браў да сэрца. Аднойчы ён нават выказаў такую думку, што каб быў маладзейшы, дык добраахвотна падаўся б у Іспанію біць фашыстаў. І я верыў, што ён мог так зрабіць, бо Андрэй Піліпавіч быў чалавек шчырых і ясных думак, добрых учынкаў і спраў.

Прабіла ўжо дванаццаць, а Іры ўсё няма і няма. Я раскінуў пасцель і, не распрануўшыся, лёг. У галаву лезла чортведама што. Прыгадаліся словы мачыхі пра Іру. «Іра, няўжо сапраўды я ў тваім сэрцы не заняў ніякага месца, няўжо я, таксама, як і той Жорж, выпадкова трапіўся на тваім шляху, увайшоўшы не ў сэрца, а толькі ў гэты маленькі пакой?» У такіх цяжкіх думках я задрамаў, але як толькі ляпнулі дзверы — адразу і прахапіўся, бо спаў як той напалоханы заяц. А Іра, прыйшоўшы, нават не прачыніла дзвярэй свайго пакоя, а адразу ж уключыла святло ў сталовай і села вячэраць.

— Дзе гэта ты так позна забавілася? — пытаў заспаным голасам бацька.

— Ат, дзе была, там ужо няма,— адказала Іра, як мне здалося, знарок нейкім гуллівым бесклапотным тонам, відаць, спадзеючыся, што я абавязкова пачую гэты яе адказ.

Хоць грудзі мае аж распінала злосць, я, заплюшчыўшы вочы, ляжаў ціха, робячы выгляд, што сплю глыбокім сном. Павячэраўшы, Іра зайшла ў пакой, паглядзела на мяне, хціва ўсміхнулася і, узяўшы падушку, просціну і коўдру, пайшла. Яна паслалася спаць на канапе ў гасцінным пакоі.

Андрэй Піліпавіч, угледзеўшы, што Іра кладзецца адна спаць, спытаў:

— Дык ці гэта вы пасварыліся, ці што?

— Не, не, тата. Макар моцна спіць, і я не хачу яго будзіць. Яму, мабыць, нездаровіцца трохі.

Гэты Ірын адказ ледзь не кінуў мяне ў шаленства. Каб не старыя дома, я не вытрываў бы. Але навошта мне паказваць перад імі сваё ўзрушэнне, няхай яны лепш нічога не ведаюць, спакайней будзе па сэрцы. Няхай я хоць праз усю ноч не засну, абы ціха было ў хаце. А можа, і яна не засне? Вядома, не засне. Не можа ж яна быць такая абыякавая. Але праз колькі часу я пачуў, што яна спіць. Значыць, ёй наша сварка мала абыходзіць. Затое я ўстаў, шчыльна зачыніў дзверы, адчыніў фортачку і ўсю ноч адну за адной курыў папяросы і думаў. Чаго толькі я не перадумаў, але гэтак ні да чаго і не дадумаўся. Адно зразумеў: цяпер наўрад ці будзе больш лад у нашым супольным з Ірай жыцці.

Дні перагортваліся як старонкі нячытанай яшчэ кнігі. Яны былі цікавыя, хвалююча велічныя і ў той жа час трывожныя, асабліва для мяне. Сямейнае маё жыццё не склеілася. Я разумеў, што мне трэба было кінуць-рынуць усё і зноў перайсці ў халасцяцкі пакойчык, каб там знайсці хоць трошачкі заспакаення. Але зрабіць гэта не мог: уся рэдакцыя ведала, што я ажаніўся, усе знаёмыя паспелі павіншаваць з законным шлюбам, і як бы я мог паказацца ім на вочы, калі б стала вядома, што я развёўся. Я гэтага зрабіць не мог і па іншай прычыне: верыў, што Іра адумаецца і возьмецца за розум. Вонкава мы нічым нават перад Ірынымі бацькамі не выказвалі нязгоды. Але я адчуваў Ірыну халоднасць, нават нейкую абыякавасць. Спадзеючыся, што гэта ўсё з часам мінецца, я не ўпікаў, не дакараў жонкі. Мне хацелася верыць у чалавека, у яго дабрату, і я верыў, спадзяваўся, што час усё загоіць, уладкуе.

Але час, няўмольна ідучы ўперад, нёс з сабой згрызоты і балючыя расчараванні. Аднаго разу, неяк ужо ў канцы верасня, калі з вулічных прысадаў зрываўся жаўталіст, калі настрой сам сабою быў мінорны, прыйшоўшы ў рэдакцыю, я ўгледзеў на сваім стале артыкул са страшэнным загалоўкам «Шкоднікі і ворагі арудуюць». Чым далей я чытаў гэты, здадзены ў набор Юркам Маргуном артыкул, тым большая трывога апаноўвала мяне. У артыкуле пісалася, што ў нашым рагазінскім калгасе звілі сабе гняздо шкоднікі, якія паставілі за мэту падарваць калгас знутры. Я аж усхапіўся з-за стала, калі прачытаў: «Усю шкодніцкую работу вёў былы загадчык раённага зямельнага аддзела Пракоп Касянок». Аж уваччу ў мяне пацямнела.

— Не можа быць! Не можа быць! Хлусня ўсё гэта, паклёп на чэснага чалавека, сумленнага камуніста,— выгукнуў я сам сабе і ўсхвалявана зашпацыраваў па пакоі.

— Што здарылася, Макар? — спалохана спытаў Шолам.

— А тое, таварыш Кац, што абылгалі чалавека. Не веру я таму, што тут напісана. Я гэтага чалавека ведаю як самога сябе.

— А што такое? — усё яшчэ не разумеў Шолам.

— Наце, прачытайце,— падаў я яму артыкул.

Чытаючы, ён нервова калашмаціў клінок барады, цмокаў языком, нешта сам сабе шаптаў, быццам каго лаяў. Відаць было, што маё хваляванне перадалося старому: ён неяк моршчыўся, як бы збіраўся ўвесь у камяк, каб з сілай некага выцяць. Хацеў нешта вымавіць, але варушыліся толькі вусны, а словы ніяк не вымаўляліся. Нарэшце такі Шолам сказаў:

— А ты не хвалюйся, Макар. Зайдзі да Давідзюка, раскажы яму ўсё, мо ён сходзіць у абком, і невінаватага чалавека не зачэпяць.

Сапраўды, як я не даўмеўся пайсці да рэдактара і расказаць усё, што ведаю, што думаю пра дзядзьку Пракопа. Праз момант я стаяў перад сталом рэдактара і як бы не казаў, а выдыхаў з гневам словы:

— Не веру я таму, што тут напісана. Мана ўсё гэта, паклёп на чэснага камуніста. Я ведаю гэтых паклёпнікаў: адзін з іх — Усцім Пачосак, п'яніца, другі — Леўка Здрок, прайдзісвет. Ім напляваць на чалавека, абылгаць яго — раз плюнуць.

Я гэтак гарачыўся і гневаўся, што Давідзюк глядзеў на мяне як на апантанага. Ён, мабыць, ніколі мяне такім не бачыў і таму сказаў:

— Супакойся, таварыш Шыянок. Пастараемся разабрацца. Я схаджу ў абком, а матэрыялу пакуль што ў газету не трэба даваць.

Я не ведаю, хадзіў ці не рэдактар у абком партыі, аднак артыкул пра дзядзьку Пракопа больш не паявіўся на маім стале. Не паявіўся ён і ў газеце. Значыць, Давідзюк мне паверыў.

Я пачаў нават трохі забывацца ўжо на той допіс. Нагадала аб'ява, што забываць пра гэта нельга. На вялізным аркушы паперы, вывешаным у калідоры, было напісана: «12 кастрычніка адбудзецца закрыты партыйны

сход. Парадак дня: аб павышэнні бальшавіцкай пільнасці камуністаў».

На сход прыйшоў першы сакратар гаркома партыі таварыш Шафранскі. У сваім дакладзе ён прыводзіў факты, відаць, узятыя са следчых спраў, аб шкодніцкай контррэвалюцыйнай дзейнасці ворагаў народа ў нашай рэспубліцы і вобласці. Я чакаў, што ён вось-вось памяне і верамеевіцкую групу, якую ўзначальваў Пракоп Касянок. Аднак Шафранскі пра Верамеевічы не сказаў ні слова. Значыць, нічога там сур'ёзнага не было, проста тыя два прайдзісветы хацелі абылгаць сумленнага чалавека.

Выступаючыя ў спрэчках гаварылі аб неабходнасці павышэння класавай пільнасці, бо на работніках рэдакцыі, як на людзях, якія ў пэўнай меры фармуюць грамадскую думку, ляжыць асаблівая адказнасць.

— Вока бальшавіцкага журналіста павінна быць двойчы пільным. Ніякага лібералізму, ніякага прымірэнцтва нават да, здавалася б, дробязных праяў шкодніцтва і контррэвалюцыйнай дзейнасці не павінна быць.

Гэта гаварыў Вінцэнт Барташэвіч. Я дзівіўся — адкуль у чалавека столькі запалу? Ад агульнага тэарэтычнага ўступу прамоўца перайшоў да канкрэтных спраў нашай партарганізацыі. Аж макаўка лысай галавы налілася крывёю. Вочы — дык быццам іскры красалі, калі ён гаварыў:

— Я з поўным правам, з поўнай бальшавіцкай адказнасцю павінен тут, у прысутнасці сакратара гаркома партыі, заявіць, што ў нашай партыйнай арганізацыі акапаліся гнілыя лібералы, калі не сказаць большага.

Усе насцярожыліся, мусіць, чакаючы, пра каго будзе гаварыць прамоўца. У мяне аж сэрца ёкнула. І яно такі недарма ёкнула, бо тое, што казаў далей Барташэвіч, мяне ледзь не зваліла з ног.

— Я маю на ўвазе маладога яшчэ камуніста таварыша Шыянка і яго непрыстойныя антыпартыйныя ўчынкі.

— Якія? — нехта запытаў.

Усе спачувальна зірнулі на мяне. Я не ведаю, што яны бачылі на маім твары: мо адчай, а мо і рашучасць. Я ўвесь гарэў ад крыўды, ад злосці, але прымушаў сябе хоць з выгляду быць спакойным, разважным.

— А вось якія. У нашу рэдакцыю паступіла пісьмо, у якім выкрывалася шкодніцкая дзейнасць былога загадчыка Верамеевіцкага райза. А хто яго бачыў на старонках газеты? Ніхто! Макар Шыянок, не без дапамогі нашага па-

важанага ліберала рэдактара, пахаваў тое пісьмо ў бюракратычных нетрах. Я думаю, што партыйны сход дасць належную, прынцыпова бальшавіцкую ацэнку такім антыпартыйным дзеянням члена нашай партарганізацыі.

Скончыўшы прамову, Барташэвіч кінуўся да графіна з вадою, быццам у яго перасела ў горле і ён не мог пракаўтнуць тое, што сказаў.

Сход, як аглавушаны, некалькі хвілін зацята маўчаў. Дармо старшыня пытаў, хто хоча слова. Гэтае злавеснае маўчанне нарэшце парушыў Юрка Маргун. Ён хваляваўся і таму збіваўся з тропу, расказваючы, як атрымаў артыкул пра шкодніцтва ў Верамеевічах, як падрыхтаваў яго да друку, як потым гаварыў з рэдактарам і той сказаў, што абвінаваціць камуніста ў шкодніцтве — гэта вельмі сур'ёзная справа, яе трэба праверыць, расследаваць, а не даваць веры на слова нейкім двум невядомым людзям, якія мо зводзяць асабістыя рахункі. Але да гэтага часу ў Верамеевічы нікога не пасылалі на праверку, і за гэта Маргун упікнуў рэдактара ў лібералізме. Мяне ж ён абвінавачваў у прытупленні класавай пільнасці, у тым, што я асабістыя адносіны з былым загадчыкам Верамеевіцкага райза паставіў вышэй за класавыя інтарэсы і па гэтай прычыне заслугоўваю самага суровага партыйнага спагнання.

Я спадзяваўся, што хоць хто-небудзь з камуністаў падтрымае мяне, выступіць у абарону. Але пакуль ніхто нават і не заікнуўся.

Слова папрасіў Лёня Мятлюг. Я думаў, што хоць ён не будзе гэтак, як другія, бэсціць мяне. Але памыліўся: Мятлюг пайшоў яшчэ далей. З яго прамовы выходзіла, што я невыпадкова зняславіў калгас «Чырвоны бор» і яго старшыню Гардзея Сінюка, што я яшчэ на першым часе работы ў рэдакцыі паказаў сябе гнілым лібералам, заступнікам розных сабатажнікаў. Ён нагадаў даўняе, можа, усімі забытае пісьмо старшыні сельсавета Лопуха. Мятлюг абвінавачваў мяне ў прыхільнасці да ясенінскай кулацкай паэзіі», якая быццам з'яўляецца водгуллем варожай ідэалогіі ў літаратуры. Нарэшце прамоўца сфармуляваў свой вывад:

— Я думаю, таварышы, што нам няма чаго цацкацца з Макарам Шыянком. Калі на здаровым зялёным дрэве ўсыхае якая галіна, яе адрэзваюць.

Старшыня сходу хацеў ужо скіраваць камуністаў па практычнае вырашэнне маёй справы: прагаласаваць — ці

пакінуць мяне ў партыі, ці большасцю галасоў адабраць партыйны білет, які я насіў пры сваім сэрцы, як самае дарагое.

Але ж яшчэ нічога не сказаў Давідзюк. Усе на яго глядзелі, чакалі. З асаблівай надзеяй глядзеў я на рэдактара, хоць і разумеў, што на гэты раз яму асабліва цяжка заступацца за мяне, бо абвінавачанне мяне — гэта ўскоснае абвінавачанне і яго самога, калі не ў антыпартыйным дзеянні, дык у прытупленні рэвалюцыйнай пільнасці, у гнілым лібералізме. Я бачыў, адчуваў, як Давідзюку цяжка было слухаць усё, што тут казалі пра мяне. Глядзеў на рэдактара і сакратар гаркома Шафранскі, нібы позіркам кажучы: «Выступі, скажы, прызнай і свае памылкі, ты ж бачыш, што камуністы чакаюць тваіго слова».

Давідзюк пачаў здаля, з гісторыі з Лопухавым пісьмом, пра якое добра ведаў і Шафранскі. Гэтае абвінавачанне, выстаўленае супроць мяне Метлюгом, ён адвёў як негрунтоўнае. Адмёў і тое, што я быццам знарок зняславіў у «Звяздзе» «Чырвоны бор» і яго старшыню Гардзея Сінюка. Але затое калі дайшоў да апошніх падзей, дык не мог сказаць нічога ні ў абарону мяне, ні самога сябе.

— Таварышы,— пачаў я сваё выступленне,— я веру ў добрасумленнасць камуніста Касянка. Што б там з ім ні здарылася, я веру ў яго, як у самога сябе.

— Памыляецеся вы, таварыш Шыянок,— перабіў мяне сакратар гаркома,— той, каго вы ведалі як добрасумленнага камуніста, ужо не камуніст.

Ад гэтых слоў у мяне аж пахаладзела ўсярэдзіне: няўжо дзядзька Пракоп дайшоў да такога? Не можа быць! Не можа быць! Здаецца, крычала, пратэставала ўсё ва мне, але сказаў я ціха:

— Што б там ні сталася з таварышам Касянком, я не паверу, што ён вораг. Я яго ведаў як чэснага чалавека і сумленнага камуніста.

— Ну то што ж, заставайцеся пры сваёй веры, але без партыйнага білета,— сказаў Шафранскі і канкрэтызаваў думку: — Ёсць прапанова — за прытупленне класавай пільнасці, за спачуванне шкодніцкім элементам, за скарыстанне ў гэтых мэтах свайго службовага становішча Шыянка Макара Васільевіча выключыць з радоў бальшавіцкай партыі. Пытанне аб дапушчэнні лібералізму з боку таварыша Давідзюка перадаць на разгляд бюро гаркома партыі.

Тут толькі як бы ачомаўся і паднуў руку Шолам Кац.

Клінаватая барада яго трэслася ад хвалявання, нібы Шафранскі прапаноўваў выключыць з партыі не мяне, а яго, Каца. Голас у яго перарываўся.

— Я не згодны з такой прапановай. Макар Шыянок як чалавек і камуніст малады, і адсякаць яго ад партыі было б неразумна. Прапаную абмежавацца суровай вымовай з занясеннем у асабістую картку.

А я дык быццам анямеў. Хацеў нешта сказаць, нешта крыкнуць, нечага папрасіць, але цяжкі даўкі ком крыўды заткнуў мне горла, сляза завалакла вочы, і я нават не бачыў, хто як галасаваў. Са сходу выбег як апантаны: перад вачыма кружылася падвешаная пад столлю люстра, здавалася — падлога, зямля пад нагамі — усё пайшло ходырам. Нічога і нікога не бачачы перад сабой, выбег на асеннюю слоту вуліцы.

Дома была адна цешча. Іра яшчэ не прыйшла з чытальні, стары працаваў у другой змене. Не распрануўшы нават паліто, я ўпаў на канапу і даў волю слязам. Аляўціна Пятроўна дапытвалася, што са мной. Раз-пораз я хапаўся за левую кішэньку, дзе ляжаў партыйны білет — як бы правяраў, ці не згубіў. Білет быў яшчэ пры мне. Старая, мабыць, падумала, што ў мяне нешта сталася з галавой, і забегалася, затрывожылася.

— Я пабягу, Макарка, да суседзей ды пазваню доктара.

— Ніякага доктара мне не трэба,— адказаў я цешчы нават з нейкай злосцю, быццам і яна вінавата ў тым, што са мной сёння зрабілі.

— Сядзь ты, што-небудзь укусі, мо яно і палегчае.

— Не хачу нічога, не хачу ні есці, ні піць.

Прыйшла Іра. Не распрануўшыся, яна доўга глядзела на маю абязвечанасць. На момант яна мне чамусьці здалася далёкай і чужой, чалавекам, які ніколі і нізавошта не зразумее і не ўшчуне майго болю.

— Што з табой? — пытае яна.

— Нічога. Так нешта дрэнна сябе адчуваю.

— Мо што на рабоце благое здарылася?

— Нічога, нічога не здарылася.

— Распрані паліто, ты ж мо больш нікуды не пойдзеш.

Неяк механічна я распрануў паліто і кінуў на канапу. Іра ўзяла яго і павесіла. Я кінуўся ў бакоўку, узяў са стала рукапіс п'есы, прабег вачыма першую старонку, дзе ў слупочак былі напісаны прозвішчы дзеючых асоб. Пер-

шае было — Пракоп Мыслявец, гэтак я назваў таго, чый вобраз стараўся зрабіць дакладнай копіяй дзядзькі Пракопа. Але што сталася з чалавекам, што дзеецца з тым, каму я гэтак верыў, каму я быў удзячны? Няўжо ўсё праўда? Няўжо? У гэтакім роспачлівым роздуме рукі як бы мімаволі перахапілі лісткі рукапісу напалам, перарвалі іх і кінулі ў грубку, дзе кволым сінім агеньчыкам датлявала вуголле. Сінія язычкі полымя ўхапіліся за паперу, і яна запалала.

— Што ты робіш, вар'ят? — крыкнула Іра.

— Тое, што трэба,— адказаў я і, ніцма ўпаўшы на канапу, заплакаў.

Два тыдні блукаў я па горадзе як несамавіты. На дошцы аб'яў рэдакцыі вісеў ужо загад аб звальненні мяне з работы. Пабыў я ўжо і на пасяджэнні бюро гаркома. Там пацвердзілі пастанову партыйнага сходу і загадалі здаць партыйны білет.

А дома ўсё яшчэ не ведалі, што са мной здарылася. Кожны дзень я выходзіў з дому, як звычайна на работу, і вяртаўся ў той жа час, як і заўсёды. Мне хацелася аддаліць, адкласці хоць сямейны суд. Але далей таіць ужо нельга было. У дзень палучкі Іра запытала:

— А дзе твая зарплата? Чаму ты не аддаеш маме?

— Няма ў мяне зарплаты і больш не будзе.

— Як гэта — не будзе? Чаму?

— Таму што я не працую больш у рэдакцыі. Мяне звалілі, выключылі з партыі.

Гэтыя словы пачуў Андрэй Піліпавіч, які сядзеў на канапе і чытаў газету. Ён падхапіўся з канапы і доўга глядзеў на мяне, не моргаючы. Нарэшце, як бы адышоўшы ад знямення, спытаў:

— Як гэта — выключылі? Не разумею.

— Выключылі, дый усё.

— За што?

— Сам не ведаю. За Пракопа Касянка.

— Як гэта? — усё яшчэ ніяк не мог зразумець Андрэй Піліпавіч.

Іра глядзела на мяне, і твар яе то ружавеўся, то бялеў, на вочы не то набягала сляза, не то выкрэсвалася іскра злосці.

— Не разумею,— спакойна казаў цесць.— А пры чым жа ты да таварыша Касянка?

— Не таварыш ён цяпер ні вам, ні мне. Я праявіў прытупленне пільнасці і заступіўся за яго.

Аднак жа стары Леванюк нічога не мог зразумець з таго, што я казаў. Спаважна, спакойна ён падышоў да мяне, узяў за руку і падвёў да канапы.

— Сядзь ды раскажы ўсё па парадку. А ты, Іра, пакінь нас на хвілінку.

Андрэй Піліпавіч сеў побач мяне і гаварыў, распытваў так, быццам хацеў укласці ў свае словы як найбольш спагады, разважлівасці. А я ніяк не мог супакоіцца, утаймаваць сваё хваляванне. Расказваў блытана пра той ліст, што прыйшоў у рэдакцыю, пра Усціма Пачоска і Леўку Здрока, пра тое, што гаварылася на партыйным сходзе, як я там сябе трымаў.

— А ты дарма, сынок, гарачыўся. Трэба было растлумачыць, хто такі Пракоп Касянок, расказаць усё спакойна і падрабязна. І чаму ты дагэтуль дома нічога не сказаў?

— Не хацеў, тата. Я хацеў, каб маё адно сэрца перабалела, усё роўна вы нічым не паможаце.

— Як гэта — не памагу?! — нібы з нейкай злосцю сказаў Андрэй Піліпавіч.— Не быў бы я бальшавіком, каб таго, каго ведаю, як самога сябе, каму веру, мог папусціць у крыўду. Ты не ведаеш, як мне дораг твой Пракоп Касянок. Тады, як мяне паранілі кулакі, ён больш за ўсіх прыняў да сэрца. Аж пакуль я не вычуняў, прыходзіў да мяне ў бальніцу. Я нікому не паверу, што такі чалавек можа стаць злачынцам. Сам пайду ў абком, а калі там не разбяруцца, дык і да ЦК дайду. Такі чалавек, як таварыш Касянок, не можа быць шкоднікам.

— Я таксама гэтак думаю. Але ж са мной, бачыце, што зрабілі. Дык і з вамі могуць такое зрабіць. Вы лепш не мяшайцеся ў гэтую справу.

— Але ж і маўчаць я не магу. І ты, хлопча, не кідайся ў адчай. Партыя не дасць свайго сына ў крыўду, калі ён перад ёй нічым не вінаваты. Трэба ўсё абдумаць, як і што рабіць. Я параюся з сакратаром нашага парткома. Ён чалавек разумны, сапраўдны бальшавік.

Можа б, мы яшчэ доўга гаварылі з Андрэем Піліпавічам, калі б яму не трэба было збірацца на партыйны сход, і стары заспяшаўся.

Затое Іра з Аляўцінай Пятроўнай гаварылі зусім інакш.

— Дагуляўся, даскакаўся. Высока лятаў, ды нізка сеў,— са злосцю пачала дакараць мяне жонка, як толькі стары выйшаў з хаты.— Я ведала, што гэтак будзе. Не

трэба ты мне такі. Не хачу я жыць з чалавекам, якому адмовілі ў палітычным даверы.

Крыўдна, балюча было чуць гэта ад чалавека, якому я аддаў душу, а ён, відаць, шукаючы сабе нейкай карысці, толькі прачыніў сваю для прыліку. Мабыць, праўду кажа народная прымаўка: людзі глыбей за ўсё пазнаюцца ў бядзе.

Але мая бяда, мусіць, не стала бядой Ірынай, бядой Аляўціны Пятроўны. Яны ўдзвюх так на мяне насыпаліся, што хоць ты затыкай вушы ды ўцякай куды вочы глядзяць. І ў мяне выспела думка кінуць-рынуць тут усё і падацца ў вёску, перабыць там нягоду. Але як гэта зрабіць, калі я ні слова не сказаў Андрэю Піліпавічу, не папытаў у яго.

Я сеў за стол пісаць яму ліст: прасіў прабачэння, што, не параіўшыся з ім, раблю гэты, можа, неабачлівы крок. Але жыць пад страхой ягонай хаты больш не магу. Іра і маці глядзяць на мяне як на дармаеда, што хоча ўссесці ім на карак. Ліст я закончыў цёплымі, шчырымі словамі: «Бывайце, дарагі, любы тата. Прабачце, што я так раблю. Гэта не ад крыўды на вас. Я вас ніколі не забуду, што б са мной ні сталася. Даруйце мне яшчэ раз за мой гэты ўчынак, але мне здаецца, што так трэба, так будзе лепш. Ваш Макар Шыянок».

Запячатаны ў канверт ліст я паклаў на стол, а сам, схапіўшы з-пад ложка чамадан, рынуўся за дзверы ў асеннюю ноч, як у чорнае прадонне.

Ніхто мяне нават не памкнуўся спыніць, папрасіць, каб я застаўся ва ўтульным дамку на Спакойнай вуліцы.

## ДУША ПЛАЧА І РАДУЕЦЦА

Два тыдні я не вылазіў з бацькавай хаты, не паказваючыся на вочы рагазінцам. Бацька і мачыха дапытваліся, што са мною сталася. А што я мог расказаць, як мог растлумачыць тое, што апынуўся як бы за бортам жыцця. Мне здавалася, што няма для чалавека горшай кары, як выключыць яго з грамадскага інтарэсу, пазбавіць тае працы, якую ён любіць. Такою караю я цяпер і быў пакараны. Здавалася — больш ні за што не возьмуцца мае рукі, больш ні да чога не прыгорнецца маё сэрца.

Бацька ў мяне настойліва дапытваўся, што здарылася, і нават яму я не мог адказваць спакойна.

— Ат, тата, не кройце мае душы гэтымі роспытамі. Яна і так баліць.

— Дык што ты ў нас рабіцьмеш, калі прагналі са службы? — пытала мачыха.

— Тое, што і ўсе людзі робяць. От паеду ў гала па сена, у лес па дровы, а прыйдзе вясна — пайду араць.

— А божачка ты мой,— успляснула рукамі мачыха,— дык гэта ты мо думаеш асесці тут у нас? Вучыўся-вучыўся, і ўсё кату пад хвост?

— Думаю і асесці, а што ж мне рабіць — у палонку кідацца? — са злосцю сказаў я, ведаючы, чаго дапытваецца Вара: ёй, пэўне, боязна, што калі я асяду тут, у Рагазіне, дык давядзецца дзяліць бацькаву хату, гаспадарку.

— Не дажджэш ты, каб тут асесці. Як хату ставіць, дык цябе тут не было. Ты на лёгкім хлебе сядзеў сабе, а мы з бацькам жылы рвалі.

— Не трэба мне ваша хата,— агрызнуўся я.

— Дык дзе ж ты будзеш тут жыць?

— Будан пастаўлю і буду жыць.

Ад такога адказу ў Вары, мабыць, трохі адлегла ад сэрца, і, яна, як звычайна, накінулася на бацьку:

— Гэта ж дроў ні палена на дрывотніку, а ён сабе і не дбае. Няхай бы схадзіў да старшыні, папрасіў каня ці валоў якіх ды з'ездзіў па дровы.

— А хай яго двор гарыць, таго старшыні. Хіба ў яго дапросішся?

— Тата, я схаджу,— аж узрадаваўся я, што выпадае сякі-такі занятак.

— Схадзі, мо ён цябе і паслухае,— узрадаваўся таксама і бацька, што з галавы спадае адзін клопат.

У праўленні калгаса было людзей не вельмі: сядзеў галоўны бухгалтар Асіпёнак, дзве дзяўчыны-рахункаводкі, якіх я нават не ведаў. Усцім Пачосак сядзеў у сваім кабінеце-бакоўцы, а перад дзвярыма, выцягнуўшыся на ўвесь рост, смачна пазяхаў ягоны сабака. Асіпёнак павітаўся, павіншаваў мяне з прыездам, запытаў, ці надоўга я наведаўся да бацькі. Я нічога не мог адказаць на гэтае, цяпер самае балючае для мяне запытанне.

— Ат, прыехаў, холад перасяджу ў бацькавай хаце,— адказаў я.— Ды ў хаце не вельмі цёпла, ні палена дроў няма. Старшыня тут?

— Тут, у кабінеце,— і Асіпёнак паказаў вачыма на дзверы.

Пастукаў у дзверы.

— Заходзь! Хто там? — пачуўся сіпаваты голас Пачоска.

— З прыездам, Макар Васільевіч,— павітаўся Пачосак, калі я ўжо зайшоў у кабінет.

— Дзякую.

— Надоўга да нас?

— Хто яго ведае, можа, і надоўга.

— Я ўсё ўжо ведаю. Спачуваю табе. З-за таго бязногага чорта табе вунь як давялося. З-за таго шкодніка. Я ведаю ўсё. У райкоме ўжо вядома, што цябе выключылі з партыі.

— Я не па гэтай справе зайшоў да цябе, Усцім Адамавіч,— стараўся я перавесці гаворку на іншае.— У бацькавай хаце хоць ваўкоў ганяй, а на дрывотніку ні палена дроў. Можа б, ты даў каня якога.

— Каня то наўрад. Ты ж ведаеш, што той вылюдак усіх коней нашых летась папляжыў. Сапу нейкага з ветэрынарам напусцілі, а тыя, што засталіся, вельмі занятыя. Хіба валоў возьмеш?

— А мне ўсё роўна,— згадзіўся я.

Я запрог у сані-грынджалы пару сухарэбрых валоў і выгнаў іх на вуліцу. Пакручваючы над жывёлінай стусінай, я раз-пораз пакрыкваў на іх: «Цоб, цабе!» Не вельмі то я і кіраваць умеў гэтымі валамі, не дужа даўно ў калгасе завялі іх парак з дзесяць. На іх вельмі добра вазіць цяжкія вазы, а вось ехаць куды-небудзь у вялікую дарогу, дык бяды не абярэшся. Таму ў калгасе на іх вазілі гной на блізкія палеткі. Хоць на іх і цягнешся, як муха па смале, затое воз накладзеш ужо такі, што мо ніводзін конь з месца не зрушыць.

Праязджаючы паўз былую Лукашову хату, у якой цяпер мясцілася праўленне калгаса, я ўгледзеў на ганку старшыню, Асіпёнка і Леўку Здрока, які немаведама адкуль узяўся. Яны глядзелі, як я паганяю валоў, і аж за бокі браліся ад рогату. Я пачуў кплівыя словы:

— Бач, Васілёў прафесар валам хвасты круціць. Дастукаўся, дафанабэрыўся. Так яму і трэба,— пісклява казаў Леўка.

— Ён на іх прывязе дроў? Трасцу ён прывязе. Заначуе на дарозе, — параготваў Пачосак.

Я зрабіў выгляд, што нічога не чуў. Нават не азірнуў-

ся, каб не паказаць свае крыўды. Не азірнуўся яшчэ мо і таму, што згледзеў: насустрач мне ішла жанчына, і як мне здалося — Марылька. Яна была захутана ў хустку-канаплянку, і твару не відно было, але я пазнаў па постаці, што то была не хто іншая, як яна. Неяк трошкі перавальваючыся з боку на бок ішла яна. О, я гэтую хаду добра ведаў яшчэ з далёкіх год дзяцінства. Марылька, мусіць, не чакала мяне гэтак сустрэць, бо, як толькі мы параўняліся, спынілася як укапаная. Нават вочы працерла, каб не памыліцца.

— Макарка, няўжо гэта ты? — ледзь не крыкнула яна.

— Я, Марылька, я.

— Дык куды ж гэта ты валоў гоніш? — як бы не ведаючы, за што зачапіцца словамі, пытала Марылька.

— Дадому. На світанні па дровы паеду.

— Я чула, што ты прыехаў, але думала, што людзі так сабе плявузгаюць.

— Прыехаў, Марылька, прыехаў і, мусіць, надоўга, а мо і назаўсёды.

— От і добра.

— Што добра?

— Што ты прыехаў. Мо цяпер і да мяне калі зойдзеш.

Мяне дзівіла, чаму Марылька нічога не пытае пра Іру, пра тую прычыну, якая прывяла мяне ў Рагазін. Мабыць, яна ўсё ўжо ведае. У вёсцы ж ні ад кога нічога не схаваеш, не ўтоіш. Даволі аднаму чалавеку ўведаць, як неўзабаве будуць ведаць усе. Мне нават на момант здалося, што Марылька рада майму гору. Але я гэтую думку адагнаў, бо разумеў: калі яна і рада чаму, дык не гору, а таму, што я прыехаў, што яна бачыць мяне зноў тут, на рагазінскай вуліцы.

— Дык ты едзь, Макарка, гані сваіх валоў, а то вунь, бачыш, людзі ўжо ў вокны глядзяць. Едзь, а як прыедзеш, то зайдзі да нас. Я буду цябе чакаць.

— Добра, Марылька. Дзякую,— сказаў я і зацобкаў на свой рагаты транспарт.

Бацька выйшаў на ганак. Ён доўга глядзеў на валоў, на мяне.

— Дык што ён, трасца яму, даў? — выказаў сваё абурэнне бацька.

— Як што? Валоў.

— Добрыя валы. На гэтых валах адно па смерць ездзіць, дык ніколі не памрэш.

Бацька падышоў, нават памацаў рукою палавога вала, палез пад ярмо.

— На гэтым жа во чорце ніхто не ездзіць.

— Чаму?

— На ім без шыла і ў дарогу не выбірайся. Гэта ён, трасца яго матары, на здзек, на кепікі табе яго даў. Маўляў, папасмяёмся.

— Чаму, тата?

— Увесь Рагазін гэтага палавога ведае. От выедзеш за вёску, дык ён брык і ляжа — і хоць ты яго за хвост падымай. Адно хіба шылам пачнеш калоць, дык успараш. Натурлівы гэтакі, чорт.

— Я сам паеду па дровы, тата, ён у мяне не вельмі ляжа,— сказаў я з такой упэўненасцю, быццам я на гэтых валах увесь век свой ездзіў.

— Набярэшся бяды. Каб яшчэ дзе недалёка ехаць, а то аж у Плаўе.

Як бы там ні было, а па дровы я з'ездзіў і прывёз-такі ладны воз сушняку.

Пахмурыя зімовыя дні з завеямі і завірухамі, хоць і надта кароткія, мне здаваліся доўгімі. Асабліва доўгімі, нават бясконцымі былі ночы. Удзень у мяне яшчэ быў сякі-такі занятак: то ездзіў у гала кіламетраў за пятнаццаць па сена, то ішоў на ток працаваць ля малатарні, дык там у працы, на людзях і дні неяк спарней ішлі. Вечарамі ж я не хадзіў нікуды. Чытаў бы, калі б было што, але ў рагазінскай чытальні ўсяго каля сотні кніг, і я ўсе перачытаў ужо. Ды пры лямпе і чытаць не тое што пры электрычнасці. Электрастанцыя не працавала — не нарыхтавалі торфу. Зноў жа такі: калі я і браўся за якую кніжку, дык нічога з таго, што чытаў, не асядала ў памяці. Галава была занята іншым клопатам, ён выцясняў з памяці тое, што павінна было зараз запасці ў яе. А я ўсё думаў і думаў, мне толькі адно рупіла: як жыць, як быць далей. Надумаў быў схадзіць у рэдакцыю раённай газеты і папрасіцца на працу хоць карэктарам. Усё-такі было б нешта пэўнае. Рэдактар спагадліва выслухаў маю споведзь і сказаў:

— Ведаеце, я падумаю. Зайдзіце дні праз тры-чатыры.

Даўшы рэдактару падумаць як мага больш, аж шэсць дзён, я зноў з'явіўся да яго.

— Разумееце, на вялікі жаль, работы ў нас ніякай няма,— як бы просячы прабачэння ў мяне, казаў рэдактар, хоць я ведаў, што яму во як патрэбен карэктар.

Зусім занапаў я духам: няўжо нічым і ніколі не давяду, што я сумленны чалавек?

У той самы дзень я вырашыў праведаць Анастассю Паўлаўну і хоць тое-сёе дазнацца пра дзядзьку Пракопа. У думках я сябе дакараў, што дагэтуль не выбраў часу зайсці да жанчыны і хоць трошачкі раздзяліць яе гора. Мне карцела: можа, яна што больш пэўнае ведае пра дзядзьку Пракопа, з лёсам якога цяпер гэтак знітаваўся і мой.

Пракоп Касянок паставіў сабе хату ў Верамеевічах на Зарэчнай вуліцы. Гэта быў не вельмі які там асабняк — проста сялянская хата з трохсценам, невялічкі панадворак з агародам. На агародзе відны былі паабвязаныя на зіму ад зайцоў маладыя дрэўцы саду. Відаць, чалавек надоўга тут сяліўся, што аж сад завёў.

Я адчыніў брамку і адразу ў акне ўбачыў прыплюснуты носам да шыбіны, трошкі спалоханы твар хлопчыка. Неўзабаве на ганак выбегла Анастасся Паўлаўна. Выгляд у яе быў разгублены, бы яе хто напалохаў.

— Гэта вы? Гэта ты, Макарка?

З першага позірку я заўважыў на твары жанчыны многа маршчын. З таго часу, як я не бачыў яе, жанчына вельмі паддалася старасці. Сівыя пасмы валасоў выбіваліся з-пад хусткі.

— Заходзь, Макарка, у хату, заходзь, не мінай дзвярэй,— запрашала гаспадыня.

— А хіба цяпер дзверы вашы хто мінае?

— Ды некаторыя, што працавалі разам з Пракопам, дык робяць выгляд, што і не ведаюць мяне. А рагазінцы, дзякаваць ім, не мінаюць хаты, і не з пустымі рукамі прыходзяць.

У хаце было непрыбрана. Анастасся Паўлаўна заўважыла маё здзіўленне і растлумачыла:

— Гэта ж з таго часу, як яго няма, дык нешта рукі не бяруцца ні за што.

— А вы што чулі ці ўведалі пра дзядзьку Пракопа? — з нецярплівасцю пытаў я.

— Татка наш хутка прыедзе з камандзіроўкі, гасцінец мне прывязе. Ён мне заўсёды гасцінцы прывозіць,— ледзь не закрычаў Дзімка, якога я, хоць ні разу не бачыў, пазнаў па вастраватым носе, па трошачкі выцягнутым твары, па ўсёй хлапечай паставе, што гэта не чыё іншае дзіця, як Пракопава.

— Прыедзе, прыедзе, сынок,— не стрымала слёз Анастасся Паўлаўна.

— Мамка, а чаго ты плачаш? Як ляпнула брамка, дык я думаў, што татка наш прыехаў. Аж гэта дзядзя,— Дзімка гэта вымавіў так, быццам пакрыўдзіўся на мяне, што я раней за яго татку бразнуў брамкай.

— Прыедзе, прыедзе наш татка. А тым часам ідзі ў той пакой, пагуляй там адзін, а мы пагаворым з дзядзькам Макарам.

Дзімка паслухаў маці, а яна, як толькі хлопчык зачыніў дзверы, дала волю слязам.

— Даражэнькі мой, за што ж гэта на нас напасць такая. Ці мы каго ўгнявілі, ці мы каго ўкрыўдзілі.

— Не трэба, цётка Стася, не трэба плакаць. Хіба ж слязьмі гору паможаш? — угаворваў я Пракопіху.— Вы лепш скажыце: можа, што чулі, можа, што ўведалі пра дзядзьку?

— Чаму ж не чула, чаму ж не ведаю. Ён жа ні богу душой ні ў чым не вінаваты. Ён жа чысты, як той голуб... На прачытай, Макарка,— і Анастасся Паўлаўна палезла ў шуфляду камода, дастала адтуль кавалачак паркалю, згорнутага, як насоўка, і падала мне. Я не разумеў, што гэта такое і навошта яна падала мне гэты паркаль.

— Разгарні, разгарні, Макарка. Гэта ж як вывозілі яго адсюль, дык я кажух дала яму і трохі сухароў, а ён мне кінуў з машыны бялізну. Я мыла яе і знайшла во гэтае.

З нецярплівасцю я разгарнуў паркаль і ўгледзеў напісаныя на ім простым алоўкам дробныя, як мак, літары. Напісана было густа, відаць, чалавек эканоміў месца, каб як мага больш сказаць сваім: «Любая Стася,— чытаў я.— Не вер нікому, што я вораг. Я быў бальшавіком і застануся ім. На мяне напаклёпнічалі Пачосак са Здрокам. Пацалуй за мяне Дзімку, але не кажы яму, дзе я і што я. Няхай дзіцячая душа будзе спакойная. Абдымаю і цалую вас».

Некалькі разоў я перачытаў гэты неўтаймоўны боль, гэты крык душы блізкага мне чалавека.

Слёзы накаціліся на вочы, і я не мог стрываць, каб не даць ім волі, хоць мне і не хацелася кроіць душы няшчаснай жанчыны.

— Не плачце, цётка Стася,— угаворваў я, як мог, Анастассю Паўлаўну.— Дзядзька ж Пракоп піша, што ён ні ў чым не вінаваты, дык вернецца. Разбяруцца.

— Пакуль разбяруцца,— захліпалася слязьмі жанчына,— дык хіба лёгка яму? Якое там у яго здароўе. Ён жа слабы, нядошлы. А што ў цябе чуваць, Макарка?

— А тое, Анастасся Паўлаўна, што я таксама за дзядзьку Пракопа пацярпеў.

— Чым?

— Тым, што заступіўся за яго, дык мяне з партыі выключылі, з работы прагналі.

— Авохці мне?! — успляснула рукамі Анастасся Паўлаўна.

Я падрабязна расказаў жанчыне пра пісьмо ў рэдакцыю, пра сваю справу.

— Бедненькі хлопчык,— паспачувала мне цётка Стася.— Дык што ж ты цяпер рабіць будзеш?

— Буду змагацца і за сябе, і за дзядзьку Пракопа.

— Гэта добра. А як жа ты жыць будзеш?

— Як-небудзь пераліплю ў бацькавай хаце, пакуль дамагуся свайго.

А ў мяне сапраўды настрой палепшыўся, бо калі я дагэтуль яшчэ надвая думаў: можа, і сапраўды дзядзька Пракоп па сваёй сялянскай прастаце дзе-небудзь улез у якую непрыстойную справу, дык, прачытаўшы яго запіску (а я верыў кожнаму слову яе, бо вельмі добра ведаў гэтага чалавека, ведаў яго душу), упэўніўся, што ён, як і быў, застаўся сумленным камуністам, і я не памыліўся, што стаў на абарону яго. Я верыў, верыў усёй душой, што ўсё абыдзецца добра, усё скончыцца як мае быць. Мо на момант удыхнуў я гэтую веру і ў Анастассю Паўлаўну. Яна перастала плакаць і звярнулася да мяне:

— А я ў цябе не папытала, можа, ты і есці хочаш?

— Не, дзякую, цётка Стася, я зараз пайду дадому, дык дома і паабедаю.

— Калі тое дадому ды пакуль ты дойдзеш.

— Мамачка,— вырваўся з другога пакоя Дзімка,— давай абедаць. І дзядзя з намі будзе абедаць. Ён жа ад нашага таткі прыехаў. А чаму мне татка ніякага гасцінца не прыслаў?

Я пашкадаваў, што не зайшоў у магазін і не купіў якіх цукерак. Але ў мяне было такое на душы, што дзе ты там успомніш пра цукеркі. Анастасся Паўлаўна адчыніла засланку печы, каб даставаць абед, а я хуценька накінуў паліто і ўжо з парога кінуў:

— Бывайце. Шчасліvenька жывіце. Я яшчэ зайду да вас.

— Куды ж ты, Макарка, паабедаў бы,— ляцела мне наўздагон.

— Дзякую, дзякую,— ужо за дзвярыма казаў я.

А есці мне сапраўды хацелася: раніцай я выпіў кубак малака, дык на тым і загавеў.

* * *

Ператрашчалі ўжо студзеньскія маразы, адшугалі лютаўскія мяцеліцы, і сонейка павярнула на вясну. Ужо звінелі са стрэх капяжы, снег пацяжэў і асеў на зямлю. Ужо раніцамі неба ружовілася бляскам вясновага сонца. Ва ўсім адчувалася блізкасць вясны, і людзі неяк палагаднелі. Яны працавалі больш увішна, больш весела. А я ўжо два тыдні седнем сяджу ў хаце, нават не выбраўся зайсці да Марылькі, хоць і абяцаў ёй. Я пісаў і пісаў, закрэсліваў, камячыў аркушы паперы і кідаў іх у грубку. Я пісаў споведзь душы, і хацелася напісаць так, каб той, хто будзе чытаць яе, не мог не паверыць. Я пісаў не толькі пра сябе, пра сваё мінулае і цяперашняе. Я пісаў пра дзядзьку Пракопа, пра тое, што ён ні ў чым не вінаваты. Я пісаў пра Усціма Пачоска, пра Леўку Здрока, пра тое, як яны леташняй зімой прадавалі сена направа і налева, набівалі грашыма кішэні, а потым, каб самім не адказваць за тое, што ад бяскорміцы павыдыхалі калгасныя коні, усю віну ўсклалі на Пракопа Касянка, па заданню якога быццам верамееўскі ветэрынар Цыбулька пазаражаў коней сапам. Я цяпер усё гэта ведаў пэўна. Пра ўсё гэта пошапкам, каб не дайшло да Усцімавага вуха, гаварылі паміж сабой рагазінцы.

Я гэтак урупіўся ў пісанне, што нічога не чуў і не бачыў. Ужо было спісана аркушаў з дзесяць паперы. У пярэднім пакоі ціха паміж сабой гаварылі мачыха з бацькам. На момант, шукаючы новай думкі, я адарваўся ад паперы, і вуха маё ўлавіла:

— Дакуль жа гэта ён будзе сядзець на тваёй шыі? Няхай то малыя не злазяць з карка, дык яны ж яшчэ рабіць не ўмеюць, а то ж гэтакі байбус уссеў,— казала мачыха гэтак, каб мог пачуць і я.— Ён, калі пойдзе на ліха, калі ты будзеш маўчаць як ёлапень, дык і нявестку табе яшчэ ў хату прывалачэ.

— Дык ён жа сёе-тое робіць, хіба ж ён сядзіць склаўшы рукі? — сказаў бацька.

— Хіба ты якую карысць маеш з таго, што ён робіць?

— А чаму ж не маю? Ён жа от і дроў навазіў, ён жа і сена за мяне вазіў.

— А ты і рады, уломак. Табе абы самому не рабіць. А от прывядзе ў хату жонку, прасячэ другія дзверы. А хіба ж ён на гэтую хату сілу клаў, хіба ж ён жылле рваў, як ты? На гатовенькае прыехаў.

Мне хацелася крыкнуць: «Не трэба мне твая хата! Дай мне перасядзець нягоду!» Але я маўчаў, быццам нічога і не чуў, хоць мачыха гаварыла, разлічваючы на тое, каб я слухаў і, можа, нават не змоўчаў. Была б падстава, прычына пасварыцца і ў сварцы падбухторыць бацьку супроць мяне. Можа б, я і не змоўчаў, калі б і бацька стаў на бок мачыхі, але я чуў яго словы:

— Дык куды я яго выганю? Ён жа мне сын, а не навалока які. Не пагрызе ж ён вуглы ў гэтай тваёй хаце.

— Які ён табе сын? Навалока, дый годзе. Валачыўся, валачыўся па свеце, а калі стала непярэліўкі, дык ён пад бацькава крыло.

Я не ведаю, да чаго б дайшла мачышына буркатня, пэўне што да сваркі, у якую, відаць, і я ўмяшаўся б, калі б не ляпнула клямка і не ўвайшоў у хату Усцім Пачосак. Я пазнаў яго па прапітым сіпаватым голасе.

— Дзень добры вам у хату, гаспадары.

— Добры дзень, старшынька,— змяніла адразу сваю буркатню на лагодную ліслівасць мачыха.— Праходзьце ў нашай хаце, госцем будзеце. Сядайце.

— Гэ, якім там госцем. Хіба ж я гасцяваць прыйшоў? Дзядзька Васіль, а дзе ваш малодшы гаспадар?

— Які гаспадар? — здзівілася мачыха.

— Ну, Макар.

— Дык які ён у чорта тут гаспадар. Якая ў яго тут гаспадарка! Хіба ён яе нажываў, хіба ён да яе крывавага мазаля даклаў? — залямантавала мачыха, мусіць, бачачы ў тым, што мяне так назваў старшыня, пацвярджэнне сваіх трывог.

— У тым пакоі сядзіць, піша нешта,— спакойна сказаў бацька.

Я чуў, як пад Усцімам крактануў услон, чуў яго крокі да дзвярэй таго пакоя, у якім сядзеў я. Хуценька пераклаў стосік спісанай паперы так, каб не было відаць, што там напісана, і падрыхтаваўся сустракаць госця.

— Добры дзень, Васільевіч,— павітаўся Усцім.

— Дзень добры, Адамавіч,— адказаў я яму ў тон.

— Даволі табе тут аднаму пісарствам займацца. Я от прыйшоў да цябе, каб мо ты пайшоў да нас у кантору працаваць. Ты ж, як той казаў, чалавек вучаны, рабфак прайшоў. Не тое што я — прайшоў тры класы і адзін калідор і на гэтым спыніўся. Дык от мы падумалі, можа б, цябе ў бухгалтэрыю паставіць.

— А Асіпёнка куды? — спытаў я так, быццам ужо згадзіўся на прапанову.

— Ён будзе ў цябе за памочніка. Які з яго бухгалтар — два месяцы павучыўся на курсах. Ён у сваёй гаспадарцы не можа ўсяго палічыць сам, жонка памагае. Дык мы от параіліся і парашылі цябе папрасіць. На чорта лысага табе валам хвасты круціць, з касою нуп ірваць, калі ты можаш у цяпле і ў дабры сядзець, сабе анігадкі.

Усцім казаў мне гэта, а сам кідаў косым вокам на стосік паперы. Яго рука нават пацягнулася ўжо да лістоў:

— А што бо ты гэта ўсё пішаш?

— Так сабе. Я ж прывык пісаць у рэдакцыі, дык і тут не магу без пісаніны.

— Мо рóман які пішаш?

— Нешта накшталт гэтага.

— Хіба ты з гэтае пісаніны хлеба наясіся? Лепш ідзі да нас у кантору, дык будзеш мець і хлеб і да хлеба.

— Дзякую, Усцім Адамавіч, але гэта не для мяне.

Тым часам, пакуль мы гэтак гаварылі, мачыха нарэзала сырога прасоленага сала, унесла місу гуркоў, і на тым стале, дзе я пісаў, паявілася бутэлька самагонкі.

— Навошта гэта вы, цётка? — штучна здзівіўся Усцім.

— Ты ж такі ніколі і не пагасцяваў у нас па-людску. А хіба ж мы горшыя за ўсіх людзей, што ты нашай і чэсці не хочаш прыняць.

— Дык чаму яе не прыняць ад добрых людзей,— згадзіўся Пачосак.

А бацька наліваў ужо ў шклянкі мутнаватае пітво. Пачокаліся. Я каўтануў адзін глыток. Адпіў трошачкі са шклянкі і бацька. Затое Усцім да дна спаражніў сваю шклянку і аж закхекаў:

— Ды і моцунак жа! Ці ты гэта, дзядзька Васіль, сам гнаў?

— Чорт яго даў самому гнаць. Гэта Варын брат яшчэ неяк увосень выгнаў мне, дык яна і стаяла. Піткоў у нас добрых няма.

— А хіба Макар благі піток?

— Дзе яму піць, калі ў яго такі клопат.

Бацька наліў Усціму другую, поўную, як вока, шклянку. Зноў чокнуліся, аж пошчак пайшоў па хаце. Я сваю адставіў і зірнуў на акно: там нешта шкрабала па шыбе. Дзіва, дый годзе: Усцімаў ваўкалак, стоячы заднімі лапамі на прызбе, тыцкаўся мордай у шыбіну і шкроб кіпцямі аб шкло.

— Пайшоў вон, каб ты выпруціўся! — згледзеўшы сабаку, закрычаў Усцім.— Гэта ж, падла, спанатрыўся, як толькі я дзе за стол, дык і ён там павінен быць.

Спаражнілі і другую бутэльку мутнаватага першаку. Уласна кажучы, адзін Усцім спаражніў, бо мая шклянка — як бацька наліў, гэтак і засталася недапітая. Не дапіў свае і бацька. Затое Усціма, як толькі ён устаў з-за стала, пачало кідаць на ўхабы, хоць ён і напружваў усю сваю волю, каб трымацца на нагах.

— Дык, значыцца, не хочаш, Макар Васільевіч, прыняць маю прапанову?

— Дзякую, Усцім Адамавіч, але ў мяне зусім іншыя планы.

— Ну то як сабе хочаш. Я па шчырасці хацеў табе памагчы, каб ты жылы не рваў на простай рабоце. Усё ж такі ты чалавек вучаны.

— Дзякую, дзякую,—адказаў я так, каб Усцім хутчэй выбраўся з хаты.

Мне прыйшло ў галаву, што Усціма сюды прывяла ніякая не шчырасць, пра якую ён так распінаўся, не спагада да мяне. Ён, мусіць, прачуў, што я распытваў пра яго нячыстыя справы, і мо хацеў уцягнуць мяне ў іх, каб і маё рыльца было ў пушку, тады яму спасабней было б самому выкручвацца. Ён бы мог мне заткнуць рот. Гэтага не разумелі і не маглі разумець ні мачыха, ні бацька. Як толькі Усцім выйшаў з хаты, Вара аж заенчыла, нібы ёй наступілі на мазоль:

— Дык чаму ты не прыняў ад яго ласкі? Чалавек да цябе з добрым сэрцам, а ты на яго воўчым вокам глядзіш. Хіба ты зломак пасядзець у той канторы? Хіба табе што абыходзіла б, калі б ты працаваў там?

— Мама, маўчыце, вы нічога не разумееце.

— Маўчыце? Дык чаго ж я і дакуль буду маўчаць? Гэтакі байбус сеў на бацькаў карак, ды яму яшчэ і маўчы. Хіба ж на цябе тут напрацавана, нагатавана?

— Нічога мне не трэба вашага,— зазлаваў я.

— Не трэба, не трэба, а сядзіш жа ды вачыма све-

ціш, каб паднесла есці. Хіба ж адзін бацька наробіць на малых ды яшчэ на цябе?

— Не трэба мне нічога вашага. Дайце мне толькі пераседзець ліха.

— Дык колькі ж ты будзеш сядзець, каб ты ўжо сеўдый не ўстаў!

Я не хацеў назаляцца з мачыхай — таму хуценька накінуў паліто і выйшаў на вуліцу. Вечарэла. Чырвоная прозалаць захаду фарбавала не толькі край неба, але і ўсё наваколле ў мяккі ружовы колер прадвесня. Радавацца б, захапляцца такой гамай фарбаў. Але мне было не да гэтага. Сэрца як бы пасыпана было нечым горкім-прагоркім. Паплёўся вуліцаю. Дайшоў да Марыльчынай хаты і спыніўся. Кінуў сабе дакор, што за такі час не выбраўся зайсці, хоць у сэрцы, у думках і трымаў яе. Мне проста сорамна было несці сюды сваю скруху, свой душэўны боль. На гэты раз неяк як бы сама рука бразнула клямкай, і я адчыніў дзверы хаты.

— Добры вечар вам,— павітаўся.

— Добры вечар. Хто бо гэта? — не пазнала мяне Марыльчына маці.

— Хіба ж вы мяне не пазналі, цётка? Макара Васілёвага хіба не пазналі?

— Дзе бо ты пазнаеш? Калі то я цябе бачыла? Ды і прыслепаватая я трохі стала.

Можа б, Марыльчына маці запытала, чаго я прыйшоў у хату, але я сам папярэдзіў гэтае запытанне:

— А дзе ж ваша Марылька?

— У той хаце нешта робіць. Праходзь, праходзь, хлопча,— запрашала старая.

Добра мне было з Марылькай. Ні з кім яшчэ я гэтак добра сябе не адчуваў, ніхто мяне яшчэ так не разумеў, як яна. Гэта мо таму, што ў яе самое жыццё не вельмі ўдалося. А мо таму, што з самага дзяцінства сэрцы нашы хінуліся адно да аднаго? Не запальваючы святла, мы праседзелі да поўначы. Я расказаў усё пра сябе, пра сваё няшчасце, пра Іру. Марылька, уздыхаючы, слухала, і я адчуваў, што мой боль быў і яе болем. Мне хацелася гаварыць і гаварыць, нават душу вывернуць, каб Марылька паверыла кожнаму майму слову. Але яна і так верыла, бо, перабіўшы маё апавяданне, з нейкай нават ноткай вясёласці ў голасе сказала:

— Макарка, а я цябе чакала ўсе гэтыя гады. Я ведала, што ты да мяне прыйдзеш. Хіба, ты думаеш, мне і чала-

века не знайшлося б замуж выскачыць? Яшчэ колькі іх знаходзілася, і добрых нават, але я ім усім адпор давала. Сэрца падказвала, што ты вернешся, прыйдзеш да мяне.

А я не мог ні яе з рук выпусціць, ні сам адарвацца ад Марылькі. Ды і яна, відаць, не вельмі хацела вырывацца з маіх рук, адрываць свае вусны ад маіх, бо не выяўляла той рашучасці, якая бывае тады, калі жанчына вымушана адбівацца ад ласкі нялюбага ёй чалавека.

— Макарка, ідзі ўжо дадому. Заўтра яшчэ прыйдзеш,— горача шаптала яна.

— Не, любая, заўтра не прыйду. Заўтра я пайду ў Хвойнае.

Баючыся, каб тут, у Верамеевічах, не перахапілі на пошце мой ліст на імя першага сакратара Цэнтральнага Камітэта Кампартыі Беларусі, бо, як мне здавалася, тут за кожным крокам маім сачылі, я надумаўся занесці яго ў Хвойнае і там, са станцыі, адправіць заказным. І гэта трэба было зрабіць не пазней заўтрашняга дня, бо ліст ужо быў напісаны, заставалася адно перапісаць начыста старонкі са тры. Каб не прынёс нячысцік Усціма ў нашу хату, дык я перапісаў бы ўжо.

І ў самым беспрасветным горы чалавек шукае пробліску радасці. Такім пробліскам стала для мяне Марылька. Нахапілася ўжо і сапраўдная вясна: аджурчалі па вуліцах і каляінах дарог талыя ручаіны, аздобіліся ў бель пялёсткаў сады, высыпала на дрэвах зялёнае хараство лісточкаў. Ціхае вясновае неба настойліва штурмавалі вестуны радасці — жаўрукі. Работы ў людзей стала столькі, што каб яшчэ па дзве рукі кожнаму, дык і тыя б знайшлі сабе занятак. Мне даручылі весці ўлік таго, што рабілі трактарысты, і адначасова наглядаць за якасцю работы. Беручы на сваю душу грэх, некаторыя трактарысты Верамеевіцкай МТС аралі не на тую глыбіню, што трэба; пры сяўбе рабілі абсеўкі, гонячыся адно за тым, каб ім больш запісалі мяккага ворыва, а значыць, і больш заплацілі. І хоць трактарысты на мяне пазіралі скоса, я быў няўмольны ў патрабаванні таго, каб яны рабілі сваю работу як мае быць. Аднаго разу я нават склаў акт, і прымусілі трактарыста перакультывоўваць два гектары поля. За дзень я так натамляўся, бегаючы ад машыны да машыны, што пад вечар ледзьве цягаў ногі. Але дома мне не сядзелася, па-першае, таму, што мачыха не давала мне быту сваёй буркатнёй: яна, мусіць, такі наважыла выжыць мяне з бацькавай хаты; па-другое, мне карцела, ой як карцела

Марылька. Дні мае здаваліся доўгімі-доўгімі, і я ніяк не мог дачакацца вечара. Цяпер нам з Марылькай быў прастор, не трэба было і ў хату заходзіць. Мы не сядзелі на вуліцы, не хадзілі на музыкі. Нам пакуль не хацелася, каб людскія вочы бачылі нашу радасць, яны маглі б спалохаць яе кплівай усмешкай, калючым позіркам. Нам добра было на прасторы поля за вёскай. Ахінёныя сінізною прыцемкаў вясновага вечара, мы ішлі полем, самі не ведаючы куды і чаго. Мы ішлі таму, што нам было прыемна слухаць цішыню поля, наглядаць залаты засеў зорнага неба. Нам было невыказна добра нават тады, калі мы, узяўшыся за рукі, ішлі і маўчалі, бо ў нашых сэрцах гучала ціхая песня без слоў.

Марылька ўсё ўжо ведала пра маё жыццё, адно я не казаў ёй, што з-за мачыхі ў бацькавай хаце мне няма ніякага быту. Але сёння не ўтрымаўся і расказаў.

— Любы мой,— аж ускрыкнула Марылька,— дык чаго ты там сядзіш, паневяраешся?

— А дзе ж я дзенуся?

— Як дзе? Пераходзь да нас. Усё роўна мы цяпер з табой не разлучымся.

— Добра ты кажаш — пераходзь. А што скажуць тваe бацька і маці, як яны на гэта паглядзяць?

— Дурненькі мой,— абышлася Марылька са мной як з маленькім,— яны ўжо ўсё ведаюць, я ім усё расказала.

— А яны што? — не цярпелася мне.

— Тата кажа: «Няхай жыве ў нас, хата вялікая». А тым часам пакуль Хведзя вернецца з арміі, дык мо і ты дзе на якую службу станеш.

— Любая мая! Рыбка мая залатая! — закружыў я ў абдымках Марыльку.

Адны мо зоры гэта толькі і бачылі. Адзін мо толькі вясновы вецер і падслухаў тое, што мы казалі адно аднаму. Пэўне ж што падслухаў, свавольнік, і разнёс па ўсім белым свеце, бо назаўтра ўвесь Рагазін як у званы звaніў, што мы з Марылькай пажаніліся, што я як бы ў прымы пайшоў, бо перабраўся на жытло да Марылькі.

Я напісаў быў аж два лісты Іры, але яна хоць бы слова ці паўслова ў адказ. Напісаў быў і Андрэю Піліпавічу. Той адказаў, што ўжо двойчы быў у абкоме па справе Касянка, але пра Іру таксама ні слова. У мяне не заставалася ніякага сумнення, што Іра зусім выраклася мяне.

Мне так добра было жыць пад Марыльчынай апекай, што я падумваў ужо: мо не варта было нікуды і пісаць, а

проста асесці тут, у Рагазіне, і жыць сабе анігадкі, як жыве мой бацька, як жылі дзяды і прадзеды, за ўсё сваё жыццё мо нават не ад'ехаўшы і за сотню вёрст ад ціхай вясковай аселіцы. Але не, я ўжо не мог так жыць. Я трохі пабачыў свету, я трохі паспытаў тае спакусы, якая вабіла мяне з ціхіх закуткаў жыцця на шырокі прастор яго, і я чакаў, я спадзяваўся.

Разам з усімі рагазінцамі я хадзіў на працу, жыў агульнымі з імі радасцямі і засмучэннямі. Загарэлы на вясновым сонцы, я стаў такі, як і ўсе,— цягавіты, працавіты. Вясна выдалася добрая: праходзілі дажджы, хапала і цёплых сонечных дзён. На полі і на паплавах аж буяла ўсё. Неяк неўзабаве пасля сёмухі выйшлі касіць поплаў. Аж шкада было падразаць касой густую мурожную траву. Яшчэ сама цвілі краскі: здаецца, аж звінелі сінія званочкі, пахла медуніца, чэмер выкідваў светла-зялёную трубку маладога клейкага ліста. Але касіць трэба было: дзень набягае на дзень, тыдзень на тыдзень, а там, глядзіш, і жніво. А як да пачатку яго не ўправішся з поплавам, дык тады хто яго ведае, калі і дасі яму рады. А могуць жа ўклюнуцца і дажджы, і мурог ужо будзе не мурог, не пахучы, як чай, а прэлы, як старая страха.

Я люблю пару касавіцы. Яна не дае ні заспацца, ні загуляцца. Устаў я раней за сонца. Марылька таксама была ўжо на нагах, яна гатавала снеданне; на хаду перакусіўшы, я браў на плячо адкляпаную цесцем звечара касу і праз гарод выходзіў на выган. Марылька кожны раз праводзіла мяне аж да самага плота. Яна яшчэ трошачкі бавілася ля плота, гледзячы мне ўслед, я таксама раз-пораз азіраўся. Не мог не азірацца: увесь час хацелася глядзець і глядзець на яе і не наглядзецца. Яна стала маім жыццём, маім дыханнем, маёй радасцю.

Прыемна было, ідучы сцежкай па выгане, глядзець на поплаў. Мне здавалася, што я раней за ўсіх устаў. Але ж не: там ужо мужчыны пазаймалі пракосы ад самай Рагазінкі і гоняць іх, гоняць аж туды, у бясконцую далячынь, пад самыя Верамеевічы. У белых сарочках касцы здаля падобны на буслоў, якія, выстраіўшыся ў цуг, павольна ідуць адзін за адным. Ужо чуваць сакавітае, смачнае пасвістванне кос, праз пэўныя прамежкі часу шарханне мянташак. Зараз вось і я стану ў гэты белы цуг касцоў. У першыя дні я не ўпраўляўся за ўсімі: на руках аж гарэлі крывавыя мазалі, з непрывычкі падломваліся ногі, і той касец, што ішоў за мной, крычаў:

— Макар, хутчэй давай, пяты падрэжу. Гэта табе, брат, не пяром пісаць, а касой махаць.

Але ўжо колькі дзён я не адстаю ад самых зацятых касцоў, наадварот — сам падразаю ім пяты.

А якія вясёлыя, дасціпныя перакуры ў нас, у касцоў: колькі на іх расказваецца анекдотаў, вясёлых бывальшчын, смешных і горкіх выпадкаў. Няма таго чалавека ў вёсцы, пра якога б ні пагаварылі касцы. І мяне ўжо колькі разоў бралі на язык: чаму ты, маўляў, Макар, не робіш вяселля з Марылькай, мо вы не напраўду з ёй пажаніліся, мо ты для таго прыняўся да яе, каб перабыць благі свой час? Але як толькі жанкі прыносілі на поплаў абед — а з імі кожны дзень прыносіла і мая Марылька ўвязаныя ў трапкачык два невялікія гаршчочкі з баршчом і кашай,— мужчыны пераконваліся, што мы з Марылькай сышліся не так сабе, не для прыліку, а каб разам пражыць тое, што кожнаму адмерана на яго век. Яны бачылі, як мы адно адным любаваліся.

Сёння Марылька прыйшла на поплаў пазней, як звычайна. У руках у яе не было гаршчочкаў, увязаных у трапкач. Яна была нечым усхвалявана, устрывожана.

— Марылька, што з табой? — спалохаўся я.— Чаму ты без абеду прыйшла?

— Хадзем, Макарка, дадому. Там нейкі з горада прыехаў. Пытае цябе.

— Што за чалавек? — сумеўся я.

— Я ў яго дапытвалася, але нічога не выведала. Патрабуе, каб ты сам прыйшоў.

Я здагадаўся, што гэта, відаць, нехта прыехаў па майму лісту. Гэтую здагадку я выказаў Марыльцы, і яна яшчэ больш спахмурнела.

— Дык чаго ты, любка мая, гэта ж добра, калі ён па маёй справе прыехаў. Усё вырашыцца як мае быць, і нам з табой яшчэ лепш будзе. Я веру ў гэта.

— Не, не, Макарка, лепш не будзе. Ты зноў паедзеш у горад, і хто цябе ведае...

— Марылька, любая, красачка мая паплаўная, не думай глупства. Выкінь з галавы гэтае. Без цябе мне і дыхаць не будзе чым,— супакойваў я сваю любую.

А той прыезджы быў сапраўды з горада. Ды не адкульнебудзь, а з абкома партыі. Ужо колькі дзён ён расследаваў справу ў райкоме, вывучаў справы калгаса, дашукваўся прычын яго занепаду. А да мяне зайшоў паведаміць, каб у сераду быў я ў першага сакратара абкома партыі та-

варыша Жыжанка. Значыць, сёння ж трэба было збірацца і ехаць. Душа мая, якая набалелася за гэтыя колькі месяцаў, сёння ўпершыню адчула радасць надзеі, што ўсё будзе добра. Каб зразумела і адчула ўсё гэта Марылька, дык і ёй было б так добра, як і мне. Але яна збірала і выпраўляла мяне ў дарогу з ціхім смуткам на душы.

## РАДАСЦЬ МАЯ НЕВЫМОЎНАЯ

Цягнік прыйшоў на світанні. Пасля ўчарашняй дзённай гарачыні брук і камяніцы горада дыхалі нейкай прыемнай прахалодай. На клумбах прывакзальнай плошчы, падбадзёраныя ранішнім халадком, кветкі пападымалі свае яркія галоўкі і як бы ў аддзяку за гэтую прахалоду разлівалі водар. Яшчэ не вельмі людныя гарадскія вуліцы здаліся мне нейкімі ўрачыстымі. За тыя месяцы, што я не быў тут, яны, здаецца, пашырэлі, пабольшалі. Новыя камяніцы, што летась яшчэ стаялі ў рыштаваннях, цяпер вылузаліся з іх і, як жывымі вачыма, глядзелі вокнамі, у якіх бліскуча люстравалася ранішняе сонца.

Я любіў гэты горад, лічыў яго сваім родным. Яшчэ калі жыў тут, час ад часу, у выходны дзень ці ў вольную часіну, пеша абходзіў яго галоўныя вуліцы. Нават праз невялікі час заўважаліся вялікія змены: там адбудаваўся новы дом, там закладзен падмурак, там адкрыўся новы магазін — і ўсяму гэтаму я радаваўся, як свайму ўласнаму поспеху. Цяпер жа, ідучы з вакзала па Камсамольскай вуліцы, бачачы новыя гмахі дамоў, сам не ведаю чаму, я радаваўся і смуткаваў. Рады я быў таму, што гэтыя дамы выраслі на зямлі і людзям прастарней стала жыць; смутак жа тачыў сэрца з тае прычыны, што ні ў адным з гэтых гмахаў я не маю нават маленькага куточка. Гэты родны горад як бы не захацеў мяне, як бы адштурхнуў знарок, сказаўшы: ідзі куды сабе хочаш, ты лішні тут.

Да чатырох гадзін, на якія мне прызначана спатканне з сакратаром абкома, яшчэ далёка. Але нічога: чакаў больш, пачакаю і яшчэ гадзін з дзесяць.

Камсамольская вуліца, як бы сама, апроч маёй волі, завяла мяне ў гарадскі парк. Там таксама бязлюдна. Адно прыбіральшчыцы вымятаюць тое, што засталося пасля ўчарашняга вячэрняга гуляння: недакуркі, шалупінне цу-

керачных абгортак. Ціхая паркавая засень лагодзіць душу. Паўз былы князёўскі палац спускаюся алеяй да рэчкі. Там жыццё кіпіць: адчаліўшы ад прыстані, беручы напрамак на Кіеў, басавіта равуць гудкамі параходы. Шлёпаючы пліцамі па ціхай рачной вадзе, яны ўзнімаюць хвалі, як на моры, і ў гэтых хвалях, здаецца, гойдаюцца і прыбярэжныя дрэвы і нават само сіняе неба. Жвава бегаюць па рачной гладзі маторкі, скутары і простыя чаўны, рэжучы вострымі насамі паверхню вады. А ў ціхіх затоках чорнымі кропкамі віднеюцца самаробныя душагубкі вудароў. Затаіўшы дых, мужчыны і падлеткі сочаць за паплаўкамі, і калі яны пачынаюць ныршаваць — выхопліваюць з вады, як з агню. А колькі радасці, калі над вадой срабрыста затрапечацца рыбіна. Здаецца, што вудар злавіў не плотку ці акунька, а само сонца ўчапілася на ягоны кручок, і ён баіцца ўзяць яго рукамі, каб не апячыся.

На прыбярэжным жвіры спіной да мяне сядзіць, відаць, ужо не малады чалавек, бо галава яго лысая, аж блішчыць. Паабапал уваткнуты ў жвір чатыры вудзільны. Ён гэтак глядзіць на паплаўкі, што каб, здаецца, з гарматы стрэліў за плячыма, дык і то наўрад ці азірнуўся б.

— Ну як, хоць трохі клюе? — пытаю я.

— Чорт яго маў. Адклявала ўжо, мабыць,— не паварочваючыся да мяне, адказвае чалавек.

Голас нечым да болю знаёмы, але чалавек не паварочваецца, і я не магу зірнуць яму ў твар. Яшчэ нешта пытаю, хачу, каб чалавек зірнуў на мяне, але ён, заняты вудамі, мусіць, не чуе. На вадзе дробненька заскакаў паплавок тае вуды, што пад правай рукой чалавека. Рыбак пільна сочыць, калі паплавок нырне ў ваду. Нарэшце паплавок імкліва схаваўся, аж вудзільна прыгнулася. Увішна, не пастарэчы вудар падсек, і над рачной хваляй затрапятала ладная рыбіна.

— Знайшла-такі свайго гаспадара, папалася, як міленькая,— размаўляў з рыбінай чалавек, здымаючы яе з кручка.

Відаць, хочучы пахваліцца сваім першым уловам, рыбак рэзка паварочваецца да мяне. Дзіва, дый годзе — гэта ж Ірын бацька! Гэта ж колішні мой цесць! Галаву пагаліў на лета, дык дзе ты яго пазнаеш.

— Андрэй Піліпавіч, гэта ж я вас не пазнаў.

— Макарка, ты? — кінуўся стары да мяне.

З рук выслізнула рыбіна і затрапятала, заскакала па пяску. Вось-вось даскача да вады, і тады памінай як звалі.

Падноскам чаравіка я адкінуў рыбіну далей ад вады, а сам кінуўся да чалавека.

— Андрэй Піліпавіч! — ледзь не крычу я.

Ён спакваля, як бы нават трошачкі ўзлавана паглядзеў на мяне і, відаць, здзівіўся з майго загару, з мае вясковай праставатасці, бо я сапраўды не ведаў, як сябе трымаць з гэтым чалавекам, што яму казаць. Я яго паважаў, больш таго, любіў, і ў тым, што адбылося паміж мною і яго дачкою, ён ні кропелькі не быў вінаваты. Мне здавалася, што і мяне ён любіў. Мы з ім заўсёды — за абедам ці за вячэрнім чаем, не кажучы ўжо, што за чаркай,— неяк знаходзілі агульную гаворку. Часам у садку праседжвалі цэлымі вечарамі. Іра аж злавала на бацьку і на мяне. А цяпер от стаім адзін перад адным і не ведаем, што казаць і што рабіць. Нарэшце Андрэй Піліпавіч, як бы адышоўшы ад перапуду, пытае:

— Заходзіў мо да нас?

— Не, не заходзіў і больш ніколі не зайду. Да вас бы з радасцю, а да іх не хачу.

— Да каго да іх?

— Да Аляўціны Пятроўны і да Іры.

— Чаму?

— Не патрэбен я ім. А Іра нават на мае лісты не адказала.

— Яна і не адкажа, сынку,— са скрухай і як бы са скаргай на дачку сказаў стары.— У яе іншы клопат у галаве.

Я не стаў дапытвацца, які клопат. Іра цяпер мяне не вельмі цікавіла. Стары сам шмат чаго расказаў за кароткі час на беразе рэчкі. Я не мог нават зразумець, чаго ў яго расказе было больш: ці жадання мяне паінфармаваць аб усім, ці ціхай мужчынскай скаргі на неўладкаванасць жыцця. Яшчэ і тады, калі жыў там, я часам адчуваў, улоўліваў гэтую скаргу на Аляўціну Пятроўну і на Іру, але тады яна была прыглушана жаданнем нічым не скампраметаваць у маіх вачах дачку: усё ж такі ён жадаў ёй шчасця і мо думаў, што са мной яна яго знойдзе.

— А як у цябе справы? — пытаў стары.

— Не ведаю яшчэ. Сёння, пэўна, буду ведаць. Мяне ў абком выклікаюць.

— Я ведаю, што выклікаюць. Не бойся, усё будзе добра. А дзе ты спыніўся?

— Пакуль нідзе. Пэўна, у гасцініцы давядзецца.

Я зірнуў на метровыя стрэлкі вежавага гадзінніка. Яны паказвалі дзесяць гадзін. У гэты час у рэдакцыі пачынался праца. Мне карцела пабыць, паглядзець, што там дзеецца. Цяпер там быў новы рэдактар. Мацвей Кірылавіч неўзабаве пасля таго, як мяне выключылі з партыі, газеты не падпісваў. Падпісваў яе нейкі І. Л. Федчанка. Што гэта быў за ён, я не ведаў. Але мне захацелся зайсці да яго і папярэдне пагутарыць, можа б, ён узяў мяне хоць за карэктара. І я заспяшаўся развітацца з Андрэем Піліпавічам.

— Дык ты зойдзеш да нас? — неяк безнадзейна спытаў стары.

— Дзякую. Можа, калі іншым часам.

— Ну, як сабе хочаш,— падаў на развітанне руку стары.

Рэдакцыя жыла сваім звычайным буднім жыццём. За гэты час яна перабралася ў другое памяшканне — у колішнюю гасцініцу па Савецкай вуліцы. Я падняўся на другі паверх і перш за ўсё прайшоў па калідоры. Ён быў даўгі, вузенькі і цёмны. За абабітымі дэрмацінам дзвярыма стракаталі, як сарокі, машынкі, чуўся басавіты і выразны голас дыктара, які перадаваў па радыё інфармацыі ТАСС. У калідоры мне натрапіўся Барташэвіч, але ён мяне не пазнаў, а я не хацеў да яго абзывацца. Ён цяпер быў намеснікам рэдактара і галаву трымаў — як той аўсяны конь.

Кабінет новага рэдактара мясціўся ў самым канцы калідора. Дзверы прыёмнай былі таксама абабіты дэрмацінам, і на іх віднелася чорная бліскучая шыльдачка з залатымі літарамі: «Адказны рэдактар І. Л. Федчанка». Я хацеў пастукацца, але не было ў што. Прачыніў дзверы і ўгледзеў цемнаваты пакой без дзённага святла, а ў ім Валю.

— Валечка! — ледзь не крыкнуў я. Дзяўчына сумелася, збянтэжылася ад нечаканасці майго з'яўлення.

— Макар Васільевіч, з якіх дарог на наш парог?

— З палявых. Рэдактар тут?

— Тут, тут,— зашаптала Валя, мо тым самым папярэджваючы мяне, каб і я цішэй быў, бо гэта не Мацвей Кірылавіч.— Ты хочаш да яго? Я зараз далажу,— сказала Валя і знікла за дзвярыма рэдактаравага кабінета. Праз момант адчыніліся дзверы, і я пачуў:

— Можаце зайсці, таварыш Шыянок.

Кабінет па велічыні быў падобны на стадолу. Ля сцяны з панеллю стаяла масіўная пад чорны дуб кніжная шафа. На паліцах яе сям-там віднеліся кніжкі. Відно было, што

гэтая шафа зроблена не так для кніжак, як для таго, каб стаць аздобай кабінета. Паўз другую сцяну стаяла даўжэзная, відаць, зробленая па заказу, з чорнай скуры канапа. У самай глыбіні кабінета, недзе там пад вулічнымі вокнамі, задрапіраванымі вішнёвага колеру аксамітам, мясціўся вялізны пісьмовы стол, таксама зроблены пад чорны дуб. За ім і сядзеў гаспадар кабінета. Відна была толькі яго лысая, трошкі квадратная галава.

— Вы да мяне? Праходзьце, сядайце. Я вас слухаю.

— Іван Ларывонавіч,— аж заікаючыся ад хвалявання, пачаў я.— Я ўжо амаль год не працую. Можа б, вы мяне ўзялі хоць карэктарам?

Федчанка зірнуў на мяне маленькімі вочкамі, позірк якіх, як толькі сустракаўся з маім, чамусьці тух, і не сказаў, а як бы выплюнуў словы:

— Я ведаю вас, ведаю вашу ўсю справу. Калі прымаў рэдакцыю, дык знаёміўся. І вось што я вам скажу: лепш вы і не шукайце ў палітычнай установе сабе месца. Я не хачу быць падобным да свайго папярэдніка Давідзюка. Гнілы лібералізм у наш час — гэта, бадай, самая шкодная з'ява.

— Дык я ж не прашуся ў вас, як вы кажаце, на палітычную работу, а на тэхнічную — карэктарам.

— Няхай будзе вам вядома: у рэдакцыі няма тэхнічнай работы,— здавалася, аж зазлаваў Федчанка.— Карэктура — гэта таксама палітычная справа. Чым я гарантаваны, што вы пасля падпісання мной палосы не падсунеце чаго-небудзь?

Я ледзьве стрымаўся, каб не нагаварыць рэдактару грубасцей. Хуценька, нават не развітаўшыся, выбег з кабінета. Валя памкнулася была затрымаць мяне ў прыёмнай, але мне было не да таго, каб гаварыць з ёй. Як сляпы, нічога не бачачы перад сабой, я выбег на вуліцу. Там сама вІравала, кіпела жыццё. Людзі ішлі сюд-туд, і кожны, відаць, ведаў, куды і чаго ён ідзе. Адзін я не ведаў, куды мне падацца. Да чатырох гадзін заставалася яшчэ безліч часу. Калі да наведання рэдактаравага кабінета ў мяне яшчэ была сякая-такая надзея, што, нарэшце ж, разбяруцца і дойдуць да праўды, дык пасля таго, што мне сказаў рэдактар, я зусім зняверыўся: не можа быць, каб ён не ведаў думкі сакратара абкома. Відаць, і Жыжанок выклікаў мяне, каб яшчэ раз пацвердзіць тое, што ўжо ёсць.

Невясёлыя думкі завялі мяне на гарадскі сквер. Унурыўшы галаву, я прасядзеў там адзін на адзін са сваімі

цяжкімі думкамі аж да паловы чацвёртай гадзіны. Мне ўжо не хацелася наватісці ў абком. Мо праўду казала Марылька, што не трэба было і з дому рушыць: сядзеў бы ў цесцевай хаце, працаваў бы, як і ўсе рагазінцы, не ведаючы ні згрызот, ні турбот. Але чалавек жа такі, што яму заўсёды хочацца лепшага, і ён яго шукае. Ды часам здараецца і так, знайшоўшы тое, чаго шукаў, чалавек пераконваецца, што яно не лепшае, а куды горшае за тое, што ён пакінуў.

Мне трэба было б зайсці куды ды паабедаць, а то ж як паехаў учора з Рагазіна, дык нічога і ў роце не было. Але думкі, узрушэнні, хваляванні адбілі зусім апетыт. Я нават забыўся, што ў мяне ў партфелі сёе-тое ляжыць, наладкаванае Марылькай. Цяпер позна было ўжо брацца за перакуску. Часу заставалася толькі дайсці да абкома.

Я колісь бываў, і не адзін раз, у гэтай шэрай масіўнай будыніне на рагу Савецкай і Сялянскай вуліц. І колькі б я ні заходзіў у абком — заўсёды адчуваў нейкую ўрачыстую насцярожанасць, сабранасць і нават самамабілізаванасць. Тады я заходзіў, паказваючы міліцыянеру партыйны білет. Цяпер жа мне трэба было шукаць бюро прапускоў. Ход у яго са двара. Я пастукаў у маленькае акенца, зробленае ў тоўстай сцяне. З глыбіні яго паказаўся чалавек.

— Што вам, грамадзянін? — запытаў ён.

— Мне да першага сакратара абкома таварыша Жыжанка.

— Пашпарт, калі ласка.

Я падаў пашпарт. Міліцыянер доўга разглядаў яго, кідаў вокам на мяне, відаць, звяраючы, ці той самы, што на фота.

— Ваша прозвішча Шыянок? — як бы не верачы таму, што напісана ў пашпарце, запытаў чалавек.

— Але, Шыянок.

— Макар Васільевіч?

— Але, Макар Васільевіч.

— На вас пропуск даўно заказаны. Можаце ісці,— з гэтымі словамі ён працягнуў мне з акенца пашпарт з пропускам.— Пройдзеце праз цэнтральны ўваход на трэці паверх, кабінет сорак трэці.

Шырокая масіўная лесвіца ўслана дывановымі дарожкамі. Ступаеш па ёй, і нават не чуваць тваіх крокаў. Ад гэтай цішыні мяне ахінула нейкая таямнічасць, быццам я трапіў немаведама куды і чаго. Я, канечне, ведаў, куды

і чаго іду, але што там знайду — гэта была таямніца. Можа, от пераступлю парог кабінета сакратара, а ён мне скажа: «Ты, сучы сын, не варты высокага звання бальшавіка, ты яго зганьбіў сваёй палітычнай блізарукасцю, сваёй ліберальнай сутнасцю, і няма чаго табе шукаць абароны: партыі, Савецкай уладзе такія, як ты, не патрэбны. Ідзі сабе куды хочаш, рабі сабе што хочаш».

Баязліва прачыняю дзверы сорак трэцяга пакоя. На дыбачках падыходжу да стала, за якім, урупіўшыся ў паперы, сядзіць кучаравая дзяўчына. Яна, мабыць, і не чула, калі ўвайшоў я, бо нeяк аж спалохалася ад маіх слоў:

— Мяне выклікаў таварыш Жыжанок.

— Як ваша прозвішча?

Адказваю.

— Пасядзіце, будзьце ласкавы. Я зараз далажу Канстанціну Міхайлавічу,— сказала яна і ў момант знікла за дзвярыма.

Я сяджу, нервова перакладваючы з рукі ў руку свой старэнькі партфельчык. Мне здалося, што дзяўчына вельмі доўга забавілася ў кабінеце, хоць прайшло ўсяго якія дзве хвіліны.

— Калі ласка, заходзьце, таварыш Шыянок,— чую мужчынскі звонкі голас з расчыненых дзвярэй.

У дзвярах мы ледзь размінуліся з сакратаркай. З-за стала насустрач мне ішоў ужо немаладых год мужчына з пасівелымі скронямі, але з пышнай яшчэ чупрынай. Ён падаў мне руку і правёў да стала.

— Сядайце, калі ласка, здаецца... Макар Васільевіч,— з гасціннай усмешкай запрасіў сакратар.

— Але, Макар Васільевіч,— усё яшчэ нясмела пацвердзіў я.

На стале перад Жыжанком ляжаць надрукаваныя на машынцы аркушы паперы. Ён час ад часу адрывае ад іх сваю прыгожую галаву з пасярэбранымі скронямі, і калі падымае твар, мне здаецца, што ў вачах яго гуляе сонечны прамень. Я гляджу на сакратарову ўсмешку і бачу, што яна не штучная, не знак ветлівасці, разлічаны на тое, каб выклікаць сімпатыю і давер наведвальніка, а натуральная, чалавечая, і ад гэтага прападае на момант мая насцярожанасць. Я пачынаю адчуваць сябе так, быццам прыйшоў не да першага сакратара абкома партыі, а да нейкага даўно знаёмага, блізкага, нават роднага мне чалавека:

— Скажыце, дзе вы цяпер жывяце, як сябе адчуваеце? — пытае Жыжанок.

— Дзякую, добра адчуваю. Жыў у бацькі, працаваў у калгасе: зімой вазіў сена, дровы, а цяпер от касіў. Проста з сенажаці і сюды да вас прыехаў.

— Малайчына! — вырвалася ў сакратара абкома.— Таго, як вы, і нягодам нялёгка зламаць. Я чуў, што ў вас і сямейныя справы не вельмі ладныя — жонка пакінула вас. Леванюк, бацька вашай жонкі, мне казаў. Здараецца так, што бацька чалавек як чалавек, а яго дзіця — хто яго ведае, у каго і ўдасца.

Дзіва брала мяне, што Жыжанок усё гэтак падрабязна ведае..

— Не, сямейныя справы добрыя,— адказаў я.

— Малайчына! — зноў пахваліў мяне Жыжанок, хоць я і не мог ніяк даўмецца, чым заслужыў гэтую пахвальбу.— Скажы мне, таварыш Шыянок, як бальшавік бальшавіку: ты лічыш Касянка ворагам ці нашым чалавекам.

Ад гэтага нечаканага пытання я насцярожыўся, але вырашыў гаварыць усё тое, што ў мяне на сэрцы.

— Канстанцін Міхайлавіч, я гэтага чалавека ведаю з самага маленства і нікому не паверу, што ён які вораг, што ён благое што зычыў нашаму народу, нашай краіне.

Я расказаў Жыжанку пра ўсё, што ведаў пра дзядзьку Пракопа: пра тое, як ён у Рагазіне ўстанаўліваў Савецкую ўладу, пра яго чалавечую чэснасць і добрасумленнасць; паведаміў пра тое, што нядаўна заходзіў да Касянковай жонкі і чытаў запіску, якую ўпотай выкінуў дзядзька Пракоп.

— Вось які ты!

Я насцярожыўся. Мо і сапраўды мне не трэба было так адкрыта гаварыць. Можа, ён проста выпытваў. Але ні па інтанацыі, ні па чым іншым я не мог падумаць, што гэта хітры ход сакратара абкома.

— Ты, таварыш Шыянок, прынцыповы чалавек. Бальшавік і павінен быць такім. А што датычыць таварыша Касянка, дык ён цалкам апраўданы.

— Што вы кажаце! — аж падскочыў я ад гэтай радаснай весткі.

Цяпер я зразумеў, чаму Жыжанок так добразычліва ўсміхаўся мне. У гэтую хвіліну сакратар узяўся перакладаць паперы, якія ляжалі перад ім на стале.

— Гэта вельмі добра, што нашы людзі не даюць у крыўду чэснага чалавека,— прамовіў Жыжанок.— Стары камуніст Леванюк заступіўся за Касянка. Група калгаснікаў прыслала цэлую петыцыю. І ты не спалохаўся, не схі-

біў. Я от прачытаў тваё пісьмо на імя сакратара ЦК. Чалавек я не сентыментальны, а калі чытаў, дык праўду табе скажу, аж сляза мяне праняла. Яно мяне, ды не толькі мяне, а, мусіць, і сакратара ЦК перакапала шчырасцю, чалавечай праўдай. Малайчына! — ужо каторы раз выгукнуў Жыжанок.— Федчанка ж абівае парогі абкома, просячы даць яму добрых журналістаў, а сам не бачыць і не хоча бачыць іх...

Я адразу ж хацеў расказаць Жыжанку пра тое, як мяне сёння прыняў той самы Федчанка, але ён апярэдзіў мяне сваім запытаннем:

— Ты ў якім аддзеле хочаш працаваць?

— У аддзеле культуры.

— А можа б, ты пайшоў за намесніка рэдактара? — нечакана спытаў сакратар.

— Дзякую за давер. Але я яшчэ вельмі малады журналіст, не маю вопыту.

— Дзякую за сціпласць,— усміхнуўся сакратар.— А як у цябе з кватэрай?

— Ніяк. Я нават не ведаю, дзе сёння буду начаваць.

— Ну, начаваць — гэта лягчэй.

Жыжанок пазваніў, і у кабінеце з'явілася сакратарка.

— Пазваніце дырэктару гасцініцы, няхай ён забяспечыць пакой таварышу Шыянку.

— Добра, Канстанцін Міхайлавіч.

— А наконт кватэры падумаем, параімся са старшынёй гарсавета. Ва ўсякім разе што-небудзь прыдумаем. Ну, здаецца, у нас з вамі ўжо ўсё перагаворана, вырашана. Ідзіце сабе, працуйце.

Жыжанок працягнуў мне на развітанне сваю добрую сяброўскую руку.

— Бывайце, усё жыццё буду дзякаваць вам.

— Чаму мне? Партыі трэба дзякаваць.

Выйшаўшы на вуліцу, я не мог уявіць сабе, на якім свеце знаходжуся. Неба, зямля, усмешкі людзей — усё было гэтакім светлым, якім я ніколі яго не бачыў. Радасць распірала мне грудзі. Я нават не ведаў, куды пайсці, з кім падзяліцца радасцю. А радасць жа заўсёды трэба з кім-небудзь дзяліць, бо калі ты адзін будзеш радавацца, дык яна не будзе такой поўнай, такой светлай. І я хуценька пабег на тэлеграф, адбіў тэлеграму: «Марылька, любая! Мы з табой шчаслівыя. Віншуй мяне, а я цябе віншую і цалую моцна-моцна. Твой Макар».

У гасцініцы мне падрыхтавалі невялічкі асобны пакой-

чык, і я адчуў сябе ў ім гаспадаром. Душа мая спявала. Ды і не толькі душа. Я сам ціхенька заспяваў песню без слоў. Мабыць, тая жанчына, што слала пасцель, гледзячы на мяне, падумала: «Дзівак нейкі, чаго гэта ён — як на сёмым небе?» Адразу ўспомнілася, што з учарашняга дня ў мяне і ў роце нічога не было. Гэтак захацелася есці, што, здаецца, і вытрываць нельга было. Пакінуўшы ў пакоі свае рэчы, я спусціўся ў рэстаран, які мясціўся ў самім будынку гасцініцы. Заказаў усё, што мне прапаноўвала афіцыянтка. Каб хоць хто знаёмы напаткаўся, можна б з ім раздзяліць і гэты свой стол, і сваю радасць. Але так нікога я і не выгледзеў.

Мне закарцела дзе-небудзь незнарок сустрэцца з Ірай і кінуць ёй у вочы сваю радасць, няхай бы хоць пасмуткавала. Усё ж такі я думаю, што яна мяне хоць трошачкі кахала, а выйшла ў нас гэтак таму, што яе мяшчанская душонка спалохалася таго, што давядзецца нялёгка, бо ж я трапіў у бяду. Але ні Іры, нікога я не сустрэў ні на вуліцы, ні ў парку. Вярнуўшыся ў свой пакойчык, сеў за пісьмо. Усё падрабязна апісаў Марыльцы, як тут было. Нарэшце напісаў ёй, каб памаленьку рыхтавалася да ад'езду, бо як толькі дадуць кватэру, адразу ж забяру яе ў горад. Напісаў пісьмы бацьку, Анастассі Паўлаўне, якой паведаміў пра дзядзьку Пракопа. Мо яго яшчэ і няма дома, дык няхай парадуецца весткай.

Я знарок два дні не заходзіў у рэдакцыю. Не хацелася трапляць на вочы Федчанку пасля той размовы з ім. Няхай ён трошкі прывыкне, прызвычаіцца, тады і яму спасабней будзе зірнуць мне ў вочы. Наважыў зайсці на кватэру да Мацвея Кірылавіча і даведацца, што там у яго. Аднак жа кватэра Давідзюка была занята ўжо другімі людзьмі, яны сказалі, што тры дні назад Давідзюк выбраўся не толькі з кватэры, але і з горада, бо атрымаў прызначэнне ў Мінск на работу. Гэтай весткі для мяне было даволі. Я любіў, паважаў гэтага чалавека, і пасля таго, як і Давідзюка знялі з работы, ніяк не мог дараваць сабе, што ўсё гэта праз мяне. Хай бы я адзін цярпеў, дык яшчэ ж і чалавеку давялося. Невымерна вялікая была мая цяперашняя радасць не толькі за сябе, але і за блізкіх мне людзей.

На другі дзень раніцай я схадзіў у парк на бераг рэчкі, спадзеючыся зноў сустрэць там свайго колішняга цесця, расказаць і яму ўсё. Але там яго не было. Мо стары знайшоў сабе дзе больш рыбнае месца?

У рэдакцыйным калідоры мне адразу кінулася ў вочы дошка аб'яў, якая вісела на сцяне непадалёк ад сакратарыята. На дошцы вісеў аркушок паперы, і я вырашыў прачытаць, што там напісана. Аж вачам сваім не паверыў: «Былога супрацоўніка рэдакцыі Шыянка Макара Васільевіча, як няправільна зволенага, аднавіць на рабоце з выплатай кампенсацыі за вымушаны прагул. Прызначыць тав. Шыянка М. В. загадчыкам аддзела культуры і быту».

Тры разы я перачытаў загад і хуценька кінуўся ў кабінет рэдактара. Не пытаючыся дазволу ў Валі, адчыніў дзверы кабінета. Дзіва, дый годзе: і тая вялізная шафа, і грувасткая канапа, і стол, і ўсё, усё ў кабінеце здалося мне не такім недарэчным, як тады, калі я заходзіў першы раз. І рэдактар зусім інакшым здаўся. Гэта мо таму, што як толькі ён угледзеў мяне, дык адразу ж устаў з-за стала і, працягнуўшы руку для прывітання, пайшоў мне насустрач.

— А, Макар Васільевіч,— казаў ён з усмешкай.— А я хацеў пасылаць Валю шукаць вас. Чыталі загад?

— Чытаў. Дзякую.

— Ён вам падабаецца?

— Дзякую. Падабаецца,— адказаў я вельмі стрымана, без таго энтузіязму, на які спадзяваўся Федчанка, бо сам сабе падумаў: «Які ж ты слімак, які ж ты наіўны чалавек, навошта прыкідваешся, быццам я не ведаю, чаму ты выдаў гэты загад».

— Ну то што ж, Макар Васільевіч, будзем працаваць. Я спадзяюся, што мы з вамі знойдзем агульную добрую мову.

— Вядома,— адказаў я і заспяшаўся з кабінета.

Мяне вельмі ўразіла няшчырасць Федчанкі. Мацвей Кірылавіч ніколі б гэтак не зрабіў. Той заўсёды казаў праўду ў вочы, хоць тая праўда часам была і горкая і для другіх і для яго самога. Але што мне было да рэдактара. Я рады быў сваёй праўдзе, бо яна ўсё-такі перамагла, выбілася з таго бруду, якім яе хацелі абляпіць.

— Дык ідзі, братка, прымай аддзел і бярыся за справу, як той казаў, закасаўшы рукавы,— мо падрабляючыся пад маю сялянскую прастату, казаў рэдактар.

— Добра, Іван Ларывонавіч,— адказаў я і выйшаў.

За гэты час, што я не працаваў у рэдакцыі, калектыў яе значна змяніўся. Не было ўжо Метлюга: ён паехаў у Мінск да Сяргея Росліка. Не было яшчэ некаторых старых супрацоўнікаў. Затое прыйшлі новыя, у большасці сур'ёзныя

людзі, былыя рабочыя карэспандэнты, якіх па рашэнню абкома партыі паслалі на ўмацаванне рэдакцыі. Са старых супрацоўнікаў засталіся Юрка Маргун і Вінцэнт Барташэвіч. Гэты насіўся па рэдакцыі з задраным носам: як-ніяк намеснік рэдактара. Але пасля таго як мяне аднавілі ў партыі і на рабоце, ён неяк трошкі абвяў, мусіць, прадчуваў нешта нядобрае, хоць я нічым і не выказаў ні свае крыўды, ні злосці. І Юрка Маргун стаў нейкі яшчэ больш ціхманы, як бы чым прыбіты. Са мной быў ветлівы, абыходлівы, хоць ты яго да раны прыкладзі. Не хапала ў рэдакцыі Шолама Каца. Ён з'ехаў да сына, які працаваў недзе ў Ленінградзе.

Кватэру мне далі праз паўтара месяца. Гэта была не вельмі ўжо якая раскошная кватэра — адзін добры пакой на другім паверсе, з двума вокнамі да сонца. Для мяне, чалавека, які ніколі не меў свайго кутка, гэта быў сапраўдны рай. За тыя грошы, якія мне заплацілі за вымушаны прагул, я купіў ложак, канапу, стол і шафу. Адным словам, абсталяваў сваё жытло так, каб у ім можна было жыць. І яшчэ, папрасіўшы Валю, спадзеючыся на яе добры жаночы густ, купіў дзве добрыя крэпдэшынавыя сукенкі, туфлі на высокіх абцасіках, паліто і капялюшык. Гэта ўсё для мае любае Марылькі. Пра гэта я ёй нават у пісьме не напісаў. Няхай будзе для яе нечаканасць, сюрпрыз. Напісаў ёй толькі, каб збольшага што сабрала з сабой і выязджала сюды, станавілася гарадской.

Сустракаць Марыльку я пайшоў на світанні. Угледзеў яе яшчэ ў акне вагона. Мне здалося, што яна за той час, як я паехаў з вёскі неяк змізарнела. Ды і не дзіва. Яна, мусіць, усё яшчэ не верыла ні мне, ні свайму шчасцю.

Праз запыленае акно вагона мне было відаць, як расцвіла на Марыльчыным твары ўсмешка, калі толькі яна ўгледзела мяне. Без рэчаў, зусім забыўшыся на іх, Марылька зляцела з прыступак вагона ў мае абдымкі. Толькі тады, як ўжо ўсе пасажыры выйшлі з вагона, мы спахапіліся, што трэба забраць рэчы.

І вось мы з Марылькай у сваім пакоі. Яна паразвязвала клункі, заслала пасцель, накрыла стол прыгожым саматканым абрусам. А я ўсё казаў, каб хутчэй падзела гарадскую сукенку. Мне не цярпелася паглядзець на яе ў гэтым адзенні. Сукенка была вішнёвага колеру. Я знарок выбраў такі колер: да Марыльчынага загарэлага твару ён вунь як будзе пасаваць. Марылька схадзіла ўмылася, пераплялa касу і, захінуўшыся за шафу, надзела сукенку.

Выйшла навідавок, і я не мог налюбавацца прыгажосцю жонкі. Дужая, стройная постаць, загарэлы твар, бліскучыя ад радасці вочы — усё гэта здалося мне непаўторна прыгожым.

Не зважаючы на стомленасць жонкі, я павёў яе ў горад. Мы доўга хадзілі па вуліцах. Я паказаў ёй магазіны, куды трэба будзе хадзіць купляць прадукты. Пайшлі ў парк. Абвадзіў па ўсіх алеях. Пабылі ў музеі, падняліся на паркавую вежу, з вышыні якой горад быў як на далоні. І на гэтым яшчэ не скончылася наша захапленне горадам, людзьмі, самімі сабой: мы ўзялі на лодачнай станцыі лодку і паехалі катацца на ціхія хвалі Сожа. Толькі тут я апамятаўся і пачаў распытваць, што дзеецца ў нашым Рагазіне. Шчаслівыя, мы на момант забыліся на ўсё, апроч свайго шчасця.

— Макарка, родненькі,— казала Марылька,— каб ты быў на тым сходзе, каб ты чуў і бачыў, як калгаснікі турылі тайго прайдзісвета Усціма. Гэтак жа нацярпеліся ад таго гада печанага, дык ва ўсіх языкі паразвязваліся: усё яму прыгадалі, за ўсё аддзячылі. Асабліва твой бацька не мог яму даравацць.

— Ну і што з Усцімам?

— А тое, што цяпер ніколі больш старшынёй не будзе. Усё тое, што яны з тым недавяркам Леўкам вярнулі на дзядзьку, самі, гады печаныя, рабілі. Мінулася ім цяпер.

— Ну і добра, Марылька.

— Макарка, якая я шчаслівая, як мне хораша з табой. А мо і сынок у нас народзіцца, дык ён яшчэ шчаслівейшы будзе.

— Так, Марылька, будзе шчаслівейшы. Радзіма наша такая, што няшчасных у ёй не можа быць.

1957—1960

# ІДУ Ў ЖЫЦЦЁ

## Кніга трэцяя

# БЫЛОЕ ЗАСТАЕЦЦА Ў СЭРЦЫ

### КРЫВАВАЯ БЛІСКАВІЦА

Эх ты, лёс чалавечы! Што ты робіш са мною? Я яшчэ не панасіў на руках Сяргейку, не нацешыўся ўсмешкамі. Здаецца, гэта ўчора было, калі сама размаілася вясна квеценю садоў; я бегаў вакол вялізнага дома з чырвонай цэглы, у які мужчын пускалі толькі ў вестыбюль. Там далей быў жаночы крык і дзяцінае кугаканне. Кідаўся на хітрыкі, паказваў рэдакцыйнае пасведчанне: маўляў, хачу напісаць нарыс пра радзільны дом. У галаве быў адзіны клопат — хоць вокам зірнуць на Марыльку, на сынка. Бася Захараўна, галоўны ўрач радзільнага дома, зірнула на маё пасведчанне, ненатуральна ўсміхнулася і сказала:

— Вы, чалавеча, хітруеце, ваша жонка тут парадзіхаю.

— Адкуль вы ведаеце?

— Бачу па вачах. Толькі ў маладога бацькі могуць так блішчаць вочы. Ведаеце, голубе, у нас і карэспандэнтам не заўсёды можна ў палаты. Калі вы хочаце напісаць пра нас, дык пойдзем у мой кабінет і я вам усё раскажу.

Пісаць я зусім не збіраўся і таму адказаў:

— Няхай другім разам, лепшым часам, калі можна будзе наведаць палаты.

— Няхай другім разам, калі ваша жонка выпішацца,— выкрыла мае хітрыкі галоўны ўрач.— А сынок у вас — цельпушок ладны. З вас і крошкі пабраў,— жартавала старая.

Не ведаю, навошта былі ёй гэтыя жарты, хіба толькі, каб распаліць маю цікавасць паглядзець дзіця.

— А тым часам, калі ў вас ёсць перадача, то перадайце.

— А віно можна? — спытаў я.— Мне суседкі і нашы рэдакцыйныя жанчыны раілі: для таго, каб Марылька хутчэй папраўлялася, ёй трэба піць па лыжачцы добрага віна.

— Ну, калі раілі вам, то, відаць, можна. Пашукайце толькі соты нумар партвейну.

Вуліца жыла, гаманіла, віравала вясновай радасцю жыцця. Была акурат нядзеля. Старыя і малыя выйшлі з кватэр на ласкавае сонца. І як я ні стараўся хутчэй бегчы шукаць таго сотага нумару партвейну, нічога не выходзіла. Людзей поўныя тратуары, і нельга было шпарка ісці, не піхнуўшы каго.

А вось і гастраном на рагу Савецкай і Ленінскай.

— Дайце, калі ласка, соты нумар партвейну,— прашу прадаўшчыцу.

Яна глядзіць на мяне так, быццам я пытаю ў яе немаведама чаго.

— Ён бывае ў нас гады ў рады.

І гэтак у кожным магазіне па Савецкай. Я падумаў нават, што старая знарок, хочучы пастроіць з мяне кепікі, загадала шукаць гэты партвейн. Але я ўсё-такі дастаў. Дастаў там, дзе і не думаў. Гэтак ходзячы ад магазіна да магазіна, я забрыў аж на край горада, да старой лазні. Бачу ларок па продажу піва, гарэлкі, віна. Дай, думаю, папытаю.

Прадавец, які, відаць, звык прадаваць больш піва і гарэлку, зірнуў на мяне як на дзівака.

— І вы пасля лазні будзеце гэты квас жлукціць?

— Які квас?

— Ды гэты самы соты нумар. Яго жанчынам і то парадзіхам толькі піць.

— А ў вас ёсць?

— Дзве бутэлькі заваляліся.

— То давайце хутчэй.

Прадавец падаў мне дзве пляшкі, на этыкетках якіх ледзь відзён быў той самы соты нумар. Я хуценька іх схаваў у партфель.

— Вы б піўца з лазні. Гэта ж ведаеце, як здорава пасля парні.

— Якой парні?

— Вы ж, мабыць, толькі з палка злезлі? А піва жыгулёўскае, свежанькае, бачкавое.

Я мацнуў свой лоб і сапраўды пераканаўся, што быццам з парні. Пот каціўся, як бы я толькі секся венікам на самым верхнім палку. Не дзіва: абгойсаў жа ўвесь горад. Затое, як у таго рыбака, што цэлы дзень закідваў вуды і толькі пад вечар клюнула,— у мяне ў партфелі тое, чаго я шукаў. Адну бутэльку занясу заўтра ў бальніцу, а другая пастаіць, пачакае, пакуль Марынка вернецца. Калі буду перадаваць віно, гэтак і напішу Марыльцы: назавём мы

свайго хлопчыка Сяргейкам. Імя такое, што калі вымаўляеш яго, дык, здаецца, музыка ў ім чуваць.

Дзівачка мая Марылька. Якая яна сарамяжая. Як стала відно, што пагрубела, дык з кватэры не мог выцягнуць.

— Куды я з табой пайду,— кажа.— Сорамна з такім жыватом. Людзі ўсе будуць глядзець.

— Хіба ты што ўкрала, што яны на цябе будуць глядзець?

— І табе ж, мабыць, сорамна будзе?

— Дурнічка мая! — аж зарагатаў я.— Які ж гэта сорам! Калі б усе сароменіся, дык людзі б звяліся на свеце. Гэта ж гонар для жанчыны. Яна нясе ў сабе жыццё.

— Добра табе казаць, калі на табе нічога не відно. А мне як?

— А табе от так! — накідваў я на Марыльчыны плечы белы шалік, каб канцы яго хоць трошкі закрывалі жывот. Яна станавілася перад люстэркам і запудрывала крэмавай пудрай рудыя плямы на лбе.

— Не трэба запудрываць. Няхай усе бачаць! — браў я Марыльку пад руку і выводзіў на шумную, заўсёды людную Савецкую вуліцу, а калі было цёпла — у парк, на бераг рэчкі.

— Навошта ты мяне на самыя людзі вядзеш?

— Знарок, няхай усе бачаць, што ў мяне будзе сын.

— Так ужо і сын. А можа, дачка?

— Няхай і дачка. Мне ўсё роўна.

Аднаго разу, гуляючы з Марылькай па алеях парку, мы напаткалі Іру з нейкім вайскоўцам. Пры Марыльцы я і віду не падаў, што ведаю гэтую жанчыну. Але Іра азіралася, глядзела на нас гэтак, што Марылька заўважыла.

— Што гэта за жанчына? Чаго яна на нас так глядзіць?

— Гэта ж тая Іра, хіба ты не пазнала,— вымушаны быў прызнацца я.

— Хіба гэта яна? — упалым голасам перапытала Марылька, і нібы чорны кот перабег нам дарогу. Марылька змоўкла, неяк падазрона ўсё пазірала на мяне, быццам была ў чым вінавата перада мною.

— Чаго ты такая? — пытаю.

— Якая?

— Не такая, як заўсёды.

— Мне нешта няможацца.

Марылька мне не сказала праўды, але я здагадаўся, чаго ў яе ўчарнеў настрой. Вінавата была яна, Іра, вінавата была гэтая выпадковая, нікому, відаць, не жаданая

сустрэча. Мабыць, Марылька ідзе побач і думае: «Хто яго ведае, можа, яго сэрца распалавінена, можа, ён у думках яшчэ і цяпер носіць яе, адно віду не хоча падаць?»

— Марылька, ты думаеш пра яе?

— Не. Пра цябе. Думаю, які ты харошы. Думаю, якое дзіцятка ў нас будзе, як мы яго шанаваць, песціць будзем, якім ты харошым таткам будзеш.

— Так, любая, буду, буду! А ты харошая, разумная мамка.

Аднак я пэўна ведаў, што ў гэты момант Марылька думала не пра мяне, не пра будучае наша дзіцятка. Яна думала пра Іру. Ёй, пэўне, здавалася, што Іра прыгажэйшая за яе, што яна гарадская, больш увішная. Надумаецца от, прыйдзе і адбярэ мяне ад яе, ад дзіцяці. Ды чаго толькі ў такі момант, калі заварушыцца чарвячок рэўнасці, не падумае жанчына!

— А ты не думай пра гэта, любая.

— Адкуль ты ведаеш, што я думаю?

— Бачу па табе, бачу па тым смутку, які апаў на твае вочы.

— Які ты дзівак, Макарка. Думкі чытаць умееш, як той чарнакніжнік. Я ж цябе гэтак кахаю, больш, як увесь белы свет.

Марылька памкнулася да мяне, хацела, мабыць, пацалаваць, але вакол былі людзі, і яна пасаромелася.

— Я не буду больш нічога благога думаць. Я веру табе, любы.

Гэта было колькі год назад. А цяпер вунь як выцягнуўся наш Сяргейка. Ляжыць, падклаўшы пад галаў кулачок, быццам ён мякчэйшы за падушку, і соладка спіць. Спіць і Марылька, раскінуўшы рукі на ўсю шырыню ложка. Адно я не сплю. Гэтыя дні збіраў матэрыял на нарыс, які трэба ў панядзелак здаць у набор. Выхадны дзень не хацелася займаць работаю, і я наважыў не паспаць ноч і зрабіць нарыс, каб заўтра цэлы дзень пабыць на пляжы. Я ціхенька, каб не збудзіць жонкі, устаў, уключыў настольную лямпу, прыкрыў газетай абажур, каб святло не рэзала вачэй Марыльцы і Сяргейку.

Вокны былі расчынены. Знадворку патыхаў цёплы ветрык, ледзь-ледзь калышучы фіранкі. Адхінуўшы фіранку і рассунуўшы вазоны, я высунуўся на двор і закурыў. Марылька і ў сне адчула, што мяне няма побач. Кінула рукой і, не расплюшчваючы вачэй, спытала:

— Макарка, дзе ты?

— Спі, Марылька, спі...

За вокнамі начная сцішанасць горада. Толькі ад вакзала далятае рытмічнае чахканне вагонных колаў на стыках рэек ды чуюцца рэдкія асіплыя гудкі паравозаў. Удзень іх з нашай вуліцы не чуваць: заглушае шум горада. А ўночы па чахканню колаў можна нават злічыць, колькі за гадзіну праходзіць цягнікоў. У начным небе цяжка прастагналі самалёты. Цяпер гэта было не ў навіну. Удзень і ўночы над горадам часта пралятали цяжкія бамбавозы. Звыклае, часта чутае і бачанае, не насцярожвае ўжо чалавека, ён яго як бы і не заўважае. Гэтак і я, нібы і не заўважаў тых гукаў, якія раз-пораз чуліся. Заўважаў толькі і ўспрымаў адну цішыню цёплай чэрвеньскай ночы.

Сынок мой спаў моцна і, відаць, сніў салодкія сны. О, як я любіў свайго хлопчыка! Смех, дый годзе: калі яго не было яшчэ на свеце, я ніколі не мог нават падумаць, што дзіця будзе гэтакім дарагім. Калі мне даводзілася дзе бачыць, як жанчыны, а тым больш мужчыны песцілі малых, дык думалася: яны проста дзівакі, яны і самі, як тыя малыя, гатовы гуляць у лялькі. Не, ніколі чалавек не можа ўявіць шчасця бацькоўства, не будучы сам бацькам.

А як я забіраў Марыльку з Сяргейкам з бальніцы. Марылька паведаміла, што заўтра зранку выпісваецца, і я з самага світання скакаў ля жалезнай агароджы радзільнага дома. Адамкнулі вароты, і я кінуўся ў вестыбюль. На чорнай дошчачцы былі прозвішчы жанчын, якіх выпісвалі з бальніцы. Была там і мая Марылька. Хвілін праз колькі ў вестыбюль назбіралася нямала мужчын. У кожнага з іх пад пахаю быў клуначак. Прынёс і я. Можна было б расказаць цэлую гісторыю пра тое, як я даставаў гэты Сяргейкаў пасаг. Але як бы там ні было, пасаг быў у мяне ў руках, і я перадаў яго няні, якая выйшла ў вестыбюль і папярэдзіла бацькоў, што пачынаецца выпісванне. Выйшла і галоўны ўрач Бася Захараўна. Яна зірнула на мяне і папытала:

— Ну, таварыш карэспандэнт, будзем пісаць нарыс?

— Будзем, будзем, Бася Захараўна. От забяру дадому сваіх. Няхай адна трошкі падужэе, а другі падрасце, тады і прыйду.

— Можа, тады я павяджу вас і па палатах. А сынок ваш ладны хлопчык. Дужанькі.

Галоўны ўрач знікла за дзвярыма, і праз нейкі момант я ўгледзеў, што яна нясе аберуч белы скрутак, а следам за ёю ідзе мая Марылька. Яна неяк схуднела, збляжэла,

стала як бы нейкая кволая-кволая і, дзіва,— яшчэ больш сарамяжая. Глядзіць на мяне, і на твары яе такая ўсмешка, якое я ніколі ў яе не бачыў. Бася Захараўна дае апошнія настаўленні, як абыходзіцца з дзіцем, і калі на Марыльку кажа «мамаша», тая чырванее, быццам яна чым правінавацілася.

— Ты ж паглядзі, ён выліты ты. І носік і вочкі — усё тваё.

А Сяргейка, мо таму, што Марылька адкрыла яму тварык, як мне здалося, балюча зморшчыўся, варухнуў галоўкаю і сіпавата закугакаў.

— Ты, мабыць, яго прахаладзіла, бо чаго ж ба ён асіп.

— Не, не прахаладзіла. Гэта ў яго такі мужчынскі бас.

Мы выходзім з вестыбюля ў сад. Я рады, што мой Сяргейка нарадзіўся ў такую пару, калі сонца гэтакае ж ласкавае, як маці, калі калыханкі спяваюць птушкі. Марылька хоча ісці дадому пехатою. Але я ні блізка. Як гэта пехатою!

— Сядай от на лавачку, пасядзі, а я хуценька.

Я знікаю і праз колькі хвілін падганяю рамізніцкі фаэтон. Рамізнік сядзіць на козлах і ўсміхаецца, гледзячы, як я нясу на руках дзіця.

— З прыбыткам вас,— кажа ён.

— Дзякую.

— Што ж бог даў, сына ці дачку?

— Сыночка, сыночка. Сяргейку,— узрушана адказваю я.

— То няхай расце вялікі,— кажа рамізнік і шморгае за лейцы. Застаялы конь ірвецца наўскач, і Марылька ледзь не крычыць. Як яна баіцца за хлопчыка!

Усё мне цяпер прыгадалася, быццам яно было ўчора. Быццам Сяргейка яшчэ маленькі, з прыплюшчанымі вочкамі, з маршчакаватым, як гармонічак, чырвоным лобікам. Падыходжу да сынавага ложка і ўглядаюся ў родны тварык. Не, не, Сяргейка не той ужо.

Сяргейка мо ад таго, што я гэтак углядаюся яму ў твар, варочаецца, мармыча нешта спрасоння. Каб не ўзбудзіць яго, я адыходжу ад ложка да канапы. На спінцы яе стаіць круглы папяровы рэпрадуктар. У некалькіх месцах папера папрадзірана. Гэта Сяргейкава работа. Аднойчы Марыльцы заманулася адскочыць у магазін. Яна сказала Сяргейку, каб не нарабіў ніякай шкоды, замкнула дзверы і сама пабегла. Не вельмі доўга і забавілася. Прыходзіць дадому

і бачыць: Сяргейка стаіць на канапе і раздзірае рэпрадуктар.

— Што ты, сынку, робіш? Я ж табе казала, каб ты ніякай шкоды не рабіў. А ты вунь што!

— Мамачка, цёця вельмі прыгожа спявае, дык я хачу паглядзець, якая яна. Яна ж там сядзіць.

— Дзе, дурненькі?

— Там, у радзіве,— Сяргейка паказаў пальчыкам на рэпрадуктар.

Марылька аж зарагатала. Гэтак наш рэпрадуктар і астаўся з слядамі Сяргейкавай дзіцячай дапытлівасці.

Паабедаўшы, я звычайна клаўся на канапу, закідваў нагу за нагу і гэтак, лежачы дагары, чытаў газеты. Аднаго разу Марылька сустрэла мяне радаснай усмешкай.

— Нешта ты, Марылька, вельмі вясёлая сёння?

— А чаму ж мне не быць вясёлай, Сяргейка наш выліты ты.

— Што? — не зразумеў я.

— А вось паглядзі! Сяргейка,— звярнулася яна да сына,— пакажы, як тата газеты чытае.

Сяргейка кінуўся на канапу, лёг дагары, заклаў нагу на нагу і, гледзячы ў газету, пачаў балабоніць.

Усё мне прыгадваецца: і першы Сяргейкаў крок, і першае вымаўленае слова. Звычайна ў малых найпершым словам бывае «мама». А ў нашага Сяргейкі было «тата». Марылька аж зазлавала была на мяне. Маўляў, гэта я вінаваты — гэтак хлопчыка прынадзіў, што ён не прызнае яе за маму. Але неўзабаве Сяргейка авалодаў і другім родным словам — «мама», і Марылька ўжо не злавала ні на мяне, ні на хлопчыка.

На стале яшчэ звечара былі пастаўлены: смажаная рыба, кілбаса, накроены хлеб, чацвярцінка гарэлкі — гэта для мяне. Для Марылькі з Сяргейкам — па бутэльцы крушону. На світанні меліся пайсці на прыстань і паехаць катэрам на пляж. Думалі пазагараць, пакупацца ўдосталь за выхадны дзень.

А ноч ціхая-ціхая. Чаму ж я не магу заснуць? Трывожныя думкі лезуць і лезуць сляпіцаю ў галаву. Сам не ведаю, чаго мне трывожыцца. Сяргейка наш дужанькі. Ды і Марылька вунь у сне ўсміхаецца, мабыць, нешта прыемнае сніць. Падыходжу да ложка і ўглядаюся ў любы жончын твар.

— Макарка, чаму гэта ты не спіш? Мо што баліць табе? — прахапілася жонка.

— Не, нічога не баліць. От жа трэба матэрыял напісаць.

— А я дык прачнуцца ніяк не магу. Ты менш думай пра той матэрыял. Што табе думаць?

Прылёг і я на ложак. Марылька абняла мяне і хуценька заснула. Яна, відаць, думала, што, атулены яе ласкай, я таксама засну. Але сон і блізка не падступаўся да мяне: карцела, як лепш напісаць. Ціхенька ўстаў — і за стол. Наклёўвалася ўжо світанне. Яно ішло павольна, быццам старалася даць людзям хоць хвілінку паспаць, бо летняя ж ноч такая, што не толькі не выспішся, дык нават, калі цікавы сон набрыдзе, і таго не дасніш.

Світанак патушыў зоры, і неба было яснае, над зямлёй толькі вісеў ружаваты туман. Такі туман заўсёды бывае перад спякотным днём. Я толькі падумаў: от накупаемся, хоць раз дарвёмся да летняй любаты. Не паспеў я так і падумаць, як нешта скаланула перадранішнюю цішыню, ударыла, быццам нечаканы пярун. Кінуўся да акна паглядзець: адкуль ён узяўся сярод яснага неба? Высунуўся з акна і шукаў зброддівай хмары, якая нарабіла грымотаў. Аднак на небе не відно нідзе ні хмурынкі. Адно толькі край яго на ўсходзе крывавіўся сонечным бляскам: вялізнае чырвонае кола выкочвалася на небасхіл.

Пачуліся адзін за адным стрэлы зенітных гармат. Яны былі нядружныя, быццам тыя, хто страляў, думалі: ці варта парушаць ранішнюю цішыню над горадам, які яшчэ не сагнаў сну са сваіх стомленых павек. Але ўжо нельга было не страляць: раз-пораз глушылі наваколле бомбавыя выбухі. Апантана раўлі сірэны, гулі гудкі.

Марылька прахапілася. Спрасоння яна ніяк не магла даўмецца: што гэта такое? У начной сарочцы яна сядзела, спусціўшы ногі, плюскала вачыма і не магла вымавіць ні слова. Я-то ўжо здагадаўся, што пачалося, хоць і не хацелася верыць; хацелася думаць, што гэта не што іншае, як чарговая вучэбная трывога. А ў горадзе, мабыць, недзе на яго ўскраінах, а мо на аэрадроме, вухалі бомбы, ляскаталі зeніткі.

— Макарка, што гэта такое? — закрычала спалоханая Марылька.

— Мабыць, вайна.

— Божачка мой!

Марылька кінулася да Сяргейкавага ложка, схапіла соннага хлопчыка на рукі і пабегла да дзвярэй.

— Ты хоць бы надзела на сябе што. Куды ж ты ў адной сарочцы з голым дзіцем?

Марылька як бы цяпер толькі заўважыла, што яна ў адной сарочцы, а Сяргейка ў адных трусіках.

— Стань, дзетка,— Марылька пусціла з рук хлопчыка, які ўсё яшчэ не разумеў, што сталася з маткаю.

— Тата, куды гэта мы? — спытаў у мяне Сяргейка.

— Пойдзем хавацца ад бомбаў. Вайна!

— Вайна? — аж павесялеў хлопчык.— Мы ўчора з Лёнькам гулялі ў вайну, дык я пабягу да яго.

Марылька з перапуду надзявала то адну, то другую сукенку.

Я таксама не ведаў, за што ўзяцца. Мне ўсё яшчэ не верылася, што гэта сапраўды на ясным чэрвеньскім світанні грымнуў пярун вайны. Уключыў рэпрадуктар, але ён маўчаў.

З-за сухмарка выкацілася сонца, пляснула чырванню на шыбы акон, на стол, дзе стаялі прызапашаныя яшчэ ўчора бутэлькі. На цьмяным шкле іх скакалі сонечныя зайчыкі. Я схапіў на рукі Сяргейку і сігануў за дзверы. За мною з клункамі ў руках кінулася Марылька. На захадзе ранішняга неба разгулялася крывавая бліскавіца.

## НА ЗБОРНЫМ ПУНКЦЕ

Спачатку на блакіт нябёс выплыў адзін крыжасты самалёт. Следам за ім грымотнымі хвалямі наплывалі другія. З аэрадрома, што быў на ўскраіне горада, імкліва ўзняліся ўгару некалькі самалётаў. Над аэрадромам пачалося неймаведама што — то адзін, то другі самалёты задыміліся і, пацягнуўшы да зямлі чорныя хвасты, выбухнулі апошнім полымем.

— Што ж нам рабіць, Макарка? — затрывожылася Марылька.

— А тое, што і ўсім людзям,— адказаў я, бо і сам не ведаў, што нам рабіць, куды падацца.

Вайна! Якое гэта страшнае слова. Мы ўсе пра яе часта гаварылі, чыталі ў газетах, на вайсковых і асаавіяхімаўскіх зборах вучыліся хадзіць страявым крокам, практыкаваліся, хто хутчэй надзене процівагаз, і ўсё ж, калі яна прыйшла, для нас, асабліва для тых, хто не нюхаў пораху, была страшэннай і незразумелай навалай. Ды хіба толькі

для тых, хто не нюхаў пораху? Для ўсіх. Гэта было відно ўсюды. У горадзе, дзе кожны мірны ранак пачынаў жыццё ў нейкім усталяваным, зладжаным рытме, адразу неяк усё парушылася.

На вуліцах быў гармідар, і ўсё нарабілі тыя пажары, што заняліся пасля першай бамбёжкі. Асабліва жахлівы пажар быў на нафтабазе. Чорныя клубы дыму даставалі неба, а вогненныя языкі злізвалі на зямлі ўсё, што траплялася ім. Яны кідаліся, як жывыя, нібы хацелі захлынуць увесь горад.

— Макарка, што гэта дзеецца? — лямантуе Марылька.

— Хіба ты не бачыш? На вайне так і павінна быць,— адказваю я, стараючыся быць як мага спакайнейшым, быццам мне не ўпершыню бачыць гэтакае.

— Макар Васільевіч,— нехта тузае мяне за рукаў.

Азіраюся. Бачу нашу рэдакцыйную вахцёрку цётку Кацю.

— Рэдактар казаў, каб вы хуценька беглі ў рэдакцыю.

Я адразу ўспамінаю, што па суседству з намі ў двары школы ёсць бамбасховішча, і загадваю Марыльцы бегчы з Сяргейкам туды. Марылька з момант стаіць у нерашучасці і глядзіць услед мне. Сяргейка памкнуўся бегчы за мною, але Марылька схапіла яго за ручку. Я прыспешваю крок. Стараючыся не адстаць, трухае за мною цётка Каця. Яна не гаворыць, а як бы галосіць па нябожчыку:

— Што гэта дзеецца? Гэта ж, мусіць, канец свету, Макар Васільевіч!

Праз увесь калідор у рэдакцыі парасчыняны дзверы, быццам там пагуляла віхура. Падлога ўслана паперамі.

— От добра, што ты прыйшоў, Макар Васільевіч,— сустрэў мяне Федчанка.— Хіба ж тых карэктараў цяпер дзе дашукаешся. Экстранна лістоўку трэба выпусціць.

За дзвярыма пакоя машыністак-радыстак на ўсю сілу гаварыў радыёпрыёмнік. Дыктар ТАСС дыктаваў зварот урада да народа. Машыністкі не было. Ад рукі запісваў сакратар рэдакцыі. Я хуценька ўзяўся перакладаць тэкст на беларускую мову. Рэдактар чытаў пасля мяне, а цётка Каця па старонцы адносіла ў друкарню.

— Як ты, Макар Васільевіч, думаеш: надоўга пачалася гэтая калатнеча? — пытае Федчанка.

— Не павінна надоўга,— адказваю я, на момант адрываючыся ад арыгінала.

— І я гэтак думаю,— згаджаецца са мной рэдактар.— Але дзе гэта падзеліся нашы «ястрабкі»? Іх жа тут столькі

было. А паднялося насустрач фашыстам усяго адно звяно.

— Мабыць, паляцелі туды, дзе пачаліся баі,— выказваю я сваё меркаванне.

Я канчаў вычытваць карэктуру лістоўкі, як у пакой увайшоў міліцыянер.

— Хто з вас грамадзянін Шыянок Макар Васільевіч? — спытаў ён.

— Я Шыянок. А што такое?

— Хіба вы не ведаеце, што такое? Вайна! Я вас шукаю. Двойчы насіў на кватэру позву. На добры лад трэба было самому ў ваенкамат з'явіцца, дык вас яшчэ шукай.

З рэдакцыі я выбраўся ў другой палавіне дня. На вуліцах было тлумна. Ля прадуктовых магазінаў, у якіх учора аж ламаліся паліцы ад прадуктаў, цяпер былі чэргі. Людзі стаялі з мяхамі, наладаванымі да палавіны. Прыглядаюся, мо дзе і мая Марылька кінулася ў чаргу: дома ж у нас няма ніякага запасу, апроч таго, што Марылька ўчора падрыхтавала, каб узяць з сабою на маёўку. Марылькі нідзе не ўгледзеў. Прыбег дадому — і дзверы на замку. Кінуўся ў бамбасховішча ў надзеі знайсці там сваіх.

Бамбасховішча — велізарнае сутарэнне пад трохпавярховым домам, хоць бамбёжка даўно ўжо спынілася, аж кішэла людзьмі. З дзвярэй яго, прайсці праз якія нельга было нават і думаць, чуўся зацяты прыглушаны гул, лямант і галашэнне. Хачу ўсё-такі прабіцца ў дзверы, але натыкаюся на шчыльную жывую сцяну, якую наўрад ці можна зрушыць плячом.

— Куды вы, малады чалавек? — пытае жанчына. — Вам трэба ісці ваяваць, а вы лезеце хавацца.

— Не хавацца! — угневана крычу я.— Мне жонку з сынам трэба пабачыць!

— Дзе вы тут яе знойдзеце,— разважліва кажа мне згорблены стары.— Тут чалавек як тая іголка.

Не зважаючы ні на што, ціснуся, крычу:

— Марылька, абзавіся!

Словы мае тонуць і нікнуць у гуле чалавечага натоўпу, у галашэнні і прычытах.

— Няўжо ж гэта на яго і ўправы не будзе? — пытае як бы сама ў сябе жанчына.

— Будзе! Будзе! — упэўнена адказваю я, быццам ведаю ўсе планы і намеры нашага камандавання.

— Каб жа твае, сынок, словы ды богу ў вушы. Хай бы гасподзь бог пакараў таго супастата, што ён на нас, старых і малых, кідае смерць гэту.

— Ат, смерць! Якая ж вайна без смерці. А тое, што, вы думаеце, Гітлер сюды прыйдзе, дык трасцу,— умяшаўся згорблены стары, відаць, былы салдат.— Расія наша як той асілак. Ён рахманы, пакладзісты, але калі ўжо ўзлуецца ды дасць, дык і сківіцы паразлятаюцца. Яно было так і ў напалеонаўскую кампанію. Так і ў тую вайну з немцам. Так і ў гэтую будзе.

— Марылька! — зноў крычу я ў адчаі, але Марылька не абзываецца.

— Можа, яна дзе ў іншым сховішчы,— кажа старая, што нядаўна кляла Гітлера.— А калі і тут, дык хіба яе, дзеткі, знойдзеш.

Я сапраўды страціў надзею знайсці Марыльку з Сяргейкам і выбег са сховішча, думаючы зноў заскочыць дадому: можа, яна там? Але ў пакоі было пуста. Я чамусьці адчуў, нібы гэты пакой пакінулі не от толькі што, а даўно ўжо. Здавалася, усё зыначылася ў ім, і рэчы сталі быццам чужыя. Зірнуў на падрыхтаваны запас і ўспомніў, што ў мяне ў роце яшчэ і расінкі не было. З гора забыўся, што трэба есці. Але я не стаў сілкавацца. Падумаў: прыйдуць Марылька з Сяргейкам, дык няхай хоць пад'ядуць. Можа, яна нідзе больш нічога не дастане, сам жа бачыў, як апусцелі паліцы ў магазінах. Адно хіба гэтая чацвярцінка гарэлкі Марыльцы з Сяргейкам не спатрэбіцца. Адкаркаваў бутэлечку і выпіў, нічым не закусіўшы. Думаў, што адразу ап'янею, звалюся з ног: я ж ніколі па столькі не ўжываў спіртнога. Але ў галаве толькі трошачкі зашумела, і свет неяк, здаецца, паружавеў, а тыя выбухі, якія скаланалі зямлю, страляніна зенітак ужо як ненатуральныя.

Схапіў аркушок паперы і напісаў:

«Марылька, любая мая! Шукаў вас і не знайшоў. Іду ў ваенкамат. Хто яго ведае, ці пабачымся больш. Беражы Сяргейку як сваё вока. Калі што тут крута будзе, дык дабірайся як да Рагазіна. Там, мабыць, бамбіць не будуць. Глядзі сама, як жыць. Цяпер я наўрад ці здолею быць табе памагатым. Абдымаю і цалую вас. Мацуйцеся, мае родныя...»

На вочы набегла няпрошаная сляза. Няўжо гэта такая нялюдская наша ростань?

Іду Сялянскай, пераходжу Савецкую і накіроўваюся на Садовую вуліцу. Зялёныя прысады аж млеюць ад гарачыні. А вуліцы нейкія інакшыя, не такія, як былі ўчора: маўклівыя, панурыя, сумныя.

А ўсё ж гарэлка дае сябе знаць. Яна трошачкі прыглушыла боль, трывогу. Хмель кідае тропкі на ўхабы, але я стараюся трымацца так, каб нічым не выдаваць таго, што п'янаваты.

На Садовай ля знаёмага кожнаму запасніку двухпавярховага дома — натоўп людзей. Чалавек у вайсковай форме стаіць на нейкім узвышэнні і выгуквае прозвішчы. Яго не вельмі чутно. Але тыя, хто бліжэй, паўтараюць яго. Потым, калі той, каго выклікалі, абзываецца, па руках над галовамі да яго ідзе паперка.

Гэтакім чынам пад самы вечар і да мяне прыйшла паперка, у якой паведамлялася, што мне трэба з'явіцца на зборны пункт у размяшчэнне часці на Волатаўскую вуліцу дваццаць пятага чэрвеня, маючы пры сабе пару чыстай бялізны, кубак, лыжку і на два дні правіянту.

Гэтыя тры дні немаведама што дзеялася ў горадзе. Праўда, на другі дзень ужо людзі неяк трохі асвойталіся з выбухамі і стралянінай. І мая Марылька з Сяргейкам на другі дзень з'явіліся дадому. Першую ноч яны перабылі ў бамбасховішчы. Марылька як угледзела, што я дома, дык кінулася на шыю, быццам з таго свету мяне прычакала.

— А Макарка, а любы, а я думала, што цябе ніколі і не пабачу,— плакала яна.

Сяргейка хадзіў па пятах нават тады, калі мне трэба было ісці ў рэдакцыю аформіць разлік.

Там таксама быў гармідар. Тым, хто атрымаў прадпісанне на мабілізацыю, ужо не ў галаве была работа. Федчанка кідаўся як апантаны: газету ж трэба было выпускаць, друкаваць хоць тыя невясёлыя паведамленні, што ішлі з франтоў. А паведамленні былі сапраўды невясёлыя: у кожнай зводцы паяўляліся новыя напрамкі. Праўда, у газетах друкаваліся і перадаваліся па радыё эпізоды пра гераізм нашых воінаў, але эпізоды эпізодамі, а ў зводках ужо з'явіўся баранавіцкі напрамак, а потым і мінскі... Гэтак і пісалася: «Пасля цяжкіх баёў з пераважаючымі сіламі праціўніка нашы войскі пакінулі горад Баранавічы». Гэтага без болю нельга было чытаць. Радавала, неяк трохі заспакойвала другое паведамленне. «Лётчыка N-скага авіязлучэння атакавалі пяць «месершмітаў». Яны падбілі самалёт, але герой не здаўся. Палаючы самалёт кінуў на танкавую калону, якая рухалася па шашы. Самалёт урэзаўся ў танкі і ўзарваўся. Агнём магутнага выбуху была знішчана калона танкаў праціўніка».

І ў нашым горадзе, хоць ён быў няблізка ад фронту, вунь як адчувалася вайна. Налёты фашысцкай авіяцыі сталі больш частымі. Усе, хто мог трымаць у руках рыдлёўку, выйшлі за горад капаць супрацьтанкавыя равы. Пры ўваходзе ў горад на ўсіх вуліцах былі пастаўлены крыжавіны з рэек і ўкапаны надаўбні. Значыць, нашы, мабыць, не спадзяюцца на тое, што сюды не прыйдуць фашысты. Федчанка па сакрэту мне паведаміў, што ёсць загад падрыхтоўваць на ўсякі выпадак да эвакуацыі прадпрыемствы. Пэўне што не спадзяюцца: у горадзе ствараліся атрады народнага апалчэння. У іх задачу ўваходзіла барацьба з дэсантамі і дыверсантамі, якіх фашысты засылалі нават у далёкія тылы.

Два дні я прасядзеў у рэдакцыі, хоць там я мог і не быць. Нейк адразу нельга было адарвацца ад роднай стыхіі. Мне здавалася, што гэтак раптам без рэдакцыі я буду як тая рыбіна без вады, і я памагаў выпускаць газету. Сам сябе нават дакараў, што не пабыў гэтыя апошнія дні з сям'ёй. Пад вечар, прыйшоўшы дадому, я застаў Марыльку ў слязах.

— Што такое?

— Ты кінуў-рынуў дый пайшоў. Хоць бы з намі пабыў у такі час.

— Дык ты толькі праз гэта плачаш? Дзівачка!

— Сэрца маё абарвалася, крывёю аблілося.

— Чаго?

— Па табе ды вунь па ім,— паказала Марылька на сына.

— Не разумею... А пры чым тут ён?

— Уцёк ад мяне і цябе пайшоў шукаць. А я ўвесь горад аббегла, думала, няма ўжо і жывога яго. Ва ўсіх аддзяленнях міліцыі пабыла, а ён як скрозь зямлю праваліўся...

Марылька расказала мне, як яна пакінула Сяргейку дома, наказаўшы не выходзіць з кватэры, а сама пабегла ў магазін дастаць чаго-кольвек. Вярнулася, а хлопчыка няма. Бегала, ва ўсіх пыталася, можа, хто бачыў... Дарэмна... І толькі от нядаўна, перад тым як мне прыйсці, два лейтэнанты прывезлі пад самы дом Сяргейку і высадзілі з машыны. Марылька кінулася да іх сварыцца, але адзін з іх спакойна адказаў:

— Мы нічога благога вашаму сынку не зрабілі. Звазілі ў сталовую і накармілі абедам.

Камандзіры ветліва развіталіся з Марылькай і паехалі.

— Куды цябе вазілі, сынок? — дапытваўся ўжо я ў Сяргейкі.

— Я папытаў у дзядзек: «Куды вы едзеце? На фронт немцаў біць?» Папрасіўся ў іх, каб і мяне ўзялі...

Сяргейка па-дзіцячаму расказваў, як ён прасіў у дзядзькаў вінтоўку. Яны яму абяцалі, а потым завезлі ў сталоўку накармілі. Дапыталіся, дзе хлопчык жыве, і прывезлі назад.

Марылька ад перажытага ніяк не магла супакоіцца: яна паціхеньку румзала, непрыкметна выціраючы слёзы.

— Адразу відаць, што мужчына расце,— сказаў я,— няма чаго румзаць...

Сяргейка павесялеў, відаць, думаючы, што я пахваліў яго за такі ўчынак. Аднак я адразу ж сур'ёзным тонам сказаў:

— Ты мне глядзі, каб больш гэтага не рабіў. Слухайся мамы...

Дома было столькі заклапочанасці, і не дзіва: заўтра зранку мне трэба было з'явіцца на зборны пункт. Марылька ўсё збірала, каб я ўзяў з сабой. Але я, як халоднай вадой, астуджваў яе ўвішны гаспадарскі клопат:

— Нічога мне не трэба... Як стаю, гэтак і пайду... Салдату ўсё дадуць. Ты глядзі сябе...

Хацелася мне звязацца як з Рагазінам, каб хто — ці мой, ці Марыльчын бацька — прыехаў і забраў іх. Я напісаў ліст, аддаў Марыльцы, каб яна пераслала, хоць сам і не быў упэўнены, што гэты ліст дойдзе: гэткая ж калатнеча ўзнялася...

На Волатаўскай былі ваенныя казармы. Полк выехаў у лагеры, і двор казармаў выпусцеў: валяліся параскіданыя спартыўныя прылады, некаторыя дзверы і вокны будынкаў былі накрыж забіты аполкамі. Тут былі мабілізаваныя не толькі з горада, але і з блізкіх раёнаў. Ішла абмундзіроўка салдатаў. Аж два цырульнікі працавалі машынкамі. Невялікімі камандамі, чалавек па дваццаць — трыццаць стрыжаных з абмундзіраваннем пад пахамі чырвонаармейцаў адпраўлялі мыцца ў гарадскую лазню.

У гэты дзень мая чарга на абмундзіроўку не падышла. Аднак дадому мяне не пусцілі, загадалі ўсім ісці ў пустую казарму нанач.

Над казармай раз-пораз ляталі фашысцкія самалёты. На самым вільчыку казармы, ля коміна, яшчэ задоўга да вайны быў абсталяваны спецыяльны памост для зенітных кулямётаў, але цяпер на ім чамусьці не было зброі. Як

толькі налятали самалёты, мы хаваліся з відавоку і адзін у аднаго пыталі: чаму няма кулямёта? Дапыталіся ў сержантаў, якія тут распараджаліся нашай мабілізацыяй, што перад тым як выбрацца ў лагеры, кулямёт знялі з памоста. Для начальніка пункта салдаты выкапалі глыбінёй у рост чалавека траншэю, і ён кожны раз, як толькі чуў гул матора, кідаўся туды. Сержант паказаў мне начальніка зборнага пункта капітана Гулявіцкага. Гэта быў высокі, стройны, гнуткі, як балерына, з тонкай, перацягнутай на апошнюю дзірачку папругі, таліяй чалавек. Абмундзіраванне на ім было, быццам ён сабраўся не на вайну, а на парад. Твар смуглявы, на верхняй губе вусікі трошачкі шырэйшыя за нос. З-пад фуражкі з блішчастым брыльком як бы выпісваліся намаляваныя чорнай тушшу бакенбарды, што даходзілі трошачкі ніжэй мочак вушэй.

На змярканні паявіўся самалёт. Ён павольна кружыў над прырэчным раёнам горада. Лётчык да таго высоўваўся з кабіны, што здавалася: ён вось-вось выкуліцца. Нехта з сержантаў не вытрымаў і стрэліў з вінтоўкі. Вядома, ён не пацэліў ні ў лётчыка, ні, можа, нават у самалёт, мо нават лётчык і не пачуў таго стрэлу, бо ён ніяк не рэагаваў на яго. Як толькі самалёт аддаліўся, капітан Гулявіцкі выскачыў з траншэі і закрычаў на ўвесь двор:

— Хто страляў?

Маўчалі сержанты. Маўчалі і мы, мабілізаваныя, хоць і бачылі, што страляў нярослы, з пабітым воспаю тварам сержант, які ляжаў непадалёку ад мяне пад сцяною. Капітан Гулявіцкі не ўнімаўся:

— Хто страляў, пытаю ў вас?

Сержанты перакідваліся позіркамі.

Нарэшце васпаваты хуценька падбег да капітана і далажыў:

— Я страляў, таварыш капітан!

— Хто вам загадаў?

— Хацеў фашыста забіць. Вінтоўка сама стрэліла.

— А вы ведаеце, што ёсць загад не страляць па самалётах?

— Ніяк не, таварыш капітан.

— Сваім стрэлам вы дэмаскіравалі нас і тым самым зрабілі злачынства.

— Вінават, таварыш капітан.

— Глядзіце, каб гэта было апошні раз.

На мулкай казарменнай падлозе я ў тую ноч не заснуў ні на волас. Усё думалася-думалася, як яно будзе.

— Чаму вы не спіцё, таварыш Шыянок? — звярнуўся да мяне сусед.

— Адкуль вы мяне ведаеце?

— Вас многа хто ведае. Журналіста ды не ведаць. З год таму назад вы на нашым заводзе былі. Яшчэ са мною гутарылі.

— Памятаю,— адказаў я, хоць і ніяк не мог прыгадаць, калі гэта і пры якіх акалічнасцях было.

— Маё прозвішча Марыніч, калі выпадкам забыліся...

— Памятаю, памятаю,— пацвярджаю я, рады таму, што паявіўся знаёмы чалавек.

— Што гэта будзе? Вы не ведаеце? — пытае Марыніч.— Мабыць, лясне наша краіна. Вы чулі сённяшнюю зводку?

— Дармо вы так думаеце, таварыш Марыніч. Сіла ў нас большая,— стараюся я пераканаць суседа.

А Марыніч шэпча мне:

— Я чуў, што ўжо ўсе гарады да Мінска пад фашыстам. А Мінск увесь агнём падняўся. Нашы разбягаюцца хто куды.

— Адкуль вы ўсё гэта чулі? — зазлаваў я.

— А вы не злуйце. За што купіў, за тое і прадаю,— трошкі спалохаўся майго гневу Марыніч.

— Вы нікому пра гэта і не заікайцеся,— раю я яму.— Гэта пахне дэмаралізацыяй войска. Такія гаворкі дрэнна канчаюцца.

Марыніч, мусіць, убачыўшы, што зерне, якое ён сее, падае на камень, прымоўк. Неяк само сабою, пасля хвіліны маўчання, гаворка перайшла на звычайнае. Марыніч дапытваўся, хто ў мяне астаўся дома і ці мае жонка што на пражытак. Калі я сказаў яму, што ніякіх запасаў у нас дома няма, ён аж рукамі ўспляснуў: як гэта так — журналіст, чалавек, які, мабыць, і зарабляў ніштавата, не думаў, не дбаў пра чорны дзень.

— Я чорнага дня не чакаў. Верыў, што ўсе нашы дні будуць светлымі, сонечнымі.

— Дзівак чалавек. Заўсёды трэба думаць пра чорны дзень. У кожнага чалавека, калі дня таго яшчэ не было, дык абавязкова будзе,— зрабіў свой поўны безвыходнасці вывад Марыніч.

— Адкуль у вас такая філасофія? Я не веру ў яе.

— Добра вам, калі вы не верыце. А цяпер от паверце, бо чорны дзень для ўсіх настаў.

— На людзях і гора не такое горкае. Як будуць усе

жыць, гэтак і мае пераб'юцца,— сказаў я Марынічу, хоць сам сабе падумаў, што гэты Марыніч, мабыць, такі і мае трошкі рацыю. Хто яго ведае, як мая Марылька з дзіцем будуць перабівацца.

Але гэтых сваіх думак я не выказаў Марынічу, а запытаў у яго, ці даўно ён на заводзе. Марыніч здзівіўся майму запытанню і адказаў, што на заводзе працуе гады з чатыры, што пасля мабілізацыі з арміі не паехаў у сваю вёску, а ўладкаваўся на заводзе. За гэты час пабудаваў дамок на Спакойнай вуліцы і жыў анігадкі.

— Дык вы мо і Леванюкоў ведаеце?

— Чаму ж мне не ведаць, яны ж мае суседзі.

— І Іру ведаеце?

— Хто яе не ведае. Цяпер яе ўся вуліца ведае. Мабыць, і вы туды дахаджалі? Пасля трэцяга мужа дык зусім па руках пайшла. Стары ніяк не можа да глузду яе прывесці.

Мне не хацелася, больш таго — балюча было слухаць гэта: усё-такі я некалі кахаў яе і мо нават трошкі вінаваты, што яна стала такою. Не хапіла рашучасці паваяваць за чалавека. Але, каб не назаляць самому сабе, я прапаную Марынічу:

— Давайце хоць трошкі паспім. Хто яго ведае, ці давядзецца нам цяпер калі выспацца.

На двары была летняя ціхая ноч, якая ўжо ішла на спад, на шыбы акон наплывала шэрань світання. Я наставіў каўнер пінжака і, паклаўшы галаву на нейкі чурбак, заплюшчыў вочы. Заплюшчыў адно для прыліку, каб толькі адкараскацца ад гаворкі з Марынічам. А думкі-думкі... Перад вачыма стаяла заплаканая, разгубленая Марылька. Мне здавалася, што на тое самае сутарэнне, у якое я не мог пралезці, упала самая вялікая бомба.

За гэтыя колькі хвілін, нібы запісанае на кінаплёнку, прабегла ў памяці перад вачыма жыццё Сяргейкі. Успомніліся яго першыя крокі. Я ўзяў пад пашкі, паставіў на ножкі, і ён адразу, валюхаючыся, як качанё, пабег хуценька-хуценька. Можа, больш я ніколі не ўгледжу ні Сяргейкі, ні Марылькі. Здаецца, каб прымеў, дык зубамі б грыз горла фашыстам за тое, што яны ўсчалі гэтакае на нашай зямлі.

У казарме ніхто не крычаў пад'ёму. Недзе непадалёк, можа, на элеватары, гэхнула бомба і як бы напалам раскалола зямлю. Усіх нас падняло на ногі... Выбеглі на двор. З траншэі відна была капітанава галава. Ён крычаў:

— Маскіруйцеся! Не збірайцеся ў кучы! Ляцяць! Ляцяць!

Сапраўды, капітан меў вельмі чуйнае да маторнага енку вуха. З-пад сонца набліжаўся гул. Цяжкія самалёты хвалямі наплывалі на ціхае неба горада. Яны рэзка пікіравалі з вышыні і калацілі выбухамі зямлю. Узмахвалі чорныя грыбы дыму і пылу. Не паспявала ўсё гэта асесці, развеяцца ў паветры, як новая хваля зрынalася на зямлю. Спрабавалі ляскаць зеніткі, але хутка змоўклі. Фашысцкія «юнкерсы» выраблялі ў небе што толькі ім хацелася. Выходзячы з піке, яны страчылі з кулямётаў. Адсюль цяжка было вызначыць, што бамбілі фашысты. Мабыць, бомбы падалі на паўднёвай ускраіне горада, але выбухі як бы паглушылі, абязвечылі ўсіх нас.

Нарэшце бамбёжка спынілася, і капітан пачаў выклікаць па спісу, каму атрымоўваць абмундзіраванне. Надышла і мая чарга. Згроб у бярэмя вопратку. Пачулася каманда строіцца. Капітан загадаў мне весці ў лазню каманду. Адсюль да лазні было далекавата. Можна было бісці па цэнтральнай Савецкай вуліцы, а можна было і бакавымі. Я павёў бакавымі, бо ў нас з гэтымі клункамі быў такі выгляд, быццам мы з пажару. Сержант, які ішоў па тратуары і наглядаў за нашым строем, загадаў спяваць песню. За гады службы ў арміі ён, мабыць, звык: дзе строй, там і песня. Але каму было сёння да песні, і я не настойваў, каб спявалі. Мабыць, і сержант зразумеў, што нам не да песні.

Хуценька памыўшыся і абмундзіраваўшыся, я выйшаў збіраць сваю каманду. Разы тры пералічваў у вестыбюлі лазні людзей, але трох чалавек так і недалічыўся. Мо прыбіліся да якой іншай каманды, бо вельмі цяжка было пазнаць людзей пасля таго, як яны пераапрануліся з цывільнага ў вайсковае. Адно, па чым можна было адрозніць нашых, дык гэта па чырвоных чаравіках. Я такіх ні разу і не бачыў у салдатаў.

З лазні пайшлі па Савецкай. Нагі не падлічваю, але салдаты — іх ужо цяпер можна назваць гэтак — самі ідуць як мае быць, відаць, вайсковая форма дысцыплінуе. Адно Марыніч неяк ззаду ломіць строй, ідзе ў развалку. Мо задумаўся чаго: мне хацелася зрабіць яму заўвагу, аднак я прамаўчаў. Прыходзіць у галаву думка аднесці дадому сваё цывільнае адзенне. Тут жа дадому рукой падаць. Прашу дазволу ў сержанта.

— Ідзіце, таварыш чырвонаармеец, аднясіце. Я сам павяду строй.

Толькі мне трэба было павярнуць на сваю вуліцу, як нібы з-пад зямлі выраслі два ўзброеныя цывільныя.

— Грамадзянін, вашы дакументы.

Я паляпаў па кішэнях гімнасцёркі, шукаючы сам не ведаю чаго; пашпарт і ваенны білет я здаў у часць, з якой мне не паспелі выдаць ніякага дакумента.

— Няма ў мяне ніякіх дакументаў.

— Я так і ведаў,— настаўляючы на мяне вінтоўку, сказаў маладзейшы.

— Я з лазні... Нас толькі што абмундзіравалі. Мы ішлі строем да казармы, дык я от папрасіўся аднесці дадому барахло сваё. Во яно ў мяшку.

— Ведаем, ведаем, не загаварвай зубы,— падазрона гледзячы на мае чырвоныя чаравікі, казаў старшы.— Следуй за намі.

Вялі мяне не ў цэнтр горада, дзе можна было сустрэць каго знаёмага і пераканаць рабочых, што я не вораг, а ў раён завода «Пралетарый».

— Куды вы мяне ведзяце?

— Дзе гэтыя твае чаравікі шыліся — у Мюнхене ці ў Берліне? — з кепікамі спытаў другі патрульны.

— Не ведаю. Можа, на фабрыца «Праца».

— Бач, гад печаны, нават фабрыку «Праца» ведае. Добра цябе, відаць, нашпігавалі перад тым, як скінуць сюды.

— Адкуль скінуць?

— Мы ж не ведаем, адкуль цябе скінулі. Мабыць, з неба?

— З якога неба?! Што вы, пашалелі, хлопцы? — пачаў я здагадвацца, чаму мяне затрымалі.

— Гэта твой Гітлер ашалеў, дык скідае вас.

— Што вы, хлопцы! Я ж свой чалавек. З горада. У рэдакцыі працаваў.

— А каго ты там ведаеш?

Я назваў некалькі прозвішчаў работнікаў, але і іх не ведалі патрульныя.

— Бач, гад печаны, і прозвішчы павывучаў. Гэта табе не паможа. Ведаем вашы фашысцкія хітрыкі. Не ты першы і не ты апошні трапляеш у нашы рукі.

Я канчаткова зразумеў, што з гэтымі рабочымі патрулямі жартаваць няма як. Яны сапраўды палічылі мяне за дыверсанта, і як я ні стараўся давесці, хто я такі, ніводна-

му слову майму яны не верылі. Ліхаманкава кідаю вачыма па людзях: можа, дзе каго знаёмага ўгледжу, але, як па ліха, ніхто не трапляецца.

Мяне ўжо вывелі на Інтэрнацыянальную. Не паспелі павярнуць да завода, як пачуўся нечы знаёмы мне голас:

— Каго і куды вы ведзяце?

Узіраюся і бачу: гэта ж мой былы цесць Андрэй Ліліпавіч Леванюк. Стары падымае вочы на мяне і ўзрадавана крычыць:

— Макар? Сынок!

— Андрэй Піліпавіч! — вырываецца ў мяне.

Патрульныя адводзяць ад мяне рулі вінтовак і прыстаўляюць прыклады да ног, як па камандзе «смірна!».

— Дзе вы такога дыверсанта злавілі? — пытае з усмешкаю ў патрульных Леванюк.

— А ліха іх разбярэцца, каторыя яны дыверсанты. Бачыце ж, якія чаравікі абуў. Не нашы ж!

Я хуценька расказваю Андрэю Піліпавічу, як усё здарылася, і ён смяецца, гледзячы на патрулёў. Тыя ў паглядзе яго, мабыць, бачаць дакор.

— Дык мы пойдзем, таварыш сакратар парткома.

— Даўно гэта вы сакратаром парткома сталі? — пытаю я.

— Ды от нядаўна выбралі.

Мы стаім з Леванюком на тратуары, і ён мне расказвае, як бы хочучы апраўдаць пільнасць патрульных.

— А хіба ў цябе ніякага дакумента няма? — пытае Леванюк.

— Як на тое ліха, усе свае грамадзянскія дакументы здаў у часць, а вайсковых яшчэ не паспелі выдаць.

— А партыйны білет?

Я хапаюся за кішэню і намацваю білет: ён сапраўды са мною. Але, мусіць, таму, што партыйны білет я нікому нідзе, апроч партыйных органаў, не паказваў, я і сказаў патрульным, што ніякіх дакументаў у мяне няма.

Андрэй Піліпавіч правёў мяне аж да самай Садовай вуліцы. Па дарозе мы гаварылі пра ўсё, але пра Іру ні ён, ні я ніводным словам не ўспомнілі.

З Садовай было ўжо рукой падаць да казармаў, і я падзякаваў старому Леванюку, што ён выбавіў мяне з такой непрадбачанай бяды.

## НЕЗАПРОШАНЫЯ ГОСЦІ

Я нічога не зразумеў ні ў сваім прызначэнні, ні ў прызначэнні таго дарожна-эксплуатацыйнага палка, у які я трапіў у групу начальніка штаба па службе рэгулявання. Што гэта за служба, для чаго і каму яна трэба — ніяк не мог уцяміць. Увесь час на ваенкаматаўскім уліку я лічыўся як ваенны журналіст. Колькі разоў выклікалі мяне на зборы, і я праходзіў практыку ў акруговай ваеннай газеце. Там я ведаў сваё прызначэнне, што да чаго. А тут на табе, нейкая служба рэгулявання! Толькі тут, у часці, я даведаўся, што мяне з палітсаставу перавялі ў страявы. Гэта, мабыць, пасля таго, як выключылі з партыі. У партыі аднавілі, а тут забыліся. Гэта мяне засмучала і бянтэжыла, і я выказаў сваю думку Марынічу, якога таксама прызначылі ў штабную групу.

— А чаго табе непакоіцца,— здзівіўся Марыніч,— у гэтай часці, калі пойдзе на добры лад, можна сто гадоў ваяваць і жывым застацца.

Нешта абураючае, нават цынічнае пачулася мне не толькі ў словах, але і ў тым тоне, якім яны былі сказаны Марынічам.

Назаўтра я пайшоў да капітана Гулявіцкага як да больш-менш знаёмага чалавека папытаць яго рады. Той выслухаў мяне, скептычна зірнуў на маю вайсковую выпраўку і сказаў:

— Бачу я, што вы, таварыш чырвонаармеец, недаацэньваеце нашага роду войск. А вы ведаеце, што ў арміі, як у гадзіннікавым механізме, кожная дэталька важная. Вымі з яго нават маленькую шурубку, і гадзіннік спыніцца. Скажам, калі мы не будзем ахоўваць ваенных дарог, падтрымліваць на іх парадку, дык што ж будзе: спыніцца падвоз боепрыпасаў, правіянту, тэхнікі. Або калі вораг перарэжа камунікацыю. Гэта ж прайграная бітва. Так што вы, таварыш чырвонаармеец, і з галавы выкіньце думку, што вас паслалі ў другарадныя войскі.

Разважанні капітана мне здаліся лагічнымі і абгрунтаванымі. Колькі дзён нас наломвалі, вучылі, як рэгуляваць сцяжкамі рух машын, якія машыны прапускаюць перш за ўсё, якія ў другую чаргу і якія затрымліваюць. Пад кіраўніцтвам капітана Гулявіцкага складалі графік руху аўтакалоны. Маршрут быў выбраны вялікі: ад нашага горада праз Бабруйск, Оршу з выхадам на магістраль Масква — Мінск і далей на Барысаў. Адтуль полк павінен быў раз-

гарнуць свае службы на магістралі амаль да самага Смаленска. Штаб палка, паводле загаду, меўся дыслацыравацца на скрыжаванні дарог ля Оршы ў невялікім альшэўніку.

З лагера калона вырушыла на змярканні. Удзень ехаць было небяспечна: самалёты праціўніка кружылі над дарогамі. Родны горад, па якім мы праязджалі, як бы вымер, быццам у ім нікога не было жывога, апроч тых невялічкіх груп узброеных вінтоўкамі людзей, што сям-там трапляліся на вуліцах. Вокны дамоў былі зацемнены, быццам насаўсёды яны паслеплі.

Парк, гаманкі і вірлівы ў мірны час, цяпер адно поўніўся шолахам дрэў. А ноч была ціхая-ціхая, парная ліпеньская ноч. У мірны час у такую ноч можна было блукаць да самага світання, наглядаць зоры, лавіць старожкую цішыню, піць водар і туліць бліжэй да сябе, бліжэй да сэрца тую, што даражэй табе за ўсё на свеце.

А мне рупіць: от каб, здаецца, саскочыць з машыны і забегчы хоць на момант, на адзін толькі момант, у свой пакой, зірнуць хоць адным вокам, як там Марылька з Сяргейкам. А мо іх і дома няма? Мо яны дзе ў цвілым сутарэнні бамбасховішча калоцяцца ў чаканні бамбёжкі?

Кіламетраў праз пяцьдзесят ад горада на шашы стала людней. Людзі ішлі натоўпамі, коцячы перад сабой калыскі з хатнім скарбам. Я не разумеў: чаго тут столькі людзей? Немцы ж яшчэ далёка. Ды наўрад ці і пусцяць фашыстаў сюды. Падымаецца ж сіла вялікая. Адзін от наш полк колькі мае людзей. У кожнага вінтоўка, на кожную роту па станковаму кулямёту ды на ўзвод па ручным дзегцяроўскім. Нельга было не лічыць і таго, што ў кожнага салдата пры баку гранаты. Дык жа наша якая часць — яна ж не страявая, не баявая, а ўсяго толькі дапаможная, але і то мы маем, як мне здаецца, неблагую зброю.

У Магілёў калона прыехала на світанні. Горад быў цэлы, нават мост цераз Дняпро некрануты. Адно што наводзіла смутак, дык гэта нейкая незразумелая спустошанасць. Нават дрэвы ў парку і на прысадах вуліц неяк спахмурнелі, як бы агонь вайны папёк іх яшчэ ўчора маладазялёнае лісце, і яно паскручвалася ў трубачкі. На вуліцах сям-там віднеліся сляды бомбавых выбухаў. Ля аднаго драўлянага доміка, толькі што, відаць, раструшчанага выбухам на трэскі, ляжалі трупы жанчыны, мабыць, маці, і хлопчыка-падлетка.

Не ўсё добра было і з нашым рэйсам. На пад'ездзе да

Оршы калону ўсё-такі вышнышарыў фашысцкі гарбун-самалёт, разведчык. Пакружыўся над намі. З пярэдняй машыны даў па ім чаргу кулямёт, пастаўлены на турэль, і гарбун, быццам спалохаўшыся, паляцеў. Але праз невялікі час мы ўжо выкульваліся цераз барты машын і падалі хто ў кювет, хто ў якую яміну, бо над дарогаю, над нашай калонаю ішлі ў піке адзін за адным восем «юнкерсаў», скідваючы невялікія бомбы і строчачы з кулямётаў. Гэтае першае хрышчэнне для мяне было нават не страшным. Здавалася, што ўсё гэта несапраўднае, што і бомбы рвуцца несапраўдныя, і кулямёты лапочуць толькі для таго, каб нарабіць траскатні і нажахаць нас. Нехта з салдатаў, калі самалёты заходзілі ў піке, стрэліў. Пачуліся другі-трэці стрэлы. Маўчалі адно нашы кулямёты. Іх разлікі пасаскоквалі таксама з машын, як толькі пачулася каманда «паветра!».

Самалёты кружыліся, пікіравалі мо якіх хвілін дзесяць, а нам здалося, што яны ніколі не дадуць падняць галавы. Нарэшце такі адляцелі, мы падняліся з зямлі. Чатыры нашы машыны гарэлі, з узбочын прынеслі параненых і забітых.

Забітых пахавалі без воінскіх цырымоній: ля шашы выкапалі не вельмі глыбокі дол і прысыпалі зямлёю. Ля параненых уходжваліся палкавы ўрач, высокі хударлявы падпалкоўнік, і яго памочніца ў чыне капітана, прыгожая, стройная смуглянка Галіна Стральбіцкая. Яна была апранена з іголачкі, на ёй аж рыпелі рамяні, быццам дзяўчына сабралася не на вайну, а куды-небудзь на пагулянку. Глыбокія вочы на момант страцілі іскрыстую ўсмешку, і на іх апаў смутак. Але ненадоўга. Як толькі параненых забрала санітарная машына і рушыла з імі назад, туды, адкуль мы ехалі, Стральбіцкая зноў стала сама сабою.

Суседам маім па машыне быў Марыніч. Пасля першай сапраўднай бамбёжкі ён нейк абвяў, быццам і яго, як тое маладое лісце на дрэвах, апаліў пякельным агнём выбух. Маленькія вочкі яго блукліва бегалі, але найбольш сягалі яны ў блакіт чыстага неба, бо дзень сапраўды быў летні, заліты сонцам і цеплынёй. Толькі ў тым баку, куды мы ехалі, часам на небасхіл успылвалі рваныя аблачынкі і пляміл сінечу неба. На небасхіле віднелася некалькі цёмных кропак. Марыніч угледзеў іх і штурхануў мяне локцем.

— Зірні, зірні, зноў ляцяць, зноў дадуць.

— Дзе ляцяць? Хто ляціць?

— Хіба ты не бачыш? Самалёты! — знерваваны Марыніч паказаў пальцам на аблачынкі.

— Дзівак чалавек, якія ж то самалёты. Прыгледзься лепей, то ж воблакі ўсплываюць на неба.

— Добрыя воблакі. Вось паглядзіш, як яны сыпануць бомбы.

Я пачаў углядацца. Аблачынкі імкліва падплывалі бліжэй да нас, і цяпер, мабыць, і Марыніч пераканаўся, што то ніякія не самалёты. Увачавідкі ён павесялеў.

— Я гэтага капітана Гулявіцкага даўно ведаю. Ён усю зіму штовечар хадзіў на нашу вуліцу,— паведаміў Марыніч.

— Чаго ён туды хадзіў?

— Да былой тваёй жоначкі — да Леванюковай Іры.

— Дык яна ж замужам за Сякерыным.

— Чорт яго маў... Быў у яе муж, ды аб'еўся груш і лопнуў,— з сялянскім гумарам адказаў Марыніч.

Я зрабіў выгляд, што гэта мяне ніколечкі не кранае. Хто яго ведае, можа, гэта ўсё Марыніч выдумаў. А калі і не выдумаў, дык што мне да тае Іры. У мяне Марылька, сынок. Як яны, небаракі, цяпер там? Усе мае пачуцці, усё маё жыццё для іх дваіх. Але я толькі так думаў, а паведамленне Марыніча закранула ўсярэдзіне нейкую балючую струну. Не, я не раўнаваў Іру Леванюк; я адно ненавідзеў сябе за тое, што сам, як сослепу, папаўся быў на такую прынаду. Аднак жа на капітана Гулявіцкага, які ехаў у кабіне нашай машыны, я цяпер глядзеў зусім іншымі вачыма. Калі яго баязлівасць, якая кінулася ў вочы яшчэ там, на казарменным двары, дагэтуль мне здавалася праявай разумнай асцярожнасці, дык пасля таго, што мне расказаў Марыніч, я ўгледзеў у Гулявіцкім самаўлюбёнага баязліўца.

Як толькі мы прыехалі на ростанькі за Оршай, полк наш атрымаў задачу: пачынаючы ад Барысава, арганізаваць службу рэгулявання і камендацкага абслугоўвання ваеннай дарогі аж да чыгуначнай станцыі Краснае, што пад Смаленскам. Участак быў вялікі. Але ж і полк наш немаленькі: ён меў некалькі падраздзяленняў і, як мне здавалася, няблага быў узброены.

Мы адразу памкнуліся былі ў Барысаў, але ўжо ў дарозе ад салдат і афіцэраў даведаліся, што там ужо немцы. Дзіўна было, што камандаванне палка зусім не ведала абстаноўкі. Дзе быў штаб Заходняга фронту, якому непасрэдна падначальваўся наш полк, ніхто не ведаў. Першая

рота павінна была заняць раён ад Барысава і да аршанскага скрыжавання. Астатнія роты — ад скрыжавання і аж да самага Краснага.

Капітан Гулявіцкі ўзначальваў службу рэгулявання. З чырвонай павязкай на рукаве, на якой была нашыта белая літара «Р», ён больш за ўсё ездзіў у бок Смаленска.

Я тоўкся ля рэгуліровачнага паста на скрыжаванні. І чым больш я наглядаў гэтую службу, тым больш яна здавалася мне непатрэбнай. Машыны ішлі беспарадкава і ўсё больш у тыл. Мы спынялі машыны, каб праверыць дакументы. Амаль ні ў кога не было пуцявых лістоў. Шафёры спасылаліся на тое, што не было каму іх выпісваць. У кузаве адной з машын мне кінуўся ў вочы капітан у форме пагранічніка. Ён драмаў, прыпаўшы спінаю да кабіны, а на каленях у яго спаў дзіцячым сном хлопчык гадоў пяці. Машына рэзка затармазіла, і капітан прахапіўся.

— Таварыш капітан, куды следуеце? — спытаў я, надаючы голасу як найбольш камандных нотак, бо Гулявіцкі неаднойчы рабіў мне заўвагі, што ў мяне іменна і не хапае рашучасці ў голасе.

— Куды машына завязе,— адказаў пагранічнік.

— Вашы дакументы?

Капітан дастаў з гімнасцёрачнай кішэні пасведчанне, у якім значылася, што ён праходзіць службу на пагранічнай заставе нумар дваццаць пяць.

— Таварыш капітан, давядзецца вам злезці! — загадаў я.

— А як з ім? — спытаў пагранічнік, паказваючы вачыма на хлопчыка.

— З ім злазьце!

Недзе ў вышыні загулі, застагналі самалёты, і па гэтым стогне можна было без памылкі вызначыць, што самалёты не нашы.

— Хутчэй! — занерваваўся шафёр.

— Куды вы так спяшаецеся?

— Хіба вы не бачыце, не чуеце, што ў небе дзеецца?

— Нічога там не дзеецца. Самалёты.

— Адны саджаюць, а другія ссаджваюць,— выказаў нездавальненне шафёр.

— Злазьце, таварыш капітан, разбяромся ў штабе,— рашуча загадаў я пагранічніку.

Той памкнуўся ўстаць, але хлопчык, што спаў у яго на каленях, ніяк не мог прачнуцца.

— Трое сутак не спала дзіця.

— Адкуль і куды вы яго везяце?

— З самае граніцы, а куды — не ведаю.

Капітан падаў мне з кузава хлопчыка, і той, быццам адчуўшы, што ён не на капітанавых руках, прачнуўся. Спалоханымі вачыма паглядзеў на мяне, і на яго твары адлюстравалася балючая грымаса. Але як толькі хлопчык угледзеў капітана, у куточках яго вачэй бліснула баязлівая ўсмешка.

— Дзядзя Валя, дзе гэта мы?

— У сваіх, Сяргейка, у сваіх, не бойся.

Вымаўленае з любасцю «Сяргейка» нечым балючым паласнула мне душу, быццам я на руках трымаў не чужога, а свайго Сяргейку.

На твары капітана, зарослым рудым шчаціннем, я заўважыў незвычайную стомленасць. Абмундзіраванне пагранічніка было запэцкана ў засохлую твань.

Капітана-пагранічніка я прывёў у палатку службы рэгулявання, пры ўваходзе ў якую была выкапана ў рост чалавека вузкая траншэйка. Гэта пастараўся капітан Гулявіцкі.

— Таварыш капітан, вось прывёў затрыманага таварыша,— далажыў я Гулявіцкаму.

Гулявіцкі ўстаў, агледзеў з ног да галавы затрыманага і выпаліў:

— Шпіён у вобразе пагранічніка?

— Не ведаю, таварыш капітан. Дакументы быццам у парадку.

— Значыцца, дэзерцір аж з самае граніцы. А гэта што яшчэ? — спытаў Гулявіцкі, угледзеўшы хлопчыка.

— Гэта з таварышам капітанам.

— Значыць, з дакументамі ўсё ў парадку, кажаце?

— Так точна.

— Значыцца, з самае граніцы драпаеце? Кінулі заставу. Спалохаліся? — дапытваўся Гулявіцкі ў пагранічніка, які стаяў пры ўваходзе ў палатку.— Для страхоўкі дзіця прыхапілі, каб больш верагоднай была версія. А што, калі мы не паверым у вашу версію?

— Як хочаце, можаце не верыць,— спакойна, быццам яго гэта не датычыла, адказаў пагранічнік.— Я ні ад кога не драпаў... Вось яго бацьку — начальніка заставы маёра Сяржаніна пры першым жа артналёце забіла. Маці яго таксама загінула. Перавязвала параненых. Ніхто з нашай заставы не ўцалеў. Можа, адны мы з Сяргейкам толькі от і выбраліся,— са смуткам сказаў пагранічнік.

Капітан Гулявіцкі слухаў пагранічніка з нейкай кплівай усмешкай і, мабыць, ніводнаму слову не верыў. Так і думалася, што Гулявіцкі скажа: «Версія праўдападобная, але я ёй не веру».

Хто яго ведае, чым бы скончыўся гэты допыт, калі б у палатку не ўвайшоў намеснік камандзіра палка па палітычнай частцы, батальённы камісар Міроненка. Гэта быў стараваты ўжо, трошкі нават таўставаты, з выгляду спакойны чалавек. Пры яго з'яўленні капітан Гулявіцкі выцягнуўся ў струнку і голас яго аж зазвінеў:

— Таварыш батальённы камісар, дазвольце далажыць: вяду папярэдні допыт затрыманага падазронага. Няйначай, лазутчык.

Міроненка павітаўся з намі. Падаў руку і капітану-пагранічніку, а перад хлопцам прысеў на корпушкі.

— Дык гэта, значыцца, ты лазутчык?

Сяргейка спалохана затуліўся за пагранічніка, як за родную маці ў час якой небяспекі.

— Не бойся! Не бойся! Як цябе завуць?

— Сяргейка,— асмялеў хлопчык.

— Добрае імя. Прыгожае. Сядайце, таварыш капітан,— звярнуўся да пагранічніка Міроненка.— А вы, таварыш Гулявіцкі, можаце быць свабодным.

Адно мне батальённы камісар нічога не казаў і не загадваў. Я, як стаяў пры ўваходзе ў палатку, гэтак і астаўся. Мо батальённы камісар таксама не збіраўся верыць пагранічніку і мяне пакінуў на ўсякі выпадак. Але па тым, як Міроненка пачаў гаворку з пагранічнікам, відно было, што ён настроіўся верыць чалавеку. Ён паглядзеў дакументы. Пагранічнік расказваў пра першыя дні баёў на граніцы, пра тое, як гераічна абараняліся пагранічнікі, як яны паміралі, не адступіўшы ні на крок са сваіх рубяжоў. Паведаміў, што Брэсцкая крэпасць яшчэ, мабыць, і цяпер трымаецца.

— Так, так, давялося вам, таварыш капітан,— паспагадаў батальённы камісар.— Вы хоць елі што?

Пагранічнік спалохаўся неяк гэтага запытання, быццам калі ён скажа, што каторы дзень галодны, дык тым самым выявіць сваю чалавечую слабасць.

— Ды я што! Я магу пацярпець. А от Сяргейка. Я нават не ведаю, што мне з ім рабіць.

Здавалася, толькі цяпер батальённы камісар заўважыў, што я стаю тут.

— Таварыш чырвонаармеец, збегайце хуценька да начпрода. Няхай пакорміць таварышаў.

— Ёсць, таварыш батальённы камісар! — весела паўтарыў я загад.

— Заадно і доктарку пазавіце сюды,— крыкнуў ужо наўздагон Міроненка.

Ваенная дарога! Як яна многа гаворыць таму, хто прыглядаецца да яе! За гэтыя дні я навучыўся чытаць па ёй, як па зводцы, што дзеецца там, на перадавой.... Яна нічым не ўсцешвала, не радавала. Насустрач баям ішлі рэдкія машыны, абозы. Затое адтуль, хоць і не калонамі — па адной, машыны кіраваліся на ўсход, і іх было ўсё больш і больш. Гэта былі пераважна тыя, што адбіліся ад сваіх калон. Нічым, мо ніякай сілай нельга было затрымаць гэтага стыхійнага патоку на ўсход. Апроч ваенных ехала многа цывільных з Мінска, з Барысава. Пракідаліся нават з Баранавіч і з Брэста. Гэтыя машыны везлі жанчын і дзяцей, хатні скарб і набытак. Куды яны маглі даехаць, наўрад ці ведалі тыя, што сядзелі ў машынах.

Над дарогай увесь час віселі фашысцкія самалёты. Да болю крыўдна было, што няма нашых «ястрабкоў». Каб яны толькі паявіліся, дык далі б дыхту гэтым нахабнікам-фашыстам. Але яны не паяўляліся.

Кожная ноч енчыла маторамі цяжкіх бамбардзіроўшчыкаў. Мы ўжо навучыліся па гуку адрозніваць свае ад фашысцкіх. І нас у нейкай меры радавала, што не толькі фашысцкія лятуць на ўсход, але і нашы цяжкія бамбардзіроўшчыкі, паветраныя караблі, кіруюцца на захад. Салдаты кожны раз гэтак і казалі:

— Павезлі ўжо гасцінцы Гітлеру.

Гэта было наша добрае чалавечае і салдацкае жаданне. А на дарозе тварылася чортведама што, і, галоўнае, ніхто не ведаў, дзе той фронт. Адно толькі ўночы па сполахах выбухаў, па трасірах куль і снарадаў, па рознакаляровых успышках ракет можна было вызначыць, што ён недзе тут, блізка.

Начное неба было такое, што каб, здаецца, можна было забыцца, што на свеце вайна, дык толькі б любавацца ім. То тут, то там на паўнебасхіле азаралася яно сполахам і неўзабаве вуркатала, быццам у вышынях цяжка варочаўся стары пярун і аж скаланаў зямлю; як бы з самога неба залатымі прошвамі сыпаліся трасіры; раз-пораз пад самы цёмны купал узляталі імклівыя ракеты.

Але забыцца ніяк нельга было, што гэтыя выбухі, гэ-

тыя залатыя трасы куль, гэтыя прошвы ракет у начным небе — усё гэта для таго, каб больш прынесці смярцей, бо кожны снарад, кожная куля, кожная бомба і рабіліся для таго, каб каго-небудзь забіць.

Сённяшняя ноч мелася быць весялейшай. На змярканні застагнала, заенчыла дарога пад гусеніцамі танкаў. На нашым скрыжаванні калона іх падзялілася на тры: адна паварочвала на Віцебскую дарогу, другая — на Аршанскую і трэцяя, мабыць, галоўная, кіравалася на захад па магістралі Масква — Мінск. То там то тут чулася бадзёрае:

— От гэтыя хлопцы дадуць дык дадуць перцу фашыстам.

— Гэта, кажуць, Маскоўская пралетарская танкавая дывізія.

— Гэта, мабыць, нашы асноўныя сілы ўступаюць у бой.

Усе нашы салдаты-рэгуліроўшчыкі неяк падцягнуліся, прычапурыліся.

Аж да самай раніцы стагнала дарога пад гусеніцамі цяжкіх КВ і трыццацьчацвёрак. Мы адзін аднаму з радасцю паведамлялі хто яго ведае дзе і ад каго пачутае, што наш КВ давіць фашысцкія танкі на чарапкі, што ён увогуле нічога не баіцца, бо яго браню не прабіваюць нават бранябойныя снарады. Усе мы цешылі сябе надзеяй на блізкую перамогу, што яна вось-вось прыйдзе і мы адсюль, з гэтага скрыжавання, рушым на захад: на Барысаў, на наш родны Мінск, на Брэст, на Варшаву. А там рукой падаць і да Берліна.

Аднак уцеха і асталася ўцехай. Кананада бою не аддалялася, а набліжалася. У другой палавіне дня капітан Гулявіцкі загадаў паехаць на рэгуліровачныя пасты на ўчастку першай дарожна-камендацкай роты. І я, маючы дакумент, які дае права на спыненне любой машыны, дзе пешшу, а дзе і на спадарожных, дабіраўся на захад, бліжэй да Барысава. У ночы я дабраўся да паста старшага сяржанта Верамейчыка.

— Дзе праціўнік, далёка? — спытаў я.

— Хто яго ведае. Справа ад нас вельмі блізка чутна страляніна. Вунь у тым лесе,— паказаў рукою сяржант.

Рэгуліроўшчыкі размясціліся ў дарожнай трубе. Там цяпер, падаслаўшы наскубенай травы, адпачывалі чатыры чалавекі. Два заўсёды былі на пасту.

— Адпачыць вам трэба з дарогі,— вельмі па-цывільнаму прапанаваў мне Верамейчык,— а заўтра паможаце нам рэгуляваць. Тут горача бывае...

Мы пайшлі ў трубу. Я прыладжваюся: як бы хоць вокам звесці.

— Дык, кажаш, тут горача бывае?

— От, брат, горача... Заўчора як у пекле было...

— Што? — насцярожваюся я.

— Танкавы бой за кіламетра паўтара ад нас быў.

Верамейчык расказваў, як нашы танкі адразу з маршу рынуліся ў бой, давілі гусеніцамі, расстрэльвалі з гармат фашысцкіх ваякаў. Танкі адбілі некалькі атак, самі рушылі ў наступ і адагналі фашыстаў мо аж пад Барысаў, пакуль насустрач ім не выйшлі танкі праціўніка. Цэлы дзень грымеў бой. Нашы танкі не паддаваліся фашысцкім, наадварот, давілі іх. Але пад вечар грукат бою як абарваўся. Каля магістралі дагаралі нашы і нямецкія машыны.

— На змярканні на наш пост выйшлі чатыры танкісты,— працягваў Верамейчык.— Параненыя, акрываўленыя, у абгарэлым абмундзіраванні. «Каб нам гаручага, каб нам боепрыпасаў, мы б іх правучылі»,— казаў лейтэнант, камандзір танкавага ўзвода.

Гаручае ў танкістаў было толькі тое, што ў баках машыны, і па адным боекамплекце. За дзень бою танкі ўсё выдаткавалі, і калі сама трэба было рынуцца на фашысцкія танкі, каб замацаваць і развіць поспех бою, амаль на ўсіх машынах заглухалі маторы.

— Каб хоць снарады былі, мы б не паддаліся,— з горычу выказваў лейтэнант-танкіст.— Куды камандаванне глядзіць? А мо дзе немцы адрэзалі тылы? — пытаў як бы сам у сябе знясілены, скрываўлены лейтэнант.— Гэта ж выпадкова нам удалося выратавацца... Танк гарэў, а мы з яго павыскаквалі. Добра, што блізка немцаў не было... Яны б нас перастралялі, як курапатак...

— Я, брат, слухаў лейтэнанта,— расказваў далей Верамейчык,— і мне балюча станавілася. Гэтакая сіла нашы танкі, а бач, што з імі сталася?

Мне крыўдна і балюча было гэта слухаць: гэта ж, мабыць, тыя танкі, якія ішлі тады па магістралі і на якія мы гэтак спадзяваліся, што яны турнуць фашыстаў.

— Я ўчора сам бачыў,— працягваў Верамейчык,— як нашы артылерысты з адной гарматай, вунь з таго ляска,— паказаў у цемру Верамейчык,— расстрэльвалі фашыстаў... Немцы пусцілі на гармату танк, мабыць, хацелі раздавіць яе, але артылерысты падпалілі яго снарадам. Тады мо цэлая рота пяхоты акружыла з усіх бакоў і перабіла ўсіх нашых хлопцаў.

— Дык вам тут сапраўды горача,— выказаў я сваё.

— Горача было, асабліва заўчора. Сёння паспакайнела. Мабыць, недзе там,— Верамейчык зноў паказаў рукою ў цемру,— нашы пацяснілі фашыстаў.

На развілцы яшчэ здалёк быў відзён цьмяны чырвоны праменьчык ліхтара, які рэгуліроўшчык трымаў у руцэ. У гэтым месцы на магістраль узбягаў палявы бальшак, па якім таксама часта ішлі машыны. Дзяжурны рэгуліроўшчык, прыняўшы мяне за начальства, далажыў, што на пасту ўсё ў парадку.

— Сёння ціха, а от тую ноч што тут было, не давядзі бог,— паведаміў мне той рэгуліроўшчык, які ляжаў пад кустом з ручным кулямётам. Верамейчык на ўсякі выпадак для абароны паставіў «дзегцярова» пры самай дарозе, вызначыўшы яму як сектар абстрэлу развілку.— Тую ноч дык зямля ўся калацілася, трэслася як у ліхаманцы. Думалі, што вось-вось нас накрые.

— Страшна было? — сам не ведаючы для чаго, спытаў я.

— Ат, не вельмі страшна. Наша салдацкая справа службу несці. А паміраць давядзецца — дык, дзякаваць богу, на свеце трохі пажылі, пабачылі. Гэта вам, маладым...

— Смерці ў вочы кожнаму — і старому і маладому — страшна глядзець,— сказаў я.

У начным небе нешта выкрэсвала іскры, нешта далёка вухала. Недзе нешта гарэла, фарбуючы зарывам край небасхілу. Але ноч была ціхая. Думалася, што страшыдла вайны заснула недзе, стомлена прыпаўшы да зямлі. Па магістралі прайшлі адна-другая машыны з прытушанымі фарамі. Рэгуліроўшчык спыніў іх, правяраў дакументы. Пачуўся рокат матора з бальшака. Ішоў легкавік. Ён то запальваў фары, выхопліваючы з цемры кавалкі дарогі, то выключаў іх. Усіх нас чамусьці насцярожыла гэтая машына. Яна выскачыла на магістраль, і шафёр ужо меўся ўзяць разгон, як рэгуліроўшчык тройчы махнуў чырвоным ліхтаром: стой! Машына рэзка затармазіла, і з яе пачулася:

— Нах Смаленск!

Па асфальце слізганулі промні электрычнага ліхтарыка, і мы ўсе зразумелі, што гэта за машына. На хаду расшпільваючы кабуру пісталета, я бег да машыны, у якой уключылася ўнутранае асвятленне. На пярэднім сядзенні поруч з шафёрам сядзеў нямецкі афіцэр. На заднім сядзелі аж два. Фашысты, мусіць, яшчэ не ўцямілі, куды яны тра-

пілі. Мільганула думка: узяць фашыстаў жывымі. Гэта, мабыць, важныя нейкія птушкі. Нас тут не вельмі многа, і калі фашысты ачомаюцца, дык дадуць бой. Ліхаманкава страляю з пісталета ў грудзі шафёру. Ён вісне на баранак руля. Той, што на пярэднім сядзенні, хапаецца за аўтамат. Але ў гэты момант чуецца чарга нашага кулямёта, а я, замахнуўшыся гранатай, крычу на ўсю сілу:

— Хэндэ хох! Хэндэ хох!

На страляніну прыбеглі рэгуліроўшчыкі з трубы. З настаўленымі вінтоўкамі акружылі машыну, і я, падшукаўшы нямецкія словы, загадваю вылазіць. Афіцэры паднялі рукі. Хуценька абшукалі фашыстаў, забралі аўтамат, пісталеты, палявыя сумкі. Я дапытваюся, куды яны едуць. Даўганогі з пагардай зірнуў на мяне і картавячы сказаў на рускай мове:

— У Смаленск. Я камендант Смаленска. А вы — смертнікі. Вы яшчэ спрабуеце ваяваць, а ўжо асуджаны на смерць.

— Паглядзім, хто смертнікі. Марш у машыну! — крыкнуў я са злосцю.

— Вы можаце нас пастраляць. Мы трапілі да вас, асуджаных гісторыяй, а асуджаныя, як вядома, гатовыя на ўсё. Хайль Гітлер! Мы можам памерці.

— Вы не памрэце зараз. Вы яшчэ скажаце тое, што трэба нашаму камандаванню. А потым, што яно палічыць патрэбным, тое з вамі і зробіць. Відаць, вы яму спатрэбіцеся.

— Вы, русіш, фанатык... Вы яшчэ думаеце, што вашая жабрачая Расія ўстаіць супраць такой сілы.

— Мы не толькі думаем, мы ўпэўнены, што ўстаім.

Дыскусія магла б расцягнуцца надоўга, але я маргнуў салдатам, каб яны пазвязвалі рукі гітлераўцам.

— Вы дармо гэта робіце,— сказаў спакойна старшы.— мы нікуды не збіраемся ўцякаць. Наперадзе нашы, з бакоў нашы, усюды нашы, і наколькі вы гуманна абыдзецеся з намі, настолькі гуманна і мы будзем абыходзіцца з вамі.

Я на момант падумаў, што мо і сапраўды наперадзе перарэзана дарога, бо адкуль такая ўпэўненасць у гэтага гітлераўскага вылюдка? Але сказаў яму зусім іншае:

— Пакуль вы перарэжаце нам дарогі, мы вам горлы паперарэзваем.

— Я ведаў, што бальшавікі варвары.

— Варвары да вас не пайшлі. Вы прыйшлі знішчаць нас. Марш у машыну! — крыкнуў я са злосцю.

Гітлераўцы палезлі ў машыну. Даўганогі мерыўся сесці на пярэднім сядзенні. Я скамандаваў, каб ён лез назад.

— Хто з вас, таварышы, можа машыну весці? — запытаў я ў рэгуліроўшчыкаў.

— Я! — адказаў той, што страляў з кулямёта.

Падняўшы капот, ён пакорпаўся ў маторы, праверыў, колькі ў баку гаручага і, сядаючы за руль, сказаў:

— Да Смаленска хопіць.

Трымаючы напагатове аўтамат, я не спускаў вока з афіцэраў. Машына ішла спраўна, і праз якія паўгадзіны мы былі на скрыжаванні. Загнаўшы машыну ў альшэўнік, я загадаў афіцэрам вылазіць і ісці, куды пакажу. Яны, мабыць, падумалі, што я буду страляць іх, бо даўганогі залямантаваў:

— Нашы пад Смаленскам ужо, і калі ты мяне заб'еш, табе таксама капут,— для пераканальнасці ён правёў рукою па гарляку.— А калі пусціш, дык гут-гут будзе жыццё. Гітлер паважае русіш, якія яму служаць.

— Шнэль! Шнэль! — настаўляючы на гітлераўцаў трафейны аўтамат, вёў я іх да палаткі.

У нашым размяшчэнні быў нейкі вэрхал: сноўдалі сюдтуд людзі, вурчалі маторы. Адно ля палаткі службы рэгулявання не відно было ніякага руху.

— Таварыш капітан! — расхінаючы полы палаткі, крыкнуў я.— Дазвольце далажыць — прывёў палонных нямецкіх афіцэраў.

— Якіх палонных? Якіх афіцэраў? — ніяк не мог уцяміць Гулявіцкі.

— Фашысцкіх! Вунь яны стаяць!

Капітан выглянуў з палаткі і аслупянеў, быццам не палонныя перад ім стаялі, а сам ён трапіў у палон да іх.

— Дазвольце далажыць таварышу батальённаму камісару,— грымнуў зноў я.

— Дакладвайце.

Батальённы камісар Міроненка трапіўся насустрач. Ён быў заклапочаны. Вядома, трэба было нічога не забыць, усё зрабіць. Гэта ж не жартачкі перабазіравацца, тым больш што полк не меў яшчэ вопыту.

Я падрабязна расказаў батальённаму камісару Міроненку, як і дзе мы ўзялі фашыстаў.

— А дзе яны?

— Вунь там.

Даўганогі, угледзеўшы, што перад ім камісар, аддаў чэсць. Міроненка не адказаў на яе. Ён спадылба бліснуў

гэтакім позіркам, якога я ніколі не бачыў у добразычлівага Міроненкі, што хутчэй быў падобны на вельмі цывільнага чалавека, чым на камісара.

— Нахабнікі фанабэрыстыя. Мы з вас саб'ём гэтую фанабэрыю. Гэта вам не Францыя,— выказаў абурэнне Міроненка.

Нягледзячы на тое, што ў размяшчэнні быў гармідар у сувязі з перабазіраваннем, вестка пра палонных ускалыхнула ўсіх. Я стаў у вачах салдат і афіцэраў як бы героем дня. Міроненка, звяртаючыся пры ўсіх да мяне, сказаў:

— Ад імя камандавання абвяшчаю вам падзяку, таварыш чырвонаармеец.

— Служу Савецкаму Саюзу...

Ад палаткі рэгуліроўшчыкаў палонных вялі пад канвоем. Паявіўся ўпаўнаважаны асобага аддзела лейтэнант Касач. Я аддаў яму планшэткі і вялізную палявую сумку, і ён узяў пад сваю апеку фашыстаў.

А ў лагеры нашым нарастала сумятня. Недзе пабліз вухала артылерыя. Раз-пораз чуліся выбухі бомбаў. Калона машын выцягвалася на магістраль. На адной з іх я ўгледзеў капітана-пагранічніка з хлопчыкам. Капітан быў паголены, чысты, і ён мне здаўся юнаком. Хутка і я ўмасціўся на машыну нашай службы рэгулявання, і мы пакінулі абжыты ўжо за колькі дзён альшэўнік. Калі праўду сказаць, дык і шкадавата было развітвацца з альшэўнікам. За першыя дні мы яшчэ не прызвычаіліся кожны кусток лічыць родным домам. Гэта прыйшло пазней, калі мы прайшлі як не да Масквы, і кожны метр зямлі з кустамі і травамі, з лясамі і жытамі быў нам як родны дом, прымаў нас з усёй гасціннасцю і радасцю.

## НЯРОЎНЫ ПАЯДЫНАК

Ні на адным з пунктаў дыслакацыі надоўга затрымацца мы не маглі. Нашы часці ўсё адыходзілі і адыходзілі. Адно амаль на тыдзень затрымаліся на станцыі Краснае. Але службы рэгулявання не разгортвалі. Была пастаўлена задача: ахоўваць склады боепрыпасаў, арганізоўваць пагрузку на аўтамашыны і адпраўку на перадавую. Машыны па снарады і патроны прыходзілі толькі ў першы дзень, бо на другі дзень пранюхалі фашысцкія сцярвятнікі, што наш

склад знаходзіцца непадалёк ад станцыі ў лесе, наляцелі і скінулі бомбы. Я нічога не бачыў больш страшнага, як гэты пажар. Здавалася, уся зямля палала ў пякельным агні. Ніхто не мог падступіцца не тое што да склада, дык і да станцыі: асколкі снарадаў ляцелі, скуголілі на ўсё наваколле.

Чалавеку, незнаёмаму з планамі вялікіх штабоў, цяжка было разабрацца, што дзеецца на фронце. А можа, тыя штабы і самі не ведалі? Раптам нашай часці, салдаты якой наўрад ці ўмелі нават акопвацца, загадалі заняць абарончы рубеж на лініі станцыі Краснае. Мяне гэта непакоіла не таму, што баяўся сустрэчы з ворагам. Непакоіла іншае: няўжо за намі няма ні стралковых, ні артылерыйскіх, ні танкавых часцей, што нам, нестраяўшчыне, трэба акопвацца.

Цэлы дзень салдаты, як тыя краты, капаліся на ўскрайку лесу і ў жыце абапал магістралі. А жыта толькі што налілося і пачынала спець ужо. Такога ўраджаю, як сёлетні год, даўно не было на беларускіх і смаленскіх землях. Буйны, поўна наліты колас звісаў да зямлі. Месцамі збажына была вытаптана, здратавана гусеніцамі танкаў. Сам я нават хадзіць стараўся па разоры ці па ўзмежку, каб не таптаць дабра. Бачыў я, што і салдаты, каторыя стараліся капаць акопы на вымачках, на разорах, намагаючыся як менш таптаць жыта. Іх сялянскія душы балелі, мабыць, яшчэ больш, чым мая.

Сценкаю між жытоў я дайшоў з магістралі амаль да самага ўзлеску. Далёка недзе, як раз'юшаны драпежнік, вурчаў бой. Варожыя самалёты віселі над нашым участкам, страчылі з кулямётаў, скідалі невялічкія бомбы. Ганяліся яны не толькі за машынамі, дык за адным чалавекам. З акопа на ўскраіне лесу я наглядаў сцэну. Фашысцкі сцярвятнік, падняўшыся высока-высока, скінуў адтуль нешта вялізнае. Яно незвычайна свісцела, раўло, скуголіла. Усе мы пахаваліся, баючыся страшэннага выбуху. Але выбуху ніякага не адбылося: са свістам упала парожняя жалезная бочка з-пад бензіну. Мусіць, гад разлічваў на псіхалагічны эфект. Потым той самы лётчык спусціўся на брыючы палёт і пачаў страчыць з кулямёта. Ён нават ганяўся за асобным салдатам. І вось цуд, дый годзе: сама калі самалёт цэліўся носам у дрэва, за якім затуліўся салдат, а лётчык высунуўся, каб не спусціць з вока цэль, з-за дрэва пачуліся стрэл за стрэлам. Усім відно было, як лётчык нібы абмяк, абвяў і самалёт, неяк скалануўшыся, за-

мест таго, каб выйсці з піке і набраць вышыню над лесам, пузам папоўз на дрэвы. Неўзабаве наваколле скаланулася страшэнным выбухам, і чорны султан дыму і пылу шуганууў у неба.

Гэта было нявідана і нечувана. Чырвонаармейцы пабеглі да лесу. Салдат, адышоўшы ад пашчапанага кулямі дрэва, стаяў і неяк ненатуральна ўсміхаўся, быццам ён нечым правінаваціўся. Яму паціскалі руку, віншавалі. Падышоў і я паглядзець на смельчака і пазнаў у імваспаватага сержанта, які страляў тады на двары і якому перапала тады ад Гулявіцкага. Ён і цяпер шукаў вачыма капітана, нібы чакаў яго праборкі. Але Гулявіцкага тут блізка не было. Аднекуль узяўся батальённы камісар Міроненка і ледзь не абняў сержанта, кажучы:

— Не такі чорт страшны, як яго малююць. Сержант...— Міроненка на момант як бы згубіў словы, якія яму трэба было сказаць. Ён, мабыць, проста не ведаў прозвішча сержанта, і яму, камісару, трошкі сорамна было не ведаць такога смельчака. Міроненка спытаў:

— Як ваша прозвішча, таварыш сержант?

— Галубеня, таварыш батальённы камісар.

— Ад імя камандавання выношу вам падзяку.

— Служу Савецкаму Саюзу! — бойка адказаў Галубеня, хоць у вачах яго быў усё яшчэ нейкі спалох, быццам ён зрабіў нешта недазволенае, нешта рызыкоўнае.

— От так усім трэба біць фашыстаў, і мы іх будзем біць,— казаў батальённы камісар ужо не да Галубені, а да тых, хто тут быў, хто бачыў і чуў, як сержант Галубеня збіў фашысцкі самалёт.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Нам і на гэтым месцы не давялося ні заняць абароны, ні разгарнуць сваёй непасрэднай службы. Не было чаго рэгуляваць. Рух, які каціўся з захаду на ўсход, быў бязладны, стыхійны; байцы ішлі не часцямі і падраздзяленнямі, а проста групкамі, а то і па адным. Мне нават на момант здавался, што няма ўжо нашай арміі як арганізаванай сілы, хоць сэрца і не пагаджалася, што вось гэтак разбрыдзецца ўся наша армія і вораг пройдзе ад краю да краю ўсяе краіны. Недзе ж павінен быць той рубеж, на якім мы станем насмерць і скажам: «Далей ні кроку назад! Адгэтуль толькі наперад!» Але дзе ён, той рубеж?

Родная наша Беларусь ужо запалонена. Ужо чорная пошасць, як ненажэрны вусень, коціцца па рускай, па

украінскай землях. Дзе ж той рубеж, на якім мы станем і крыкнем на ўвесь свет: «Годзе! Назад ні кроку!»

У сутонні летняга вечара ў вышыні енчаць, стогнуць, аж захліпаюцца маторы цяжкіх бамбавозаў. Яны ўсё лятуць і лятуць у бок Масквы. Кожную ноч яны лятуць, і ўсё на ўсход і на ўсход. Калі ж тое будзе, што рушаць на захад нашы сталёвыя армады і страсянуць загрудкі фашысцкую Германію, каб яна аж зубамі заляскала! Некалі ж будзе, некалі ж павінна быць. А пакуль што мы праязджаем паўз Смаленск. Горада мы не бачым. Бачым вялізнае, на паўнеба, зарыва, чуем пякельныя выбухі.

На дарозе пераняла нас страшэнная вестка: у Ярцаве — дэсант. Дарога перарэзана. Там фашысты высадзілі не толькі пяхоту, дык нават артылерыю і танкі. Некалькі нашых дывізій кінута на тое, каб разбіць дэсант і ачысціць дарогу. Дарогу? А куды дарогу? На Маскву. Да яе ўжо не так і далёка.

У замяшанні наша калона спынілася ў лесе, збочыўшы з магістралі. Бралася на світанне. Ранак быў ясны, росны, аж дрыжыкі прабіралі.

Прыхінуўшыся спіною да маладой бярозкі, я чыркнуў запалку, схаваў у прыгаршчы агеньчык і закурыў. Да мяне падышоў Марыніч. Ён быў нейкі не такі, як заўсёды. Клопат зморшчыніў яго лоб, у вачах відна была разгубленасць.

— Што ты думаеш, Макар? — пытае ён.

— Думаю, што далей Дняпра не пойдзем.

— На вунь паглядзі,— дастаўшы з-за пазухі, сунуў мне Марыніч паперку.

— Што гэта?

— Паглядзі, пачытай.

Я разгарнуў невялікі аркушок. У правым баку намалявана салдацкая паходная кухня і ля яе чарга з кацялкамі. Кухар у белым калпаку завіхаецца з чарпаком, разліваючы па кацялках варыва. Чытаю: «Рускія салдаты! Вось што вас чакае ў нямецкім палоне. Нямецкая армія, армія вялікага фюрэра, вялікадушная. Яна вас накорміць і напоіць, адправіць па дамах. Супраціўляцца нашай арміі няма ніякага сэнсу. Галоўныя сілы Чырвонай Арміі разбіты ўжо. Здавайцеся ў палон. Гэтая лістоўка паслужыць вам пропускам».

Я дакорліва зірнуў на Марыніча і сказаў так, быццам гэта не немцы, а сам Марыніч напісаў гэтую лістоўку:

— Дрэнна ж яны ведаюць наш народ, нашу душу, калі думаюць, што мы прададзімся за чарпак крупніку. Дзе ты яе ўзяў? — злосна спытаў я ў Марыніча.

— Падняў на дарозе.

— Навошта яна табе?

— Так, для цікавасці.

— Якая ж гэта цікавасць? Парві і выкінь гэтую брыду.

— Выкіну я ці не выкіну, але нам тут усім каюк, мабыць, будзе.

— Чаму каюк?

— А хіба ты не ведаеш. Прыхлопнулі, як тых пацукоў у пастцы, і мусім сядзець, падцяўшы хвасты.

— Чаму сядзець? Змагацца трэба.

— Чым ты будзеш змагацца? Хіба от гэтым супраць танкаў,— Марыніч паказаў на вінтоўку.

— А ты бачыў, як Галубеня з вінтоўкі самалёт збіў?

— Бачыў. Дык то ж выпадак.

— У смелага чалавека і вінтоўка лепш за зенітку страляе.

Не ведаю, што меўся яшчэ сказаць, прапанаваць Марыніч, адно здагадваўся, што лістоўка-пропуск і тое, што ён мне казаў, усё, мабыць, было разлічана, каб выпытаць у мяне, ці не згаджуся я на гэтым канчаць вайну.

Пад вечар другога дня наша задача высветлілася. Камандзір палка сабраў камандзіраў батальёнаў і рот, нас, штабнікоў, і паведаміў усім загад штаба арміі, паводле якога палку належала перабазіравацца ў раён Салаўёўскай пераправы на Дняпры, заняць там абарону, навесці пантоны і на ўсякі выпадак, калі не ўдасца выбіць дэсант з Ярцава, арганізаваць пераправу цераз Дняпро жывой сілы і тэхнікі: машыны па пантонных мастах, а людзі могуць і ўброд — месцы тут неглыбокія. Паведамлялася, што не выключана магчымасць высадкі дэсанта і на пераправе. Камандзір палка аддаў загад: усе станковыя і ручныя кулямёты раздаваць тым ротам, якія зоймуць абарону. А тыя, што будуць наводзіць пантоны, абыдуцца і з вінтоўкамі. На месцы пераправы мелася паставіць некалькі зенітных кулямётаў для адбіцця атак з паветра.

Камандзіры батальёнаў і рот у адпаведнасці з патрабаваннем баявога статута пяхоты вызначылі на сваіх картах участкі абароны, месцы, дзе размесцяцца тылы. Начальнік штаба ўгледзеў на карце непадалёк ад Дняпра бор, да якога вяла бітая дарога. Пазваў мяне і загадаў:

— Таварыш Шыянок, вазьміце з сабой двух байцоў, сядайце на маю машыну і праскочце ў гэты бор, выберыце месца для абозаў.

— Ёсць, таварыш маёр! — паўтарыў я загад.

На машыне, бадай, цяжэй было дабрацца да таго бору, чым пехатою. Дарога была спрэс забіта гарматамі, танкамі, аўтамашынамі. Давялося ехаць абочынамі. Ліпень быў спякотны і высушыў зямлю так, што на легкавой машыне можна было ехаць і па цаліку. І мы ехалі. Шафёр у начальніка штаба быў вопытны і вёў машыну так, што яна нават тыя мясціны, праз якія, здавалася, нізавошта не пройдзе, неяк праходзіла. Не даязджаючы бору, дарога ачысцілася, а ў самім бары была такая цішыня, што, здавалася, аглухнуць можна было ад яе. Выносістыя меднастволыя сосны быццам з небам гаманілі. Бор чысты, нават не пакапаны. Відаць, тут яшчэ не стаяла ніводная часць. Дарога ў бары была ўкатаная, і мы хуценька праскочылі да палянкі і спыніліся ў засені соснаў. Вылезлі з машыны. Шафёр выгнаў машыну на дарогу. Прыкідвалі ўжо, дзе паставіць кухні, як замаскіраваць машыны, каб іх не было відно з паветра. Мясціна для размяшчэння была вельмі прыдатная. Непадалёк знайшлася ручаіна, так што і па ваду не трэба было далёка хадзіць. Лясная цішыня закалыхала нашу пільнасць, і мы бадай што забыліся на небяспеку. Але раптам заклекатаў аўтамат і пачулася гарластае:

— Хальт! Хальт! Русіш, хэндэ хох!

Па лесе напярэймы нам беглі тры гітлераўцы, строчачы з аўтаматаў. Я адразу ж шыбануў у іх гранату-«лімонку», і яны залеглі, а мы на ўсе ногі кінуліся да машыны. Шафёр гэтак ірвануў з месца, што машына аж падскочыла. Падбеглі яшчэ фашысты і пачалі сячы з аўтаматаў па машыне. Але агонь іх быў не прыцэльны. Мы прыпалі да сядзенняў. Кулі ў некалькіх месцах прабілі кузаў. Хоць бы па скатах не патрапілі, а то сядзем, і тады ці смерць, ці палон. З лесу машына выскачыла як шалёная. Стрэлы ўжо чуліся недзе воддаль. Небяспека мінула. Шафёр рукавом гімнасцёркі сцёр з ілба пот і сказаў:

— От уляцелі, дык уляцелі! Адкуль яны тут узяліся, гады?

— Няйначай дэсант,— выказаў я сваё меркаванне.— Мабыць, і на пераправе яны ўжо ёсць.

— Усе гады́ падлічвалі залпы ды бомбы, якія ў выпадку вайны скінем на ворага,— бурчаў шафёр,— а як прый-

шлося, дык ні залпаў, ні бомбаў. Адно пяткі падмазваем. І дакуль мы іх будзем падмазваць, яшчэ невядома. Да Масквы ці далей?

— Вы, таварышы, забываецеся на фактар нечаканасці, раптоўнасці,— стараўся я растлумачыць.— Нават самаму дужаму чалавеку, калі на яго з-за вугла кінецца які плюгавец, дык можа надаваць добра, пакуль той ачомаецца.

— Добра ты кажаш: якія ж мы дужыя, якія мы асілкі. На кожнага немца аўтамат, і яны сабе строчаць, не шкадуючы патронаў. А нам далі от па гэтай мешалцы,— салдат паказаў на вінтоўку,— пакуль зложышся ды стрэліш з яе, дык ён цябе дзесяць разоў можа забіць.

Разводзіць дыскусію ў такі момант было недарэчна, тым больш што я не меў пераканаўчых аргументаў, каб абвергнуць тое, што казалі салдаты. Мы пад'язджалі да загрувашчанай людзьмі і тэхнікай дарогі. А мне ж трэба было хуценька дабрацца да сваіх і далажыць абстаноўку. Разгарнуў на каленях карту і пачаў шукаць іншае дарогі. Непадалёк ад загрувашчанага бальшака значылася на карце палявая дарога, якая ішла пералескамі, лугавінамі. Цяпер яна, мабыць, сухая; лета спякотнае, і не можа быць, каб не высушыла лугавін. Адно была небяспека, што і ў тых пералесках, як і ў гэтым бары, ужо фашысты. Аднак жа мне трэба было спяшацца, і таму я вырашыў ехаць палявой дарогай.

Перасекчы ўпоперак бальшак задача была нялёгкая. Мне памагла чырвоная павязка на рукаве з літарай «Р». Палявая дарога сапраўды аказалася сухой і праезджаю. Нават на лугавінах машына ішла як па таку. Сонца падрамантавала ўсе дарогі. Але чаго гэта матор нашай машыны зачхаў, засопся і заглух? Шафёр хуценька выскачыў з машыны і аж успляснуў рукамі:

— Стой, хлопцы. Прыехалі.

— Што такое? — выскачыў і я.

— Зірніце, аж у двух месцах радыятар прабіты. Вада ўся выцекла, і матор перагрэўся.

— А што ж рабіць?

— Вады трэба шукаць.

Шафёр дастаў з багажніка брызентавае вядро, і салдаты пабеглі ў нізіну, спадзеючыся знайсці там ваду. Але вады підзе не было — усё паперасыхала. Я паглядзеў на карту, сарыентаваўся на мясцовасці і ўзрадаваўся. Метраў за дзвесце на невялічкай палянцы павінен быць адзінокі хутар-леснічоўка. Не можа быць, каб там не знайшлося

вады. Узялі вядро і ўдвух з салдатам пайшлі. Хутар стаяў на тым самым месцы, на якім быў адзначаны на карце. Студні ля яго не было відно. Пагрукаў у дзверы. Адчыніла немаладая ўжо, але яшчэ і не дужа старая кабета. Яна была напалоханая, кідала на нас вачыма і адразу ж адводзіла іх.

— Дзе ў вас тут вада?

Жанчына глядзіць на нас як анямелая. Можа, яна сапраўды якая нямко?

— Дзе гаспадар? — пытае салдат.

Зноў маўчанне.

— Дайце нам вядзерца вады набраць.

— А смалы вы не хочаце?! — амаль закрычала жанчына.— Панаваламлося сюды з усяго свету. Адно калоцяць і калоцяць. Усё перакалацілі ўжо, усё забралі.

— Хто вас калоціць? Нам вядро вады набраць. Пакажыце, дзе ў вас вада! — схапіўся я за пісталет. Мабыць, кулацкая шкура якая. Фашыстаў чакае.

— Я ж кажу, а смалы вы не хочаце. Пакідаеце нас на лютых супастатаў. От толькі што былі тут.

— Хто быў?

— Немцы. Абкалацілі ўсю хату. Хацелі падпаліць, дык ледзьве ўблагала, упрасіла.

— Якія немцы? — не даходзіць да мяне.

— Хто ж іх ведае, якія яны. Мабыць, нямецкія. А вады вунь там за хатаю набярыце,— адышла ад злосці жанчына.

— Колькі іх было?

— Можа, тры, а можа, і дзесяць, хіба ж я лічыла. Як загергеталі, дык у мяне аж замарачэнне на вочы найшло.

Бавіцца не было калі і як: а раптам навалакуцца на машыну. Хуценька зачэрпваем вады і бяжым. Залілі ў радыятар. Пакуль мы хадзілі, шафёр трошкі пасплюшчваў трубкі, каб не так хутка выцякала вада. Машына завялася, і мы пагналі яе так, што яна аж трашчала. Відаць, вялікі дэсант выкінулі фашысты. Разбрыўся па ўсім лесе.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Тры нашы роты вялі бой з дэсантнікамі, якіх гітлераўцы выкінулі, каб заняць Салаўёўскую пераправу і закрыць дарогу нашаму адступленню. Бой быў зацяты. Немцы пусцілі ў ход нават мінамёты. У нас жа ні артылерыі, ні мінамётаў не было. Затое ў нас была перавага ў жывой сіле і ў кулямётным агні. Гадзіны праз дзве парашутысты былі

адцеснены ад пераправы. Яны рассыпаліся па лесе. Адно ў дамку, што стаяў метраў за трыста ад ракі, заселі аўтаматчыкі і ручныя кулямётчыкі і не давалі магчымасці наводзіць пантоны. Іх адтуль ніяк нельга было выкурыць. Каб у нас была хоць адна гармата, дык той дамок пайшоў бы дымам у неба разам з гітлераўцамі. Кулямёты ж нашы колькі ні білі па дамку, але як толькі мы выходзілі наводзіць пантон, гітлераўцы адкрывалі шквальны агонь. Хацелі ўжо браць штурмам, але перад дамком была адкрытая мясцовасць і нельга было да яго падступіцца.

Камандны пункт камандзіра палка быў ля самай рэчкі. Я знаходзіўся пры начальніку штаба як яго сувязны. На маім абавязку ляжала звязвацца з тыламі палка, для якіх прыдатнага месца мы так і не знайшлі. Часам начальнік штаба пасылаў мяне і на сувязь з камандзірамі батальёнаў. Гэта была задача не з лёгкіх, асабліва калі трэба было прабірацца па адкрытай мясцовасці. Тут можна было паўзці толькі на жываце, як мага шчыльней прыціскаючыся да зямлі.

Кіламетраў за два ад пераправы была ў калонах наша артылерыя, былі танкі. Камандзір палка паслаў мяне звязацца з імі і папрасіць, каб яны далі агню на дамок. Я збегаў туды, але дарэмна: у артылерыстаў і танкістаў не было боепрыпасаў.

Камандаванне палка доўга думала, што рабіць з напарным дамком, які не дае магчымасці наводзіць пераправу. Хоць бы якія запальныя кулі. Дык і іх у нас няма. Спрабавалі трасірнымі цаляць у саламяную страху, але дамок не гарэў. Нарэшце некаму прыйшла ў галаву добрая думка: падпаўзці на край лесу — гэта метраў за пяцьдзесят ад дамка — і пусціць туды некалькі ракет, пастараўшыся ўцэліць у страху. Не можа быць, каб яна не загарэлася. Салома ж цяпер сухая.

З такім загадам я і папоўз у першую роту, якая займала пазіцыю блізка ад дамка. Мне далі чатыры ракетніцы і набілі поўную процівагазную сумку ракет. Я падумаў ужо, ці не падпаўзці бліжэй і не запаліць яго мне самому. Была ясная жнівеньская раніца. Трава была росная, халодная. Паўзучы па ёй, я вымачыўся па самыя вушы. Але чамусьці ні холаду, ні страху не адчуваў. Па зарасніках я бег, па адкрытай мясцовасці поўз па-пластунску, зліваючыся з зямлёю. Толькі гэта я выбег з хмызняку, ад якога рукой падаць да пазіцыі першай роты, як пачуў нясмелы голас. На першым часе я нават не пазнаў, чый ён.

— Шыянок, куды ты паўзеш?

Азірнуўся і ўгледзеў капітана Гулявіцкага. Як з-пад зямлі, ён вынырнуў з глыбокай траншэі. На сонцы бліснуў лакіраваны казырок афіцэрскай фуражкі. Я яшчэ падумаў: на ліха яму на вайне насіць гэтую фуражку. Хай бы насіў пілотку, як усе.

Пачуліся адзін-другі вінтовачныя стрэлы. Капітан неяк незвычайна ўзмахнуў над галавой рукамі і павольна пачаў асядаць на дно траншэі. Я пачаў ліхаманкава грэбці рукамі, каб як хутчэй адпаўзці ад таго месца. Мусіць, нямецкі снайпер прыстраляўся. Відаць, скеміў, што ў траншэі камандзір, і спецыяльна пільнаваў, калі ён падыме галаву.

Да першай роты я дапоўз хутка, перадаў ракеты і загад камандзіра палка. Праз нейкі час у страсе дома зашыпелі, задыміліся дзве ракеты. Дамок адразу заняўся агнём. Гітлераўцы, што сядзелі ў ім, пачалі разбягацца. Нашы салдаты на бягу іх расстрэльвалі.

Загад быў выкананы, і я папоўз назад. Цяпер небяспекі асаблівай не было — з дамка ніхто не страляў, і я наважыўся запаўзці ў капітанаву траншэю. Гулявіцкі, скруціўшыся, ляжаў на дне траншэі, у якой было нават падаслана трошкі сухой травы. Я зняў пілотку перад нябожчыкам. Палазіў па кішэнях, забраў партыйны білет, зняў палявую сумку і адшпіліў ад рэменя кабуру з пісталетам. Распрастаў цела забітага. Прабіты куляю твар прыкрыў фуражкай. Пад горла ў мяне падкаціўся даўкі камячок, але сляза не выкацілася. На вайне смерць таварыша, паплечніка выклікае гнеў і нянавісць да ворага.

На камандным пункце далажыў аб выкананні загаду. Паведаміў пра смерць капітана Гулявіцкага і адразу ж перадаў батальённаму камісару Міроненку партыйны білет і палявую сумку нябожчыка. На момант на твары тых, хто быў тут на КП, узбег смутак. Капітан Гулявіцкі быў кадравы камандзір, і яго ўсе ведалі. Міроненка адкрыў палявую сумку Гулявіцкага. Там была карта-двухкіламетроўка раёна, у якім мы вялі бой. Баявы статут пяхоты ў чырвонай вокладцы і цэлы пачак пісем. Ён пачаў тасаваць іх. Я вачыма сачыў за канвертамі. Раптам — што гэта? Чый гэта почырк? Ды гэта ж Ірын. Трошачкі нахіленыя ўправа вастраватыя літары. Значыць, Марыніч праўду казаў. Значыць, яна яго чакала, можа, больш, як калісь мяне? Як я ні стараўся адагнаць брыдкае пачуццё рэўнасці, як ні пераконваў у думках сам сябе, што Іра мне і не

ў галаве, што, апроч Марылькі, мне ніякая іншая жанчына непатрэбна, усё ж у сэрцы заварушылася крыўда на Іру.

Самааналізам пачуццяў займацца доўга не давялося. Закіпела работа на пераправе. Ніхто цяпер не абстрэльваў, і салдаты завіхаліся, стараючыся хутчэй скончыць і пусціць паток машын і баявой тэхнікі, якая згрувасцілася непадалёк на лясной дарозе і нават на палянцы, парушаючы ўсялякія правілы маскіроўкі.

Нас з Марынічам выклікаў начальнік штаба і загадаў панадзяваць павязкі рэгуліроўшчыкаў ды ісці наводзіць парадак у калонах. У першую чаргу прапускаць тэхніку: танкі, артылерыю, а потым ужо машыны. Ціхенька не сказаў, а шапнуў нам начальнік, каб мы не забыліся на свае палкавыя тылы, якія таксама затрымаліся ў агульнай калоне і не маглі ніяк вылезці з «пробкі». Мы ўзялі на падмогу трох рэгуліроўшчыкаў і пайшлі наводзіць парадак. Хутчэй за ўсё пайшлі выручаць сваіх.

Метраў за трыста ад пераправы дарога праходзіла праз забалочаную палянку, па якой вясною ці ўвосень наўрад ці можна было праехаць. Цяпер жа балотца перасохла, і яго гэтак забілі машынамі, што і чалавеку прайсці нельга было. Яны стаялі ўпрытык адна да адной, і хоць бы каторую і трэба было выгнаць адсюль, дык яна не магла скрануцца з месца.

Як толькі пачулася каманда: «Па машынах!», маторы гэтак зараўлі, зачхалі глушыцелямі, што, здавалася, само балотца заенчыла, застагнала. Кожны вадзіцель стараўся нейк выскачыць з гэтае кашы і хутчэй рынуцца на пераправу. Танкісты ў першую чаргу працярэблівалі сабе дарогу. Колькі мы з Марынічам ні махалі сцяжкамі, колькі ні загадвалі, каб выцягваліся ў калону, на нас ніхто і вуха́м не вёў. Мабыць, ніхто і не заўважыў, што над палянкай паявіўся і зрабіў некалькі кругоў гарбаты фашысцкі разведчык. Па ім ніхто не страляў. Кожнаму карцела як хутчэй выбрацца на пераправу. Хвілін праз дваццаць пасля таго, як пакружыўся гарбун, неба над палянкаю зараўло маторамі. Хваля за хваляй пайшлі ў піке «юнкерсы». Самалёты скідалі невялікія бомбы, а выходзячы з піке, страчылі з кулямётаў. Быццам уся зямля пайшла намітусь, загарэлася.

Мы з Марынічам адбегліся ад дарогі на нейкую прагалу, па якой, мабыць, вясною працякала канава, а цяпер было высахлае яе рэчышча. Пападалі ніц у загусцелую, трохі прасохлую твань. Марыніч уперадзе, а я ў нагах

у яго. Сэрца калацілася, як не выскоквала з грудзей. Над палянкай чуўся немы крык, стогн. Асабліва прарэзліва крычалі жанчыны. На самай ускраіне паляны былі машыны медсанбата, і туды ўцэліла некалькі бомбаў.

Падымаючы галаву, я наглядаў за самалётамі. Трэба ж было на ўсякі выпадак сарыентавацца і, можа, куды-небудзь перабегчы. Мімаволі кінулася ў вочы, што Марыніч, лежачы ніцма, аберуч выграбаў пад сабою зямлю, быццам хочучы ўлезці ў яе, схавацца ад усяе гэтае страшэннай навалы.

Думалася, што і канца не будзе гэтай жахлівай бамбёжцы. Самалёты ўсё заходзілі і заходзілі на цэль. Нарэшце пікіроўшчыкі адвалілі. Я думаў, што на палянцы сапраўды не засталося нічога жывога. Слаўся чорны атрутны дым — машыны гарэлі. Але ж як толькі трохі ўціхамірылася, зноў зараўлі маторы і машыны рынуліся на пераправу. Я ледзьве падняў Марыніча. Чалавек быў зусім абязвечаны страхам і ніяк не мог адысці ад яго.

Але ўсё ж Марыніч пайшоў за мною, мабыць, у надзеі знайсці дзе-небудзь больш зацішнае месца, дзе б не так пагражала небяспека, калі зноў наляцяць самалёты.

Сваіх машын мы не знайшлі. Парашылі дабірацца да пераправы. Але вось зноў зараўло паветра. Але ўжо не над палянкаю, а над пераправай. Зноў з вышыні, равучы маторамі, пікіравалі бамбардзіроўшчыкі. Але гэта што: над пераправаю, быццам гіганцкая вертыкальная карусель, заходзілі пікіроўшчыкі. У гул іх матораў уплёўся прарэзлівы свіст. А, гэта ж нашы «ястрабкі»!

— Нашы! Нашы! — закрычаў я ад радасці.

— Якія нашы? Дзе ты іх бачыш, тых нашых? — не верачы сваім вачам, дапытваўся Марыніч.

— Вунь зірні! — паказаў я пальцам.— Вунь зірні: маленькі тупаносы «ястрабок» гоніцца за «юнкерсам». Ён зараз яму дасць! Ён яму пакажа, як лятаць у чужое неба!

І сапраўды, «ястрабок» паказаў «юнкерсу»: той пацёг за сабою чорны хвост дыму і рынуўся на зямлю.

Але радасць наша была нядоўгая. З-пад сонца выскачылі даўгатулыя, як восы, «месершміты». Іх было многа. Яны напоўнілі неба свістам і адразу завіліся ў клубок паветранага бою. Нашых «ястрабкоў» адагналі. Ахопленыя полымем, два нашы самалёты ўпалі на зямлю. Але і «месер» адзін бухнуўся вобзем.

Як там ні было, але пяць нашых «ястрабкоў» не далі

фашыстам разбамбіць пераправу. «Юнкерсы» скідалі бомбы не цэлячыся, і ў Дняпры аж кіпела вада ад выбухаў.

Калі мы з Марынічам падышлі да пераправы, там усё яшчэ быў гармідар. Сяк-так парадак быў наведзены, і машыны адна за адной пайшлі на пераправу. Але ў гэты самы момант у паветры заскуголілі міны. Салдаты, не чакаючы, пакуль можна будзе перайсці пераправу, кідаліся ў Дняпро пераплываць. Я прапанаваў Марынічу параспранацца, звязаць вопратку і падацца на той бераг. Рака тут неглыбокая, і яе няцяжка будзе пераплыць. Марыніч нечага бавіўся, мыляў толькі губамі, як бы не ведаючы, што адказаць мне. Я падумаў, што чалавек не ўмее плаваць і баіцца, каб не ўтапіцца.

З прырэчных хмызнякоў выбегла група дзяўчат, відаць, з таго медсанбата, машыны якога стаялі на ўскраі палянкі. Дзяўчаты адразу ж, не распранаючыся, кінуліся ў ваду. І ці то фашысцкія наглядальнікі адкуль пільнавалі за тым, што дзеецца на пераправе, ці выпадкова, як толькі дзяўчаты дайшлі да сярэдзіны рэчкі, у самую людскую гушчу пачалі падаць міны. Мне здалося, што ад людской крыві стала чырвонай ціхая дняпроўская хваля.

— А ты хацеў пераправіцца,— прастагнаў Марыніч,— на той свет...

Канца сказа я не дачуў. Побач нешта грымнулася, нешта гэтак выцяла па галаве, што з вачэй красанулі іскры, а вушэй палілося нешта гарачае, і мяне не стала. Не стала белага свету, не стала грымотнай смяротнай калатні над ціхім Дняпром.

## ПАСТКА

Росная разгалістая ляшчына нахілілася нізка-нізка нада мною. Цяжкі лапушысты ліст, здаецца, засланіў сонца. Спрабую падняць руку і сцерці з твару халодныя ледзяныя кроплі. А яны ўсё падаюць і падаюць, распырскваюцца. Цяжкія, сцюдзёныя кроплі.

Уваччу — цьмяна-крывавая бліскавіца. Няўжо гэта назаўсёды, навечна? Халадок ад роснага ляшчэўніку і кроплі, што падаюць з лапушыстага ліста, абуджаюць, варочаюць мяне на гэты белы свет.

Дзе я?

Ляшчэўнік густы-густы. Намагаюся ўстаць, але галава

валавяна-цяжкая. Ох, як яна баліць, як шуміць, ледзь не расколваецца. Ніколі ў мяне так не балела, так не шумела ў галаве. А вакол такая цішыня. Здаецца, я ніколі не чуў такое цішыні. Бачу: ветрык гойдае цяжкае лісце, атрасае з яго кроплі. Лісце не шуміць, яно толькі гойдаецца, як нежывое.

Няўжо гэта ўжо няма ні вайны, ні калатнечы? Мабыць, няма, бо такой цішыні на вайне не можа быць. Не толькі на вайне — наогул, на нашым свеце ніколі не можа быць.

Мо яны, гэтыя халодныя кроплі, і абудзілі мяне з небыцця? Можа, яны вярнулі з таго свету? Намагаюся ўстаць, але ногі падломваюцца.

Трачу зноў прытомнасць. Нарэшце знайшлася нейкая сіла, што падняла мяне. Прыглядаюся і бачу: побач ляжыць нешта загорнутае ў брызентавую накідку. Дастаю рукамі. Паперка. Перасільваючы боль, лаўлю вачыма накрамзоленыя алоўкам словы: «Макар, як сабе хочаш, так і рабі. Я цябе выцягнуў з бяды, і калі апрытомнееш, ідзі куды хочаш. А я больш ваяваць не хачу. На ўсякі выпадак, калі прачнешся, пакідаю табе трохі прыпасу. Дакументаў сваіх не шукай: я іх знішчыў. Не злуй, зямляк, на мяне. Марыніч».

Бяру сухар — і ў рот. Ён павінен быў бы захрумсцець на зубах. Але я не чую ніякага хрумсту, адно адчуваю боль у сківіцах. Мабыць, страшэнна перасушаны сухар? Але смачны. Як гэта добра наесціся такога смачнага, і я ем адзін сухар, потым другі. Баляць ужо дзясны, зубы і асабліва сківіцы. А хрумсту я ўсё-такі не чую. Трошачкі прыбавілася сілы. Аглядаю сябе. Што гэта за накідка на мне? Брызентавая, каляная, як луб. Інстынктыўна мацаю левую кішэньку гімнасцёркі. Яна пустая. Значыць, ён і партыйны білет знішчыў? Дзе білет? Хачу крыкнуць. Мусіць, і крычу нешта, але сам сябе не чую.

Зноў непрытомнасць, забыццё. Але ўсё ж, ці то ад з'едзеных сухароў ці ад чаго, знайшлася сіла ўстаць на ногі. Росная лясная сцяжынка, відаць, пратаптаная скацінаю, віецца і віецца. Вось яна накіравалася на тую палянку, дзе была бамбёжка. Там цяпер ціха. Стаяць абгарэлыя шчэблі машын. Валяюцца чалавечыя трупы. Выходзіць на палянку пабаяўся: ці мала хто там можа быць? Пайшоў убок, у лясную гушчэчу. Ногі вельмі балелі, крывавіліся. Хоць бы іх чым-небудзь паабгортваць.

Блукаў па лясной гушчэчы, ні на кога не натрапляючы. Начаваў там, дзе заставала ноч. А жнівеньскія ночы былі

ўжо ядраныя, асабліва пад раніцу. Каб хоць гарачага чаго з'есці, дык яно б мо і цяплей стала.

На чацвёрты дзень перайшоў бітую дарогу і хуценька кінуўся ў густы альшэўнік. Там мяне і заспела ноч. Разам з ноччу навалакліся чорныя хмары, і пад раніцу ўліў гэтакі дождж, што як я ні напінаў брызентавую накідку, яна не ратавала. Здавалася, не толькі вопратка — цела ўсё прамокла навылёт. Зуб на зуб не трапляў. На світанні ўсхапіўся як уджалены. Пачаў углядацца. Па роснай асенняй траве пацягнуў след, як ланцужок. Выйшаў на невялікую палянку і ўгледзеў хату. Ды гэта ж тая хата, у якую я нядаўна заходзіў прасіць вады. Не дайшоў, а дацёгся да дзвярэй. Пагрукаў. Выйшла тая ж жанчына. Яна працірала заспаныя вочы, і чым больш яны расплюшчваліся, тым больш яна здзіўлялася, палохалася, быццам я з іншага свету. А мо сапраўды я не падобны на чалавека? Жанчына хуценька замахала рукамі, як бы заганяючы мяне ў сенцы, каб як хутчэй схавацца з відавоку. Я паспрабаваў усміхнуцца жанчыне, як старой знаёмай, але ўсмешка, мусіць, у мяне не выйшла, бо жанчына нічым — ні ўзрадаванасцю, ні хоць бы невялічкай грымасай — не адказала на яе. Мабыць, не пазнала мяне. Як лёг на твар гаспадыні смутак, гэтак ён і не сыходзіў з яго.

Да сянец хаты было прыбудавана нешта накшталт сенніка. Непадалёк ад сцяны гаспадыня падняла нейкае века, і я апынуўся ў цёмным, як самая глухая ноч, пограбе. Века зачынілася, і я адчуў сябе ў пастцы. Хто яе ведае, што думае гэтая жанчына. Мо яна запраторыла мяне ў гэтую цёмную пашчу, каб навесці фашыстаў. Ніхто ж у яе душы не быў, ніхто ж не ведае, што думае чалавек. А я, успомніўшы, як гэта самая жанчына пашкадавала нам тады вады, мог і меў падставы думаць усялякае, нават самае благое. Але нейкая абыякавасць ад балючай стомленасці, ад нявысветленасці лёсу прымушала думаць: няхай будзе тое, што будзе, нічога тут не перайначыш, бо не маеш ні сілы, ні сродкаў якіх; ты як бы пакінуты людзьмі, і табе застаецца адно чакаць і спадзявацца немаведама на што.

Раптам з гары, мабыць, з тае дзіркі, праз якую я пралез сюды, упаў пук святла, і я агледзеўся. Праз момант угледзеў і жанчыну. Яна паставіла чыгунец бульбы і нешта ў збанку. Накінуўся я на гарачае, як па ратунак. Жанчына глядзела на тое, як я ем, і твар яе балюча перасмыкаўся.

Хто яго ведае, колькі дзён, бо я не мог адрозніць дня ад ночы — у пограбе заўсёды было цёмна,— жанчына насіла мне вараную ў шалупінні бульбу і ў гарлачыку кіслае малако. Бульбы я не лупіў. Яна і так здавалася мне смачнейшай за ўсе прысмакі, якія толькі ёсць на свеце. Я сябе з кожным днём стаў адчуваць дужэй. Адно мяне мучыла: я не мог ніяк пагаварыць з жанчынай. І што за дзіва: як я ні хацеў, як ні намагаўся прывесці да ладу думкі, вызначыць пейкі напрамак іх, мне гэта не ўдавалася. Бязладна думалася пра ўсё і ні пра што. Раптам уварваліся ў памяць Марылька з Сяргейкам. Яны мне здаліся такімі далёкімі, такімі цьмянымі, быццам усё тое было даўно-даўно і больш ніколі не паўторыцца. Свідраваў галаву клопат: што ж рабіць далей? Раптам мне станавілася страшна ад гэтай чарнаты падзямелля. Хацелася закрычаць на ўсю моц, і, напружваючы сілу, я крыкнуў. Нешта стрэліла ў вушах, і яны адаткнуліся. Я пачуў свой голас.

Праз увесь гэты час мне здавалася, што не адзін я, а і ўвесь белы свет, усё жывое на ім анямела і паглухла.

Тое, што ў мяне паявіўся голас, было часовай радасцю ў беспатольным жыцці. Я гаварыў сам з сабою і, мусіць, вельмі крычаў, бо прачынілася века пограба і ў смузе прасвету паказалася гаспадыніна галава.

— З кім вы там гаворыце? — пытала яна.

— Сам з сабою,— радасна азваўся я.

— Загаварыў? Ой, якое гэта шчасце! — выгукнула гаспадыня.— Даў бог язык вярнуць. Вылазьце вы з гэтае смярдзючае ямы. Мо ніхто сюды і не навалачэцца.

Гаспадыня спусціла драбінку, і я вылез. Вочы асляпілі зіхотныя праменні сонца, якія прабіваліся праз шчыліны будыніны. Сонца было на захадзе, і промні яго здаваліся пяшчотнымі, ласкавымі. Гаспадыня прынесла вядро вады, і я ўмыўся. Збегала ў хату і знайшла заржаўленую брытву. Не намыльваючыся, збольшага пазразаў валоссе і мо трохі стаў падобны на чалавека. Гаспадыня пільна ўглядзелася ў мяне і сказала:

— А я як бы вас дзе бачыла. Нешта твар мне ваш знаёмы.

— Чаму ж не! І я вас бачыў. Хіба вы забыліся, як мы прыходзілі з вядром да вас па ваду?

Твар гаспадыні зачырванеўся. Яна, відаць, успомніла, як нас сустрэла.

— Ведаеце, гэтак душа балела. Злосць сэрца тачыла, што вы адступалі, пакідаючы нас.

— А я на вас і не злаваў тады. Бачыў, здагадваўся, чаму вы так з намі абышліся.

— Мужыка ў армію забралі. Дачка пайшла на акопы, дык і няма. Адна асталася сярод гэтага лесу, як ваўчыца.

— А немцы ў вас тут бываюць?

— Не. От то тады, як толькі прыйшлі, натрапілі былі на хутар. А з таго часу не было. Мабыць, ужо ніколі і жыцця чалавечага не будзе? — з безнадзейнасцю сказала жанчына.

— Чаму не будзе? Будзе яшчэ. Нашы прагоняць фашыстаў, і жыццё настане добрае.

— Як іх прагоніш? Вунь я чула, што яны ў Маскве ўжо.

— Няўжо гэта праўда? — спалохаўся я.

Больш як два тыдні я прасядзеў у леснічоўцы. Быў канец жніўня. Восень залаціла на дрэвах лісце, раніцамі аздабляла, прыбірала росамі травы. Я да таго асвойтаўся тут, што ўжо не баяўся выходзіць на палянку і хадзіць у лес. Здавалася, што на свеце няма ніякай калатнечы, што вайна, пагрымеўшы тут некалькі дзён, некуды зусім сышла і больш ніколі не вернецца. Але мне карцела адно — як выбрацца адсюль і дайсці да сваіх. Кожны раз, як толькі выходзіў з хаты, шукаў, вывучаў сцежкі. Каб хоць якая заваляшчая карта была.

Дапытваўся ў гаспадыні, якімі дарогамі лепш прайсці на Драгабуж. Думалася, што там нашы. Гаспадыня мяне адгаворвала: маўляў, сядзіце тут, пакуль зацішна. Але ў мяне на душы не было ніякага зацішку. На душы была бура, душа рвалася на прастор, туды, дзе кіпіць бой, дзе нашы людзі, льючы кроў, б'юцца за тое, каб зямля была вольная.

І раптам гаспадыня першая ўгледзела ў акно — напрасткі праз палянку ішлі тры немцы.

— Макар, немцы! — успляснула яна рукамі.

Я кінуўся ў сенцы, каб як выскачыць у лес, але адразу расчыніліся дзверы і здаравенны немец навёў на мяне аўтамат.

— Хэндэ хох! — скамандаваў ён.

Я падняў рукі. Немец хуценька абшукаў кішэні, абмацаў запазуху і, нічога не знайшоўшы, апусціў зброю. Немцы чамусьці зусім не звярталі ўвагі на жанчыну. Старшы, з лычкамі на вузкіх пагонах, загадаў абшукаць хату, і салдаты кінуліся шныпарыць па кутках. Зазірнулі пад ложак, бліснулі промнямі ліхтарыка ў падпечча: можа, думалі,

што там сядзіць хто. Злазілі на гарышча, патупалі па сенцах, схадзілі нават у хлеў. У каморы натрапілі на кубельчык з салам, набілі ім ранцы, і старшы загадаў мне:

— Русіш, шнэль, шнэль.

Гаспадыня выхапіла з падгалоўя ватоўку і падала мне:

— На, Макар, надзень, хоць душу сагрэеш. Ты ж у гэтай накідцы ад аднаго холаду зойдзешся.

Я скінуў лубяны брызентавы плашч — паддзеў пад яго старую ватоўку. Аж пакуль відна была леснічоўка, я азіраўся на яе. Бачыў, як на ганку стаяла гаспадыня і журботнымі вачыма, поўнымі нявыплаканых слёз, праводзіла мяне.

На палянку, якая была кіламетры за два ад леснічоўкі, было сагнана мо чалавек дзвесце палонных. Нямецкі афіцэр распараджаўся, загадваў салдатам. Паявіліся канвойныя і пачалі выцягваць калону на дарогу. Ніхто не ведаў, куды вядзе гэтая дарога. Гналі нас цэлы дзень, а на змярканні прыгналі на панадворак, абгароджаны з усіх бакоў шалёвачным парканам. Тут, відаць, да вайны была МТС, бо на дзірване валяліся тракі гусеніц, паламаныя сеялкі, плугі. Узбоч стаялі два баракі, падобныя на майстэрні, а ў самым цэнтры — мураваны аднапавярховы дом. У гэтай, мабыць, былой канторы цяпер і размясціўся нейкі штаб. Да дзвярэй раз-пораз пад'язджалі легкавыя машыны.

Канвойныя адышліся, і палонныя, як хто стаяў, гэтак і пападалі на дзірван. Упаў і я. І раптам чую:

— Макар, гэта ты? От дзе сустрэліся.

Я ледзь пазнаў Марыніча. Твар яго зарос рудым шчаціннем. Вочы бліщчалі, як два прытушаныя вугольчыкі.

— А, і ты тут? — быццам не здзівіўся я, угледзеўшы Марыніча.— Як жа ты тут апынуўся?

— Я ўжо даўно тут. А ты дзе быў?

— Дзе быў, там ужо няма,— адказаў я з неахвотай, даючы зразумець Марынічу, што пасля таго, як ён мяне кінуў, нам няма чаго гаварыць.— Ну, і як тут — смачна? — са здзекам запытаў я.

— Лепш, чым зямлю парыць. Бачыш жа, хоць жывы...

— Бачу, што жывы. Але што з таго?

— Чаму, што з таго? Як дасць бог, дык і дадому дабяромся.

— Хутчэй на той свет, чым дадому.

У канцы двара пад парканам дымілася салдацкая паходная кухня. Марыніч зірнуў на кухню і сказаў:

— Мабыць, для нас вараць. Немцы ж не нелюдзі якія. У іх таксама сэрцы ёсць.

Я нічога не адказаў Марынічу. Мне брыдка было слухаць яго. Неўзабаве і ён пераканаўся, што кухня дымілася не для нас. Як добра ўжо ўднела, да яе пачалі сыходзіцца нямецкія салдаты з кацялкамі і міскамі. Яны, мусіць, знарок садзіліся на дзірван непадалёк ад нас і елі, сёрбаючы так, што ў галодных палонных шлунне пераварочвалася. Марыніч каўтаў сліну і кляў гітлераўцаў на чым свет стаіць.

— Каб вы паапрагаліся гэтай сваёй ядой. Каб вас папаспірала.

Я слухаў Марынічаву кляцьбу і чамусьці праціпаўся невыказнаю злосцю на яго. А салдаты елі, выскалялі на нас зубы, нешта гергеталі. З пятага на дзесятае я разумеў нямецкую мову і ўлавіў:

— Няхай гэтыя рускія паглядзяць, паглытаюць сліпу. Няхай ведаюць, як нам супраціўляцца.

Салдаты спаражнілі свае кацялкі і місы, а нам загадалі пастроіцца. Каторыя з нас не маглі падняцца з зямлі, мы іх падымалі, ставілі на ногі, вялі ў строй.

Строй быў няроўны, паламаны. Мы з Марынічам, які цяпер не адставаў ад мяне ні на крок, сталі ў першым радзе. Усе думалі, што нас куды пагоняць. Але немцы бавіліся. Раптам на двор уехала фурманка, а ў бараках расчыніліся вароты, і адтуль вылецела цэлая зграя адгадаваных аўчарак. Салдаты, што сядзелі на возе, пачалі скідаць перад намі вялікія кавалкі варанага мяса. Каторыя з палонных ірвануліся былі да таго мяса. Ірвануўся і Марыніч. Я ледзьве ўтрымаў яго за рукаў.

З гірканнем, з брэхам наляцелі на мяса разлютаваныя аўчаркі. На ганак мураванага дамка выйшаў чысценькі дагледжаны афіцэр у старанна адпрасаваным новенькім мундзіры, пры чорных жалезных крыжах і медалях. Пастукваючы кіёчкам па высокай халяве бліпічастага хромавага бота, ён пазіраў на наш строй і ўсміхаўся.

У тым позірку, які афіцэр кідаў на нас, было столькі пагарды, што можна было падумаць, быццам перад афіцэрам стаялі не людзі. Афіцэр нешта гергетнуў салдатам, якія кармілі сабак, і тыя пачалі скідаць з воза яшчэ і яшчэ кавалкі мяса. Потым сабак загналі ў баракі, і афіцэр з ганка падышоў да нас. Ён кожнаму з нас зазірнуў у вочы, нібы хацеў што прачытаць у іх. Не ведаю, што ў чыіх, а ў маіх вачах, калі ён толькі ўмеў чытаць чалавечыя по-

зіркі, гітлеравец мог толькі прачытаць нянавісць, пагарду да яго, нелюдзя.

Афіцэр адышоўся крокаў за пяць ад строю, на тое месца, дзе нядаўна гіркалі сабакі, і падаў салдатам знак. У момант на дзірване з'явілася скрыня, пастаўленая дагары дном. Ён узлез на яе. Аднекуль, поруч з ім, з'явіўся рыжы патлаты цывільны чалавечак, які чамусьці не глядзеў на нас, а ўсё зазіраў у рот афіцэру. Гітлеравец узмахнуў кіёчкам, ненатуральна адставіў нагу, быццам хацеў паказаць нам, як блішчаць халявы ягоных ботаў. Патлаты выструніўся поруч з афіцэрам.

Афіцэр нешта выкрыкваў, выкідаў то адну, то другую руку. Відно было, што яго прамова перад намі была разлічана на эфект. Я ўлоўліваў асобныя словы, але дайсці да сэнсу не мог. Затое чалавечак, перакладаючы прамову, гаварыў спакойна, нібы чытаў псалтыр па нябожчыку:

— Пане афіцэр кажа: наша нямецкая армія змятае на сваім шляху ўсё і ўсіх. Яна ўжо вызваліла Еўропу. Пройдзе яшчэ тыдзень, сама болей месяц, і Расія будзе ляжаць пад яе нагамі, бо няма такое сілы, якая б устояла перад сілай арміі вялікага фюрэра. Але мы велікадушныя. Тым людзям, якія ідуць да нас з паднятымі рукамі і з пахіленымі галовамі, мы велікадушна даруем жыццё. Больш таго, мы даём ім магчымасць жыць па-людску, не так, як яны жылі ў бальшавіцкім пекле.

У гэты самы момант ззаду строю пачулася кароткая аўтаматная чарга. Усе азірнуліся: ля самага паркана салдат прыстрэліў некага з нашых. Ні афіцэр, ні перакладчык нічым нават не паказалі, што яны чулі гэтую аўтаматную чаргу. Афіцэр зноў маляўніча выстаўляўся перад намі, быццам практыкуючыся ў майстэрстве красамоўства. Перакладчык спакойна, павольна словамі пілаваў нашы душы:

— Таму, хто хоча супрацоўнічаць з намі, мы дакляруем волю, работу. Яны пойдуць да сваіх сем'яў і будуць працаваць на вялікую Германію. Нават камуністам, якія пойдуць з намі, мы даруем жыццё.

Гугнявы голас перакладчыка ўзвысіўся ў такой меры, што строй аж жахнуўся:

— Хто з вас камуністы, тры крокі наперад!

Інстынктыўна я рвануўся быў, але мяне схапіў за брызентавік Марыніч:

— Куды ты?

Марынічава запытанне як бы ацверазіла мяне. Прый-

шла думка: навошта лезці на ражон, ісці на смерць. Лепш, калі ўдасца, дык знайсці які спосаб помсціць за ўсё. Перад гэтым мяне на момант апанаваў адчай: навошта так жыць? Лепш адразу памерці і не зносіць, не бачыць, не чуць чалавечых пакут.

На каманду ніхто не выйшаў. Няўжо сярод палонных не было ніводнага камуніста? Не выйшаў ніхто і на другую каманду: «Афіцэры, тры крокі наперад!» Што камандзіры нашы тут былі, я не сумняваўся. Іх можна было адрозніць нават па выгляду.

Гітлеравец, закаціўшы вочы, выгукнуў на ўвесь голас:

— Хайль Гітлер! — і выкінуў правую руку ўгару.

Строй палонных стаяў маўкліва, як бы ўсе людзі, што былі ў ім, прысуджаны да смерці.

Афіцэр фанабэрыста саскочыў са скрыні і нешта скамандаваў салдатам. Праз колькі хвілін у вароты ўехала тая ж самая фурманка, на якой нядаўна прывозілі сабакам мяса. Спынілася перад строем. Салдаты абярнулі яе і высыпалі турнэпс. Перакладчык зірнуў на нас і сказаў:

— Нямецкае камандаванне велікадушнае. Яно не толькі захоўвае вам жыццё, яно вас поіць і корміць. Ешце — гэта вам на абед.

Накінуліся на турнэпс тады, калі адышлі афіцэр з перакладчыкам. Салдаты, якія вартавалі нас, наглядаючы, як палонныя хапалі турнэпс, выскаляліся рогатам, нешта гергеталі паміж сабою. Ім, відаць, пацешна было бачыць, як галодныя людзі прагавіта ядуць тое, што чалавек не павінен есці.

— Русіш швайн! — крычаў салдат і паказваў, каб мы лажыліся.

Каторыя з нашых палеглі. Лёг і Марыніч. Я і яшчэ чалавек з дзесяць асталіся стаяць. Салдат цэліўся на нас аўтаматам і крычаў. Мы ўсё роўна не лажыліся. Тады ён паверх галоў пусціў кароткую чаргу з аўтамата.

— Русіш швайн! — апантана крычаў і махаў рукою зверху ўніз: — Кладзіцеся!

— Гер афіцэр дзякуе вам за паслушэнства,— выскаляўся перакладчык.— Ён пытае, ці смачна паелі. Нямецкае камандаванне, бачыце, як клапоціцца пра вас: не толькі накарміла, дык яшчэ дае магчымасць добра пераварыць ежу.

Ляжым нерухома, зацята маўчым.

Здзекі, знявагі, уніжэнне на дзірване эмтээсаўскага двара — гэта быў толькі пачатак. На другі дзень салдаты

з аўтаматамі напагатове выгналі нас на дарогу. Куды вялі, ніхто не ведаў. Адно можна было здагадацца, што гналі на захад.

Першы дзень жахлівага паходу быў і першым выпрабаваннем. Мы яшчэ, хоць і галодныя, але не стомленыя, не адставалі і не падалі ад знямогі. Гадзін праз пяць ходу мы ўгледзелі вёску. Гэта была амаль такая, як і наша беларуская, смаленская вёска. Хаты пад саламянымі стрэхамі былі як бы насуплены. На вуліцы ні жывой душы. Нават сабакі і тыя недзе пахаваліся. Перад студняй пасярод сяла спынілі нас. Мусіць, самім канваірам закарцела піць, набраць свежае вады ў біклажкі. Каторыя з нас кінуліся да студні, але канвойныя ашчэрыліся і закамандавалі:

— Цурык! Цурык!

Нашы пачалі прасіць дазволу выпіць хоць па глытку вады. Дазволілі, і ўсе кінуліся да асклізлага вядра. Кожны хутчэй стараўся дапасці да яго.

Студня была пры шчыльным паркане, за якім віднеўся добры сад. На дрэвах яшчэ сям-там жаўцелі яблыкі антонаўкі. У садзе было ціха, дрэвы не зварухнуць галінкамі. І раптам у самую гушчыню палонных сыпануліся цераз паркан яблыкі. Мы пачалі лавіць іх на ляту, збіраць долe. Канвойныя ад нечаканасці спалохаліся. Затрашчалі аўтаматы. За парканам пачуўся тупат ног. Закрычалі канваіры:

— Гей! Гей! Шнэль! Шнэль!

У немцаў аўтаматы былі напагатове. Баяліся, мабыць, што мы можам паразбягацца. Тыя, каму дасталіся яблыкі, хуценька елі, быццам баяліся, што салдаты спахопяцца і адбяруць. І я злавіў яблык. Марынічу нічога не засталося, хоць ён аж упаў быў на зямлю. Я знайшоў у сабе сілы разламаць напалам спелы духмяны плод. Аж закалацілася Марынічава рука, беручы палавінку. Спехам, мабыць не разжоўваючы, праглынуў і зноў глядзеў мне ў вочы, быццам у мяне яшчэ былі яблыкі, але я чамусьці іх не даю яму.

Нанач нас загналі ў загароду. Усе пападалі, як стрыножаныя, на халодную вільготную зямлю. Голад, стомленасць як падкасілі ўсіх. Некаторыя паснулі адразу. А я не мог заснуць: балелі ногі, рукі, галава і больш за ўсё балела душа. Я ніяк не мог сабе дараваць, што апынуўся тут. Лепш бы няхай зусім памёр. У хвіліну такога роздуму я пачынаў ненавідзець самога сябе. На ліха так жыць, на ліха гэтыя пакуты, гэтая паняверка, калі за іх нават нель-

га адпомсціць. На момант у памяць прыходзіў Сяргейка. Здаецца, глядзелі на мяне ягоныя вочкі і балюча-балюча ранілі і без таго зраненае сэрца. Хацелася па-мужчынску наўзрыд заплакаць, але не знайшлося слёз.

Зноў гоняць. Зноў пакрыкваюць канвойныя:

— Шнэль! Шнэль!

Я разумею гэтае «шнэль»: хутчэй, жвавей. А куды ж нам хутчэй, куды жвавей. На той свет няма чаго спяшацца. А за дарогу ўжо шасцёх нашых адправілі на той свет.

Былі ў нашай калоне параненыя, знясіленыя. Мы іх вялі пад пахі, неслі на руках. Неслі, пакуль самі маглі трываць, пакуль той, каго вялі, мог хоць ногі перастаўляць. Фашысты, бачачы, што чалавек зусім знясілеў, адбіралі яго ад нас, зводзілі ўзбоч з дарогі і прыстрэльвалі. Марыніч вельмі баяўся, каб не ўпасці. Ён шаптаў мне:

— Давай адзін за аднаго трымацца, каб не падаць.

— Давай.

Немаведама якімі дарогамі на шостыя суткі прыгналі нас у невялікі горад. Гэта быў наш беларускі гарадок. Нейкая надзея, нейкая радасць з'явілася ў мяне. Мабыць, ад таго, што калі і прыйдзецца памерці, дык на сваёй старане, недалёка ад сваіх. Прыгналі нас надвячоркам і загналі ў загараду з калючага дроту. За ўсе гэтыя дні тут першы раз пакармілі гарачай бурдой. Яе наварылі з капуснага і бураковага лісця. Далі па лусціне хлеба, спечанага, мабыць, з пілавіннем. Мо таму, што з'елі трохі варанага, усе неяк акрылялі. Акрылялі, мабыць, і надзеі людзей на лепшае.

## ВЫРАТАВАННЕ

Гарадок быў як гарадок. Яшчэ і да вайны я яго ведаў і не так рэдка даводзілася бываць у ім. На цэнтральнай вуліцы стаяла некалькі двух- і трохпавярховых мураваных будынкаў пад бляшанымі дахамі. Далей ішлі вуліцы з дашчанымі тратуарамі, з аднапавярховымі, пад гонтавымі дахамі дамкамі, якія вясной танулі ў квецені вішань і яблынь. Цэнтральная, Савецкая вуліца, на якой мясціліся райком партыі, райвыканком, клуб, галоўныя магазіны, была брукаваная і вяла аж да самага Дняпра. Яна ўпіралася ў браму запалкавай фабрыкі, над корпусам якой здалёку віднеўся мураваны комін. Трошкі ўзбоч ад фабрыкі

мясціўся старэнькі цвікавы завод. Яго можна было адрозніць па жалезнай з накрыўкай трубе. Труба гэтая трымалася нібы на распорках з тоўстага дроту. Пазнаў горад і ўзрадаваўся: як-ніяк свая зямля. Адгэтуль усяго кіламетраў пяцьдзесят да Рагазіна, ды і да майго горада недалёка. Да сваіх мясцін я і дарогу добра ведаў. Яшчэ ў дзяцінстве я захварэў быў на свінку, і бацька на возе вёз мяне сюды рабіць аперацыю. Пазнаў і падумаў сам сабе: а што, калі як вырвацца з-за гэтай калючай агароджы? Да лесу тут рукой падаць. А лясы тут густыя, глухія, дзікія. На першым часе ў іх можна схавацца, а потым, можа, спадцішка і фашыстам дыхту даваць. Але як жа вырвацца з-за таго калючага дроту? Дзень і ноч ходзяць вартавыя, шчэрацць зубы драпежныя аўчаркі, якія, калі ты памкнешся толькі да дроту, могуць выпусціць табе вантробы.

Адно добра, што ў гэтым лагеры нас хоць трошкі кармілі: давалі на дзень па чарпаку гарачай бурды, па лустачцы хлеба. Дармо што ён быў спечаны з пілавіннем. Ганялі нас на работу на цвікавы заводзік. Немцы, мабыць, хацелі расчысціць заваленыя чым папала цэхі і зрабіць майстэрню па рамонту аўтамашын, а можа, і танкаў. Працавалі мы не вельмі, для прыліку, абы паказваць выгляд, што нешта робім.

З лагера ў лагер нашу калону ганялі праз увесь горад. Першыя дні людзі з-за шулаў, з-за вуглоў баязліва пазіралі на нас. Аднекуль часам ляцелі па нас ці кавалак хлеба, ці морква, ці які яблык. Мабыць, у людзей сэрцы балелі, калі яны глядзелі на нас, знясіленых і зняможаных. Канваіры крычалі: «Фарфлюхтэр, русіш швайн!», але таго, што трапляла нам у рукі, не адбіралі. Спаць нас заганялі ў дашчаны барак, які да вайны, мусіць, служыў складам. І хоць там не вельмі ўтульна і цёпла было, усё ж хоць над галавою вісела сякая-такая страха. Пачыналася глыбокая восень, і часам неба сеялася густымі імжакамі. Каб не гэты барачак, дык у сваім адзенні мы падаходзілі б, мабыць.

Аднаго разу падняла на ногі, устурбавала ўсіх нас вестка: немцы выпускаюць на волю тых, у каго знаходзяцца сваякі, якія могуць узяць на парукі. Я гэтаму верыў і не верыў. Не верыў таму, што фашыстам наогул нельга было верыць. Верыў жа таму, што мне так хацелася, і яшчэ таму, што думаў: «Мабыць, фашысты хочуць паказаць сваю велікадушнасць, прадэманстраваць гуманнасць пераможцаў, і яны могуць пайсці на такое». Вядома, нікому і

ў галаву не прыходзіла, што гітлераўцам шкада нас стала як людзей. За гэты час, як мы пабывалі ў фашысцкіх лапах, па завязку наеліся іхняга гуманізму, іх чалавечнасці.

На работу пачалі вадзіць нас без сабак. Адно самі канваіры, калі каторы з нас адставаў ці хто з жыхароў горада набліжаўся да калоны, ашчэрваліся, як сабакі. На гэта ніхто не звяртаў увагі. Ведалі — у іх служба такая.

Але і сапраўды нешта такое здарылася. Аднекуль прыйшла вестка, што ў горадзе нават абвесткі расклеены: маўляў, прыходзьце жонкі і сёстры, шукайце сваіх мужыкоў і братоў, забірайце іх дадому.

Марыніч аж галаву падняў. Мабыць, і ў яго з'явілася надзея як-небудзь выкараскацца з гэтага пекла.

— Я ж ведаў, што не павінна быць так заўсёды. Яны ж не звяры якія, каб піць чалавечую кроў. Яны ж людзі.

— Маўчы ты,— цыкаю я на яго,— нават калі гэта ўсё і праўда, дык тут нейкая фашысцкая правакацыя.

— Правакацыя! Правакацыя! Калі пайшло паслабленне, дык немцы трохі пацацкаюцца з намі, а потым скажуць: «Акыш дадому».

Мала, мала верылася гэтаму Марынічаваму «Акыш дадому». А восень ужо ўвабралася ў самую сілу: пажоўк на дрэвах ліст. Былі ўжо дні, калі і сонца не ўгледзіш — валакліся і валакліся хмары. Жах было думаць, што ўперадзе зіма з халадамі і маразамі. Чым ты сагрэеш душу: ні яды, ні вопраткі. Не інакш — адубееш і цябе вывалакуць, выкінуць за плот, як таго сабаку.

Але гэты дзень выдаўся ясны, і, мабыць, нядзеля была. Я тут ніяк не мог ведаць дзён: яны неяк — і ночы і дні — спрэс зліваліся ў адно цэлае, нешта цёмнае, беспрасветнае. Гэта, мусіць, таму, што нават калі святлела на дварэ, усё роўна на душы было цёмна і наўрад ці можна было даць веры сваім вачам, што яны часам бачылі сонца.

Было бабіна лета. Сонца, праўда, грэла не вельмі; яно толькі зіхацела, і ад гэтага яго халаднаватага зіхацення, здавалася, слеплі вочы. На дзірване лагернага двара трава ўжо стала не зялёнай і нават не жоўтай, яна неяк учарнела.

Чаму ж нас не гоняць на работу? Ды вунь жа і варыва нейкага падвезлі. Звычайна на прыварак ішлі бульбяныя лушпайкі, бураковае бацвінне. А сёння пракідалася нават цэлая дробная бульба.

Што ж гэта такое сталася з немцамі? Што ж гэта дзеецца на свеце? Мо фашысты Маскву ўзялі? Пра гэта ж яны

даўно як у званы б'юць, выхваляюцца гэтым. Думалі, што, можа, ужо і вайне канец, дык і падкормліваюць трошкі.

А як угрэла трохі сонца, нашага брата выгналі з барака і паставілі ў рады. Калі б чалавек свежым вокам зірнуў на наш строй, дык, відаць, спалохаўся б. Наўрад ці падобны мы былі на людзей. Хутчэй за ўсё мы былі жывымі ценямі. Твары худыя-худыя, зарослыя шчаціннем, і ад гэтага здаваліся яшчэ больш спакутаванымі. Я быў абыякавы да ўсяго, нават да смерці. Гора і пакуты могуць чалавека абязвечыць так, што сама смерць будзе яму за ратунак.

Навошта ж усё-такі нас паставілі тут? А вунь і афіцэр ідзе. А вунь за калючай агароджай і жанкі нейкія. Можа, таксама іх хочуць загнаць за калючы дрот? Можа, усё наша жыццё хочуць абнесці калючкамі і ўзяць пад канвой? Але не... За жанчынамі не відаць ніякіх салдат. Значыць, яны самі прыйшлі. Што ж іх, небаракаў, прыгнала, прыняло сюды? Няўжо жаданне паглядзець на нас?

Афіцэр становіцца перад намі ў позу прамоўцы і гаворыць на ламанай мове:

— Не сёння-заўтра Москаў капут. Мы, нямецкая армія, не звер. Мы не бальшавік. Нацыянал-сацыялісты велікадушны і міласэрны. Москаў капут, вы ўсе арбайт. Дзяцей сваіх гадавайт,— афіцэр сашчапіў на грудзях рукі і паказаў, як мы будзем галубіць сваіх дзяцей.

Ніхто не разумеў, навошта гэта ўсё робіцца і гаворыцца, а афіцэр тым часам цягнуў далей:

— Чый жон тут ест,— паказаў рукою на натоўп жанчын за калючым дротам,— той дадому хадзяйт і арбайт. Жонка пазнайт — і шнэль-шнэль арбайт.

Па дзірване двара перад нашым строем бегала, мітусілася некалькі немцаў з фотаапаратамі, з блакнотамі. Правакацыя нейкая, не іначай. Каб жа ведала, што будуць адпускаць, Марылька, каб жа ведалі ўсе нашы жонкі, маткі, сёстры! Яны б на крыллях папрылятала сюды. А так наўрад ці знойдзецца тут каго забіраць. Нешта я не чуў, каб сярод нас хто з гарадка быў. Праўда, пасля нас яшчэ прыгналі партыю палонных.

— Памятайце, русіш,— ускідаў над галавою руку афіцэр,— дойчлянд армія нясе вам цывілізацый. Яна велікадушна і літасціва да тых, хто ёй не супрацоўляецца. Хайль Гітлер! — выгукнуў афіцэр. Салдаты, якія акружылі нас з аўтаматамі, таксама ўскінулі рукі і выгукнулі:

— Хайль Гітлер!

Афіцэр, мабыць, спадзяваўся, што і мы следам за ім пачнём выгукваць. Але мы маўчалі. Потым афіцэр нешта скамандаваў салдатам. Тыя пабеглі да варот. Праз нейкі час прапусцілі ў вароты жанчын, якія тоўпіліся за калючым дротам. Іх павольна праводзілі перад нашым строем, і афіцэр крычаў:

— Пазнавайт каторы ваш і забірайт!

Жанчыны, павольна ідучы паўз строй, угледаліся. І раптам:

— А мой жа ты галубочак! А мой жа ты родненькі! А цябе ж і пазнаць нельга, гэтакі ты змардаваны,— запрычытала жанчына.

Яна кінулася на грудзі палоннаму і павісла ў яго на шыі. Салдаты, што суправаджалі жанчын, спыніліся ў замяшанні. Яны пазіралі на афіцэра, як бы пытаючыся ў яго рады, што рабіць у такім выпадку. Афіцэр, крывячы рот, падштучна ўсміхаўся. Тыя, што былі з фотаапаратамі, падскочылі і ўзяліся пстрыкаць.

Хто ж ён, гэты шчаслівчык? Як яго жонка даведалася, што ён тут? Марыніч угледаўся і шаптаў мне:

— От пашэнціла чалавеку. У шчаслівай кашулі нарадзіўся.

Ніхто з нашых не ведаў таго шчаслівчыка: ён быў не з нашай групы, і ўсе яму зайздросцілі. Я таксама.

Строй наш расцягнуўся, можа, метраў па сто. Стаялі мы, асабліва тыя, хто не спадзяваўся, што яго тут хтонебудзь знойдзе, паныла. Калі праўду казаць, дык я баяўся нават вачыма сустракацца з жанчынамі. Мне чамусьці сорамна было, што я апынуўся ў гэтым ганебным страі. З правага флангу чулася:

— А я ж усе вочанькі выглядзела, шукаючы цябе, а я ж усе слёзанькі выплакала па табе. А ты вунь дзе, бедненькі, пакуты зносіш...

Жанчын прапускалі паўз строй групамі па пяць чалавек. Яны ішлі цугам і ўглядаліся ў нас, Марыніч аж галаву выцягваў, вочы вырачваў. Мабыць, чалавек спадзяваўся на нейкі цуд. Я ж ні на што не спадзяваўся. Мая жонка такая ціхманая, такая няўвішная, што нават калі б гэта было ў нашым горадзе, дык і то наўрад ці дабілася б яна чаго.

Палонным, якіх пазналі жанчыны, загадалі выйсці і стаць перад строем поруч са сваімі жонкамі. З першага заходу шчаслівчыкаў было ўсяго два. Няўжо гэта праўда,

што іх выпусцяць з-за гэтага калючага дроту, што яны сёння ўжо будуць дома са сваімі жонкамі, дзецьмі?

З наступнага заходу дзве шчаслівыя жанчыны асталіся стаяць перад строем са сваімі мужыкамі. Тры ў слязах пайшлі на выхад з лагера. З чарговай пяцёркі таксама апазнала адна свайго чалавека.

Цырымонія апазнавання зацягнулася надоўга. У мяне аж ногі забалелі ад стаяння. Ды і як ім не забалець. Яны ўвогуле сталі кволыя, быццам чужыя. Увесь я стаў ацяжэлы, млявы, слабы.

Мабыць, перадапошняя пяцёрка праходзіла перад нашым строем. І раптам — што гэта такое? — цёплыя жаночыя рукі абвілі маю шыю і вусны зашапталі:

— Цябе завуць Макар Цімлякоў. А я твая жонка Алена, не забудзь.

Аленіна галава была павязана чорнай кашміраўкай гэтак, што на твары толькі два бліскучыя вугольчыкі плавалі ў слязах, а вусны прычыталі, цалуючы маю шорсткую, як шчэць, бараду.

— Я ўсе вочачкі выплакала па табе, Макарка мой родненькі.

І мне загадалі выйсці са строю. Жанчына ўчэпіста трымала мяне за руку, быццам баялася, каб яе не адарвалі. Калі я выходзіў са строю, Марыніч быў ірвануўся за мной. Але на яго гыркнуў салдат. Відно было, што Марыніч не мог зразумець таго, што тут адбылося. Ён, відаць, не паверыў, што жанчына ў чорнай кашміраўцы — мая жонка. Ды і я сам нічога не разумеў, але рабіў так, як яно само рабілася. Як толькі выйшлі мы з Аленай і сталі перад строем, да нас падбеглі два ў цывільным: адзін з фотаапаратам, другі з блакнотам і ручкай самапіскай, якую ён, як зброю, трымаў напагатове.

— Цалавайт, цалавайт муж,— камандаваў той, што скакаў з фотаапаратам.— Абнімайт і цалавайт.

Алена павісла мне на шыю, абнімала і цалавала ў вусны, у вочы і ўсё галасіла. Немец пстрыкаў фотаапаратам, вымаўляючы:

— Гут! Гут!

Потым падышоў той, што з блакнотам.

— Адкуль вы і хто вы, як трапілі ў палон? — пытаў ён на беларускай мове.

Я не ведаў, што адказваць яму. Выручала Алена:

— А мы тутэйшыя. Са Слабодкі. Недалечка ад горада. Нядаўна пажаніліся. Яшчэ і дзяцей не паспелі займець. Не

нацешыліся, не налюбаваліся адно адным, а тут вайна пачалася.

— Ну, то цяпер дзеці ў вас будуць,— рагатнуў карэспандэнт, відаць, думаючы, што сказаў вельмі дасціпна.

Яго, мабыць, трошкі насцярожвала, што адказвае за мяне жонка, і ён падазрона глядзеў на мяне.

— Ад гэтакага шчасця анямець можна. Хіба ж я думаў, спадзяваўся, што яна знойдзе мяне,— казаў я, стараючыся патрапіць пад густ карэспандэнту.

— Дзе вас у палон узялі?

— Далёка адгэтуль, аж на Дняпры, на Салаўёўскай пераправе.

Пачуўшы пра Салаўёўскую пераправу, карэспандэнт ажывіўся.

— О, Салаўёўская пераправа! Там войскі вялікага фюрэра паказалі цуд вайсковага майстэрства. Гэта ж трамплін да Масквы!

Потым карэспандэнт дапытваўся ў мяне і ў Алены, як мы думаем жыць далей, што рабіць. На гэтае яго запытанне адказала Алена: маўляў, нямецкія ўлады дадуць зямлі, мы будзем працаваць, расціць збажыну, гавяду.

— О, гут, гут, цудоўна! — захапляўся ён тым, што казала Алена. Яму, мабыць, акурат гэта і трэба было для карэспандэнцыі. Карэспандэнт запытаў, як маё прозвішча. Я на момант збянтэжыўся. Карэспандэнт заўважыў маю збянтэжанасць і сумеўся. Адказала Алена:

— У яго ад шчасця, мабыць, замарачэнне ў галаве. Наша прозвішча: Цімляковы... Макар Цімлякоў. Гэтак і пішыце.

Працэдура апазнавання скончылася; каго ніхто не апазнаў, пагналі назад у барак. Нас з жанчынамі вывелі за дратовую агароджу і павялі да драўлянага аднапавярховага дамка, што стаяў непадалёк ад лагера. Там за сталом сядзеў ужо той самы афіцэр, які кіраваў апазнаваннем. Ён правяраў дакументы жанчын, патрабаваў сведак, якія б пацвердзілі, што апазнаны ёсць не хто іншы, як муж ці сын. У мяне аж сэрца абарвалася: хто ж гэта пацвердзіць, што я мужык гэтай жанчыны? Алена заўважыла маю збянтэжанасць і шапнула: «Супакойся, усё ў парадку».

І вось мы перад сталом афіцэра. Ён дапытліва зірнуў на маю збавіцельку і аж выскаліўся:

— О, да такой красуні я таксама прызнаўся б у мужыкі. На айн ноч.

— Вы жартуеце, пане афіцэр,— бойка адказала Алена.— Я верная свайму мужу і да самай смерці не здраджу яму.

— Гут, гут! Дакумент? — нарэшце запытаў ён.

Алена дастала з запазухі даведку, напісаную на выдраным з вучнёўскага сшытка ў клетачку лістку, аб тым, што яна сапраўды шукае свайго мужа Цімлякова. Даведка была напісана слабадскім старастам і заверана сельсавецкай пячаткай. Фашысты яшчэ не нарабілі сваіх пячатак і абыходзіліся сельсавецкімі. Афіцэр пакруціў даведку ў руках, даў пачытаць перакладчыку і нарэшце выгукнуў:

— Сведкі!

Дзе ж тыя сведкі? Алена прачыніла дзверы на двор і пазвала:

— Лукер'я, Хрысціна, ідзіце бо, таечкі, сюды, скажыце, што гэта мой чалавек.

Увайшлі дзве маладыя жанчыны. Яшчэ з парога адна з іх забалабоніла:

— Дык гэта бо во і не верань, што ён твой чалавек. Дык мы ж прысягаем. Мы ж яшчэ летась на вяселлі ў іх гулялі, яшчэ спаць клалі на першую ноч.

Афіцэр падсунуў жанчынам паперкі, яны, не чытаючы, падпісалі. Потым падпісала Алена, а мне афіцэр падаў большы аркуш. На ім нямецкай і рускай мовамі было напісана, што я абавязваюся не пакідаць без дазволу нямецкіх улад сваю Слабаду, выконваць усе загады і распараджэнні нямецкага камандавання, раз на месяц з'яўляцца да каменданта на рэгістрацыю. Калі ж парушу гэтыя правілы і западозраць мяне ў сувязях з партызанамі ці з якімі-небудзь іншымі антынямецкімі элементамі, дык буду расстраляны не толькі я, а і ўвесь мой і жончын род, усе сваякі і блізкія. Я падпісаў гэтае абавязацельства.

Ад лагера адыходзілі моўчкі. Алена трымала мяне пад руку, быццам хочучы паказаць салдатам-вартавым, як яна мяне кахае, як яна рада, што знайшла свайго суджанага. Выйшлі на гарадскую вуліцу, на дашчаны тратуар. Ногі мае ці то ад слабасці, ці то ад узрушэння падломліваліся. Я ніяк не мог ачомацца, зразумець, што гэта дзеецца. Жанчыны, што сведчылі перад афіцэрам, запаволілі крок і адсталі, як бы хочучы даць нам магчымасць астацца з вока на вока.

— Хто вы такая? — трывожна дапытваўся я.

— Вы ж ведаеце: ваша жонка Алена Цімлякова з вёскі Слабада.

— Не жартуйце! Хто вы такая? Для чаго гэта ўсё вы зрабілі?

— Потым даведаецеся.

Праз увесь горад мы шлі, падазрона паглядаючы адно на аднаго. Горш для чалавека не можа быць, як няпэўнасць, невядомасць. На вуліцы колькі разоў нас запынялі нямецкія патрулі, і мы паказвалі выдадзеныя нам прапускі. Яны чыталі іх і чамусьці кожны раз усміхаліся не так мне, як Алене. Пры выхадзе з горада на кантрольным пасту не толькі праверылі дакументы, але і абшукалі кішэні. Начальнік паста доўга ўглядаўся ў прапускі.

— Нах Слабод?

— Так, так, Слабада,— адказвала Алена.— Знайшла свайго мужыка ў палоне, дык вяду дадому.

Начальнік дастаў з планшэткі палявую карту, разаслаў яе і праверыў, ці ёсць тут блізка вёска Слабада. Ён тыцнуў пальцам.

— Нах Слабод?

— Так, так, Слабада! — адказаў ужо я.

— Аўфвідэрзейн,— памахаў на дарогу рукой немец.

Як толькі мы выйшлі з горада, Алена неяк пасуровела і ўжо не як жонка, а быццам следчы на допыце запытала:

— Хто вы такі?

Па самым тоне яе запытання я зразумеў, што трэба адказваць праўду, і пачаў расказваць, хто я, адкуль, як трапіў у палон. Алена слухала, уздыхаючы і спагадаючы.

— А чаму вы іменна мяне выбралі? — дапытваўся я.

— Я паглядзела на вас, і мне здалося, што вы добры чалавек.

— Як жа вы не збаяліся смерці? — запытаў я, калі Алена расказала мне пра тое, як фашысты raструбілі па радыё, у газетах, развесілі на тэлеграфных слупах і парканах абвесткі, што яны, як пераможцы, велікадушна могуць дараваць волю палонным, у якіх знойдуцца сваякі і якія больш ніколі не возьмуць у рукі зброі супраць нямецкай арміі.

— Калі на вайне баяцца смерці, дык трэба падымаць рукі і здавацца ворагу. А мы, савецкія людзі, не збіраемся здавацца. Я камсамолка і лічу сваім найпершым абавязкам змагацца з ворагам,— крыху патэтычна казала дзяўчына.

— Вас жа маглі расстраляць, калі б толькі выявілі, хто вы.

З захаду ўжо насоўвалася шэрае асенняе змярканне, а мы ўсё ішлі і ішлі, і, галоўнае, я не ведаў, куды мы ідзём.

— Далёка яшчэ тая Слабада? — спытаў я.

— Якая Слабада?

— Ну тая, з якой вы.

— Слабаду мы мінулі ўжо. Яна асталася ўбаку. Мы пойдзем далей.

Неўзабаве з бітай дарогі сышлі на вузкую лясную прасеку, на якой ледзь толькі відпеліся каляіны. Над галовамі ўжо нават неба не было відаць: яго закрывалі вяршаліны дрэў.

— Хто вы такая? — зноў устрывожана дапытваюся я.

— Ва ўсякім разе, не Алена Цімлякова, гэтак жа, як вы не Макар Цімлякоў. А Тамара Шкарубская і вяду вас туды, куды трэба.

— А я Макар Шыянок,— узрадавана сказаў я, бо на гэты раз паверыў у шчырасць і праўдзівасць таго, што казала мая збавіцелька.

— От неўзабаве і дом наш будзе,— сказала Тамара.

І сапраўды крокаў праз якіх сотні паўтары мы выйшлі на палянку, на якой, нібы тулячыся да лесу, стаяў велікаваты, з трысценам, драўляны дом. Ужо добра было прымеркла, але ў вокнах агню не відаць. Мабыць, яны былі завешаны для маскіроўкі. Як толькі мы падышлі бліжэй, з-пад ганка бомкнуў раз-другі сабачы бас, і, шчэмячыся праз дзірку, вылез трохі аблезлы стары сабака. Угледзеўшы нас, ён зайшоўся брэхам. Кідаўся на нас, напінаючы ланцуг. На сабачы брэх з хаты выйшаў чалавек у пінжаку з саматканага сукна, накінутым наапашкі.

— Хто там? — спытаў чалавек.

— Гэта я, дзядзька Даніла,— адказала Тамара.— Чалавека тут прывяла.

Той, каго Тамара назвала дзядзькам Данілам, цыкнуў на сабаку і прапусціў нас паўз сябе ў дзверы.

— Праходзьце, праходзьце, калі ласка.

Хата сенцамі дзялілася на дзве палавіны, і ў той, у якую мы зайшлі, было светла. На вокнах віселі дзяругі. Апроч дзядзькі Данілы, у хаце нікога не відно было. Палаці ад самай сцяны да печы былі завешаны ўзорыстымі посцілкамі, якія соваліся па дроце. Гаспадар стаў узбоч ля посцілкі і падазрона зірнуў на мяне, аж жмурыў вочы. Пад пінжаком у яго, мабыць, была нейкая зброя, бо правае крысо адтапырвалася.

— Хто такі будзеце? — спытаў дзядзька Даніла.

— Я Макар Шыянок, былы чырвонаармеец,— адказаў я.

— А па чым гэта відна? Дзе ты яго ўзяла? — звярнуўся гаспадар да дзяўчыны.

— Ды гэта ж з тых палонных, што немцы аддавалі.

— А ты хоць ведаеш, каго яны табе аддалі? Можа, якога здрадніка. Есці, пэўне, хочаш? — спытаў у мяне гаспадар.— Там жа, мабыць, ласункаў не давалі.

Я не ведаў, што адказаць гаспадару. Прызнавацца, што я галодны, не хацелася. Я толькі балюча перасмыкнуў тварам і аблізаў сасмяглыя губы. Гаспадар, мабыць, здагадаўся, што я дужа галодны, бо адразу крыкнуў на печ:

— Ганна! Ганна! Устань бо, пашукай там чаго перакусіць чалавеку.

На чарэні печы нешта заварушылася і высунулася распатланая жаночая галава.

— Дык сам ты пашукай.

Гаспадар паказаў мне вачыма: маўляў, сядай за стол. А я стаяў, збянтэжаны, разгублены. Тамара заўважыла маю разгубленасць і сказала:

— Сядзьце, таварыш Шыянок, падсілкуйцеся трохі.

І гэтае «таварыш», вымаўленае неяк ласкава, вярнула мне адчуванне таго, што я ўсё-такі чалавек. Я страпянуўся, як тая птушка, якую вынялі з вады і яна ніяк не магла падняць ацяжэлых крыл, і для таго, каб падняць іх, ёй абавязкова трэба было добра страпянуцца і стрэсці кроплі.

Гаспадыня ўсё-такі злезла з печы, бразнула засланкай і выцягнула пузаты паліваны гарлачык, на якім трошкі прыгарэла жоўтая плеўка. Зірнула на мяне і паставіла гарлачык на стол. З паліцы прынесла кубак.

— Сядай, сядай, чалавеча,— запрашаў гаспадар.

— Можа б, і ты, галубка, падсілкавалася? — звярнуўся гаспадар да Тамары.

— Дзякую. Няхай хоць таварыш пад'есць. Ён даўно ўжо смачна не еў.

Я падсілкаваўся, падзякаваў гаспадарам і вылез з-за стала. У сенцах нешта загрукала. Ляпнула клямка дзвярэй, і ў хату ўвайшлі тры чалавекі з нямецкімі аўтаматамі. На адным чалавеку была вайсковая суконная гімнасцёрка, такое ж галіфэ-брыджы, запраўленае ў хромавыя боты з вузкімі халяўкамі. Чалавек быў дагледжаны, чыста вымыты і паголены. На шапцы-фуражцы таго ж самага колеру, што і гімнасцёрка, паблісквала пяціканцовая

зорка. Апроч аўтамата на плячы, у чалавека яшчэ вісеў нямецкі пісталет. Я зірнуў на ўвайшоўшых і ўстаў па камандзе «смірна».

А чалавек з нямецкім пісталетам еў мяне вачыма.

— Ну што, грамадзянін харошы, падсілкаваўся трохі? — пытаў ён.

— Дзякаваць гаспадару і гаспадыні, падсілкаваўся.

— Ну, то што ж, цяпер пагаворым,— і чалавек кіўнуў прысутным, і яны выйшлі, за выключэннем аднаго, таксама ў вайсковай форме.— Таварыш Кульбіцкі, пагаварыце з ім, гэта па вашай спецыяльнасці.

— Давайце будзем гаварыць адкрыта, таварыш харошы,— прапанаваў мне той, каго назвалі Кульбіцкім.— Скажыце, дзе, калі і хто вас завербаваў?

— Куды?

— У шпіёны.

— У якія шпіёны?

— Вам відней у якія. Толькі вы не выкручвайцеся. Гаварыце ўсё адкрыта.

— Ніхто мяне нікуды не вербаваў,— запратэставаў я.— Я савецкі чалавек.

— Які ж вы савецкі чалавек, калі ў палон здаліся? Дзе вашы дакументы? Чаму іменна вас немцы так лёгка аддалі з палону?

Кульбіцкі мне столькі задаў пытанняў, што я на іх ніяк не мог адказаць, тым больш даказаць, што я не той, за каго ён мяне лічыць. Замест канкрэтнага адказу пачаў расказваць дзе я быў і што рабіў з першага дня вайны.

— А чаму вы не пусцілі сабе кулю ў лоб? — ва ўпор спытаў у мяне Кульбіцкі.— Мне здаецца, што сапраўдны патрыёт павінен хутчэй смерць прыняць, чым здацца ворагу.

Я пачаў тлумачыць, што кантужаны, беспрытомны чалавек ніяк не можа падняць руку на сябе, бо ён па сутнасці мярцвяк.

— Не ведаю, каму б гэта трэба было. Я лічу, што чалавек, пакуль ён жывы, пакуль у яго б'ецца сэрца, павінен змагацца з ворагам, шукаць формы і метады барацьбы.

— Дык вы, значыцца, грамадзянін, шукалі гэтых формаў і метадаў у палоне?

— Я ўсё роўна б уцёк.

— Хацелася б верыць, але цяжка. А ці не здаецца вам,

што гэтая правакацыя з выдачай палонных задумана немцамі як хітры ход, каб закінуць да нас сваіх шпіёнаў?

— Не ведаю, можа, і так.

— От бачыце. Можа, і так, кажаце. Я таксама думаю, што гэта так. А чым мы гарантаваны, што вы не адзін з тых, каго немцы такім спосабам хацелі закінуць да нас.

Я не ведаў, што і адказаць: сапраўды, логіка барацьбы дыктуе так і не інакш.

— Што загадаеце, тое буду рабіць. На самыя цяжкія рызыкоўныя заданні пасылайце мяне, толькі дайце магчымасць мне змагацца з фашыстамі,— стараўся я пераканаць Кульбіцкага.

— Ну што ж, час і жыццё пакажуць. Ваша версія аб тым, як вы трапілі ў палон, падобна трохі на праўду, і нам хацелася б ёй верыць.

— А дзе ваша сем'я? — папытаў ужо чалавек, які дагэтуль маўчаў.

— Хто яго ведае, можа, загінула дзе. Ніякіх вестак не маю.

— Дык от,— пасля некаторага роздуму сказаў ён.— Мы залічым вас у сваю партызанскую сям'ю, тым больш што я вас трошкі ведаю па тым, што вы пісалі ў газетах. Толькі глядзіце, таварыш Шыянок, калі што не так, дык будзеце наракаць на сябе.

— Рад буду служыць Савецкаму Саюзу,— выцягнуўшыся ў струнку, як перад строем, выгукнуў я.

За дзвярыма, мабыць, пачулі, што допыт скончыўся, бо адразу ж найшла поўная хата партызан. Аказалася, што тут былі не толькі тыя два, якіх папрасіў выйсці камандзір, як пачыналі мяне дапытваць. У другой палавіне хаты было чалавек з дваццаць узброеных мужчын. Яны заходзілі і кідалі на мяне вачыма, як бы кожны хацеў заўважыць тое, чаго не ўгледзеў Кульбіцкі.

— У які ўзвод залічым? — спытаў віхрасты рухавы хлопец.

— Пакуль ні ў які. Пабудзе пры мне. Чалавек ён адукаваны, а нам такія патрэбны. Толькі от абмундзіроўка ў вас неважнецкая,— агледзеўшы мяне з ног да галавы, сказаў камандзір.— Даніла, трэба знайсці, у што таварыша апрануць.

— Ёсць, таварыш камандзір!

— А вы, таварыш Шыянок, памыйцеся, пагаліцеся, адпачніце, каб мне чалавекам выглядалі.

— Ёсць, таварыш камандзір!

— А там жыццё далей пакажа, што і як будзем рабіць.

Гэтае «жыццё пакажа» я зразумеў як нешта таямніча загадкавае. Значыць, яшчэ не ўсё са мною, значыць, і камандзір яшчэ мае нешта да мяне?

## ХТО Ж ЁН, ГЭТЫ КУКСЁНАК?

У нашым партызанскім быцці паступова жыццё ўваходзіла ў пэўнае рэчышча. На першым часе атрад Лук'янчыка быў як бы саматужны, ніхто, можа, нават і сам камандзір, не ведаў, што і як рабіць. Калі на першым часе налёты на чыгунку, на шасэйкі, на асобныя невялікія калоны нямецкіх аўтамашын былі як выбухі народнага гневу, як нейкая неўтаймаваная стыхія, дык за зіму ўсё набыло свае формы і метады. У атрад ішлі і ішлі новыя і новыя людзі: вайсковыя, што выходзілі з акружэнняў, рабочыя, сяляне, і атрад наш гэтак разросся, што трэба было мяняць не толькі арганізацыйныя формы, але і метады барацьбы. Амаль кожны дзень хадзілі мы на раздабыткі правіянту, колькі разоў я быў у ахове, хадзіў на разгром гарнізона ў Клецішчах. А цяпер камандзір нешта забраў мяне з сабою і от як бы і занятку мне не знаходзіць.

Тая зіма была лютая. На марозе дрэвы, здаецца, аж лопаліся, асабліва ўначы. Наша партызанскае адзенне, асабліва маё — Даніла, праўда, расстараўся мне нейкі кажушок,— было не для такое зімы. Кажушок, апранены на старую ватоўку, якую мне дала тады ў леснічоўцы гаспадыня, трошкі і грэў грудзіну. Але ніжэй кажушка былі летнія салдацкія нагавіцы і кірзавыя стаптаныя боты. Я глядзеў на хлопцаў-партызан, і мне здавалася, што яны нават не адчувалі марозу. Шчокі іх наліваліся чырванню і, быццам падпаленыя нутраным агнём, гарэлі. У мяне ж, як толькі выходзіў на мароз, рукі і ногі нямелі. Мабыць, арганізм мой быў вельмі аслабелы.

Камандзір атрада Пятро Максімавіч Лук'янчык, той самы чалавек з нямецкім пісталетам, нягледзячы на сваю з выгляду суровасць, меў добрую душу. Ці то ад таго, што ён мне спагадаў і хацеў, каб я паправіўся, ці з-за чаго іншага ён мяне не пасылаў на цяжкія заданні. Колькі разоў я прасіўся ўжо на чыгунку ці ў разведку, але ён мне кожны раз адказваў:

— Ты пасядзі яшчэ, Макар Васільевіч. Мы і для цябе адпаведную работу знойдзем.

Лук'янчык пасяліў мяне па суседству са сваёй зямлянкай. У атрадзе не адзін я быў з тых, хто пакаштаваў гітлераўскага палону, але ж тыя даўно ўжо ходзяць на заданні, нават некаторыя былі ўжо ў баях. У зямлянцы мы жылі ўчатырох: Васіль Галадушка, былы сакратар райкома камсамола, Алесь Сініцкі, былы студэнт настаўніцкага інстытута, і Гардзей Дарашчук, былы рабочы фанерна-запалкавага камбіната. Хлопцы маладыя, усе камсамольцы, смелыя, адважныя. Гэта была разведка атрада. За час, які я жыў з хлопцамі, мы ўжо ўсё перагаварылі, усё ўспомнілі і, здаецца, сталі такімі блізкімі, якімі толькі могуць быць родныя браты. Хлопцы часта некуды хадзілі, а вярнуўшыся, расказвалі такія гісторыі, якім і паверыць наўрад ці льга было. Але вось аднаго разу не вярнуўся з задання Гардзей Дарашчук. У вялікім сяле Крушынавічы, у якое хлопцы хадзілі разведаць, што там за гарнізон, наткнуліся на паліцэйскую засаду, і ў перастрэлцы загінуў Дарашчук.

Вярнуўшыся з разведкі, Галадушка і Сініцкі далажылі Лук'янчыку, як загінуў Дарашчук. Ён скінуў шапку, з момант пастаяў у зняменні, а потым як бы нежывымі вуснамі вымавіў:

— Вечная слава герою-камсамольцу. Мы ніколі гэтага не забудзем. Мы адпомсцім ворагу.

Цяпер я спадзяваўся, што ўвайду ў групу разведчыкаў. Мы нават ужо дамовіліся паміж сабою, каб я пайшоў да Лук'янчыка прасіцца ў разведчыкі, хлопцы, калі патрэбна будзе, падтрымаюць просьбу. Падпільнаваўшы, калі камандзір быў адзін у зямлянцы, я і далажыў яму, што прыбыў па загаду свайго ўласнага сэрца прасіцца ў разведчыкі.

Лук'янчык зірнуў так, быццам ён бачыў мяне ўпершыню, памаўчаў, а потым, падстаўляючы кругляк, сказаў:

— Сядай, хлопча.

Я сеў. Камандзір абышоў вакол кругляка, нібы ён хацеў працяць позіркам мяне навылёт, зазірнуў пільна ў вочы, як бы хацеў у іх што прачытаць, і сказаў:

— А ведаеш, хлопча, не пашлю я цябе ў разведку.

— Чаму? — ускочыў я з кругляка.— Не давяраеце! Падазраяце!

На маім твары, мабыць, былі адлюстраваны адчай, крыўда, роспач.

— От бачыш, хіба ж з такімі нервамі можна ў развед-

ку? Туды трэба пасылаць людзей з жалезнымі нервамі, а ў цябе яны разладжаныя і ім нядоўга парвацца.

Не ведаю, што мяне больш за ўсё ўзрушыла: ці самі словы камандзіра, ці той спакой, з якім яны былі сказаны.

— Значыць, не давяраеце! Значыць, думаеце, што я вораг!

— Дзівак чалавек,— яшчэ спакайней сказаў камандзір,— калі б мы думалі, што ты вораг, дык і месца б табе знайшлі там, дзе ўсім ворагам знаходзім. Ты не кіпі, як той самавар. Трэба заўсёды на рэчы глядзець спакойна, валодаць сабою, асабліва калі ты хочаш стаць разведчыкам.

— Хачу! — выгукнуў я, падумаўшы што камандзір згадзіўся ўжо на маю прапанову.

— Не, братка ты мой, у разведчыкі я цябе не пашлю. У мяне для цябе знойдзецца работка. І давай на гэтым паставім кропку.

Я зразумеў, што камандзір не мае намеру больш размаўляць.

— Дазвольце ісці! — стукнуў я абцасамі па-салдацку.

— Ідзіце!

У дзвярах зямлянкі мяне ледзь не збіла з ног Тамара Шкарубская. Яна нечым была ўсхвалявана. Прыгожы смуглявы твар яе аж перасмыкаўся.

— Тамара, што з вамі?

— Нічога! — адказала яна са злосцю, быццам я ў чым быў вінаваты перад ёю.

У нашай зямлянцы апроч мяне, Галадушкі і Сініцкага паявіўся яшчэ адзін чалавек. Ён быў большага веку за хлопцаў і нават за мяне. Гэтага чалавека бачыў я ўпершыню. Твар яго маршчакаваты, непаголены, і мо праз гэта чалавек меў нейкі несамавіты выгляд. Позіркам ён, здавалася, баяўся сустрэцца са мною. Хлопцы заўважылі маю ніякаватасць, і Васіль Галадушка пастараўся вывесці мяне з яе.

— Знаёмся, Макар, гэта наш новы таварыш Куксёнак. А што табе начальства сказала?

— Сказала, каб я і не рыпаўся. Быццам для мяне нейкі іншы занятак мае.

— Дык гэта цябе, таварыш Куксёнак, такі замест Гардзея Дарашчука прыслалі,— звярнуўся да новага Галадушка.— Хлопец быў правільны, смелы, адважны,— выказаў ён сваю думку пра нябожчыка, быццам тым самым хочучы сказаць, што ні я, ні гэты Куксёнак не заменім нябожчыка.

— Другі такі смелы наўрад ці знойдзецца,— падтрымаў Галадушку Сініцкі.

— А я не ведаю, ці мяне замест яго прыслалі, ці як,— загаварыў Куксёнак.— Кульбіцкі загадаў перайсці жыць у вашу зямлянку, і я перайшоў.

Галадушка з Сініцкім часта на цэлыя дні, а то і на ночы некуды сыходзілі, і ў зямлянцы мы аставаліся ўдвух з Куксёнкам.

— Навошта нас гэтак трымаюць, як на адкорме? — пытаў я.

— Начальству відней, у яго свае планы. А ты сядзі, куды табе спяшацца. Яшчэ паспеем памерці.

— Чаму памерці? — здзівіўся я.

— Дзе вайна, там і смерць, хіба ж гэта невядома. А ты ж ужо, мабыць, быў у яе лапах?

— Калі, дзе?

— Ну, а там, у палоне. Хіба ж то не смерць?

І мне давялося расказаць усё да самых драбніц. Куксёнак слухаў, стараючыся не прапусціць ніводнага слова. Смутак і спагада, здаецца, леглі на яго маршчакаваты твар. Куксёнак абвёў вачыма зямлянку, быццам правяраючы, ці няма ў ёй каго чужога, і амаль шэптам сказаў мне:

— А яно тым часам, можа, і лепш нам перасядзець тут, у зямлянцы, не канечне рвацца туды, дзе смерць.

— Як гэта — перасядзець? — не зразумеў я.

— А так... У зацішку, не падстаўляючы галавы.

— Што вы кажаце! — абурыўся я.— Як гэта — перасядзець?

— А так...

Я гнеўна зірнуў на Куксёнка, і мне на момант здалося, што перада мною Марыніч. Гэта яго словы, яго думкі. Але той выказваў іх тады, калі мы былі ўжо ў немцаў. А гэты ж тут пляце. Хто ён, гэты Куксёнак?

— Ведаеце, таварыш Куксёнак, што за такія размовы вас па галоўцы не пагладзяць.

— Макар Васільевіч,— штучна залямантаваў Куксёнак,— я ж табе начыстату, як чалавек чалавеку.

Не ведаю, чым бы скончылася наша размова, калі б не вярнуліся хлопцы. Яны ўвайшлі ў зямлянку стомленыя, ледзьве жывыя, прынеслі з сабою марозную свежасць. Я адразу кінуўся распальваць нашу «буржуйку», змайстраваную з нямецкай бензінавай бочкі, грэць чай, каб гарачым хлопцы адхаялі сябе хоць крыху ад марозу.

— От, браточкі, трапілася нам сёння,— аддыхаўшыся, расказваў Галадушка.— Прыйшлі мы ў Велікасельцы. Там у нас свой чалавек быў. Мы гародамі і ў двор. Падышлі пад сенцы, аж чуем — у хаце калатнеча нейкая. Мы назад. Але ж, гады, паліцаі, заўважылі. Добра, што мы, пакуль яны агледзеліся, выскачылі за хлявы.

— Відаць, праваліўся наш дзядзька Прахор,— выказаў сваё меркаванне Сініцкі.— Шкада. Надзейны чалавек быў.

— А як жа вы выратаваліся? — устрывожана дапытваўся я, забыўшыся нават на тую гаворку, якая адбылася перад гэтым з Куксёнкам.

— За хлявы выбеглі. А там і да лесу рукой падаць. А паліцаі ваякі такія, што ў лес баяцца і нос паткнуць. Пастралялі трохі з двара, і на тым скончылася.

Я глядзеў на хлопцаў і працінаўся да іх яшчэ большай павагай, нават зайздросціў ім. Куксёнак слухаў іх, не выказваючы ніякіх пачуццяў.

— Хлопцы, гляджу я на вас — і завідкі бяруць.

— Чаго?

— А таго, што вы маеце такую справу. А я сяджу, як той стары чарвівы падасінавік.

— А чаго цябе тыя завідкі бяруць? — умяшаўся нарэшце Куксёнак.— Камандзір ведае, што робіць.

Хлопцы пілі гарачы вар з сухарамі, бо цукар рэдка калі трапляўся нам і заўсёды быў як ласунак.

— Цяпер бы грамаў трыста прапусціць з холаду, можа, і адагрэўся б, а то вада нават запруды ломіць,— выказаў Алесь Сініцкі.

— А вы пачакайце, хлопцы, я расстараюся,— падмеўся Куксёнак.

Ва ўсіх яго рухах адчувалася жвавасць, і з зямлянкі ён вылецеў, нібы вецер.

— Што ён за чалавек? — папытаў я ў Галадушкі, калі Куксёнак выбег з зямлянкі.

— Хто яго ведае. Нейкі прыдурак. Аціраецца каля начальства. Смяяліся, што ён боты чысціў Кульбіцкаму, а цяпер мо камандзір захацеў, каб яму глянцаваў.

Куксёнак нядоўга забавіўся. Ён паставіў перад хлопцамі дзве трохчацвяртныя чорныя бутэлькі, паклаў ладны кавалак прасоленага са скуркай сала.

— Дзе гэта ты ўзяў? — узрадавана спытаў Сініцкі.

— Там, дзе я ўзяў, вы, хлопцы, не возьмеце. У мяне старыя сувязі.

— А ўсё-такі? — дапытваўся ўжо Галадушка.

— Хіба вам не ўсё роўна, абы ўзяў,— казаў так, быццам хацеў набіць сабе цану, Куксёнак.— Гэта доўгая песня, калі вам усё па парадку расказваць. Давайце лепш вып'ем.

Пілі па чарзе, бо ў зямлянцы быў усяго адзін кубак. Першы глынуў Сініцкі, і дых заняло ў яго.

— Ох жа і мацунак! Ох жа і мацунак! — выдыхнуў ён.— Мабыць, перагон, не іначай. Дзе ты толькі такога дапаў?

— Піце, піце, потым хваліць будзеце,— наліваючы кубак, казаў Куксёнак.

Захлынуўся ўжо і Васіль Галадушка.

— Такі мацунак, што аж у горле перасядае,— хваліў ён.— З холаду гэта як госпад-спасіцель.

Падышла і мая чарга. Я пачаў аднеквацца: маўляў, хлопцы, вы піце, вы ж з холаду. Зноў жа такі арганізм мой знясілены, і калі я столькі вып'ю, то саўюся. Але ад Куксёнка нельга было ніяк адкараскацца.

— Пі, пі! — настойліва прапаноўваў ён.— Што з цябе за партызан будзе, калі ты гарэлкі не ўмееш піць. Гэта, братка, не толькі для таго, каб сагрэцца, але і для смеласці. Іншы раз цвярозы чалавек нізавошта не пойдзе на рызыку, а выпіўшы, ён табе на скрут галавы пойдзе. Так што ў нашых умовах і гарэлка саюзнік.

— Пі, пі, Шыянок, другі раз наўрад ці трапіцца,— насядалі ўжо хлопцы на мяне.

Я мусіў выпіць амаль поўны кубак.

Гарэлка сапраўды была такая моцная, што як агнём паліла нутро.

— Дзе ты ўсё-такі дапаў яе? — дапытваўся Сініцкі.— Мо і нам калі давядзецца там быць, дык каб мы адрас ведалі.

— Я, браточкі мае, тут ва ўсёй гэтай акрузе ўсё ведаю. Ведаю нават, у каго на патэльні сала скварыцца, а ў каго ў гаршку трасца варыцца,— пахваляўся п'янаваты Куксёнак.— От вы ж, напрыклад, дзядзьку Яўсея з Дабралеса не ведаеце?

— Не ведаем,— адказалі хлопцы.

— А я знаюся з ім. Каб вы ведалі, што гэта за чалавек. Хоць прозвішча ў яго Самасейка, але рукі такія, што кажуць, каб яму дазволілі, дык ён бы жывога чалавека імі зрабіў.

— Дык навошта таго жывога чалавека рукамі рабіць,— зарагатаў Сініцкі.

— Гэта так толькі гаворыцца,— адказаў на жарт Сініцкага Куксёнак.— Адным словам, гэты Яўсей Самасейка такі, што яго ўся акруга, нават у Маскве да вайны ведалі. Яшчэ калісь змоладу ён адрэзаў ладны ліпавы кругляк і доўга-доўга майстраваў, зачыніўшыся ў адрыне. А потым неяк на змярканні Яўсей паставіў той свой майструнак пасярод двара. Бацька з хаты выйшаў, зірнуў прыслепаватымі вачыма і пытае:

— Яўсей, чаго гэта адзін маркаль прыплёўся з пашы, а дзе астатнія авечкі?

— Хто іх ведае, яшчэ не прыйшлі,— адказаў з усмешкай Яўсей.

Стары хацеў загнаць барана ў хлеў. Падышоў да яго, замахнуўся:

— Брысь у хлеў, каб ты выдах.

А баран стаіць сабе і вухам не вядзе. Стары падышоў да барана, хацеў узяць за воўну і павесці ў хлеў, але не паспеў дакрануцца рукою, як адхапіў яе, быццам дакрануўся да чаго вельмі гарачага.

— Чаго гэта ён скамянеў, што за праява? — не на жарт спалохаўся быў Яўсееў бацька.

— Тата, хіба вы не бачыце, гэта ж той баран, што я зрабіў з ліпавага кругляка,— сказаў Яўсей.

— Ай, грахаводнік ты! — дакараў бацька Яўсея, нават не вельмі здзіўляючыся, бо стары ведаў здатныя рукі сына.

— Дык няўжо ён быў такі падобны на жывога барана, што стары не пазнаў? — пытаў Галадушка, мабыць, думаючы, што Куксёнак вельмі складна хлусіць.

— Не дзіва, што стары не пазнаў. Ён трохі прыслепаваты быў. А каб вы пабачылі, што ў яго хаце дзеецца. Навыштукоўваў з дрэва птушак, звяроў, жывёл і нават людзей. Адным словам, майстар такі, што нават Масква пра яго ведае. Тое, што ён выразаў з дрэва, куплялі ў яго на выстаўкі розныя. От, браточкі, які гэты дабралескі Яўсей Самасейка. Я з ім яшчэ да вайны быў знаёмы. А цяпер, брат, ён самагонку такую гоніць, што закачайся. От гэта ж мы і п'ём яго прадукцыю. На тым тыдні быў у яго, ён наліў мне пляшак з чатыры. Падымем жа за яго здароўе.

— Здатны, відаць, чалавек, гэты твой Яўсей, калі ён усё так добра робіць, як гэтую самагонку.

— Гэта ж яшчэ і не пяршак, а, мабыць, трэцяя пляш-

ка,— хваліў Яўсея Куксёнак.— Кульбіцкі заўсёды мяне пасылаў да старога па самагонку, і я часцяком наведваўся ў Дабралес.

Я слухаў Куксёнка і не мог ніяк зразумець ягоных паводзін. А можа, ён падрабляецца, можа, строіць з сябе прастачка? Можа, ён прыкідваецца, што і сп'янеў дужа? Хлопцы вунь пап'янелі, дык спяць, аж пахропваюць. А ён усё каля мяне круціцца, усё пытае ды дапытваецца, што я рабіў да вайны, адкуль я родам. Калі я сказаў, што з Рагазіна, ён аж узрадаваўся:

— Я ж зямляк твой. Глухінічы ведаеш?

— Чаму ж не ведаю?

— Дык я ж адтуль. Праўда, ужо даўно не жыву там; як стаў на ногі, дык і падаўся на свой хлеб.

Я стараўся адагнаць, выкінуць з галавы ўсялякія падазрэнні: навошта мне пра чалавека блага думаць? Можа, ён, і добры, можа, у яго проста натура такая?

Але чаму ж да Галадушкі і Сініцкага няма ў мяне ніякай падазронасці. Мне здаецца, што яны са сваімі думкамі і намерамі відны як на далоні. Гэта сапраўдныя камсамольцы, сапраўдныя партызаны, якія і на небяспечнае, часам рызыкоўнае заданне ідуць, як некалі да вайны хадзілі на работу. Чаму толькі Лук'янчык не дазваляе мне з імі хадзіць? Што там такое іншае для мяне мае ён на прыкмеце?

Хлопцы спяць смачна, сном глыбокім. Мабыць, хмель ад Самасейкавай самагонкі ўвагнаў іх у такі сон. Чаму ён не зваліць і гэтага Куксёнка? Ён нешта гаворыць і гаворыць. Я чую пятае праз дзесятае, але не перабіваю. Няхай чалавек выгаварыцца!

Потым прыходзіць думка. Калі ў мяне пойдзе ўсё ладам, трэба будзе папрасіць Лук'янчыка, каб ён памог мне даведацца што-кольвек пра сям'ю. Другія ж партызаны ведаюць пра свае сем'і. А каторыя дык нават пазабіралі ў лес. Потым, нават сам не ведаю чаму, убіваецца думка пра гэтага Самасейку. Шкада, што да вайны я нічога не ведаў пра яго. Гэта ж які б нарыс можна было напісаць пра таленавітага чалавека, народнага самародка. А колькі такіх у нашым народзе, як Яўген Самасейка! Яны мо і самі не ведаюць сваёй таленавітасці.

Куксёнак смешкі строіць з Яўсеева барана. А то мо сапраўдны твор мастацтва, а сам Яўсей не штукар, а сапраўдны талент, якому трэба памагчы зразумець, хто ён такі ёсць і на што здатны яго залатыя рукі, яго па-народ-

наму мудры розум. Я сабе прыкідваю: калі скончыцца вайна, ды я астануся жывы, ды выжыве гэты самы Самасейка, то абавязкова з'езджу да яго і напішу такі нарыс, каб людзі прачыталі і здзівіліся, што сярод іх, побач з імі такі талент. Талент чалавека заўсёды мае патрэбу ў адкрыцці, бо не адкрыты і не ўспешчаны людскою ўвагаю, ён можа астацца толькі штукарствам, з якога людзі будуць добразычліва сабе пасміхацца, гэтак і не зразумеўшы, што ён за чалавек.

Нарэшце такі заснуў, знямогшыся, і Куксёнак. Гэтак на паўслове і заснуў, седзячы на кругляку. Я яго раскатурхаў, і ён лёг на палок.

На добры лад і я мог бы так, як хлопцы, заснуць. Куксёнак не шкадаваў мне Яўсеевай гарэлкі, наадварот, настойваў, каб я добра выпіў. Але я выпіў толькі на першым заходзе, а на другім, калі Куксёнак паднёс мне поўную як вока шклянку, я неўпрыкмет выліў гарэлку ў кацялок.

Можа, хмель мяне падагнаў, і я пайшоў да камандзіра з намерам расказаць пра ўвесь свой клопат. Няхай што хоча, тое і робіць са мною. Толькі я больш не магу трываць такое няпэўнасці. Няхай пасылае мяне на баявыя заданні, калі не хоча пасылаць у разведку. Няхай дае самае цяжкае заданне, я на ўсё гатовы.

Хуценька апранаюся, бягу да камандзіравай зямлянкі. З рашучасцю адчыняю дзверы. За самаробным столікам, на якім звычайна Лук'янчык разгортвае карты, сядзіць заплаканая Тамара Шкарубская. Твар яе поўны смутку і нейкай рашучасці.

— Тамара, што вы тут робіце? — нават не павітаўшыся, пытаю я.— Дзе камандзір?

— Не ведаю,— спакойна адказвае яна.— А вы чаго прыбеглі?

— Мне-то ёсць чаго. А вы от чаго, як маленькая, румзікі папусцілі?

— Каб не было чаго, дык не папусціла б.

— Там вунь якая смелая, адважная былі,— намякнуў я Тамары на тое, як яна вызваліла мяне з палону.— А тут хіба што цяжэйшае, хіба што больш небяспечнае? Хто вас пакрыўдзіў?

— Ат, вам хіба не ўсё роўна,— махнула рукою Тамара,— у гэтай справе вы мне не дарадчык, не памагаты. Я, можа, як і сама спраўлюся. Ды от начальства паможа.

Шкарубская страпянулася, сагнала з прыгожых вачэй тую заплаканасць, якую я ўгледзеў, як толькі зайшоў

у зямлянку. На смуглявы твар узбегла светлая ўсмешка, і дзяўчына нібы ўся засвяцілася нейкім нутраным святлом. Глыбокія Тамарыны вочы дапытліва зірнулі на мяне, і я пачуў:

— Макар Васільевіч, а вы ж мой муж. Я гэта магу даказаць дакументальна.

— Я не супраць. Такую, як вы, кожны захоча мець за жонку,— адказаў я жартам на жарт.

— Хоць мы і не рэгістравалі свайго шлюбу ў загсе, але ўвесь белы свет ведае, што мы з вамі мужык і жонка.

Я ўсё яшчэ не разумеў, што гаворыць Тамара. Адкуль той увесь белы свет ведае? Там, у лагеры, калі мяне Шкарубская забірала як мужыка, была якая паўсотня жанчыны палонныя. Дык гэта ж не ўвесь белы свет.

— А вы не верыце, што ўвесь белы свет? Дык наце во, паглядзіце,— і Тамара дастала з патайное кішэні і падала мне газетку. Я разгарнуў папрашмыляны ўжо на канцах газетны аркушок такога памеру, як да вайны былі нашы раённыя газеты. Газетка называлася «Новы шлях».

— Зірніце, зірніце на чацвёртую старонку,— паказала мне Шкарубская.— Вунь, бачыце,— тыцнула яна пальцам у клішэ.

Пасярэдку чацвёртай палосы вялікім планам на тры калонкі быў надрукаваны не вельмі выразны — мусіць, друкары перабольшылі трохі фарбы — здымак, на якім жанчына спавіла шыю мужчыны і цалуе яго зарослую шчаціннем бараду.

— Вы хіба не пазнаеце? Гэта ж я вас цалую.

Угледаюся. Так, гэта ж яна, Тамара. Твар відзён толькі профілем, але ўсё роўна, калі добра прыгледзецца, можна пазнаць яе кірпаты нос, вочы. Па барадзе можна пазнаць і мяне, можна пазнаць па вачах, па ўсёй постаці. Як бы чалавека ні зыначыла гора, усё роўна ў ім заўсёды знойдзецца нешта сваё, непаўторнае, і па ім заўсёды пазнаеш яго.

— Дзе вы яе ўзялі? — схамянуўся я папытаць.

— Кульбіцкі аднекуль прынёс і даў мне. А пачытайце, што яны, гады, пішуць.

Пад клішэ вялізнымі тлустымі літарамі быў набраны загаловак: «Для Макара Цімлякова назаўсёды вайна скончылася». Пад загалоўкам ішло: «Яна знайшла сваё суджанае шчасце».

Далей на радкоў больш за сотню напісана пра тое, як велікадушныя немцы, спагадаючы беларусам, вяртаюць

у сем'і ваеннапалонных, як яны дбаюць пра тое, каб ім нават ужо ў вайну добра жылося. Карэспандэнт усё гэта падаў як інтэрв'ю са мною і, мабыць, для большай праўдападобнасці, для большай пераканаўчасці ўставіў фразу: «Макар і Алена пажаніліся перад вайною, але дзяцей яшчэ не мелі. Канечне, яны б маглі ўжо мець іх, але ў бальшавіцкім раі на кожны рот не набярэшся хлеба».

Рэпартаж з лагера ваеннапалонных канчаўся заклікам да беларусаў, каб яны пакідалі Чырвоную Армію ды ішлі па хатах.

— От нячысцікі. Бач, якую прынаду зрабілі. Не вельмі хто клюне, не спадзявайцеся, чортавы фашысты. Гэта як таго каня: косю, косю, пакуль закілзаюць,— сказаў я сваё, разглядаючы фашысцкую газетку, якая друкавалася ў той жа друкарні, дзе да вайны і наша абласная газета. Шукаў знаёмых прозвішчаў журналістаў, думаючы, можа, каторы і падаўся да немцаў. І раптам не пад допісам, не пад нарысам ці рэпартажам, а пад усёй газетай на чацвёртай палосе прачытаў: «Адказны рэдактар Вінцэнт Барташэвіч». У мяне аж уваччу пацямнела. Тамара заўважыла маё ўзрушэнне.

— Што з вамі, Макар Васільевіч?

— Зірніце, зірніце, хто рэдактар! — ледзь не крычаў я.

Дзяўчына прачытала прозвішча, і яно ёй, мусіць, нічога не сказала.

— Нейкі здраднік. Мо прывезены фашыстамі ў абозе.

— Не, не ў абозе! Я гэтага гада ведаю. Мы з ім разам працавалі,— казаў я так, быццам быў вінаваты ў тым, што газету рэдагуе мой знаёмы.

— Няма нічога дзіўнага. Не шмат, але трапляюцца здраднікі,— спакойна, быццам на якой лекцыі, тлумачыла мне Тамара, быццам перад ёй быў вучань падрыхтоўчага класа.

— Я гэта разумею, любая Тамара,— упершыню я так звярнуўся да дзяўчыны, і яна трошкі пачырванела,— але ж ён строіў з сябе такога пільнага, адданага, што другога такога, як ён, пашукаць трэба было. З-за яго і мяне калісь з партыі выключалі. А сам, гад печаны, вунь куды меціў. У фюрэры.

— Хопіць вам захапляцца гэтай газетай,— беручы з рук газетку, лагодна ўсміхалася Тамара, быццам ужо і не было тае затуманенасці позірку, якую я ўгледзеў, зайшоўшы ў зямлянку.

— А чаго вы ўсё-такі плакалі, Тамара? — спытаў я.— На каго хацелі скардзіцца?

— Ат, глупства ўсё гэта. Няхай мо калі другім разам і раскажу. Дзе ж гэтак забавіўся наш Пятро Максімавіч? Хаця б чаго з ім не здарылася там.

— Вы яго і да вайны, мабыць, ведалі?

— Ведала. Я працавала ў райкоме камсамола, а ён быў другім сакратаром райкома партыі. Калі хочаце, дык і вы абавязаны, можа, нават і сваім жыццём, яго клопату. Гэта ж ён, прачытаўшы фашысцкую лістоўку, паслаў нас, дзяўчат, выбаўляць вас з няволі.

— А хіба і астатнія не сваіх мужоў бралі? — сумеўся я.

— Дзе там! Усе такія жонкі былі, як я ваша. Мабыць, я не дачакаюся Пятра Максімавіча. Другім разам пагавару,— не развітаўшыся са мною, з дзвярэй сказала Шкарубская.

Следам за Тамарай выйшаў і я. Хлопцы ўсё яшчэ спалі. Алесь з Куксёнкам — як нежывыя. Галадушка ж кідаўся, нешта мармытаў, некага кляў. Мабыць, чалавек лішне выпіў. А мне ўсё думалася: «Чаго спахмурнеў Тамарын позірк? Чаго ў яе вачах бліснулі слёзы?»

Мне хацелася пабегчы за ёй, сказаць ёй нешта такое, што б уцешыла яе, што б прынесла ёй супакаенне. А можа, ёй карціць нешта іншае, нешта незразумелае мне? Кожны чалавек — гэта таямніца, і паспрабуй разгадаць якая... Ва ўсякім разе я не ведаў, чаму ў Тамары на вачах слёзы.

## І МНЕ ЗНАЙШОЎСЯ ЗАНЯТАК

Пад сярэдзіну першай ваеннай зімы была створана партызанская брыгада, камісарам якой прызначылі Лук'янчыка. Нельга сказаць, каб для брыгады першая ваенная зіма была няўдалай. Фашысты адчувалі, што наша брыгада ёсць на свеце, што яе нельга скідаць з рахунку, бо яна можа нарабіць многа непрыемнасцей. І яна такі давала гітлераўцам шмат клопату: было ўжо скінута пад адхон эшалонаў з дзесяць. Пра дзейнні брыгады не раз паведамлялася ў зводках Саўінфармбюро: «Партызанская брыгада, якая дзейнічае ў глыбокім тыле праціўніка, на акупіраванай тэрыторыі Беларускага Палесся, спусціла пад

адхон дзесяць варожых эшалонаў з жывой сілай і тэхнікай».

За гэтымі скупымі радкамі паведамлення стаяў воінскі гераізм людзей, іх пот і кроў, іх жыццё. І, мабыць, у тым, што фашысты не ўтрымаліся пад Масквою, што праваліўся разрэкламаваны Гітлерам план «бліцкрыгу», была нейкая крупіначка заслуг і нашай брыгады. Бадай кожны дзень які-небудзь з атрадаў хадзіў на адказныя заданні і аперацыі: там быў акружаны і перабіты гарнізон, там пералавілі, як сонных курэй, паліцэйскіх... Адным словам, немцы не мелі спакою ў раёне дыслакацыі брыгады. Спачатку яны патыкацца ў лес дужа баяліся. Толькі пад канец зімы ў гарадок прыехала з фронту на перафарміроўку і папаўненне эсэсаўская дывізія, і вышэйшае начальства, мабыць, вырашыла скарыстаць яе для расправы з партызанамі.

На світанні дывізія, падмацаваная салдатамі мясцовых гарнізонаў і паліцаямі, з танкамі, гарматамі і мінамётамі мелася выступіць супраць нас. План гэтага наступлення яшчэ задоўга да яго пачатку праведала брыгадная разведка. Камбрыг сабраў камандзіраў атрадаў. Доўга абмяркоўвалі, раіліся, спрачаліся ці прыняць бой, ці пакінуць абжытае, абтупанае месца і перабрацца ў другое, далей у лес. Каторым мо і шкада было пакідаць абсталяваныя, ацепленыя зямлянкі. Камбрыг жа прыкінуў, што прыняць бой з такою сілаю, як дывізія з танкамі, артылерыяй і нават самалётамі, значыць, трапіць у такую пастку, з якой наўрад ці вылезеш, і прыняў рашэнне: уночы ціхенька зняцца і перабазіравацца на Дзямідавы груды.

Рух пачаўся на змярканні: партызанскі санны абоз — хоць ужо быў канец сакавіка, у лесе снег яшчэ трымаўся — рушыў па лясных дарогах і прасеках. Выйшлі і асноўныя сілы брыгады. Адно ніхто не ведаў, для чаго камандзір распарадзіўся пакінуць невялікі заслон чалавек з дваццаці партызан, строга загадаўшы не прымаць ніякага бою, а толькі з боку імітаваць яго. У гэтым заслоне астаўся і я. І яшчэ нам быў загад: запаліць у зямлянках усе грубкі і нарабіць як мага больш дыму. Мы насцягвалі ў лаўжы рознага ламачча, ацярэб'я і паскладалі яго так, каб яно было відно з паветра.

Пад раніцу, калі апусцеў наш лагер, мы пазапальвалі лаўжы, а самі адышліся за прагаліну, якая прымыкала да лагера з паўднёвага боку. За прагалінай было густое чарналессе, і мы там стаіліся. Яшчэ не выбліснула добра сон-

ца, як над лагерам у асмужаным небе паявіўся самалёт-гарбун. Ён доўга кружыў над былым нашым лагерам. Відаць, лётчык-разведчык не мог ніяк ушалопаць, што ў гэтым лесе такое дзецца: агні гараць на ўсю сілу. Калі ён пралятаў над прагалінай, мы яго абстралялі з кулямёта.

Гарбун адляцеў, мабыць, зафатаграфаваўшы лагерныя дымы. А хвілін праз трыццаць пачалося такое, чаго ніколі не бачыла і не чула гэтая лясная зямля. Заходзячы з-пад сонца, ішлі на цэль бамбардзіроўшчыкі. Акурат над тым месцам, дзе мы ляжалі, самалёты ішлі ў піке. Выбух за выбухам скаланалі зямлю. Чорныя грыбы зямлі і дыму ўзляталі вышэй самых вялікіх дрэў. Стагналі, падаючы, нібы падкошаныя, дрэвы. А самалёты ўсё заходзілі і заходзілі на цэль. Некалькі бомбаў упала на прагаліну, і над галовамі ў нас прасвісталі асколкі, ранячы жывое цела бяроз і алешын.

Бамбёжка лагера цягнулася хвілін з дваццаць, а мне здавалася, што на свеце ніколі не было цішыні, што з самага стварэння ён дрыжыць і калоціцца. Нарэшце самалёты адваліліі і на нейкі час наступіла незвычайная цішыня, быццам усё анямела, паглухла. Я падумаў, як правільна зрабіў камбрыг, вывеўшы брыгаду. Што б магло астацца ад яе пасля бамбёжкі? Ды гэта ж яшчэ, мабыць, не ўсё. Не можа быць, каб фашысты гэтым абмежаваліся. Не паспеў я гэтак падумаць, як з захаду, мусіць, з тае дарогі, што ішла паўз леснічоўку, даляцеў гул матораў і лязгат гусеніц.

Каб падражніць фашыстаў, нашы хлопцы з нядаўна ўзятага трафейнага мінамёта пусцілі некалькі мін у напрамку дарогі. Самі мы зняліся і пайшлі, папярэдне пастраляўшы з аўтаматаў і вінтовак. Просекамі,ляснымі дарогамі мы кіраваліся на Дзямідавы груды. Доўга чуўся яшчэ грукат бою. Гітлераўцы, мабыць, не спадзяваліся, што лагер пусты. Яны, відаць, падазравалі, што мы зрабілі якую пастку для іх, і таму палілі і палілі з усіх відаў зброі ды гэтак, што грукат бою аддаваўся мо кіламетраў за трыццаць.

Надвячоркам наша група прыйшла на Дзямідавы груды і далажыла камбрыгу, што чула і што бачыла.

На Дзямідавых грудах ішло ўсталёўванне: капалі зямлянкі, ладзілі буданы. Вядома, гэта нялёгка, але хоць было і прадвесне ўжо, без усяго гэтага нельга было абысціся. Уночы яшчэ добра браліся маразы. Тыдні паўтара брыгада не хадзіла на вялікія заданні. Відаць, у камбрыга

быў разлік: збіць фашыстаў з тропу, няхай яны сабе думаюць, што брыгады ўжо няма на свеце, што яна ўся знішчана.

Разлік быў правільны. Немцы як у званы пачалі біць: партызанская брыгада знішчана нашчэнт. Нават прыводзілі лічбы трафеяў, якія ўзяла эсэсаўская дывізія. Пра гэта трубіла на ўвесь свет і фашысцкая беларуская газета «Новы шлях». Вінцэнт Барташэвіч, мабыць, стараючыся выслужыцца перад фашысцкімі гаспадарамі, выраблядся, як блазан. Апроч афіцыйнай зводкі камандавання, у газетцы быў надрукаваны рэдакцыйны артыкул, у якім узносілася хвала эсэсаўцам і ганьбіліся на чым свет стаіць партызаны. Артыкул канчаўся заклікам да беларусаў, каб яны не ішлі да партызан, бо з імі будзе тое самае, што сталася з брыгадай. Іх знішчаць, як заўзятых ворагаў вялікай Германіі.

Мы чыталі гэтую фашысцкую паніхіду па нас, «нябожчыках», і рагаталі.

На новым месцы мы зрабілі сабе зямлянку таксама непадалёк ад штабной.

У мяне канчаткова выспела рашэнне пайсці да камісара і рашуча патрабаваць, каб даручылі мне рабіць штонебудзь пэўнае. Даволі для мяне гэтае паняверкі! Даволі!

І вось мы ўдвух з вока на вока.

— Ну што, Макар Васільевіч? — пытае Лук'янчык.

— А тое, таварыш камісар, што я не магу болей жыць у такой бяздзейнасці,— з рашучасцю адказаў я на яго запытанне.

— У якой бяздзейнасці? — сумеўся камандзір.

— Я здаровы, дужы чалавек, а мяне трымаеце, нібы заложніка. Навошта гэта? Чаму мяне ні на якія заданні не пасылаеце?

— Ёсць акалічнасці,— загадкава сказаў Лук'янчык.— Але ты не турбуйся, я табе знайшоў работу.

— Якую?

— От жа ў нас газета будзе выходзіць, дык я цябе і трымаў як бы ў рэзерве.

Я не паверыў сваім вушам. Адразу прапалі злосць, гнеў. Камісар мне добра расказаў, як і што трэба рабіць, як будзем друкаваць газету, якія матэрыялы змяшчаць. «Дык вось, аказваецца, для чаго ён мяне трымаў, а я, дурны, думаў — падазрэнні».

— У цябе ёсць, таварыш Шыянок, дзеці? — быццам ні з сяго ні з таго запытаў камісар.

— Ёсць сынок Сяргейка. А цяпер, можа, і няма.

— І вы нічога не ведаеце пра сям'ю?

— Нічога.

— Гэта дрэнна. Я пастараюся памагчы. Дам заданне, каб нашы падпольшчыкі даведаліся, ці жывыя. Дзе вы пакінулі яе?

— У сваім горадзе. А цяпер хто іх ведае, дзе яны. Я казаў, каб з горада выбіраліся ў Рагазін.

— Дык от,— працягваў Лук'янчык,— каб нашы нашчадкі не забыліся тых спраў, якія рабілі іх бацькі, дык трэба і нам сёе-тое зрабіць. Вы ж да вайны працавалі ў рэдакцыі. Я нават некаторыя вашы артыкулы памятаю. Пра калгас «Світанне». Баявы, востры і, галоўнае, прынцыповы артыкул. Мы ў сябе ў райкоме нават абмяркоўвалі яго. У мяне ёсць для цябе і яшчэ адна работа.

— Якая? — нецярпліва пытаю я.

— А во якая! Пяро ў цябе, браток, бойкае. Дык от сядзі і пішы, што ў газету, а што і для гісторыі. Будзь як той калісь Несцер-летапісец. Каб нашы нашчадкі страсянулі пыл з хартый і з першых рук уведалі пра тое, што мы тут, у гэтых лясах, рабілі. От, братка, табе і задача. Гэта, мне здаецца, пад твой густ і пад твой клопат. Дык ты бярыся і пішы, як табе будзе падказваць тваё сумленне. Пішы ўсю праўду — і толькі праўду.

Я не ведаў, што мне рабіць, што казаць. У мяне толькі вырвалася:

— Дык я ж нічога не ведаю, што я буду пісаць?

— Не бяда. Што я сам табе раскажу, а што і другія. От хіба не цікавая гісторыя пра старшыню калгаса «Пяцігодка» Нічыпара Дразда. Сядай і пішы...

...Дзве лясныя вёскі Пецькаўцы і Кулікі былі як бы наводшыбе самога жыцця. Каб не радыёпрыёмнік у старшыні калгаса Нічыпара Дразда, дык мо б людзі і не ведалі, што на свеце і дзеецца. Казалі, што да рэвалюцыі пра гэтыя вёскі ні ўлады, ні людзі з гарадоў і вялікіх сёл нічагусенькі не ведалі. Пецькаўчане і кулічане да рэвалюцыі жылі натуральным жыццём: апраналіся ў саматканы шарачок, абуваліся ў лыкавыя лапці. Яды ў іх было: ва ўсім наваколлі яны абсявалі лясныя палянкі, і чаго-чаго, а ўжо жывёлы ў іх хапала. Яна пасвілася на такой выгодзе, што наўрад ці трэба было дбаць пра тое, як яе пракарміць. Каторыя гаспадары дык не мелі ліку сваім каровам і авечкам. Адно, чаго трэба было людзям даставаць, дык гэта солі. Праўда,

і яе дашукваліся людзі ў зямлі, але не знайшлі. Дык пецькаўчане і кулічане грамадою абедзвюх вёсак парашылі: як толькі выпадала добрая зіма і маразы скоўвалі балоты і рэчкі, якіх была тут процьма, зладоўвалі вялікі санны абоз у горад кіламетраў за семдзесят. Туды яны вазілі на продаж мяса, воўну, мёд, звярыныя шкуркі, марожаныя тушы. Адным словам, пецькаўчане і кулічане гэтак пад калядыі збівалі ў горадзе цану на ўсе прадукты, і тыя купчыкі, якія на прадуктах нажываліся, прымалі прыезд лясных людзей як нейкую напасць.

Першы час, пакуль у горадзе ніхто не ведаў, чаго наязджаюць лясныя людзі, тыя сабе награбалі за невялікія грошы поўныя вазы солі, накуплівалі перцу, цыкорыю, цукру, і яшчэ грошай аставалася на крамніну. Але з цягам часу купчыкі даўмеліся, што лесуны прыязджаюць па соль, і пад іх прыезд гэтак узвінчвалі цану на яе, што тым не было чым і напалавіну загрузіць свае вазы. Тады пецькаўчане і кулічане шукалі сабе дарог у іншыя гарады, а ўсё ж не здаваліся. Соль, якую яны прывозілі ў вёску, не раздавалі па хатах, а ссыпалі ў грамадскі магазін, які стаяў у лесе паміж дзвюх вёсак, прызначалі чалавека, які размяркоўваў яе людзям па меры патрэбы. Адным словам, у жыхароў тых лясных вёсак яшчэ задоўга да рэвалюцыі былі зародкі грамадскай уласнасці.

І сама рэвалюцыя ў Пецькавічы і Кулікі дайшла мо праз паўгода. Толькі тады, калі паехаў у горад чарговы абоз выменьваць соль і іншы тавар, сяляне і даведаліся, што няма ўжо боскага памазаніка цара, няма і тых царанят, якія душылі, прыгняталі просты люд. Колькі зімаў і летаў, аж да трыццатых год, пецькаўчане і кулічане жылі па старой завядзёнцы, хоць і пры новай уладзе: вялі сваю натуральную гаспадарку, не прызнавалі ніякіх улад, ніякага прагрэсу, быццам яны хацелі ў нязмерным акіяне жыцця астацца астраўком старога свету. Але ў трыццатыя гады і сярод іх знайшоўся чалавек — гэты самы Нічыпар Дрозд,— які абудзіў усё жыццё гэтых дзвюх лясных вёсак. Тады быў і створаны з дзвюх вёсак адзін калгас «Пяцігодка». З цягам часу да Пецькаўцаў і Кулікоў пралягла дарога-брукаванка, і яны наблізіліся да ўсяго белага свету. А ў апошнія перадваенныя гады калгас «Пяцігодка» гэтак разбагацеў, што тройчы запар быў удзельнікам Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Шмат хто з нядаўніх лапцюжнікаў пабываў і ў Маскве. З'ездзіў туды і сам Нічыпар Дрозд.

І от мо таму, што перад пецькаўчанамі і кулічанамі разгарнуўся белы свет на ўсю сваю шырыню, яны, як толькі надышла навала, не скарыліся. Старшыня дапаў зброі ў раёне: два станкавыя кулямёты, штук з дзесяць ручных Дзегцярова, вінтоўкі простыя і самазарадкі. Па лесе назбіралі ручных і процітанкавых гранат і да ўсяго гэтага — боепрыпасу. Пад камандаваннем Нічыпара Дразда, які калісь служыў у Чырвонай Арміі і ведаў сякую-такую ваенную навуку, калгаснікі «Пяцігодкі» і прынялі рашэнне не здавацца фашыстам.

Вядома, каб не гэтая дарога-брукаванка, дык гітлераўцы наўрад ці і самі паткнуліся б у такую гушчэчу. Але дарога, хоць яна і праходзіла па самых лясных нетрах Палесся, відаць, прывабіла немцаў тым, што амаль напалавіну скарачала адлегласць да ўкраінскіх земляў. Гэтаю дарогаю можна было праскочыць да Дняпра і зайсці ў тыл нашым войскам, не даць ім магчымасці наладзіць пераправу цераз Дняпро.

Кіламетраў за дзесяць да свайго калгаса Дрозд загадаў людзям выкапаць упоперак дарогі ў чалавечы рост канаву. Месца акурат было выбрана такое, дзе працякала рачулка-балацянка і паабапал брукаванкі зыбілася дрыгва, якая магла засмактаць не толькі машыны, дык нават і людзей. Пакуль мужчыны перакопвалі шашу, Нічыпар Дрозд распарадзіўся абсталяваць па абодва бакі яе сапраўдныя баявыя пазіцыі. Было выбрана месца на сухіх сагрудах, адкуль добра праглядвалася мясцовасць аж да самай дарогі. Выкапалі акопы поўнага профілю, і мужчыны, пецькаўчане і кулічане, заселі ў іх пільнаваць, каб вораг не разбурыў іхняга калгаснага жыцця. Тыдні два сядзелі, не сыходзячы з пазіцый: жанчыны насілі мужчынам, як на поле ці на поплаў, ежу, курыва. А Нічыпар Дрозд шукаў сувязей з навакольным светам. Хацеў падацца ў раён, але там стаяла столькі фашыстаў, што была небяспека трапіць на вісельню.

На гэты раз каторыя мужчыны з Драздовай згоды хацелі пакідаць свае пазіцыі і ісці дахаты. Быў акурат жнівень, і работы ў гаспадарцы хоць адбаўляй. Трэба ж было людзям дбаць і пра зімоўлю. Вайна вайною, а есці трэба заўсёды. Але Дрозд як бы тое ведаў ці адчуваў, катэгарычна забараніў пакідаць баявыя пазіцыі.

Надвячорак быў ціхі, як заўсёды ў такую пару. Было ўжо і халаднавата. Аднекуль здалёку лес прынёс водгулле незразумелага лёскату. Тыя, што стаялі на варце, пад-

нялі ўсіх па трывозе, і мужчыны прыпалі да зброі. Дрозд правяраў, ці гатовы людзі прыняць бой. Усе вочы напружана ўтаропіліся на дарогу. Паволі, па меры таго як набліжаліся машыны, водгулле ператваралася ў рокат матораў, і ўжо калі сонца было на самым схіле, ля перакопу спынілася цэлая калона грузавікоў, кузавы якіх былі поўныя нямецкай салдатні. Калона мела, можа, машын з сотню. Яны расцягнуліся па дарозе ў цуг і гэтак спыніліся. Салдаты пачалі саскакваць з грузавікоў. Драздовы мужчыны хацелі ўжо адкрываць агонь, але Нічыпар цыкнуў на іх, каб без каманды ніхто не паварушыўся, не тое што стрэліў. Аб'язджаючы калону па самай абочыне, да перакопу пад'ехала легкавая машына. З яе выйшлі афіцэры. Немцы, мабыць, не спадзяваліся, што тут ёсць хто жывы, мо думалі, што гэта нашы войскі, адступаючы, перакапалі дарогу, каб гітлераўцы не маглі ім сесці на хвост. Адзін з афіцэраў — гэта бачыў Дрозд у бінокль,— разгарнуўшы карту, пакручваў галавою, мусіць, таму, што не знаходзіў аб'езду. Гэтак у нерашучасці, не ведаючы, што рабіць, немцы стаялі хвілін з дваццаць. Драздовы партызаны ніводным рухам не выяўлялі сябе. І на другім баку мужчыны выконвалі Драздоў загад: не страляць, пакуль не пачуюцца стрэлы з таго боку, дзе быў сам Дрозд.

А Дрозд бавіўся. Ён меў намер канчаткова закалыхаць пільнасць гітлераўцаў і тады знянацку ўдарыць. Фашысцкая салдатня пачала ўжо збірацца ў купкі ля машын. Афіцэр нешта распарадзіўся, і салдаты пачалі даставаць з машын рыдлёўкі і сякеры. Мабыць, было прынята рашэнне засыпаць і зараўнаваць перакоп. Можа б, яшчэ доўга бавіўся Дрозд з камандаю «агонь», калі б ззаду калоны не аддзялілася нейкая фашысцкая прыблуда і не пашыбавала лесам проста на пазіцыі партызан. Стваралася небяспека, што партызан выявяць і будзе страчаны момант неспадзяванасці. Дрозд тады і падаў на ўсю магутнасць свайго басавітага голасу каманду: «Агонь!», першым стрэліўшы ў таго прыблуду, які валокся на пазіцыі.

Загаманілі кулямёты, вінтоўкі, і немаведама што пачалося на шашы. Пакуль фашысты ачомаліся ды прынялі баявыя парадкі, Драздовы партызаны налажылі іх нямала. Бой цягнуўся з паўгадзіны. Партызаны не давалі немцам падняцца з зямлі, яны быццам папрышывалі іх да шашы. Ля перакопу немцы не маглі нават злезці за абочыну, бо абапал была такая дрыгва, якая ў момант засмоктвала чалавека. Толькі калі ўжо зрадзеў партызанскі агонь,

бо не вельмі выстачала патронаў, і Дрозд загадаў страляць толькі тады, калі гітлераўцы будуць падымацца ў атаку, фашысты агледзеліся, што на груд, з якога вёўся агонь, можна зайсці з канца калоны. Яны і рушылі напрапалую, не лічачыся з ахвярамі, прыціскаючы да жыватоў аўтаматы і страляючы. Некаторыя з калгаснікаў-партызан папалохаліся і кінуліся наўцёкі. Дрозд колькі ні крычаў, не мог затрымаць іх. А немцы акружалі, насядалі. Дрозд адзін ужо касіў іх са станковага кулямёта. Чалавек, відаць, рашыўся на смерць. Раптам кулямёт — ці то што заела ў ім, ці ў стужцы скончыліся патроны — змоўк. Дрозд хацеў і сам кінуцца наўцёкі ў лес, але ўжо ззаду, спераду, з усіх бакоў чулася:

— Русіш бандыт! Хэндэ хох!

Запаленымі вачыма Дрозд абвёў немцаў, якія набліжаліся да яго — іх было чалавек з трыццаць,— і прыгнуўся ў сваім акопе. Немцы навалам рынуліся на яго. Але ў гэты момант страшэнны выбух скалануў усё лясное наваколле і рэхам аддаўся аж там, за вёскамі. А калі праз некалькі дзён, як ужо ўлеглася ўсё ў лесе, прыйшлі калгаснікі на тое месца, дзе былі акопы, дык убачылі разарванага свайго старшыню і некалькі фашыстаў. Відаць, каб не дацца ў рукі ворагам, Дрозд падарваў сябе і тых фашыстаў, што падбеглі да яго, процітанкавымі гранатамі, якіх было з паўдзесятка на дне акопа.

— От на гэтым і скончылася гісторыя,— ціха, са смуткам прамовіў Лук'янчык.— Ну, як ты там запісаў яе, прачытай.

Я прачытаў Лук'янчыку, і ён, выслухаўшы, сказаў:

— От гэта і надрукуйце ў першым нумары нашага «Чырвонага мсціўца». А цяпер, братка, ідзі адпачывай. Мне яшчэ трэба галаву паламаць аднаму. Заўтра аперацыя важная.

— Можа б, вы і мяне ўзялі?

— Не, ідзі, ідзі. Табе газету трэба рабіць.

На дварэ ўжо звечарэла. Барвовы закат сонца быў прадвеснікам таго, што заўтра будзе добры вясновы дзень.

## І НАШ СНАРАД ЛЯЦІЦЬ У ЦЭЛЬ

Зямлянка — быццам той грыб: як з-пад зямлі вырасла. На прагаліне, на краі грудка, зарослага маладым сасоннікам, не было нічога, і раптам за якія два дні зямля раз-

варушылася і на ёй узнік ладны курганок. Гэта наша рэдакцыя і друкарня. Яна прасторная, раскошная ў параўнанні нават са штабной зямлянкаю. Сцены яе закіданы тонкім абчэсаным бярвеннем. У левым кутку два рэалы, а ля ўваходу па адзін і па другі бок маленькія акенцы; пад адным з іх — саматужны стол на ўкапаных ножках, а пад другім — друкарская машына «амерыканка», гэтакая самая, як да вайны былі ў палітаддзелах МТС. Як толькі мяне Лук'янчык прывёў у гэтую зямлянку і я заняў месца за сталом, адразу прыйшлі два ўжо немаладыя незнаёмыя мужчыны і адрапартавалі:

— Таварыш рэдактар, прыбылі ў ваша распараджэнне.

— Сядайце, сядайце,— запрасіў я, быццам у маёй хароміне стаяла немаведама колькі крэслаў, хоць там усяго была зроблена адна лавачка пры стале. Мужчыны пераглянуліся і, мусіць таму, што не ўгледзелі, дзе ім сесці, асталіся стаяць.

— А што вы будзеце рабіць у маім распараджэнні?

— Мы наборшчыкі, наша справа вядомая — давайце арыгіналы, і мы ў момант набяром іх. Рукі самі просяцца да работы,— адказаў старэйшы, з рудаватай шчэццю барады.— Я — Іван Перапечка. Пятнаццаць гадоў ля рэала стаяў.

— А вы? — звярнуўся я да другога, маладзейшага.

— Ён таксама наборшчык і друкар, на ўсе рукі майстар,— адказаў за яго Іван Перапечка.

— А як вас зваць?

— Рыгор Квасіла.

— Ну, то што ж, мужчынкі, разглядайцеся тут з гэтай маёмасцю тым часам. Шрыфты прагледзьце, ці ўсё тут ёсць.

Наборшчыкі сталі да рэалаў, і дастаўшы пакункі з шрыфтам, пачалі раскладваць яго па каморках кас. Я нагнуўся над сталом і пачаў прыкідваць, з чаго і як зрабіць першы нумар нашага «Чырвонага мсціўца». Назва газеты была нават зацверджана ў падпольным абкоме партыі.

Сама я ўрупіўся ў думкі, як у тамбуры зямлянкі пачуліся крокі і перада мною стала Тамара Шкарубская.

— Таварыш рэдактар, па загаду камісара брыгады прыбыла ў ваша распараджэнне...

— Сядайце,— запрасіў я.

Тамара прысела на лавачку да стала і пацікавілася, што я раблю.

— Ды от мудрую, трэба ж газету выпускаць...

— А што вы мне загадаеце рабіць?

— Не ведаю... Што вы можаце? Вы калі-небудзь працавалі ў рэдакцыі?

— Не, дзе я працавала. Пры чужым агні грэлася. Нехта раскладаў яго, а я рукі, калі яны дубянелі, трымала над полымем. Па суседству ў мяне была друкарня раённай газеты, дык я часцяком туды заходзіла.

— Добра і гэта. Не святыя гаршкі лепяць,— падтрымаў я Тамару.— От паглядзіце раз-другі, як што робіцца, і навучыцеся. Яшчэ якая журналістка можа з вас выйсці.

— Каб жа вашы словы спраўдзіліся.

Неўзабаве ўжо і Тамара схілілася над сталом і глядзела на аркушок паперы, які я разлінейваў алоўкам. Раз-пораз яна пыталася, што і для чаго... Я тлумачыў падрабязна і ахвотна. Мне прыемна было адчуваць жаночую блізкасць. Я наогул Тамару паважаў. Яна мяне вярнула да жыцця, і хіба я мог быць няўдзячны ёй. Праўда, я не зусім разумеў, навошта Лук'янчык паслаў у рэдакцыю дзяўчыну. Яна такая смелая, адважная, гатовая ў агонь і ваду, разумная. Мабыць, камісар не хацеў рызыкаваць яе жыццём і вырашыў неяк ашчадзіць дзяўчыну ад небяспекі. Цяпер у брыгадзе была ўжо добра пастаўленая і баявая, і агентурная разведка, так што, мабыць, не было такой пільнай патрэбы пасылаць у лапы ворагу Шкарубскую.

Доўга мудравалі над першым нумарам. Нарэшце вырашылі змясціць перадавы артыкул, зводку Інфармбюро, а астатнія матэрыялы — з баявых дзеянняў брыгады. Іх набіралася процьма, толькі трэба было запісваць. Я пачаў думаць, як зрабіць загаловак газеты. Цынкаграфіі ж тут няма, не закажаш.

— Хлопцы, а як жа нам быць з загалоўкам газеты? Шрыфт у нас там ёсць? — папытаў я ў наборшчыкаў.

— Не, няма,— адказаў Рыгор Квасіла.— Нават звычайнага загаловачнага і таго няма. Нехта ўкамплектаваў не падумаўшы. Але гэта не бяда.

— Чаму не бяда?

— Я ж вам казаў, ён на ўсе рукі майстар; каб от лінолеуму дзе дастаць, дык ён такі загаловак зробіць, што і цынкаграфіі такога не закажаце,— адказаў Перапечка.

— Гэта праўда? — узрадаваўся я.

— Рабіў калісь сёе-тое... На гравёра вучыўся,— прызнаўся Квасіла.

— Ну то пашукайце з чаго і выражце загаловак... Добра было б і карыкатуру якую на Гітлера.

— Пастараюся.

Я пачаў пісаць перадавы артыкул. Ён быў адрасаваны да цывільнага насельніцтва. Я не шкадаваў фарбаў, нянавісць да фашыстаў і іх паслугачоў, здраднікаў, біла з кожнага майго радка.

Шкарубская, схіліўшыся над сталом, чытала кожнае слова, як толькі яно было напісана. Я кідаў на яе вокам і адразу ж, як толькі сустракаўся з яе вачыма, адводзіў свой позірк. Нешта незвычайнае бачыў я ў вачах дзяўчыны; нейкую мяккасць, ласкавасць, замілаванасць. У куточках Тамарыных вачэй стаілася лёгенькая ўсмешка — яна выкрэсвала з іх ледзь-ледзь відныя праменьчыкі. Я ніколі не бачыў такой усмешкі на Тамарыным твары. Дзяўчына яшчэ бліжэй прыхінула сваю галаву да маёй. Я ўжо адчуваў дотык яе валасоў, ціхае дыханне. Наборшчыкі нечага выйшлі з зямлянкі — мы засталіся з вока на вока, і Тамара, як бы перасільваючы самую сябе, сказала:

— Макар, вы як малы, нічога не разумееце...

— Як гэта я нічога не разумею? У чым? — сумеўся я.

Але Тамара не адказала... У зямлянку ўвайшоў камісар. Лук'янчык быў нечым узрадаваны. Мы, як і належыць байцам, сталі па камандзе «смірна».

— Сядайце, сядайце! — прапанаваў Лук'янчык.— Наце от, ды каб мне праз гадзіну якую гэта было аддрукавана. Пра гэта павінны ўсе ведаць...

Камісар падаў мне скрэмзаны алоўкам аркушок паперы. Відаць, той, хто пісаў, спяшаўся, каб не згубіць ніводнага слова. І калі я пачаў разбіраць і складаць слова да слова,— сапраўды было чаму парадавацца. Зводка Інфармбюро паведамляла пра значную перамогу нашых войск. Я адразу ж сеў перапісваць зводку так, каб наборшчыкі пры наборы не блыталіся, а Шкарубскай сказаў:

— Тамара, пазавіце хутчэй хлопцаў. Няхай набіраюць.

Лук'янчык агледзеў касы і, заўважыўшы, што каморкі іх поўны літар, сказаў:

— Бач, ужо зброя гатова. Ну, а як яна, будзе што-небудзь кумекаць? — спытаў камісар, маючы на ўвазе Шкарубскую.

— Будзе, а чаму ж не,— адказаў я з упэўненасцю.

— Ну, дык і добра. Я падумаў, што́ ёй, дзяўчыне, хадзіць паўз самую смерць. Няхай лепш табе памагае, яна кемлівая. Мне здаецца, яна такая, што ўсё можа рабіць. Да таго ж і рызыкантка вялікая; дык я і падумаў — яшчэ

на шыбеніцу трапіць. Дык няхай хоць на крок далей ад бяды.

Мне чамусьці хацелася падзякаваць камісару не так за клопат пра мяне, а пра Тамару, і, можа б, я выказаў уголас сваю ўдзячнасць, калі б не з'явілася Тамара з наборшчыкамі.

— Ну от, таварыш камісар, хлопцы адразу набяруць,— не то далажыла, не то так сабе яна сказала Лук'янчыку.

У голасе адчувалася замілаванасць да гэтага суровага з выгляду, але добрай душы чалавека. А што Лук'янчык быў чалавек добрай душы, у гэтым я пераканаўся на адносінах да сябе. Хто я яму? Я ж яму не сват, не брат, а ён вунь як аднёсся да мяне. Не тое што Кульбіцкі. Праўда, і Кульбіцкі пакуль нічога благога не зрабіў. Але я нейкім шостым пачуццём угадваў, што калі ён нічога дрэннага і не зрабіў мне, дык мо таму, што Лук'янчык засланяў мяне сваёй спіною...

— Калі надрукуеце, дык ты, Тамара, паможаш зрабіць так, каб гэтая зводка да ўсіх дайшла — і да партызан, і да мірных жыхароў. Немцы брэшуць, што Расіі ўжо капут... А ёсць жа яшчэ людзі, што і вераць ім. Надрукуйце такімі літарамі, каб і сляпы мог прачытаць.

— Ёсць, таварыш камісар, набраць такімі літарамі...— аж узрадаваўся Іван Перапечка.

Я хуценька перакладаў і перапісваў зводку. Наборшчыкі проста з-пад пяра набіралі. Праз якую гадзіну ўжо чахкала друкарская машына і мы складалі ў пакуначкі лістоўкі з тэкстам зводкі Савецкага Інфармбюро, якая паведамляла аб чарговай перамозе нашых войскаў. Цяпер, праўда, перамогі Чырвонай Арміі — гэта ўжо была не навіна. Пасля таго як фашысты асекліся пад Масквой, ім усё часцей і часцей наступалі на мазоль. Але ўсё ж яны яшчэ, асабліва тут, у тыле, не трацілі форсу. І самі фашысты, і іх паслугачы не стамляліся крычаць на ўвесь голас, што вось-вось надыдзе такая хвіліна, калі гітлераўская машына раптам рушыць наперад і сатрэ ў парашок усё, што будзе трапляцца ёй на шляху. Аднак жа машына буксавала, дый здорава, нават на роўным месцы, і пра гэта павінны былі ведаць нашы людзі, каб не апускаць у барацьбе рукі.

Лістоўка была надрукавана на лістках з вучнёўскіх сшыткаў у касую лінейку. Газетнай паперы мы не хацелі траціць, бо яе было не дужа многа.

Выйшаў і першы нумар «Чырвонага мсціўца». Рыгор

Квасіла сапраўды аказаўся добрым майстрам. Ён расплюскаў гільзу зенітнага нямецкага снарада і выразаў не толькі загаловак, але і карыкатуру на Гітлера, на якой фюрэр быў падобны на бабу-ягу з падвязанай хусткай шчакой, быццам у яго вельмі балелі зубы. Пад карыкатуру мы зрабілі подпіс: «Ад аплявухі, якую дала Чырвоная Армія, аж зубы павылятали».

Тыраж газеты быў не дужа вялікі. Большую частку яго забіралі ў штаб і раздавалі сувязным, якія прыязджалі з атрадаў з данясеннямі. Але не толькі партызаны павінны былі чытаць нашу газету. Партызаны былі больш-менш праінфармаваны пра тое, што дзеецца на франтах. Вельмі важна, каб цывільнае насельніцтва ведала хоць трошкі праўды. І таму лістоўкі са зводкамі Інфармбюро і газеты мы стараліся распаўсюджваць і па вёсках нашай зоны. Было нават так, што лістоўкі паяўляліся на парканах, на вокнах хат тых вёсак, дзе размяшчаліся фашысцкія гарнізоны і апорныя пункты паліцыі.

Я быў захоплены сваёй работай. Гэта было тое, што задавальняла маю душу. Шашаль сумнення, які яшчэ нядаўна тачыў, грыз мяне — мне, маўляў, не давяраюць,— быў вынішчаны амаль дарэшты. Праўда, я ўсё яшчэ ніяк не мог зразумець капітана Кульбіцкага, начальніка асобага аддзела брыгады. Мне здавалася, што ён усё не верыць мне і шукае выпадку, каб абвінаваціць мяне ў няшчырасці, а можа, і ў чым большым. З зямлянкі разведчыкаў я перасяліўся ў сваю рэдакцыйную. Перабраўся следам за мною і Куксёнак. Быццам камісар загадаў быць памагатым у друкароў і выконваць абавязкі нешта накшталт загадчыка гаспадаркі рэдакцыі: «Ну што ж, перабраўся дык перабраўся, мне весялей будзе»,— падумаў я сабе.

Цяпер Куксёнак быў у маім падначаленні. Я такі яго ганяў. Ён не сядзеў склаўшы рукі: то даставаў паперу, то адносіў гатовую прадукцыю, то прыводзіў у рух друкарскі станок. Мы з Тамарай былі заняты творчым працэсам. Бачыліся не дужа часта: то яна хадзіла ў раздабыткі матэрыялаў, то я адпраўляўся на аперацыі, каб напісаць пра тое, што бачыў на свае вочы. Але дзе б я ні быў, мне заўсёды чамусьці карцелі Тамарыны вочы: мяккі трапяткі позірк, лагодная мілая ўсмешка. І чуліся яе словы: «Макар, вы яшчэ як малое, нічога не разумееце». Чаго я не разумеў — і сам не ведаў. Мо таго, пра што толькі здагадваўся і чаго мне хацелася і не хацелася. Сэрца, мабыць, хацела, але свядомасць адганяла, адбівалася ад на-

стырнага пачуцця. «Не час, не час і не месца»,— думалася мне. Я сябе стараўся пераканаць, што нічога ў тым Тамарыным позірку асаблівага не было. Відаць, мне проста здалося... Засумаваў, мабыць, па жаночай ласцы, дык іскарка яе здалася полымем.

Тры дні Тамары не было: яна панесла лістоўкі, газеты і павінна была вярнуцца ў той жа дзень пад вечар. Але Тамары не было, і я не знаходзіў сабе месца. Бегаў да Лук'янчыка даведацца, ці не чутно чаго-небудзь пра Шкарубскую. Але і ў штабе не ведалі, дзе дзелася дзяўчына. Лук'янчык запэўніў мяне, што са Шкарубскай нічога не здарылася, бо каб што адбылося сур'ёзнае, ужо б ведалі. Проста недзе дзяўчына забавілася. Час жа цяпер такі, што заўсёды ходзіш, як па вастрыні ляза. Думаеш адно, а выходзіць другое. Але Тамара не такая, каб даццца дзе ў рукі ворагам. Дзяўчына кемлівая...

Кемлівая то кемлівая, але дзе яна можа быць?

Шкарубская вярнулася толькі на пятыя суткі... Вярнулася стомленая, знерваваная, апранутая ў нейкае сялянскае рыззё. Я глянуў на яе і спалохаўся:

— Тамара, што з вамі?

— Нічога... Пачакайце, усё пасля раскажу. Зараз пабягу хуценька ў штаб,— і гэтак, не пераапрануўшыся, не прывёўшы сябе ў парадак, пабегла.

А мяне грызла трывога, невядомасць: што ж магло стацца з дзяўчынай і чаму яна мне нічога не расказала.

Са штаба Тамара вярнулася павесялелая. А можа, мне здалося, таму што яна зайшла ў сваю зямлянку, умылася і пераапранулася і зноў як бы стала сама сабой... Я глядзеў на яе, не спускаючы вачэй. Яна аж сумелася ад майго позірку.

— Што вы на мяне так глядзіце, нібы я з таго свету прыйшла?

— А я думаў, што вас сапраўды ўжо няма на гэтым свеце.

— Па праўдзе сказаць, дык я блізка была да таго свету.

І Тамара расказала мне ўсё да драбніц, што з ёю адбылося ў Дабралесе. Не паспела яна ўвайсці ў вёску, як нетуды наляцелі фашысты. Яны ачапілі вёску і пачалі нечага шукаць, шныпарыць па панадворках і хатах. Тамара скеміла, што яе могуць вось зараз сустрэць карнікі і тады наўрад ці чым яна адгаворыцца ад іх. Да таго ж у кошыку, які яна несла ў руках, было поўна лістовак і газета «Чыр-

воны мсцівец». Каб выбегчы з вёскі ў лес, і думаць не было чаго. Фашысты і паліцаі пільна неслі варту... Тады дзяўчына кінулася ў першую бліжэйшую хату.

— Цётачка, немцы! Дзе ў вас тут схавацца?

— А дзе ж ты схаваешся, мая дзетка? — як здалося Тамары, вельмі спакойна сказала гаспадыня.

— То хоць вось гэтае куды схавайце,— падала Тамара старой кошык з лістоўкамі.

Жанчына, мусіць, здагадалася, што несла Тамара ў кошыку.

— Давай хуценька, мая дзетка.

Цётка Тэкля — так звалі гаспадыню — схапіла Тамарын кошык і выскачыла ў сенцы. Праз колькі хвілін яна вярнулася ў хату без кошыка. Паглядзела на Тамару і з нейкім шкадаваннем сказала:

— Сядзела б ты, дзеўка, дома. Дык ты бач што робіш....

— Што я раблю?

— Ты думаеш, я старая, дурная, дык і не ведаю, што ты сама сабе смерць носіш...

— Якую смерць?

— Бачыла якую... Ды ты не бойся, я схавала так, што і сам нячысты не знойдзе.

— Дзякую вам,— трохі паспакайнела Тамара.

— А ты, калі хто сюды зойдзе ды будзе пытаць, дык скажы, што з Віляціч, дачка маёй сястры Матруны, Ганначка.

— Добра, добра, дзякую,— не паспела сказаць гэта Тамара, як у хату ўваліліся немцы і тутэйшы паліцай Кандрат Перагуд.

— Ты нічога і нікога тут, Тэкля, не хаваеш? — спытаў паліцай.

— Божачка мой, дык каго гэта я буду хаваць. Няма каго і няма чаго ў мяне хаваць, усё на людскім воку, усё і сабе, і людзям відно.

— Відно то відно, але не вельмі... А гэта хто ў цябе? — звярнуў увагу на Тамару паліцай.

— Дык хіба бо ты ўжо і не ведаеш, хто яна такая?.. Гэта ж Матрунінa дачка Ганна. Яна ж у нас часцяком бывае, хіба бо ты і не бачыў ні разу...

— А хто яго ведае, хіба ўсіх тут перабачыш... Колькі ў дабралесцаў сваякоў, хіба іх усіх будзеш ведаць...

— Канечне,— уставіла сваё Тамара.— Я дык вас,

дзядзька, ведаю, колькі разоў бачыла тут, у Дабралесе... Яшчэ летась на фэсце бачыла.

— Як той казаў, папа ўсе ведаюць, а поп аднаго бога,— сказаў Перагуд і зірнуў так на сваіх гаспадароў немцаў, нібы тыя былі багамі і ён іх адных ведаў, адным і пакланяўся.

— Каго бо гэта вы шукаеце? — спытала цётка Тэкля.— Хіба ў нашым Дабралесе хто чым прашкапіўся?

— Усюды цяпер гэтай погані, нечысці партызанскай поўна. Вунь жа і ў нас нехта парасклейваў лістоўкі.

Немцы з Кандратам выйшлі з хаты, і Тамара глыбока-глыбока, быццам скінула з плеч найвялікшы цяжар, уздыхнула.

— Пранесла,— вымавіла з палёгкай яна.

— А хто ж бо ты такая будзеш? — запытала Тэкля.

— Дзяўчына,— адказала Тамара.

— Бачу, што дзяўчына. Але з чым, чаго і адкуль ты прыйшла?

— Вы ж, мабыць, бачылі, з чым я сюды прыйшла. А дзе ж вашы ўсе? Вы ж, мабыць, не адна жывяце?

— Вядома, што це адна... Чалавек з дзецьмі недзе ў полі. Як той казаў, на смерць рыхтуйся, а хлеб усё роўна сцячы...

— Чаго вы на тую смерць. Няхай лепш яны памруць.

— Хто яны?

— А гэтыя, што прыходзілі.

— Чаго бо іх сюды нанесла? — як бы спытала сама ў сябе цётка Тэкля.— Мы ж іх тут рэдка і бачым. Няйначай як нехта ім на балючы мазоль наступіў.

Тамара наважыла даведацца, чаго ўсё-такі нанесла немцаў у Дабралес, тым больш што першае спатканне з імі не прынесла ніякай небяспекі. Але дзяўчына не ведала, як аднясецца гаспадар і дзеці цёткі Тэклі да яе. Хто іх ведае, што яны за людзі.

Увечары, калі сабралася ўся сям'я ў хату, Тамара намёкамі, прыблізна расказала, хто яна такая і чаго прыйшла сюды ў Дабралес.

— От бо настаў час,— уздыхнуў цяжка дзядзька Сідар, стары гаспадар,— што на сваёй зямлі трэба людзям туляцца па закавулках. Нагнала гэтай навалачы сюды нячыстая, дык няўжо ж на век яны запаланілі нашу родную зямельку.

— Не навек, дзядзька Сідар,— страпянулася Тамара, быццам ёй трэба было выйсці на трыбуну і расказаць уся-

му свету, што навокал дзеецца,— не навек, знойдзецца і на іх управа.

Тамара расказала пра апошнія зводкі Інфармбюро, і стары, разявіўшы рот, слухаў тыя навіны, якія для яго былі светлымі праблісками надзеі і радасці.

На вуліцы зарыпаў гармонік, і Куліна, трохі маладзейшая за Тамару Тэкліна дачка, грудастая прысадзістая дзяўчына, аж уседзець не магла на месцы.

— Сходзім на музыкі, таечка,— звярнулася яна да Тамары.

— Хіба ў вас яшчэ і на музыкі ходзяць?

— А чаму ж не? Вайна вайною, а музыкі музыкамі.

На ігрышча прыйшлі і немцы з паліцаямі. Фашысты спярша падазрона аглядалі ўсіх, быццам шукаючы партызанаў, але як толькі пачаліся танцы і моладзь пайшла ў танок, немцы пачалі выскаляцца, нешта гергетаць паміж сабою. Відаць, для іх было навіною такое бачыць.

Дабралескія хлопцы і дзяўчаты падазрона пазіралі на Тамару, але Куліна пашапталася з імі, і яны, мусіць, уведаўшы, хто яна, глядзелі ўжо на дзяўчыну як на сваю. Куліна колькі разоў запрашала Шкарубскую на танец. Тамара адмаўлялася, быццам яна зусім не ўмее танцаваць. Ёй карцела што-небудзь пачуць, што-небудзь даведацца, чаго сюды прыехалі немцы. Яна ўслухоўвалася ў гаворку салдат, але, мусіць, таму, што нямецкую мову разумела з пятага на дзесятае, нічога не магла ўшалопаць.

З вячорак Тамару прывёў да самай хаты Кандрат Перагуд. П'янаваты, ён ужо, як стары знаёмы, заляцаўся да дзяўчыны. Ля хаты гарнуўся да яе, хочучы пацалаваць. У твар Тамары біла перагарам, як з тае паршывай бочкі, але яна трывала як магла. Ёй карцела выпытаць сёе-тое ў паліцая. Перагудаў язык менціўся, твар выскаляўся.

— Ты са мною не бойся нічога і нікога. Я тут усім начальнік,— пахваляўся паліцай.

— Не трэба, не трэба, дзядзечка,— закрычала Тамара, калі Перагуд на ўсю сілу прыціснуў яе да сябе.— Хіба ў вас усе такія хлопцы? Нашы віляціцкія дык рахманыя, сарамяжыя.

— Дык то ж вашы! Хіба яны хлопцы? Што ж то за хлопец, каторы дзеўцы не дасць рады...

— Ой, пусціце, дзядзечка, цётка Тэкля пачуе, дык сораму колькі будзе...

— Сорам не дым, вачэй не выесць. Твая цётка, як даведаецца, што ты са мною, дык і языком не паварушыць. Мой дух усе тут чуюць...

— Я ведаю, што чуюць... Мне казалі ўжо.

Падахвочаны паліцай зусім разменціўся языком. Ён расказаў Тамары, чаго сюды прыехалі фашысты, хваляцыся, што па такой патрэбе яны нікуды, апроч Дабралеса, не маглі паехаць, бо нідзе, апроч Дабралеса, няма такога чалавека, як іхні Яўсей Самасейка...

Тамары карцела хутчэй выбрацца адсюль, з Дабралеса, каб усё расказаць камісару брыгады Лук'янчыку.

Выбрацца ёй давялося нялёгка. Дабралес быў ачэплены эсэсаўцамі і паліцаямі...

## ЯК ЯЎСЕЙ САМАСЕЙКА ГІТЛЕРУ МОРДУ СКРЫВІЎ

Улетку што! Улетку, як той казаў, кожны кусцік начавацъ пусціць, і наша брыгада разгрупавала ўсе свае пяць атрадаў па розных мясцінах. Тутэйшыя лясы былі такія вялікія, што маглі б даць месца яшчэ некалькім такім брыгадам, як наша. Кожнаму атраду быў вызначаны пэўны раён, у якім ён павінен быў не даваць жыцця гітлераўскім гарнізонам і іх паслугачам паліцаям. У большасці лясных вёсак старастамі былі нашы людзі, і яны праз надзейных сувязных інфармавалі пра ўсё, што дзеелася на вёсцы. Пра кожны крок фашыстаў і паліцаяў мы ведалі загадзя і стараліся папярэдзіць яго. Асноўныя сілы брыгады былі сканцэнтраваны бліжэй да горада. Гэта і зразумела: горад быў тым аб'ектам, з якога як бы цягнуліся невідочныя ніткі да ўсіх сельскіх і местачковых гітлераўскіх і паліцэйскіх гарнізонаў. Адтуль ішло кіраўніцтва, адтуль паступалі загады, там распрацоўваліся планы карных аперацый супраць нас, і нам заўсёды трэба было быць напагатове, каб парыраваць іх. Зноў жа такі, горад быў важным у стратэгічных адносінах чыгуначным вузлом, праз які ішло папаўненне фронту жывой сілай, тэхнікай і боепрыпасамі. Каб нам удалося вывесці са строю гэты вузел, мы б вунь як памаглі нашай арміі.

На Дзямідавых грудах астаўся штаб брыгады ды базы снабжэння. Зусім адарвацца ад гэтых грудоў было брыгадзе не вельмі лёгка. За які кіламетр ад іх, на глухой лясной

палянцы, быў абсталяваны партызанскі аэрадром. Сюды амаль штодзень прылятал з Вялікай зямлі самалёты. Яны прывозілі боепрыпасы, часта правіянт і, галоўнае, загады і распараджэнні Штаба партызанскага руху. Цяпер партызанская барацьба ў тыле ворага кіравалася з аднаго цэнтра, падпарадкоўвалася агульнай баявой задачы. Так што цяпер мы былі часцінкай той вялікай сілы, якая развіналася на тысячакіламетровым фронце.

Ад нас самалёты забіралі і адвозілі на Вялікую зямлю параненых, жанчын і дзяцей, якім пагражала небяспека. Мы цяпер былі звязаны з Вялікай зямлёю надзейнай двухбаковай сувяззю. Мяне выклікаў Лук'янчык і перадаў цікавыя данясенні, з якіх трэба было зрабіць допіс, кароткія фельетоны ў газету. У нас цяпер матэрыялаў ставала. Адно што паперы было не заўсёды ўдосталь.

Ад камісара брыгады я ішоў у сваю зямлянку берагам груда. Паднялася ўжо альсовая трава, і навокал была такая духмянасць, што, здавалася, яе не толькі ўдыхаў бы, а піў бы. Задумаўшыся, я не вельмі разглядаўся навокал. І раптам аж спалохаўся: з гушчарыны перада мною паявілася Тамара. Яе вочы чамусьці былі затуманены смуткам.

— Што з вамі, Тамара? — замест прывітання спытаў я.

— Ат, нічога.

— А што ў вас за клопат, калі не сакрэт?

— Я не магу вам гэтага сказаць. Лук'янчыку даўно хачу паскардзіцца.

— На каго?

— Вам нецікава. Вы ўсё роўна не зразумееце.

— Чаму? Хіба я чэрствы?

— Можа, і чэрствы. Мабыць такі чэрствы,— Тамара гэтак зірнула на мяне, што я не мог зразумець, чаго ў тым позірку было больш: любасці ці дакору.

— Чаму вы, Тамара, так зірнулі на мяне?

— Як?

— З дакорам.

— Хіба вы не варты таго, каб на вас так глядзець?

Мы ішлі густым чарналессем. Нідзе нікога не відно было і не чутно. Быццам на свеце не было ні вайны, нічога. Тамара мне расказвала розныя эпізоды. Яна і цяпер, апрануўшыся ў адзенне вясковай маладзіцы, часта хадзіла ў занятыя немцамі вёскі і нават у горад і магла расказваць бясконца, што яна там бачыла і чула. Гэта

мне цікава было слухаць. Але я адчуваў, што дзяўчына нечага хвалюецца, нечага недагаворвае, што ёй хочацца сказаць нешта незвычайнае.

— Ты чэрствы, чэрствы, як леташні акраец. Хіба ты не бачыш, не адчуваеш... Няшчасная я: хто мне любы, той мяне не хоча галубіць, а другі пішчом лезе.

Я стараўся супакоіць дзяўчыну. Узяў яе пад руку, правёў далонню па распатланых валасах. Яна ішла моўчкі, адно нечага хліпала, быццам яе хто вельмі ўкрыўдзіў. Тамара падняла на мяне вочы і, ужо саромеючыся, сказала:

— Даруйце, Макар Васільевіч, за гэтую мінутную жаночую слабасць.

— Тамара! — ускрыкнуў я.— Вы мне падабаецеся. Але вы не забывайцеся, што ў мяне жонка і сынок ёсць.

— Чаму гэта так на свеце дзеецца,— ужо зусім паспакайнеўшы, пачала разважаць Тамара,— той, да каго тваё сэрца горнецца, не хоча на цябе глядзець... От ты баішся ўзяць грэх на сваю душу перад жонкаю, перад сынком. А ён жа не баіцца, хоць у яго не адзін сынок, а трое.

— Хто гэта ён?

— Ды гэты ж Кульбіцкі. Я ад яго ўратавацца ніяк не магу. Ужо колькі разоў наважвалася ісці да камісара і расказаць яму сваю крыўду. Але неяк сорамна. От то ж і тады, як ты мяне сустрэў у зямлянцы, я прыйшла да Лук'янчыка скардзіцца на Кульбіцкага. Ну, проста ён мне быту не дае. Сляпіцаю лезе ў вочы і душу.

Я не ведаў, што мне параіць дзяўчыне. Але Тамара страпянулася, і я ўбачыў перад сабою партызанскую разведчыцу, вытрыманую, нязломную. Я нават здзівіўся такому раптоўнаму пераўвасабленню чалавека. Больш Тамара не выказвала гэтак адкрыта сваіх пачуццяў да мяне. Але я бачыў, як ёй добра было, калі мы, седзячы поплеч, пісалі матэрыялы, вычытвалі карэктуру нашай газеткі. Яна неяк асабліва ўважлівая была да кожнай маёй заўвагі, хацела ўсё ведаць, ва ўсім памагчы мне, і гэта мяне радавала. Я ўжо нават казаў ёй, што як скончыцца вайна, Тамара абавязкова пойдзе працаваць журналісткай.

Нам асабліва цікава было пісаць пра Яўсея Самасейку. Стары сядзеў у нашай зямлянцы і, пасміхваючыся, расказваў:

— От як яно было, мае дзеткі...

...Гебітскамісар фон Клібэ толькі што вылузаўся з мяккай і цёплай пасцелі і хадзіў па вялізным кабінеце,

мякка шлёпаючы пантофлямі па бліпічастым і коўзкім паркеце. Ён ужо колькі разоў загадваў, каб не націралі так паркету, а то як абуецца ў боты на скураной падэшве, дык ходзіць як па лёдзе, баючыся пакаўзнуцца і ўпасці. Распарадзіўся быў заслаць паркет вялізным дыванам, але паявілася столькі молі, што давялося той дыван скачаць у трубку і выкінуць у кладовую. Ды, зрэшты, без гэтых дываноў і гігіенічней.

Колькі ні прымаў самых рашучых мер фон Клібэ для таго, каб знішчыць партызан — пасылаў цэлыя эсэсаўскія дывізіі з танкамі, самалётамі і гарматамі,— але ўсё марна. Колькі падрыхтавана ўжо было пераможных рэляцый на імя гаўляйтара Беларутэніі, што партызаны канчаткова знішчаны; але не паспеюць адаслаць тыя рэляцыі, як дзе-небудзь, нават тут, у самім горадзе, партызаны дадуць сябе знаць, ды так, што ніяк нельга ўтаіць. Даходзяць і да гаўляйтара фон Кубэ весткі. Ды і як не дойдуць, калі цэлыя эшалоны з жывой сілай і тэхнікай ляцяць, як у бездань, калі гараць склады, узлятаюць у паветра бензасховішчы, адпраўляюцца на той свет верныя служкі фюрэра, на якіх спадзяваўся, што яны навядуць тут парадак.

Не так даўно на нарадзе беларускіх нацыяналістычных дзеячаў, на якой быў і фон Клібэ, па прапанове самога гаўляйтара Кубэ было прынята рашэнне паслаць да самога фюрэра дэлегацыю ўдзячных за вызваленне беларусаў. Быў зацверджан і склад самой дэлегацыі. У яе ўваходзіла некалькі нацыяналістычных дзеячаў з Мінска, два селяніны з былых раскулачаных. Знайшоўся і рабочы, які перад самай вайною вярнуўся з адседкі. Былі і прадстаўнікі мастацтва: паэт, нейкая хрыпатая спявачка і кампазітар. З гэтае нагоды паэт дзён пяць не браў у рот нічога хмельнага і склаў тэкст велічальнай песні, а кампазітар паклаў яе на музыку. Але гэтага ўсяго мала было. Гаўляйтару карцела паслаць у падарунак вялікаму фюрэру што-небудзь матэрыяльнае, рэчавае, каб яно заўсёды нагадвала яму, што ў яго ёсць верны сябра і паплечнік па барацьбе гаўляйтэр Беларутэніі Вільгельм фон Кубэ. Фон Кубэ загадаў сваім падначаленым знайсці што-небудзь такое, што ўзрушыла б, узрадавала вялікага фюрэра. Гебітскамісар фон Клібэ, як верны памочнік і паплечнік гаўляйтара, наматаў сабе гэта на вус, і, мабыць, хочучы выслужыцца перад начальствам, распарадзіўся знайсці падарунак, варты самога фюрэра.

Гебітскамісар сядзеў, разваліўшыся ў мяккім крэсле, як у пярэднім пакоі пачуўся званок. «Хто гэта так рана?» — падумаў Клібэ. Ён быў яшчэ не ў форме, і яму не хацелася нікога прымаць. Але не паспеў ён і падумаць добра, як расчыніліся дзверы кабінета і афіцэр гестапа рыжы Глюке ускінуў над галавою руку.

— Хайль Гітлер!

Глюке еў вачыма фон Клібэ. Пад пахаю левай рукі ён трымаў нешта загорнутае ў газету і перавязанае шпагатам.

— Хайль! — млява падцягнуўшыся ў крэсле, адказаў гебітскамісар.

— Мой экселенц, дазвольце паказаць.

— Што гэта?

Гестапавец хуценькімі рухамі развязваў шпагат і вылушчваў з паперы цёмна-карычневы бюст. Фон Клібэ глядзеў на бюст і нічога не разумеў.

— Што гэта?!

— Бюст!

— А вы ведаеце, чый гэта бюст?

— Мой экселенц,— не на жарт спалохаўся Глюке,— вы загадалі знайсці падарунак фюрэру.

— Вы пры сваім розуме?! Гэта ў падарунак фюрэру?!

— Не, не, мой экселенц! Гэта я капаўся ў сховішчах тутэйшага музея і знайшоў гэты бюст.

— Навошта вы яго сюды прынеслі?

— Паказаць вам, як ён зроблены.

Мабыць, толькі цяпер да фон Клібэ трошкі дайшло, для чаго прынёс гэты бюст Глюке.

— Зірніце, як ён зроблены,— ставячы бюст на стол, казаў гестапавец.— Гэта рабіў сапраўдны мастак. Падзівіцеся на вусы: кожная валасінка ў іх відаць. А вочы як жывыя.

Бюст стаяў на краі стала, і фон Клібэ з гестапаўскім афіцэрам, панагінаўшыся, разглядалі кожную рысачку яго.

— Я даведаўся, дзе жыве майстар, які рабіў гэты бюст.— Глюке выняў з кішэні блакнот і прачытаў: — «Яўсей Самасейка, вёска Дабралес». Сам паеду да яго. Калі не захоча, дык сілаю прымушу зрабіць гэтакі ж бюст нашага дарагога фюрэра.

— Вы малайчына, Глюке; я ведаў, што на вас заўсёды можна паспадзявацца,— забыўшыся на нядаўні гнеў, хваліў гестапаўца гебітскамісар.— Толькі вы не баўцеся.

Сёння ж едзьце туды. А цяпер вазьміце сякеру і пасячыце гэты, каб ніхто і це пабачыў яго,— загадаў Клібэ.

— О не, мой экселенц... Я вазьму яго з сабою. Калі той Самасейка будзе выкручвацца, казаць, што ён не ўмее, дык я яму пакажу гэты, прыгражу расстрэлам. Нідзе не дзенецца, зробіць. Яшчэ лепшы за гэты...

Глюке ўзяўся запакоўваць бюст у тую самую паперу, з якой ён толькі што вылушчыў яго.

— Чакайце, чакайце,— спыніў яго фон Клібэ.— Гэта можа парвацца.

Гебітскамісар збегаў у спальню і прынёс прасціну. Загарнулі бюст і завязалі шпагатам. Глюке спытаў:

— Дазвольце ісці?

— Так, так, жадаю поспеху. Толькі глядзіце не нарвіцеся на партызан.

— Не нарвуся, мой экселенц. Я туды паслаў ужо сваіх людзей. Яны там усё расчысцілі.

Да Клібэ вярнуўся добры настрой. Такому падарунку гаўляйтар, ды і сам фюрэр, вядома, будуць рады, а значыцца, і на яго, Клібэ, упадзе кропля іхняй вялікай ласкі. Малайчына гэты Глюке. Даўмеўся ж! Трэба будзе гэта адзначыць яму. Такі падарунак яшчэ наўрад ці хто падносіў фюрэру. Дармо што ён не сам, Клібэ, паднясе яго фюрэру. Яго паднясуць удзячныя беларусы. Але ж фюрэр даведаецца, што паднёс яму не хто іншы, як ён, яго верны і паслядоўны ўсюды і ва ўсім фон Клібэ. Адно от толькі забыў загадаць Глюке, каб ён пасля таго, як той штукар зробіць бюст, забіў яго. Але Глюке здагадлівы, сам даўмеецца гэта зрабіць.

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ганс Глюке лічыў себя знаўцам мастацтва. З дзяцінства ён імкнуўся да ўсяго прыгожага, незвычайнага. Сам маляваў, ляпіў з гліны конікаў, пеўнікаў, звяркоў. Але стары бацька, заняты бюргер Фрыдрых Глюке, сказаў сыну, каб ён і не думаў пра гэтыя штучкі. Перад ім развінаецца вунь якая перспектыва, і не канечне яму цешыць сваё блазенскае самалюбства гэтай рознай непатрэбшчынай. Няхай мае клопат да гаспадаркі, і на яго век хопіць і дастатку, і ўсяго. Калі Ганс паступіў у юнгенбунд, бацька не пярэчыў. Гэтак Глюке малодшы стаў заўзятым фашыстам. У 1933 годзе, калі штурмавікі грамілі чырвоных і юдаў, ён не забываў пра сваю прыхільнасць да мастацтва. Дом старога Фрыдрыха Глюке стаў як бы

філіялам музея: на сценах віселі карціны, на падстаўках стаялі бюсты і нават чучалы птушак. Усё гэта панасцягваў Ганс Глюке з кватэр тых людзей, якіх заганялі за калючы дрот канцэнтрацыйных лагераў. Так што нельга было сцвярджаць, што ў Ганса Глюке не было ніякага густу да мастацкіх рэчаў. У Ганса, калі можна так сказаць, быў прыроджаны густ да мастацтва, і ён гэтым нават ганарыўся перад сваімі паплечнікамі-эсэсаўцамі. Ужо адсюль з Расіі, Ганс паслаў некалькі пасылак з арыгінальнымі рэчамі.

Каторыя з яго сяброў пасылаюць усялякую непатрэбшчыну — розныя транты. Ён — не! Ганс пасылае тое, што потым, калі ўціхамірыцца свет, будзе цаніцца ўдубальт. О, Ганс ведае: мастацтва ніколі не старэе, яно перажывае саміх людзей, яно лашчыць позіркі і сэрцы і ніколі не падае ў цане.

Так што Ганс Глюке недарма лічыў сябе не якім там дылетантам, а сапраўдным знаўцам мастацтва. Але тое, што Гансу кінулася ў вочы нават з першага позірку ў хаце Яўсея Самасейкі, ён ніяк не спадзяваўся ўгледзець тут, у гэтай глухой лясной беларускай вёсцы. Чыстая палавіна Яўсеевай хаты была спрэс застаўлена выразанымі з дрэва жывёлінамі. На лаве за сталом на покуці пад абразамі, як жывы, стаяў на ўвесь натуральны рост баран. Статуэткі коней, кароў і нават свіней каторыя былі прымацаваны маленькімі цвічкамі да сцен, а каторыя стаялі на нагах. Нават вазонніцы, у якіх лапушыліся вогнікі, герані і фікусы, былі незвычайныя — на іх нешта мудрагелістае было павыразана. На адмысловых падстаўках стаяла і некалькі людскіх постацей. Гэта былі ўсе барадатыя, як і сам гаспадар, мужчыны.

Глюке як зірнуў на ўсё гэта, дык яму прыйшло ў галаву: добра было б усё гэта разам з дзікунскім жытлом перавезці ў Германію. Гэта быў бы такі музей, якому б магла пазайздросціць уся цывілізаваная Еўропа. Дзіва што пазайздросціць: там жа нідзе не знойдзеш пад адным дахам такога дзікунства і такога таленту. Але Гансу нельга было забывацца на тую мэту, якая прывяла яго сюды у лесавую глуш.

Якраз у той момант, калі ўвайшлі ў хату няпрошаныя госці, стары Яўсей сядзеў за сталом і падсілкоўваўся халоднай бульбай з кіслым малаком. Угледзеўшы цэлую світу немцаў з пісталетамі і аўтаматамі, стары ўстаў з-за

стала і па-старэчы прыгорблена выструніўся, як салдат перад начальствам, і гэтак стаяў.

— Ты ест гаспадар усяго гэта?

— Я, паночку.

— А хто ест майстар?

— Я, паночку.

— О, гут, гут! Вы сапраўдны мастак, у вас у руках золата.

Яўсей зірнуў на свае рукі і толькі цяпер угледзеў, што ён як чэрпаў кіслае малако драўлянай лыжкай, гэтак яна і засталася ў яго руцэ.

— Не, паночку, гэта не золата, а лыжка.

Глюке хацеў вызверыцца на згорбленага старога, апранутага ў сялянскі шарачок, але ўспомніў, дзеля чаго прыехаў сюды, і адразу прыкінуў сабе, што творы мастацтва пад прымусам не ствараюцца, яны з'яўляюцца вынікам натхнення. Значыць, каб гэты стары дзікун зрабіў бюст фюрэра як мае быць, з ім варта абыходзіцца як мага ласкавей, хоць бы да той пары, пакуль ён не зробіць работу.

— Рукі залатыя, кажу я,— паправіў сябе Глюке.— О, каб гэта дойчлянд, мелі б багацця во гэтак,— Глюке на ўсю шырыню разняў рукі, паказваючы, колькі б меў багацця Яўсей.— Нямецкі народ умее цаніць талент.

— Аге ж, аге ж, можа і ўмее,— згаджаўся стары.

Глюке міргнуў падначаленым, і яны адразу ж узяліся распакоўваць тое, што было загорнута ў бялюткую прасціну. Самасейка ўгледзеў бюст, які выразаў ён гады чатыры назад, сам спалатнеў, як тая прасціна.

— О, работа алес гут,— хваліў Ганс Глюке.— Вы, гросэ фатэр, сапраўдны майстар. Немцы шанавайт такіх, як вы. Віла майт на беразе мора. У вас будзе ўсяго, усяго многайт.

Яўсей хацеў адмовіцца ад сваёй работы, але ўгледзеў у правым куточку падстаўкі выпаленыя драцяным прутком свае ініцыялы.

— А гэта што, ваш эмблем? — спытаў Глюке.

Яўсей канчаткова зразумеў: адмаўляцца ад таго, што ён зрабіў гэты бюст, ніяк нельга. Афіцэр, мабыць, бачыў такія ініцыялы і на іншых яго работах.

— Аге ж, гэта маё прозвішча,— прызнаўся стары.— Гэта ж калісь я сам узышоў, як гэтая макаўка-самасейка, вырас, адцвіў, а цяпер от і асыпаюся ўжо. У зямлю гляджу.

— Не варт, не верт, гер мастак. Вам будзяйт ганарар, слава, вас чакае капітал. О, маркі! — Глюке разняў рукі, як бы хочучы паказаць, што Яўсея чакае цэлы ахапак марак.

— Дык хто мне іх столькі дасць? — асмялеў трошкі Яўсей.

— Я, я давайт. Толькі от,— Глюке адшпіліў планшэтку і выняў з яе складзены ўчацвёра белы аркуш. Разгарнуў яго, і Яўсей угледзеў партрэт Гітлера.— Выраж такога, як гэты,— Ганс паказаў рукой на партрэт фюрэра.— Рыхтык такога.

— Вочы, пан афіцэр, нядобра ўжо бачаць.

— Трэба, каб бачыт. Капітал во поўны кішэнь,— Ганс паказаў на кішэні свайго мундзіра.— Фюрэру падарунак ад вайсрусіш. Зразумейт? Гэта ж вялікі гонар выпадайт табе.

— Зразумеў, пане афіцэр.

— Згодзен?

— Згодны. Што ж ты зробіш. Мастак павінен усё рабіць, што яму выгадна.

— О, гут. Зээр гут. Майстар, мастак не палітышэ. Палітышэ сам сабе, а майстар сам сабе. О, гут, гут! — яшчэ раз выказаў сваё задавальненне Ганс Глюке і кінуў вачыма пад лаву. Там ляжала сякера. Зранку Яўсей калоў дровы і, прышоўшы снедаць, паклаў пад лаву.

— О, гут,— беручы сякеру і прабуючы пальцам вастрыню яе ляза, казаў Глюке.

Стары спалохаўся, падумаўшы: «З гэтымі фашыстамі не жартачкі — от возьме і аддатне сякераю галаву». Але Глюке не замахнуўся на старога. Ён паставіў на падлогу бюст, які прывёз загорнутым у прасціну, прымераўся секануць яго сякераю. Але не секануў, а звярнуўся да гаспадара:

— На, рубайт,— аддаў Глюке гаспадару сякеру,— шпек і яйкі смажайт. Кантракт заключайт.

Яўсей неяк бязвольна секануў бюст па галаве, але дрэва было ўсохлае і не паддалося.

— Сілы няма выцяць як след.

З гаспадаровых рук узяў сякеру адзін з тых, што прывалакліся з Гансам, і на ўвесь мах гэтак секануў, што бюст распалавініўся. З шаленствам ён пасек яго на кавалачкі.

— Шпек, яешня смажайт,— загадаў Яўсею Глюке.

Самасейка выйшаў з хаты і крыкнуў з гарода старую.

— Ідзі, Марфа, пашукай якіх яек ды сала, хай іх чэрві ядуць, няхай іх паразрывае,— сказаў стары жонцы.

З Яўсеевай хаты заказчыкі выехалі надвячоркам, дамовіўшыся, што прыедуць забіраць работу тыдні праз тры. Яўсей стараўся вытаргаваць у Ганса хоць бы месяцы якіх паўтара часу, але той ні блізка не згаджаўся.

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

Ганс Глюке са світай эсэсаўцаў затрымаліся ў дарозе. Чортведама дзе гэты Дабралес: ехалі, ехалі, пакуль даехалі, дык і прымерклася добра. Да таго ж дзень быў пахмуры, і Глюке добра нават не мог разгледзець работу. Адно зірнуў на валасы: яны былі зачэсаны гэтак жа на прабор, як у жывога фюрэра. І, галоўнае, Гансу падабалася тое, што, здавалася, кожная валасінка ў тым напуску, які спадаў на лоб і які быў так характэрны для натуры, відна была, як жывая. Зноў-такі вочы ў глыбокіх вачніцах, здавалася, аж свяціліся. Далей Глюке і не разглядаўся, бо недзе за вёскай пачулася страляніна. Глюке схапіў у бярэма загорнуты ў прасціну бюст, і ўся зграя заспяшалася да машыны. Начаваць тут не выпадала. Гаўляйтар загадаў бюст даставіць неадкладна. Зноў жа гэтая страляніна.

Колькі разоў ужо з рэзідэнцыі фон Клібэ званілі ў гестапа: дапытваліся, дзе падзеўся Ганс. Дазваніліся ў суседні гарадок, і гаўляйтара запэўнілі, што Глюке жывы і дужы. Ад'ютант фон Клібэ перадаў загад гебітскамісара, каб Глюке, нікуды не заязджаючы, вёз бюст проста ў рэзідэнцыю.

Клібэ вельмі нецярпелася: было ўжо дамоўлена з гаўляйтарам, у які дзень і час ад'едзе ў Берлін дэлегацыя «ўдзячных беларусаў», вызначана нават праграма яе гасцявання ў сталіцы райха.

Нарэшце такі... Нарэшце такі дзверы залы расчыніліся насцеж, і Ганс Глюке — яго многія ведалі — прынёс нешта загорнутае ў прасціну. За ім хуценька прабег фон Клібэ. Ён быў у парадным мундзіры, пры ўсіх чатырох жалезных крыжах і іншых рэгаліях. Гаўляйтар паказаў Глюке, дзе паставіць тое, што ён прынёс, і гестапавец паставіў бюст на край стала на прасцэніуме. Святла ў зале было не дужа багата: гарэлі толькі насценныя бра, разліваючы па сталы, засланыя цёмна-зялёным сукном, таямнічы паўзмрок. Ганс Глюке спачатку адкрыў галаву, і ўсе па адной прычосцы пазналі фюрэра і запляскалі ў далоні. Фон Клібэ сам крыкнуў:

— Хайль Гітлер!

Прысутныя тройчы праскандавалі: «Хайль!» — і запляскалі яшчэ мацней у далоні. Нарэшце прасціна спаўзла ўся, і прысутныя ўгледзелі бюст фюрэра. У цьмяным паўзмроку ён здаўся ўсім надзіва падобным. Нават сам гебітскамісар, які глядзеў зблізку, не заўважыў нічога. Бюст як бюст. Прысутныя пачалі соўгаць крэсламі. Мабыць, кожнаму карцела падысці бліжэй, паглядзець на фюрэра, а можа, нават і рукой дакрануцца. Фон Клібэ, мусіць, хочучы паказаць сваю знаходлівасць, прадэманстраваць перад тымі, хто сабраўся тут, сваю адданасць фюрэру, загадаў:

— Святло!

Вокамгненна ў залу як бы хто невідочны, з усіх бакоў, лінуў святло. На прасцэніум, дзе стаяў бюст, быццам хто навёў пражэктар, упаў залаты сноп і гэтак высвятліў твар фюрэра, што ўсе адразу знямелі, стараючыся адвесці вочы ад яго, бо яны бачылі тое, на што ні ў якім разе нельга было глядзець. Ніжняя частка твару неяк адмыслова, так што на першы погляд і не заўважыш, была скасавурана. Зубы, хоць іх і не вельмі відно было, угадваліся ў воўчым вышчары. Фон Клібэ не адразу спахапіўся: ён стаяў збоку, глядзеў на бюст з профілю, і толькі ўгледзеўшы, што ўсе як бы застыглі, анямелі ад нечаканасці, сам зірнуў у твар скульптуры. Адвіслыя шчокі заторгаліся, чырвоны твар спалатнеў, і ён закрычаў як сам не свой:

— Святло! Святло! Марш усе!

З пякельнай цемры залы, пераварочваючы крэслы і сталы, збіваючы адзін аднаго з ног, госці вышчэмліваліся праз адзіныя дзверы. Яны чулі ненатуральны, азвярэлы крык гаўляйтара:

— Павесіць! Павесіць неадкладна!

Чулі і не ведалі, каго павесіць: можа, усіх тых, хто быў запрошаны на агледзіны; і таму, падмінаючы пад ногі другіх, кожны стараўся як мага хутчэй уцячы адсюль. Адзін, мабыць, Ганс Глюке ведаў, каго трэба павесіць, бо калі ён не павесіць Яўсея Самасейку, майстра з далёкай беларускай вёскі, дык наўрад ці яму самому знасіць галаву — увесь гнеў гаўляйтара можа зрынуцца на яго. Глюке з усіх ног кінуўся да машыны.

. . . . . . . . . . . . . . . . .

Атраду «Смерць фашызму», які дыслакаваўся не дужа далёка ад Дабралеса, была пастаўлена задача сустрэць як мае быць тых карнікаў, якія, відаць, захочуць адпом-

сціць Яўсею Самасейку за здзекі з фюрэра. Сам майстар з жонкаю быў ужо ў нас, у лесе... Атрад на ўсіх дарогах, што вялі да Дабралеса, зрабіў засады. Партызаны цярпліва чакалі, каліналучацца фашысты пад камандаваннем Ганса Глюке.

Гестапаўскі афіцэр распрацаваў план аперацыі па знішчэнню старога так, быццам ён збіраўся па меншай меры ў паход супроць цэлага злучэння партызан. З самага світання на некалькіх машынах выехалі карнікі. Ганс Глюке і вяроўку прыхапіў: абавязкова яму самому хацелася павесіць старога. Але не даязджаючы кіламетраў пятнаццаць да Дабралеса, карнікі трапілі ў такую пастку, з якой ні адзін не вырваўся. Ганс Глюке, каб не трапіць у рукі партызан, пусціў сабе кулю ў лоб. Большасць фашыстаў, што ехалі з ім, таксама належылі галовамі. А вунь два гестапаўскія чыны сядзяць у нашай рэдакцыйнай зямлянцы і спавядаюцца. Мусіць, спадзяюцца на нашу літасць. Сядзіць тут і Яўсей Самасейка. Ён аднаго з гестапаўцаў пазнаў: той самы рыжы чорт, які пасек бюст. У мяне ў зямлянцы і Тамара. Вылупленымі ад здзіўлення вачыма глядзіць на яе паліцэйскі з Дабралеса Кандрат Перагуд і ціхенька сам сабе кажа:

— Бач, якая ты пляменніца, каб жа я ведаў...

Тамара чуе гэта і адказвае яму:

— А я от ведаю, хто ты...

Я дапытваю немцаў, паліцэйскіх, запісваю ўсё... Што пойдзе ў газету, а што і ў блакнот, які ўжо ў мяне аж распух ад фактаў і эпізодаў.

## «ЖАЛЕЗНЫ КАНЦЭРТ»

Ахова чыгункі ў немцаў была глыбока эшаланаваная. Перш за ўсё на самой чыгунцы, на лясных участках, абапал расцerабілі лес, спадзеючыся, што ні адна душа не пройдзе незаўважанай. Нарабілі дзотаў, накапалі акопаў, па якіх сядзелі ўзброеныя аўтаматамі, кулямётамі і мінамётамі палявыя часці. Відаць, фашысты лічылі, што ахова чыгункі гэтак жа важна, як і пярэдні край самога фронту. Ды і не дзіва: чыгунцы, якая ішла паўз наш гарадок, праз нашы лясы і звязвала захад краіны з яе поўднем, дзе цяпер адбываліся нечуваныя бітвы, нямецкае камандаванне надавала асаблівае значэнне, як адной з

галоўных транспартных артэрый. Наша разведка даносіла, што чыгункаю адзін за адным ідуць эшалоны танкаў, жывой сілы, зброі і боепрыпасаў.

З Цэнтральнага штаба партызанскага руху быў атрыманы загад, у якім вызначаўся дзень, калі па ўсіх акупіраваных мясцінах партызаны павінны выйсці на чыгунку і наладзіць «жалезны канцэрт». Было назапашана для «канцэрта» толу, мін, усялякага іншага ладунку.

На нарадзе камандзіраў атрадаў наш камбрыг выказаў меркаванне, што добра было б падарваць чыгуначны мост. Але немцы па абодва бакі моста паставілі доты і нават дзве малакаліберныя гарматы. Так што, ідучы на мост, трэба было загадзя спадзявацца на значныя ахвяры. Некаторыя камандзіры атрадаў прапаноўвалі ўзяць мост штурмам. Але камбрыг, добра падумаўшы, не згадзіўся, бо гэта каштавала б партызанам многа крыві. Было прынята рашэнне: атрадам разгрупавацца на шырокім фронце і падарваць, калі не кожны пралёт дваццаціпяцікіламетровага ўчастка, дык ва ўсякім разе знявечыць чыгунку так, каб фашысты не маглі на скорую руку аднавіць яе. Кожнаму атраду былі вызначаны ўчасткі. Было прадугледжана і тое, што некаторым атрадам давядзецца прабівацца да палатна чыгункі з боем.

Лук'янчык сустрэў мяне пасля нарады. Сур'ёзны, заклапочаны, ён некуды кіраваўся з зямлянкі.

— А, дружа, здароў,— угледзеўшы мяне, павітаўся камісар.— Ну, як жыццё-быццё?

— Ды так сабе,— адказаў я.

— Цяпер, братка, табе сапраўдная, як ты кажаш, работка знойдзецца. Так што збірайся і ты на «канцэрт».

— На які?

— На «жалезны». Будзем даваць немцам на чыгунцы.

— Ёсць збірацца! — па-салдацку адказаў я.

Гэта камісарава паведамленне мяне ўзрадавала і ў той жа час нечым засмуціла. Недзе ўсярэдзіне шчымліва заторгалася трывожная жылка. Я не веру, што ёсць людзі, якія без трывогі, без боязі ідуць на рызыку смерці. Кожны баіцца яе, кашчавай. Уся, відаць, справа ў тым, як у каго гэта боязь выяўляецца: у аднаго яна выліваецца ў панічны страх, у другога ў гнеў — і тады нараджаецца бясстрашнасць. Не баяцца ж смерці можа толькі той, хто больш за смерць баіцца самога жыцця.

Я ўвайшоў у атрад «Смерць фашызму», якім камандаваў былы дырэктар школы Аляксей Самапал. Чалавек

ён быў разважлівы і ніколі не кідаў свайго атрада на скрут галавы. Кожная аперацыя ў яго была прадумана і распрацавана да самых драбніц. Ён ведаў усіх сваіх людзей гэтак, мусіць, як некалі ведаў вучняў школы, і не толькі ў твар, але і характар, схільнасці і звычкі кожнага. Нас ён прыняў без асаблівай ахвоты. На мяне і на Куксёнка Самапал, мабыць, глядзеў як на лішні груз. Часам жа бывае так, што от чалавек нясе ношку, і хоць яна нялёгкая, аднак уцягнецца і нясе. Але варта дадаць да гэтае ношкі яшчэ хоць адзін кілаграм, і ў чалавека падломяцца ногі. Такім лішнім кілаграмам, мабыць, і здаліся мы з Куксёнкам камандзіру атрада. Перад выступленнем у дарогу ён асабліва ўважліва аглядаў наша ўзбраенне, боекамплект, недатыкальны запас яды. У гэтага чалавека ўсё было прадугледжана, нават і такія выпадкі, калі хто-небудзь з партызан можа адбіцца ад атрада і астацца адзін сярод лесу.

Выступалі ўночы, разлічваючы на світанні рынуцца на чыгунку, аглавушыць яе ахову і, зрабіўшы сваю справу, на дзень адысці ў лес. Ішлі баявым маршам, наперадзе дазоры, разведка. Былі таксама бакавыя і тыльныя дазоры. Так што ўвесь атрад не мог адразу наткнуцца на фашыстаў. Калі сустрэнуцца значныя сілы гітлераўцаў, дык атрад паспее прыняць баявыя парадкі і здолее даць бой. Ішлі ціха. Камандзір гневаўся нават, калі ў каго бразгацела зброя. Дарога тут была знаёмая. Ад лагера да чыгункі было кіламетраў пятнаццаць. Па дарозе былі і лясныя сёлы, але мы іх абыходзілі.

Ад неспрактыкаванасці ў далёкай хадзе, а можа, і ад слабасці ў нагах я часта спатыкаўся і ледзь не падаў. Кожны раз мяне падхопліваў Куксёнак, які ўсю дарогу ішоў побач са мною крок у крок.

Пад раніцу, калі за нашымі спінамі рэдкай сінявой пачаў фарбавацца край летняга неба, мне неяк зрабілася лягчэй, ногі як бы адышлі ад стомы і я адчуў сябе дужэйшым.

Пад расцяробы абапал чыгункі мы падышлі ўжо на самым світанку. Залеглі ў гушчары чарналесся. Мясцовасць тут была нізкая і калі б гэта было вясною ці позна ўвосень дык давялося б, напэўна, купацца. Але лета высушыла прычыгуначныя балачыны, і на іх можна было цяпер ляжаць. Візуальным наглядам высветлілі, дзе ахова. Гітлераўцы абсталявалі кулямётнае гняздо каля невялічкага мастка. І хоць у іх быў не дужа вялікі сек-

тар абстрэлу, усё ж кулямёт быў кулямётам і яго агонь нанёс бы нам нямала страт. Яго трэба было знішчыць, але знішчыць так, каб не вельмі ён нас даняў. Па чыгуначным палатне хадзілі парныя патрулі. Мабыць, таму, што на гэты ўчастак чыгункі яшчэ ні разу не было нападу, патрулі неслі службу не дужа пільна. Ніхто з іх не пачуў і не заўважыў, як наш атрад падышоў пад самую чыгунку і залёг на краі расцяробу.

З данясенняў разведкі мы ведалі, што і на другім баку насыпу ў фашыстаў таксама былі агнявыя сродкі. Камандзір рашыў дачакацца, калі патрулі адыдуцца як далей ад трубы, знячэўку рынуцца на іх і, магчыма, нават без страляніны паскручваюць ім рукі. На кулямётнае гняздо павінна было напасці група разведчыкаў на чале з Галадушкам. Для падрыву рэек былі вызначаны штурмавыя групы па два-тры чалавекі. Астатнім ставілася задача абараняць падрыўнікоў. Сігналам для пачатку штурму павінна было паслужыць трохразовае зязюльчынае «ку-ку».

Выблііснула ўжо добра і сонца, выпарваючы з травы расу і сцелючы па пізінах дымок туману. З бліндажа адзін за адным з ручнікамі выбягалі ў трусах і майках гітлераўцы. Метраў за дзесяць ад насыпу ў іх, мабыць, быў выкапаны калодзеж, і яны бегалі да яго ўмывацца. Умыўшыся, учатырох фашысты сталі на ранішнюю зарадку. У гэты самы момант і пачулася «ку-ку». Хлопцаў нашых як ветрам падняло на ногі, і кожны з іх рынуўся на сваю цэль. Варожы кулямёт паспеў толькі агрызнуцца кароткай чаргой. Тыя, што займаліся зарадкай, пападымалі рукі. Без асаблівага вэрхалу ахова была знята, і хвілін праз дваццаць пачуўся той самы «жалезны канцэрт». Выбух за выбухам скаланалі зямлю і паветра. Асабліва быў моцны выбух на мосце: там узарвалася фугаска. За якую паўгадзіну ўчастак чыгункі быў нашчэнт знявечаны.

Мы з Куксёнкам ляжалі, навёўшы на чыгунку рулі аўтаматаў. Страляць не давялося, бо ніхто і па нас не страляў. Але, мабыць, наш «жалезны канцэрт» слухалі не толькі мы, бо недзе далёка з боку горада пачулася страляніна. Відаць, фашысты спахапіліся, што праваронілі. Камандзір атрада даў загад адыходзіць. Першымі адыходзілі штурмавыя групы. Мы аставаліся прыкрываць пазіцыі.

Здавалася, усё абышлося добра: ад чыгункі мы адышліся кіламетра з паўтара. Раптам палянка, да якой мы

наблізіліся, заляскатала кулямётным агнём, над галовамі ў нас заскуголілі міны. Памкнуліся ад палянкі ўправа, але там наткнуліся на шчыльны агонь аўтаматаў. Гітлераўцы, мабыць, спахапіліся пасля нашага «жалезнага канцэрта» і наважылі нам даць бой на знішчэнне там, дзе ніхто іх не мог чакаць. Куды ні падаваліся, адусюль нас рэзалі агнём, і ён быў такі інтэнсіўны, што можна было меркаваць: акружылі нас не карнікі, а нейкая палявая часць. Можа, нават з тых, што ехалі ў эшалоне па чыгунцы і затрымалі нашы выбухі.

Камандзір атрада ліхаманкава шукаў якога рашэння: мы былі акружаны з усіх бакоў, адно толькі з балота ніхто не страляў. Відаць было, што гітлераўцы наважылі загнаць нас у балота, у дрыгву. Але яны не ведалі аднаго, што тое балота, якое было паказана на карце як непраходнае, мела свае сцежкі-дарожкі, якія заўсёды выводзілі добрага чалавека на сухое, да чалавечага жытла. Не ведаў гэтага і камандзір атрада — ён быў не з тутэйшых і ніколі тут не хадзіў. Затое ведалі партызаны, якія былі самі з Дабралеса і яшчэ ў маленстве пасвілі на гэтым балоце кароў і вышныпарылі кожны троп на ім. Аднак жа да таго месца, па якім можна было перайсці балота, трэба было прабіцца з боем: каса чарналесся, пераважна альшэўніку і вербалоззя, уразалася ў балота, і з яе можна было выйсці на праходныя сцежкі. І на гэтай касе былі немцы, хоць, відаць, не так многа, як з іншых бакоў. Камандзір прыняў рашэнне імітаваць бой за дарогу, быццам мы хочам прабіцца цераз яе, а тым часам асноўны ўдар нанесці на касу і расчысціць сабе шлях.

Лясны бой завязаўся не на жарт. Дайшло нават да гармат з нямецкага боку. Узнялася такая траскатня, быццам нейкая невідочная магутная сіла ламала і крышыла стогадовыя дрэвы, і яны, стогнучы, падалі на зямлю, скаланаючы яе. Атрад пакрысе падцягваўся да касы. Там ужо закіпеў бой. Адстрэльваючыся ад гітлераўцаў, мы з Куксёнкам дзе беглі, а дзе і паўзлі. Ціўкалі кулі, упіваліся ў дрэвы. Пачулася «ўра». Гэта нашы пайшлі ў атаку на касу. У гэты момант Куксёнак ненатуральна ўзмахнуў рукамі і ўпаў на імшарыну, застагнаўшы так, што я, хоць і быў воддаль ад яго, пачуў.

— Што з табой? — падбег я да Куксёнка.

— Не ведаю. Нешта вельмі балюча выцяла вось тут,— Куксёнак паказаў рукою на бядро левай нагі. Я нагнуўся і ўгледзеў скрываўленую калашыну салдацкіх штаноў.

— Бярыся за мяне,— закамандаваў я.

Куксёнак правай рукою абхапіў маю шыю і паспрабаваў устаць, але як толькі абапёрся на левую, нема закрычаў і асунуўся на зямлю.

Я хуценька распароў нажом левую калашыну і ўгледзеў на бядры тры кулявыя раны. У мяне быў індывідуальны пакет, і я як умеў убінтаваў бядро.

— Бярыся за мяне, я панясу.

— Не трэба, Макар, не трэба. Ратуйся сам. Мне канцы ўжо тут.

— Бярыся! — крычу я.

Аднак Куксёнак бавіўся. Ці ён зусім знепрытомнеў ад болю, ці што з ім, і я, узваліўшы яго на спіну, панёс, не думаючы нават хавацца ад куль, якія ціўкалі наўкол.

— Макар, кінь мяне, усё роўна ты не выратуеш. Ратуйся хоць сам,— стогне на спіне ў мяне Куксёнак.

— Маўчы,— загадваю я яму і бягу, бягу, колькі ёсць сілы і змогі, да сваіх. Нашы прабіліся ўжо на касу. Яны ўгледзелі мяне з цяжкай ношкаю, і колькі чалавек падбеглі на помач. Падбег і камандзір.

— Аляксей Іванавіч,— прастагнаў паранены, угледзеўшы камандзіра,— пакіньце мяне тут, усё роўна вы мяне не вынесеце. Няхай я адзін загіну, а інакш праз мяне загінуць усе.

Самапал на момант задумаўся. Зірнуў на ўсіх нас, мусіць, хочучы на тварах знайсці нейкае нявыказанае рашэнне, кінуў вачыма на наваколле і, спыніўшы позірк на зялёнай выспачцы ўскрай балота, сказаў:

— Як жа цябе аднаго тут пакінуць. Гэта ж на верную смерць.

Відно было, што камандзір пакутліва думаў, што рабіць з чалавекам.

— Таварыш камандзір,— звярнуўся я да Самапала,— дазвольце мне астацца з Куксёнкам. Адзін ён можа загінуць. Ён вельмі слабы, шмат крыві страціў.

— Не трэба, не трэба,— слаба запратэставаў Куксёнак.

— Аставайся,— згадзіўся камандзір.— Мы пастараемся забраць вас адсюль.

Куксёнка аднеслі на зялёную выспу. Там аказалася добрая схованка пад вываратнем старога дуба. Партызаны развіталіся з намі, і мы асталіся з вока на вока з невядомасцю і небяспекай. Доўга яшчэ чуўся бой. Потым

страляніна сціхла. Немцы, мабыць, схапіліся, што партызаны некуды зніклі, і здымаліся з пазіцый.

Куксёнак стагнаў, войкаў. Нешта мармытаў, трызніў. Я прыслухоўваўся, хацеў што-небудзь разабраць з яго трызнення і адно ўлавіў словы:

— А я, дурны, думаў... А я, дурны, думаў...

Што ён «дурны думаў», цяжка было зразумець. Мне балюча было глядзець на чалавека, як ён жахаўся, кідаўся, і я нічым не мог суцішыць яго боль. Успомнілася, як сам быў амаль у такім стане ў тым густым альшэўніку над Дняпром. Але ў мяне хоць ногі былі цэлыя і я мог ісці.

Каб трохі збіць гарачку ў Куксёнка, я прыкладаў мокрую ашмоціну да лба, і тады паранены не так стагнаў. На момант да яго вярталася прытомнасць, і ён, дыхаючы мне ў твар гарачым, казаў:

— Макар, пакінь ты мяне або прыстрэль. А сам ідзі да сваіх. Ідзі... Ты малады. Табе жыць трэба. Каб ты ўсё ведаў, ты б мяне абавязкова прыстрэліў.

— Што ты пляцеш, дурны чалавек. Будзеш жыць. Будзеш жыць, ды яшчэ як? — стараюся я заспакоіць параненага. Ён зноў траціць прытомнасць, і я зноў прыкладаю мокрую ашмоціну.

Нанач неба вызарылася, і наступіла цішыня, якое, здаецца, даўно ўжо не было на свеце. Недзе перагукваліся толькі совы ды зрэдку за балотам скуголілі сабакі. Мабыць, тут недалёка была вёска. Халаднаваты водар паветра добра падзейнічаў на Куксёнка: ён менш стагнаў, менш жахаўся, а потым і зусім змоўк. Я прыпаў вухам да яго грудзей паслухаць, ці дыхае чалавек, і ён прахапіўся.

— Макар Васільевіч, пакінь мяне. Я не варты таго, каб ты праз мяне гінуў,— стагнаў Куксёнак.— От ідзі ўночы і ты дойдзеш да сваіх.

— Перастань! — аж зазлаваў я.— Пацярпі ноч, а заўтра па нас прыйдуць.

Але ні заўтра, ні паслязаўтра па нас не прыйшлі. Розныя думкі чаўпліся ў галаве: думалася, што мо тыя карнікі, якія хацелі акружыць і знішчыць атрад «Смерць фашызму», налучылі на лагер брыгады і мо там немаведама што дзеецца. Учора з таго боку далятала страляніна. Цяперашнім часам і цяперашнім светам усяго можна чакаць. А я не ведаў, не мог прыдумаць, што мне рабіць з Куксёнкам. Яму станавілася ўсё горш і горш. Нага апухла,

а ў мяне нават не было чым перабінтаваць. Я ўжо зняў сваю споднюю кашулю і, добра выпаласкаўшы ў ручаіне, што працякала непадалёку ад нашай выспы, высушыў на сонцы і парваў на шматкі, каб было чым перабінтоўваць Куксёнкавы раны. Як толькі браўся я за гэтую работу, параненцы стагнаў, крычаў. І от акурат у часе такой аперацыі маё вуха ўлавіла трэск ламачча. З радасцю надзеяй, што гэта не хто іншы, як нашы прыйшлі і шукаюць нас, я падскочыў на ногі і ўгледзеўся ў той бок, адкуль чуўся трэск. Перш за ўсё воку кінулася аўчарка. Яна бегла наперадзе, нешта абнюхвала, цахлела языком і аж папіsквала. За ёй ішло чалавек пяць немцаў. Аўтаматы ў іх былі напагатове. Я як стаяў, гэтак і ўпаў з ног. Не таму, што дужа спалохаўся. Не, страху чамусьці не было.

— Аркадзь,— звярнуўся я да Куксёнка,— што будзем рабіць: немцы:

— Дзе?

— Ідуць сюды.

Куксёнак памкнуўся падняцца і паглядзець з-за выварагня, але нага, мабыць, вельмі забалела, і ён цяжка перасмыкнуў тварам.

— Біцца будзем! Не здавацца ж нам на пакуты,— прастагнаў Куксёнак.

У нас было ўсяго па адным дыску патронаў. Быў яшчэ пісталет, і Куксёнак папрасіў:

— Дай мне пісталет. Калі што, дык я апошнюю кулю сабе. А ты двума аўтаматамі адбівайся.

— Сабака сюды бяжыць. Знойдзе нас.

Я ўжо навёў аўтамат на сабаку. Аставалася толькі націснуць на спускавы кручок. Але ў мяне хапіла вытрымкі не націснуць. Сабака пацахлеў, пабегаў, падняў заднюю нагу на кусцік, і яго паманілі да сябе гітлераўцы, якія разлегліся ў траве пад дрэвамі. Сабаку ўзялі на павадок. Я не спускаў вачэй з немцаў. Яны падсілкоўваліся: елі хлеб, кансервы. Мне гэтак хацелася паласнуць па іх з аўтамата! Але развага брала верх над жаданнем: калі я і заб'ю каторых з іх, дык не ўсіх жа. Яны дужыя, сытыя, добра ўзброеныя і, вядома, аднаго мяне адолеюць. Зноў жа такі сабаку ўзялі на прывязь і наўрад ці знойдуць нас.

Аднак усё скончылася добра: немцы папалуднавалі і пайшлі ў напрамку чыгункі. Калі іх стала ўжо не чутно і не відно, я пайшоў на тое месца, дзе яны палуднавалі.

Думаў, мо што знайду там есці. Тым запасам сухароў, што быў пры мне, я стараўся хоць трошкі падтрымаць сілы Куксёнка. Размочваў іх у вадзе і даваў яму. Сам першыя два дні нават нічым не аграшыўся. І дзіва: мне чамусьці не хацелася есці. Мабыць, нечуванае ўзрушэнне глушыла ўсё. Але цяпер, калі я нагледзеўся, як жэрлі немцы, пагнала сліну. Прынёс толькі парожнюю бляшанку з-пад кансерваў. У Куксёнкавай кішэні знайшліся запалкі. Я расклаў невялічкае цяпельца і пайшоў шукаць шчаўя. Шчаўя не знайшоў. Затое налучыў на сямейку грыбоў. Якія прыгожыя, быццам загарэлыя на сонцы, былі баравікі! Трошкі назбіраў і ягад. Іх не данёс да стойбішча. Голад не даў утрымацца ад спакусы. Грыбы трэба было зварыць ці сасмажыць у чым-небудзь. А ў чым жа іх зварыш? Хіба што ў бляшанцы.

З бляшанкай пайшоў да ручаіны набраць вады. Толькі нагнуўся, каб зачэрпнуць, як пачуў нейкае шамаценне ў кустах вербалозу. Што за чорт, што тут можа шамацець? Мо які звярок ці птушка? Ускінуў вочы і ўгледзеў у кустах белабрысую галаву.

— Стой! Стой! — закрычаў я, наводзячы аўтамат.

— Дзядзечка, не страляйце! — ледзь не закрычаў спалоханы голас.

— Ты хто?

— Я свой!

З гушчару выйшаў хлопчык гадоў дванаццаці.

— А я думаў, вы які немец.

— Я не немец. А ты хто?

— Я тутэйшы. З Церабееўкі. От недалёчка за балотам вёска наша. Я яшчэ ўчора вас бачыў, але пабаяўся падысці. Дык мяне другі раз мама паслала, каб я дагледзеўся, хто вы за такі.

— А немцы ёсць у вашай Церабееўцы?

— Не, няма. Адно паліцаі.

— Хадзі сюды, хлопча,— пазваў я.— Як цябе завуць?

— Макаркам.

— О, дык ты яшчэ цёзкам мне даводзішся.

Хлопчык падыходзіў баязліва. Яго, мабыць, палохаў мой несамавіты выгляд. Нарэшце ён асмеліўся і пайшоў са мною на выспу. Куксёнак як пачуў гаворку, усхапіўся: мо думаў — не інакш я немцаў прывёў. Угледзеўшы вясковага хлопчыка, паспакайнеў. Нават нейкае падабенства ўсмешкі з'явілася на яго твары.

— Што ж мне з вамі рабіць? — заклапочана спытаў

хлопчык.— Я думаў, што вы хадзячы, то пайшлі б ды перахаваліся пакуль у нас. Наша хата канцавая, а адрына дык у самым лесе стаіць.

Я хацеў змайстраваць насілкі, але не было чым ні высекчы якіх палак, ні звязаць іх, каб пакласці і несці Куксёнка. Спрабавалі ўдвух узяць на рукі і несці, але Куксёнку вельмі балела і ён стагнаў. Макарка з недзіцячым клопатам падумаў трохі і сказаў:

— Не, дзядзечкі, вы пабудзьце тут, а я хуценька збегаю, і мы прыйдзем па вас удваіх з мамаю.

Сказаў і адразу знік у гушчэчы вербалозу. Я дык не мог апамятацца: можа, лепш было не адпускаць ад сябе гэтага хлопчыка. Хто яго ведае, што за ён. А што, калі возьме ды навядзе паліцаяў? Я выказаў гэтую думку Куксёнку, і ён таксама занепакоіўся.

Хлопчыка доўга не было. Я ляжаў воддаль ад вываратня з двума аўтаматамі напагатове і чакаў, што вось-вось павінен хто з'явіцца.

— Мамачка, яны тут. Блізенька ўжо. Пад вываратнем.

Я выйшаў насустрач жанчыне з хлопчыкам. Яна ўгледзела мяне і аж загаласіла:

— А галубочкі мае! А няшчасненькія! А можа, дзе і майму Андрэю так давялося!

Жанчына была здагадлівая: яна прынесла нам па добрай лусце хлеба і па кавалачку сала.

— Наце, хоць трошачкі падсілкуйцеся. Мне Макарка сказаў, што на вас страх глядзець.

На імгненне мне сорамна стала, што я блага падумаў пра хлопчыка і пра яго маці.

Жанчына прынесла з сабою дзяружку, за ражкі якой былі завязаны вяроўкі. Адарка — так звалі жанчыну,— разаслаўшы дзяружку, сказала пакласці Куксёнка, і я ў думках пахваліў жанчыну за знаходлівасць. Асцярожна, каб не ўразіць Куксёнкавы раны, мы паклалі яго на дзяружку. Жанчына стала спераду і перакінула цераз галаву вяроўку на плечы. Гэтак жа зрабіў і я ззаду. Рушылі ў дарогу. У мяне на шыі вісеў яшчэ аўтамат. Куксёнкаў аўтамат узяў Макарка.

Несці было нялёгка. Я не паспяваў за спорным крокам Адаркі. Спатыкаўся на купіны і ледзь не падаў. Прайшлі з паўкіламетра, і ногі мае аж падломліваліся.

— Давайце трошачкі адпачнем,— запрасіўся я,— ношка вельмі цяжкая.

Адарка спачувальна зірнула на мяне і сказала:

— Які ж з вас воін, калі вы пад гэтакай ношкай угінаецеся. Здароўе, мабыць, вайна адабрала?

Пасядзелі мы якіх з хвілін дзесяць.

Я зноў мерыўся ўзяць дзяружку, каб несці Куксёнка, але ні рукі, ні ногі мяне не слухаліся. Падбег Макарка:

— Дзядзечка, давайце я.

Хлопчык спрытна перакінуў цераз галаву повад і гэтак жа спрытна, як яго маці, засігаў за ёй. Я ледзь паспяваў за імі ўлегцы.

Пакуль мы прыйшлі да канцавой Адарчынай хаты, ужо быў добры вечар. Агнёў у вёсцы не было нідзе відно: ці людзі маскіраваліся, ці наогул не запальвалі святла. Куксёнка занеслі ў хату і паклалі на палаці. Адарка хуценька нагрэла вады і ўзялася прамываць раны. Куксёнак стагнаў, енчыў, асабліва калі Адарка аддзірала прыкарэлыя мае павязкі.

— Макарка, збегай нарві трыпутніку,— закамандавала гаспадыня. Я глядзеў на жанчынін лекарскі клопат, на яе ўвішныя, здавалася, гаючыя рукі, і мне рабілася сорамна, што я сам не мог так дагледзець Куксёнкавых ран. У Адаркі таксама не было бінтоў, і яна дастала з куфра мяккі белы ручнік. Тым часам хлопчык прынёс зялёнага лісця. На падаконніку ў вазоне рос альяс. Адарка адарвала ад яго два лісты, разлупіла іх напал і прыклала да ран. Паверх наклала лісты трыпутніку, і мы ўбінтавалі Куксёнкаву нагу.

— Гэты трыпутнік з цела боль выцягвае. Яму абавязкова палегчае, от пабачыце,— запэўнівала мяне гаспадыня.

Пасля перавязкі Куксёнак супакоіўся, як бы ўпаў у бяспамяцтва. Гаспадыня глядзела на яго, і слёзы пабліскваліі на вачах.

— Можа, дзе і з маім чалавекам от так жа.

— Дармо вы плачаце,— стараўся суцешыць я жанчыну,— калі ён у войску, дык там лягчэй. Там калі і параняць, дык дактары і шпіталі ёсць, там усюды свае людзі.

— Я ўжо вочанькі па ім выплакала, выгледзела. Усё як палонных гналі, дык хадзіла глядзець, ці няма яго там. А тут от гэты яшчэ неслух,— паказала жанчына на хлопчыка,— усюды нос свой ткне. Адзін раз у немцаў з матацыкла нешта такое ўкраў, што хацелі застрэліць. Ледзьве ўпрасіла тых нячысцікаў.

— Я ўсё роўна ў партызаны пайду,— азваўся пакрыўджана Макарка.

— Так, цёзка, табе яшчэ рапавата. Трэба маму слухаць.

— Дык чаго я сяджу, от бо дурная,— спахапілася гаспадыня,— сама не галодная, забылася і на людзей. А вы пакуль умыйцеся,— прапанавала мне.— Макарка, палі дзядзьку.

Я падышоў да люстэрка, якое вісела на сцяне, і зірнуў на сябе. Я сапраўды быў страшны: апроч таго, што зарос барадой, дык яшчэ ўмурзаны. Блішчалі адно вочы ды бялелі зубы.

Пачаў распранацца, каб умыцца, і гаспадыня заўважыла, што на мне няма нацельнай сарочкі.

— А божачка мой, гэта вы і без сарочкі?

— На бінты парваў.

Хлопчык мне шчодра паліваў з карца, і пакуль я пырскаўся над цэбрам, Адарка павесіла на спінку крэсла палатняную сарочку. Я не ведаю, як хто, а я вельмі добра адчуваю сябе, калі надзяваю на голае цела сялянскую саматканку. Няхай яна і не мяккая, але яна неяк прыемна казыча цела, нечым прыемным пахне і, здаецца, вяртае цябе да дзяцінства, якое, мабыць, кожнаму сталаму чалавеку заўсёды малюецца ва ўяўленні як даўно чутая, непаўторна прыгожая казка.

Тым часам гаспадыня паставіла на стол гарлач малака і запрасіла мяне на пачастунак. Куксёнка яна карміла ў пасцелі. Я еў малако з трошкі прычарсцвелым хлебам, і ад мяне на момант аддалілася і вайна, і ўсе скрухі. Здавалася, быццам назаўсёды я пасяліўся ў гэтай хаце і от гэтак па-гаспадарску буду садзіцца за стол тры разы на дзень. Буду тупаць па двары, даглядаць жывёлу, вазіць і калоць дровы, і быццам бы больш нічога і не трэба было б мне, апроч гэтага ціхага сялянскага клопату. Гаспадыня вывела мяне з гэтага одуму:

— А начаваць пойдзеце ў адрыну. Там у нас застаронак ёсць дык Макарка зрабіў ужо вам схованку і пасцель намасціў. А то па хатах швэндаецца螺 рознае свалаччо: паліцаі ды старасты. Усё яйкі ды шпек збіраюць для сваіх гаспадароў, каб яны халеру якую знайшлі.

Гаспадыніны словы як бы падагналі мяне, і я заспяшаўся есці, вядома, стараючыся не вельмі паказваць гэтай добрай жанчыне сваю ненасытную прагавітасць.

У застаронку адрыны было вазы са два сена. Ля самай сцяны Макарка выскуб вялізную нару, усярэдзіне заслаў яе посцілкай. А для таго, каб мы ўначы не замерзлі, гас-

падыня дала нам стары кажух. Куксёнак ужо не траціў прытомнасці. Адно чалавек бедаваў, як яму жыць давядзецца без нагі. Як мог я заспакойваў яго.

На раніцу прыйшла да нас гаспадыня. Яна войкала, божкала, гледзячы на нас:

— От, не кажы ты, свет настаў: добрым людзям трэба ад сонца хавацца. Калі гэта кончыцца калатня на гэтым свеце?

Каб я ведаў, каб я мог уцешыць добрую жанчыну, сказаць, калі іменна кончыцца гэтая калатня, я сказаў бы ёй, але гэтага ніхто не ведаў. Не ведалі, можа, нават і тыя, хто кіраваў бітвамі. Таму я сказаў Адарцы:

— Скончыцца, скончыцца, не век жа цягнуцца вайне.

— Каб жа бог даў.

Я намякнуў, каб нам выбрацца з гэтага застаронка на белы свет, да сваіх. Але жанчына жахнулася ад гэтага майго намёку.

— Куды ж вы пойдзеце на згубу? Ды і як жа вы з ім пойдзеце? Пабудзьце трошкі, можа, паспакайнее, а то немцы быццам пашалелі. Чутно, там і вёскі паляць. Людзей вешаюць. Дзякаваць богу, нашу Церабееўку яшчэ ліха мінае. Гэта яны, мабыць, за тую чыгунку ўсё з людзей спаганяюць?

А калі гаспадыня пайшла ў хату, я пачаў распытваць у Макаркі, ці ведае ён Дзямідавы груды.

— Чаму не ведаю. Я ўвесь лес ведаю.

— А далёка яны ад Церабееўкі?

— Як вам сказаць... Не вельмі.

— Дарогу ведаеш туды?

— Ведаю.

— То от што, хлопча, як сабе хочаш, а сёння ж дастаў нас туды. Мы не можам тут ляжаць.

Хлопчык на момант задумаўся, а потым ажывіўся:

— Я ўночы запрагу каня і завязу вас. Дарогу добра ведаю. З завязанымі вачыма магу патрапіць. Адно трэба матцы сказаць.

Адарка як ні супраціўлялася, як яна ні даводзіла, што Куксёнку трэба паляжаць хоць з тыдзень які, я настаяў на сваім. Звечара Макарка прывёў у адрыну каня, мякка намасціў сенам воз, і перад світаннем, развітаўшыся з гаспадыняй, падзякаваўшы ёй за добры клопат і турботы, мы рушылі ў дарогу.

Макарка вёз нас ціхенька, здавалася, нават колы не

сакаталі. Ён стараўся так ехаць, каб колы каціліся не па каляінах, а па мураве.

Калі ўжо добра ўднела, нам перагарадзілі чарогу два чалавекі з аўтаматамі.

— Стой! Хто вы? — спыталіся яны.

Я даводзіў, што мы з брыгады Лук'янчыка, але мне ніводнага не верылі. Забралі нашы аўтаматы і падагналі фурманку да штабной зямлянкі. Яшчэ па дарозе я ўгледзеў Шкарубскую.

— Тамара! — закрычаў я.

Дзяўчына азірнулася на покліч, але спачатку, мабыць, не пазнала. Угледзеўшыся, кінулася да мяне:

— Макар, любы, гэта ты? А мы ж цябе тут пахавалі ўжо. Думалі, што пазабівалі вас ці забралі ў палон немцы.

Тамара не ўтрымалася, пацалавала мяне ва ўсіх на віду. Мужчыны, якія вялі наш воз, сумеліся. Цяпер яны пераканаліся, што мы сапраўды з іхняй брыгады.

Камісар сустрэў нас невымоўнай радасцю. Ён абнімаў мяне, як брата ці сына.

— Малайчына! — толькі ўсяго і сказаў.

Я расказаў, як усё з намі адбылося, што мы і жывыя асталіся дзякуючы вось гэтаму хлопчыку, майму цёзку, які глядзіць дапытлівымі вочкамі на камісара брыгады. Відно было, што Макарку рупіла нешта сказаць, але ён не хацеў перабіваць радасці нашай сустрэчы. Выбраўшы момант, нарэшце ўсё-такі спытаў у камісара:

— Дзядзька камандзір, а мне можна астацца ў вас за партызана?

— Ты ж малы яшчэ,— сказаў камісар.

— Дармо што малы. Я страляць умею і з аўтамата, і з вінтоўкі.

— А ў маці ты папытаў дазволу?

— Маці дазволіць. Яна харошая.

— Дык от калі яна харошая, дык і ты будзь з ёю харошы. А як ты толькі нам спатрэбішся, дык мы цябе знойдзем. А цяпер пакуль едзь, браток, дадому. Едзь!

Макарка, пакрыўджаны, зірнуў на мяне, быццам папрасіў падтрымкі.

— Сапраўды, цёзка, едзь дадому. Правільна дзядзька камандзір табе кажа. Маці пільнуй, памагай ёй, а калі нам што трэба будзе ад цябе, дык я ведаю, дзе цябе шукаць.

Камісар загадаў партызанам накласці на Макаркаў воз сушняку. Калі часам па дарозе сустрэнецца які пячысцік, дык каб хлопчык мог сказаць, што ездзіў па дровы.

Мы з Куксёнкам доўга развіталіся з нашым выратавальнікам Макаркам.

Брыгадны доктар агледзеў Куксёнкаву нагу і сказаў, што яго трэба абавязкова адправіць на Вялікую зямлю ў шпіталь, і неадкладна. Звязаліся па рацыі з прыфрантавым аэрадромам, які абслугоўваў партызанскія злучэнні. Паабяцалі, як толькі змеркнецца, прыслаць «У-2».

Куксёнка загадзя даставілі на аэрадром. Ён ляжаў усхляваны, узрушаны. На вочы ў яго набегла сляза, і ён сказаў:

— Даруй, Макар Васільевіч, што я пра цябе блага думаў. Гэта ўсё Кульбіцкі. Гэта ж ён паслаў мяне віжаваць за табою, быццам ты падасланы фашыстамі.

Хоць я і здагадваўся пра такую ролю Куксёнка, але тое, што ён сказаў, глыбока раніла.

## ПАСЫЛКА ГНЕВУ І ПОМСТЫ

Пасля перажытых на той выспе пакут, калі ўжо ўсё ўлеглася, мне вельмі захацелася пайсці да камісара брыгады і прачытаць яму тое, што я напісаў пра Яўсея Самасейку. Выбраўшы момант, я і падаўся да Лук'янчыка.

— Дазвольце, таварыш камісар?

— Калі ласка! Калі ласка!— з гасціннасцю адгукнуўся Лук'янчык.— Сядай, сядай, ты ж у нас цяпер герой.

— Ну які я герой? — сорам пякануў мне твар.

— А хіба гэта не гераізм: рызыкаваць сваім жыццём, каб ратаваць таварыша. Гэта, братка, вышэйшая форма нашага савецкага гуманізму і гераізму.

— Я прыйшоў, таварыш камісар, калі вы дазволіце, прачытаць вам тое, што напісалі са Шкарубскай пра Яўсея Самасейку. Яшчэ перад «жалезным канцэртам» хацеў прачытаць... Дык от цяпер паслухайце.

— З прыемнасцю,— згадзіўся Лук'янчык.— Давай толькі выйдзем на паветра. Дзень, бач, які гожы.

Мы прыleглі ў засені на расцеленай плашч-палатцы. Камісар, не перабіваючы, слухаў. Здавалася, ён сам перажываў тое, што давялося перажыць старому Яўсею.

— Гэта, братка, добра, што ты праявіў ініцыятыву і напісаў. А адкуль ты пра ўсё гэта даведаўся?

— Тамара Шкарубская расказала, ды і сам Яўсей.

— От бачыш, як добра выходзіць. Дык ты і пра сябе напішы.

— Што вы, Пятро Максімавіч, я ж нічога такога не зрабіў.

— Як не зрабіў? Я ж табе сказаў, што гэта вышэйшая форма.

— Вы не дужа хваліце мяне. З перахвалу нос магу задраць,— не даў дагаварыць я Лук'янчыку.

— Ну, то як сабе, братка, хочаш. А вось пра адну нашу дзяўчыну ды пра чэхаў трэба абавязкова напісаць. Гэта маё табе заданне.

— Пра якую дзяўчыну?

— Пра Веру Скідан. Яна, мабыць, яшчэ і зямлячка твая. Ты ж, здаецца, з Верамеевіцкага раёна?

— Так, з Верамеевіцкага.

— А яна з самых Верамеевіч.

— Дзе яна? — узгарэўся я цікавасцю пабачыць гэтую самую Веру Скідан у надзеі што-кольвек распытаць пра Рагазін. А мо яна што ведае і пра маю Марыльку, і пра бацькоў?

— Яе тут няма. Яна пры штабе злучэння. Але я ўсё ведаю пра яе ўчынак. Ведаю і пра палкоўніка Станіслава Чумічку. Вось слухай...

...Чэхаў і славакаў немцы недалюблівалі. На іх думку, яны былі не дужа надзейныя. Дзе толькі не пабываў сапёрны батальён, якім камандаваў палкоўнік Станіслаў Чумічка! З аднаго бою Чумічка ледзьве вынес ногі: там палавіна салдат і нават афіцэраў як скрозь зямлю правалілася. Батальён атрымаў заданне пад гарадком Навасілем на Арлоўшчыне пракласці праходы па мінных палях: мелася пачацца наступленне. Як пайшлі пракладаць тыя праходы чалавек дваццаць салдат, дык хоць бы адзін вярнуўся, а на світанні гітлераўцы пачалі наступленне і нарваліся на міны. Тады і выклікаў да сябе палкоўніка Чумічку генерал Штрыпке, які камандаваў усім гэтым участкам фронту.

— Вы дармаеды, нахлебнікі! Сядзіце тут на карку нямецкага войска. З вамі трэба няньчыцца, як з дзецьмі, ды яшчэ і пільнаваць, каб не нарабілі якога глупства.

Выцягнуўшыся ў струнку, Чумічка стаяў перад генералам і не ведаў, чым апраўдацца. Ды калі праўду казаць, ён і не думаў апраўдвацца. Заладзіў і паўтараў адно:

— Вінават, пан генерал. Вінават!

— Што вы мне ўсё: вінават ды вінават. Я сам ведаю, што вінаваты. А ў мяне наступленне сарвалася з-за вашага «вінават».

Чумічка баяўся, што на гэты раз яму так не пройдзе, што яго як камандзіра могуць судзіць. Аднак судзіць не судзілі, а патрымалі тыдні тры батальён на галодным пайку ў армейскім рэзерве, а потым выйшаў загад адправіць яго ў тыл на Беларусь. Трэба сказаць, што самі немцы часам баяліся гэтага тылу больш, як перадавой. На перадавой смерць заўсёды перад табою, уперадзе, а тут хто яго ведае, дзе яна. Таму пасылка ў тыл батальёна, якім камандаваў палкоўнік Станіслаў Чумічка, была не літасцю, дараванай вышэйшым начальствам, а хутчэй за ўсё выяўленнем гневу. Вядома, што і сам палкоўнік не дужа рады быў такой метамарфозе: яго батальён з баявой часці ператварыўся ў тылавікоў, абознікаў. І хоць Чумічка і не рыхтаваў свайго мундзіра пад жалезныя крыжы, усё ж гонар яго як прафесіянала-вайскоўца быў нечым закрануты.

Да станцыі Хвойнае батальён ехаў эшалонам. Дзіўна: салдаты аднекуль ведалі, што ехаць па гэтай лясной чыгунцы ў эшалоне ўсё роўна, што пакласці галаву пад колы цягніка. Гітлераўцы, вядома, не вельмі распісвалі ў газетах пра баі з партызанамі. Яны калі што і паведамлялі, дык хіба толькі ў кароткай хранікальнай форме: разгромлена партызанскае стойбішча, а партызаны ўсе да аднаго знішчаны. Але з вуснаў у вусны ішло зусім іншае: на акупіраванай тэрыторыі немцы як басаном ходзяць па пякельным гарачым прысаку. І гэтая вусна выказаная і перададзеная ад аднаго другому трывога хвалявала і салдат з батальёна Чумічкі. Едучы ў «цялятніку», яны бачылі абапал чыгункі на лясных яе ўчастках расцяробы, бачылі шчэблі згарэлых вагонаў, перакуленыя пад адхоны паравозы; бачылі ля мастоў і віядукаў нямецкія доты, з якіх ашчэрана выглядалі рулі кулямётаў і гармат. Значыць, немцам тут, на гэтай чыгунцы, не вельмі спакойна спіцца.

Парадзелы батальён, ды, уласна кажучы, і не батальён, а можа, ўсяго дзве роты, на станцыю Хвойнае прыбыў у поўным парадку. За ўсю дарогу над ім не прасвістала ніводная куля, і гэта Чумічка лічыў за добры знак.

Ад Хвойнага да Верамеевіч, дзе батальён меўся заняць службу, было якіх кіламетраў трыццаць, а ў эшалоне — усяго тры машыны: адна легкавая, батальённага камандзіра, і два грузавікі-«мерседэсы». У Хвойным палкоўнік Чумічка шукаў якога спосабу даставіць батальён у Верамеевічы, але так і не знайшоў. Давялося начаваць у пералеску на ўскраіне Хвойнага, а потым пешшу дабірацца да Верамеевіч. Дарога няблізкая і нялёгкая, асабліва калі ўлі-

чыць, што салдаты ўсе стомленыя, ды і правіянту ў іх, як той казаў, на адзін кусень. Таму Чумічка і дазволіў салдатам пахадзіць па хатах і пашукаць якой яды. Салдаты сёетое прынеслі: хлеба, варанай бульбы. Адзін ад'ютант Лютамір Грачык прынёс для свайго камандзіра добры кавалак сала і з дзесятак яечак. Грачык увесь прынесены прыпас паклаў перад Чумічкам.

— Пане палкоўнік, от гэта вам.

Чумічка падзякаваў за клопат пра яго і загадаў падсмажыць добрую яечню. Але яшчэ не паспела ўсмажыцца яечня, як палкоўніку далажылі, што салдат Грачык згубіў вінтоўку. Чумічка не стаў есці яечні і адразу ж выклікаў салдата.

— Радавы Грачык, дзе ваша вінтоўка? — грозна спытаў ён.

— Не ведаю, пане палкоўнік. Недзе згубілася.

— А вы ведаеце, што за страту зброі ваеннапалявы суд... пагражае расстрэл.

— Ат, мне ўсё роўна,— махнуў рукой Грачык.

— Што ўсё роўна?

— Там не загінуў, дык тут партызаны ўходаюць.

— Што гэта значыць, радавы Грачык? — ускіпеў палкоўнік.

— Я вінтоўку аддаў жанчыне за сала і яйкі, аддзячыў за добрую душу. У мяне больш нічога не было, каб аддзячыць,— выцягнуўся ў струнку салдат.

— Пайшоў вон! — крыкнуў у гневе палкоўнік і ўзяўся есці яечню.

Чумічку не хацелася пры ўсіх і самому распякацца, і распякаць гэтага дэмаралізатара Грачыка. Падумаў: там ужо на месцы, у тых Верамеевічах, разбярэцца з Грачыкам.

Верамеевічы — невялічкі драўляны гарадок. З поўдня яго аддзяляе ад вялікага свету рачулка-балацянка Рагазінка, за якой няма ні канца, ні краю дрыгвяністаму балоту. На захад ад гарадка было роўнае поле амаль да самага Хвойнага, і толькі з усходу, трошкі не дасягаючы крайніх хат, падыходзіць да гарадка лес. Ва ўяўленні Чумічкі ў гэтых умовах лес быў бадай самым страшным ворагам. З поля партызанам падысці да гарадка не так лёгка, а з балота, бадай, зусім немагчыма. Таму Чумічка распарадзіўся пабудаваць на пясках усходняй ускраіны Верамеевіч сапраўдныя пазіцыі, з бакоў жа несці толькі патрульную службу.

Ад тутэйшага начальніка паліцыі, былога старшыні калгаса Усціма Пачоска, які ў першы ж дзень напрасіў у палкоўніка аўдыенцыі, Чумічка даведаўся, што на гарадок разы чатыры спрабавалі напасці партызаны, але ён, начальнік паліцыі, раскусіўшы загадзя ўсе іх намеры, паралізаваў удары бандытаў. Так што Чумічка зусім заспакоіўся, прыкінуўшы, што тут, удалечыні ад перадавой, можна будзе параўнальна спакойна перасядзець самую калатнечу вайны.

Пасяліўся Чумічка па Загароддзі ў дагледжаным драўляным дамку, з гародчыкам, з вяргінямі і панічамі пад вокнамі. Вокны наглуха зачыняліся нанач белымі пад масляной фарбай аканіцамі. І ўсярэдзіне ў дамку было прыстойна: шчыльная падлога пафарбавана ў цёмна-вішнёвы колер; у зале канапа, круглы стол з чатырма венскімі крэсламі абапал. І галоўнае, што прыводзіла ў захапленне Чумічку, дык гэта сапраўдны рускі тульскі самавар. Чай з яго смачнейшы, чым нават з электрычнага чайніка, ды яшчэ калі самавар грэла не старая гаспадыня, а маладая салдатка Верачка. Пан палкоўнік як угледзеў яе ў першы раз, дык аж вочы свае схаваў: засаромеўся, як маладзён. А яна пеканула яго агністым позіркам. Трошкі грудастая, спраўная маладая жанчына з прыгожым тварам, з белакурымі кучарамі, крыху напушчанымі на шыракаваты лоб, нечым прывабіла не старога яшчэ палкоўніка.

Чумічку адразу ўспомнілася Прага, цвет каштанаў на вуліцах і яго кволая гнуткая Герміціна. О, ён кахаў сваю Герміціну, але гэта, здаецца, было так даўно, што пачало ўжо забывацца. А тут гэтая Вера. А якая яна ласкавая, прывабная. Яна, мабыць, таксама засумавала па мужчынскай ласцы. Мужыка яе, з якім яна пажыла ўсяго з год, на другі дзень вайны забралі па мабілізацыі, і яна асталася ні дзеўкай, ні замужняй. І от цяпер, хоць і неўзаметку, хоць і ўкрадне ад старой свякрухі, падкручваецца да палкоўніка. Ён гэта бачыць: вока і сэрца яго спрактыкаваны.

Аднаго разу, калі ў хаце не было старой, палкоўнік, быццам не саўладаўшы са сваім пачуццём, кінуўся да Веры і нечпадзявана пацалаваў руку. Думаў, што жанчына абурыцца, але яна запалымнела толькі чырванню і ціха спытала:

— Навошта гэта вы, пане палкоўнік, робіце? У вас жа, мусіць, жонка свая недзе ёсць?

Чумічка не ведаў, што адказаць жанчыне. Яму і само-

му трошкі сорамна стала. Сорамна перад Герміцінай. Ён любіў цалаваць жончыну руку, і тое, як ён пацалаваў яе ў першы раз, сярод іншых успамінаў і цяпер астаецца як незабыўнае. Вядома, вядома, у гэтай Веры рука не такая аксамітная, як у Герміцінь. Затое ў гэтай Веры грудзі якія прывабныя. Колькі разоў сама рука цягнулася, ірвалася дакрануцца да грудзей, але нешта яе стрымлівала: усё-такі пачуццё мужчынскай годнасці, галантнасці было ў яго крыві, не тое што ў гэтага начальніка паліцыі Усціма Пачоска. Ён нешта зачасціў сюды. Кожны раз, калі толькі Чумічка быў дома, ён яшчэ здаля заўважаў разлапістую, раскідзістую, п'янаватую паходку галоўнага паліцая. Палкоўніку хацелася замкнуць дзверы і не пусціць. Але гэтага ён не мог зрабіць: у гебітскамісарыяце далі яму цвёрды наказ — не толькі лаяльна супрацоўнічаць з тутэйшымі мясцовымі ўладамі, але і пасябраваць з прадстаўнікамі іх. Усё-такі яны з гушчы жыцця, яны бліжэй да народа, дык праз іх можна неяк падкаціцца і да мясцовага насельніцтва і не толькі пагрозай, але і нечым іншым трымаць яго ў пакоры. І Чумічка цярпеў гэтага начальніка паліцыі. Які ён нявыхаваны, які ён грубы, быццам тое бервяно, якое, нават не акарыўшы, уставілі ў вянец новай хаты, і яно ўсім вочы коле.

У тым, што Усцім Пачосак неакоранае, неабчэсанае бервяно, Чумічка пераканаўся і на адносінах яго да маладой гаспадыні. Кожны раз, як толькі Пачосак заходзіў у хату і там была маладая гаспадыня, ён стараўся яе неўзаметку ўшчыкнуць. Вера чырванела і сварылася, а аднаго разу плюнула нахабніку ў вочы. Чумічку непрыемна было гэтае бачыць. Ён колькі разоў намякаў начальніку паліцыі, што так абыходзіцца з жанчынамі непрыстойна, але той не разумеў намёкаў.

На тым тыдні Чумічка на свае вочы бачыў, як гэты самы Пачосак у сваёй вёсцы Рагазіне ўсцягваў на шыбеніцу нейкага Пракопа Касянка. Як ішлі немцы, аднаногі чалавек не мог уцячы. Здароўе не дазваляла яму пайсці ў партызаны, і ён, хворы чалавек, доўгі час хаваўся і пераходзіўся, пакуль не знайшоў яго начальнік паліцыі. Пачосак удвух з тутэйшым паліцаем Здрокам змайстравалі шыбеніцу і павесілі на ёй аднаногага чалавека. Пад страхам смерці яны забаранілі здымаць і хаваць павешанага. Сам Чумічка дазволіў сялянам зняць і пахаваць нябожчыка.

Чумічку заўсёды, як толькі ён бачыў начальніка паліцыі, прыходзіла ў галаву думка: не той заўзяты католік,

хто нарадзіўся ім, а той, хто выхрысціўся ў каталіка. Ён стараецца быць большым каталікам, чым сам папа рымскі. Так і гэты Усцім Пачосак. Мо за гэта і неўзлюбіў яго Станіслаў Чумічка. Калі прызнацца самому сабе, дык Чумічку і не было чаго вельмі спрыяць гэтым немцам. Адно от так акалічнасці склаліся, што ён стаў камандзірам і трэба было хоць крыху для прыліку нечым паказваць сябе. Хіба каб ён быў фашыстам, дык даравіў бы той выпадак з вінтоўкай? А так ён пастараўся забыцца на яго, і Грачык сабе служыць, як і ўсе салдаты.

Станіслаў Чумічка ўсё часцей і больш задумваўся над сваім месцам у гэтай барацьбе, і чым больш думаў, тым больш прыходзіў да вываду: на ліха яму асабліва выслужвацца, настырняцца з гэтымі рускімі. Ды і ў немцаў справы ідуць не вельмі ладна. На Волзе рускія далі добрага пытлю, пад Растовам, пад Харкавам, ды ці мала яшчэ дзе. Цяпер і ў зацятых фашыстаў няма той упэўненасці, якая была на першым часе. Дык чаго яму, чэху, асабліва старацца? Няхай ён сабе і мае чын палкоўніка. Але куля не глядзіць на чыны. Яна аднолькава валіць і радавога, і генерала. Адно от хіба толькі і паратунак, што ён забраўся ў гэты ціхі балотны куток і тут можа перасядзець самы страх. А гэтая жанчына, гэтая Вера. Яму яе як сам бог паслаў. За апошні час яна з ім стала ласкавая, пакладзістая, аднойчы нават дазволіла пацалаваць у вусны. Быццам электрычным токам працяло яго. Чумічка пастараўся, каб гэты паліцэйскі менш швэндаўся сюды. Калі яму што трэба, дык няхай прыходзіць у камендатуру.

Вера ў апошні час стала нейкая гаваркая. Усё яму расказвае, як жылі да вайны. Хваліць Савецкую ўладу, яе парадкі. Аднойчы ён намякнуў, што гэтак гаварыць з ім небяспечна.

— Вы ж не такі, як фашысты. Вы ж як наш чалавек. Кроў у нас адна, славянская,— адказала Вера.

І Станіслаў Чумічка той раз, забыўшыся на свае чыны, на свой немалады ўжо век, на сваё прызначэнне ў гэтых Верамеевічах, млеў, як хлапчук, у абдымках жанчыны, гатовы на ўсё. Але гэта было толькі адзін раз. Колькі ні дамагаўся палкоўнік паўтарыць тую прыемнасць, можа, нават дабіцца яшчэ большага, Вера, хоць і не адбівалася ад яго, але і не паддавалася дамаганням.

А ў апошні час Чумічка заўважыў нешта дзіўнае ў паводзінах маладой гаспадыні. Па-першае, яна часта пачала знікаць на дзень-два; па-другое, трымаць сябе вельмі ж

нeяк незалежна, быццам яна ўжо, як жанчына, узяла верх над ім. Чумічка дапытваўся, куды знікае Вера, і яна адказвала:

— А што ж мы будзем есці, калі седнем буду сядзець пры вас. Як той казаў, воўка ногі кормяць. Дык я от і хаджу ў вёску па прадукты. Там у мяне цётка, матчына сястра жыве, дык я сяго-таго і дастаю ў яе.

І сапраўды, Вера часам прыносіла аднекуль нават самагонку і частавала яго. Праўда, Чумічка не вельмі кідаўся на гэтае смярдзючае пітво. Аднак ён цаніў сам клопат жанчыны пра яго і прыгубляў чарку, каўтаў адзін які глыток.

Жыццё ў Верамеевічах ішло ціха. І гэтаму радаваўся не толькі Станіслаў Чумічка. Гэтаму радаваўся і Усцім Пачосак. Заслугу ў тым, што партызаны і носа не паказваюць у Верамеевічы, ён браў на сябе: значыцца, яго баяцца. Паліцэйскія ў яго падабраліся як дубы. Пачосак сабраў былых раскулачаных, п'яніц і злодзеяў, розных прайдзісветаў, і яны служылі так, што лепш і не трэба было. Дзе можна было, аб'ядалі і абпівалі людзей, рабавалі іх нажытак і набытак. А што там няхай хто ні кажа: чалавек ёсць чалавек. От жа ўзяць хоць бы яго самога. Хіба ён калі так жыў? Ат, гібеў нават тады, як быў за старшыню калгаса. А цяпер от як жыве. Пакінуў у Рагазіне сваю хату і перабраўся сюды, заняў цэлыя палацы, як у таго калісь пана Кербіча. І ў палацах поўна ўсяго: і прадуктаў якіх хочаш, і вопраткі — жыві сабе анігадкі. Праўда, ён і стараецца рабіць тое, чаго патрабуюць ад яго, і нават тое, чаго не патрабуюць. Узімку са сваімі паліцаямі дапяў аж у суседні Хвайніцкі раён, і добра там яны такі паўціхамірвалі, паўшчувалі тых, хто быў незадаволены нямецкай уладай. Гэтую яго стараннасць аж у гебітскамісарыяце заўважылі. Хіба непрыемна было яму, Усціму Пачоску, атрымаць ад самога пана камісара фон Клібэ на каляды пасылачку. Няхай у той пасылачцы нічога асаблівага і не было: французскія духі, чэшскія цукеркі, цыгары і бутэлька нямецкага рому. Але як усё гэта было запакавана, як паднесена. На фанернай скрыначцы, абгорнутай белым бліскучым цэлафанам, напісана: «Начальніку Верамееўіцкай паліцыі пану Усціму Пачоску за стараннасць ад гебітскамісарыята». І гэтая пасылка прыйшла не па пошце: яе прывезлі два нямецкія афіцэры на легкавой машыне і перадалі з рук у рукі ў кабінеце паліцыі на віду ў паліцэйскіх. Тыя ж аж лопаліся ад зайздрасці. А ён, пачакаў-

шы, пакуль выйдуць афіцэры — пры іх няёмка было асабліва ганарыцца,— на віду ўжо ў сваіх падначаленых аж засвяціўся, як бы казаў: маўляў, служыце і вы так, і вас абавязкова заўважаць. Пра старраннасць Усціма Пачоска пісала нават газета «Новы шлях».

Адным словам, цяперашняе зацішша ў раёне Усцім Пачосак прымаў як вынік сваёй работы, сваёй вернай службы немцам. Ён лічыў, што і партызаны баяцца патыкацца сюды таму, што ведаюць: яго, Усціма Пачоска, не возьмеш голымі рукамі.

Перад змяркаваннем цэнтральнай брукаванай вуліцай Верамеевіч прайшла нямецкая легкавая машына. Прайшла туды, на Загароддзе, і спынілася ля дома паліцыі. З машыны выйшлі два нямецкія афіцэры і пашыбавалі проста да кабінета начальніка паліцыі.

У вялікім пакоі, які Пачосак заняў сабе пад кабінет, начальнік быў не адзін. Усцім наогул не любіў адзіноты: яго кабінет у паліцыі служыў як бы за клуб; тут заўсёды, калі было спакойна ў раёне і паліцэйскія нікуды не выязджалі, рэзаліся ў «казла», а то і ў карты — у падкіднога дурня ці нават у дваццаць адно. Часам да таго загульваліся, што аж браліся загрудкі. На гэты раз гулялі ў «казла». Пачосак стаяў пры стале, як арбітр у гульні.

— Устаць! — скамандаваў начальнік паліцыі, як толькі ўгледзеў, што зайшлі два нямецкія афіцэры.

Паліцэйскія падскочылі, і, абцягваючы вопратку, кожны стараўся набыць як найлепшы выгляд перад начальствам.

— Сядайт, сядайт,— сказаў афіцэр, што быў у пенснэ і з нейкім пакункам пад пахай.— Хто ест начальнік паліцыі Усцім Пачоскяйт?

— Я, ваша...— выструніўся Пачосак.

— Вельмі прыемнайт з вамі пазнаёмайт... Вы сапраўдны...— асекся афіцэр, быццам не знаходзіў слова, якое б выказала, хто сапраўды Усцім Пачосак.— Вы сапраўдны памочнікайт нямецкі камандавання. А яно не забывайт сваіх верных памочнікайт,— і афіцэр перадаў з рук у рукі Усціму трошкі большую і цяжэйшую за тую, што прыслаў яму тады гебітскамісар, скрынку.— Хайль Гітлер! — крыкнуў афіцэр.

— Хайль Гітлер! Хайль Гітлер! — стараліся паліцэйскія.

Афіцэры неўзабаве прыклалі да казыркоў па два пальцы і сказалі:

— Аўфвідэрзэйн.

За вокнамі загурчаў матор, і след афіцэраў прастыў.

Пачосак, варочаючы ў руках пасылку, разглядаючы яе, дзівіўся нямецкай акуратнасці: пасылка была загорнута ў такі ж блішчасты цэлафан, як і тая першая. Усцім не меўся нават яе і распакоўваць тут пры ўсіх. Ён сам сабе падумаў: калі ў пасылцы ёсць якія ласункі, дык гэтая ж гайня расхапае. Хацеў занесці яе дадому і пахваліцца перад жонкаю, перад дзецьмі. Дык не! Дзе ты адчэпішся ад іх: распакоўвай, дый годзе — нам нічога твайго не трэба, проста хочацца паглядзець. Ды, зрэшты, не табе аднаму гэтая і пасылка. Не адзін ты стараўся. Стараліся і мы.

Пачосак паставіў скрынку пасярод стала. Паліцэйскія пасталі наўкруг, паразяўляўшы з цікавасці раты. Усцім злупіў блішчасты цэлафан і нават паглядзеў яго на прасвет. Згарнуў акуратненька і паклаў у кішэню, маўляў, на успамін — на ім жа напісана яго імя і прозвішча. Хацеў голымі рукамі адлупіць вечка скрынкі, але яно было гэтак моцна прыбіта, што паабломваў пазногці і не даў рады адарваць. Шырокія плешачкі цвікоў-ганталёў аж паўядаліся ў тоўстую фанеру. Трэба было чым-небудзь падчапіць само вечка, націснуць — і цвікі вылезуць. Пашарыў вачыма па кабінеце, але нідзе нічога такога не згледзеў. Успомніў, што ў калідоры бачыў уваткнуты ў сцяну стары ржавы нямецкі цясак. Пайшоў па яго. Паліцаі аж пальцамі дакраналіся да скрынкі. Асабліва Леўка Здрок. Мусіць, лічыў, што як бліжэйшы сябра і паплечнік ён мае права на гэтую пасылку, як і сам Пачосак. Увогуле, Леўка не заўсёды быў задаволены паводзінамі свайго сябра. Яшчэ тады ў калгасе ён верхаводзіў і тут верхаводзіць. А хіба ён сам, Леўка, не мог кіраваць гэтай паліцыяй? Вядома, мог бы, невялікая тут штука і розуму не вельмі трэба. Адно лютасці абы хапала. Дык і яе Здрок не пайшоў бы пазычаць. Аднак жа неяк сталася, што і тут, у паліцыі, ён, Леўка, стаў на другі план, і гэта выклікала пэўную нездаволенасць. Праўда, гэтая нездаволенасць не прыводзіла ніколі да канфліктаў паміж начальнікам паліцыі і яго падначаленым Леўкам Здрокам. Ды гэта, уласна, была і не нездаволенасць, а проста нейкая сабачая зайздрасць: аднаму выпала трошкі большая костка.

Усцім забавіўся, шукаючы таго ржавага цесака. Паліцаі аж млелі ад нецярплівасці хутчэй угледзець, што там у той пасылцы. Нарэшце Усцім з усмешкай, якая расцягнулася да самых вушэй, урачыста ўнёс цясак.

— Ну, хлопцы, здымайце шапкі. Я буду вас крапіць, як той поп крапідлам, французскімі духамі,— жартаваў начальнік паліцыі,— і кожнаму дам па зацяжцы гаванскай цыгары. А на большае і не спадзявайцеся, бо ром я і сам люблю.

Усцім падсадзіў цясак пад вечка, але яно не паддавалася. Ён усім сваім цяжарам налёг на рукаяць цесака і ламануў...

Вулічнае акно вылецела з рамай, рассыпаўшы на далоўку калючыя пырскі шкла. На падаконніку скрываўленай галавой на вуліцу павісла тулава начальніка паліцыі. Іншых паліцаяў пазналі хіба толькі па вопратцы. Адзін толькі Леўка Здрок гадзіны паўтары яшчэ пачаўраў. Але не мог ён сказаць ні слова, ні паўслова, што адбылося ў кабінеце начальніка паліцыі. У Здрока адняло мову. Выбух быў такой сілы, што не толькі вулічнае, але ўсе вокны павылятралі. Іржавы нямецкі цясак гэтак уваткнула ў сцяну, што яго ніяк не маглі вырваць. На другі дзень паліцаяў, больш правільна шкуматы іх, пахавалі ў адной яме.

Палкоўнік Станіслаў Чумічка быў вельмі ўзрушаны тым, што адбылося ў будынку паліцыі. Аднак ён не дужа хацеў дашуквацца сапраўдных прычын трагедыі і данёс па начальству, што быццам паліцаі знайшлі нейкую бомбу і п'яныя хацелі разабраць яе, а яна ўзарвалася. Пісаў ён гэта, загадзя ведаючы, што піша няпраўду, бо неўзабаве маладая гаспадыня знайшла, кажа, падаткнутую пад дзверы паперку і падала яе палкоўніку. Той як пачаў яе чытаць, дык аж вочы на лоб палезлі. Вера паглядала за палкоўнікам і не то хвалявалася, не то пасміхалася: нешта незвычайнае было на яе твары.

— Я не добра ўмею чытаць і разумець па-беларуску. Вера, прачытайце, калі ласка.

І Вера прачытала ўголас, нават з інтанацыямі: «З тымі, хто п'е кроў нашага народа, будзе так, як са здраднікам Усцімам Пачоскам. Кроў за кроў, смерць за смерць! Дзядзька Аўдзей».

— Хто такі дзядзька Аўдзей? — дапытваўся спалатнелы палкоўнік.

— Хто ж яго ведае.

— А дзе вы гэта ўзялі? — дробненька калаціліся губы палкоўніка.

— Я ж вам кажу: падаткнута пад сенечныя дзверы была.

— Хто ж падаткнуў?

— Мабыць, партызаны.

— Толькі вы, Вера, нікому ні слова, ні паўслова пра гэтую запіску.

— Што вы, пан палкоўнік, за каго вы мяне лічыце. Каб пра каго іншага, а пра вас я буду маўчаць як рыба. Вы ж наш чалавек.

Апошнія Верыны словы нечым насцярожылі Чумічку.

— Які я гэта ваш чалавек?

— Вы ж не немец які. Вы ж наш, славянін. Чэх. Дык хіба я на вас магу сказаць? Вас і партызаны не зачэпяць, не бойцеся.

— Як гэта — не зачэпяць? А вунь жа начальніка паліцыі зачапілі. Ён жа таксама не немец. Ён жа зусім тутэйшы чалавек.

— Ды ён жа здраднік, а здраднік горш за каторага немца.

— Вунь вы якая! А я і не ведаў, што вы ў палітыцы разбіраецеся. Нашы чэшскія жанчыны толькі і ведаюць адно — моды, а вы вунь што!

— Няпраўда,— запратэставала Вера, быццам палкоўнік абражаў не чэшскіх жанчын, а яе самую.— Няпраўду вы кажаце. Калі ідзе барацьба, дык за моды ніхто не хаваецца — ні чэшкі, ні беларускі. Калі ўвесь народ узяўся за зброю, дык хіба жанчыны ўседзяць склаўшы рукі?

— Вера! Вера! Што я чую, каго бачу перад сабою? — акругліліся ў палкоўніка ад здзіўлення вочы.— Вы ж такая прыгожая, такая пяшчотная жанчына, і навошта вам гэтак гаварыць. Я перастану вас кахаць, калі вы гэтак будзеце гаварыць.

— Пане палкоўнік, каханне каханнем, а нянавісць нянавісцю. Калі б вы былі фашыстам, я ненавідзела б вас. Але вы добры чалавек. У вас славянская душа, я таму і кажу вам гэта, не баючыся. Я ведаю, вы мне нічога не зробіце, нават нікому не скажаце.

— А што, калі вазьму ды і скажу? — лагодна ўсміхнуўся палкоўнік.

— Мяне павесяць. Фашысты не цырымоняцца з тымі, хто іх ненавідзіць. Але я ведаю, вы не скажаце. Вы добры.

Гэта так расчуліла Станіслава Чумічку, што ён, адышоўшы ад таго сполаху, які быў выкліканы запіскаю, наблізіўся да Веры і хацеў абняць яе.

— Не трэба, не трэба, пане палкоўнік. У вас жа жонка, у вас дзеці,— пратэставала Вера.

— Я інакш не магу! Не магу! Я вас кахаю, Вера.

— Не трэба! Не трэба!

Ці было там каханне, ці не — невядома. Аднак паміж Верай Скідан — партызанскай сувязной — і палкоўнікам Станіслававам Чумічкам устанавіліся зусім незразумелыя для самога палкоўніка адносіны. Яна з ім была ласкавая, лагодная. Адно што не дазваляла палкоўніку нічога лішняга. Але ён усё-такі спадзяваўся на гэтае лішняе і, як галантны кавалер, цярпліва чакаў яго. Ён мог бы прыбраць яе да рук і сілай, але такая перамога над жанчынай выглядае па меншай меры брыдка, і Чумічка чакаў мірнае і лагоднае перамогі.

А час ішоў. Бралася ўжо на канец лета. Вера часцей, чым гэта было раней, сыходзіла з дому. Чумічка дапытваўся, куды яна ходзіць, і Вера адказвала, што ўсё да тае цёткі, памагае ёй уходжвацца па гаспадарцы, бо трэба ж неяк жыць, кідацца, а цётка за работу дае хлеб і да хлеба сёе-тое. Чумічка цяпер здагадваўся, чаму ў Веры такія шорсткія рукі. Яна фізічна працуе, і яму на момант стала шкада яе. Хацеў прапанаваць дзяліцца з Верай тым пайком, які яму выдаюць. Але не асмеліўся. Бог ведае што можа падумаць жанчына.

Аднаго разу Вера прыйшла ад цёткі пазнавата, ужо на добрым змярканні. Яна была нечым узрушана і ўсё паглядала на Чумічку, як бы просячы спагады ці падтрымкі.

— Што з вамі, Вера? — трошкі спалохана запытаў Чумічка.

— Што было са мною, тое будзе і з вамі.

— Не разумею, пані Вера... Не разумею, што вы кажаце.

— А от зараз зразумееце,— і Вера рашуча дастала з-за пазухі згорнены ўчацвёра лісток паперы і падала яго Чумічку.— Прачытайце і ўсё зразумееце.

У хаце было цемнавата, і палкоўнік слібізаваў па літарах, не могучы іх звязаць у адно цэлае. Але ён, мабыць, па Верынай узрушанасці адчуваў, што гэтая паперка не зычыць яму нічога людскага. Хваляванне жанчыны, яе ўзрушанасць як бы па невідочных правадах перадаваліся яму. Вера запаліла лямпу.

— Чытайце, чытайце, пане палкоўнік.

Дзекаючы і мекаючы, чалавек чытаў, і па меры таго як ён учытваўся ў словы, твар яго то наліваўся крывёю, то бялеў, як тая паперка, што трымцела ў яго тонкіх пальцах.

— Я нічога не разумею. Не магу зразумець на вашай мове.

— Давайце я вам прачытаю, і вы ўсё зразумееце адразу,— амаль вырвала з рук палкоўніка паперку Вера.— Слухайце... «Паважаны пан палкоўнік Станіслаў Чумічка! Мы ведаем, што вы не фашыст. Ведаем, што ў вашых жылах, у жылах вашых салдат, як і ў нашых, цячэ славянская кроў. Не хочучы яе праліваць, бо яе і так ужо многа праліта, мы і прапануем вам здацца без бою партызанам са ўсёй сваёй зброяй і амуніцыяй. У адваротным выпадку у нас знойдуцца сілы і спосаб, як вас пакараць за здраду свайму народу. Калі вы далучыцеся да нас, дык мы тут, на нашай беларускай славянскай зямлі, будзем разам змагацца і за свабоду вашай Чэхаславакіі. Чакаем вашага адказу і вашых рашучых і беспаваротных дзеянняў. З павагаю да вас — дзядзька Аўдзей».

Вера прачытала і ўтаропіла рашучы, праніклівы і, як здалося Чумічку, нахабны позірк проста яму ў вочы. Ён не вытрываў яе позірку і адвёў вочы ўбок.

— Дык вось хто вы такая!

— Як бачыце, савецкая жанчына, партызанка.

Палкоўнік толькі цяпер заўважыў, што з яго пісталета, які ляжаў на стале, вынята абойма.

— Гэта я на ўсялякі выпадак выняла. Я амаль упэўнена, што вы не будзеце карыстацца пісталетам.

— Вера, гэта ж шантаж...

— Ніякага шантажу, пане палкоўнік, тут няма. Гэта ёсць метад барацьбы за радзіму, за нашу і за вашу.

— Ну, а што, калі я от закрычу?

— Дык і вам жа не паздаровіцца. Але я веру, я ведаю, што вы гэтага не зробіце. Вы чалавек сумленны, сапраўдны чэх. А чэхаў мы лічым сваімі братамі. Дык як жа брат на сястру руку падыме?

Палкоўнік узяў са стала пісталет, пакруціў у руках і звярнуўся да жанчыны:

— Аддайце абойму, я страляць у вас не буду.

Вера аддала. Чумічка зарадзіў пісталет, яшчэ трошкі пакруціў яго і схаваў у кабуру.

— Я, вядома, мог бы з вамі ўправіцца. Але мне няма ніякага сэнсу за гэтых рыжых швабаў рызыкаваць вашым і сваім жыццём. Аднак жа і з тым, што вы прапануеце, я згадзіцца не магу. Я салдат, я ж даваў прысягу.

— Каму прысягу — Гітлеру? Дык якая гэта прысяга! Хіба можна душагубу прысягаць на вернасць? Падумайце, Станіслаў. Я не няволю вас, але спадзяюся, што вы

самі знойдзеце ў сабе сілы і рашучасць парваць з тымі, хто жалезнай пятой стаў на горла вашай краіне і душыць яе.

— Я адразу так не магу. Мне падумаць трэба.

— Думайце, колькі хочаце думайце. Я вам скажу па сакрэту: нашы партызаны даўно б разнеслі гэты ваш гарнізон. Але мы спадзяваліся і цяпер спадзяёмся, што вы знойдзеце ў сабе сілы парваць з гэтымі, як вы кажаце, швабамі і будзеце ваяваць за свой народ, за свабоду, за яго будучыню. Наша армія ўсё роўна разаб'е фашыстаў і фашызм і вашу радзіму вызваліць. Дык як вы зірнеце тады ў вочы сваім людзям?

— Вера, дайце мне падумаць колькі дзён. Трэба мне ўсё гэта ўзважыць. Вы мне такую задачу задалі, на якой галаву можна зламаць.

— Так, вядома, задача нялёгкая.

Вера пагадзілася з тым, што палкоўнік Станіслаў Чумічка няхай падумае. Але яна ўсё-такі і пабойвалася: а раптам ён пойдзе і паведаміць пра ўсё. Першы дзень, калі Чумічка пайшоў у камендатуру, Вера сядзела як на іголках. Падрыхтавалася да ўсяго. Падрыхтавала нават гранаты на выпадак, калі яе прыйдуць забіраць. Асабліва трывожна было на сэрцы ў той час, калі палкоўнік павінен быў вярнуцца са службы. Не адыходзячы ад акна, яна глядзела, і калі ўбачыла, што Чумічка ідзе адзін, на сэрцы адлегла. Жанчына паспакайнела. Сустрэла яго так, як і заўсёды, быццам паміж імі нічога і не адбылося. Чумічка таксама ні словам, ні паўсловам не намякнуў пра ўчарашнюю размову.

На другі і на трэці дзень Вера таксама сядзела дома, як на гарачым вуголлі. Але і на другі, і на трэці дзень палкоўнік вяртаўся адзін і зноў-такі нічым не напамінаў пра тое, што ні яму, ні ёй не давала спакою. Адно Чумічка быў заклапочаны і як бы сам не свой. Дзіва што! Вера разумела яго: яна ж задала яму такую задачу, якую не так лёгка развязаць. Нарэшце на другім тыдні Чумічка, хоць і ведаў, што, апроч іх дваіх, у хаце нікога няма, для большай пэўнасці зазірнуў ва ўсе куткі і шэптам сказаў:

— Вера, я згодны. Але трэба так зрабіць, каб ніхто і не западозрыў. Адно я не ведаю, што мне зрабіць з судэцкімі швабамі. Іх у батальёне чалавек з дзесяць ды афіцэраў, на якіх я не магу спадзявацца, чалавек пяць. А калі выкрыецца, што я здаўся партызанам, дык вы ведаеце, што швабы зробяць з маёй Герміцінай, з маімі дзецьмі? Вы не ведаеце. Вам усё роўна.

— Ведаю. Павесяць. Пастараемся зрабіць так, каб фашысты выдалі вас за героя. Мы з дзядзькам Аўдзеем усё прадумалі. Вось наш план, слухайце: у нядзелю партызаны завяжуць бой з паліцаямі ў вёсцы Катловіца. Яна недалёчка адсюль, кіламетраў якіх з пяць. Там усе паліцаі — нашы людзі. Так што партызаны адно страляніну падымуць. А вы са сваім батальёнам пойдзеце на выручку паліцаяў, і як толькі вы падыдзеце да Катловіцы, партызаны зноў падымуць страляніну, быццам пачнуць з вамі бой.

— А як жа з тымі, што не захочуць здавацца партызанам? — не разумеючы да канца задумы, спытаў палкоўнік.

— А вы іх пакінеце на ўсякі выпадак на ўмацаваных пазіцыях, каб партызаны не прарваліся да горада. А нашы хлопцы зойдуць ім у тыл і накрыюць іх.

— Рызыкоўна! — усклікнуў палкоўнік.— Боязна!

— Ваўкоў баяцца — у лес не хадзіць, кажа наша прымаўка. А калі ўжо вы, таварыш Чумічка, рашыліся, дык няма чаго назад азірацца.

Палкоўніка, мабыць, нішто так не ўразіла, як гэтае Верына «таварыш Чумічка». З момант ён глядзеў на жанчыну здзіўленымі вачыма, а потым сам сказаў:

— Ёсць, таварыш Вера, будзе выканана!

У той жа вечар Вера развіталася з палкоўнікам з надзеяй на хуткую сустрэчу там, у лесе.

Усё адбылося так, як і мелася адбыцца. Як толькі добра развіднела, партызаны брыгады дзядзькі Аўдзея ўзнялі за Катловіцай такую страляніну, што яна была чуваць у Верамеевічах. Палкоўнік Станіслаў Чумічка падняў па трывозе свой батальён. Ненадзейным афіцэрам і судэцкім немцам загадаў астацца ў другім эшалоне на выпадак прарыву партызан да горада, а сам на чале з батальёнам фарсіраваным маршам рушыў туды, на страляніну. Як толькі батальён падышоў да Катловіцы, партызаны імітавалі скарацечны, але зацяты бой, у якім не было ні забітых, ні параненых. Затое на загадзя падрыхтаваных пазіцыях непадалёк ад Верамеевіч, дзе асталіся ненадзейныя ваякі з Чумічкавага батальёна, адбыўся таксама скарацечны, але зацяты бой. Казалі, што пан камендант палкоўнік Штыме да таго нажахаўся, што немаведама як пераскочыў цераз Рагазінку і дні чатыры галодны і халодны хаваўся ў дрыгве балота.

Нельга сказаць, каб Вера Скідан, прыйшоўшы ў брыгаду, не трывожылася, хоць яна была амаль упэўнена, што Станіслаў Чумічка зробіць так, як яны ўмовіліся. Але хто

ведае чалавечую душу, яе таямніцы. І таму, калі Вера ўгледзела Чумічку з паднятымі рукамі, яна кінулася яму на шыю і пацалавала, кажучы:

— Я вас цалую як воін воіна, за вернасць.

Чумічка чырванеў і бянтэжыўся. І не дзіва! Гэта ўсё было так незвычайна...

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

— Вось як яно, братка, адбылося,— канчаючы расказ, зазначыў Лук'янчык.— Адна жанчына з цэлым батальёнам справілася.

— А дзе яна цяпер? — з нецярплівасцю пытаў я.

— Яна мо твая знаёмая?

— Не, я яе не ведаю. Але ж яна, мабыць, ведае падрабязнасці пра дзядзьку Пракопа Касянка.

— А хто ён табе?

— Ён мне мо раднейшы за бацьку роднага. Я хачу ўсё-ўсё пра яго ведаць.

Я расказаў камісару пра дзядзьку Пракопа, і ён выказаў сваё:

— Шкада такога чалавека. Колькі добрых людзей знайшло, ды яшчэ і знойдзе, сабе магілу. Вайна, нічога не паробіш! Але ж вайна мае і іншы бок, як ачышчальная навальніца, выяўляе і змятае ў небыццё розную свалату, розную погань, накшталт таго твайго Усціма Пачоска.

— Каб сустрэць тую жанчыну з Верамеевіч, можа, яна што ведае і пра маю жонку?

— Сустрэнеш, і не толькі яе, але і палкоўніка Чумічку. Яны цяпер нашы суседзі па лесе. А цяпер, братка, спаць. Засядзеліся мы з табой.

— Дабранач,— пажадаў я камісару і пайшоў, поўны ўражання ад расказанага, поўны замілавання да гэтага з выгляду суровага, але шчырага душою чалавека.

## ЗА ЗДРАДУ — СМЕРЦЬ

Нахапілася ўжо і восень. Праўда, яна была без надакучлівай імжакі. Кастрычніцкія дні стаялі цёплыя. Вядома, сонца не гэтак смаліла, як улетку: яно было нейкае халаднаватае, і, здаецца, каб можна было дастаць ды дакрануцца да яго, дык і рукі б не апёк. Не ведаю, як хто, а я люблю восень за яе ціхую задуменнасць, за яе нейкую адметную лагоднасць. Выйдзеш раніцай на поле, зірнеш на пабуцвелы ўжо трохі ржэўнік, а ён увесь як срэбрам

затканы. Гэта кросны бабінага лета. Яны ўсюды: на дрэвах, на хмызняках, а калі сам загледзішся, дык і на галаве можа заснавацца маточак срабрыстага павучыння. І птушкі ў гэтую пару неяк не так спяваюць: спеў іх ціхі, як бы трошкі прыглушаны. Гэта адвітальны спеў перад выраем.

За летнія месяцы наша брыгада колькі разоў мяняла сваё стойбішча. Мы перажылі нават блакаду. Нашы Дзямідавы груды была атачыла цэлая эсэсаўская дывізія. Фашысты думалі, што мы зойдземся з голаду. Але лес быў за нас: па-першае, ён карміў нас шчаўем, грыбамі і ягадамі; а па-другое, ён развінаў перад намі такія сцежкі, якіх фашыстам ніколі не знайсці, і выводзіў нас з-пад небяспекі. Мы нават страт вялікіх не мелі. Мяне дзівіў Кульбіцкі. Пра гэтага чалавека я многа чуў ад Тамары Шкарубскай і асабліва ад Куксёнка. Але блізка ведаць яго не ведаў. Ён быў высокага росту, хударлявы, з сурова няўмольным выразам твару. Неяк усіх цураўся, жыў сам сабе, і, можа, мала хто ведаў, што ён робіць у сваёй зямлянцы. Жылі яшчэ з ім два чалавекі, якія таксама не вельмі кідаліся ў вочы партызанам. Я разумеў іх прызначэнне, іх работу і ў некаторай меры апраўдваў нялюдскасць. Але да самога Кульбіцкага ў мяне была нейкая непрыязнасць, мусіць, пад уплывам таго, што мне расказвала пра яго Тамара Шкарубская. А Шкарубская расказвала так, што за жывое кранала. Чаго ён, чорт даўгалыгі, чэпіцца да яе?

Дык вось як толькі немцы акружылі Дзямідавы груды і загрымеў бой, а гэта было ранічкай, Кульбіцкі выледзеў з зямлянкі ў адных нагавіцах. Праўда, аўтамат не забыў: аўтамат быў перавешаны цераз шыю. І гэтак у нагавіцах прыляцеў чалавек да камісаравай зямлянкі. Лук'янчык як угледзеў Кульбіцкага без штаноў, дык, не зважаючы на сур'ёзнасць становішча, зарагатаў:

— Куды гэта ты ў такім выглядзе?

— У якім? — не мог даўмецца Кульбіцкі.

— Зірні на сябе ніжэй.

Кульбіцкі зірнуў, але нічога не заўважыў.

— Ты ж без штаноў, хіба ты не бачыш?

У гэты самы момант адзін з памочнікаў Кульбіцкага паднёс штаны і боты свайго начальніка. Захінуўшыся за кусты вербалозу, чалавек апрануўся і абуўся.

З блакады нас вывелі невядомыя эсэсаўцам сцежкі, а на падмогу нам прыйшла брыгада дзядзькі Аўдзея, і мы разам далі фашыстам такі бой, што наўрад ці асмеляцца яны больш патыкаць свой нос у партызанскія лясы.

Цяпер зусім іншае становішча: цяпер увесь лес, пачынаючы ад Катловіцы і амаль да самага горада, наш. У лясныя вёскі ніхто — ні карнікі, ні цывільныя нямецкія ўлады — не асмельваюцца патыкацца. Так што нам цяпер няма ніякай патрэбы жыць у зямлянках ці буданах. Цяпер мы як людзі асталяваліся па хатах. У вёсках аднаўлена Савецкая ўлада.

Наша брыгада размясцілася ў Клецішчы — гэта кіламетраў за дваццаць пяць ад майго роднага горада. Асноўнае ў баявым жыцці цяпер было тое, каб рэзаць камунікацыі праціўніка, не даваць падвозіць на фронт ні боепрыпасы, ні правіянт. І мы гэта рабілі, рабілі на шасейках, бальшаках, рабілі на чыгунках. Адным словам, баявое жыццё набыло рытм, нейкую заканамернасць.

Мы зноў жылі разам з Васілём Галадушкам і Алесем Сініцкім. Цяпер, апроч таго, што выпускаў газету, я з імі часам хадзіў у разведку. Кожную значную і нават нязначную падзею занатоўваў на паперу і што друкаваў у газеце, а што і проста занатоўваў для сябе.

Аднойчы ў нашу хату прыйшоў сувязны камісара брыгады.

— Таварыш Шыянок, цябе выклікае камісар.

Пастукаўся ў дзверы камісаравага пакоя і, расчыніўшы іх, угледзеў, што пры стале разам з Лук'янчыкам сядзеў Кульбіцкі. Нейкае падазрэнне мне цюкнула ў галаву, як толькі я ўгледзеў Кульбіцкага. Далажыў, што прыйшоў.

— Сядай, сядай, Макар Васільевіч. Справа, брат, ёсць, і сур'ёзная.

— Што за справа?

— А от на, паглядзі,— камісар падаў мне газету «Новы шлях».— Пачытай, што яны пра цябе пішуць.

— А от,— паказаў Кульбіцкі пальцам на загаловак — «Справа нашага нацыянальнага адраджэння».— Прачытайце, гэта мае да вас непасрэднае дачыненне.

І я чытаў... Чытаў — і аж страшна рабілася мне. Газетка заклікала беларусаў ісці пад сцягі нацыянал-сацыялізма, сцвярджала, што беларусы ніколі не мелі яшчэ волі, што іх прыгняталі ўсе: і рускія, і яўрэі, і палякі. Канчалася адозва заклікам: «Мы, дзеячы беларускага нацыянальнага адраджэння, звяртаемся да ўсіх, у каго ў жылах цячэ кроў беларусаў, ідзіце пад нашы сцягі, гуртуйцеся вакол іх для барацьбы за будучыню нашай нацыі...» Далей ішлі прозвішчы тых, да каго адрасавалася адозва. Прозвішчаў было не вельмі многа, але сярод іх было і маё. Гэ-

так было і напісана: «А цябе, Макар Шыянок, як сапраўднага беларуса, з якога здзекаваліся бальшавікі, не давалі дарогі, мы чакаем на ніве нашага прыгожага пісьменства і спадзяёмся, што ты засееш шчодрым і прыгожым беларускім словам не адну дзялянку нашай нацыянальнай культуры. Няхай яна зарунее, закрасуе пад сонцам нашай волі.

Беларусы! Адгукніцеся на наш покліч. Вас чакаюць вялікія справы нашага нацыянальнага адраджэння». Паперка была падпісана некалькімі прозвішчамі і сярод іх Вінцэнтам Барташэвічам, рэдактарам «Новага шляху».

— Свалата! — сціснуў я ад абурэння кулакі.

— А я от думаю, што вы, таварыш Шыянок, адгукнецеся на гэты заклік,— сказаў Кульбіцкі.

— Мы цябе для гэтага і паклікалі сюды,— пацвердзіў камісар.— І, я думаю, адгукнешся так, Макар Васільевіч, што ў іх аж увушшу зазвініць, уваччу пацямнее.

— Як? — не зразумеў я.

— А гэта трэба абдумаць, абмазгаваць — як.

І мы два тыдні абмазгоўвалі. І з кім бы вы думалі? З тым чэхам, што ў Хвойным згубіў вінтоўку, з Любамірам Грачыкам. Мы з ім трэніраваліся, рэпеціравалі: я на гестапаўскага афіцэра обер-лейтэнанта, а ён на майго памочніка і шафёра.

Грачык быў надзіва кемлівы хлопец. А ўзялі яго ў напарнікі мне, мусіць, таму, што апроч таго, што ён быў смелы, дык яшчэ назубок ведаў нямецкую мову і гаварыў на ёй з баварскім акцэнтам. Сапраўдны немец. Ён і мяне навучыў сяму-таму. Ва ўсякім разе я ўжо сёе-тое мог шваргаць. Але мне ў гэтай камедыі, а мо і трагедыі, якую мы задумалі, выпала роля маўклівага і ганарыстага, як галагуцкі певень, афіцэра. Дасталі нам новае, з іголачкі, абмундзіраванне. На маім мундзіры, апроч пагонаў і розных там «капусты», вісеў яшчэ жалезны крыж. А яшчэ мне дасталі манокль. І калі я сказаў Кульбіцкаму: «На ліха мне гэты ваш манокль?», ён мне вось што запеў:

— Таварыш Шыянок, не забывайцеся, што вы для немцаў афіцэр белай косці, чыстай арыйскай крыві і на свет, на ўсё наваколле глядзіце трошачкі нават з пагардай, праз манокль: маўляў, вы ўсе драбяза, машкара, адзін я вунь які.

— Хіба што так. Але я яго насіць не ўмею.

— Навучыцеся.

І от мы з Любамірам, якога я з яго дазволу заву дзя-

вочым імем Любачкай, трэніраваліся. Апраналіся ў нямецкую форму, і я на сябе глядзеў у люстра. Белабрысыя мае валасы пасавалі да гэтай формы. Налаўчыўся і вока прыжмурваць так, каб у ім трымаўся манокль. Адно ў выразе твару не было высакамернасці.

— От так, вочы трошкі прыжмур, быццам ты і глядзець на людзей не хочаш, робіш ім ласку, што глядзіш,— вучыў Любамір.

— А дзе ты, Любачка, набраўся гэтай нямецкасці? — дапытваўся я ў Грачыка.

— Яшчэ змалку я нагледзеўся на яе. Мы з бацькам жылі калісь у Баварыі. Я там вырас.

Але што мяне дацінала, дык гэта боты. Звычайныя афіцэрскія хромавыя боты, з няўклюдна высокімі заднікамі. Як толькі я іх абуваў, заднікі падпіралі костачкі і я не мог хадзіць. Боты на другі тыдзень трохі разнасіліся, і я ўжо ступаў упэўнена. Праз увесь гэты час мы з Любамірам не расставаліся, нават спалі разам, прывыкалі адзін да аднаго. Аднойчы я спытаў у яго:

— А ты, Любачка, не аддасі немцам аўтамата, як тую вінтоўку некалі аддаў, калі нам туга прыйдзецца?

— Што ты! Ты не верыш мне? — зазлаваў Грачык.— Чым швабам аддаць зброю, я лепш сам у зямлю лягу. Яны во дзе мне сядзяць! — пастукаў у грудзі Любамір.

Рэпетыцыі нашы скончыліся, і ўвечары Лук'янчык сказаў неяк па-сялянску, па-гаспадарску, быццам гаворка ішла пра нешта другараднае:

— Ну, заўтра раніцай, хлопцы, і ў дарогу.

Я ўсю ноч не спаў, прыдумваў і перадумваў розныя варыянты: а што, калі нас на дарозе запыняць і возьмуць жывымі? Мучыць, катаваць будуць, а потым павесяць. Не, не здамося жывымі. Пісталет спраўны: усе кулі ў іх, апошнюю сабе ў сэрца. А Любачка спаў як муку прадаўшы. І гэты спакой мяне, з аднаго боку, радаваў, а з другога — непакоіў. Чужыя думкі і намеры — цёмны лес. Хто яго ведае, што думае гэты Любачка. А от, можа, выедзем на дарогу, сустрэнем першых немцаў, і ён тпру — стой машына, і скажа фашыстам на баварскім дыялекце: «Бярыце яго. Гэта чырвоны тэрарыст — едзе забіваць не абы-каго, а самога спадара рэдактара газеты «Новы шлях» Вінцэнта Барташэвіча».

Быў у мяне і на такі выпадак свой варыянт: як толькі што, адразу ж кулю ў скронь гэтаму Любачку. А далей ужо будзе відаць, што рабіць з тымі фашыстамі, якім ён

скажа. Адным словам, думак у галаве было столькі, што іх хапіла б не на адну ноч. А трэба было ж усё-такі выспацца, каб мець свежы, прыстойны выгляд, такі, які павінен мець задаволены самім сабою і сваім становішчам афіцэр гестапа. Намаганнем усёй волі засынаю.

Нас будзіць сам камісар брыгады:

— Хлопцы, уставайце, для вас ужо і лазню выпалілі, і венічкаў бярозавых прынеслі. Папарыцца трэба, пагаліцца, каб выгляд прыстойны мець. Ужо вам і машыну заправілі. Выправім вас, як у добрыя госці, да самога спадара рэдактара.

Мы прахопліваемся, мыемся, голімся. Аднекуль нават прынеслі французскіх духоў, і я імі пырскаюся. Пах іх тонкі-тонкі, прыемны. Ад гэтага паху, здаецца, можна было забыцца, што ты едзеш на рызыку, можна падумаць, што сабраўся на спатканне. Але Кульбіцкі нагадвае:

— Больш смеласці, вытрымкі. Нервы зацісніце ў кулак і гэтак трымайце іх, каб яны не разгуляліся. Добра было б таго здрадніка жывым прывезці сюды. Мы б над ім тут усенародны суд учынілі. Але жывым наўрад ці ўдасца. То няхай ваша куля, таварыш Шыянок, будзе яму смяротным прысудам. Адно толькі смеласці і вытрымкі як найболыш. Нервы ў кулак! Не забывайцеся, што вы — карны меч народнага правасуддзя.

Я слухаў Кульбіцкага, і мне чамусьці прыгадваўся той выпадак, калі ён у адных нагавіцах вылецеў з зямлянкі. Мне чамусьці прыходзіла на памяць тое, што расказвала Тамара, як ён прыставаў да яе. Каб гэтыя словы казаў камісар Лук'янчык, яны б натуральна гучалі з яго вуснаў. Ён сам быў смелы, рашучы, сам не губляўся нават у такія моманты, калі, здавалася, ніяк нельга было не разгубіцца. Мо яго і партызаны любілі за цвярозую смеласць, за разумную рашучасць, за патрабавальную чуласць да кожнага. Лук'янчык, развітваючыся з намі, сказаў зусім іншае:

— Ну што ж, хлопцы! Вы едзеце амаль у лапы смерці. Але што б там ні здарылася, будзьце самімі сабою, і я думаю, што вы пераможаце нават смерць. Я веру, спадзяюся. Шчаслівай вам дарогі, добрай вам удачы.

Да самага выезду на шашу нас праводзілі партызаны. На лясной, не вельмі ўезджанай дарозе, зніталанай карэннем, машыну падкідала, трэсла, але Грачык вёў яе ўпэўнена. На ветравым шкле, у левым баку яго, была намалявана нейкая чартаўшчына, нешта падобнае на распластанага рака з клюшнямі. Я чамусьці там, на месцы, не звяр-

нуў ніякай увагі на гэтае страшыдла і пачаў углядацца ў яго ўжо на дарозе.

— Ты чаго так глядзіш на гэты знак? — спытаў Грачык.

— А што гэта і навошта яно?

— Дзівак чалавек, навошта? Ды гэты ж знак нам будзе добрым знакам. Такія знакі малююцца толькі на гестапаўскіх машынах, і не кожны шваб адважыцца запыніць такую машыну. Хіба толькі на кантрольна-прапускным пункце і могуць запыніць.

Выскачылі на брукаванку, і Грачык націснуў на педаль газу. Машына аж ірванулася ўперад. Дзень быў пагодны. На даляглядзе трымцела сіняватая смуга, і машына, летучы насустрач, як бы прабівала яе. Сустрэчных аўто было не вельмі многа. Рэгуліроўшчыкі сустракаліся не дужа часта. Яны падымалі над галовамі нейкі кружочак, даючы нам дарогу.

Мне казыралі, і я адказваў на хаду лёгкім кіўком галавы і прыкладаннем двух пальцаў да блішчастага брыля фуражкі.

А вунь са смугі выплывае і горад. Спачатку ўгледзеліся дзве макаўкі цэркваў, потым вежа былога княжацкага палаца ў парку, а затым і ўвесь горад. Да кантрольна-прапускнога пункта машына падляцела на ўсёй хуткасці і рэзка затармазіла перад самым шлагбаумам. Адразу падскочылі два паставыя. Я надзьмуўся як індык, поўны высакамернасці, баючыся, каб не выпаў манокль. Грачык на сваім баварскім дыялекце нешта тлумачыў рэгуліроўшчыкам, паказваў ім на знак на ветравым шкле. Паставыя казырнулі, і паласаты шлагбаум павольна папоўз адным сваім канцом угару.

— Што ты ім сказаў? — спытаў я, калі мы трошкі ад'ехалі.

— Сказаў, што ў нас вельмі важная справа, нам нельга тут бавіцца.

Па горадзе едзем павольна. Тут большы рух машын і пешаходаў. Вуліцы горада здаюцца ціхімі і мірнымі, нават нейкімі соннымі. Людзі як бы не ходзяць, а сюд-тут сноўдаюць. Пераехалі чыгуначны пераезд, і тут ужо больш шумна. То быў яшчэ залінейны раён, а гэта ўжо сам горад. Тут ужо мураваныя адна- і двухпавярховыя дамы. Некаторыя з іх глядзяць на вуліцу ўчарнелымі праёмамі вокан, некаторыя зусім разбураны і грувасцяцца кучамі бітай цэглы.

Інтэрнацыянальная вуліца! Колькі я пахадзіў па ёй! Па гэтым вось тратуары калісь хадзіў да Іры. А вунь і завод «Пралетарый». Жалезная труба яго пераломлена, над абгарэлымі сценамі тырчыць толькі абломак яе. Завод нежывы. Ён нечым нагадвае жалезны могільнік. Аднак жа недзе нешта там цюкае, як бы нехта б'е молатам па кавадле. Няўжо фашысты аднаўляюць завод?

А вунь на рагу Камсамольскай і Працоўнай тая бібліятэка, дзе працавала Іра. Яна таксама чарнее пустымі проймамі вокан і дзвярэй, а на абгарэлай сцяне вырасла нават нейкае чэзлае дрэўца. Паабгаралі і прысады на вуліцах, але ўжо некаторыя дрэўцы пусцілі парасткі. Праз якія кварталы два і дом, у якім я жыў. Як хочацца зазірнуць туды, але я адбіваюся ад гэтага жадання: у мяне больш важная мэта! Паказваю Грачыку, у які пад'езд заганяць машыну. З Працоўнай вуліцы мы ўехалі на панадворак рэдакцыі. Я тут усё добра ведаю: не толькі парадны ўваход з Савецкай вуліцы, але і чорны, з двара. Драўляная хісткая лесвіца вядзе спачатку ў маленькі калідорчык, у якім прыбіральшчыца складвала сваё начынне, а ўзімку наносіла туды дроў, каб у маразы не хадзіць па іх пад павець. Далей пакойчык са стэлажамі, на якіх захоўваліся падшыўкі газет. З гэтага пакойчыка дзверы ў калідор, а там па абедзве рукі дзверы ў рэдакцыйныя пакоі.

Грачык прыглушае матор на ціхія абароты, я правяраю пісталет і выходжу з машыны. Грачык застаецца за рулём і аўтаматам напагатове. Ступаю на хісткія сходцы старой драўлянай лесвіцы. Яны рыпяць пад нагамі, і гэты рып быццам б'е мне ў вушы нечым цяжкім. Сэрца як не выскачыць з грудзей. А што, калі дзверы замкнёны? Давядзецца выходзіць на вуліцу і ісці праз парадныя. Торгаю клямку, націскаю на дзверы, і яны паддаюцца. У калідорчыку ўсё, як і раней было. У архіве таксама. Мабыць, і падшыўкі тыя самыя. У рэдакцыйным калідоры не вельмі відно людзей. Дзверы пакояў пазачыняны. На іх шыльдачкі на беларускай і нямецкай мовах. Недзе ляпае машынка. На павароце калідора, дзе калісь быў сакратарыят, сустракаецца незнаёмы чалавек. Ён падазрона глядзіць на мяне і адразу ж знікае за дзверы. Мабыць, падумаў: чаго чорт прынёс сюды гэтага вайскоўца? Іду да дзвярэй рэдактаравага кабінета. Тая ж масіўнасць, той жа дэрмацін, каб пабочны і гук не прабіваўся. У пярэднім пакоі-тамбуры дзяўчына, але не Валя. Яна ўгледзела мяне і спалохалася.

Нешта замармытала па-нямецку. Але я да яе звярнуўся па-беларуску, і гэта, мабыць, яе здзівіла не менш.

— Скажыце, будзьце ласкавы, спадар рэдактар тут?

На твар дзяўчыны ўзбегла не то радасць, но то збянтэжанасць. Нейкі момант яна не магла вымавіць слова і ўсё глядзела і глядзела на мяне.

— Вы пытаеце спадара рэдактара? Ён тутачка, тутачка,— мабыць, хацела падкрэсліць, што яна таксама беларуска.

— Адзін?

— Айн! Айн!

— Далажыце, што з ім хоча пабачыцца стары прыяцель.

Дзяўчыну ціха праглынулі масіўныя дзверы, але неўзабаве ў прачыненых дзвярах з-за дзяўчынінай спіны высунулася паголеная, лысая да бляску галава. Спадар рэдактар, мусіць, не пазнаў адразу мяне, бо амаль афіцыйна сказаў:

— Праходзьце, пане афіцэр, праходзьце.

Прапусціў мяне перад сабою і ўжо ў кабінеце на добрым святле ўтаропіўся вачыма ў мой твар і, мусіць, таму, што не спадзяваўся мяне такім убачыць, усё яшчэ не пазнаваў. На выручку спадару прыйшоў я сам:

— Дзядзька Вінцэнт, дык ці гэта вы сапраўды мяне не пазнаяце?

— Даруй, чалавеча, не пазнаю.

— Макара Шыянка не пазнаяце? Пастарэлі вочы, мабыць, недабачваюць.

— Дзе ж цябе такога пазнаеш? — кінуўся з абдымкамі спадар.— Я такі ведаў, што ты нас не мінеш. Толькі ж чаму ты так доўга бавіўся? Дзе прападаў, чалавеча?

— Ат, усяго было, нават успамінаць не хочацца. Ды я не прападаў.

— Сядай, сядай, чалавеча,— узяўся запрашаць мяне спадар рэдактар,— расказвай.

Я акідваў вокам кабінет: той жа масіўны дубовы стол, тыя ж дыван, канапа і кніжная шафа. Адно цяпер на самым відавоку ў шафе стаяла Гітлерава «Майн кампф».

— Ну, дык расказвай борздзенька,— сеўшы за стол, падганяў мяне спадар рэдактар,— спавядайся, як цябе да нашага берага прыбіла.

— Ат, што тут расказваць, як прыбіла, так і прыбіла. Ды мяне, уласна кажучы, і не прыбіла, я сам прыбіўся, не хочацца і ўспамінаць.

Аднак Барташэвіч патрабаваў ад мяне расказу, і я выдумляў, быццам у самыя першыя дні вайны я адразу ж здаўся ў палон. Мяне колькі дзён патрымалі ў лагеры, а потым я дабіўся да каменданта і расказаў яму, як я пакутаваў ад бальшавікоў і што цяпер хачу працаваць на вялікую Германію, пад эгідай якой знойдзе сваё шчасце і мая родная Беларусь. Быццам мне доўга не давяралі, а потым я на адной справе даказаў сваю адданасць фашыстам і яны мяне адразу паслалі працаваць, і не куды-небудзь, а ў ведамства пана Гебельса, у прапагандысцкую групу па раборце сярод ваеннапалонных. Нават жалезны крыж далі за стараннасць.

— І што ты там робіш, калі гэта не сакрэт?

— Складаю тэксты лістовак на беларускай і рускай мовах, розныя прапагандысцкія брашуры. Але, ведаеце, усё гэта не па душы. Таго, хто хоць раз панюхаў рэдакцыйнага паветра, усё жыццё будзе цягнуць да газеты, пане рэдактар.

— Навошта ты мяне гэтак велічаеш, я магу нават пакрыўдзіцца.

— Я не крыўдзіўся на вас з Маргуном тады, як вы падвялі мяне пад выключэнне з партыі. Наадварот, цяпер нават удзячны вам. А дзе бо ён цяпер, той Маргун?

— Ліха яго ведае. А то чалавек такі, што з яго ні скварка, ні падмазка. Дык чаго табе крыўдаваць было на мяне? Я, брат, ведаў, нутром адчуваў, у каго можна і трэба было выклікаць нянавісць да бальшавікоў. І я яе выклікаў. І правільна рабіў. Інакш бы от ты не прыйшоў бы да нас. А ты ведаеш, чалавеча, як нашаму адраджэнцкаму руху патрэбны такія, як ты, людзі? Во, пазарэз! Мы часам і поспех не поўны маем таму, што не хапае такіх людзей, як ты, сапраўдных шчырых беларусаў.

— А калі гэта вы такім шчырым беларусам сталі? — можа, нават трошкі нетактоўна запытаў я ў спадара.

— Я, чалавеча, заўсёды ім быў. Мне заўсёды карцела бачыць Беларусь нашу свабоднай, але пры бальшавіках трэба было мімаволі маскіравацца пад інтэрнацыяналіста, каб не ўліпнуць, і я маскіраваўся, больш таго, нават паклёпнічаў на такіх сумленных людзей, як ты. Але, як той казаў, мэта апраўдвае сродкі. Ты даруй, чалавеча, што я тады табе трохі насаліў. Затое цяпер будзем сябрамі і паплечнікамі.

Я слухаў спадара рэдактара, а нервовая ўзрушанасць не давала мне спакою, то яна калаціла рукі, то падкідала

нагу, то перасмыкала твар. Барташэвіч гэта заўважыў і спытаў:

— Што гэта з табою, Макар Васільевіч?

— Столькі пеpажыта, столькі пабачана! Хіба ж гэта не дасць сябе знаць. Нервы гуляюць упрысядку. Зноў жа такі наша сустрэча, хіба гэта не радасць для мяне.

— Так, так, пеpажыта многа. А цяпер ужо ўсё асталося ззаду. Цяпер от пяройдзеш працаваць у рэдакцыю, і ўсё стане на месца,— супакойваў мяне Барташэвіч.— Мы тут такое развінем, што ўсе дзіву дадуцца. Ты хоць чытаў нашу газету за гэты час?

— Чаму ж не! Чытаў. Я ж і сюды прыехаў, прачытаўшы ваш заклік.

— Малайчына, хоць адзін адгукнуўся,— пахваліў Барташэвіч.

— Толькі от мяне непакоіць адно: а што, калі вернуцца бальшавікі? Бачыце, у іх жа на франтах некаторы поспех.

— Нізавошта і ніколі! — аж закрычаў Барташэвіч.— Я з надзейных крыніц ведаю, што калі і адыдзе нямецкая армія, дык толькі па Дняпро. Дняпру суджана стаць тым дзяржаўным і гістарычным рубяжом, які размяжуе два светы, і наша Беларусь ніколі не вернецца ў бальшавіцкую дзікасць. Далучыцца да еўрапейскай цывілізацыі. Гэта жаданне самога фюрэра, а яго жаданні заўсёды збываюцца.

Мяне калаціла ад слоў, якія я чуў з вуснаў Вінцэнта Барташэвіча. Ён заўважыў маю ўзрушанасць, але не дапытваўся яе прычын, а спытаў зусім іншае:

— А дзе ты спыніўся?

— Яшчэ нідзе. Тут жа ў мяне знаёмства ёсць. Можа, каго і знайду.

— А дзе твая жонка?

— Яна ў сваёй вёсцы.

— Мы яе тут шукалі.

— Навошта?

— Хацелі даведацца, дзе ты. Ты лепш у мяне спыніся. Я цяпер, брат, жыву, як кум каралю і сват міністру. Пасядзім вечарком. Яшчэ сёй-той падыдзе, я цябе пазнаёмлю з важнымі людзьмі, памяркуем, парадзімся, як табе быць, як працаваць. Месца цяпер у мяне ў кватэры хапае: цэлы асабняк жыдоўскі на Кіеўскай вуліцы заняў.

Я распытваў у Барташэвіча, хто дзе са знаёмых працуе. Ці многа такіх, як ён. Вінцэнт ахвотна называў мне прозвішчы знаёмых і незнаёмых, а я стараўся занатаваць

іх у памяці. Спадар нават як бы пахваляўся тым, што ён скалаціў вунь які актыў. Нарэшце сказаў:

— Дык ты, брат, і не думай куды ісці начаваць. У мяне астанешся.

— Дзякую за ласку, спадар Барташэвіч, але я прыехаў, каб з вамі расплаціцца за ўсё, за ўсё.

Парывіста ўсхапіўся з крэсла і навёў у грудзі здрадніка пісталет. Баяўся, каб у нервовым узрушэнні не схібіла рука. Барташэвіч, угледзеўшы наведзены пісталет, спалатнеў:

— Што ты гэтак жартуеш, Макар?!

— Не, я не жартую, пане здраднік. Гэта табе, сабака, за ўсё! — сказаў я і стрэліў у грудзі. З пісталетам у руцэ я выбег на калідор і закрычаў на ўсё сілу:

— Бандыты! Партызаны!

Супрацоўнікі рэдакцыі, якія павыскаквалі былі на стрэл, як толькі ўгледзелі мяне з пісталетам, зноў пахаваліся па сваіх кабінетах і пакоях, кожны, мабыць, старанючыся быць як далей ад бяды.

Перасігаючы прыступкі на хісткай драўлянай лесвіцы, я зляцеў на двор да машыны. Грачык зачакаўся мяне. Ён адразу націснуў на старцёр, і матор набраў поўныя абароты; і як толькі я ўваліўся на сядзенне, машына рванула з месца і вылецела з пад'езда на вуліцу.

— Ну, што? — пытае Грачык.

— Усё ў парадку.

— Схавай у кабуру пісталет. Схавай у кабуру,— шэпча мне Грачык.

І толькі цяпер да мяне дайшло, што я як выбег з рэдакцыі з пісталетам у руцэ, гэтак і трымаў яго, седзячы ўжо ў машыне. Грачык гнаў машыну, як толькі можна было яе гнаць па горадзе. Я ўсё ўглядаўся, ці не гоняцца за намі, ніяк не могучы пакласці пісталет у кабуру — рукі хадуном хадзілі.

— Спакайней, спакайней. Вазьмі сябе ў рукі,— загадвае мне Грачык.— Хутка кантрольна-прапускны. Можа, туды ўжо заявілі пра забойства, і нас могуць затрымаць.

— Цяпер ужо ўсё,— адказваю я, заікаючыся ад хвалявання.

— Што ўсё?

— Цяпер я зрабіў сваю справу са здраднікам, дык і тут не схіблю. Колькі ёсць куль, усе пушчу ў фашыстаў.

— Навошта гэта табе. Трэба вярнуцца да сваіх жывымі. Дзе твой манокль? — пытае Грачык.

— Згубіўся.

— Ну, то так, без манокля. Адно выгляд, выгляд трэба набыць. Пад'язджаем ужо.

На кантрольна-прапускным салдаты зірнулі на ветравое шкло, і, мабыць, угледзелі на ім намаляваную няўклюдзіну, паднялі шлагбаум. Машына ляцела як шалёная. Вось і наша паваротка. Грачык збавіў хуткасць, і машына, валюхаючыся, скачучы па карэнні, пайшла ціха. Асенні лес быў маўклівы. Ён атрасаў з дрэваў жаўталіст на зямлю. Але што гэта?

— Хэндэ хох! — чуем.

Хапаючыся за Грачыкаў аўтамат, кажу яму, каб ціснуў на педаль газу. Хутчэй! Хутчэй! Тут жа да Клецішча рукой падаць. Аднак нас не пускаюць; аўтаматная чарга адна, другая. Грачык выпускае з рук руль і хапаецца за нагу. Я выскакваю з машыны і займаю пазіцыю: жывым нізашто не дамся ў рукі. А па лесе паўзуць і крычаць:

— Хэндэ хох! Рукі ўгору!

Чую. Бачу. Гэта ж нашы. Я падскакваю на ногі. Падымаю руку з аўтаматам угару і крычу:

— Хлопцы! Што вы па сваіх страляеце!

Ніхто не абзываецца, але і страляніну спынілі. А я стаю з паднятым над галавою аўтаматам. З гушчару высоўваецца адна, другая постаці і, навёўшы аўтаматы, наступаюць на мяне. Так! Так! Гэта нашы.

— Хлопцы, што вы, з глузду з'ехалі? Грачыка паранілі.

Але тыя, што ідуць, усё яшчэ не вераць. Ідуць на мяне з наведзенымі аўтаматамі. Незнаёмыя. У нашай брыгадзе я такіх не бачыў. І нешта не па-руску, не па-беларуску гавораць. Я ледзь не самлеў. Падумаў: от папаўся дык папаўся. Там не загінуў, дык у сваім лесе трапіў у лапы смерці. Але страляць ужо няма як. Ужо з рук у мяне вырываюць аўтамат, шараць па кішэнях. Але ў гэты момант, адышоўшы ад перапуду, ад болю, Грачык крычыць пачэшску:

— Другары, што вы! Гэта ж мы, свае.

Салдаты кідаюцца да Грачыка. Я стаю і не разумею, што дзеецца. З гушчару выходзіць немалады ўжо стройны чалавек. У руцэ ў яго пісталет. Ён ідзе да машыны, і я чую Грачыка:

— Пан Station? 

Так, гэта, мабыць, той палкоўнік Чумічка. Грачык абдымаецца з палкоўнікам і цалуецца. Распаролі халяву нямецкага бота, калашыну штаноў і перавязваюць рану.

— От жа дало. Столькі прайшоў пекла і ніякай драпінкі нідзе не было. А тут, як той казаў, у сваёй хаце нагу прастрэлілі,— стогнучы, кажа Грачык.

Падыходжу і я да машыны. Гляджу на Грачыкаву нагу. Рана невялікая: куля прашыла лытку. Але Грачык не можа стаць. Яму вельмі баліць. Угледзеўшы мяне, пераcільваючы боль, ён гаворыць:

— Пазнаёмцеся, таварыш палкоўнік, гэта мой сябра, Макар Шыянок.

Я працягваю руку і кажу Чумічку:

— Я вас ужо даўно ведаю.

— Адкуль? — здзіўляецца ён.

— Усё пра вас ведаю. Я нават напісаў некалькі старонак пра вас.

— Адкуль вы ведаеце? — дапытваецца Чумічка.

— І пра Веру Скідан усё ведаю. Гэта мая зямлячка. Дзе яна цяпер?

— Дакладна не ведаю. Яе паслалі на нейкае вельмі важнае заданне. Смелая, добрая жанчына, можна сказаць, гераічная.

Тым часам Грачыку перавязалі нагу. Але стаць на яе ён не мог. Думалі на машыне давезці яго да Клецішча. Але ў машыне былі пасечаны кулямі балоны, і хоць матор працаваў спраўна, ехаць на ёй усё роўна нельга было. Чэхі-партызаны зрабілі насілкі і на іх паклалі Грачыка. Мы з Чумічкам ішлі ззаду. Ён мне расказваў пра Верамеевічы. Падрабязна расказаў, як Усцім Пачосак высачыў дзядзьку Пракопа і як яго павесілі. Я не мог гэтага спакойна слухаць. На вочы набегла сляза. Чумічка аж здзівіўся, чаму я так рэагую, хіба мала бачыў смярцей. Але калі я расказаў яму, хто для мяне быў дзядзька Пракоп, ён у гневе сцяў кулакі і прамовіў:

— Самае цяжкае для чалавека, гэта калі ён траціць блізкіх і дарагіх сэрцу людзей.

Камісар сустрэў нас з Грачыкам як людзей, якія вярнуліся з таго свету. Толькі цяпер мне прызнаўся, як яму не хацелася мяне пасылаць на гэтае заданне, але Кульбіцкі настояў, хацеў яшчэ раз праверыць мяне на справе.

— Аднак жа ўсё тое добра, што добра канчаецца,— весела прамовіў Лук'янчык.

Грачыка агледзеў наш брыгадны доктар і сказаў, што рана не страшная: куля касці не зачапіла. Тыдні два паляжыць і стане на ногі. Амаль кожны дзень я праведваў Грачыка, і ён рады быў таму, што ў яго няцяжкая рана

і яго не будуць эвакуіраваць у тыл. Мабыць, вельмі страшна было чалавеку расстацца са сваімі братамі і паплечнікамі з чэшскага атрада, які цяпер уліўся ў нашу брыгаду. Зноў жа такі, прызнаўся мне Грачык, што адсюль, яму здаецца, ён хутчэй трапіць у Чэхаславакію.

А я ўсё-такі не ведаў, ці насмерць забіў таго гада. А мо толькі параніў? Вельмі ж хваляваўся, рука магла схібіць. Я і Лук'янчыку з Кульбіцкім выказаў свае сумненні. Аднак на наступным тыдні прыйшла газета «Новы шлях» з чорнай жалобнай рамкай. Паведамлялася, што невядомы бандыт, уварваўшыся ў рабочы кабінет, забіў насмерць вядомага дзеяча беларускага нацыянальнага адраджэння Вінцэнта Барташэвіча. Пакуль што бандыт не злоўлены. Ідуць пошукі. Газета выказвала ўпэўненасць, што яго зловяць.

Значыць, яны і не падумалі, што забіў я. Здорава. Мабыць, сам Кульбіцкі не спадзяваўся на такі эфект.

Куля помсты трапіла ў здрадніка.

## ЗМРОК АДЫХОДЗІЦЬ НА ЗАХАД

Зіма была для мяне не з лёгкіх. Клецішча мы вымушаны былі пакінуць; па-першае, таму, што гітлераўцы насядалі і мы не хацелі таго, каб яны вынішчылі ў вёсцы ўсіх старых і малых. Па-другое, былі ў нас і стратэгічныя меркаванні. Фронт быў ужо не так далёка. Калі прыкласці вуха да зямлі, дык можна пачуць яго гул. Гэта нас радавала. Са Штаба партызанскага руху быў атрыманы загад перабазіравацца ў лясы на захад ад горада і адтуль не даваць гітлераўцам спакою. Мы гэтак і зрабілі. Яшчэ па сакавіцкім цаліку, калі не расквасіла ні дарог, ні балот, за два тыдні паходу, завязваючы баі з гарнізонамі, вынішчаючы іх, мы перайшлі з поўдня на захад. Вясна нас застала ў Чачэрскіх лясах, і мы там атабарыліся, каб перачакаць, пакуль трохі паперасыхаюць ручаіны, падсохнуць дарогі.

Тут мы не баяліся нікога: немцы сюды не асмельваліся патыкацца — тэхніка не пройдзе, а без тэхнікі яны, як сляпы без павадыра. Аперацыі праводзілі толькі па бліжэйшых вёсках: лавілі старастаў і паліцаяў. Цяпер і паліцаі былі ўжо не вельмі задзірыстыя і зухаватыя, як на першым часе. Яны ўжо адчувалі, што блізка фронт, а разам з фронтам і на іх ідзе ўправа. Мясцовыя сяляне паскардзіліся

нам на паліцэйскі гарнізон у вёсцы Красоўшчына. Гэтая вёска стаяла пры бітым гасцінцы, і яе часта наведвалі немцы. Мабыць, таму і паліцаі тут былі смялейшыя. Яны да нітачкі рабавалі людзей, п'янствавалі. Мы прынялі рашэнне правучыць красоўшчынскіх паліцаяў. Камбрыг выклікаў мяне і сказаў:

— От што, Макар Васільевіч, ты сумуеш без добрай работы, як ты кажаш. Дык во я табе знайшоў. Глядзі сюды,— паказаў ён на разгорнутую нямецкую карту-двухкіламетроўку.

Я нагнуўся над картаю так, што нашы галовы амаль упрытык сышліся.

— Бачыш, во Красоўшчына. Во з трох бакоў лес да яе падыходзіць. А гэта во бальшак. А гэта во лясная дарожка-прасека. Ты ўмееш чытаць карту? — раптам запытаў камбрыг.

— Дык чаму я не ўмею чытаць,— сказаў я так, быццам камбрыг пакрыўдзіў маё ваеннае самалюбства.

— Ну, ты не крыўдуй, не крыўдуй. Розныя бываюць камандзіры запасу. Дык от у гэтай Красоўшчыне вельмі лютыя паліцаі. Начальнікам у іх, кажуць, нейкі з горада. Дык трэба іх паўпічуваць трохі. На цябе ўскладаецца абавязак нашага савецкага правасуддзя, абавязак карнага мяча. Возьмеш чалавек сорак хлопцаў, і заўтра на світанні зрынецеся на паліцаяў як снег на галаву. Іх гняздо вось у гэтай школе. Яны там і днююць і начуюць, непадалёк рабункі чыняць, а ў школе балі ладзяць. Па нашых звестках, іх не дужа многа — чалавек дваццаць. Падбяры сабе людзей і вядзі. Гэта табе канкрэтнае баявое заданне.

— Дзякую, таварыш камбрыг.

— За што?

— За давер.

— Дзівак чалавек! Ды я цяпер гатовы даверыць табе нават Берлін браць, самога Гебельса павесіць.

— А чаму не Гітлера?

— На Гітлера ў мяне самога рука свярбіць. А паляваць на брахуноў ты ўжо маеш вопыт.

Падабраў сорак партызан. Сярод іх быў і Васіль Галадушка. Гэта хлопец надзейны, башкавіты. З ім, як казаў той камбрыг, можна самога Гебельса ўзяць. Адно от мне не хацелася, каб у групе ішла Тамара Шкарубская. Куды ёй, дзяўчыне? Толькі замінаць будзе. Але не паспеў я заікнуцца, каб Шкарубская не ішла на аперацыю, як яна на мяне накінулася:

— Ты што сабе думаеш: хіба я не баец, хіба я не партызанка?!

— Тамара, зразумейце, навошта вам рызыкаваць тут. Няма неабходнасці,— спрабаваў я ўгаварыць дзяўчыну.

— Табе, значыць, можна рызыкаваць, а мне нельга.

— Дык я ж мужчына, я салдат!

— А я хто табе? Качарыжка якая?

Мне, вядома, трэба было паставіцца больш сурова да Шкарубскай. Але для гэтага трэба было ўзвысіць голас да загаднага тону. А гэтага зрабіць я не мог. На каго іншага ў мяне павярнуўся б язык, а на яе не. Яе я толькі мог угаворваць, бо вельмі паважаў дзяўчыну, вельмі быў ёй удзячны за тое, што яна зрабіла для мяне, і калі не таіцца перад самім сабою, дык і нейкае іншае пачуццё шчымліва казытала мне сэрца, хоць я і стараўся яго заглушыць, каб ніхто-ніхто, нават сама Тамара не магла яго ўгледзець.

Шкарубская пайшла з намі. Ішлі мы па ўсіх правілах баявога паходу: уперадзе дазор, па баках таксама на пагляд вока ішлі нашы хлопцы. Я вёў атрад. Тамара крок у крок са мною поплеч. Ішлі ціха, стараючыся, каб не бразгала, не ляскала зброя. Тамара была нечым радасна ўзрушаная. Цёмныя яе вочы аж свяціліся.

— А што, Макар, будзе, як мы вайну кончым?

— Мір будзе.

— Не, якое жыццё будзе?

— Прыгожае, харошае.

— Гэта я сама ведаю. Гэта ва ўсіх. А ў нас з табою?

— Не ведаю, Тамарачка. Чаго не ведаю, таго не ведаю. Калі я знайду сваю сям'ю, дык і ў мяне будзе прыгожае.

— А калі не знойдзеш,— мне здалося, дзяўчына спахмурнела,— дык як тады будзе?

— Не ведаю, Тамара. Тады то і будзе,— адказаў я мо нават трошкі бессардэчна, бо ведаў, чаго дапытваецца дзяўчына. Ведаў і не мог нічога ёй сказаць.

Мо і добра, што паказалася Красоўшчына і спыніліся Тамарыны дапытванні. Я павінен быў распараджацца партызанамі. Сем чалавек на чале з Васілём Галадушкам паслаў у абход вёскі, каб зайсці ў тыл школе, у якой меліся быць паліцаі. Хлопцы павінны былі зайсці з вуліцы, пачаць страляніну, закідаць вокны гранатамі і выгнаць паліцаяў у двор школы на нас, а тут ужо мы ім дадзім рады.

Мы залеглі на самай ускраіне лесу, трымаючы напагатове аўтаматы і гранаты. Тамара ляжала поруч са мною.

Мае нервы былі так наструнены, што кожны шолах здаваўся мне нечым неверагодным. А Красоўшчына мірна дыміла комінамі хат. Быў час, калі сама гаспадыні палілі ў печах. Пахла смажанінай. Раніца была ціхая, прыгожая. Паветра аж трымцела. Недзе рыкалі каровы, і рык іх аддаваўся далёкім водгуллем у лесе. З красаўшчан, мабыць, ніхто і не думаў, што от з хвіліны на хвіліну пачнецца калатнеча. Яна пачалася з таго, што выбухнулі гранаты-«лімонкі». Крык, стогн, енк. Траскатня аўтаматаў на вуліцы, а ў двор праз дзверы, праз вокны лезуць, шчэмяцца, падаюць паліцаі. Яны, відаць, думаюць, што з двара іх ніякая небяспека не падпільноўвае. Але як толькі паліцаі павыскаквалі на панадворак, застрачылі нашы аўтаматы. Нам ужо відно, як у аднаго, у другога падломліваюцца ногі. Мы маглі б, вядома, усіх паліцаяў пабіць, бо яны былі акружаны і ім нічога не аставалася, як лезці на нашы кулі ці здавацца ў палон. І яны лезлі і падалі мёртвымі.

Я падхапіўся на ногі. Падхапілася і Тамара. Падхапіліся ўсе нашы і крыкнулі «ўра». У гэты самы час з-за мураванага скляпка выскачыла цёмная постаць і, прыцісkаючы да жывата нямецкі аўтамат, бегла да нас. Паліцай бег, як самагубца, насустрач сваёй смерці.

— Макар, падай,— пачуў я прарэзлівы крык Тамары.

Застрачыў аўтамат, і дзяўчына павольна асела на зямлю. Васіль Галадушка, дагнаўшы ззаду апантанага паліцая, выцяў яго прыкладам між плеч, і ён, выпусціўшы зброю з рук, упаў. Яго скруцілі. Я кінуўся да Шкарубскай. Абліваючыся крывёю, яна кідалася ў агоніі.

— Макар, Макар,— захлынаючыся крывёю, шэпча дзяўчына.— Я цябе кахала, ведай. Пацалуй мяне апошні раз. Пацалуй, любы мой.

Я бяру на рукі Тамару. Заву хлопцаў, каб перавязаць яе. Мабыць, апошнімі намаганнямі сілы і волі яна абдымае маю шыю і гэтак на руках у мяне халадзее. Я кладу яе на зямлю, здымаю шапку, і слёзы, балючыя, горкія слёзы засцяць мне белы свет. Я нават не бачу, як Васіль Галадушка падводзіць да мяне паліцая са звязанымі рукамі і не гаворыць, а ад нейкага нутранага болю стогне:

— Гэта во ён, гад гэты!

Падымаю галаву, праціраю вочы ад слёз і бачу: гэта ж Марыніч. Звар'яцелы яго твар перасмыкаецца, вочы вылупліваюцца на мяне, і ён крычыць:

— Макар Васільевіч! Гэта ж ты! От дзе сустрэліся!

Партызаны, што абступілі цела Шкарубскай, бо бой

ужо скончыўся, непаразуменна глядзяць то на бандыта, то на мяне. Абяззброеныя, захопленыя ў палон паліцаі таксама нічога не разумеюць. Мо ў іх на момант з'явілася надзея, што і мы не партызаны, а такія ж самыя, як і яны. А мяне аж распірае гнеў, і я не гавару, а крычу:

— Што ты нарабіў, бандыт? Каго ты забіў?

— Павесіць яго! Павесіць! Жывым у зямлю закапаць! — крычаць партызаны.

Марыніч калоціцца, твар яго скрыўлены страхам. Здраднік падае на калені і паўзе да мяне, лямантуючы:

— Макар, Макар, хіба ж ты забыў? Я ж цябе ўратаваў! Дык няўжо ж ты аддасі мяне на згубу? Няўжо ж ты на мяне падымеш руку? Я не ведаў, што ты тут! — поўзае на жываце Марыніч.— Каб жа я ведаў, адразу б здаўся ў палон! Ведаю, што і ты б мяне ўратаваў, як я цябе тады!

— Павесіць! Застрэліць, як паганага сабаку! — крычаць партызаны.— За смерць Тамары мала яму вісельні!

— Сціхніце, таварышы! — прашу я.— Мы яго будзем судзіць імем народа, таго народа, якому ён здрадзіў.

— Макар Васільевіч,— лямантуе Марыніч,— я ж цябе ўратаваў ад смерці, няўжо ж ты мяне аддасі ў лапы ёй?

Загадваю партызанам весці палонных паліцаяў, а мы з Галадушкам робім насілкі з дзвюх тонкіх жэрдачак, кладзём цела Тамары і нясём. Васіль ідзе ўперадзе, я ззаду. Мне відзён Тамарын твар. Ён яшчэ як жывы. Яшчэ не адхлынула кроў. Якая яна прыгожая, як мне шкада яе, шкада яе маладосці, яе пачуццяў, якія гэтак, мабыць, і не знайшлі яшчэ водгуку ні ў чыім сэрцы. Тамара была яшчэ зусім маладзенькая, ёй бы жыць ды жыць, красавацца ў жыцці. Чаму я, дурны, не паставіўся больш рашуча, чаму я не загадаў ёй астацца на базе? Але хіба чалавек ведае, дзе напаткае ён сваю смерць?

Шкарубскую хавала ўся брыгада. Дол выкапалі на вялікай лясной палянцы, быццам клапаціліся, каб ёй удосталь было святла і сонца. На жалобным мітынгу выступіў Лук'янчык. Ён не мог утаіць слязы.

— За гэты час мы нямала пахавалі сваіх верных сяброў і паплечнікаў. Але гэтая смерць, мабыць, самая балючая для ўсіх нас. Мы ўсе ведалі і любілі Тамару, як дачку, як сястру. Яна была нястомная, бясстрашная ў барацьбе. Дык няхай жа лёгкай будзе ёй наша родная зямелька!

Грымнуў вінтовачны залп, і неўзабаве на паляне вырас грудок з акантаваным слупком і чырвонай зоркай на ім.

Калі мы разыходзіліся, да мяне падышоў Кульбіцкі.

— Таварыш Шыянок, няўжо ты не мог ніяк ўратаваць яе?

— Я не хацеў браць яе на аперацыю. Але яна сама. У мяне не хапіла рашучасці загадаць ёй. Каб мужчыну, дык я б загадаў, а ёй не мог.

— От так часта ў нас у патрэбныя моманты не хапае рашучасці,— зрабіў свой вывад Кульбіцкі.— А ты ведаеш, што за субчык твой Марыніч?

— Чаму мой?

— Ён усё спасылаецца на цябе. А я, калі праўду казаць, дык не вельмі тады табе верыў, тваёй версіі.

— Якой версіі?

— Ну, той, як цябе ў палон забралі.

— Адкуль вы ведаеце тую версію?

— Служба такая. Я мушу ўсё ведаць. А цяпер пераканаўся, што праўду ты казаў. У Марыніча ўсё дапытаўся.

— А як ён, гэты вужака, трапіў сюды ў Красоўшчыну?

— Ён жа родам адсюль. Немцы яго з палону адпусцілі, і ён падмеўся служыць ім верна і, як бачыш, служыў.

— Я гэтак і думаў, што ён можа стаць здраднікам,— сказаў я, успомніўшы тое, што казаў Марыніч яшчэ ў першыя дні вайны.

. . . . . . . . . . . . . . . .

Прысуд здрадніку Марынічу быў кароткі: расстраляць!

* * *

Амаль усё лета мы чулі з-за Сожа грымоты нашых батарэй. На захад ішлі і ішлі штурмавікі. Яны, здавалася, поўзалі па зямлі і не стралялі, а душылі ворагаў сваім цяжарам. Гэтым часам наша брыгада была мабільная, як ніколі. У нас была задача: перашкаджаць гітлераўцам гнаць у фашысцкую няволю нашых юнакоў і дзяўчат, не даваць ім вывозіць нарабаванае дабро. Мы кантралявалі амаль усе шасейныя дарогі і чыгунку. Сувязь з насельніцтвам у нас была гэтакая, што як толькі фашысты дзе яшчэ задумвалі якую аперацыю, мы ўжо ведалі і прымалі контрмеры. Лагер наш гэтак разросся, што ў ім былі і малыя, і старыя. Тут знаходзілі прытулак усе тыя, каго фашысты маглі западозрыць у сувязях з партызанамі.

Лук'янчыку цяпер было такога клопату, якога ён, бадай, яшчэ не меў ніколі. Гэта ж не жартачкі — сабраць столькі людзей. А што, калі фашысты налучаць на раз-

мяшчэнне брыгады, як жа падымеш, як уратуеш усіх ад пагібелі? Таму камісар узяў усіх, каго можна было, для работы сярод тых людзей, што былі цяпер у лагеры. А каторыя з сялян — дык нават кароў папрыводзілі сюды. Трэба ж было ўжо думаць, як на зіму атабарыцца, бо хто яго ведае — нашы блізка, блізка, але ці дадуць яны рады фарсіраваць раку і прыйсці сюды. Вырашылі выбраць зацішнае месца, далёкае ад бітых дарог і вялікіх населеных пунктаў, і там разбіваць лагер з разлікам нават на зімоўлю. Мабілізавалі нестраяўшчыну, сабралі ўсё начынне, якое тут мелася: сякеры, рыдлёўкі, пілы, і зашугала работа. Капалі зямлянкі, валялі сосны, ставілі рубленыя і нават сымшаныя буданы. Я кожны раз збіраў тут матэрыял для газеты. Аднаго разу чую, нехта абзываецца да мяне:

— Гэта вы будзеце, таварыш Шыянок?

— Я. А што вам трэба?

— Там вас нейкая старая пытаецца.

— Якая старая?

— Мабыць, тутэйшая, з Рудні.

Я ніяк не мог даўмецца, што за старая магла мяне пытаць. Нідзе ў навакольных вёсках ніякага знаёмства ў мяне не было. Хто гэта можа быць? І раптам пытаецца нейкая жанчына. Навошта я ёй спатрэбіўся?

— А якая яна з сябе? — дапытваюся я.— А дзе яна?

— Ды вунь у той талацэ,— паказвае стары на сялян.

Бягу. Прыглядаюся. Раптам:

— Макарка, родненькі, ці гэта ты? — кідаецца да мяне ссівелая жанчына.

Я спачатку не пазнаю яе.

— Макар Васільевіч, дык хіба ты мяне не пазнаў?

— Даруйце, не пазнаю.

— Авохці мне. А божачка мой, дык няўжо ж я так дужа пастарэла, што ты цёткі Каці не пазнаў?

Сапраўды, я не пазнаў цёткі Каці, былой нашай рэдакцыйнай вахцёршы. Так, так, гэта ж яна, толькі ссівелая.

— Цётка Кацярына, адкуль вы і як сюды папалі? — кідаюся я да старой, абдымаю, цалую.

А з вачэй старой коцяцца, як боб, слёзы ці то радасці, ці то скрухі, ці шкадавання таго, што яна гэтак змянілася.

— Я ж не адна тут, сынок, тут жа і Марылька твая з Сяргейкам.

— Дзе яны? Дзе?!

Не ведаю, што са мною тварылася, але я, мабыць, ад шчасця быў падобны ў гэты момант на вар'ята, бо ўсе лю-

дзі, якія бачылі нашу сустрэчу, аж кінуліся да нас. Можа, баяліся, што я раздушу старую ў абдымках.

— Дзе яны?

— У Рудні. Гэта ж я прыйшла праведаць, як нам сюды ў лес прыйсці, а то там што дзеецца! Паліцаі шалеюць. Наязджаюць, рабуюць, у Нямеччыну гоняць. Дык я баялася, каб Марыльку не пагналі. Аж чую, тут нехта сказаў тваё прозвішча. Дык я і давай дапытвацца, думаю, можа ты. Аж гэта сапраўды ты. Ты, сынку! — як бы ачомалася ад збянтэжанасці, ад узрушанасці цётка Каця. Яна аж адышлася, паглядзела на мяне, быццам яшчэ раз хочучы пераканацца, што гэта не хто іншы, а я. Вочы яе, мабыць, ужо недабачваюць, і яна глядзіць на мяне з-пад далоні.

— Сынку, родненькі мой! Якое ж гэта шчасцейка, што я цябе налучыла тут. Гэтак мо толькі ў казках бывае. Сваіх жа ўнучкаў бог не даў мне, дык твой Сяргейка стаў мне ўнучкам, а твая Марылька роднай дачкою.

— А вы ўсім нам роднай маткаю,— сказаў я.— Хадземце, хадземце хутчэй да іх,— заспяшаўся я.

Па дарозе ў Рудню цётка Кацярына расказала мне, як праз некалькі дзён пасля таго, як мяне забралі ў армію, згарэў наш дом, і Марылька з Сяргейкам перабраліся да яе. Яна жыла наводшыбе, непадалёк ад рачной кручы, пад якой яны перахоўваліся ад бамбёжак. А потым, калі трохі аціхла, яны, несучы па чарзе Сяргейку, за тыдзень дабраліся аж сюды ў Рудню, да цётчынай сястры Гарпіны. Тут усё-такі хлеб быў і сёе-тое да хлеба. Марылька ўсе гэтыя гады хадзіла на падзёншчыну, і гэтак перакідваліся, часам з квасам, а часам і з вадою. Жылі як і ўсе людзі.

— Дык ці хоць дужыя яны? — дапытваўся я ў цёткі Каці.

— Дужыя, дзякаваць богу. Адно Марылька вочы выплакала па табе. Думала, што цябе ўжо і жывога няма.

— А Сяргейка?

— І Сяргейка дужы. Вырас, наўрад ці пазнаеш ты яго.

Марылька як угледзела мяне, дык аж самлела. Сяргейка доўга зыркаў на мяне спадылба. Ён сапраўды выцягнуўся і быў ужо амаль па паху. У сялянскай вопратцы Сяргейка быў падобны на пастушка з парэпанымі босымі нагамі. Каб я дзе сустрэў яго на дарозе, дык не пазнаў бы.

Усё сваё сямейства з цёткай Кацярынай я забраў у лагер. Ні на хвіліну я не мог цяпер іх пакінуць дзе-небудзь воддаль. Занадта па цяжкіх дарогах я ішоў да іх, занадта многа выпакутаваў, каб прыйсці да іх. У лагеры Сяргейка

ні на крок не адставаў ад мяне. Мабыць, хлопчыку здавалася, што варта толькі спусціць мяне з вока, і я зноў надоўга, калі не назаўсёды, знікну.

У пабудаванымі і абсталяваным лагеры заседзеліся мы нядоўга. Неяк асенняй раніцай заенчыла, закалацілася, захадзіла ходырам уся зямля. А на трэці дзень адбылася і наша сустрэча з воінамі Савецкай Арміі. Яшчэ з тыдзень мы вылоўлівалі па лесе зброддлівых гітлераўцаў і паліцаяў. Людзі разыходзіліся па вёсках. Ім трэба было на руінах пачынаць засноўваць новае свабоднае жыццё. Заспяшалася была і цётка Кацярына ў сваю Рудню да сястры, але Марылька павісла ёй на шыю:

— Дык куды бо гэта вы? Хіба я вас адпушчу ад сябе? Вы ж мо радней мне за родную маці. Вы ж нас выратавалі ад голаду і холаду. Што б мая галоўка рабіла, каб не вы?

— Цётка Кацярына, мы цяпер нікуды ад сябе вас не пусцім,— сказаў свае рашучае слова я.— Вы цяпер будзеце заўсёды з намі, і ў горы і ў радасці. Вы цяпер будзеце нам за маці, за бабулю.

Я казаў гэта, а ў старой на вачах блішчалі каралінкі слёз. Яна як бы не ведала, што ёй казаць, што ёй рабіць. Пацалавала Сяргейку, а ён туліўся да яе грудзей.

У горад мы ўсёй брыгадай прыйшлі толькі на трэці тыдзень пасля яго вызвалення. Баявыя нашы падраздзяленні ішлі пехатой, а перад уваходам у горад нават строем. На шапках розных фасонаў і колераў гарэлі чырвоныя касьнічкі і зоркі. На халаднаватым асеннім сонцы паблісквала зброя. Я са сваім сямействам ехаў на фурманцы. Фурманак набраўся цэлы абоз, які цугам цягнуўся па шашы. Мы пазнавалі і не пазнавалі роднага горада. Ён быў спалены, разбіты, знявечаны. Здавался, што ў гэтым цагляным друзе, на абпаленых і абсмаленых вуліцах няма ні жыцця, нічога. Але як толькі калона дайшла да цэнтра, адкуль узяліся людзі. Яны махалі нам рукамі, чырвонымі сцяжкамі. На цэнтральнай Савецкай плошчы адбылося нешта накшталт мітынгу. Выступаў наш камісар Лук'янчык. Потым на трыбуну выйшаў сакратар абкома партыі Жыжанок. Ён быў у форме генерал-маёра. Мы стаялі далекавата ад трыбуны, але яго відно было мне. Як пастарэў. Уся галава была ў асеннім інеі. Нам цяжка пачуць яго словы — плошча не радыёфікавана была. Але я ўлавіў адно:

— Цяпер, дарагія сябры, баявыя паплечнікі і таварышы, закасаем рукавы і за работу. Яе вунь колькі перад намі! — Жыжанок паказаў рукою на знявечаны горад.

Назаўтра цётка Кацярына, Марылька, Сяргейка і я пайшлі на Кіраўскую вуліцу хоць паглядзець, што сталася з нашым жытлом. Сцены нашага двухпавярховага дома былі цэлыя. Кінулася ў вочы, што на адной са сцен былога нашага пакоя вісела спінка Сяргейкавага ложка.

— Тата, вунь мой ложак вісіць! — закрычаў Сяргейка.

— А божачка мой! — загаласіла Марылька, быццам ёй толькі цяпер вельмі шкада стала таго Сяргейкавага ложка, усяго таго, што тут згарэла.

— Чаго ты, любая? — спытаў я.

— А хіба мы гэтае цяпер нажывём ды набудзем?

— Яшчэ лепшае нажывём і набудзем: галоўнае, што самі жывыя асталіся, а жывыя людзі заўсёды абжывуцца.

— Праўду кажа Макар,— падтрымала мяне цётка Кацярына.— Як той казаў, на жывой касці мяса нарасце.

Неўзабаве я наведаў кабінет Жыжанка па яго выкліку.

— Па вашаму загаду, таварыш генерал-маёр, з'явіўся.

— Сядай, сядай, давай будзем адвыкаць ужо ад гэтага,— сказаў Жыжанок.— От што, братка ты мой, бярыся ды газету арганізоўвай.

— Дык я ж...— спалохаўся я такой прапановы,— дык я ж цяпер беспартыйны. Як жа...

— Ты не беспартыйны, ты толькі без партбілета. Я ўсё ведаю. Бярыся ды арганізоўвай.

— Ёсць, таварыш генерал-маёр!

Жыжанок зірнуў на мяне і не схаваў усмешкі.

— Можна быць свабодным?

— Калі ласка. Бярыся неадкладна ж. Чакай, чакай, а дзе ты спыніўся з сям'ёй? — спахапіўся Жыжанок.

— Ды там у адной халупіне.

— Ну, пажыві пакуль там, а потым пабачым.

Я выйшаў з абкома з усхваляваным радасцю сэрцам і чыстымі думкамі. Асеннія прысады абцярушвалі апошні жаўталіст. Дзень быў ясны, пагодны. Толькі недзе далёка на захадзе нешта цёмна клубілася, як туман, і ў той туман ляцелі і ляцелі нашы самалёты штурмавікі і бамбардзіроўшчыкі. Адтуль далятала водгулле бітвы, і відно было, як выбухі скаланалі, крамсалі агнямі тую злавесную чарнату. Над горадам, над нашай зямлёй займалася святло.

1957—1961

# ЗМЕСТ

**Сабаленка Р.**

С 12 Творы. У 2-х т. Т. 2. Іду ў жыццё: Трылогія.— Мн.: Маст. літ., 1983.— 447 с.

У пер.: 1 р. 90 к.

У другі том уключана трылогія «Іду ў жыццё», якая складаецца з трох аповесцей: «Юнацтва ў дарозе», «Выпрабаванне сталасці», «Былое застаецца ў сэрцы».

ББК 84Бел7

Бел2

С $\frac{4702120200-018}{М 302(05)-83}$ 129—82

**Роман Карпович**

**СОБОЛЕНКО**

**Произведения в двух томах**

ТОМ II

*Трилогия*

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»

На белорусском языке

Рэдактар *А. Д. Куліш*

Мастак *Р. Ф. Клікушын*

Мастацкі рэдактар *Л. Я. Прагін*

Тэхнічны рэдактар *А. В. Барадзіна*

Карэктар *Я. Ф. Харко*

ІБ № 1413

Здадзена ў набор 23.03.82. Падп. да друку 16.12.82. АТ 06617. Фармат 84×108 1/32. Папера друк. № 2. Гарнітура звычайная новая. Высокі друк. Ум. друк. арк. 23,52. Ум. фарб.-адб. 23,52. Ул.-выд. арк. 26,23. Тыраж 12 000 экз. Зак. 2496.

Цана 1 р. 90 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскі ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга паліграфкамбінат МВПА імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.